АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# З НАРОДНАГА СЛОЎНІКА



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
МІНСК 1975

4С(Бел)
З11

Рэдактары:
А. А. КРЫВІЦКІ, Ю. Ф. МАЦКЕВІЧ

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
І. М. ГАЙДУКЕВІЧ, А. І. ЧАБЯРУК

З11 **З народнага слоўніка.** Рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. Мн., «Навука і тэхніка», 1975.

352 с. (АН БССР. Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа). У перапл.

Кніга змяшчае падборкі традыцыйных мясцовых слоў, зарэгістраваных у сучаснай дыялектнай мове розных раёнаў Беларусі, а таксама часткі збораў народных тэрмінаў і назваў з розных галін старых гаспадарчых заняткаў, са сферы адносін паміж людзьмі і, нарэшце, групы слоў некаторых лексіка-граматычных класаў слоўніка асобных гаворак. Да кнігі прыкладаецца агульны алфавітны індэкс пададзеных у ёй слоў. У пачатку змешчан агляд рукапіснай спадчыны беларускай дыялектнай лексікаграфіі і кароткі агляд этапаў яе фарміравання.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

$З\ \frac{70105—037}{М316\text{-}75}$ 56-75 4С(Бел)

## АД РЭДАКТАРАЎ

Па ўсёй нашай рэспубліцы ідзе зараз выяўленне і рэгістрацыя традыцыйнай рэгіянальнай лексікі, характэрнай для беларускай народнай (дыялектнай) мовы. Гэтыя словы выходзяць з паўсядзённага ўжытку, захоўваюцца часта ўжо толькі ў памяці старэйшых мясцовых жыхароў і хутка могуць знікнуць назаўсёды.

Такі лёс дыялектных слоў у наш час натуральны і непазбежны. Адбыліся грандыёзныя эканамічныя і сацыяльныя пераўтварэнні ў рэспубліцы, якія абумовілі карэнныя змяненні ў моўнай культуры нашага народа. Але вялікай стратай было б для навукі, калі б яны зніклі бясследна. Не так многа трэба намаганняў і сродкаў, каб уратаваць ад поўнага забыцця некалькі дзесяткаў тысяч падобных слоў. А захаваць іх дакладныя гукавыя вобразы і падрабязныя звесткі аб былой ролі ў моўных зносінах, а таксама аб пашырэнні варта не толькі дзеля лінгвістыкі. За словамі крыецца, як вядома, шмат вельмі цікавых і важных таямніц далёкага мінулага нашага народа. Ды і не выключана таксама магчымасць, што якоенебудзь з занатаваных рэгіянальных народных слоў, выпрабаваных і адшліфаваных многімі пакаленнямі, спатрэбіцца і для нашых агульнанародных зносін, для майстроў мастацкай мовы.

Ва ўсеагульны рэспубліканскі «перапіс» рэгіянальных слоў уключыліся зараз лінгвісты, выкладчыкі мовы і студэнты-філолагі нашых універсітэтаў і педагагічных інстытутаў, настаўнікі, працаўнікі культуры і інш. Ствараюцца вялікія зборы падобных слоў і фразеалагізмаў па дыялектных зонах Беларусі і па арэалах асобных гаворак. На аснове іх складаюць розныя дыялектныя слоўнікі. Некаторыя з такіх слоўнікаў ужо выйшлі ў свет.

Завяршаецца збіранне звестак аб дыялектных адрозненнях у галіне слоўніка на тэрыторыі Беларусі для складання Лексічнага атласа беларускай мовы.

Гэта ж кніжка — зборнік адносна невялікіх індывідуальных падборак рэгіянальных беларускіх слоў. Адны з іх змяшчаюць калекцыі дыялектызмаў, заўважаных аўтарамі ў мове сваіх землякоў і блізкіх. Другія з'яўляюцца дапаўненнем да выпушчаных у свет дыялектных слоўнікаў. Трэція — гэта тэматычныя зборы народнай лексікі або часткі іх.

У адпаведнасці са зместам артыкулы падзелены ў кнізе на дзве групы. Артыкулы, якія змяшчаюць наогул розныя асаблівыя словы, характэрныя для той ці іншай гаворкі або групы іх, складаюць першую частку кніжкі — «Лексічныя асаблівасці гаворак». Падборкі слоў у гэтых артыкулах з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі ў адносінах да слоўніка літаратурнай беларускай мовы (у прыватнасці, да «Беларуска-рускага слоўніка», 1962), а ў некаторых выпадках — і да існуючых дыялектных слоўнікаў па адпаведнай тэрыторыі ці гаворцы. Парадак размяшчэння артыкулаў адпавядае ўмоўнай картаграфічнай паслядоўнасці следавання геаграфічных аб'ектаў пры пералічэнні (у дадзеным выпадку вёсак і раёнаў, дзе адзначаны словы).

Другая частка кніжкі «Народная тэрміналогія і наменклатура» ўключае пераважна артыкулы, у якіх пададзена лексіка некаторых традыцыйных заняткаў і промыслаў (жывёлагадоўля, пчалярства, рыбалоўства, плытніцтва), назвы самаробных бытавых і гаспадарчых прадметаў (посуд і інш.), а таксама некаторыя граматычныя і семантычныя групы рэгіянальных слоў (назоўнікі, дзеясловы, прыслоўі, выклічнікі, экспрэсіўныя назвы).

Рэгіянальныя словы і ілюстрацыі да іх пададзены ў фанетычным запісе графічнымі сродкамі беларускага літаратурнага пісьма. Дадаткова ўведзен знак *ъ*, які абазначае ненаціскны рэдуцыраваны галосны няпэўнай якасці (знак *ь* абазначае толькі мяккасць папярэдняга зычнага). Знакам *г* перадаецца выбухны гук *г*. Не атрымалі спецыяльнага графічнага абазначэння вузкія («закрытыя») галосныя *о, е,* якія адзначаюцца ў якасці асобных фанем пад націскам у дыялектнай мове на паўднёвым захадзе Беларусі. Яны перадаюцца літарамі *о, ё, е,*

*э,* як і звычайныя галосныя *о, е* (артыкулы М. В. Бірылы, Е. Ф. Дуброўскай, Н. Д. Корань, І. І. Крамко, А. М. Прышчэпчык, А. К. Усціновіч, В. В. Шура). Ужыванне гэтых галосных добра вывучана, а геаграфія іх у дыялектнай мове ў межах Беларусі адлюстравана на спецыяльных картах «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963).

Словы ў артыкулах упарадкаваны пераважна па алфавіту. Але ў некаторых падборках словаўтваральныя варыянты назваў або вытворныя ад слоў змяшчаюцца пад адным загалоўным словам і ў алфавіт не выносяцца. Ёсць таксама артыкулы, у якіх уся лексіка групуецца па тэмах або сінанімічных радах. Нарэшце, у радзе артыкулаў паасобныя групы слоў па тых ці іншых прычынах адзначаюцца толькі ва ўводзінах да падборак, а ў алфавіт не ўносяцца. Для таго каб лягчэй было адшукаць у кнізе любое ўключанае ў падборкі слова, дадаецца агульны індэкс лексікі. Ён змешчан у канцы кнігі.

У загалоўных словах адзначан націскны склад. У ілюстрацыях жа месца націску ў словаформах паказана толькі ў тых выпадках, калі яны з'яўляюцца рэгіянальнымі ў гэтых адносінах.

Пры характарыстыцы слоў аўтары карысталіся рознымі скарачэннямі. Агульнапрынятыя ў кнізе скарачэнні пададзены алфавітным спісам. Дадатковыя ж спецыяльныя скарачэнні ў матэрыялах розных аўтараў раскрываюцца асобна ў кожным артыкуле.

У заключэнне адзначым, што першая ініцыятыва па стварэнню зборніка рэгіянальных лексікаграфічных твораў «малога жанру» і публікацыі іх належыць кафедры мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага разам з выдавецтвам «Вышэйшая школа» («Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы». Пад рэд. Ф. Янкоўскага. Мінск, 1960). Гэта кніжка, такім чынам, з'яўляецца як бы новым, наступным зборнікам падобных твораў. У Інстытуце мовазнаўства ідзе падрыхтоўка яшчэ адной такой кніжкі. Але не толькі ў Інстытуце мовазнаўства можна зараз падрыхтаваць і выпусціць у свет падобныя зборнікі рэгіянальных матэрыялаў па лексіцы і фразеалагізмах. Нямала ёсць цікавых збораў рэгіянальных беларускіх слоў у картатэчных скрынках нашых мовазнаўцаў — выкладчыкаў мовы ў вышэйшых навучальных установах рэспублікі. Асаблі-

выя мясцовыя словы з'яўляюцца таксама зместам першых навуковых лінгвістычных прац многіх студэнтаў-філолагаў і настаўнікаў.

Публікацыя гэтых матэрыялаў пры належнай падрыхтоўцы іх да гэтага была б не толькі важнай для навукі, культуры, але і стымулам для яшчэ больш шырокага разгортвання збіральніцкай і даследчай працы ў галіне народнага слоўніка.

## СПІС АГУЛЬНАПРЫНЯТЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

*абразл.*— абразлівае
*адз.* — адзіночны лік
*асудж.*— асуджальнае
*безас.*— безасабовае
*выкл.*— выклічнік
*груб.*— грубае
*грэбл.*— грэблівае
*гумар.*— гумарыстычнае
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дыял.*— дыялектнае
*ж.*— жаночы род
*жарт.*— жартоўнае
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.*— зборны
*звыч.*— звычайнае
*злучн.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*зніж.*— зніжанае
*іран.*— іранічнае
*кніжн.*— кніжнае
*ласк.*— ласкальнае
*ліч.*— лічэбнік
*м.*— мужчынскі род
*м.* і *ж.*— агульны род
*метаф.*— метафарычнае
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*неадабр.*— неадабральнае
*незак.*— незакончанае трыванне
*непаш.*— з непашанай
*павеліч.*— павелічальнае
*пагардл.*— пагардлівае
*пахв.*— пахвальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*Р.*— родны склон
*рэдк.*— рэдкаўжывальнае
*спагадл.*— спагадлівае
*спрошч.*— спрошчанае
*узмацн.*— узмацняльнае
*у знач.*— у значэнні
*уніж.*— уніжальнае
*экспр.*— экспрэсіўнае

*М. Ф. Гуліцкі*

# РУКАПІСНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ

У бібліятэках і архівах Ленінграда захоўваецца нямала беларускіх рукапісных матэрыялаў. Гэта вядома з навуковай літаратуры першай чвэрці XX ст.[1] Там яны назапашваліся на працягу доўгага гістарычнага перыяду. У Пецярбургу размяшчаліся такія навукова-даследчыя цэнтры, як Расійская акадэмія навук, Рускае геаграфічнае таварыства, а таксама выдавецтвы, навучальныя ўстановы. Тут прайшла значная частка жыцця і дзейнасці рада беларускіх дзеячаў культуры: Я. Карскага, Б. Эпімаха-Шыпілы, Б. Тарашкевіча і інш. Сюды ехала вучыцца беларуская моладзь.

Сярод шматлікіх беларускіх этнаграфічных апісанняў, фальклорных запісаў, гістарычных даследаванняў, якія засталіся ненадрукаванымі, у кнігасховішчах Ленінграда ёсць многа лексікаграфічных матэрыялаў — асобных слоўнікаў і падборак беларускай лексікі. Траплялі яны сюды пераважна праз Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Расійскай акадэміі навук. Паводле акадэмічнага статута разам з іншымі працамі планавалася скласці слоўнік абласных слоў. Для збору рускай дыялектнай лексікі была распрацавана кароценькая інструкцыя з трох пунктаў: 1) каб словы былі напісаны беспамылкова і з пазначэннем націску, 2) каб яны мелі дакладнае тлумачэнне свайго значэння, 3) каб далучаны былі ў патрэбных выпадках прыклады выкарыстання

---

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы. Вильна, 1904, стар. 231, 245, 253; Д. К. Зеленин. Описание рукописей Ученого архива Русского географического общества, вып. I—III. Пг., 1914—1915; «Полымя», 1925, № 5, стар. 173—174.

слоў[2]. Інструкцыю ў 1845 г. разаслалі дырэктарам і наглядчыкам усіх губернскіх гімназій і вучылішчаў з просьбай браць удзел у збіранні дыялектных слоў. Такім шляхам у Акадэмію навук ішлі адказы не толькі з рускіх, але і з беларускіх і ўкраінскіх губерняў. Аддзяленне мовы і славеснасці, складаючы «Опыт областного великорусского словаря», мела намер выдаць яго ў двух выпусках: у першым — словы з гаворак Паўночнай і Сярэдняй Расіі і Сібіры, у другім — беларускія і ўкраінскія. Але ўбачыўшы вялікую колькасць такіх матэрыялаў, заўважыўшы істотную розніцу паміж імі, у Аддзяленні рашылі беларускую і ўкраінскую лексіку змясціць у асобных слоўніках. Аднак гэта задума не была здзейснена.

У 1851 г. І. Сразнеўскі распрацаваў новую праграму, якая раіла збіральнікам адлюстроўваць у запісах асаблівасці вымаўлення, змянення, спалучэння слоў, прапаноўвала паказваць тэрыторыю, на якой пашыраецца такое вымаўленне, і ўсё падмацоўваць прыкладамі. Гэту праграму надрукавалі ў дадатках да Весцяў Акадэміі навук, апрача таго, дзве тысячы асобных экземпляраў разаслалі праз дэпартамент народнай асветы ў школы. Так значная частка запісаў беларускай лексікі трапіла да І. Сразнеўскага і цяпер захоўваецца ў яго фондзе[3].

Настаўнік М. Дзмітрыеў у 1858 г. даслаў «Алфавитный указатель особенных слов и выражений, извлеченных из песен и сказок крестьян Новогрудского уезда»[4]. Назва слоўніка прыблізна акрэслівае межы, дзе рабіліся запісы, паказвае, што словы выбраны з фальклорных твораў. Парадак размяшчэння слоў алфавітны, націск у іх не абазначаецца, словы падаюцца не ў пачатковай форме, а так, як у тэксце. Зразумела, што адзінай сістэмай памет тут нельга было абысціся, і аўтар да кожнай ускоснай формы даў адпаведныя граматычныя паметы. Не кожнае слова забяспечана тлумачэннем. Працуючы над слоўнікам, М. Дзмітрыеў не скарыстаў «Опыта областного великорусского словаря» як узору для складання слоўніка, не заўважыў ён і «Белорусских слов» С. Мікуцкага, якія былі апублікаваны ў 1854 г. і маглі быць

[2] Архіў АН СССР, ф. 1, воп. 1, № 98.
[3] Там жа, ф. 216.
[4] Там жа, ф. 216, воп. 3, № 280.

добрым прыкладам і для адбору лексікі, і для знаёмства з прыёмамі лексікаграфічнай апрацоўкі слова.

Артыкул Капанасевіча «Отличительные черты говора жителей Минской губернии» [5] ў дадатку мае слоўнік на 292 словы, да кожнага з іх ёсць тлумачэнне, у некаторых артыкулах даюцца паралелі з суседніх моў, часам робіцца спроба вызначыць этымалогію слова.

Рукапіс П. Рафаловіча «Наблюдения над языком простого народа, живущего в Гродненской губернии» [6] ахоплівае 450 слоў і мае своеасаблівую будову: спачатку падаюцца назвы свят і ўласныя імёны, а далей ідуць алфавітныя падборкі слоў на кожную часціну мовы. Словы тлумачацца апісальна, націск абазначаецца непаслядоўна, граматычныя каментарыі даюцца толькі да назоўнікаў і прыметнікаў.

Слоўнік «Белорусские слова, собранные в местечке Горках Могилевской губернии» [7] з рэестрам на 400 адзінак складзен невядомым аўтарам і не датаван, няма паслядоўнасці і ў перадачы фанетычных асаблівасцей гаворкі; націск пазначан у кожным слове, тлумачэнні апісальныя і перакладныя.

У «Сборнике слов, записанных в Гродненской и отчасти в Минской губерниях» [8] 364 артыкулы. Словы пашпартызаваны, тлумачацца апісальна, шляхам перакладу і часам камбінаваным спосабам. Падборка Чурылы «Слова, употребляемые в Чаусском уезде Могилевской губернии» [9] змяшчае некалькі дзесяткаў беларускіх слоў з абазначанымі націскамі і перакладам на рускую мову. Аналагічная пабудова і апрацоўка лексікі ў падборках Янчукова «Слова Минской губернии Бобруйского уезда м. Глусска», К. Янцэвіча, Бялінскага [10].

Асобна трэба адзначыць, што ў фондзе І. Сразнеўскага захоўваецца нямала запісаў лексікі з сумежных з Беларуссю губерняў: Смаленскай, Чарнігаўскай [11].

Каштоўныя матэрыялы захоўваюца ў гэтым самым архіве ў фондзе № 197 (воп. 2), дзе згрупаваны адказы на «Программу для собирания особенностей народных

[5] Архіў АН СССР, ф. 216, воп. 3, № 1177.
[6] Там жа, ф. 216, воп. 4, № 292.
[7] Там жа, ф. 216, воп. 4, № 292.
[8] Там жа, ф. 216, воп. 4, № 260.
[9] Там жа, ф. 216, воп. 3, № 118б.
[10] Там жа, ф. 216, воп. 3, № 1162, 1175, 1165.
[11] Там жа, ф. 216, воп. 4, № 274, 276, 277, 285, 287, 158.

говоров» з Віленскай, Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай губерняў (прыкладна каля 60 адказаў).

Слоўнікавае багацце беларусаў цікавіла П. Шэйна, дзейнасць якога ў Беларусі пачалася з 60-х гадоў XIX ст. Не ўся творчая спадчына гэтага фалькларыста апублікавана, ненадрукаванымі засталіся і лексічныя матэрыялы, сабраныя самім даследчыкам, а таксама яго шматлікімі карэспандэнтамі. У фондзе П. Шэйна (№ 104, воп. 1) знаходзяцца запісы лексікі з Барысаўскага, Горацкага, Лепельскага, Слуцкага, Слонімскага, Пружанскага і іншых паветаў [12]. Адзіных правілаў апрацоўкі гэтых матэрыялаў П. Шэйн не прытрымліваўся: ён толькі выяўляў словы і тлумачыў іх значэнне.

У кароткай справаздачы пра вынікі падарожжа па Беларусі П. Шэйн у лютым 1878 г. пісаў, што праверыў і папоўніў вялікай колькасцю слоў працу І. Насовіча [13]. У адным з яго рукапісаў занатавана больш за 100 слоў, якія не ўвайшлі ў слоўнік І. Насовіча. Своеасаблівыя слоўнікі складаюць «Собственные имена белорусские», «Слова, которыми приманивают и отгоняют домашних животных». П. Шэйн — вядомы фалькларыст і этнограф. Ён не пакінуў грунтоўнай лексікаграфічнай працы, але тыя рукапісы, што засталіся ляжаць на паліцах архіваў, сведчаць пра вялікую цікавасць даследчыка да беларускіх лексічных скарбаў.

Багата лексічнымі матэрыяламі спадчына М. Нікіфароўскага. Займаючы сціплую пасаду настаўніка, ён шмат зрабіў, каб узняць на новую ступень вывучэнне гісторыі свайго народа. Больш за 20 гадоў М. Нікіфароўскі быў самым лепшым карэспандэнтам П. Шэйна, таму іх запісы захоўваюцца ў адным архіўным фондзе. Адзін з рукапісаў з'яўляецца слоўнікам [14]. Створан ён на матэрыяле гаворак Віцебскага, Полацкага, Дрысенскага, Лепельскага паветаў у канцы 90-х гадоў XIX ст. Параўнанне слоўнікаў М. Нікіфароўскага і І. Насовіча дапамагае вызначыць прынцыпы адбору лексікі. Маючы пад рукой ёмістую працу І. Насовіча, ведаючы яе вартасць, М. Нікіфароўскі пазбягаў слоў, занатаваных І. Насовічам, і падаваў новыя, незарэгістраваныя ім. М. Нікіфароўскі змяшчаў словы з дадатковым ці іншым значэннем, чым у

---

[12] Архіў АН СССР, ф. 104, воп. 1, № 848.
[13] Там жа, ф. 104, воп. 1, № 828, ліст 13.
[14] Там жа, ф. 104, воп. 1, № 848.

слоўніку І. Насовіча, у новых словах выяўляў усе яго значэнні, кожнаму даваў дакладнае тлумачэнне. Апісальны спосаб ён лічыў найбольш прымальным, але зрэдку карыстаўся рускімі адпаведнікамі, а для назваў раслін яшчэ і лацінскімі. Пераноснае ці стылістычна афарбаванае значэнне слова адзначаў адпаведнай паметай. Ілюстрацыйны матэрыял браў з жывой гутарковай мовы і вуснай народнай творчасці, але прыклады падаваў не да кожнага рэестравага слова, не да кожнага яго значэння.

Рукапіс дэталёва разглядаў П. Шэйн і прапанаваў аўтару пераглядзець рэестравую частку слоўніка. Праз некаторы час М. Нікіфароўскі перапрацаваў слоўнік і даслаў новы рукапіс [15]. Трэці слоўнік [16] на матэрыяле гаворак Віцебскага павета М. Нікіфароўскі склаў як дадатак да адказу на праграму Я. Карскага. М. Нікіфароўскі, як бачым, тройчы рабіў захады да складання беларускага слоўніка, але ніводзін з яго слоўнікаў не быў надрукаваны. Рукапісныя слоўнікі М. Нікіфароўскага захавалі шмат беларускіх народных назваў і могуць быць выкарыстаны для слоўніка беларускіх народных гаворак.

Неаднаразова да інтэлігенцыі з просьбай збіраць помнікі вуснай народнай творчасці звярталася Рускае геаграфічнае таварыства. Беларускія этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы разам са слоўнікамі-дадаткамі часткова друкаваліся ў «Запісках» Таварыства, у этнаграфічных зборніках і зрэдку выходзілі асобнымі кніжкамі, а часткова засталіся ў архівах, у прыватнасці ў Архіве Геаграфічнага таварыства Саюза ССР. Г. Кладніцкі ў «Этнографических сведениях о жителях Лепельского уезда Витебской губернии» [17] спрабуе вызначыць асаблівасці сваёй гаворкі і ў дадатку да гэтай працы змяшчае дзве падборкі: «Слова, употребляемые в особенном смысле» і «Слова местные». Тут сабраны мясцовыя назвы бытавых прадметаў, сельскагаспадарчых прылад працы, з'яў прыроды. Этнаграфічныя матэрыялы з лексічнымі падборкамі захоўваюцца ў фондах № 20 (Мінская губерня), № 54 (зборныя матэрыялы), № 4 (Віленская губерня), № 21 (Магілёўская губерня), № 11 (Гродзенская губерня) [18].

---

[15] Архіў АН СССР, ф. 104, воп. 1, № 54.
[16] Там жа, ф. 197, воп. 2, № 12.
[17] Архіў Геаграфічнага таварыства Саюза ССР, ф. 5, воп. 1, № 5.
[18] Там жа, ф. 20, 54, 4, 21, 11.

Надрукаваныя, а таксама рукапісныя слоўнікі і падборкі слоў паказваюць, што збіранне беларускай народнай лексікі прыкметна актывізавалася ў другой палавіне XIX ст. у выніку павышанай цікавасці да Беларусі, яе гісторыі, мовы з боку Аддзялення рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук. Значна павялічваецца колькасць збіральнікаў беларускай лексікі: удзельнічаюць настаўнікі, этнографы, фалькларысты, вучоныя. Збіральнікам былі разасланы звароты і праграмы Акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства, у якіх дакладна былі акрэслены пытанні, што запісваць і як запісваць, і гэта палепшыла якасць запісаў. Архіўныя рукапісныя працы з народнай лексікай дзеляцца на слоўнікі і падборкі слоў. У аснове гэтага дзялення ляжыць парадак падачы і апісання дыялектных слоў: для слоўнікаў характэрна алфавітная і алфавітна-гнездавая будова рэестра; у падборках парадак размежавання не акрэсліваецца: гэта выпадковае размяшчэнне лексічных адзінак, тэматычнае групаванне і класіфікацыя па часцінах мовы.

Рэестравыя словы і прыклады-ілюстрацыі некаторыя складальнікі падавалі ў фанетычным запісу з рознай ступенню дакладнасці перадачы мясцовага вымаўлення. Такія запісы найбольш карысныя для сённяшніх даследчыкаў беларускіх гаворак. Аднак у большасці слоўнікаў і падборак аўтары прытрымліваліся рускага правапісу, таму «згладжваліся» фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, а таксама той гаворкі, дзе зарэгістравана слова. Для даследчыкаў беларускай лексікі гэта не будзе перашкодай, таму што фанетычныя тонкасці вымаўлення слоў ні ў якім слоўніку не ўяўляюць цікавасці. Абазначэнне націску ў лексікаграфічных працах абавязковае. Гэтага правіла прытрымліваліся многія складальнікі слоўнікаў і падборак, але значная частка матэрыялаў мае заганы: няма націскаў на рэестравых словах і прыкладах.

Як паказвае аналіз, асноўным для тлумачэння значэнняў слоў быў перакладны спосаб, пры якім да беларускіх слоў падбіралі адзін-два ці некалькі рускіх адпаведнікаў. У многіх выпадках гэты спосаб быў непрымальным. Тады перавага аддавалася апісальнаму тлумачэнню: семантыка слова раскрывалася праз апісанне характэрных асаблівасцей прадмета ці з'явы. Цікава, што ў ранейшых матэрыялах апісанне мела этнаграфічны ўхіл, пасля

назіраецца паступовы пераход да філалагічнага апісання, і за аб'ект тлумачэння бярэцца само слова. Апісанне становіцца больш лаканічным, з мінімальнымі звесткамі, неабходнымі для разумення значэння слова, і яно найбольш адпавядае прызначэнню філалагічных слоўнікаў.

У некаторых слоўнікавых артыкулах падаюцца даведкі, якія характарызуюць паходжанне слова, адлюстроўваюць яго генетычныя сувязі, семантычную гісторыю. Вытворныя словы, якія адрозніваюцца ад невытворных толькі прыналежнасцю да іншага разраду, забяспечваюцца спасылкамі і граматычнымі паметамі без лексічнага тлумачэння. Пры фанетычных і марфалагічных варыянтах слова, пры сінонімах-дублетах разгорнутае тлумачэнне звычайна не паўтараецца, а замяняецца адсылкамі, якія ўстанаўліваюць сувязь паміж асобнымі словамі з аднолькавым значэннем.

Складальнікі слоўнікаў і падборак слоў у другой палавіне XIX ст. пачынаюць усведамляць важнасць ілюстрацыйнага матэрыялу ў лексікаграфічных працах. Праўда, многія з іх непаслядоўна падавалі прыклады ў слоўнікавых артыкулах. Спачатку гэта былі адзінкавыя, часам нават прыдуманыя складальнікам фразы, у якіх значэнне рэестравага слова раскрывалася ў кантэксце. Патрабаванне ілюстраваць словы крок за крокам асэнсоўвалася большасцю складальнікаў, адначасова павышалася якасць ілюстрацыйнага матэрыялу: замест выпадковых, урыўкавых фраз у слоўнікавыя артыкулы ўключаліся лагічна закончаныя сказы, выслоўі, урыўкі з твораў вуснай народнай творчасці. Фразеалагізмы зрэдку выдзяляліся ў самастойныя слоўнікавыя артыкулы, але часцей за ўсё выкарыстоўваліся як ілюстрацыйны матэрыял.

Граматычныя і стылістычныя паметы ў малых слоўніках і падборках слоў не сталі абавязковымі, складальнікі абмежаваліся кароткімі рэмаркамі, асобнымі каментарыямі. Толькі С. Мікуцкі, П. Шэйн, М. Нікіфароўскі выпрацавалі пэўныя граматычныя кваліфікатары і сістэматычна выкарыстоўвалі стылістычныя паметы, настойліва сцвярджаючы неабходнасць гэтых элементаў у лексікаграфічных працах.

У архівах Ленінграда, апрача падборак слоў і разрозненых лексічных матэрыялаў, захоўваюцца невялікія закончаныя лексікаграфічныя працы: «Собрание белорус-

ских слов» І. Насовіча, «Белорусские слова» С. Мікуцкага, «Словарь белорусского наречия» П. Шпілеўскага, «Белорусский словарь» С. Мядзведскага. Найменш звестак у друку захавалася пра слоўнік апошняга аўтара.

«Белорусский словарь», складзены С. Мядзведскім з Талачына, налічвае 1658 слоўнікавых артыкулаў. Апрача агульных назваў, аўтар уключыў у рэестр уласныя імёны, геаграфічныя назвы, рад выклічнікаў і некаторыя аказіянальныя словы. Фразеалагічныя звароты выступаюць як слоўнікавыя артыкулы з выразнымі этнаграфічнымі тлумачэннямі. Аўтар разумее, што беларускай мове ўласціва шматзначнасць слова і аманімія, і гэта знайшло адлюстраванне ў слоўніку. Кожнае слова мае націск. Перавага аддаецца апісальнаму спосабу тлумачэння, але часта філалагічнае апісанне набывае энцыклапедычны характар. Некаторыя словы тлумачацца адным ці некалькімі рускімі адпаведнікамі, а назвы раслін, грыбоў дадаткова яшчэ і лацінскімі. Даволі часта выкарыстоўваецца і камбінаванае тлумачэнне — адпаведнік у спалучэнні з апісаннем. Граматычныя і стылістычныя паметы вельмі сціплыя, ставяцца эпізадычна. Слоўнік С. Мядзведскага невялікі памерам і не ўнёс у тагачасную лексікаграфічную практыку якіх-небудзь істотных змен, удасканаленняў: ён найбольш каштоўны тым, што захоўвае народную лексіку Віцебшчыны.

У гэтым артыкуле коратка ахарактарызаваны рукапісныя матэрыялы для слоўніка беларускіх народных гаворак, якія захоўваюцца ў Ленінградзе. Апрача таго, значная колькасць іх знаходзіцца ў архівах і кнігасховішчах Масквы, Варшавы, Вільнюса, Мінска.

Вялікая колькасць запісаў беларускай народнай лексікі, сабранай у мінулым і пачатку нашага стагоддзя, мае неаспрэчнае значэнне для вывучэння гісторыі беларускай лексікаграфіі, для сучаснай лексікаграфічнай практыкі.

*А. А. Крывіцкі*

# ТРЫ ЭТАПЫ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

У гістарычным працэсе фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі досыць выразна адрозніваюцца тры асноўныя этапы: этнаграфічны, этна-лінгвістычны і ўласна дыялектаграфічны. Кожны з іх вызначаецца галоўным чынам асаблівымі мэтамі, якім падпарадкоўвалася праца ў галіне слоўніка народнай мовы. А ў сувязі з гэтым яны характарызуюцца і асаблівымі па зместу і па форме лексікаграфічнымі здабыткамі.

Этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі — гэта не гістарычная паслядоўнасць пэўных перыядаў у яе развіцці. Адзначаныя этапы адлюстроўваюць паступовасць яе станаўлення як асобнай галіны беларускай дыялектаграфіі, дынаміку ўзроўняў працы па рэгістрацыі і апісанню дыялектнай лексікі.

Э т н а г р а ф і ч н ы э т а п. Жывое слова народа — асноўны сродак увасаблення яго рознабаковага жыццёвага вопыту і здабыткаў духоўнай культуры. А таму разгортванне працы ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. па выяўленню, рэгістрацыі і даследаванню вуснапаэтычных твораў, а таксама традыцыйных уяўленняў і паняццяў беларускага народа пацягнула за сабой і рэгістрацыю лексікі беларускай дыялектнай мовы. Лічыць гэта пачаткам дыялектнай лексікаграфіі, зразумела, нельга. Збіральнікі і даследчыкі традыцыйнай народнай творчасці і культуры ў сваіх працах, як правіла, не вылучалі яшчэ і не разглядалі народнае слова асобна, як моўную з'яву. Аднак хоць і не ў якасці заснавальнікаў тых ці іншых галін беларускай дыялекталогіі, але з вялікай павагай называюць беларускія лінгвісты сваімі папярэднікамі на гэтай мовазнаўчай ніве піянераў беларусазнаўства З. Даленгу-Хадакоўскага, І. Шыдлоўскага, шматлі-

кіх вядомых і славутых этнографаў і фалькларыстаў: А.Кіркора, Р. Зянькевіча, Я. Баршчэўскага, П. Баброўскага, П. Чубінскага, М. Дзмітрыева, П. Шэйна, П. Бяссонава, М. Нікіфароўскага, М. Янчука, М. Доўнара-Запольскага, А. Багдановіча, М. Федароўскага, І. Сербава, А. Сержпутоўскага, Ч. Пяткевіча, К. Машынскага і многіх іншых. Таму што яны, вывучаючы побыт, заняткі і традыцыйныя паняцці людзей розных этна-дыялектных частак Беларусі, занатоўваючы беларускія вусныя народныя творы, рэгістравалі народныя паняцці, уяўленні і вобразы ў мясцовым моўным «убранстве». Гэта каштоўныя здабыткі беларускай дыялектнай лексікаграфіі (як і дыялекталогіі ў цэлым), той багаты «пасаг», які яна атрымала ад сваіх «бацькоў» — беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі. Фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы мінулага з'яўляюцца, безумоўна, такой жа важнай крыніцай звестак пра народную лексіку, як і сучасная дыялектная мова. А ў некаторых выпадках, напэўна, адзінай.

Рост цікавасці ў навуковых і грамадскіх колах Расіі ў першай палавіне XIX ст. да традыцыйнай культуры і побыту беларусаў, да гістарычных пісьмовых дакументаў і твораў на старабеларускай пісьмовай мове выклікаў неабходнасць спецыяльнага вывучэння і апісання асаблівасцей беларускай мовы, і перш за ўсё, зразумела, лексічных. Для дакладнага разумення гістарычных тэкстаў і запісаў фальклору патрэбны былі ў першую чаргу спецыяльныя даведнікі аб асаблівых гістарычных, а таксама агульнанародных і дыялектных словах жывой беларускай мовы. Такія просценькія даведнікі ў выглядзе каментарыяў, індэксаў слоў, падрадковых заўваг і ў іншых формах змяшчаліся першапачаткова як дадаткі да збораў і публікацый фальклорна-этнаграфічных і гістарычных матэрыялаў. Зразумела, што гэтага было мала. Пачынае адчувацца і паступова ўсведамляцца неабходнасць у грунтоўным агульным даведніку па гістарычнай і дыялектнай лексіцы беларускай мовы.

Першыя захады па збіранню лексікі дыялектнай мовы і першыя спробы яе лексікаграфічнай апрацоўкі ў Расіі адносяцца да пачатку XIX ст. На Беларусі гэта праца пачала разгортвацца па ініцыятыве двух навуковых цэнтраў таго часу — Віленскага універсітэта і Маскоўскага разам з Расійскай акадэміяй навук.

У Віленскім універсітэце былі распрацаваны досыць шырокія праграмы збірання матэрыялаў па гісторы і этнаграфіі народаў у першую чаргу заходняй часткі тагачаснай Расіі. У зваротах і інструкцыях увага збіральнікаў адпаведных звестак, дакументаў і вуснапаэтычных твораў звярталася і на неабходнасць вывучэння жывой мовы народа, рэгістрацыі мясцовых слоў[1]. На заклікі віленскіх вучоных адгукнуліся многія прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі з Беларусі, і ў першую чаргу студэнты універсітэта. Праўда, гэта рэгістрацыя мясцовых слоў не была выразна падпарадкавана нейкім канкрэтным лексікаграфічным задумам. Аднак у вучоных колах універсітэта і ў асяроддзі студэнцтва добра ўсведамлялася ў той час, трэба думаць, не толькі навуковая, але і грамадская патрэба ў слоўніках і іншых даведніках па мове беларускага народа. Не выпадкова адсюль была пададзена думка аб неабходнасці складання гістарычнага слоўніка мовы помнікаў старабеларускай пісьменнасці (праф. І. Лабойка). Добра вядомы таксама погляды рэвалюцыйна-дэмакратычных колаў студэнтаў універсітэта на беларускі народ і яго мову і на задачы па яе вывучэнню і грамадскаму ўзвышэнню.

З выхаванцаў Віленскага універсітэта асабліва вылучаецца як збіральнік лексікі жывой беларускай мовы Ян Чачот (1796—1846), вядомы беларускі паэт і фальклярыст пачатку XIX ст. Складзены ім слоўнічак спецыфічных беларускіх слоў — адносна невялікі збор лексікі (растлумачана каля 250 слоў). Але гэта ўжо, можна сказаць, спецыяльная лексікаграфічная праца. Аўтар кіраваўся пэўным лінгвістычным крытэрыем адбору слоў, і апрацаваны яны ў слоўнічку з лексікаграфічнага боку больш дасканала і поўна, чым у звычайным лексічным каментарыі да тэкстаў[2]. Апрацоўка слова ў слоўнічку Я.Чачота была ўзорнай для наступных вядомых беларускіх лексікографаў. Я. Чачот быў таксама адным з тых, хто ўжо тады разумеў практычную неабходнасць у слоўніку беларускай мовы «не толькі для пакалення,

---

[1] Dziennik Wileński, t. IV, 1816; t. V, 1817.

[2] Некаторыя беларускія ідыяматызмы (уласнаназвы). У кн.: Piosnki wieśniacze z-nad Niemna i Dzwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie cłowiano-krewickíej. Wilno, 1846. У кнізе ёсць таксама і звычайны перакладны індэкс беларускіх слоў (каля 200), якія ўжываюцца ў песнях і могуць быць незразумелыя для чытачоў (палякаў).

якое жыве, але яшчэ большую ў будучым», і заклікаў да яго складання.

Аднак найбольш значныя канкрэтныя дасягненні беларускай дыялектнай лексікаграфіі на этнаграфічным этапе яе станаўлення звязаны з арганізацыйнай дзейнасцю вучоных Маскоўскага універсітэта і Расійскай акадэміі навук.

У 1811 г. пры Маскоўскім універсітэце было заснавана «Таварыства аматараў расійскай славеснасці». Гэта таварыства ў 1819 г. звярнулася да інтэлігенцыі Расійскай дзяржавы з вядомым заклікам «Аб карысці збірання правінцыяльных слоў». У друкаваным органе таварыства быў апублікаван рад невялікіх падборак слоў, дасланых з розных месц Расіі, у тым ліку і з Беларусі [3]. У 1845 г. з заклікам да збірання «абласных слоў» звярнулася Другое аддзяленне Расійскай акадэміі навук (Аддзяленне рускай мовы і славеснасці). У канцы ж 40-х гадоў разаслаў па Расіі сваю вялікую праграму Этнаграфічны аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, які таксама арыентаваў на збіранне звестак аб мовах насельніцтва розных месц Расіі.

Лексічныя матэрыялы, якія паступалі з дыялектных зон усходнеславянскіх моў, у Другім аддзяленні Акадэміі навук меркавалі падрыхтаваць да выдання ў выглядзе аднаго агульнага слоўніка «абласных слоў». Паводле плана А. Х. Вастокава слоўнік павінен быў складацца з двух «аддзяленняў»: 1. «Словы, ужывальныя ў Паўночнай і Сярэдняй Расіі і Сібіры». 2. «Гаворкі маларуская і беларуская» (кожная з іх са сваім алфавітам слоў) [4]. Аднак укладальнікі слоўніка ў Аддзяленні хутка пераканаліся, што аб'яднаць разам спецыфічную лексіку велікарускіх дыялектаў і лексіку ўкраінскай і беларускай моў немагчыма і нельга. Сабраныя матэрыялы з дыялектных зон гэтых моў выразна сведчылі, што ўкраінскае і беларускае «наречия» патрабавалі, як зазначалі члены Аддзялення, «па аб'ёму і асаблівых уласцівасцях сваіх асобных слоўнікаў» [5]. Ажыццёўлена была, як вядо-

---

[3] Н. Ф. Гулицкий. История белорусской лексикографии XIX — начала XX вв. Автореф. канд. дисс. Минск, 1972, стар. 7.

[4] Выдаць яго меркавалася пад назвай «Опыт словаря областных наречий». Л. И. Балахонова. История составления «Опыта областного великорусского словаря» и «Дополнения» к нему. У кн.: История русской диалектологии. М., 1961, стар. 103.

[5] Там жа.

ма, толькі першая частка праекта А. Х. Вастокава. Матэрыялы па дыялектных зонах беларускай і ўкраінскай моў заставаліся ў большасці здабыткам рукапісных архіваў тагачасных навуковых арганізацый і вучоных [6].

Да ліку першых актыўных збіральнікаў лексікі жывої беларускай мовы, якія былі цесна звязаны з маскоўскім цэнтрам, належалі І. Насовіч, С. Мікуцкі і інш. Але асабліва цікавай і арыгінальнай была ў той час слоўнікавая праца Паўла Міхайлавіча Шпілеўскага (1823—1861). За сваё непрацяглае жыццё ён шмат зрабіў у галіне этнаграфіі і фалькларыстыкі Беларусі. Вядомы быў ён таксама ў свой час як публіцыст і пісьменнік. У гісторыі ж нашага мовазнаўства ён лічыцца аўтарам першай спробы граматыкі і слоўніка жывой беларускай мовы. Гэта сціплая па аб'ёму і простая па зместу праца. Яе, напэўна, трэба лічыць толькі накідам вялікай навуковай задумы маладога даследчыка, а не завершаным творам. П. Шпілеўскі даслаў адзначаную працу ў Акадэмію навук з мэтай атрымаць адабрэнне і падтрымку ад вучоных для далейшых збіральніцкіх і даследчых заняткаў у гэтым напрамку.

Цэнтральная частка працы П. Шпілеўскага — слоўнік з'яўляецца алфавітнай падборкай беларускіх слоў (у колькасці звыш дзвюх тысяч), якія тлумачацца блізкімі або тоеснымі словамі рускай мовы. Але гэты слоўнік вызначаецца вельмі цікавай адметнасцю. Асноўнае месца ў ім займаюць не вузкія рэгіяналізмы, а словы, якія з'яўляюцца найбольш характэрнымі для гаворак усёй беларускай дыялектнай зоны і якія адначасова паказваюць своеасаблівасць іх у галіне слоўніка ў параўнанні з гаворкамі рускай і іншых славянскіх моў. У сувязі з гэтым слоўнік П. Шпілеўскага можна лічыць нават першай спробай лексікаграфічнага даведніка па беларускай мове як асобнай і самастойнай лінгва-этнічнай з'яве [7]. Таму шкада, канечне, што дасланая праца П. Шпілеўскага не выклікала з адзначанага боку ўвагі маскоўскіх вучоных і не атрымала адпаведнай ацэнкі. Праўда, у

---

[6] Аб гэтых рукапісных матэрыялах піша ў сваім артыкуле, змешчаным у гэтай кнізе, М. Ф. Гуліцкі.

[7] Слоўнікавая камісія Інбелкульта называла слоўнік П. Шпілеўскага ў якасці адной з крыніц для складання свайго фундаментальнага слоўніка жывой беларускай мовы. Гл. у кн.: Інстытут беларускай культуры. Мінск, 1926, стар. 35.

50-я гады П. Шпілеўскі рыхтаваў як быццам слоўнік беларускай мовы ў перапрацаваным і дапоўненым выглядзе да выдання разам з іншымі сваімі матэрыяламі і даследаваннямі. Але такой публікацыі яму ажыццявіць не ўдалося [8].

Рэалізаваць думку аб складанні асобных даведачных слоўнікаў па лексіцы гаворак украінскай і беларускай дыялектных зон з уключэннем яшчэ ў дадатак гістарычнай лексікі маскоўскім вучоным самім было, зразумела, цяжка. Грунтоўны і дакладны даведнік можна было скласці пры наяўнасці не толькі матэрыялаў. Патрэбна было таксама добра ведаць жывыя мовы ўкраінскага і беларускага народаў і іх старажытнае пісьменства.

У сувязі з гэтым скласці асобны даведачны каталог беларускай лексікі вучоныя Акадэміі навук даручылі археографу, вядомаму тады знаўцу старой беларускай пісьменнасці і ўраджэнцу Беларусі Івану Іванавічу Грыгаровічу (1795—1852). Яго ведалі як складальніка індэкса незразумелых слоў да падрыхтаванага ім у 20-я гады зборніка гістарычных дакументаў на старабеларускай пісьмовай мове. І. Грыгаровіч распачаў працу над агульным слоўнікам старабеларускай пісьмовай і сучаснай яму беларускай дыялектнай мовы. Па завяршэнні гэта быў бы, відаць, досыць поўны і універсальны зборнік лексікі ў першую чаргу гісторыка-этнаграфічнага прызначэння [9]. Але І. Грыгаровіч змог укласці, на жаль, толькі словы на літары А—В [10]. Вучоныя Акадэміі навук вельмі прыхільна ставіліся да яго прынцыпаў укладання слоўніка, таму што яны адпавядалі іх меркаванням аб задачах падобнага даведніка: ён павінен быў дапамагчы ў першую чаргу раскрыццю сэнсу помнікаў старабела-

---

[8] Пра гэта ён паведамляў у прадмове да сваёй публікацыі аб ваўкалаках. Гл.: Г. Кісялёў. «Я жыў з імі, я рос сярод іх...» «Полымя», 1974, № 3, стар. 222.

[9] Інакш «слоўнік-даведнік» паводле класіфікацыі Л. В. Шчэрбы. Словы, сабраныя ў такіх слоўніках, «могуць належаць розным калектывам, розным эпохам і зусім не ўтвараюць якой-небудзь сістэмы». Л. В. Щерба. Опыт общей теории лексикографии. «Известия ОЛЯ АН СССР», № 3, 1940, стар. 90.

[10] М. Улашчык. Літаратурная спадчына Івана Грыгаровіча. «Літаратура і мастацтва», 2 красавіка 1960 г.; Н. Ватацы. Ці друкаваўся «Слоўнік...» І. Грыгаровіча? «Літаратура і мастацтва», 28 кастрычніка 1969 г.; Н. Н. Улащик. Очерки по археологии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973, стар. 30—31.

рускай пісьменнасці, а таксама матэрыялаў па беларускай этнаграфіі і фалькларыстыцы.

Пасля смерці І. Грыгаровіча ажыццявіць справу, якую пачаў ён, было даручана кандыдату Маскоўскага універсітэта Станіславу Паўлавічу Мікуцкаму (1815—1890). С. Мікуцкі тры гады падарожнічаў па Беларусі, працаваў у бібліятэках і архівах, устанавіў асабістыя сувязі з мясцовымі даследчыкамі. Некалькі яго навуковых справаздач і некаторыя сабраныя лексічныя матэрыялы былі апублікаваны [11]. Ім задуман быў даведачны зборнік беларускай лексікі з жывой народнай мовы паводле матэрыялаў з фальклорных, этнаграфічных і непасрэдна гутарковых крыніц. Але нічога больш значнага за артыкулы па лексіцы беларускай мовы ён не апублікаваў.

Розныя лексічныя даведнічкі, слоўнічкі-дадаткі да фальклорных і этнаграфічных зборнікаў, індэксы беларускіх слоў і іншыя службовыя лексікаграфічныя распрацоўкі, неабходныя ў апісаннях і даследаваннях матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, рабілі і ў другой палавіне XIX ст. Падобныя тлумачальныя лексічныя дадаткі ёсць, напрыклад, у публікацыях А. Кіркора, П. Гільтэбрандта, П. Бяссонава, А. Дэмбавецкага, Д. Булгакаўскага, М. Доўнара-Запольскага, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага і многіх іншых [12]. Але най-

---

[11] С. П. Микуцкий. Белорусские слова. «Известия имп. АН по ОРЯС», т. 2, 1853; яго ж: Областные слова белорусских старцев. Там жа; Третий отчет о путешествии кандидата С. П. Микуцкого, 1854. Там жа, т. 3, вып. 5, 1854. (У гэтым жа перыядычным выданні ў наступныя гады былі змешчаны пятая, шостая і сёмая яго справаздачы аб працы ў Беларусі).

[12] А. Киркор. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. «Этнографический сборник», вып. II. СПб, 1858; П. Гильтебрандт. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. I. Вильна, 1866; П. Бессонов. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка. М., 1871; Опыт описания Могилевской губернии. Сост. по программе и под ред. А. С. Дембовецкого, кн. 1. Могилев, 1882; Д. Г. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический сборник. «Зап. имп. Рус. географ. об-ва по отд. этногр.», т. 13, вып. 3, 1890; М. В. Довнар-Запольский. Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, вып. 1. Песни пинчуков. Киев, 1895; П. В. Шейн. Белорусские песни. СПб, 1874; Н. Я. Никифоровский. Очерки Витебской Белоруссии, вып. 1. М., 1892; вып. 2. М., 1892; яго ж. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. Витебск, 1895.

больш значную працу па лексіцы жывой беларускай мовы ў другой палавіне XIX ст. даследчыкі ажыццяўлялі ўжо з пункту погляду мэт і задач, звязаных з вывучэннем структуры і сродкаў самой беларускай мовы.

Этна-лінгвістычны этап. Яшчэ ў 50-я гады XIX ст. сярод мясцовай беларускай інтэлігенцыі і ў афіцыйных навуковых колах Расіі пачынаюць набываць актуальнасць пытанні аб статусе жывой мовы «беларускага племя» і яе адносінах да іншых моў. Значна садзейнічала росту цікавасці да гэтых пытанняў не толькі назапашванне матэрыялаў па гісторыі, традыцыйнай арыгінальнай культуры і мове беларускага народа, але і з'яўленне мастацкай літаратуры на гэтай мове, стыхійны рэвалюцыйны і нацыянальны рух народных мас [13]. Беларуская мова, у прыватнасці старая пісьмовая і дыялектная, робіцца прадметам спецыяльных навуковых даследаванняў. Асаблівую цікавасць выклікае яе гукавая, граматычная і лексічная спецыфіка.

Пачынальнікамі лексікаграфічнай працы, накіраванай на раскрыццё лексічнай адметнасці жывой беларускай мовы ў цэлым як самастойнай лінгва-этнічнай з'явы, можна лічыць ужо, відаць, П. Шпілеўскага, Я. Чачота. Але сапраўднае ўзняцце беларускай лексікаграфіі на новую, этна-лінгвістычную ступень у сваім станаўленні адбылося дзякуючы плённай працы Івана Іванавіча Насовіча (1788—1877), выдатнага даследчыка беларускай вуснай народнай творчасці і мовы.

І. Насовіч пачаў вывучаць і рэгістраваць лексіку жывой беларускай мовы яшчэ ў 40-я гады XIX ст. аднача-

---

[13] Сярод вучоных у Расіі пашыраюцца новыя для таго часу погляды на дыялекты («наречия») як на «віды» мовы, якія ўтварыліся ў выніку яе распаду, драбнення і разбурэння (раней дыялектную мову разглядалі як простанароднае, «мужыцкае» скажэнне культурнай мовы і адсталае сховішча моўных рэліктаў). Таму кожны дыялект павінен вывучацца ўсебакова, глыбока і асобна. «Па кожным з дыялектаў рускіх і іх мясцовых адценняў павінны быць складзены асобна слоўнікі і зборнікі ўзораў з песняў, прыказак, казак, размоў і інш.,— пісаў акад. І. І. Сразнеўскі ў 1850 г., накідваючы праграму навуковай працы па русістыцы,— і для кожнага асобна асаблівая граматыка з разборам помнікаў народнай славеснасці ў адносінах да складу, мэты, форм выказвання і зместу. Развіццё мовы ў мясцовыя відазмяненні павінна быць даследавана ў прыватных манаграфіях так жа выразна, як і развіццё мовы ў часе па помніках, якія засталіся ад розных стагоддзяў» (И. И. Срезневский. Мысли об истории русского языка. СПб, 1850. Цыт. па выд. М., 1959, стар. 81).

сова са збіраннем фальклорных твораў. Ён з'яўляўся адным з найбольш актыўных карэспандэнтаў Другога аддзялення Акадэміі навук у Маскве, куды даслаў вялікія і разнастайныя матэрыялы па вуснай народнай творчасці, значныя падборкі мясцовых беларускіх слоў [14]. Але ў 50-я гады ён «па асабістаму жаданню», як потым адзначыла Аддзяленне, старанна збіраў беларускую лексіку для задуманай ім вялікай і арыгінальнай працы — слоўніка тагачаснай народнай беларускай мовы. I ўжо ў 1861 г. I. Насовіч свой славуты слоўнік у завершаным выглядзе прадставіў у Маскву ў Акадэмію навук. Аднак толькі праз 10 год гэты вялікі лексікаграфічны твор (каля 30 тысяч слоў) са значнымі скарачэннямі быў, нарэшце, надрукаван [15].

Фундаментальная лексікаграфічная праца I. Насовіча з'яўляецца фактычна першым грунтоўным слоўнікам беларускай нацыянальнай мовы. Таму I. Насовіч лічыцца заснавальнікам беларускай нацыянальнай лексікаграфіі. Праўда, у слоўніку I. Насовіча сабраны словы толькі беларускай дыялектнай мовы. Але ў той час дыялектная мова была яшчэ асноўнай разнавіднасцю беларускай нацыянальнай мовы ў цэлым. Літаратурная мова тады толькі пачынала фарміравацца.

З пункту погляду лексічных норм сучаснай агульнанароднай літаратурнай мовы і адпаведных асаблівасцей дыялектнай слоўнік I. Насовіча вызначаецца прыкметнай рэгіянальнасцю. Пераважае ў ім паўночна-ўсходняя беларуская дыялектная лексіка. Гэта трэба тлумачыць, відаць, галоўным чынам большай асабістай дасведчанасцю складальніка ў галіне слоўнікавага складу гаворак паўночнага ўсходу Беларусі. Аднак нельга не ўлічваць таксама і тое, што паўночна-ўсходняя дыялектная зона ў тыя часы лічылася, як вядома, найбольш паказальнай і характарыстычнай у адносінах этна-моўных асаблівасцей беларусаў [16].

---

[14] В. К. Бандарчык. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Мінск, 1964, стар. 109—112.

[15] И. И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

[16] У адпаведнасці з класіфікацыяй Л. В. Шчэрбы слоўнік I. Насовіча трэба лічыць «акадэмічным» і ў некаторым сэнсе «нарматыўным», таму што ў яго аснове, бясспрэчна, ляжыць «адзіная (рэальная) моўная свядомасць пэўнага чалавечага калектыву ў пэўны момант часу». Л. В. Щерба. Там жа.

Сваім выдатным лексікаграфічным творам І. Насовіч не толькі ўзняў беларускую лексікаграфію на новы больш высокі ўзровень па яе навуковай і грамадскай значнасці. Яго слоўнік вызначыў характар і асноўныя напрамкі наступнай лексікаграфічнай працы ў галіне жывой беларускай мовы. Пасля выхаду ў свет слоўніка І. Насовіча і ў самай непасрэднай сувязі з ім пачынае фактычна зараджацца беларуская дыялектная (рэгіянальная) лексікаграфія.

Першапачаткова рэгіянальныя беларускія лексікаграфічныя працы мелі характар невялікіх дадаткаў да слоўніка І. Насовіча, якія змяшчалі адсутныя ў ім словы з тых ці іншых беларускіх гаворак або спецыяльную тэрміналогію некаторых традыцыйных заняткаў беларусаў. Стваралі іх на аснове непасрэднага даследавання мясцовых адметнасцей гаворак у лексіцы і на аснове вывучэння лексікі фальклорна-этнаграфічных запісаў. Такімі з'яўляюцца, напрыклад, лексічныя матэрыялы З. Радчанкі, У. Дабравольскага, С. Малевіча і асабліва М. Нікіфароўскага, Е. Раманава і самога І. Насовіча [17].

Вывучаюцца таксама і асаблівасці слоўніка жаргонаў некаторых адасобленых сацыяльных груп у складзе сельскага і гарадскога насельніцтва тагачаснай Беларусі [18].

У канцы XIX — пачатку XX ст. фундаментальнае апісанне і тлумачэнне гукаў і форм беларускай мовы ажыццяўляе Яфім Фёдаравіч Карскі (1861—1931). Даследаванне беларускай мовы паступова ператвараецца ў самастойную галіну ўсходнеславянскага мовазнаўства. Намаганні даследчыкаў былі накіраваны ў гэты час га-

---

[17] З. Радченко. Гомельские народные песни. СПб, 1888; В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. IV. «Записки имп. Рус. географ. об-ва по отд. этногр.», т. 27, 1903; С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб, 1907; И. И. Носович. Дополнение к белорусскому словарю. СПб, 1881; аб матэрыялах М. Нікіфароўскага гл.: Н. Ф. Гулицкий. История белорусской лексикографии XIX — начала XX вв., стар. 17; матэрыялы Е. Раманава па лексіцы беларускіх гаворак загінулі ў рукапісе. Гл.: В. К. Бандарчык. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мінск, 1961, стар. 163—164.

[18] Е. Романов. Катрушницкий лемезень. СПб, 1901; яго ж. Очерк быта нищих Могилевской губернии и их условный язык. М., 1891; Ф. Сцепура. Русско-нищенский словарь, составленный из разговора нищих Слуцкого уезда Минской губернии местечка Семежова. СПб, 1881 і інш.

лоўным чынам на выяўленне і тлумачэнне асаблівасцей структуры беларускай мовы.

У 1897 г. была апублікавана вядомая «Праграма», складзеная Я. Карскім [19]. Яна арыентавала даследчыкаў на вывучэнне асаблівасцей беларускай дыялектнай мовы, у тым ліку і на збіранне спецыфічнай беларускай лексікі. Я. Карскі рэкамендаваў запісваць у першую чаргу словы, якія адсутнічалі ў слоўніку І. Насовіча. У розных месцах беларускай дыялектнай зоны, а таксама ў пераходных міжмоўных зонах карэспандэнтамі Я. Карскага былі сабраны цікавыя матэрыялы [20]. Нямала падарожнічаў па Беларусі і нямала сабраў звестак аб асаблівасцях беларускай народнай мовы і сам Я. Карскі. Ён збіраўся завяршыць сваё агульнавядомае фундаментальнае даследаванне і апісанне структуры беларускай мовы вялікім зборам яе лексікі ў дзвюх частках: слоўнік жывой (дыялектнай) беларускай мовы і слоўнік старабеларускай мовы [21]. Найбольш значныя апісанні асаблівасцей беларускай мовы асобных рэгіёнаў паводле «Праграмы» Я. Карскага (у тым ліку і лексічных асаблівасцей) былі зроблены А. Сержпутоўскім і І. Сербавым [22].

Этна-лінгвістычны этап у фарміраванні беларускай дыялектнай лексікаграфіі, як і этнаграфічны, не атрымаў свайго завяршэння. План Я. Карскага застаўся, на жаль, не здзейсненым. Праўда, і ў 20-я гады Я. Карскі заклікаў яшчэ беларускіх моваведаў і грамадскасць да стварэння поўнага слоўніка беларускай мовы, які ўключаў бы ўсе слоўныя багацці, якімі валодае беларускі народ [23]. Але ў гэты час у асяроддзі беларускіх лінгвістаў у

---

[19] Е. Ф. Карский. Программа для собирания особенностей белорусского наречия. СПб, 1897; выд. 2-е. Пг., 1916.

[20] Материалы для изучения белорусских говоров, вып. 1—5. СПб, 1897, 1898, 1900, 1903, 1907; Материалы для изучения северно-малорусских говоров, а также переходных от белорусских к малорусским, вып. I—II. СПб, 1898, 1903.

[21] В. И. Борковский. Исследования Е. Ф. Карского по белорусскому языку. У кн.: Е. Ф. Карский. Белорусы, вып. 1. М., 1955, стар. 467.

[22] А. К. Сержпутовский. Грамматический очерк белорусского наречия д. Чудин Слуцкого уезда Минской губернии. СПб, 1911; И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. СПб, 1915.

[23] Я. Карскі. Што яшчэ трэба зрабіць у справе беларускай мовы і літаратуры. «Беларусь», 1920, № 146; яго ж. Очерк научной разработки русского языка в границах СССР. «Сб. ОРЯС», 1926, № CI.

рэспубліцы складваліся ўжо новыя погляды на задачы нацыянальнай беларускай лексікаграфіі ў яе розных галінах і новыя шырокія планы лексікаграфічнай працы.

Дыялектаграфічны этап. Пачатак уласна дыялектаграфічнага этапа фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі, г.зн. станаўленне яе як асобнай галіны беларускай дыялектаграфіі, — гэта пачатак рэалізацыі праграмы па складанню слоўнікаў беларускай мовы, якая была распрацавана Слоўнікавай камісіяй Інстытута беларускай культуры ў 20-я гады. Але першым вестуном яго трэба лічыць, безумоўна, Уладзіміра Мікалаевіча Дабравольскага (1856—1920), выдатнага даследчыка традыцыйнай народнай культуры Смаленшчыны. Пачынаў У. Дабравольскі рэгістрацыю лексікі на Смаленшчыне ў 80-я гады ў адпаведнасці з рэкамендацыямі тагачасных навуковых устаноў і таварыстваў у Расіі (у прыватнасці, Акадэміі навук) і для рэалізацыі іх задум. Аднак вывучэнне Смаленшчыны прывяло яго да думкі аб неабходнасці поўнага апісання традыцыйнай культуры і мовы гэтай этна-дыялектнай зоны ва ўсёй сукупнасці здабыткаў, а не толькі адрозненняў [24]. І створаны ім досыць вялікі слоўнік Смаленшчыны з'яўляецца адносна поўным зборам слоў, уласцівых гаворкам цэнтральнай часткі адпаведнай зоны (пераважна наваколле Смаленска) [25].

Падобны навуковы падыход да вывучэння лексікі беларускай мовы быў фактычна метадалагічнай асновай цікавай і вельмі значнай па задуме лексікаграфічнай праграмы Слоўнікавай камісіі Інстытута беларускай культуры. Гэта праграма, распрацаваная С. Некрашэвічам, пачала ажыццяўляцца ў 1925 г.[26] Спецыяльна вывучыўшы вопыт рускай, украінскай і польскай лексікаграфіі, Слоўнікавая камісія вызначыла два асноўныя напрамкі збіральніцкай і ўласна лексікаграфічнай працы ў галіне слоўніка жывой беларускай мовы. Гэта ства-

---

[24] В. К. Бандарчык. Гісторыя беларускай этнаграфіі, стар. 186.

[25] В. Н. Добровольский. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914. Паводле класіфікацыі Л. В. Шчэрбы гэты слоўнік можна аднесці да тыпу акадэмічных, таму што ён з'яўляецца зборам слоў, якія ўтвараюць сістэму (у прыватнасці, дыялектную).

[26] С. Некрашэвіч. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы. «Полымя», 1925, № 5.

рэнне вялікага збору беларускіх слоў, пашыраных у вусным і пісьмовым ужыванні, тыпу слоўніка ўкраінскай мовы Б. Грынчэнкі або слоўніка польскай мовы Я. Карловіча [27] і складанне краёвых слоўнікаў існаваўшых тады адміністрацыйных акруг (або былых паветаў). Па тагачаснай тэрыторыі Савецкай Беларусі намечана было скласці 10 краёвых слоўнікаў па ліку акруг (Аршанская, Барысаўская, Бабруйская, Віцебская, Калінінская, Магілёўская, Мазырская, Мінская, Полацкая, Слуцкая). Ажыццявіць гэту справу даручалася акруговым і мясцовым краязнаўчым таварыствам. Меркавалі таксама, што планы Слоўнікавай камісіі знойдуць падтрымку ў навуковых колах у Польшчы і Прыбалтыцы ці ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі і ў сувязі з гэтым будзе разгорнута вывучэнне дыялектнай лексікі ў заходняй частцы Беларусі. Устаноўлены былі таксама цесныя кантакты з краязнаўчымі таварыствамі тагачасных суседніх адміністрацыйных раёнаў РСФСР (Смаленск, Бельск, Старадуб, Гомель). Былі распрацаваны спецыяльныя інструкцыі ўкладальнікам вялікага слоўніка і краёвых дыялектных слоўнікаў, а таксама апытальнікі для збіральнікаў[28].

Неўзабаве сабраныя матэрыялы дазволілі пачаць укладанне дыялектных слоўнікаў па некаторых адміністрацыйных акругах. А ў 1927 г. выйшаў у свет першы збор дыялектнай лексікі, зарэгістраванай у Віцебскай акрузе [29]. У 1929 г. быў выдадзен слоўнік гаворак навакolля Чэрвеня [30]. Складзены быў слоўнік Мазырскай акругі [31]. Паспяхова ішла праца над слоўнікам Калінінскай акругі [32]. Праводзілася збіранне лексікі ва ўсходніх паветах тагачаснай Гомельскай губерні РСФСР (цяпер заходнія раёны Бранскай вобласці) для складання рэгія-

---

[27] Інстытут беларускай культуры. Мінск, 1926.

[28] П. А. Бузук, Я. І. Мацюкевіч, П. Я. Юргелевіч. Інструкцыя для збірання беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл. «Наш край», 1926, № 1 (4); С. Некрашэвіч, П. Бузук. Праграма для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак, пераходных да суседніх моў. Мінск, 1927 і інш.

[29] М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927.

[30] М. Шатэрнік. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мінск, 1929.

[31] Слоўнік, складзены А. Крукоўскім, страчан у час мінулай вайны (экземпляр рукапісу слоўніка захоўваўся ў праф. Ц. П. Ломцева).

[32] І. К. Бялькевіч. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

нальнага слоўніка адзначанай зоны паводле праграмы і прынцыпаў Слоўнікавай камісіі [33].

Вялікі слоўнік беларускай мовы і яго шматлікія краёвыя «спадарожнікі», якія меркавалася мець пры поўнай рэалізацыі праграмы Слоўнікавай камісіі, былі б фундаментальнай сістэмай лексікаграфічных прац значнай практычнай і навуковай вартасці. Слоўнікавы склад беларускай нацыянальнай мовы ў яе тагачасным стане атрымаў бы ў іх дастаткова поўнае адлюстраванне і апісанне. Зусім натуральна, што адзначаная праграма слоўнікавай працы знайшла падтрымку ў шырокіх грамадскіх і навуковых колах.

Яшчэ больш шырокае і дэталёвае вывучэнне тэрытарыяльных дыялектных адрозненняў у галіне лексікі беларускай мовы ў перспектыве было вызначана планам спецыяльных лінгвагеаграфічных даследаванняў П. А. Бузука [34]. Карты лексічных ландшафтаў Беларусі разам з сінтаксічнымі картамі павінны былі скласці другую частку яго вядомай працы па лінгвагеаграфіі Беларусі [35]. Такім чынам, у дадатак да звестак аб рэгіянальнай (краёвай) лексічнай спецыфіцы беларускай дыялектнай мовы намячалася атрымаць даныя аб геаграфіі паасобных слоў і аб лексічных ізаглосных межах на тэрыторыі рэспублікі.

Вялікія і складаныя задачы былі пастаўлены перад беларускай дыялектнай лексікаграфіяй у пачатку яе самастойнага развіцця. Гэтыя задачы меліся на ўвазе і пры вызначэнні перспектыў, а таксама пры распрацоўцы канкрэтных планаў вывучэння дыялектнай лексікі ў пасляваенны перыяд [36]. І галоўная мэта, якой падпарадкавана зараз уся лексікаграфічная праца ў галіне беларускай дыялектнай мовы,— гэта, з аднаго боку, як мага больш поўная і дакладная рэгістрацыя яе традыцыйных рэгіянальных слоў з дэталёвым апісаннем іх семантыкі і, з другога боку, выяўленне арэалу ўжывання кожнага

[33] П. А. Расторгуев. Словарь народных говоров западной Брянщины. Минск, 1973.

[34] Я. Рамановіч і А. Юрэвіч. П. А. Бузук. Мінск, 1969, стар. 41.

[35] П. А. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, ч. 1. Фанетыка і марфалогія, вып. 1. Мінск, 1928.

[36] М. В. Бірыла. Да пытання аб тыпе і прынцыпах укладання беларускіх абласных слоўнікаў. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. V. Мінск, 1958.

слова ў яго розных структурных варыянтах і значэннях, а таксама тэрытарыяльных узаемаадносін з іншымі словамі.

Такія былі этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі. Яны з'яўляюцца як бы ступенямі яе паступовага станаўлення спачатку як службовага інструмента археаграфіі і этнаграфіі, потым як састаўной часткі агульнага апісання беларускай мовы і, нарэшце, як асобнай галіны беларускай апісальнай дыялекталогіі.

# ЛЕКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАВОРАК

*Я. М. Рамановіч*

## ДА СЛОЎНІКА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У апошні час па лексіцы Гродзеншчыны апублікавана некалькі значных збораў [1].

У час збірання матэрыялаў для лексічнага атласа беларускай мовы ў в. Стральцы Гродзенскага раёна ў 1972 г. намі было запісана каля сотні слоў, якія або не зафіксаваны ў названых слоўніках, або зафіксаваны з іншым значэннем.

Гаворка в. Стральцы адносіцца да заходняй групы паўднёва-заходняга дыялекту. Найбольш яркімі асаблівасцямі яе і суседніх вёсак з'яўляюцца поўнае яканне і няпоўнае аканне (захаванне канцавога ненаціскнога *о*): *пярапе́чка, вясялі́цца; се́но, са́ло, мно́го, ке́пско*. З іншых фанетычных і граматычных асаблівасцей варта адзначыць наступныя: прыстаўны *г* (*го́зяро, гу́хо, гу́ліца*); адсутнасць падаўжэння зычных на месцы старога спалучэння зычных з *ьj* (*цярпе́ня, кло́ча, вясе́ля*); цвёрдасць суфікса *-са* ў розных дзеяслоўных формах (*аста́ўса, куля́ліса, стара́ямса*); форма меснага склону адзіночнага ліку з канчаткам *-э* ў назоўніках жаночага роду з асновай на шыпячыя і *р* (*на шашэ́, на мяжэ́, на дварэ́*); ужыванне формы назоўнага склону множнага ліку з канчаткам *-е* ў назоўніках жаночага роду з суфіксам *-к* (*а*) (*мацярке́, цятке́, галаўке́, паласке́*).

Лексіка гаворкі в. Стральцы ў пераважнай большасці супадае з лексікай беларускай літаратурнай мовы. Разам з тым выяўляецца шмат запазычанняў з польскай і іншых моў, якія адносяцца да таго часу, калі Заходняя

[1] П. У. Сцяцко. Дыялектны слоўнік (З гаворак Зэльвеншчыны). Мінск, 1970; яго ж. Народная лексіка. Мінск, 1970; Т. Ф. Сцяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972.

Беларусь уваходзіла ў склад Польскай дзяржавы (да 1939 г.): *вандзэ́лак, дзісь, лята́рня, нігды, прэ́нтко, ро́вар, рок, цёнгля, швэ́дар, шма́ляц* і інш. У наш спіс уключаны традыцыйныя мясцовыя словы з розных галін лексічнай сістэмы гаворкі, якія вызначаюцца структурнымі, словаўтваральнымі і семантычнымі асаблівасцямі.

АБАЖА′ЦЬ *зак.* Абагнаць у жніве. *Каб хто яе абажаў? Нігды.*

АЛЯЛЁТ *м.* Галалёд. *Ідзі паціху, дзісь алялёт.*

АПРА′ТАЦЬ *зак.* Прыбраць. *Яны апраталі дрова. Я апратаю ў хаця, а ты ідзі каровя дай.*

АСПАДА′РКА *ж.* Гаспадарка. *На сваёй аспадарцы мало чаго мелі, а рабілі ад цямна да цямна.*

АТГО′ЖЫЛАК *м.* Адростак. *Як до́бро грушка расце, мно́го атгожылкаў.*

БАБІ′Ч *м.* Бабнік. *У нас быў такі бабіч, во любіў бабаў!*

БАРДЗЕ′НКО *прысл.* Хуценька. *Бардзенко ідзі, ужо цямнея.*

БО′ЛБАТКА *ж.* Бурбалка. *До́ўго дошч будзя, болбаткі ве́лькія.*

БУ′ЛАХ *м.* Шышка рагоза. *Я прынёс столькі булахаў, асталосо мало, куды яны дзеліса?*

ВАЙЖДА′ЦЦА *незак.* Хістацца, калывацца. *Сядзіць у мяне* [на каленях] *і вайждаяцца.*

ВА′ТА *ж.* Рыбалоўная прылада. *Вата с крыламі, удваіх цягнуць.*

ВЯРЦЭ′МАК *м.* Мяла. *Пакуль шукаяш вярцэмка, бульба астыня.*

ГАЛАДЗЁН *м.* Авадзень.

ГАЛАЎКІ′ *мн.* Вычаскі пры апрацоўцы льнянога валакна шчоткай. *Пасля трання лёну чэшуць на жалезную шчотку, палучаяцца кудзеля — гэ́то галаўкі. Галаўкі прадуць на мяшкі.*

ГО′ЙДАНКА *ж.* Гушкалка. *Зрабі Жанцы гойданку.*

ГРА′БІЦЬ *незак.* Грэбці. *Аставайцеса тут, мы паехалі се́но грабіць.*

ГРАМАВА′ТЫ *прым.* Вялікі, высокі.

ГРА′САЧКА *ж.* Знак, адціснуты пальцам збоку ў бохане хлеба пры яго фармаванні. *Замесіць хлеп, булку пасадзіць на лапату і пярацісьня грасачкамі.*

ГРЫШКЕ′ *мн.* Рыжыкі. *У нас грышке соляць, іх мо́жно варыць.*

ГРЭ'ТА *ж.* Мел. *Грэтаю печ бялілі, усё можно бяліць.*

ДАХО'ЎКА *ж.* Чарапіца. *Дахоўка — чым крыюць хаты: накладаецца ат парубіны да парубіны.*

ДЗЕ *прысл.* Куды. *Дзе ты пойдзяш?*

ДЗЫГЛЯ'ТЫ *прым.* Высокі, худы. *Які дзыгляты, згорбіўса ўжо.*

ДЗЯДЫ' *мн.* Звязаныя пучкі саломы, якімі ўмацоўваюць край саламянай страхі. *Калі крыюць хату саломаю, кап салома не разляталаса, то навязваюць дзяды на канцох саломы па краях страхі.*

ДНЯЧКО' *н.* Донца.

ДРА'ЗГА *ж.* Лучына. *Я помню, у нас у хаця дразгамі свяцілі.*

ДРУ'ЗГІ *мн.* Дробныя трэскі, кавалачкі разбітага шкла, глінянага посуда. *Пабіласо (шкло) на дромныя друзгі.*

ДУБАСО'Ю *прысл.* Дыбкі. *Конь становіцца дубасою.*

ДУХ *м.* Плавальны пузыр у рыбы. *Глядзі, дух з рыбы кот пацягнуў.*

ЖВАЦІ'СТЫ *прым.* З вялікім жыватом. *Мікіта нічога ні робіць, ляжыць сабе, вот і стаў жвацісты.*

ЖВОТ *м.* Жывот. *Цэлы дзень у мяне гурчыць у жваце.*

ЗАБРО'ДЖВАЦЬ *незак.* Пратоптваць мяжу ў траве. *Заброджвай граніцу, а то перакашу суседа.*

ЗАГІ'БАНЫ *дзеепрым.* Загнуты. *Што ты мне загібаны цьвік прынесла?*

ЗАКУПО'ЎВАЦЬ *незак.* Закупляць. *Ён егдзіў і закупоўваў ганучы.*

ЗАСТРА'ГНУЦЬ *зак.* Завязнуць. *З сенам застрагнуў калная дарога.*

ЗАЧЫ'Р *м.* Паз у ніжняй частцы бочкі, цэбра. *У зачыр устаўляюць дно ў цэбру, у кадушкі.*

ЗМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Калі снуеш, нада ні змыліцца.*

ЗЯЛЕ'ПУХА *ж. метаф.* Малакроўны чалавек. *Зялепуха ты, белая, як палатно, есці больш трэбо.*

КАМЕ'ЧА *н. зб.* Каменне. *Падрубы на камеча клаліса.*

КАМЛЯКАВА'ТЫ *прым.* Каржакаваты. *Добры ваш хлопяц: прыгожы, камлякаваты.*

КАРУ'ШЧЫК *м.* Корак. *Затні пляшку карушчыкам.*

КВА'САЧКА *ж.* Драўляная пасудзіна з клёпак з двума бакавымі вушамі. *Квасачка знізу вўжайша, зверху*

*шырайша, тро́хо меншая* [цэбра]. *У квасачку ча́шча клалі сало.*

КЛЮ'ЧКА *ж.* Прылада для віцця вяровак.

ЛАМА'НЦЫ *мн.* Печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе. *Ламанцы рабілі з мукі, туды соды, вады, раскачая на лішачкі і пячэ на скварадзе. Як спяклі, ламалі, елі з макам, намочаным і падсаложаным.*

ЛІ'ШАЧКА *ж.* Раскатаны на тонкі блін кавалачак цеста. *Це́сто качая на тонкія доўгія галушкі, парэжа, раскачая на лішачкі і пячэ. Гэ́то ламанцы.*

ЛЯТА'РНЯ *ж.* Ліхтар. *У лятарню ўстаўлялі свечку, нібальшы агонь, ночу хадзілі з ім.*

МАТА'ШКА *ж.* Прыстасаванне, на якое намотвалі ніткі з верацён. *Ніткі палакалі, пралі на караўлотах, іх сушылі, а патом маталі на маташкі.*

МІТРЭ'НГА *ж.* Трывога, хваляванне. *Мітрэнгі нарабіў, чаго крычыш?*

НА'ГЛЫ *прым.* Раптоўны. *Наглымі смярцямі цяпер людзі мруць.*

НАЗА'ДЗІ *прысл.*Ззаду. *Пашукай, госьці* [восці] *ляжаць назадзі ў чоўні.*

НА ПО'ДСВЯТ *прысл.* На світанні. *Вясною на подсвят едзям на рэчку ставіць вянцярэ.*

НАПРАНУ'ЦЬ *зак.* Накрыць. *Напрані яе радном.*

НА СУТА'НКУ *прысл.* На змярканні. *На сутанку ўжо шарэя, цямнавацянька робіцца, сло́нцо зашло, а не сцямне́ло.*

НАЦЯ'ВІЧ *м.* Прылада, пры дапамозе якой нацягвалі абручы на драўляны посуд.

НЯВЕ'СТА *ж.* Нявестка. *Я сказала сыну: «Давай падзелімса. Мая нявеста на той свет адвядзе мяне».*

ПАГІ'БЛЯНЫ *дзеепрым.* Пагнуты. *Зусім пагібляно вядро.*

ПАДА'ЦЦА *зак. метаф.* Падохнуць. *Адзін гот у нас усе парасятка падаліся.*

ПАДЖА'ГЛІСТЫ *прым.* Стройны, высокі (пра каня).

ПАДУ'ЗРАПКІ *мн.* Ільняное валакно пасля другога часання. *Лён другі рас чэшуць шчоткаю са свіной шэрсці, палучаюцца падузрапкі, штаны насілі мушчыны с падузрапкаў.*

ПАДУСТА'ЦЬ *зак.* Прыўстаць. *Падустань, я слон падсуну.*

ПАРУ'БІНА *ж.* Высечаная дзірка, куды ўстаўляецца лата (на страсе). *Ат парубіны да парубіны накладаяцца дахойка.*

ПАСТАНАВІ'ЦЬ *зак.* Паставіць. *Я ваду пастанавіла ў печ.*

ПАТ ПРО'СТУ *прысл.* Пад поўдзень. *Слóнцо пат просту — скоро будзя пойня.*

ПІСКАЦЕ'ЦЬ *незак.* Пішчаць. *Як свіня піскацяць!*

ПЛОЦЬ *ж.* Плотка. *Плоць — белая, укусная рыба.*

ПЛЯ'ГА *ж.* Мокры снег. *Снех мокры падая, кажуць— на дварэ пляга.*

ПО'ЛКА *ж.* Пялёнка або кавалак тканіны, звычайна квадратны. *Ні куплялі адзіяла, як цяпер, а закручвалі дзіцё ў полкі. Цэбар полкай накрыць можна.*

ПО'ПЛЯСКА *ж.* Дошка, якую кладуць на ніз воза; аб худым чалавеку: *худы, як попляска.*

ПО'ЎЗЯ *н. зб.* Тонкія жардзінкі. *Крыюць хату саломаю, яе расьцелюць, а на яе кладуць поўзя, к ім прывязваюць салому.*

ПРАЗ *прыназ.* Пра. *Пісаў праз яе.*

ПРО'СТО *прысл.* У зеніце. *Калі слóнцо над галавою, кажуць, што яно просто.*

ПРЫКЛІ'КАЦЬ *зак.* Дазвацца. *Яго век ні прыклічыш: пабех і пабех.*

ПРЫЛЕ'ПАЦЬ *зак.* Прыляпіць. *Прылепала нейку мась — баліць нага, сядзець ня магу.*

ПРЫСЬПЕ'ЦЬ *зак.* Даспець. *Даждайшы, можно яблыкі есці, хай прысьпеюць.*

ПЯРЭ'СЬВЯТАМ *прысл.* Перад світаннем. *Ён прыехаў пярэсьвятам.*

РАЗМА'ТКА *ж.* Прыстасаванне для размотвання нітак з маткоў. *Разматка, як маташка, толькі большая.*

РЭ'ПНІК *м.* Страва, прыгатаваная з бульбы, морквы, бручкі, забеленая малаком.

САПА'ЦЬ *незак.* Пачынаць разгарацца (пра дровы). *Уставай, дровы пачынаюць сапаць.*

САПРЫТНУ' *прысл.* Спрытна. *Ні варочай, бяры сапрытну.*

СІПЕ'ЦЬ *незак.* Ціха шапацець (пра дробны дождж). *Дзісь цэлы дзень дошч сіпіць.*

СНО'ЙНІЦА *ж.* Снавалка. *Ніткі на снойніцу навівалі.*

СО'МЦІК *м.* Рыбалоўная прылада. *Сомцік, як бучка, вязаны, сомцікам чэрпаям малую рыбу.*

СТАЎНІ'ЦА *ж.* Пасудзіна, у якую ссыпалі збожжа. *У стаўніцу сыпалі жыто, ячмень, авёс — усё зярно. Стаўніца — вёлька бочка.*

СУ'ДЗЯ *н. зб.* Судны. *Раньшы рабілі дзяравяная судзя, усё рабілі: балеі, вёдра, цабрэ.*

СХУ'ДЦІ *зак.* Схуднець. *За адзін месяц ён так схут.*

СЬЦЕ'РЦІ *зак.* Сцерці. *Алех, стры сталá.*

ТАНУ'ЦЬ, ты тáняш *незак.* Тануць. *Сітнік у гозяры пры бярагох, ён ня тáня.*

ТУ'ПКІ *прым.* Цвёрды (пра балота). *Каля Котры тупко балото, можно прайсці.*

ТУ'ПКО *прысл.* Цвёрда (пра балота). *Ідзі там, каб тупко было пад нагамі.*

УДЫ'РЫЦЬ *зак.* Ударыць. *Ты глянь, як Алех удырыў Жанку.*

УКРА'ПАЦЦА *зак.* Згубіцца ўдалечыні. *Дзе ты так украпаўса ў такую даль?*

ХВАРАВЕ'КА *ж.* Хваравіты чалавек. *Ён ні бальны і ні здаровы, хваравека, усё хварэя.*

ЦЕ'РМЯЦЬ *ж.* Адходы пры апрацоўцы льновалакна. *Кудзелю чэшуць трэці рас — пачасы, пачці цермяці німа.*

ЦЫМБРУ'К *м.* Сцябло сланечніка.

ЧЭ'РЖНІК *м.* Пастух. *Раней нанімалі пастуха, адзін ён пасьвіў, чэржнік называлі.*

ШКАРУ'ПКА *ж.* Лупіна.

ШО'ПЛІК *м.* Драўляная пасуда з клёпак з двума бакавымі вушкамі. *Як цэбар, толькі шоплік — дно ўжайша, цэбар — большы, дно шырайша. У шоплік складалі сало.*

*І. Я. Лепешаў*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ БЕРШТЫ ШЧУЧЫНСКАГА РАЁНА

Вёска Берішты — адно са старажытных пасяленняў на Гродзеншчыне. Тут у XV ст. знаходзіўся велікакняжаскі двор і былі напісаны шматлікія акты Вялікага княства Літоўскага. Упершыню Бершты ўпамінаюцца ў адным з гэтых актаў 27 лютага 1460 г. [1]

Для гаворкі вёскі характэрны такія асаблівасці:

1. Ужыванне назоўнікаў мужчынскага роду першага скланення з канчаткам *-аві* ў давальным і месным склонах адзіночнага ліку: *скажу твайму бацькаві, дзяцькаві, татаві*, *Пецькаві.*

2. Наяўнасць канчатка *-а* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў ніякага роду: *вокна, вёдра, гнёзда, цялята, парасята.*

3. Ужыванне сінтэтычнай формы будучага часу, утворанай у выніку зліцця дапаможнага дзеяслова *иметь* з інфінітывам спрагальнага дзеяслова: *як мецімy час, та прыду.*

4. Прыстаўны г фрыкатыўны: *ганучы,* г*арацъ,* г*арэшнік, гура, гуж* — вуж, *нігодны* — ніводны *гостры* — вострый, *па-гулічнаму* — па-вулічнаму.

5. Моцнае яканне: *восянь, паедзям,* ішлі *полям, сохня,* але *ні маю, німа, міне, цібе, сібе, нідзеля, сьміяцца.*

6. Саканне: *углядаласа, баяліса, сустракаюса;* у зваротных дзеясловах прошлага часу ніякага роду вымаўляецца *со: калі гэто зрабіласо?*

7. Захаванне канцавога ненаціскнога *о: вухо, сало, слонейко, бліско, много, часто, жыто жжато.*

---

[1] Документы Московского архива Министерства юстиции, т. 1, М., 1897, стар. 26; гл. таксама: Акты Литовской метрики, т. 1—2. Варшава, 1896—1897, № 241—252; БелСЭ, т. 2. Мн., 1970, стар. 310.

8. Адсутнасць падаўжэння зычных: *свіня, зеля, смеця, судзя, вяселя, гразю, збожа.* Падаўжэння няма і ў слове *сёння,* гэта прыслоўе вымаўляецца двояка: *сёня, сёдня.*

9. Замест націскнога *а* (*я*) у дзеясловах прошлага часу мужчынскага роду вымаўляецца *о(ё): даглядоў, пагноў, узёў, зьнёў.* Гэта ж пашыраецца і на іншыя словы, дзе перад *ў* ёсць націскное *а: зоўтра, проўда.*

10. Жаночыя імёны па бацьку скланяюцца не як назоўнікі, а як прыметнікі, г. зн. ва ўсіх склонах, апрача назоўнага і вінавальнага, маюць аднолькавы канчатак *-ай: у Ніны Міхайлаўнай, аддоў Галіне Мітрафанаўнай,* гаварылі *аб Дар'і Мікалаяўнай;* у назоўным склоне — *Ніна Міхайлаўна,* у вінавальным — *Ніну Міхайлаўну* (параўн. прыметнікі жаночага роду адзіночнага ліку, якія ў назоўным і вінавальным склонах маюць сцягнутыя формы: *трава зялёна, траву зялёну*).

11. Нярэдкае выкарыстанне паланізмаў: *апона* — пакрышка, *асабоўка* — асабістая легкавая машына, *бамбовяц*—бамбардыроўшчык, *гавэнда*—гутарка, *дзісь*— сёння, *камаш* — чаравік, *кіроўнік* — кіраўнік, *ксёнщка*— кніга, *лятарня* — ліхтарык, *мейсцо* — месца, *ровар* — веласіпед, *цёнгля* — заўсёды і інш.

12. Вымаўленне некаторых уласных назваў і ўтварэнняў ад іх адрозніваецца ад літаратурнага, напрыклад: не Шчучын, а *Шчуцін* (*у нас усе кругом кажуць Шчуцін. І дзяды нашы так гаварылі*); не бéрштаўскі, а *бярштáнскі* (*Ці пайдзе сёдня бярштáнскі аўтобус?*); не Уладзімір, а *Уладзімір* (*Маго бацька завуць Уладзімір Уладзіміравіч*).

З дыялектных слоў, запісаных у вёсцы Бершты, у гэтай падборцы пададзены толькі такія, якіх няма ў «Дыялектным слоўніку (З гаворак Зэльвеншчыны)» П. Сцяцко (Мн., 1970) і «Матэрыялах да слоўніка Гродзенскай вобласці» Т. Ф. Сцяшковіч (Мн., 1972). Выключэнне складаюць адзінкавыя словы, значэнне якіх у гаворцы вёскі Бершты разыходзіцца са значэннем, зафіксаваным у памянёных слоўніках, напрыклад: *сыновец, швайка* і інш.

АБГАЛАШЫ'ЦЬ *зак. асудж.* Абабраць. *Што калі ат суседавых дзяцей адбою німа, усёнькі наш сат абгалашылі.*

АБЕ'ЧКА *ж.* Загіб, закладзены край хусткі. *А чаму ты такую вёльку абечку залажы́ла?*

АБЕ'ЧКО *н.* Абечак. *Гэто ш ад рэ́шата́ абечко, хай ляжыць, дзе ляжало.*

АБУВА'НЯ *н.* Абутак. *Трэба ехаць у горат: тут на мае́ ногі німа ніякаго абуваня.*

АВЁРКА *ж.* Вавёрка. *Тутака недзі жыве авёрка, учора мы яе бачылі на ёлцы.*

АГЛАБЛЁВА *прым.* Апошняя чарка перад разыходжаннем. *Куды ш вы, людзі добрыя? Трэба зрабіць аглаблёву.*

АДНАСТА'ЙНЯ *прысл.* Аднастайна. *А што я там ні бачыў?! Там, я ведаю, усё ідзе аднастайня.*

АДЫМКА'ЦЬ *незак.* Адмыкаць. *Недзі згубіў ключ, та ціпер ніхай сам як хоча адымкая хату.*

АЗЯРЭ'ДО *н.* 1. Азярод. *Гэто ад азярэда жэ́ртка. Дайне́й у нас на азярэдзі сушылі снапы.* 2. *перан. абразл.* Недарэка, нязграбны чалавек. *Куды ты прэш, азярэдо дурноё? Хіба ні бачыш?*

АКРА'С *прысл.* Якраз. *Думала, што запозьніса, а ты акрас у пору прышоў. Шара́к гэты табе акрас.*

А'ЛЯ 1. *злуч.* Але. *Хоць доўго хадзілі, аля затоя набралі досі* [грыбоў]. 2. *часц.* Але. *Аля й красіво піша твая Ніна!*

АНДА'ЦЬ *зак.* Аддаць. *Ты ўжо нагулёўса, а ціпер андай мячык яму.*

АНТРО'БЫ *толькі мн.* Вантробы. *Параскрадвай, парасцьцягвай усё, кап яго антробы сабакі цягалі!*

АПРАНІ'СЯ *ж.* Адзенне. *Сёдня на гуліцы зімно, адзень апранісю якую.*

АСЁЛКА *ж.* Асялок. *Вазьмі, як хочаш, маю асёлку, яна за тваю шмат лепша.*

АСЁНКА *ж.* Асенняе (дэмісезоннае) паліто. *У Ніны яшчэ і тая асёнка добра, а ўжэ ёй нову купілі.*

АСО'ВІК *м.* Падасінавік. *Як надышла на адно мейсцо, набрала аш кошык асовікаў.*

АТПАЛЯНТАВА'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Бацько сказоў, што атпалянту́я цібе за гэто.*

АХО'ДЖВАЦЦА *незак.* Даглядаць жывёлу, даваць ёй есці. *Загулялася я ў вас, а мне ўжэ трэба аходжвацца.*

АШПО'НДАЦЬ *зак. непаш.* Выкапаць (знайсці, адшукаць). *Прыехаў ж жонкаю. Аля ш ашпондаў ён сабе дзеўку недзі!*

БАМБЭ'ЛАК *м.* Цурбан. *Во гэто бамбэлак — мэтры на чатэры, ты адзін зь йім ні ўправіса.*

БАРАНАВА'ЦЬ *незак. асудж.* Гаварыць абы-што, балбатаць. *Досі ўжэ вам тут баранаваць, ідзёця дахат.*

БЛЯ'ШКА *ж.* Блешня. *Акуня аднаго выцягнуў на бляшку, а больш ніякі дурань ні хоча брацца.*

БО'НЬЦЬ-ЯК *прысл.* Абы-як. *Памыла падлогу сёдня боньць-як і ўжэ йзноў недзі паляцела.*

БРАВЭ'РЫЦЬ *незак. асудж.* Балбатаць, гаварыць абы-што. *Набройса, як жаба кáлу, і ўсéньку ноч бравэрыў быля-штó.*

БРАДЗІ'ЦЬ *незак.* Лавіць рыбу брадніком. *Хадзілі с Колям на Котру брадзіць, áля мало злавілі.*

БРО'ДЗЯНЬ *м.* Браднік. *Сёня рыбакі бродням злавілі грумáда рыбы, і ўся файна.*

БРУШКАВЕ'НЯ *н. зборн.* Лісце бручкі. *Вазьмі трохі брушкавеня і андай карові.*

БРЫЗГУ'ЛЬ [1] *м.* Лядзяк. *Ні бяры ў рот брызгуль, ба будзя гóрло балець.*

БРЫЗГУ'ЛЬ [2] *м.* Самаробны драўляны гузік. *Даўнéй, як ні было гýзікаў, зашпілялíса на брызгуль. С сухого веніка рабілі.*

БУ'ЛБАТКА *ж.* Бурбалка. *Ізноў будзя дошч: вун бачыш, колько булбаткаў каля берагу.*

БУЛЬБАВЕ'НЯ *н. зборн.* Бульбоўнік. *Скасі ты мне бульбавеня, ба сярпом натто ш доўго.*

БУЛЬБЯНІ'СКО *н.* Бульбянішча. *Во тут лён па бульбяніску засеяны, бачыш, які добры.*

БЫ'ЛЯ *часц.* Абы. *А што было рабіць? Згадзіўса, быля атчапіцца ад яго, ба прыстоў, як тая смала. Цалы дзень, як пашоў пасьнедаўшы, воўчо лыко дзярэ, ходзіць быля-дзé. Быля-калі прыхоцьця, я гэтыя дне кажды рас у хаці. Ідзі ты з майіх вачэй быля-куды́, пóкуль за чуп ні ўзяла. Захоць быля-скýль, мне сяраўно. Ніхай робіць быля-хтó, я ўжэ і так як цапамі зьбіта. Хватаяш быля-чыё адзеня. Гаворыш быля-штó. Яна табе быля-якýю хусту ні возьме!*

БЭ'ЙСЬЦІЦЬ *незак.* Бэсціць, лаяць. *Швáгяр бэйсьціў, бэйсьціў, як сабаку, а яму тоё само.*

БЭ'МБАЛЬ *м.* Сцябло караняплодных раслін. *Мама, я сама гэтыя буракі ачышчу і лісты андам сьвіням, а бэмблі — карові.*

БЭ'ТКО *м.* Усякі іншы ўжывальны грыб, апрача баравіка. *Пайдзі набяры хоць бэткаў якіх, кап паджарыць было на вячэру.*

БЯРАГУ'ЛЬКА *ж.* Берагавая ластаўка. *Тут во недзі бярагулька гняздо мáя.*

ВА'ЖГАЦЦА *незак.* Прагінацца. *Ты стой покуль на беразі, ба клатка важгаяцца — аш страшно ісьці.*

ВАЛАВО'Т *м.* Вяроўка для навязвання жывёлы. *У нас, як катора ніроўна прадзе, та кажуць, што ў яе дзе пень, дзе калода, дзе кусок валавода.*

ВАЛАЧО'НО *н.* Велікодныя яйкі. *На вялігдзянь хадзілі бáло па валачоно да свайіх хросных.*

ВАЛЬТАНУ'ТЫ *прым.* Ненармальны. *Нека вальтанута: у хаці чужыя людзі сядзяць, а яна пра свайіх кавалераў расказвая.*

ВАСАРВА'ГА *ж.* Ватэрпас. *Ідзі да Віці і скажы, кап аддоў нашу васарвагу.*

ВАЎЧА'К *м.* 1. Ікол. *Вырас у свіне доўгі ваўчак, ні можа яна ніяк есьці, трэба выпілоўваць яго. Аб'еў міне гэты госьць, кап яму ваўчакі павылазілі!* 2. Воўчы грыб. *Тут ні бывая добрых грыбоў, адныя ваўчакі.*

ВЕ'ЛЬКІ *прым.* Вялікі. *Ну, у вас і паршук велькі, ледво ходзіць, ужэ будзя пудоў дзесяць.*

ВЕ'ЧНЯ *прысл.* Заўсёды. *Трапáчка гэта, вечня быляшто ляпня, як лáпцям па балоці.*

ВО'БАЛАКО *н.* Воблака. *Сёня ўжо німа вобалакаў, небо чысьцютко-чысьцютко.*

ВО'ТАКА *часц.* Вось. *Вотака твая хуста, а ты шукаяш, усеньку хату перавярнула.*

ВО'ЧАРАЦЬ *ж.* Чарга. *Займі там вочарацъ і на міне, а я зáра буду ісьці.*

ВУДЗІ'ДЛО *н.* Вудзільна. *Такоё было добро вудзідло, а ты мне яго зламоў.*

ВУ'НАКА *часц.* Вунь. *Вунака нехто нізнакомы ідзе да нас, першы рас бачу яго ў вёсцы.*

ВУ'РЗНУЦЬ *зак.* Стукнуць нагой. *Ні лесь да каня, ба вурзьня зáра, як Колі Гілісінаму.*

ВЫ'БАЙСЬЦІЦЬ *зак.* Вылаяць, адбэсціць. *Цярплю, цярплю, а тады як абую сэрцо ў лапці, та выбайшчу, як сабаку.*

ВЫ'РАЧКА *ж.* 1. Пахучка, калючая расліна з кветкамі-вочкамі. *Павырвáй ідзі з бульбы вырачку.* 2. *перан. м. і ж. абразл.* Чалавек, які пільна ўгледзеўся ў што-не-

будзь, у каго-небудзь. *А ты, вырачка, чаго вылупіў вочы?*

ВЭ′ДЛУК *прыназ.* З-за, дзеля. *Я іду, а ты вэдлук міне можаш ні йсьці.*

ВЯРАБЯ′К *м.* Верабей. *Наша котка ўсіх малых вярабякоў павыцягвала з гнязда, а ціпер пілнуя, каб і старо́го злапа́ць.*

ГАЁЎКА *ж.* Дом лесніка. *Дайдзе́м да гаёўкі і атпачыням, там і вады напе́мса. А вада там добра!*

ГАЛ *м.* Гала, прастора між лясоў. *Ідзі туды ўжэ, каровы тваё вышлі на гал.*

ГАЛАШЫ′ЦЬ *незак. іран.* Біць. *Ізноў Віця зрабіў нешто кепско, бо бацько яго галашыў за́ра.*

ГАНДЭ′ЛАЎКА *ж. пагардл.* Закусачная. *Трэба, мусі, забехчы ў гандэлаўку: можа, мой там сядзіць.*

ГАНЧА′РКА *ж.* Ануча для гаршка. *Гэто я насмуродзіла: ганчарку спаліла, гаршчок даставаючы.*

ГАРАТА′Й *м.* Араты. *Ну й гаратай с цібе! Вун баразну якую крывую вывярнуў.*

ГАРАХАВЕ′НЯ *н.* 1. Сцяблы гароху. *Абмалаці пайдзі гарахавеня.* 2. Поле, дзе рос гарох. *На гарахавені можа што й вырасьцяя.*

ГАРДЭ′ДА *м.* і *ж. абразл.* Вельмі высокі чалавек. *Адна мала́я, а другая — гардэда, пад небо пашла.*

ГАСА′ЦЬ *незак.* Падскокваць, гойсаць. *Досі ўжэ гасаць, марш на гуліцу! Адурылі зусім голаву.*

ГАСЬЦІ′НА *ж.* Частаванне. *Яны ш міне клікалі на гасьціну, а ціпер я йіх паклічу. Казалі-казалі, а ніякай гасьціны ні зрабілі.*

ҐІЛАЗАВА′ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Нешто сёня каровы натто рано пачалі ґілазаваць.*

ҐІЛО′С *м. асудж.* Дур. *От ґілос тут на цібе напоў! Сяць, аспакойса, а то зара я цібе ўсьміру.*

ГНАЯ′РКА *ж.* Адна з дзвюх шырокіх дошак, якія закладваюцца па баках калёс, калі возяць гной. *Ты хіба ў лесі гадованы? Зьнімі леву гнаярку: ляхчэй будзя скідаць.*

ГРА′БІЦЬ *незак.* Грэбці. *Як дажджу ні будзя, та сено скоро патсохня, узоўтра можна ўжэ грабіць.*

ГРУМА′ДА *прысл.* Шмат. *Баравікоў гэтых тутака ні грумада, трэба ісьці ў канец возяра.*

ҐУ′ЗЯЛ *м.* Вузел. *Разьвяжы ты мне ґузял, ба я ні дам рады.*

ГУМА'ЖНІК *м.* Кашалёк. *Згубіла гумажнік з грашыма, як сядала ў аўтобус.*

ГУ'ШАЦЦА *незак.* Гушкацца. *Вот добра галіна! Можно зрабіць гушалку, і будзям гушацца.*

ГЭТАРО'ЧНІ *прым.* Сёлетні. *Гэтарочнія буракі шмат лепшыя за такрочнія.*

ДАЧА'НКА *ж.* Пляменніца, дачка брата або сястры. *Дачанка мая прыехала зь Вільні, прасілі, кап і я да йіх прышла.*

ДЖВЭ'НГАЦЬ *незак. асудж.* Балбатаць, паўтараючы адно і тое. *Ні джвэнгай над вухам, надаело слухаць цібе.*

ДЗЕ *прысл.* Куды. *А дзе гэто ты зьбіраяса пайсьці? Мо на смалярню, каб ізноў укачацца?*

ДЗЬВІК *м.* Цвік. *Некі дзьвік іржавы папоўса, ніяк яго ні забеш.*

ДО'СІ *прысл.* Досыць. *Досі ўжо вам байкі яго слухаць.*

ДРАБЯ'ЗЬНІК *м.* Насціл з жэрдак у хляве. *Палесь на драбязьнік і паглядзі, ці есць яйка ў гнязьдзе.*

ДРО'ЗГА *ж.* Сасновая лучына для асвятлення. *Запалі дрозгу і схадзі ў пограп, прынясі бульбы.*

ДЭ'НКО *н.* Кухонная дошка. *На дэнку трэба было крышыць, а то, бачыш, як кляёнку парэзаў.*

ЖАЛЕ'ЗЬНІК *м.* Гаршчок. *Покуль я прыду, налі вады ў жалезьнік і пастаў на пліту, ніхай грэяцца.*

ЖАЛЕ'ТКА *ж.* Лязо. *Ні забуць мне купіць жалетак брыцца, у міне ўжэ вышаў запас.*

ЖЭ'БЫ *часц.* Каб. Гаспадар на каня: *«Ні наеўса ты да гэтага часу, жэбы на цібе ліхо!»*

ЖЭ'ГЛІЦЬ *незак.* Паліць. *Паспробуй цалы дзень на полі парабіць, калі такая сьпёка жэгліць!..*

ЗА *прыназ.* З (са). *Лажыса ўжэ спаць: узоўтра наранку пайдзёш за мной па грыбы.*

ЗАДРАТАВА'ЦЦА *зак.* Замучыцца. *Задратўяцца бáло Лáдусь за дзень, ледво шоры цягая, а заработак быў малы.*

ЗАКАНДРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Зацалаваць, заціскаць шкадуючы. *Ну ўжэ досі, а то вы малóго мне закандрэчылі зусім.*

ЗА'ЛЯХ *м.* Аблога. *За Кóтрай такі залях пуставоў колько гадоў, а ціпер і яго ў дзело пусьцілі.*

ЗАПО'ЛЯНІК *м.* Жыхар іншай, нелясной вёскі. *Сёня да крамы панаехало шмат заполянікаў. Пэўня, с Савічаў.*

ЗАПРЫДУ'Х *м.* Надта ўпарты чалавек. *Бяда мне зь йім! І па кім ён пашоў, запрыдух такі?!*

ЗАРАНЁЎ *прысл.* Зараней. *Ён яшчэ заранёў агледзяў гэту хвойку, вунака смалякоў колько нарэзаў.*

ЗАСТРА'ҚНУЦЬ *зак.* Завязнуць, засесці. *Паршук як застрак паміш лясак, та ледво рады дала.*

ЗАШЫ'ХЛІЦЦА *зак.* Схавацца. *От толькі на свае вочы бачыла, а ўжэ недзі зашыхліўса.*

ЗВО'НЧАҚ *м.* Частка вобада. *Добры звончак, яшчэ каб гаспадару, та спатрэбіўса п да кола.*

ЗГРЭ'БЛО *н.* Грабянец. *Дай мне сваго згрэбла, я недзі сваё пасеяла нідаўно.*

ЗДУ'ХА *ж.* Пустая, неўрадлівая глеба. *Пасадзіў бульбу на той здусі, а там нічого ні будзя.*

ЗМАГЧЫ'СА *зак.* Падарвацца. *Нават ні думай падымаць адзін: змо́жаса! Пайду пакліча суседа.*

ЗМЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Замарыцца, змучыцца. *Так я змэнчыўса, што ні магу стаяць, а ногі, як сабакі рвуць.*

ЗЬЛІ'ВАҚ *м.* Паліваны збанок. *Ні бядуй ты па йіх, яны ні галодныя: цалы зьлівак сьмятаны ізелі.*

ЗЯМНЯ' *ж.* Зямля. *У йіх што хочаш будзя расьці, ба там зямня добра, ні такая, як у нас.*

ІЗЕ'СЬЦІ *зак.* З'есці. *Паршучку забяліла, а ён* [сабака] *ледво ні ўсё выхлябаў, каб яго ваўкі ізелі!*

І'ЛЯ *займ.* Қолькі. *Ты ці ні равесьнік нашай Мані? Іля табе, хлопяц, гот?*

ІЧ *выкл.* Бач. *Іч, які ты мондры! Ты п сам зрабіў, а тады вучыў.*

ҚАБЛУ'Қ *м.* Аснова, круг для кошыка. *Ну от покуль тоё-сёё, каблук і зрабіў, а рэшту другім разам.— Добра рэшта!*

ҚАВАРО'ДАҚ *м.* Қалаўротак. *Қаваротку гэтаму, мусі, ужэ гадоў сорак, як ні больш.*

ҚА'НЬҚІ *мн.* Қанькі. *Пайду на ка́ньках пакатаюса, на возяры лёт такі чысты!*

ҚАРАЛЮ'ШЧО *н.* Лупіна яйца. *Мая маці бало патсушыць каралюшчо, натрэ і кідая кура́м, кап, казала, я́йка былі моцныя.*

ҚАРО'ВЯЧЫ *прым.* Қаровін. *Ідзі ты с сваёй казой... Мне каровячо малако лепшо.*

КАСТРЫ'ЦА *ж.* Апалыя іголкі ад хвоі. *Награбіў кастрыцы, будзя карові падаслаць на зіму.*

КАТА'НКА *ж.* Паўпаліто суконнае. *Гэта катанка яшчэ с польскаго часу, толькі мейсцо займая.*

КАЧАРЫ'ШКА *ж.* Ніжняя частка капуснага сцябла. *На загоні адныя качарышкі асталіса.*

КАЧУБЕ'ШКА *ж.* Качарга. *Купіла сабе нову качубешку, ба старая ўжэ хоць выкідай.*

КАЧУ'Р *м.* Качар. *А нашто нам два качурэ́? Аднаго, вот гэтаго, трэба на мясо зарэзаць.*

КАШЭ'ЛКА *ж.* Кошык. *Віктар вун пойну кашэлку грыбоў назьбіроў за якую гадзіну, а ты праспоў.*

КВІТ *м.* Білет. *Шофяр грошы ўзёў, а квіта́ ні доў, та я і ні змоўчыла. — А дзе, кажу́, мой квіт?..*

КЛЕ'ШНЯ *ж.* Ляжка. *Асколак трапіў у праву клешню, аля ні вышаў, та рэзаць прышлоса.*

КЛІН *м.* Прарэх у штанах. *Хоць бы клін свой зашпіліў, а то куры зь цібе сьміяцца будуць.*

КО'ЛЬКО *займ.* Колькі. *Яшчэ, можа, і ні спазьніласа. А колько ціпер часу?*

КРАМПАВА'ЦЦА *незак.* Намагацца. *Ні крампу́йса ты так, сяраўно на той сьвет ні панясеш.*

КРУЦЕ'ЛЬ *м.* Вір. *Ні лесь у гэты вір, там есьць круцель, зацягня, як таго Міха́ла.*

КУБА'РКА *ж.* Каробка ад запалак, цукерак, банка. *А дзе кубарка ат кансервы? Хацела коццы малака с-пат каровы наліць.*

КУДЭ' *прысл.* Куды. *Ужэ йзноў зьбіраяса недзі брындаць. Кажы, кудэ пайдзеш.*

КУЛЬБА'ЧКА *ж.* Падсядзёлак. *Прынясі кульбачку с канюшні ды глядзі, кап пасак ні згубіў.*

КУРДУ'ПЯЛЬ *м.* Недаростак. *Ну й курдупяль ты, хлопяц! Брат і бацько вун якія высокія, а ты ні расьцеш.*

КУСІ'ЦЬ *зак.* Укусіць. *Пецю кусіў некі чужы сабако, можа, які шалёны, та павязьлі давацъ уколы.*

КУ'ТНІЦА *ж.* Кіла. *Ні падымай адзін такі велькі це́нжар, а то кутніца вылязя.*

ЛАПАНУ'ЦЬ *зак.* Успыхнуць. *Трэба смаляка пашукаць, ба папе́р лапануў і згарэў.*

ЛАТВЕ'Й *прысл.* Лепш, выгадней. *Тут раптам дошч лінуў як з вядра. Та я ні ведала, дзе падзецца, кідаюса та пад адно дзерава, та пад другоё, каб дзе латвей схавацца.*

ЛЕ'МЗАЦЬ *незак.* Балбатаць. *Ні лемзай, чаго ні трэба, прывык ляскаць, што сьліна да гуп прынясе.*

ЛІСІ'ЧЫК *м.* Грыб лісічка. *Пайдзем зоўтра наранку па лісічыкі, іх ціпер хоць касі. Знашоў аднаго лісічыка.*

ЛО'НСКІ *прым.* Мінулагодні, леташні. *Патрэбныя табе гэтыя вўсы, як мне лонскі сьнех.*

ЛУБЯ'НКА *ж.* Калыска, сплеценая з лыка, з карэнняў хвоі. *Пакалышы лубянку, покуль дзіця засьне.*

ЛЫ'НДА *ж.* Вузкая палоска зямлі, загон. *Лынду жыта пасеяў, а рэшта пад бульбу пайдзé.*

ЛЮХТА'Р *м.* Лямпа. *Запалі люхтар, бо, казалі, нешто на патстанцыі зрабіласо, ні будзя сьвету.*

МА'ЙТКІ *толькі мн.* Штаны. *Лянь, як ты ззаду парвоў майткі, дасьць табе за гэто маці!*

МАКА'ТКА *ж.* Сурвэтка. *Адну макатку на шапу павешу, а другую на сьцяну над ложкай.*

МАНА'РКА *ж.* Пінжак. *Насунь яшчэ якую манарку на сібе, ба на полі гэто табе ні ў хаці сядзець.*

МАРЦЫПА'НЫ *толькі мн.* Нешта невераемна смачнае; страва, якой не існуе; нешта накшталт птушынага малака. *Еш тоё, што есьць. Што я табе марцыпанаў навару?!*

МЕ'НЬЦЯ *ж.* Мянташка. *Вазьмі меньцю — вун яна ў кутку — і памяшай брагу.*

МО'РГВА *ж.* Морква. *Кап ты бачыла, якая ў міне добра моргва ўрадзіласа! Мама, звары йзноў моргвы.*

МУ'РАЧАК *м.* Прымурак, выступ печы. *Скінуласо веко з цэбара, і котка ўсё мясо паела. Прыходжу, а яна ляжыць сабе на мурачку.*

МУ'СІ *пабочн. сл.* Напэўна, мусіць. *Сёдня, мусі, будзя дошч: с самаго ранку парыць, як у гаршку.*

МЫЦЕ'НЯ *н.* Мыццё. *Абрыдло мне гэто мыценя, кожды дзень мый і мый.*

НАГРА'БІЦЬ *зак.* Нагрэбці. *Пайдзéм за мной у лес, паможаш кастрыцы награбіць.*

НАКРУГА' *прысл.* Вакол. *Ababex накруга, цяляці іскоў і ні нашоў. Дзе яго толькі халера носіць?*

НАЛЕ' *часц.* Ага, так, але. *Пайдзéш сёня за мной у кіно? — Та ш нале, пайду.*

НАМЫ'РЗЬНІК *м.* Наморднік. *Некі дзяцько ехаў у аўтобусі, а зь йім сабако з намырзьнікам.*

НАЎДА' *ж.* Карысць. *Ціхі, ціхі, а што за наўда, што ён ціхі? Сам за сібе ні заступіцца.*

НАЧВЭ'НДЗІЦЬ *зак. асудж.* Надыміць, накурыць. *Адзін, а начвэндзіў за сямёх, хоць сакеру вешай. Аччыні акно, дыхнуць німа чым.*

НАЧЭ'НЯ *н. зборн.* Сталярны інструмент. *Во толькі зайду ў хату ўзяць начэня і зара буду ісьці.*

НІГО'ДНЫ *займ.* Ніводны. *Сам яшчэ нігоднай задачы ні зрабіў, а толькі ўсё сьпісвая.*

НІДАЛЭ'НГА *м.* і *ж.* Няўклюда. *Алёшку, як вучыўса ў школі, нідалэнгам празывалі.*

НІНАЕ'ЖА *м.* і *ж. асудж.* Абжора. *Вунака ўсе тваe таварышы ўжэ пашлі гуляць, а цібе, нінаежа, ніяк ні ўкорміш.*

НІНАЖО'РА *м.* і *ж. груб.* Абжора. *Разьвяла гэтых качóк, а ціпер сама ні рада: такія нінажоры — сьвет ні бачыў.*

ПААДЫРВА'ЦЬ *зак.* Паадрываць. *Паадырвоў усе гузікі, ціпер хадзі расхрэ́станы.*

ПАВІТА'НЯ *н.* Прывітанне. *Ганарова такая стала, прайдзе бяс павітаня, ні хрукня!*

ПАВЭ'ДЛЯ *прыназ.* Акрамя. *Ён павэдля таго і разумны.*

ПАВЭ'ДЛУК *прыназ.* У параўнанні. *Павэдлук лонскаго году грыбоў — нох ні пацягнуць.*

ПА'ВЯСЯЛЯ *н.* Абрад адведзін маладой ці маладога праз тыдзень пасля вяселля. *Мне німа калі: я ш у нідзелю паеду на павясяля.*

ПАДАСО'ВІК *м.* Падасінавік. *Вун яшчэ адзін падасовік, бяры яго сабе: у міне ўжэ німа куды. У нас гэтыя грыбы завуць і асовікамі, і падасовікамі.*

ПАД'ЗЕ'МКА *ж.* Суніца. *Учора мая Ніна два кошыкі пад'земкаў прынясла́.*

ПАДДЗЫ'ГНУЦЬ *зак.* Падскокнуць. *Вун як паддзыгвая, сяраўно як маладая!*

ПАЛЯМБІ'ЦА *ж.* Паляндвіца. *Адрэш ты мне яшчэ кавалачак палямбіцы, натто ш яна ў цібе смашна!*

ПАЛЯНТАВА'ЦЬ *незак.* Біць. *Я яму гэтаго ні вы́бачу. Буду сёня палянтаваць!*

ПАМАЎЗА' *м.* і *ж. асудж.* Няспрытны, непаваротлівы чалавек. *Куды ты пасылаяш гэту памаўзу?! Лепяй сама схадзі, ба сяраўно нічога ні зробіць.*

ПАМЯЛЬНІ'К *м.* Месца каля печы, дзе ставяць венік, качаргу. *А качубешка чаму тут стаіць? Пастаў яе ў памяльнік.*

ПАРАШЫ'НАЧКА *ж.* Крупіца. *Мусі, ці ні трэба патсаліць? Дай парашыначку солі.*

ПАРЦІ'НА *ж.* Адзежына. *Палажы парціну ў шафу, а то вечня кіня-рыня быля-дзе.*

ПА'САЧКА *ж.* Невялікая бочка. *Насаліла агуркоў пасачку, будзя да вясны. У нас іх толькі бацько любіць.*

ПАТКАПУ'РЧЫЦЬ *зак.* Закласці, падвярнуць. *Доўга табе гэта сукенка, трэба паткапурчыць.*

ПАТШУ'БАК *м.* Кажушок. *Яшчэ дзедаўскі патшубак хавая, андала́ п каму, кап знасіў.*

ПАЎГЛО'ВАК *м. непаш.* Неразумны. *Мало што табе скажа гэты паўгловак! Толькі слухай яго!*

ПАЎДУ'РАК *м. непаш.* Прыдуркаваты. *Учора гэты паўдурак ледво ні наехаў на малых сваёй матароўкай.*

ПАЦ *м.* Пацук. *А́ля ш і грума́да па́цаў разьвялосо ў склепі! Трэба на йіх неку атраву найсьці.*

ПАЦІЛІФО'НІЦЬ *зак.* Пагаварыць па тэлефоне. *Вам жа можно было паціліфоніць да школы ці да Валодзі. У нас ціпер аш тры ціліфоны.*

ПЕРШАЦЁЛКА *ж.* Карова першым целем. *Яна яшчэ першацёлка, аля малака дае досі. Абяшчая быць добрай каровай.*

ПІСА'К *м.* Шрам ад рога ці пугі на скуры ў жывёлы. *Прыгноў карову с пісаком. Хто ёй такі пісак выгноў?*

ПЛЮСНА' *ж.* Страва з жытняй мукі буйнога памолу, забеленая малаком. *Можаш ні варыць свае плюсны, сярайно есьці ні буду яе.*

ПЛЯЙТУ'Х *м.* 1. Каўтун. *Валасы зьбіты ў пляйтухі.* 2. Пыж у патроне. *Заяц быў так бліско, што можно было пляйтуха́мі забіць.*

ПО'ШУР *м.* Пацяруха. *Мышы пярагрызьлі сено, адзін пошур астоўса.*

ПРАГЦІ' *незак.* Адчуваць бязмерную ахвоту, жаданне. *Убачыў, што ў Міха́лавых дзяцей цукеркі, та й яму так ўжэ пражэ́!*

ПРАЛО'МКА *ж.* Палонка. *Там рыбакі ў нідзелю праломак нарабілі шмат, та глядзі ні ўваліса.*

ПРЫТЫ'РАК *м. зневаж.* Дурань. *Трэба было ні казаць гэтаму прытырку, та ціпер бы бяды ні ведала.*

ПРЫТЫ'РАНЫ *прым. зневаж.* Дурнаваты. *Ён трохі ці ні прытыраны, ба пакажы паляц, та ўжэ яму і сьмех.*

ПРЭ'ШЛЫ *прым.* Мінулы. *Не, мая ты саколачка, гэто ш у прэшлым року было.*

ПУЖА'ЛЬНЁ *н.* Пугаўё. *Лезя і лезя ў школу, та я пужальням разы са два як зьвёс па хрыбяціні.*

ПУНТО'ВІК *м.* Дурнаваты. *Ні зрабіў да канца, пунтовік гэты, і кінуў, а ціпер другога наймай.*

ПУТКІ' *прым.* Палахлівы, пужлівы. *Ой, якая курка путкая; маладая яшчэ, таму ўсяго і баіцца.*

ПУ'ЦА *ж. груб.* Твар з поўнымі шчокамі. *Бачыла Янусявага зяця, а пуца ў яго — дай божа, во-во́, здэцца, пэнкня.*

ПУЦА'ТЫ *прым. груб.* Мардаты. *Хіба вы яго ні ведаяця? Такі нівелькі, тоўсты, пуцаты.*

ПЭ'НКНУЦЬ *зак.* Лопнуць. *Схадзі да Марылі, скажы, што ў нас шкло пэнкнуло ў лямпі, ніхай дасьць, як есьць.*

ПЭ'НСНУЦЬ *зак.* Стукнуць, трахнуць. *Ні лесь куды ні трэба, а то зара як пэнсну!*

ПЭ'ЎНЯ *прысл.* Напэўна. *Пэўня, тут нехто быў: бачыш, колько свежых сьлядоў?*

РАЗВЭ'ДЗГАЦЬ *зак.* Развезці гразь, разварзекаць. *Аля ш і памыла падлогу: толькі развэдзгала гразь.*

РАЗЫДА' *ж.* Няўмелы, бесталковы. *Ізноў ні нагастрыў, а толькі спорціў пілу, разыда!*

РА'КАЧА *прысл.* Ракам. *Тут* [у склепе] *такая цясната, што толькі ракача і можна стаяць.*

РАСКО'ЛІНА *м.* і *ж.* Нахабнік, хуліган. *Бэткаў старшы такі расколіна, што сьвет ні бачыў: да каждаго прыстае, сва́рыцца.*

РА'ТА *ж.* Чарга пасці жывёлу. *Узоўтра нам рата ў поля, а мне німа як, то табе, сынок, прыдзяцца папасьвіць.*

РАЧЫ'ХА *ж.* Грачыха. *Хадзіў глядзець на поля рачыху, аля ні зышла яшчэ.*

РУІ'НА *ж.* Стада ваўкоў у час цечкі. *Ні цягайса ўначэ, ба ціпер руіны воўчыя ходзяць.*

РЭ'ДЗГІНІ *толькі мн.* Рэзгіны. *Бач ты яго, поўныя рэдзгіні сена карові занёс, а сечку рэзаць ні захацеў.*

РЭ'ЙДАЦЬ *незак.* Гаварыць лухту, бязглуздзіцу. *Кап што талково, та можно было п паслухаць, а то рэйдая і рэйдая.*

САБА'ЦЬ *незак.* Калоць. *Завязі ты маю Галю да доктара: ёй нешто саба́я і саба́я ў бок.*

СЕ'ЛІШЧО *н.* Невялікі лужок каля сотак. *Трэба і нам ужэ скасіць селішчо.*

СЁДНЯ *прысл.* Сёння. *Сёдня ў Шчўціне цалы дзень ішоў дошч, а ў нас толькі крапідлам пакрапіла наранку.*

СКАСАВА'ЦЦА *зак.* Звесціся. *Чую: раскрычаліса куры. Я — на падворак, а каршун — каб ён скасавоўса! — ухапіў адну і паляцеў. Ціпер увесь Ла́дачкаў рот скасавоўса, нікого ні асталоса.*

СКРЭ'НДА *м.* і *ж.* Ныцік. *Зіна гэта ўсё жыця скрэнда: таго ў яе німа, гэтаго бракуя, і адно ні наравіцца, і другоё.*

СЛАБО'ДНО *прысл.* Свабодна. *У аўтобусі сёня слабодно, а ў суботу ехаў, та шылам ні парнеш.*

СЛО'НЯШНЫ *прым.* Сонечны. *Лянь, якоё чырвоно слонцо зыходзіць. — Ну, та й добро. Значыць, слоняшны дзень будзя.*

СМЫЧ *м.* Ніжняя частка жураўля ў калодзежы. *Ідзі ты ново вядро прычапі да смыча, а то тоё цячэ як рэшато.*

СПРЫ'ВЯЛЬ *м.* Абрыў. *Выкупаўса сёдня: стоў піць во́ду, а спрывяль абваліўса.*

СПРЫ'НДЗІЦЦА *зак. абразл.* Згінуць, прапасці. *Кап ты спрындзіўса дзе-кольвяк, такі расколіна!*

СТАКАНА' *ж.* Клопат, старанне. *Нашто мне такая стакана, калі свае бяды хватая? Перат вяселя столькі стаканы ў міне было. І стаканы мне з гэтымі свіньмі, аб'елі ўсе вушы!*

СТА'РШЫ *прым.* У словазлучэнні *старшы палец* — вялікі палец. *У яго з вайны на правуй руцэ німа старшаго пальца.*

СТРАМЯНУ'ЦЬ *зак.* Рынуцца. *Так і страмянуў у зямлю носам.*

СТРЫМБУ'ЛЬ *м.* Стрэлка, кветканоснае сцябло цыбулі. *Мая цыбуля задымляна, усю зіму нат прыпячкам вісела, таму, бачыш, і стрымбулёў німа.*

СЫНО'ВЯЦ *м.* Пляменнік. *Гэта ш мой сыновяц: яго бацька і я — браты.*

СЬВІНЕ'НЬЧЫК *м.* Свіны драўляны хлеўчык. *Зажэнь паршука ў сьвіненьчык, а то парыя ўсенькі падворак.*

СЮДЭ' *прысл.* Сюды. *Хоць сюдэ!*

СЯВО'К *м.* Фартух для сяўбы. *У нас сеялі ні сь сявенькі, а насыпалі ў сявок.*

СЯГО'ДНЯЙШЫ *прым.* Сённяшні. *Ідзі запытай у прадаўшчыцы, ці піво сягодняйшо.*

СЯРАДНЯ′ *прысл.* У поўдзень. *Сярадня трэба сено паварочаць.*

СЯРАЎНО′ *прысл.* Усё роўна. *Сяраўно вы нікуды ні пайдзёця.*

ТАДЫ′ЧА *прысл.* Тады. *Тадыча начай было, і німа што ўспамінаць і раўняць.*

ТАКРО′К *прысл.* У тым годзе, летась. *Такрок тутака ні зышла рачыха, та мы атсявалі.*

ТАРФЯ′НІСКО *н.* Тарфянішча. *Бачылі, які гавёс на тарфяніску вырас каля Новаго Двара?*

ТАЎЖЭ′Ш *часц.* Вядома, канечне. *Ты будзяш міне чакаць? —Таўжэш! Ідзі быстрэй зьбірайса.*

ТРАПА′ЧКА *ж.* Трапло. *Слухай ты гэту трапачку!*

ТРАПЁНЫ *прым.* Утрапёны. *Ні пасядзіць спакойно ні мінуткі, носіцца, як трапёны.*

ТРАСУ′Н *м.* Дрыгва. *Тут у нас трасун; чалавек яшчэ пройдзя, выбіраючы мейсцо, а карова зразу бабэхня.*

ТРЫСЬЦЕ′НАК *м.* Трысцень, прыбудова з трох сцен. *Зажэнь карову ў трысьценак і скажы бацькаві, што я зара вярнуса.*

ТРЫ′БА *ж.* Прасека. *Выйдзям зара на трыбу, і аттуль Банікаву хату добро відаць.*

ТРЭ′БАЦІМЯ *прысл.* Трэба будзе. *Трэбацімя сёня яшчэ да брыгадзіра ісьці, кап каня на суботу доў.*

ТРЭ′СЬЦІСЯ *незак.* толькі ў неазнач. форме і ў III асобе адз. ліку. Зменьвацца, быць зменлівай (пра пагоду). *Нешто пагода трасецца, німа як ісьці касіць, бо йзноў змокня.*

ТЭ′РАС *прысл.* Цяпер. *Тэрас я, як адзяліўса, та сам сабе пан, ні тоё, што тады было.*

УДРЭ′БЯЗГІ *прысл.* Ушчэнт. *Пабіў гаршкі ўдрэбязгі, адныя чарапкі асталіса!*

УЗО′ЎТРА *прысл.* Заўтра. *Хіба ўзоўтра закалю сьвіню, сёня сяраўно ні ўправімса.*

УЛЭ′МПІЦЬ *зак. непаш.* Стукнуць. *Як улэмпіў паміж вушэй, аш іскры пасыпаліся.*

УНАЧЭ′ *прысл.* Уночы. *Уначэ дзісь марос быў, хоць нівелькі, аля бачыш, як кяткі завялі.*

УПАЛЯНТАВА′ЦЬ *зак. непаш.* З'есці, упісаць. *Пасьля чаркі ўпалянтаваў міску мяса і нават дзякуй ні сказоў.*

УТАЛО′ПІЦЦА *зак.* Пільна ўгледзецца. *Уталопіўса на дзяўчука, а ёй, бедный, павярнуцца німа куды.*

УШЧЫРЭ'ПІЦЦА *зак.* Ушчаперыцца. *Малы ўшчырэпіўса за валасы, ні атпуская, хоць ты плач.*

ФАЕ'РКА *ж.* Канфорка. *Дзе малая фаерка ат пліты?*

ФАМІ'ЛЯ *ж.* Родзічы. *У нас кажуць: як швагяр ні фаміля, так антробы ні мясо.*

ФРАЯРЫ'ЦЦА *незак.* Франціць. *Людзі робяць, а ён, як пан велькі, начапіў гальштук і фраярыцца.*

ФЯЎРА'ЛЬ *м. абразл.* Прыдуркаваты, ненармальны. *Ён і так ні натто разўмны, а як падапе, тады зусім фяўраль.— Як гэто фяўраль? — Ніўжэш ты першы рас чуяш гэто?! Ну, калі ні хватая клёпкі. Усе месяцы як месяцы: па трыццаць дзён маюць і больш, а ў фяўраля ні хватая...*

ХАВА'ЦЬ *незак.* Трымаць жывёлу. *Дзьве каровы хавая, а яшчэ цяля пакінула на зіму.*

ХАРАШЭ' *прысл.* Хораша. *Лядзі, як харашэ лубін пасходзіў! А роўнянько, аш вока радуя.*

ХВА'НДА *ж.* Фалда. *Ой, колько хвандаў на сукенцы!*

ХВЭ'ЦКІ *прым.* Спрытны. *Хвэцкі хлопяц у Федарыхі.*

ХВЭ'ЦКО *прысл.* Спрытна. *Хвэцко на ім сядзіць шапка!*

ХІ'ЖЫ *прым.* Шустры, паваротлівы. *Во паглядзі, які Іван хіжы: у яго ўжэ сена на зіму хваціць.*

ХЛЯПЯСТА'ЦЦА *незак. непаш.* Рагатаць. *Сядзяць тут, хляпешчуцца, а работа ні робляна.*

ХРАСЬЦІ'ЦЬ *незак.* Прарошчваць насенне агародніны перад пасадкай. *Ты агуркі свае ўжэ храсьціла?*

ЦАГА'Н *м.* Гаршчок. *Бульбу чысто паелі, а кап цаган памыць, та нігодзін ні дагадоўса.*

ЦА'ЛЫ *прым.* Цэлы. *Бало яму цалы дзень жнеш, жнеш, а ён і ні пакорміць па-люцку.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Зусім нядаўна. *А ён цепярся толькі пашоў ад нас.*

ЦЫГА'Н *м.* Удзельнік народнага вясельнага звычаю: госці жаніха прыбіраюцца «пад цыганоў» і ідуць у хату да маладой, падкідаюць на ўра гасцей і бацькоў, а тыя адкупліваюцца падарункамі. *Адзін цыган, што на кане ехаў, так адзеты быў сьмешно! Кажаця, што там, скуль вы родам, такога абраду ні бывая; дзіўно: якоё ш гэто вяселя бяс цыганоў?!*

ЦЭН *м.* Цень. *Лянь, які доўгі цэн!*

ЧА'РАС *прыназ.* Цераз. *Толькі ён чарас плот пералес, так мы з-за куста падняліса.*

ЧАТЭ'РЫ *ліч.* Чатыры. *Пайдзем у канец возяра, гэто атсюль якіх з чатэры кіламетры.*

ЧЭ'РАНЬ *м.* Чарэнь, ток у печы. *Як печ пяракладаяш, та толькі ні забуць шкла ў чэрань накласьці.*

ЧЭ'ЎРАЦЬ *незак.* Чаўрэць. *Чэўрая ўжэ каторы гот наш дзет, аш с таго, як на санажаці гэто зрабіласо.*

ШАРА'К *м.* Пінжак любога колеру. *Сёня людзі ўсе вун папрыбіраліса, та й ты надзень новы шарак.*

ШАЎПСЬЦІ' *незак.* Жэрці. *Цалы вечар шаўпé і шаўпé, і куды яму толькі лезя?*

ШВА'ЙКА *ж.* Спіца для пляцення лапцей. *Лапцей ні пляцем, а швайку хаваям на памяць.*

ШКУЙНА' *ж.* Апалыя іголкі ад хвоі. *Ідзі, покуль карову падаю, кінь пат парася шкуйны.*

ШО'РБА *ж.* Юшка, суп з рыбы. *Ой, браток, пярасаліў ты сваю шорбу, посьля яе будзяш брахаць на вóду.*

ШПУРГАНУ'ЦЬ *зак.* Кінуць, шпурнуць. *Шпургану зара гэтай гразнай ганучай, калі ні пайдзéш атсюль!*

ШТО-КО'ЛЬВЯК *займ.* Што-небудзь. *Сёня нешто натто прагаладоўса, дай што-кольвяк паесьці.*

ШТО-КО'ЛЬНЯК *займ.* Што-небудзь. *Прыду раней дахат та яшчэ што-кольняк зрабіць усьпею.*

ШТЫНКЕ'ЦІНА *ж.* Штыкеціна. *Нехто ўначэ адырвоў вун колько штынкецін і ледво ні ўсю яблыню аба-броў.*

*А. К. Усціновіч*

# АСАБЛІВАЯ ЛЕКСІКА ГАВОРКІ АКОЛІЦ ЛЮБЧЫ

Змешчаныя ў артыкуле словы запісаны ў в. Купіск Навагрудскага раёна. Гэта вёска знаходзіцца за 5 км ад мястэчка Любча, якое было ў мінулым і з'яўляецца зараз сельскім адміністрацыйным і культурным цэнтрам паўночнай часткі Навагрудчыны. Гаворка вёскі тыповая для паўночна-заходняй падгрупы гаворак паўднёва-заходняга дыялекту [1]. Аснову яе слоўніка складае агульнабеларуская лексіка. Мясцовую ж своеасаблівасць утвараюць пераважна словы, якія адрозніваюцца месцам націску, значэннем, словаўтваральнымі афіксамі і формамі.

Для гаворкі в. Купіск, як і для гаворак іншых вёсак гэтага кутка Навагрудчыны, характэрны наступныя найбольш важныя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці: адсутнасць падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы (*насéнё, галё, збóжо, Тацяна, свіня́*); наяўнасць прыстаўнога *г* перад пачатковым гукам *а* (*гану́ча, гара́ць*); наяўнасць ненаціскнога канцавога *о* ў прыслоўях, назоўніках ніякага роду, а таксама некаторых асабовых назоўніках мужчынскага і жаночага роду (*мнóго, мáло, жы́то, сáло, мáсло, пáпо, мáмо, бáбо*); моцнае яканне (*яго дома ня быló*); канчатак *а* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў ніякага роду (*вокна, вёдра, цялята, парасята*); прыметнікі ў форме вышэйшай ступені з суфіксам *-ш-* (*вышшы, нішшы, блішшы, сіншы, чырвоншы, доўшы*); панаванне канчатка *-аў* (*-яў*) у родным склоне множнага ліку назоўнікаў усіх трох родаў (*брытваў, сёлаў, салдатаў, песняў, разоў, гадоў*); пашыранасць прыназоўніка *да* з родным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *пайшоў да бацькі, пайшоў да ка-*

[1] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1969.

*валя* і прыназоўніка *па* з вінавальным склонам назоўнікаў у словазлучэннях тыпу *ісці па воду, ісці па хлеб.*

АБЛАТАШЫ'ЦЬ *зак.* Абтрэсці без дазволу, самавольна (пра садовае дрэва). *Нехта яблыну аблаташыў уночы.*

АБЛЯМО'ЎКА *ж.* Абшыўка краю адзення. *Гэтая лента для аблямоўкі сукенкі добра будзя.*

АБМЫЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца, няправільна разлічыцца з кім-небудзь. *Абмылілась, як плаціла за сахар, трэба было даць два рублі, а я паклала лавачніцы пяць і адразу пашла.*

АБЭ'РЖА *ж.* 1. *экспр.* Вялікая, не зусім даведзеная да ладу пабудова. *Хіба гэта хата, у гэтай абэржы, як у стадоле якой, вецяр гуляя.* 2. *метаф.* Вялікая, няспрытная жывёліна (пра карову). *Такую абэржу прадзяржаць, трэба мець візой сем сена.*

АВО' *часц.* 1. Вось. *Аво яна за хатай схавалась.* 2. Вось толькі. *Пачакайце, аво дашыю ды пойдзям разам.*

АМЕ'ЦІ *толькі мн.* Адходы пры веянні (каласы, мякіна і частка дробнай саломы). *Зьбяры амéці ў мяшок.*

АПІВО'ШЫНА *м. экспр.* Той, хто шмат п'е гарэлкі, п'яніца. *Апівошына гэты заліў вочы і нічога ня бачыць.*

АРША'ЎКА *ж.* Сорт бульбы, варшаўка. *Аршáўка ў гэтым гóдзя добра ўрадзіла.*

АСЁЛАК *м.* Брусок для вастрэння брытвы. *Добра брыя, бо на асёлку навастрыў.*

АСМЫ'ЧЫ *толькі мн.* Адходы валакна пры трапанні лёну. *Асмычы валакністыя, як кужаль.*

АСТАЛЯВА'ЦЦА *зак.* Спыніцца дзе-н. для жыцця. *Ды мы на хутары асталяваліcь на зіму.*

АСТАРО'НАК *м.* Бок гумна. *Поўны астаронак пшаніцы наклалі.*

АТЛЕ'ЦІЦЦА *зак.* Крыху, ледзь-ледзь нагрэцца (пра вадкасць). *Вада ўжо адлéцілась.*

АТО'ЖЫЛКА *ж.* Адростак. *Атóжылка фікуса.*

АТХЛЯ'ШЧЫЦЬ *зак.* Адчыніць дзверы, вокны насцеж. *Я мяту хату, а ён атхляшчыў дзьверы ды пабех.*

АТШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Адшчыпнуць, адарваць. *Атшчыкнуць атожылку.*

АТЫ'МАЧ *м.* 1. Ануча, якой бяруць чыгуны. *Атымачам вазьмі цаган, бо рукі папячэш.* 2. *метаф.* Неахайная жанчына. *Хоць бы гэты атымач сьвятам памылась.*

АШЧЭ' *прысл.* Яшчэ. *Ашчэ ня ўсьпела апалоць грады.*

БАГА'ТАЯ КУЦЯ'. Куцця перад Новым годам. *Куцю ставілі на кут, а варылі яе зь мясам.*

БАЛАЦІНА' *ж.* Гразкае месца. *Цяжка касіць было з-за балаціны вялікай.*

БАЛЁНІК *м.* Шарык. *Балёнік толькі надзьмуў, а ён лопнуў скоро.*

БА'ЛО *часц.* Бывала. *Бáло пайду ў лес і вельмі скоро назьбірáю грыбоў, а цяпер вочы нічога ня бачаць.*

БАЦЯ'Н *м.* Бусел. *Бацян жабы зьбірáя.*

БАЦЯНІ'ХА *ж.* Бусліха.

БА'ЯЦЬ *незак.* 1. Расказваць. *Дзет байку бáя.* **2. Хлусіць**, выдумляць. *Няўжо табе ня надабры́дла баяць такое?*

БЕРАГАРУ'ЛЬКА *ж.* Берагавая ластаўка.

БІ'ЛА *н.* Спінка ў ложку. *На біля хустка вісіць.*

БЛАГАСЛАЎЛЯ'ЦЬ *незак. метаф.* Лаяць, крычаць на каго-н. *Так благаславіла ў дарогу, што лепш бы дома быць.*

БЛАШЧЫ'ЦА *ж.* Клоп. *Цяпер ня ў кога няма блашчы́цаў, вывялі.*

БЛІ'СКАЦЬ *незак.* У выразе *бліскаць вачыма* — міргаць вачыма ад сораму. *Трэба падгатóвіцца і сустрэць людзей так, каб ня бліскаць вачыма.*

БО'РДАВЫ *прым.* Бардовы. *Бóрдавая сукенка табе да твару.*

БРУСО'К *м.* Брусок у граблях. *Брусок у граблях зламаўсь.*

БРЫ'ДКО *прысл.* Сорамна. *Брытко так рабіць табе.*

БРЫ'КАЦЬ *незак.* Насіцца, бегаць. *Цялята напілісь пойла і бры́каюць на двары.*

БУРАКІ' *толькі мн.* Боршч з буракоў. *Буракі сёння смашныя, бо з мясам звараныя.*

БЯЗЬДЗЕ'ТУХА *ж.* Бяздзетная жанчына. *А гэта бязьдзéтуха дык на дзяцей нават і ня глядзіць.*

БЯЗЬЛЮ'ДНІК *м.* Чалавек, які не падтрымлівае сувязі с роднымі, сваякамі. *У гэтага базьлю́дніка хто калі хату атчыніў?*

ВА'ГАЛКА *ж.* Гушкалка. *Як вагалку павесілі, дык дзеці дома дурэюць.*

ВАЛІ'ЗА *м. і ж. асудж.* Гультай, лодыр. *Гэты валіза нават дроў у хату ня ўнясе.*

ВАЛЬГО'ТА *ж. экспр.* Прыволле, раздолле. *У сяле для дзяцей летам вальгота.*

ВА′ЛЬНУЦЬ *зак. экспр.* З усёй моцы стукнуць. *Як ва́льнуў яму па сьпіне, дык аш сагнуўся да зямлі.*

ВА′ЛЯНКА *ж.* Суконная вялікая хустка, якой накрываюцца ў холад або дождж. *Такі дошч, што аш ва́лянка навы́лят прамокла.*

ВАРАЖЭ′ЙКА *ж.* Варажбітка. *Варажэйка на картах добра варожыць.*

ВА′ТА *ж.* Невад.

ВЕ′ЦЁ *н.* Галлё з лісцем. *Веця́ шмат нанасілі на сцяжа́ро.*

ВЁТАХ *м.* Ветах. *Палоць грады трэба вётахам, бо менш зе́ля бу́дзя.*

ВО′МЕГ *м.* У выразе *вомегам вылязе* — не пойдзе на карысць.

ВОНЬ *часц.* Вунь. *Вонь твая шапка.*

ВУ′НЬДЗЯКА *часц.* Вунь. *Чаму няма, ву́ньдзяка на ла́вя шапка.*

ВУ′ПАР *м.* Той, хто не раіцца, а робіць так, як сам надумаецца або захоча. *Вупар ты, кап ты папытаўся, няўжо п табе сказалі п так зрабіць, а цяпер няма чаго шкадаваць.*

ВЫБІРА′НЦЫ *звыч. мн.* Каноплі з пыльнікамі, якія выбіраюць раней. *Ужо закурэ́лі выбіра́нцы, пара рваць.*

ВЫ′БУКСАВАЦЦА *зак.* Выкруціцца (пра дошкі). *Ня зрабіў распо́рак, дык доскі вы́буксаваліcь.*

ВЫ′КАТ *м.* Вялікі выраз (у сукенцы). *Табе сорамна с такім вы́катам сукенку кла́сьці.*

ВЫ′КАЦІЦЬ *зак.* Вельмі многа выразаць, зрабіць вялікі выраз. *На што гэта ты выкаціла так сукенку?*

ВЫ′КУЛІЦЦА *зак.* Выкінуцца, вывернуцца. *Як ты глядзе́ў, што дзіця вы́кулілась с калы́скі.*

ВЫ′КУЛІЦЬ *зак.* Вывернуць. *Вы́куліць дзіця з санак.*

ВЫ′СЕЎКІ *звыч. мн.* Адходы, што застаюцца пры прасейванні мукі. *Шмат высявак збіра́яцца ў рэшаця.*

ВЫ′СКРАБАК *м.* 1. Булачка хлеба, спечаная з цеста, якое выскрабаецца з дзежкі. 2. *метаф.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Выскрабак, таму і малы.*

ВЫ′ТАРАЧЫЦЬ *зак.* Шырока раскрыць вочы ад здзіўлення. *Чаго вытарачыла вочы, стала ня пазнаваць?*

ГАЛАЎКІ′ *толькі мн.* Валакно з верхняй часткі сцябла лёну.

ГА′ЛЬКА *ж.* Сарочка з карункамі ці гафтам.

ГАНАВІ′ЦЫ *толькі мн.* Споднія штаны.

ГАРГА'РА *м.* і *ж. экспр.* Вялікі, няскладны чалавек. *На гэтай гаргáры нівóдная сукенка добра ня ляжыць.*

ГІМО'РЫ *толькі мн.* Капрызы. *Спрацівялі мне твае гіморы.*

ГНАЦЬ, жанý, жанéш, жанé; жанём, жаняцё, жанýць *незак.* Гнаць (пра жывёлу). *Жані карóвы скарэй.*

ГРУ'БАЯ *прым. ж.* Цяжарная. *Ёй няможна падымаць мяшок, грубая ш яна.*

ГУКА'ЦЬ *незак.* 1. Клікаць, прасіць прыйсці. *Гукала, гукала, а ты як глухая.* 2. Плакаць. *Як я гукáла, як дазнáлась, што сынок у больніцы.*

ДАРЫ'ЎЧО *прысл.* Прыхваткамі, урыўкамі. *Гэта я рабіў дары́ўчо вячарамі.*

ДАЎЖЭ'РНЫ *прым.* Вельмі доўгі. *Даўжэрны шост.*

ДАЎМЕ'ЦЦА *зак.* Дадумацца, здагадацца. *Толькі цяпер даўмелась, што ён гэта мох зрабіць.*

ДАХО'ЖЫ *прым.* Вельмі цікаўны. *Дахóжаму так і трэба.*

ДА'ЧКА *ж.* Неадбеленая крамная тканіна. *Дáчкі на прасьціну купіла.*

ДЗІЧ *ж.* Нарасць, бародаўка. *На барадзе дзіч вы́расла.*

ДЗЯВУ'ЛЯ *ж. асудж.* Дарослая дзяўчына, учынкі, паводзіны якой не адпавядаюць узросту. *Такая дзявýля, а лялькамі забаўля́яшся.*

ДНУ'ШКА *ж.* Дошчачка, на якой крышаць сала, капусту, моркву і інш.

ДОЛ *м.* Магіла. *Капаць дол.*

ДРАБЯ'СЬЦЁ *н. зборн.* Латы. *Часаць драбя́сьцё.*

ДРАБЯ'СЬЦІЦЬ *незак.* Лаціць, прыбіваць латы. *Бацька хату драбя́сьціць.*

ДРЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Свярбець. *Зажывая рука і дрэнчыць натта.*

ДУ'ЛЬКА *ж.* Пылок у выглядзе пушка пры трапанні і трэнні лёну. *За цэлы дзень дулькі ў нося і роця шмат.*

ДЭ'РБА *ж. экспр.* Вельмі высокая і тонкая дзяўчына. *Такая дэ́рба вырасла, а ў класы і цяпер скача.*

ЖАГНУ'ЦЦА *зак.* Сцепануцца, скалануцца (ад вельмі гарачай ці халоднай вады). *Аш жагнýлась, як улезла ў Нёман.*

ЖУКО'ВІНА *ж.* Пярсцёнак.

ЗАВА'ЛА *м.* і *ж.* Гультай. *Па гэтай завáля і картоплі засталісь бы зімавáць у зямлі.*

ЗАВІ'ДА *м.* і *ж.* Зайздросны чалавек. *А гэтай завідзя ўсё мала, што ня ўбачыць у каго, хоча і сабе.*

ЗАВІНУ'ЦЦА *зак.* Хутка ўзяцца за справу. *Завінулась каля печы і на работу пасьпела, як і ўсе.*

ЗАЙСЬЦІ'СЬ *зак.* Перастаць дыхаць, страціць прытомнасць, памерці. *Пакуль прыбегла с двара, дык бапка і зайшлась.*

ЗАСУКА'ЦЬ *зак.* Закасаць. *Засучы рукавы, а то памочыш.*

ЗАТО'ЎКА *ж.* Затаўка. *Крупнік смашны з затоўкай мясной.*

ЗА'ЧАСЬЦЬ *прысл.* Рады (у складзе выказніка). *У вайну крошцы хлеба зачасьць былі.*

ЗАЯ'ДА *м.* і *ж.* Заядлы, зацяты чалавек, якога не пераканаеш. *Гэтай заядзя хоць ты воду лій у вочы, а яна сваё правіць.*

ЗБАЁДАЦЬ *зак.* Згубіць, марна патраціць. *Такія рукавіцы збаёдала. Ня магу даравацъ, што за такое паліто і такія грошы збаёдаць, выкінула на вецяр.*

ЗВАДЫЯ'Ш *м.* і *ж.* Чалавек, які падбухторвае да сваркі.

ЗВО'ДЫ *толькі мн.* Выдумкі, плёткі. *Яна ня працўя, а цэлы дзень толькі зводы носіць на языку.*

ЗВУЧЫ'ЦЬ *зак.* Прывучыць рабіць што-н. у адзін і той жа час. *Заўсёды перат сном мыяцца, баба звучыла так.*

ЗЖАБУРЭ'ЛЫ *прым.* Перакіслы (пра малако, смятану). *Малако зжабурэло, як воцат стало, што ў рот ня ўзяць.*

ЗІЧА'НЁ *н.* Бацвінне. *Наламі зічаня і кінь сьвіням.*

ЗМА'ЗАК *м.* Кавалак сала, здору, якім змазваюць скавараду, подмазка. *Кот зноў змазак такі вялікі сьцягнуў.*

ЗМУСЬЦІ'ЦЬ *зак.* Спакусіць. *Я сам ня хацеў купацца ў такой халоднай вадзе, але хлопцы змусьцілі.*

ЗРУ'ШЫЦЬ *зак.* Падарваць цяжкай працай. *Зрушыў сэрца будоўляй.*

ЗЫ'ПКА *ж.* Вісячая калыска.

І'РХА *ж.* У выразе *вырабіцца на ірху* — стаць вельмі худым. *Як засталась да іх у хату, дык і вырабілась на ірху.*

КАБЛУ'К *м.* Ручка ў кошыку. *Каблук у кошыку зламаўсь.*

ҚАБЫ'ЛҚІ *звыч. мн.* Палачкі ў кроснах для падцягвання нітаў. *Қабылкі паткруці, ніты ніска.*

ҚА'ДАЎБ *м. груб.* Жывот, страўнік. *Есьць ня ў сябе, таму такі і кадаўп.*

ҚАЛАМА'ШҚА *ж.* Летні вазок. *На фэст у каламашцы паедзям.*

ҚАЛАЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Паласкаць (бялізну). *На Нёмні добра калаціць плацё, вада чыстая.* 2. Біць (пранікам). *Қалаціла дзяругі пранікам, цяпер мяккія сталі.*

ҚАНАПЛЯ'НҚА *ж.* Цёплая баваўняная хустка. *Канаплянку яшчэ закруці, а то вецяр велькі.*

ҚАНТ *м.* У выразе *ставіць на кант* — крычаць, сварыцца на каго-н., патрабаваць рашуча. *Спанатрыў хадзіць на Нёман адзін, а сёння ставіла на кант, то дзясятаму закажа.*

ҚА'ПҚА *ж.* Кропля, кропелька. *Қапка варэня села на сукенку.*

ҚІ'ТҚА *ж.* Сноп бобу, гароху. *Пяць кітак бобу злушчыла.*

ҚЛЁВАЦЬ *незак.* Быць вельмі слабым. *Стары чуць клёвая, перастаў сваіх пазнаваць.*

ҚРУГЛАВІ'ДНЫ *прым.* Круглатвары.

ҚРУЦЯЛІ' *толькі мн.* Буякі. *Варэння зварыла с круцялёў.*

ҚУРА'ЎҚА *ж.* 1. Порхаўка. *Қураўку як зачэпіш, дык адразу курыць.* 2. *метаф.* Гразная, заношаная белая хустка. *Хоць бы ты памыла сваю кураўку, сорам адзін за цябе.*

ЛА'НТУХ *м. і ж. груб.* Гультай. *Гэты лантух цэлы дзень на печы пралежыць, а вядра вады ня ўнясе.*

ЛА'ХАЦЬ *незак.* Пляткарыць, балбатаць. *Цэлы дзень лахая, а работа стаіць на месцы.*

ЛЕ'ЖАНЫ *прым.* Вылежаны. *Гэты лён лежаны, таму добра трэцца.*

ЛЁНІШЧА *н.* Поле, на якім рос лён. *Лёнішча загаралі сёння.*

ЛЮБІ'ВЫ *прым.* Посны, без сала (пра мяса).

МА'ЙТҚІ *толькі мн.* Споднікі. *Брытко ў майтках хадзіць, трэба адзецца.*

МАШЫ'НҚА *ж.* Кнопка. *У блуску ўшый новыя машынкі, бо гэтыя ня трымаюць.*

МЫ'ЛІЦЬ *незак.* Вельмі марудна рабіць што-н. *Цэлы дзень мыліў нош, новыя тронкі прыстаўляў.*

НАГДО'ВЯ *прысл.* Пазаўчора. *Віця прыслаў пісьмо нагдовя.*

НАДАБРА'ЦЬ *зак.* Адняць (лішняе). *Надбяры мукі з вядра, а то сыпляцца.*

НАДЗЯВА'ЦЬ *незак.* Начыняць, запаўняць сярэдзіну чаго-н. *Курыцу надзяваю заўсёды макаронамі.*

НАПЯХО'ТУ *прысл.* Пеша, пешшу. *Напяхоту з Любча ішла ўсю дарогу.*

НАРАВІ'ЦЬ *незак.* Уступаць каму-н. ва ўсім. *Наровіць зяцю так, што аш брытко пазіраць.*

НАРЭ'ШЦЯ *прысл.* Апошнім, пазней за іншых. *Сусет заўсёды нарэшця прыходзіць, бо далёка ісьці.*

НЕДАЛЯГА'ЦЬ *незак.* Адчуваць немач, слабасць пры хваробе.

НЕЎМАВЕ'РНЫ *прым.* Які не верыць, не спагадае.

НІВА'ДЗІЦЬ. Так табе і трэба. *Нівадзіць, нятрэба было лезьці, а цяпер ня плач.*

НІ'ГДЫ *прысл.* Ніколі. *Жыцё пражыла, а нігды ў горадзя ня была.*

НІ'ЧАЛЬНІЦА *ж.* Прыстасаванне з нітак, цераз якія працягваюць ніткі асновы пасля прысуквання.

НІЯ'КАВА *прысл.* Няёмка, нязручна, сорамна. *Неяк ніякава, што ня дала бёрда сусетцы.*

НЯХО'РАША *прысл.* Брыдка. *Няхораша сукенка пашыта.*

ПАДЦУКРАВА'ЦЬ *зак.* Падвучыць каго-н. зрабіць што-н. дрэннае. *Пашла, падцукравала сусетку, кап сварылісь з залоўкаю.*

ПАД'ЯЛДЫ'КНУЦЬ *зак.* Падкусіць, кпіну пусціць. *Ня хочу бачыць такую добрую, заўсёды пад'ялдыкня мужыком, што піць любіць.*

ПАЛО'ЙКА *ж.* Дзесяць жмень лёну. *Пяць палояк лёну натрапала.*

ПАНЦА'К *м.* Ячныя крупы і каша з іх. *Панцаку паўмяшка зрабіла у млыня.*

ПАРЭ'Б'Ё *н. зборн.* Рэбры ў кошыку. *Вечарам кошык аснаваў, парэб'е заплёў, а раніцай каля кароў кончыў.*

ПА-САБЕ' *прысл.* Па адным, паасобку. *Яны* [мужык з жонкаю] *ніколі разам ня ходзяць у госьці, заўсёды пасабе — то яна, то ён, бо дзіця малоя. На фэст едуць пасабе, суседзяў ня клічуць.*

ПА'СЫНКА *ж.* Адростак; пасынак. *Пасынка алівасу прынялась.*

ПАТРЭ́П'Е *н.* Тое, што застаецца пасля трапання лёну (кудзеля, кастрыца, дулька). *Патрэп'ё сабрала і аднесла ў хлеў.*

ПАЎБУТЫ́ЛАК *м.* Бутэлька ёмістасцю 0,25 літра. *Паўбутылак вады.*

ПАЎПА́ЛЬТАК *м.* Паўпаліто. *Паўпальтак купіла новы дзяўчыня.*

ПАЦЯГНУ́ЦЬ *зак.* Абшыць зверху. *Кажух пацягнула сукном.*

ПАЧТА́Р *м.* Паштальён. *Пачтар пенсію прынёс.*

ПАЧЫ́НАК *м.* Вялікая ручайка. *Во які пачынак напрала.*

ПЛА́ЦЁ *н.* Бялізна. *Плацё мыла паўдня.*

ПО́ЛКА *ж.* Невялікая прасціна, у якую ўкручваюць грудных дзяцей.

ПРА́ТАЦЬ *незак.* Прыбіраць, мыць. *Цэлы дзень сёння пра́тала ў ха́ця пасьля го́сьцяў.*

ПРЫВІ́ЦЦА *зак.* Сесці часова пасля вылету з вулля (пра пчол). *Пчолы прывіліся на дрэва.*

ПУ́РХАЦЬ *незак.* Пырскаць вадой з рота. *Пурхаць цвяты трэба хоць рас у тыдзянь, пылу шмат насела.*

РАДЗІ́НЫ *толькі мн.* Гасцінцы, якія дораць з прычыны нараджэння дзіцяці як сваім, так і чужым, каб народжанае хутка пачало хадзіць і гаварыць. *Прынясла́ радзін сусетка.*

РАЗВАЛІ́НЫ *толькі мн.* Развалкі. *Разваліны вазьмі, а то вос ня прывязеш.*

РАЗРАБІ́ЦЦА *зак.* Растаўсцець. *Во разрабілась, як вышла замуш.*

РАСПО́РКА *ж.* Месца, дзе распаролася адзенне; прарэх.

РАСТАРО́П *м.* Бездарожжа, разводдзе. *Куды ты сабраўся ў такі растароп, вада ш па дарозя стаіць?*

СЕНАВА́ЦЬ *незак.* Касіць сена. *Бацька пашоў сенаваць, а мы дома засталісь адны.*

СКАВА́ЦЬ *незак.* Цкаваць, падбухторваць. *Што ты яго скуеш, ён і так кідаяцца на ўсіх.*

СКАЛАЦІ́ЦЬ *зак.* 1. Звесці ў сварку. *Прыдзя ў хату і скалоціць нявестку з бацькамі.* 2. Зрабіць беспарадак, шукаючы што-н. *Век ты хату скалоціш раніцаю, шукаючы адзежу.*

СЬЛІ́ШЧА *н.* Месца, дзе быў паслан лён. *Каровы цяпер ходзяць на сьлішчы, пад лёнам добрая трава адрэсла.*

СО'ЛЯНКІ *звыч. мн.* Вараная ачышчаная бульба. *На сьняданё солянкаў зварыла.*

СТАЦІ'ВА *ж.* Бок кроснаў, станіна.

СТЫКА'ЦЦА *незак.* Быць, знаходзіцца. *Кап ён хоць калі стыкаўсь дома, вечна ў паходах.*

СТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Не мець часу. *Няма калі рукі стыкнуць, работы сьвет.*

СЫРАВЕ'ШКА *ж.* Сыраежка. *Дзеці за сыравешкамі пашлі.*

СЯДНІ'К і СЯЛЬНІ'К *м.* Сяннік. *Салома перацёрлась у сядніку, трэба новай напхаць.*

ТА'ХКАЦЬ *незак.* Моцна біцца (пра сэрца). *Так ляцела на аўтобус, што аш сэрца тахкая на ўсе грудзі.*

ТО'ЎСТАЯ *ж.* Цяжарная.

ТРУПЕ'ШЛЫ *прым.* Струхлелы, спарахнелы. *Хлеў трупешлы саўсем.*

ТРЭ'ПЫ *звыч. мн.* Басаножкі на драўлянай падэшве. *Трэпы грукату даюць на ўсё сяло.*

ТЭНЧ *ж.* Танката (пра ніткі). *Што ты напрала такой тэнчы? Як цяпер ткаць такую тэнч?*

ТЭ'ЎШЧ *ж.* Таўшчыня (пра ніткі). *На што такая мне тэўшч, можна і раўней прасьці?*

УЗДЗЯБУ'РЫЦЦА *зак. экспр.* Залезці. *Куды ты з нагамі на канапу ўздзябўрылась?*

УЗРЭ'Х *м.* Агрэх. *Толькі ўзрэхаў нарабіла на полі.*

ХЛЮ'НДРА *ж.* Неакуратная жанчына. *У хлю́ндры заўсёды сярада с-пат пятніцы відаць.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Це́пярся пашоў і няма.*

ЦЫ'ЦКА *ж.* Лядзяш. *За ноч падмарозіла, бачыш якія цыцкі вісяць на страсе.*

ЦЭ'РА *ж.* Грыб на бярозе, губа.

ЧАПУРЫ'ЦЦА *незак.* Строіцца, модзіцца, збіраючыся куды-н. *Хопіць чапурыцца табе, пара ісьці.*

ЧАЎРЭ'ЦЬ *незак.* Быць доўга галодным. *Пастух цэлы дзень чаўрэя.*

ЧЫПЧЫЛІ'НДРА *ж. экспр.* Жанчына, якая не хоча і не любіць працаваць. *Гэта чыпчыліндра толькі на танцы здатная.*

ШАРА'ЧАК *м.* Тканіна, у якой аснова парцяная, а ўток суконны і выткана, як радавое палатно. *Пяць губак шарачку выткала.*

ШАРУДЗІ'ЦЦА *незак.* Лушчыцца (пра скуру). *Рукі шарудзяцца, бо пасівяралі на ветры і марозя.*

ШАЎЛЮ′ГА *м. і ж. зневаж.* Няскладны чалавек, які не ўмее добра рабіць. *Шаўлюга за дзень новыя туфлі выкруціць.*

ШКАПЛЕ′РЫ *звыч. мн.* Змацаванне абручоў кошыка, куды ўстаўляюцца рэбры.

ШЛЫ′ГАЦЬ *незак.* Хадзіць, не падымаючы ног. *Туфлі хутка ляцяць, бо ён цэлы дзень шлыгая ў іх.*

ШЧО′ПСЬЦІ *ж.* Мізэрная колькасць; колькасць, узятая трыма пальцамі. *Хоць шчопсьці дай сахару. Шчопсьці солі усып у цаган.*

ШЧЫПЕ′Р *м.* Пяро цыбулі. *Вышчыпні пяць шчыпяроў цыбулі.*

Ю′ХА *ж. экспр.* Прайдоха. *Пры ім нічога ня гавары, гэта юха бітая.*

Я′МКІ *звыч. мн.* Вочкі на бульбіне. *Выкалупай ямкі на картоплі.*

ЯСЁНКА *ж.* Асенняе паліто. *Ясёнку новую купіла.*

*Г. М. Аляксейчык*

# З ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ НАВАГРУДЧЫНЫ

Навагрудчына[1] знаходзіцца ў межах дыялектнай зоны, якая была вядучай і вызначальнай у працэсе фарміравання беларускай літаратурнай мовы. Таму дыялектная мова мясцовага насельніцтва гэтага кутка Беларусі вельмі блізкая да літаратурнай па сваіх асноўных асаблівасцях. Але назіраюцца і адрозненні.

У галіне фанетыкі і марфалогіі гэта такія найбольш характэрныя, як няпоўнае аканне: *со́нцо, пу́то, дзяржа́льно, мно́го, до́бро, дрэ́нно, сенава́нё, се́м'ё; о* на месцы *а* ў афіксе *-ся* зваротных дзеясловаў прошлага часу ў мужчынскім і ніякім родзе: *ён разбі́ўсё, плача́к распаро́ўсё, со́нцо схава́ласё, крэ́сло злама́ласё;* лабіялізацыя галоснага *а* ў націскным становішчы перад *ў*: *зоўтра, проўды, доў, сказоў, назвоў, клоў, давоўся;* прыстаўныя гукі *г* і *в*: *гачкава́нё, гарэ́шнік, гала́дкі, гараб'е́, гърабі́на, гі́каўка, ві́няй, вяча́й, павясок;* канчатак *-е* пад націскам у назоўным (і вінавальным) склоне назоўнікаў мужчынскага роду: *куле́, сыне́, зяце́, бураке́, стаге́, пастухе́, канцэ́, сахарэ́, братэ́, снапэ́, часэ́;* сцягнутыя формы прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў: *прыгожа* кашуля, *нова* хустка, *добру* карову, *гэту* вёску, *восьму* гадзіну; назвы маладых істот тыпу *гусе́нятко, е́гнятко, казе́нятко, каце́нятко, качэ́нятко, курэ́нятко, парэ́сятко, трусе́нятко.*

Ёсць адрозненні і ў слоўніку гаворак. Мясцовыя словы вызначаюцца нярэдка асаблівай семантыкай, афіксацыяй, націскам або фанематычнай структурай. Трапляюцца таксама і поўныя лексічныя рэгіяналізмы.

[1] Пад Навагрудчынай мы разумеем тэрыторыю сучаснага Навагрудскага раёна і суседніх з ім Дзятлаўскага і Карэліцкага раёнаў Гродзенскай вобласці.

У артыкуле падаецца каля 150 слоў[2]. Яны пачуты аўтарам пераважна ў Навагрудскім раёне (у тэксце скарочана Навагр.), частка іх зарэгістравана ў вёсках Дзятлаўскага (Дзятл.) і Карэліцкага (Карэл.) раёнаў.

АКІ'ЗЯ-КУ'ЗЯ ДЗЕ! *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць жарабят. Васілевічы Навагр.

АТПАЧЫ'ВАК *м.* Адпачынак. *Мой прасіцца ў атпачывак, ён у Сібіры робіць, але начальнік ягоны не дае.* Васілевічы Навагр.

АЎЦЮ'Ш КУДЫ'! *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць качак. Васілевічы Навагр.

АЦЫ'ПІШ! *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць куранят. Васілевічы Навагр.

БА'БАЧКА *ж.* Кусочак дрэва з дзірачкай, куды памяшчаецца верхні канец млёна. *Жарнава́я бабачка зламалася, пазыч мне яе.* Дзяляцічы Навагр.

БАЛБАТУ'ХА *ж.* Калатуша са шкваркамі, верашчака. *Вельмі балбатуху люблю, з'ясі яе, ляхчэй робіцца.* Дзяляцічы Навагр.

БАРАДА'СТЫ *прым.* Барадаты. Дзяляцічы Навагр.

БАРУКА'ЦЦА *незак.* Калоцца. *Мая каровіца барукаяцца, адыйдзі ў бок.* Крываногава Навагр.

БЁС *м.* Бэз. *Выйдзяш у гароччык, бёзам, па́хня, сусеткі сходзяцца да мяне.* Басіна Навагр.

БЛІЗЬНЯКЕ' *мн.* Два рады бульбы ў аднойградцы пры мяжы. *У Тэклі на гародзі некалькі блізьнякоў, і хто гэ́то рабіў граткі?* Заполле Навагр.

БО'ЛБАТКІ *мн.* Бурбалкі на лужынах ад дажджавых кропель. *Калі́ мно́го на вадзе болбаткаў, дошч будзе ісьці до́ўго.* Дзяляцічы Навагр.

БРАДЗІ'ЦЬ *незак.* То схавацца, то паказацца (толькі пра сонца). *Не чакай добрай пагоды, калі со́нцо бро́дзіць.* Навіны Навагр.

БУ'РСА *ж. экспр.* Статак кароў ці коней. *На гэтакую бурсу ні адзін пастух патрэбен.* Рыбалава Дзятл.

---

[2] Гэта словы, якія ў адзначаным структурным выглядзе адсутнічаюць у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), а таксама ў такіх вядомых зборах лексікі, як: И. И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870; Ф. М. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік. I, Мінск, 1959; II, Мінск, 1960; III, Мінск, 1970; П. У. Сцяцко. Народная лексіка. Мінск, 1970; Дыялектны слоўнік. Мінск, 1970; Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мінск, 1970 і 1974; Т. Ф. Сцяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972.

ВАГІ'ЛЬНІК *м.* Месца, плошча, дзе важаць. *Раней мая хата стаяла каля вагільніку.* Басіна Навагр.

ВЕ'ЙКА *ж.* Надвор'е, калі дуе вецер і ідзе снег. *Пайшла ўчора да маці ў суседню вёску, дык узьнялáся такая вейка, два часэ́ цягнулася, пакуль зайшла.* Дзяляцічы Навагр.

ВЕЧАРНІ'КІ *мн.* Вячоркі. *Са сваім Міколам я пазнаёмілася на вечарніках, с таго ўсё і пайшло.* Васілевічы Навагр.

ВІ'НЯЙ *м.* Шэрань. *Гу́сто віняй дрэвы пакрыў.* Дзяляцічы Навагр.

ВО'ГНІСКА *н.* Вогнішча. *Сённяш гэтыя патшываáнцы разлажылі вогніска ля хлява і пякуць сабе картоплю.* Рыбалава Дзятл.

ВУША'ТКА *ж.* Шапка з вушамі. *Мой стары́ ўжо ў верасні вушатку носіць. У магáзіне вушаткі давалі — што рабіласё!* Дзяляцічы Навагр.

ВЫ'ПІТКА *ж.* Выпіўка. *Ён зусім разамлеў ад выпіткі.* Васілевічы Навагр.

ВЫПЛЫВА'ННІК *м.* Ранні баравік. *Выплываннікі — гэ́то грыбэ́ са́мыя першыя, яны растуць, калі выплывая жы́то, і яны выплываюць. Іх называюць яшчэ расава́льнікі.* Васілевічы Навагр.

ВЯРХО'ВІЦА *ж.* Верх галавы. *Нешта вярховіца баліць. Чаго з голай вярховіцай ходзіш?* Дзяляцічы Навагр.

ВЯСЁНКА *ж.* Жаночае вясенняе паліто. *Зіма канчаецца, трэба дацэ вясёнку пашыць.* Рыбалава Дзятл.

ВЯЧА'Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў. *Дужа шырокі вячай у жорнах.* Дзяляцічы Навагр.

ГАВЭ'НДЗІЦЬ *незак.* Размаўляць пра пустое. *Як пачне Ганна гавэндзіць, уся работа стаіць. І здаецца нічога больш ні трэба ёй — усё гавэ́нды ды гавэ́нды.* Навіны Навагр.

ГАЗУ'КА *ж.* Маленькая газоўка. *Некалі, як газука гарыць, то ўжо до́бро, а то і папоцемку ўпраўляліся.* Рыбалава Дзятл.

ГА'КАЦЬ *незак.* Акучваць агародныя расліны. *Гакаць трэба до́бро ўсё, што на гародзі, цыбулю, гурке́, бураке́.* Налібакі Навагр.

ГАЛА'НА *прым. ж.* Белая з чорнымі плямамі (пра масць каровы). *Учора ў Нава́грутку купілі карову галану, уся бела ш чорным.* Васілевічы Навагр.

ГАЛЯ'К *м.* Стары сцёрты венік. *Такі скупы ён, нават галяка́ выкінуць шкадуя.* Дзяляцічы Навагр.

ГАНКЕ' *мн.* Папярэчныя барозны ў канцы загона. *Ганке — гэто папярочка, ідзе загон там, дзе паварочваюць коні.* Ятра Навагр.

ГАНЯ'К *м.* Маленькі загон. *Калісьці шнурэ́ дзяліліся на ганякé ці вéратні.* Басіна Навагр.

ГАРА'ННІКІ *мн.* Лясныя пажарышчы, гарэлікі. *Не любяць птушкі гараннікаў.* Навіны Навагр.

ГАЧКАВА'НЁ *н.* Працэс акучвання агародных раслін. *На тым тыдні пайду рабіць гачкаванё.* Васілевічы Навагр.

ГІ'КАЎКА *ж.* Ікаўка. *Калі мой гаспадар раззлуецца, адразу на яго гікаўка нападая.* Панямонь Навагр.

ГЛІК *м.* Гліняны гаршчок з вузкім горлам. *Глік з вузéнькім горлышкам, але яшчэ менш, як у збанка.* Дзяляцічы Навагр.

ГРЫМО'ЦЬ *м.* Кіпцюр у жывёлы. *Нахцé ў чалавека, а грымцé ў сабакі, курыцы, у качкі. Ідзе і грыміць, таму і грымцé.* Каменка Навагр.

ДАРАШАВА'ТЫ *прым.* Сівавата-рыжай масці. *У яго конь дарашаваты: і сівы і рыжы.* Васілевічы Навагр.

ДРА'БЫ *толькі мн.* Сцяблы агуркоў без лісцяў. *Алеш і драбы на тваіх гуркóх!* Васілевічы Навагр.

ДРА'ПСЫ *толькі мн.* Матыка. *Трэба картоплю акучыць у гародзі, і ні ведаю, дзе падзеліся драпсы.* Рыбалава Дзятл.

ДРАПЧАКЕ' *мн.* Прылада для працы ў агародзе. *У драпчакóх ручка і тры зубочкі, яны с паўметра даўжынёй.* Васілевічы Навагр.

ЖВІРЧА'К *м.* Глеба з каменьчыкамі. *У нас толькі жвірчакé.* Ятра Навагр.

ЗАБО'Р *м.* Манжэта. *Шыла дачка бацьку кашулю, але ніяк прыладзіць забор не магла.* Панямонь Навагр.

ЗАГА'РА *ж.* Загар. *Загара якая прыгожая.* Дзяляцічы Навагр.

ЗМА'ЗАК *м.* Подмазка. Дзяляцічы Навагр.

ЗРЭ'ЛЫ *прым.* Нясонны (пра вочы). *Дóбро дачушка паспáла — ужо вочкі зрэлыя, ясныя.* Навасады Навагр.

ІВА'НАК *м.* Матэрыял хатняга вырабу з воўны. *Іванак ідзе на верхню адзёжу.* Дзяляцічы Навагр.

ІЛЬНІ'СКО *н.* Поле, дзе рос лён. *Гэтакі добры лён быў, слалі і на ільніску, і яшчэ на балоці за рэчкаю.* Рыбалава Дзятл.

КАДО'ЎП *м.* Бочка, выдаўбаная з дрэва. *У кадоўп сыплюць альбо ліюць што-нёбуць — гэ́то вялікая бочка.* Дзяляцічы Навагр.

КАЛО'ТКІ *толькі мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Калоткі новыя купіла, але нешта ногі ў іх баляць.* Дзяляцічы Навагр.

КАНЧА'РЫК *м.* Канец градкі. *На канчарыку пасадзіла некалькі кветак.* Васілевічы Навагр.

КАНЮГА' *м. экспр.* Конь. *Канюга добры ў яго, хоць малёнькі, але спрытны.* Васілевічы Навагр.

КАРАБАНЕ' *мн.* Маршчыны. *Стары́ чалавек, твар сцягну́ло ў карабане. Увесь твар у карабанёх.* Навіны Навагр.

КАХА'НІК *м.* Любімы. *Мой каханік на два гадэ́ на цаліну паехаў, су́мно без яго.* Васілевічы Навагр.

КАЦУБА' *ж.* Драўляны кіёк. *Старэнькі мой ужо свёкар, ледзьве с кацубой ходзіць.* Рыбалава Дзятл.

КАЦУБЕ'ШКА. *ж.* Качарга. *Ганна, вазьмі кацубешку ды выгарні попел с печы! Чаму кацубешка ні на месцы, а ну пры́ценька пастаў у качаргешнік.* Рыбалава Дзятл.

КЛАПУ'ХА *ж.* Дошчачка з дзірачкай, куды памяшчаецца верхні канец млёна. Дзяляцічы Навагр.

КОМ *м.* Тоўчаная бульба, камякі. *На вячэру елі ком з гуркамі. Ком — гэ́то картафлёва каша.* Дзяляцічы Навагр.

КРЭ'ХТАНІНА *ж.* Калатуша са скваркамі, верашчака. *На скаварадзе кіпіць, крэхча, таму і завуць крэхтаніна.* Дзяляцічы Навагр.

КУРМЯ'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Котачка наша курмяўкая, у хату просіцца, адчыні дзверы.* Васілевічы Навагр.

КУРЧАНЁ *н.* Кураня. *Захварэ́ло маё курчанё.* Крываногава Навагр.

КУСЦЯ' *мн. зборн.* Кусты. *У гарoччыку кусця разрасліся вельмі.* Басіна Навагр.

КУЦ-КУЦ-КУЦ і КУ'ЦА-КУ'ЦА-КУ'ЦА! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць авечак. Васілевічы Навагр.

ЛАБА'НЬКА *ж.* Карова без рагоў. *У нашай вёсцы карову без рог завуць лабанькай.* Навіны Навагр.

ЛАМБУ'К *м.* Сцяблы гарбуза без лісцяў. *Па ўсяму гароду расцягнуліся ламбукі.* Васілевічы Навагр.

ЛА'ПА *ж.* Зуб у вілах. *У мяне сахарэ́ на тры ла́пе.* Дзяляцічы Навагр.

ЛАПАТО'ЧКА *ж.* Струк гароху, фасолі, бобу, калі ў ім толькі завязваюцца зярняты. *Гарох ні рвецъя, бо яшчэ ў лапаточках.* Занямонь Навагр.

ЛУПІЧО'К *м.* Грыб масляк. *Лупічок таму завецца так, што лу́піцца лёхко.* Васілевічы Навагр.

ЛЯДЗІ'НА *ж.* Крыга. Дзяляцічы Навагр.

ЛЯДЗЯ'НКА *ж.* Кавалачак лёду. Дзяляцічы Навагр.

МАКАВЕ'НЬ *м.* Вялікая міска з гліны. *Пабіўся макавень, а ў ім натташ добра картоплю сьцерці.* Рыбалава Дзятл.

МАКАВІ'ННЕ *н.* Сцяблы маку з лісцем. *У гэтым годзе макавінне выцягнуласё, як ніколі.* Шчорсы Навагр.

МАКАВІ'ННІК *м.* Тое, што і *макавінне.* Нягневічы Навагр.

МА'КАЎНІК *м.* Тое, што і *макавінне. У Васіле́вічах макаўнікам называюць сцяблы мака.* Васілевічы Навагр.

МАЛО'ЧНІЦА, *ж.* Жанчына, якая любіць усё малочнае. *А ўжо я малочніца, вельмі малако люблю, мяса хай і ні будзя.* Васілевічы Навагр.

МАРКАЎНІ'К *м.* Лісце морквы. *Кароўка мая ніяк ні бярэ маркаўніка́.* Васілевічы Навагр.

МАХНАВЕ'ШКА *ж.* Недагарэлае палена дроў, галавешка. *Дровы дрэ́нно гарэлі, мно́го махнавешак засталосё.* Дзяляцічы Навагр.

МАХНУ'ША *ж.* Тое, што і *махнавешка.* Дзяляцічы Навагр.

МУЗА' *ж.* Мякаць у гарбузах, дзе знаходзіцца насенне. *Гарбу́з вялікі, але шмат музы.* Васілевічы Навагр.

МЫ'ШКА *ж.* Гатунак морквы. *Мышка — морква с кругляонькім носікам.* Васілевічы Навагр.

НАВУЛЕ'ЧКА *ж.* Навалачка. *Узоўтра трэба зьмяніць навулечкі на падушках. У цябе ўсе навулечкі з прошвамі.* Рыбалава Дзятл.

НАПІ'ЛЫ *прым.* Выпіўшы. *Дужа Пятра свайго не люблю, калі ён напілы.* Басіна Навагр.

НАСЫПАВА′ТЫ *прым.* Пахмурны, сумны. *Жылі мы з ім су́мно, вельмі насыпаваты ён быў чалавек.* Навіны Навагр.

НАЧЛЕ′ЗЬНІК *м.* Той, хто водзіць коней на начлег. *Як быў Мікола малы́, заўсёды прасіўсё ў начлезьнікі.* Васілевічы Навагр.

ПАВЯСО′К *м.* Матузок. *Прыгожанькі павясок я дачушцы купіла.* Басіна Навагр.

ПАДБІ′ЦЕНЬ *м.* Унутраная частка мужчынскай шапкі, падкладка. *Вуша́тка была яшчэ добрая, але падбіцень падраны.* Дзяляцічы Навагр.

ПАДЖЫ′ТЫ *прым.* Стары. *Паджыты ён чалавек, колькі гадоў жыве.* Дзяляцічы Навагр.

ПАЛАВЫ′ *прым.* Чорны, са светлымі знізу плямамі (пра хмару). *Палава́я хмара́ ідзе — чорна, стра́шна, зьнізу з рыжымі плямамі.* Навіны Навагр.

ПАСТО′ЯЛКА *ж.* Верх у салодкім малацэ, калі яно пастаіць. *У кладоваццы малако стаіць, дык кот некалькі разоў пастоялку зьлізваў, такі шкадлівы.* Дзяляцічы Навагр.

ПАСЯДУ′ШКІ *толькі мн.* Вячоркі. *Калі пачнуцца маразэ́, часьцей будзям зьбірацца на пасядушкі.* Васілевічы Навагр.

ПАТКАЛО′ТКА *ж.* Страва, у якую дадаюць мукі. Рыбалава Дзятл.

ПАЦЯРО′ПКІ *толькі мн. экспр.* Пахмелле. Лукі Карэл.

ПАШЫБА′К *м.* Палка, якой можна кінуць. *Мы б'емся каменнямы, а яны, у І'зьве, пашыбака́мы.* Каменка Навагр.

ПЕ′РО *н.* Лісце часнаку. *Перо вельмі сма́шно варыць з бульмаю.* Занямонь Навагр.

ПЕХАТА′ *ж.* Фасоля, якая не ўецца. *Пехаты сёлета рассадзіла мно́го.* Васілевічы Навагр.

ПЕ′ШКА *ж.* Тое, што і *пехата. Пешкай завуць пасолю, якая ляжыць на зямлі.* Нягневічы Навагр.

ПЛІ′САЎКА *ж.* Плюшавы жакет. *Акрый плісаўку наверх, на дварэ вецяр халодны.* Рыбалава Дзятл.

ПЛЯЦЁНКА *ж.* Плецены пояс. *Дзеш гэтаку пляцёнку дастала?* Дзяляцічы, Навагр.

ПЛЯЧА′К *м.* Плячо. *Плячак баліць, будзя вейка.* Дзяляцічы Навагр. *Распаро́ўсё левы плячак, зашый яго.* Дзяляцічы Навагр.

ПРАЙМО′ *м.* Пройма, выраз для рукава. *Праймо дрэнно зрабіў, усё паліто сапсаваў.* Дзяляцічы Навагр.

ПРУ′ ДЗЕ! *выкл.* Выгукі, якімі адганяюць і спыняюць коней. Васілевічы Навагр.

ПРУ′ШЧЫНА *ж.* Белы паркаль. *Купіла я некалькі метраў прушчыны, усё ў гаспадарцы патрэбна.* Babaкомшчына Дзятл.

ПУ′ЗІН *м.* Зарасць арэшніку. Варакомшчына Дзятл.

ПУ′КАЦЬ *незак.* Стукаць. *Чаго ты пукаяш у вакно?* Васілевічы Навагр.

ПЯЛЮ′ВЕНЬКА *ж.* Прыбудова да хлява, дзе ляжаць дровы, сена. *Узоўтра зяця папрашу пялювеньку памагчы перакрыць, а то дровы зусім замокнуць.* Рыбалава Дзятл.

ПЯТА′ *ж.* Тупы канец у яйку. Васілевічы Навагр.

РАДУ′ТЫ *толькі мн.* Гутарка з частаваннем у суботу ці нядзелю. *У нядзêльку рабілі радуты.* Панямонь Навагр. *Нашы ўжо пайшлі на радуты.* Лукі Карэл.

РАЖНІ′К *м.* Нарог у сасе. *У сасе два ражніќе.* Басіна Навагр.

РАСАВА′ЛЬНІК *м.* Ранні баравік. *Калі жы́то расуя (і красуя), пачынаюць расьці расавальнікі, гаворацъ яшчэ выплыва́ннікі.* Васілевічы Навагр.

РАСАВА′ННІК *м.* Тое, што і *расавальнік.* Васілевічы Навагр.

РА′ХЛІСКО *н.* Палка ў вілках. *Трэба рахліско зрабіць но́во, бо гэ́то дужа ця́шкаё.* Дзяляцічы Навагр.

РО′СЬЛІ *мн.* Парасткі бульбы. *Росьлі ў картоплі, а ў мясе храсткé.* Басіна Навагр.

РЫ′СЬЛІЦЬ *незак.* Рыхліць. *Буракé пайшлі рысьліць.* Заполле Навагр.

РЭ′ЧАННЕ *н.* Рэчышча. *Мы гаворым, за рэчкай, а яны, у* Гзьве, *за рэчаннем.* Каменка Навагр.

САК *м.* Кароткі жаночы кажух. *Астáўсё ад маткі сак, але трошкі цесны.* Панямонь Навагр.

СА′ЛО *н.* Мясістая абалонка ў гарбузе. *Накрышыла гарбузова сала, не пашкадавала цукру — смачна каша атрымалася.* Нягневічы Навагр.

САЛЯВІ′ЧКІ *мн.* Мяхі для перавозкі солі. *Раней да нас соль прывозілі ў салявічках, а зáраз на кілаграмы купляям.* Басіна Навагр.

СКРО′МНЫ *прым.* Скнарлівы. *Вельмі ш сусет мой*

*скромны, усё хавая ў скрыню, нават родным нічога не дасьць.* Кайшоўкі Навагр.

СЛЯПАВО'КІ *прым.* Сляпы. *Наш дзядуля яшчэ з Айчыннай сляпавокі.* Панямонь Навагр.

СПАСО'ЎКА *ж.* Гатунак груш. *Спасоўка — сама рання груша, к Спасу сьпея.* Цырын Карэл.

СТРО'ІК *м.* Галаўны ўбор, які даўней пажылыя кабеты насілі пад хусткай. *Яшчэ наша матуля строік насіла — недзе ў шапе валяяцца.* Дзяляцічы Навагр.

СУДНІ'К *м.* Бочка з крышкай, у якой засольваюць сала. *Добрага кабана забілі — поўны суднік сала наклаў.* Дзяляцічы Навагр.

СЬЦІМБУРЫ' *мн.* Тое, што і *ламбукі. Вунь карова зайшла ў гарот, сьцімбуры патаптала.* Нягневічы Навагр.

СЯМІЦВЕ'ТКА *ж.* Вясёлка. *Пасля дажжу часто сяміцветка разгараяцца, вельмі ш прыгожа.* Васілевічы Навагр.

ТА'РАНЫ *прым.* Цёрты на тарцы. *С таранай бульбы мы робім бапку с салам.* Дзяляцічы Навагр.

ТАРЫНУ'КА *ж.* Невялікая хустка з воўны. *Калісьці яшчэ стары з Вільні прывёс тарынуку гэту. Трэба прыфанабэрыцца ў нядзêлю, вось і завязала тарынуку ў квяткé.* Рыбалава Дзятл.

ТА'РЫЦЬ *незак.* Церці на тарцы. *Вельмі тарыць картоплю не люблю, усе пальцы параздзіраю.* Дзяляцічы Навагр.

ТАЎЧАНІ'ЦА *ж.* Тое, што і *ком. Мáмо, давай на вячэру зробім таўчаніцу і настаўніцу пачастуям.* Дзяляцічы Навагр.

ТОЎЧО'НКА *ж.* Тое, што і *ком.* Дзяляцічы Навагр.

УНУ'КА *ж.* Унучка. *Унука мая ўжо дарослая, зьбіраяцца ў Навáгрудак у тэхнікум.* Дзяляцічы Навагр.

УШЧАПЛЯ'НЁ *н.* Прышчэпліванне. *Мой гаспадар вам пакажа, як рабіць ушчаплянё.* Цырын Карэл.

УШЧЭ'ПА *ж.* Дрэва, якому робіцца прышчэпліванне. Цырын Карэл.

ЦЯПЛУ'ШКА *ж.* Кажушок. *Янак папалýдні пагоніць у поле, скажы, кап цяплушку акрыў — хóладно.* Рыбалава Дзятл.

ЧАСНО'ЧЫНА *ж.* Адна галоўка часнаку. *Пазыч, сусетка, часночыну, трэба ў квáшаніну пакласьці.* Шчорсы Навагр.

ЧА́ТА *ж.* Буран. *У нашых краёх чата рэтко бывая, але калі ўжо пачнецца — вельмі стра́шно.* Навіны Навагр.

ЧКІ-ЧКІ-ЧКІ! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свіней. Васілевічы Навагр.

ШАРСЦЯ́НКА *ж.* Хустка з воўны фабрычнага вырабу, у кветкі. *Мой Грышка ў нядзêлю мне шарсцянку купіў, прыгожа, с кветкамі.* Дзяляцічы Навагр.

ЯРБА́ *ж.* Вярба. *Разраслася над Нёмнам ярба.* Панямонь Навагр.

*А. М. Прышчэпчык*

# ЛЕКСІКА СВЕРЖАНЬСКАЙ ГАВОРКІ

Свержанськая гаворка — гаворка в. Стары Свержань Стаўбцоўскага раёна — досыць тыповая для раёна, асабліва для яго заходняй часткі. Тут гаворкі населеных пунктаў, нават аддаленых адзін ад аднаго, не маюць прыкметнай розніцы. Аднолькавы ў іх і традыцыйны мясцовы слоўнік.

У падборы слоў, зарэгістраваных у в. Стары Свержань, падаюцца пераважна тыя, якія адсутнічаюць у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962). Лексічна блізкія да літаратурнай мовы прыводзяцца ў тых выпадках, калі адрозніваюцца па семантыцы. У такіх словах адзначаецца толькі іх спецыфічнае, мясцовае.

АБЛО'ЖНЫ *прым.* У выразах: *аблажны дождж* — дождж, які ідзе працяглы час і без перапынку; *аблажныя хмары* — хмары, якія поўнасцю закрылі неба.

АБРЫСКЛЫ' *прым.* Пракіслы (пра малако). *Абрысклым малаком забяліла суп, дык ніхто й ні еў.*

АБЦЭ'НГІ *толькі мн.* Абцугі.

АМЕ'ЦІ *толькі мн.* Дробная салома, каласкі, якія застаюцца ад змалочанага збожжа. *Амецей карові да каляд хваціць, а потым сечку будзям рэзаць.*

АПІВО'Ш *м. экспр.* П'яніца. *Гэты апівош спакою ні дае, кажды дзень цягаяцца пьяны.*

А'РХА *ж.* Веялка, арфа. *Рукамі веяць трудно, дык, бывало, пазычалі арху.*

АРХАВА'ЦЬ *незак.* Веяць арфай. *Учоро цэлы дзень малацілі, а сёні архаваць трэба.*

АСЕ'ЛІЦА *ж.* Поле каля вёскі.

АТАТУ'РЫЦЦА *зак.* Разленавацца, абабіцца. *Хоць ты крычы на яго, хоць ты што хочаш, ататурыўсё і нічого ні робіць, толькі паспаць дай яму.*

АФІРА'НКА *ж.* Фіранка, якая закрывае толькі верхнюю частку акна. *Даўней афіранкі рабілі самі с суроваго палатна з мярэшкаю, а ціпер у ва ўсіх цюлявыя.*

АЦЕ'СЛІВЫ *прым.* Дурнаваты, недапечаны (пра чалавека). *Усе дзеці як дзеці, а адзін некі ацесьлівы быў.*

БАКЛА'ЖКА *ж.* Металічная (салдацкая) пляшка. *Набяры вады ў баклажку, толькі ўперад памый, а то яна з малаком была.*

БАРАДА' *ж.* Кавалак, рэшткі недажатага збожжа. *Думалі дажынкі сёні зробім, але не ўсьпелі. Нівялічкая барада на заўтро асталася.*

БО'КСА *ж.* Бокс, кулак. *Як дам зарас боксы.*

БО'РДЗІНЬКО *прысл.* Хуценька, борзда. *Зьбегай, унучка, бордзінько курэй у градах паганяй.*

БО'ЎДЗЯЛО *н. экспр.* Прыдуркаваты, недаразвіты чалавек. *Пяць сыноў было і ўсе як людзі, а гэты, дык неко боўдзяло.*

БРО'СЬНЯ *ж.* Плесня на паверхні засоленых агуркоў. *Каб гурке ні порціліся, дак трэба ж бросьню часьцей зьбіраць.*

БУ'ЙДА *ж.* Няпраўда, абман.

БУ'ЛБАТКА *ж.* Бурбалка. *От плаваў хлопец, як рыба. Як дасьць нурца, дык толькі булбаткі ляцяць.*

БУЛЁН *м.* Суп з бульбы, заскварaны салам або забелены малаком. *Трэ було булёну зварыць на вечар.*

БУРА'Ў *м.* Вялікі свярдзёлак. *Тут трэба буравам дзіркі пракруціць.*

БУСА'К *м.* Багор. *Вядро ўтапіла малая, дык німа кошкі дастаць, а бусаком нічого ні палучыласё.*

БУ'ХТА *ж.* Глыбокая яма на рэчцы. *У Аксеньчынуй бухці вады па шыю, а посьлі дажджу ўтапіцца можно.*

БУША'ЦЦА *незак.* Бадацца (пра кароў). *Наша карова ні бушаяцца.*

БУШЛІ'ВЫ *прым.* Бадлівы (пра кароў). *Бушлівай карові бог рог ні дае.* (Прыказка.)

БЯЗО'ДНІЦА *ж.* Глыбокае, бяздоннае балота.

ВАЙЦЯ'ЦЬ *незак.* Гаварыць абы што, не да ладу, непатрэбнае. *За дзень высьпіцца, а ў вечар прыдзя ды вайцяя да поўначы.*

ВАРА'КСА *м.* і *ж. экспр.* Няўмека, пэцкаль, няўдаліца.

ВАЧАВІ′ДЗЕЦ *м.* Той, хто асабіста прысутнічаў пры чым-н., бачыў сваімі вачамі што-н. *Я быў вачавідзец, як ён забіў воўка і забраў ваўчанят.*

ВАШАВА′ЦЬ *незак.* Насіць што-н. вельмі цяжкае. *Цэлы дзень вашаваў камяне, а ўвечар ўсіроўно пабег у клуб.*

ВЕ′ЯЛКА *ж.* Вейка. *У яе былі сінія, сінія вочы з доўгімі чорнымі веялкамі.*

ВО′БРУЦЬ *ж.* Аброць раменная. *Бяры за вобруць каня і вядзі па разорцы.*

ВЫ′САДКІ *толькі мн.* Буракі, морква, рэдзька і пад., пасаджаныя на насенне. *Вясною садзяць на высадкі клубнямі, а не насêньням бурак ці моркаў, каб яны зацьвілі, і тагды зьбіраюць насêньё.*

ВЫЦІНА′НКА *ж.* Папяровая фіранка. *Вот даўней харошыя выцінанкі выразалі з тонкай бумагі.*

ВЯНО′К *м.* Нізка. *Вянок сушаных грыбоў. Вянок дубоваго ліста.*

ВЯРСТА′ЦЬ *ж.* Ткацкі станок. *Даўней адна, дзве вярстаці было на ўсё сяло, і ўсе ткалі па очарадзі.*

ВЯРХО′ВІЦА *ж.* Сярэдзіна верхняй часткі галавы. *Яшчэ ні стары, але на вярховіцы лысіна.*

ГАЙДА′НКА *ж.* Гушкалка. *Трэба зрабіць дзёцям гайданку.*

ГАЙДА′ЦЦА *незак.* Гушкацца.

ГАЛАШЧО′КА *ж.* Зямля без снегу, пакрытая лёдам, галалёдзіца. *У пілілаўку часамі сьнегу ні бывая, але гэдыкая галашчока, што коні нікованыя і шагу ні ступяць.*

ГАЛДУ′Н *м.* Хвароба, пры якой валасы збіваюцца ў войлак, каўтун. *Даўней, дык к знахару езьдзілі, галдун завівалі, а дактароў ніхто і ні знаў. І баяліся, і грошай ні было на іх.*

ГАЛЯЛЁТ *м.* Галалёдзіца. *Гэдыкі галялёт, што па воду ні выдзяш.*

ГАНДЛЯ′ *ж.* Гайня, стая сабак. *Ты ж позно ні хадзі, а то ціпер гандля бегая.*

ГРАДНЯ′К *м.* Высокія, стромкія сосны. *За балотам такія сосны расьлі, граднях адзін.*

ГРАСАВА′ЦЬ і ДРАСАВА′ЦЬ *незак.* Апрацоўваць пасевы грасоўкаю. *Пара ўжо бураке грасаваць.*

ГРАСО′ЎКА і ДРАСО′ЎКА *ж.* Матыка з зубцамі. *Ты зельё з большаго павырывай, а пасьлі грасоўкаю пацягні і чысто будзя.*

ГРАЦКО'ЎЁ н. Поле, дзе расла грэчка. *Пасадзілі на грацкоўі картофлі бяс гною, дык нічого й ні накапалі, зямля пустая посьлі грэчкі.*

ГРЭ'БЕНЬ *м.* Верх страхі, які высцілаецца кастрыцай. *У самум грэбяні страха пацякла.*

ГУЗЫ'Р *м.* Ніжняя частка снапа. *Мэндлік — гэта ставяць дзевяць снапоў у кучку, а дзісятым, гузыром уверх, накрываюць.*

ГУТАТА'НКА *ж.* Гушкалка. *Зрабі ты дзецям у хаці гутатанку, а то на дварэ холадно гуляць.*

ГУТАТА'ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Завяжаш, бывало, за бэльку вяроўку, і гутатаюцца дзеці цэлы дзень.*

ГЭ'МКА *ж.* Гатунак жоўтай бульбы. *Вот гэмка была смашная дайней, ціпер яна, мусіць, зьвялася.*

ДЗЫ'НДРА *ж.* Дрэнная, неўрадлівая зямля.

ДЗЮ'ЖЫЦЬ *незак. экспр.* Біць.

ДЗЯНЯ'ШНІ *прым.* Які бывае днём, удзень. *Дзяняшняё малако. Дзяняшняя пара.*

ДРАПІЦАВА'ЦЬ *незак.* Скакаць, таптаць што-н. *Чаго вы драпіцуеце па пасьцелі?*

ДРУЗ *м.* Дробна пабітая цэгла, каменьчыкі і living розпае смецце.

ЖЭ'РДЗЁ *зборн.* Жэрдкі для агароджы. *Узяў пачыстку, дык тры возы толькі жэрдзя прывёз, а сколькі дроў і галья.*

ЗА'ЗІМАК *м.* Пачатак зімы, калі выпадзе першы снег.

ЗАЙЧА'ЦІНА *ж.* Мяса зайца. *Зайчаціна смашная, калі яе добро вымачыць.*

ЗАХЛЯ'БІСТЫ *прым.* З апалымі бакамі (пра жывёлу). *Карова была старая, захлябістая й зубоў ужо ні было, але малако вёдрамі давала.*

ЗБРУ'Я *ж.* Вупраж для каня. *Брадзячыя цыганэ той год і каня і збрую ўкралі.*

ЗМЫДЛІ'НЫ *толькі мн.* Мыльная вада, у якой мылі бялізну. *Калі змыдліны ні вельмі гразныя, то можно й пол памыць імі, яны ж мыльныя.*

ЗУБАВА'ТЫ *прым.* Сыры, недавараны, цвёрды на зубах (пра крупы). *Зубаваты панцак, трэба больш паварыць.*

ЗУБАВА'ЦЬ *незак.* У выразе *зубаваць яйцо* — прабаваць, ці моцнае яйцо, стукаючы вострым канцом аб зубы.

КАМЯКЕ́′ *мн.* Тоўчаная бульба з салам або з маслам. *Намяла камякоў, наварыла заціркі, есьця, хоць паразпяразвайцяся.*

КАНЧА′Р *м.* 1. Раменная ці вяровачная частка пугі. 2. Канец. *Адрэзала канчар палатна, зрабіла скарач, добро будзя рукі выціраць.*

КАПАНІ′ЦА *ж.* Яма на месцы выкапанага торфу, часта запоўненая вадой.

КАРКО′ВІНА *ж.* Сала або мяса каля шыі. *З карковінаю вельмі ж смашно бурачке варыць.*

КАРТАФЛЯ′НІШЧО *н.* Поле, дзе расла бульба. *На картафлянішчы пасеялі жыто.*

КАРТАФЛЯ′НІКІ *мн.* Бліны з дранай бульбы. *Напякла картафлянак, наварыла супу, на цэлы дзень хваціць яды. А я дык люблю картафлянікі толькі сьвежынькія с сьмятанаю.*

КАРЭ′МУСЛО *н.* Каромысел. *С карэмуслам лягчэй воду насіць, але ж ні кажды ўмея, другая і самая абальецца і воду ўсю разальe.*

КАСЬЦЯЖЫ′ЦЬ *незак. экспр.* Моцна біць, нішчыць каго-н., што-н.

КАЦА′ *ж.* Тупы канец яйца. *Трэба зубаваць з носіка яйцо, а ні кацу. Каца ні крэпка.*

КІ′ШКІ *мн.* Мякаць гарбуза з насеннем. *Гарбузэ гэты год пустыя, адны кішкі.*

КУ′ДЗЕРКА *ж.* Кавалачак недажатага збожжа, барада. *Цікаво, чыя ж гэта нівялічкая кудзерка асталася нідажатая.*

КУЦЬЯ′ *ж.* Крупы ячменныя, патоўчаныя ў ступе, а таксама каша з гэтых круп. *Даўней у пiліпаўку усе куцью таўкуць, у каждуй хаці стукаюць. Наварыла куцьі з салам.*

ЛУГО′ВІЦА *ж.* Пара касьбы. *Ціпер тае́ луговіцы й ні бачыш. Камбайнам скорынько скосяць дый высушаць за не́скулькі дзён.*

ЛЮТАЕ′ГА *м.* і *ж.* Той, хто дрэнна есць. *Большынькі нічого хлопчык, а малы такі ж лютаега.*

ЛЯДА′ЧЫ *прым.* Злы, нягодны. *Такі ўжо лядачы хлопец быў малы, ні дня ні ночы ні было зь ім.*

МАЙНА′ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, без толку. *Што ты майначыш?*

МАЛАТЧА′Й *м.* Малачай. *Малатчай парасятам добро, а ў каровы малако го́ркаё ад яго.*

МАЛМЫ'ГІ *мн.* Скулы на твары. *Худы, худы, адно малмыгі тырчаць.*

МАРҚАВЕ'НЬЁ *н.* Лісце морквы. *Бацьвіньё дык хоць парасятам укіняш, а маркавенья ж ніхто ні есць.*

МАХРЭ' *мн.* Қанцы асновы, якія застаюцца на канцы недатканага палатна. *Са зрэбнаго палатна, калі аставайсё кусочак, рабілі скарач з махрамі.*

МО'РҚАЎ *ж.* Морква. *Моркаў вельмі ж добро садзіць паміж гурочкаў.*

МУШТЫ'Қ *м.* Муштук. *З муштыком курыць, дык хоць пальцы ні жаўцеюць.*

НА'ВАЛАЧ *ж. зборн. экспр.* Чужыя людзі, перасяленцы.

НАПУ'ГАЦЦА *зак.* Напіцца многа. *Ні пугай ты столькі вады, а то напугаешся, будзя жывот балець.*

НАСТРАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Падвучыць. *Ён сам бы такого ні сказаў. Гэта яна яго настрапаліла.*

НЯДО'ШЛЫ *прым.* Хваравіты, слабы. *Старая ўжо была, нядошлая.*

НЯМО'ГЛЫ *прым.* Слабы, бяссільны, хваравіты. *Ён увесь век нямоглы, але пражыве да ста год.*

ПАДБО'Й *м.* Сухі мазоль на падэшве. *Летась як быў падбой на назе, ні магла ні абутая ні разутая ступіць.*

ПАДЗІМА'НЫ *прым.* У выразе *як падзіманы* — тоўсты, адкормлены (пра чалавека). *А хлопец як падзіманы.*

ПА'ҚАЛАҚ *м.* Невялікая палка, кій. *Зараз як дам пакалка.*

ПАЛÔЙҚА *ж.* Жменя атрапанага або ачасанага льну. *Сколькі я там трапала, дзесяць палояк атрапала і абедаць пара.*

ПАМЯТУ'ШЧЫ *прым.* Той, хто добра помніць. *Ото ш памятушчая гэта старая.*

ПА'СІТАҚ *м.* Рэшата для падсявання збожжа. *Пасітак парвайсё, трэ було б новы купіць.*

ПАСО'ЛЬНІҚ *м.* Лісце і сцяблы фасолі. *Пасоля збуяла летась, уся ў пасольнік пашла, струкôў пашці што ні было.*

ПАТАЛЯ'ЦЬ *незак.* Патураць. *Ты толькі паталяй ім, дык ні адвяжашся.*

ПАТО'ЛЯ *ж.* Патаканне. *Дзецям німа чаго даваць патолі.*

ПАТРУ'ХА *ж.* Пацяруха ад сена, саломы.

ПАЎКА′РКІ *толькі мн.* Невялікія сані, якія прывязваюцца ззаду да асноўных саней, калі перавозяць доўгія дровы або лес, жэрдкі.

ПАЦЯ′ЖЫНА *ж.* Лагчына. *Там за ляском у пацяжыне каждую вясну вада стаіць.*

ПЕРАХО′Д *м.* Эпідэмія якой-н. хваробы (не цяжкай). *Пераход як пачнецца ужо, дык усіх перабярэ.*

ПЛІШЧ *м.* У выразе *плішчом лезьці* — сілай лезьці, з нахабствам плішчыцца.

ПЛЮШЧА′Й *м.* Расліна, падобная на аер.

ПЛЯ′ЎКА *ж.* П'яўка. *Помніш, як мне пляўка ў нагу ўлезла?*

ПО′ДПІСКА *ж.* Шрам на скуры каровы, зроблены рогам другой каровы. *Наша Красуля зрабіла подпіску вашай Галцы.*

ПРАЖО′РЛІВЫ *прым.* Пражэрлівы. *Пасадзіла б качак, дык ні набрацца корму, яны ж гэдыкія пражорлівыя.*

ПРЫ′МАРАЗКІ *мн.* Замаразкі. *Гэты год прымаразкі ішчэ да пакроў началіся.*

ПРЫ′ШЧЫЦЦА *незак. экспр.* Пячыся, грэцца на вельмі гарачым. *Чаго ты прышчышся на слонцы? Галава будзя балець.*

ПРЫ′ШЧЫЦЬ *незак.* Пячы, грэць на гарачым. *Атсунься ад агню, рукі не прышч.*

ПУ′ГАЦЬ *незак.* Многа і часта піць. *Пугаць воду.*

РА′ДЗІ *прыназ.* Дзеля. *Я прышла толькі радзі цібе.*

РА′ЖАЧКА *ж.* Драўляная пасудзіна, у якой рашчыняюць бліны. *Ражачка на алаткі лепш дубовая. Тады і кісьля прыятная.*

РАЗА′К *м.* Піла папярочная. *Як разак вострьг, дык адно апілкі ляцяць, а йшчэ як сасна сухая альбо ёлка.*

РАЗБАЗЭ′РАЦЬ *зак.* Распусціцца. *Разбазэралі вы тут, біць некаму вас.*

РАСПУСЦІ′ЦЬ *зак. безас.* Растаяць. *Пакуль не распусьціло дарогі, трэ було б дроў прывязьці.*

РЫ′МАСЦЬ *ж.* **Нервознасць, злосць.** *Вот нека рымасць напала на яе, плакаць хочацца, сварыцца с кімнебуць.*

РЫМЕ′ЦЬ *незак.* Капрызіць, нерваваццa, злавацца. *Чаго ты рыміш? Чаго табе ні хватая?*

РЫ′НКА *ж.* Чыгунная пасудзіна з доўгай ручкай і на ножках, у якой вараць верашчаку. *Вот у рынцы вера-*

*шчака, ні тоё, што ў гаршку ці каструлі, саўсім другі смак.*

СВАЦЕ'Я *ж.* Свацц404. *Мікола дачку аддае. Цібе ж, мусіць, за свацею прасілі? Калі мой сын жанаты на Ганнінай дачцэ, дык Ганна мне сваццяю прыходзіцца.*

СВЕЖАНІ'НА *ж.* Свежае мяса. *Міне сёні на свежаніну суседка прыглашала.*

СВОЙ *м.* Скрутак выбеленага палатна. *Нявестка наша толькі аднаго палатна дванаццаць сваёў прынясла, а сколькі ўсялякай адзежы.*

СҚАВА'ЦЬ *незак.* Цкаваць. *Хай толькі прыдзя к нам, дык я яго сабакамі скаваць ні буду, а памыямі абалью.*

СҚАВЫ'Ш *м.* Скразняк; вельмі халодны, пранізлівы вецер. *Ні стой на скавышы, схавайся ў заціішак.*

СҚА'ЦІСТЫ *прым.* Пакаты, спадзісты. *У нас на рэчцы адзін берах скацісты, а другі абрывісты.*

СҚÔ'ГЛІЦЬ *незак. экспр.* Скуголіць. *Ці вы гэтага сабакі ні корміця ці што? Чаго ён скôгліць дзень і ноч?*

СҚУПЯНДЖА' *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *У гэтаго скупянджы зімою лёду ні дастаняш.*

СЛО'НЦО *н.* Сонца. *І зімою слонцо сьвеціць, ды ні грэя.*

СМУГА' *ж. рэдк.* Вузкая палоска зямлі.

СМЫРО'ДНІҚ *м.* Чорныя парэчкі. *У іх увесь агарод абсаджаны смыроднікам. Летась сабралі пяць вёдзяр смыродніку, а гэты год толькі тры. Дажджу ні было, усё высушыло.*

СНО'ЎНІЦА *ж.* Прыстасаванне, на якім снуюць кросны. *Сноўніцы бываюць круглыя і сцянныя.*

СПАНА'ТРЫЦЬ *зак.* Знайсці, выведаць, знюхаць. *Яна ўжо як спанатрыць, дзе ляжаць цукеркі, дык ніводнай ні пакіня, усе вывудзіць.*

СПРАҚУ'ДЗІЦЦА *зак.* Страціць давер'е чыё-н. *Нешто ён мне спракудзіўся, ні веру я яму.*

СПРЭС *прысл.* Зусім. *А дачушка — спрэс маці.*

СПУ'ШЫЦЬ *зак.* Уздуць (пра карову, якая аб'елася зялёнай канюшынай, сырой бульбай і пад.). *Карову спушыло.*

СТАГА'Н *м.* Сараканожка. *Стаганэ вельмі ж любяць вадзіцца ў сырых месцах.*

СТАЛЯНІ'ЦА *ж.* Адна дошка ў столі. *Сталяніца правалілася, трэба правіць, а то зараз кастрыца ў хату будзя сыпацца.*

СТАЎПЕ'Ц *м.* Брусок у граблях, куды ўстаўляюцца зубы. *Стаўпец ішчэ крэпкі, толькі зубы памяняць трэба, і будуць добрыя граблі.*

СТРЫ'БАЛКІ *мн. экспр.* Тонкія ногі. *Як будзеш бегаць па градах, дык стрыбалкі паперабіваю.*

СУ'ДАЧКІ *толькі мн.* Вузкае месца паміж дзвюма пабудовамі. *У судачках нават і крапіва ні расьце.*

СУДЗІ'НА *ж.* Вельмі вялікая бочка, у якую даўней ссыпалі збожжа. *Каб гэту поўну судзіну жыта насыпаў, то хваціло б на ўсю зіму.*

СУКА'ЦЬ *незак.* Навіваць ніткі пры дапамозе сукала. *Сукаць цэлкі.*

СУ'РАМЯТКА *ж.* Раменная ці вяровачная частка пугі.

СЯГО'НЯЧЫ *прысл.* Сягоння.

СЯЛЯДО'РШЫ *прым.* Сярэдні (пра дзяцей, братоў, сясцёр). *Меншы вярнуўсё з вайны, а пра сялядоршаго й па сённяшні дзень нічого ні чуваць.*

ТА'РКІ *мн.* Прыстасаванне ў млыне для вырабу круп.

ТЛУ'СТАСЦЬ *ж.* Жыр, тлушч ператоплены.

ТО'ПКІ *прым.* Такі, з якога многа тлушчу пры смажанні. *Топкаё сало.*

ТРАПА'ШКА *ж.* Падстаўка, якой карыстаюцца пры трапанні льну. *Трапашку часам называюць стаўпец.*

ТРЭЙЦІ *ліч.* У выразе *трэйцяя нядзеля* — трэцяя квадра месяца, сход. *Пагода спорцілася. Гэта ш, мусіць, трэйцяя нядзеля настала.*

ТУ'ПКІ *прым.* Цвёрды, утаптаны (грунт). *Ні йдзі па гразі, тут жа есьць тупкая сьцежка.*

ТУ'ПКО *прысл.* Калі пад нагамі цвёрды грунт. *Тут жа тупко, ступай сьмело.*

УДУ'РБАЦЬ *зак.* Убіць у галаву, зацвярдзіць што-н. *Як удурбая што-небудзь, дык будзя гаварыць цэлы дзень.*

УЗДУ'ХА *ж.* Невялічкі ўзгорак, пераважна неўрадлівы. *Тая ўздуха ўсягда пуставала, на ёй ніколі нічого ні расло.*

УТРАПАВА'ЦЬ *зак.* Даведацца, скеміць, узяць троп. *Здаецца й ні слухала, а ўтрапавала, што пра яе гаварылі. Калі ўжо, бывало, карова ўтрапуе ў шкоду хадзіць, дык яе ніяк ні адвучыш.*

УТРАПЕ'НЬЁ *н.* Непаседлівы, утрапёны чалавек. *Куды ўжо гэто ўтрапеньё дзеласё?*

ФУТРЫ́НА *ж.* Бакавая частка асадкі акна. *Футрыны другія зрабілі ды падрубы зьмянілі — хата, як новая стала.*

ХВО́СТ *м.* Доўгі кавалак палатна, прыгатаваны для бялення. *Пяць хвастоў палатна выбяліла на сьнезе, ішчэ лепш як увясною на рэчцы.*

ХІБАВЫ́ *прым.* Які знаходзіцца на хібу. *Хібавое сало самаё тоўстаё.*

ЦІХО́М *прысл.* Ціха. *Сядзі ціхом.*

ЦУ́НТАР *м.* Маленькі кавалачак, асколачак. *Толькі ўключыў сьвет, дык лампачка — трэсь і на цунтары разьляцелася.*

ЦЫБУ́Р *м.* Кветканоснае сцябло цыбулі. *Дзеці вельмі любяць цыбурэ.*

ЦЭ́ЛКА *ж.* Драўляная трубачка, на якую навіваюць ніткі для ткання. *Сукаць цэлкі.*

ЧАСНЫ́К *м.* Часнок. *Часнык трэба садзіць на зіму, тагды ён лепшы, галоўкі большыя растуць.*

ЧВЭ́РЫЦЬ *незак.* Вытвараць. *Што ты там чвэрыш? Успакойся.*

ША́РАЯ ГАДЗІ́НА. Час пасля заходу сонца да цемнаты.

ША́РЫ *прым.* Шэры. *Недзя наш шары кот прапаў. Ці яго хто забіў.*

ШКА́ФЧЫК *м.* Кухонны столік з двумя створкамі і шуфлядай.

ШЛАБА́Н *м.* Драўляны тапчан, на якім сядзяць ці спяць і ў які можна складваць адзежу. *Пасьцялі яму на шлабане. Хай сьпіць.*

ШЧАВЕ́Й *м.* Конскае шчаўе.

ШЧАТКЕ́ *толькі мн.* Прылада для часання льну. *На шытныя ніткі посьлі шчаткоў лён часалі ішчэ грэбяням альбо шчоткаю.*

ШЫТНЫ́ *прым.* У выразе *шытныя ніткі* — тонкія, роўныя ніткі спецыяльна апрацаваныя для шыцця.

ЯЁРКА *ж.* Вавёрка.

*І. І. Крамко*

# МЯСЦОВЫЯ СЛОВЫ АДНОЙ ПРЫНЁМАНСКАЙ ГАВОРКІ (іменная лексіка)

Словы, якія падаюцца ў гэтым артыкуле, сабраны пераважна ў вёсцы Бéражна (мясц. Бéражан і Бéражно) Карэліцкага раёна, якая знаходзіцца за семнаццаць кіламетраў ад Стоўбцаў уніз па цячэнні Нёмана. Гэта самы ўсходні пункт сучаснай Гродзенскай вобласці.

Па мясцовай гаворцы Беражна можна аднесці да цэнтральнай дыялектнай зоны Беларусі. Таму вялікіх адрозненняў у слоўнікавым складзе гаворкі гэтай вёскі ад слоўніка літаратурнай мовы не назіраецца. Гэту гаворку ў беларускай літаратуры на пачатку новай пісьменнасці прадстаўлялі П. Багрым, В. Каратынскі і Я. Чачот, затым класік нашай літаратуры Якуб Колас, а зараз яе прадстаўляе Янка Брыль і інш. Тым не менш у гэтай гаворцы ёсць пэўная колькасць слоў, якія не ўвайшлі ў літаратурную мову. Пераважная большасць з іх не належыць да ядра слоўніка. Часткова гэта назвы такіх рэалій, якія сёння малавядомы або зусім выйшлі з ужытку, часткова словы, звязаныя са спецыфікай працы і побыту жыхароў гэтай мясцовасці, а таксама словы з эмацыянальнай афарбоўкай. У артыкул уключана апелятыўная іменная лексіка (назоўнікі і прыметнікі), якая не зафіксавана «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962). Не ўключаны толькі словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных не семантыкай, а фанетыка-марфалагічнымі асаблівасцямі, напрыклад: *габдзю́р* — кіпцюр, *галдýн* — каўтун, *жывасíл* — дзівасіл, *ýімяло* — амяла, *пляўка* — п'яўка, *цяляпéй* — цяльпук, *цырýбалка* — цурбалак, *шэ́рсьцянь* — шэршань, *яёрка* — вавёрка, *ярабéй* — верабей, *ярабíна* — рабіна, *ярбалóзіна* — вербалоз і пад. Апушчаны таксама словы, якія ў іншых гаворках могуць ужывацца з агульным значэннем, а ў в. Бéражна адзначаюцца толькі як уласныя назвы накшталт *Воступ, Гні-*

*ліца, Пропашы, Церабеж.* Не ўключана і вялікая колькасць рэгіяналізмаў, якія ўвайшлі ў мову жыхароў Бéражна ў час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польскай дзяржавы (да 1939 г.). Гэта такія словы, як *высьціґі* — спаборніцтвы па бегу, *выцінáнка* — папяровая фіранка з выразанымі ўзорамі, *вятрóўкі* — басаножкі, *лю́фцік* — фортачка, *маќáтка* — вышываны дыванчык на сцяну, *нáрты* — лыжы, *пату́чкі* — лічыльныя палачкі, *пóхва* — ножны для кінжала і шаблі, *рахункóвы* — у клетачку, *рóвар* — веласіпед, *спу́лка* — таварыства, *фáйны* — прыгожы, добры і многія іншыя, якія шырока ўжываліся раней бадай-што ва ўсіх кутках былых «Крэсаў усходніх» і працягваюць ужывацца яшчэ цяпер.

Паколькі рэестравыя словы і прыклады падаюцца ў фанетычным напісанні, то для правільнага разумення структуры некаторых слоў варта помніць і пра шырока вядомыя ў беларускай мове фанетычныя з'явы (аканне, асіміляцыя і інш.), а таксама мець на ўвазе і некаторыя мясцовыя гукавыя асаблівасці гэтай гаворкі, перш за ўсё тое, што ёй характэрна няпоўнае аканне *(пóсілно, грацкóўё, тамавáньнё, шэ́ншало),* моцнае поўнае яканне *(абнóлятак, апшарпáняц, бярагу́лька, пярахóтка),* пераход *к* ў *г* выбухное ( *грэ́сьво, пашчэ́н га, разгірáка*).

АБДЗЯРГІ'ТУС *м.* Абдзірала. *Дáрмо ён нічóга ні бу́дзя табе рабіць, абдзяргітус такі — за ўсё злупіць плату.*

АБНО'ЛЯТАҚ *м.* Парастак гэтага года. *Яблына дóбро прынялася — вунь якія абноляткі, верхнія па паўмэтра вырасьлі.*

АБО'ЛДУС *м. абразл.* Асталоп. *Аболдус гэдакі — па два годы ў кáждум клáсі сядзіць!*

АБЭ'РЖА *ж. абразл.* Вялікая абжорыстая кабыла ці конь. *Абэржу гэту ўкарміць цяшко, а цягня — ні вельмі.*

АНО'ДЫМ *м.* Эфір. *О! Раман як быў маладу, здóраво піў. Бывáло, як прыгонім плытэ́ ў Грóдзян, палучым рашчот, дак Раман купіць і вып'я зарáс паўкручкá анодыму.*

АПАЧЫ'НА *ж.* Вялікае вясло, устаноўленае на першай лаўцы плыта для кіравання ім.

АПСМЫ'ҚАНЫ *прым.* Паабскубаны. *У гэ́тага каня хвост некі апсмыканы, што і авадне́ ке́пско ганяць.*

АРЭ'Й *м.* Аер. *Плюсняк каровы дóбро ядуць і так і ў се́ццы, а арэ́ю — не. Ён толькі на патсьцёл гадзіцца.*

АТВО'Й *м.* Месца ў рэчцы, дзе пасля якога-н. выступу ў беразе (куст, вялікі корч і інш.) вада цячэ супраць асноўнага цячэння, утвараючы ціхую завадзь. *На быстрыні рыба на вуду ні вельмі ловіцца, а ў атвóі — лепш, і прынáджваць мóжно.*

АЧА'Й *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў і млына, куды засыпаецца зерне. *З ачаяँ ніколі ўсё пад кáмянь ні выходзіць, са жменя астаецца.*

БАБАРУ'К *м. жарт.* Падростак, падшыванец.

БАБЗДЫ'Р *м. абразл.* Мужчына, які ўхіляецца ад мужчынскай кампаніі і больш знаходзіцца ў жаночай.

БАМБЭ'ЛКА *ж.* Шарык. *Усялякіх бамбэлак на ёлку паначаплялі.*

БАРБА'РА *ж.* Тоўсты канат з вітак з завостранай палкай на канцы для тармажэння плыта. *На шрыгу плыт ставяць ужо як ён спыніцца, а спачатку заднíк выскáкая на берах і прыпыняя яго барбáраю.*

БІКА'Н *м.* Вялікая выбоіна ў каляіне. *На санях мнóго было наклáдзяно, пóлас заваліўсё ў бікан, а кабыла як тузянула, дак зáвярацянь і парвáўсё.*

БІ'МБАС *м. зневаж.* Вялікі гультаяваты падростак. *Гэдакі вéлькі бімбас вырас, а бацьку ні памагáяш!*

БРЫ'ЦА *ж.* Пустазелле. Расце невысокім кусцікам прадаўгаватых лісточкаў, плод — цыліндрычны касматы каласок на доўгай ножцы. *Брыца любіць пяшчаную зéмлю: нават там, дзе пырнік ні хоча расьці, брыца расьце. Яе вельмі любяць авечкі, бо салоткая.*

БРЭ'НЗЬЛІ *мн.* Махры. *Раней да настольнікаў самі рабілі брэнзьлі.*

БУГАЕ' *мн.* Буякі. *Бугае толькі ў вóмшары растуць, а на сухом — не.*

БУ'ЙДА *ж.* Фальшывая вестка. *Не, гэ́то ні прáўды, што яго патпалілі, нéхто буйду пусьціў: гнаў самагонку і загарэлася хата.*

БУ'ЧА *ж.* Закрыты кошык у выглядзе прадаўгаватага шара з невялікім вечкам. *У бучы ні толькі рыбу ў Нёмні навязваюць, але дóбро і каўбáсы на гары трымаць: і правéтрываюцца, і катэ́ ні дастануць.*

БЯРАГУ'ЛЬКА *ж.* Ластаўка, якая робіць гнёзды ў берагах ракі.

ВАЗЮ'Р *м.* Хлопчык, які любіць многа катацца на санках ці каньках. *Вазюр такі, дай санькам аддыхнуць! І самому пара палоднаваць.*

ВАЛАНЦА'Й *м. зневаж.* Валацуга. *Ён такі валанцай, што цэлы дзень дадому ні заганяяцца, усё каля конюхаў сціраяцца.*

ВАЛЯНТО'ВЫ *прым.* Хворы на белую гарачку. *Ні чапай яго, бо ён як валянтовы, часто ні помніць, што робіць!*

ВА'ХТА *ж.* Хваля. *Як разгайдаяш чайку, дак ад яе вахта ідзе.*

ВІРО'Қ *м.* Палачка са скразной дзіркай, якая служыць для навівання нітак на клубок. *Зь віркóм і скарэй навіваць і пальцы ні парэжаш.*

ВО'БУЙ *м.* Абутак. *Пачтальён мнóго вóбуі за гот саб'е.*

ВО'БЯДЗІ *мн.* Невымалачаныя каласы, якія аддзяляюцца пры веянні збожжа. *Сечку дóбро з абядзямі мяшаць: намнóго лепш конь есьць.*

ВО'ЛІҚ *м. зневаж.* Гультай. *Волік ты! За гэты час ужо мóжно было ўсё парабіць, а ты пацягаясься!*

ВО'МШАР *м.* Лясное балота. *У вомшары трава ні смашная: каровы ні хочуць хадзіць і сéно ні вельмі ядуць.*

ВО'САҚАРАНЬ *м.* Ясакар. *Восакарань вéлькі расьце: на старой дарóзі быў такі, што і ўтраіх ні абнялі п.*

ВО'ШУСТ *м.* Ашуканец. *Вошуст гэ́дакі любóго правядзе, а свайго даможацца.*

ВЯРСТА'ЦЬ *ж.* Варштат. *Бязь вярстáці сталяркаю займацца німа як.*

ГАЙДА'НҚА *ж.* Гушкалка. *Раней зімою дзеці мáло на дварэ гулялі, а зробім гайданку ў хаці — і гайдаюцца цэлы дзень.*

ГАҚ *м.* Пакаты пясчаны бераг ракі. *Цяпер дзеці мáло каля дома памагаюць, а цэлымі днямі, як пагода, на гаку гуляюць, купаюцца.*

ГАЛАПУ'ПЯЦ *м.* Галапузы, дрэнна адзеты.

ГАЛАЎНІ'Қ *м.* Плытнік, які стаіць у пачатку плыта, за *апачынаю* і кіруе плытам. *Галаўнікý трэба дóбро рэчку знаць, дзе града, дзе сала, кап плыт ні пасадзіць ці ў берах каб ні занясло́.*

ГАЛЫШАНЯ' *н.* Птушаня, якое яшчэ само не харчуецца. *У том гнязьдзе галышанята ўжо вéлькія, у пер'і, скóро будуць лятаць.*

ГАЛЭПКА *ж.* Камячок, галушка. *Дзеці на гаку дóбро гуляюць: і купаюцца, і галэпкі, домікі лепяць.*

ГА′ЛЯП *м.* Галас. *Чаго ты тут галяпу нарабіў? Ні бойся!*

**ГАРДЗЕ′ЛЬ** *м.* Канат з лазовых вітак, які выкарыстоўваўся для звязвання лавак плыта. *Раней ні дроту, ні лінак ні ведалі, толькі гардзялямі зьвязвалі плыт.*

ГАРТО′ЛЬ *м.* Завостраны кол, які прывязваецца да канца *гардзяля* і ўжываецца для тармажэння плыта з берага.

ГАРШЧЭСЬНІК *м.* Вілы для гаршкоў. *Раней гаршчэсьнікі самі рабілі с тоўстага дроту, а цяпер — толькі купленыя.*

**ГІРО′С** *м.* У выразе *кіслы, як гірос.* Вельмі кіслы. *Гэтаё яблыко кіслаё, як гірос — есьці німа як.*

ГРА′БЯЛЬКІ *мн.* Расліна бусельнік.

ГРАДА′ *ж.* Пясчаная водмель у рэчцы. *Ты асьцярожно брыдзі, бо града канчаяцца раптам, а там глыбоко.*

**ГРАДУ′С** *м.* Баразна пасаджанай бульбы, буракоў. *Раней картоплю садзілі толькі пад пагрeбашку, а цяпер — у градусы, ляхчэй і абганяць і капаць.*

**ГРА′ТКА** ж. Падвесная полка для талерак і лыжак. *У грaтку мы ставім толькі тыя міскі і лошкі, якія кажды дзень у хаду.*

ГРАЦКО′ЎЁ *н.* 1. Грэчневая салома. *С чыстаго грацкоўя сечка ні добрая, трэба з аўсянаю саломаю мяшаць.* 2. Месца, дзе расла грэчка. *На грацкоўі трэба будзя пасеяць лубін, а ні жыто.*

ГРУ′ДЗЬЁ *н.* Замёрзлыя камякі гразі ці гліны. *Па грудзьі кепско ехаць: і калёса трасе, і каню цяжэй.*

**ГРУЗВА′ЛАК** *м.* Гузак пад скурай. *Я ўжо быў і забыўсё, што выцяў бок, а цяпер некі грузвалак палучыўсё і ні праходзіць.*

**ГУ′РАСЬЦЬ** *ж.* Пад'ём у назе і абутку. *Яму цяжко боты дабраць, бо гурасьць велькая.*

ГУРКАВЕ′НЬНЁ *н.* Агурочнік. *Гуркавеньнё добраё парасло і цьвет быў, а гуркоў ні было.*

ДЗЁДЗЯ *м* і *ж. жарт. і ў мове дзяцей.* Свіння. *Трэба акуратно есьці, ато зацялёскаўсё, як дзёдзя.*

ДРАМКУ′ЛЬКА *ж.* Вялікая шраціна. *На дзіка і воўка просты шрот кепско, трэба драмкулька.*

ДРАПЧА′К *м.* Лёгкая карэта на рысорах. *У драпчакох толькі панэ езьдзілі, а ў нашуй гаспадарцы яны ні патрэбны.*

ДУБА'С *м. жарт.* Вялікі няўклюдны падлетак. *Вунь які дубас вырас, а да работы — ні вельмі, усё глядзіць, каб бáцько зрабій.*

ДУ'ЛЬКІ *мн.* Адходы пры часанні льну. *У прóшлум гóдзі лён пяраляжáў, дак мнóго дýляк палучáяцца.*

ЖУ'ЖАЛЬ *м.* Шлак, перагар. *Што каля смалярні дарога чорная, дак гэ́то жужаль высыпáлі.*

ЖЫВАРО'ТКА *ж.* Маленькая жабка, якая з'яўляецца ў другой палавіне лета; лічаць, што яна выводзіцца не з ікры, а нараджаецца.

ЖЫ'ЦІЦА *ж.* Пустазелле, падобнае да пырніку, але мае двухгранны колас. Расце пераважна ў пшаніцы.

ЖЭ'МЯРАЦЬ *ж. Р.* жэ́мяраці. Драбяза (аб дзецях). *Дзе ты жэмярацъ гэту ўпіднýяш, кáждаё наровіць кап куды ўлесьці.*

ЗАВУ'САК *м.* Вялікі *атвой,* заточына.

ЗАДНІ'К *м.* Плытнік, які дапамагае кіраваць плытам, стоячы ў канцы яго. *На плёсі задніку німа чаго рабіць, а ў нартóх яму ні ляхчэй, як галаўнікý.*

ЗАЗІ'МІСТЫ *прым.* Так гавораць пра свойскую жывёлу, якая, нягледзячы на добры догляд, з зімы выходзіць вельмі худая.

ЗАМЭ'РЛЫ *прым.* Заморкавы. *Нашто ты бярэш гэ́таё замэ́рлаё кацяня — заразы набярэсься!*

ЗАЦУ'ХЛЯНЫ *прым.* Замусолены, запэцканы. *Трактарысту ні кéпско, але заўсю́ды ходзіць зацухляны.*

ЗМЫ'ДЗГАНЫ *прым.* У выразе *як змыдзганы.* Як памыямі абліты. *Ён думаў, што я нічóга ні ведаю, а я выламсыла ўсё ў вочы, дак пашоў, як змыдзганы, нават ні аказáўсё.*

ЗЬВЯНЧА'К *м.* Вобад са звенняў. *Гнутыя абадэ́ мацнейшыя, як зьвянчакé, бо ні рассыхаюцца і ні рашáтваюцца.*

КА'ДАЎП *м.* Комін. *Раней кадаўбэ́ з досак рабілі, а пазьней сталі ўстаўляць дóўгаё цéрло, каб з мэтар было нат страхою.*

КАЗА' і КО'ЗАЧКА *ж.* Падсанкі. *На сані кладуць камéль дзеравякі, а на козачку — вяршыну.*

КАКО'ШКА *ж.* Своеасаблівы кранштэйн для пашырэння лавы, каб на ёй можна было паслаць пасцель.

КАЛМЫ'К *м.* Касмыль. *Пара ўжо стрыхчы авечкі, бо воўна ў калмыкé пазьбіваяцца.*

КАЛЬБЕ́ЛЬ *ж.* Падвесная калыска. *Ён, як пачаў на ногі станавіцца, ні адзін рас с кальбе́лі выва́льва́ўсё.*

КАМПО́Р *м.* У выразе *як кампор у ваду*—бясследна. *Прапаў, як кампор у ваду — і сьледу ніякага німа.*

КАРАБА́Н *м.* Складка на скуры, матэрыі, зморшчына. *Ат старасьці ў яго ўжо шкура ў карабанэ́ пабралася.*

КАРБ *м.* Гадавое кольца на розе каровы. *Каня па зубо́х пазнаюць, ці стары, а карову — па раго́х, колькі карбоў — столькі год.*

КАРБО́ВАНЫ *прым.* Цiснёны. *Для кветак трэба карбованая бумага, бо з гла́ткаі кепскія палучаюцца.*

КАТЭ́ *мн.* Невысокія, пашытыя на ваце валёнкі з апухай, якія насілі звычайна ў хаце.

КАШАПЛЁ́Т *м.* 1. Той, хто пляце кошыкі. 2. *перан.* Выдумшчык. *Толькі слухай гэ́тага кашаплёта — ён табе нагаворыць сорак бочак арыштантаў.*

КАШТАЛО́М *м.* Ліха. *Каштолом некі ўбіўсё — за адзін гот сьвіня́ здохла і жарабя пярэзімак.*

КІ́ТКА *ж.* Гронка. *Ярабі́ны і каліны ве́лькімі кіткамі растуць.*

КЛЁ́МБЫ *мн.* Абутак з закрытым верхам на драўлянай падэшве. *У вайну многія клёмбы насілі. З брызенту або са старых бацінак пярадэ́ прыбівалі да вы́разанаі зь дзерава падэшвы і насілі.*

КЛЫ́ПША *м.* і *ж.* Кульгавы чалавек. *Пакуль гэтая клыпша дачыкіля́я да Жыко́барка, дак і со́нцо зо́йдзя.*

КНЭ́ПЯЛЬ *м.* Драўляная шпілька, якой прымацоўваюць да папярэчкі бярвенні ў плыце. *Кнэпляў с крыво́го дзерава ні нако́ляш.*

КО́ХЛІК *м.* Коклюш. *Раней дзеці бо́ляй кохлікам хварэлі, як цяпер, бо лякарстваў ні было.*

КРУЧКАВА́НКА *ж.* Вяровачная пуга, звітая асобым спосабам. *Кручкаванка мацней б'е, як су́рамятная, асо́бянно мокрая — яна становіцца як драцяна́я.*

КРУЧО́К *м.* Старая мера вадкасці (і пасудзіна), роўная 1/8 літра.

КРЫВУ́ЛЯ *ж.* Зробленая з крывога камля дэталь, да якой прымацоўваюцца дно і бакавыя дошкі лодкі. *Я зрабіў чайку на чатэ́ры крывулі.*

КРЫЖАВА́НКА *ж.* Парода дзікіх качак. *Крыжаванкі большыя за цыранак.*

КРЫШЭ́НЬ *м.* Скрыль. *Пакрышы картоплю, але малымі крышаня́мі, кап скарэй зварылася.*

КУ'ДЗЯРКА *ж.* Узлесак, лясок. *Ідзі просто на тую вунь кýдзярку лесу, а там павéрняш напрáво.*

КУРА'Ч *м.* Гермафрадыт. *На Лýжы была адна, што білася с хлопцамі за дзéўчыну; казалі, што яна курач.*

КУ'РДА *ж.* У выразе *кýрду гнуць* — нагнуць уніз галавой і набіць. *Атчапіся! Бо сагну курду!*

КУРДУ'ПЯЛЬ *м. зневаж.* Чалавек нізкага росту. *Тыш сам на каня ні залéзяш, курдупяль такі!*

КУЦУ'К *м.* Касмыль. *Рашчашыся, ато валасэ́ некімі куцукáмі пабраліся! У людзі гэдак брыткo ісьці.*

ЛАБАЗА' *ж.* Сцяблы ад буйной травы. *Што гэто за сéно? Адна лабаза, яго ні конь, ні карова ні хоча есьці.*

ЛАГО'ШЫ *мн.* Прыстасаванне для пашырэння саней, каб на іх можна было пакласці больш сена, саломы.

ЛА'ЎКА *ж.* Звяно плыта. *Як вада вéлькая, дак і плыт даўжэйшы вяжуць — на лавак дванаццаць.*

ЛЕ'ЙКА *ж.* Яйка без шкарлупіны, вылівак. *Мусіць нéхто выцяў курыцу, бо пачала лейкі ліць.*

ЛІ'НІЯ *ж.* Прасека. *Як бýдзяш трымацца лініі, дак і ў вéлькум лéсі ні заблудзісься.*

ЛЭ'ПСКІ *прым.* Ладны. *Ён ні зявай, лэпскі кусок ухваціў.*

МАГУ'ЛІНКА *ж.* У выразе *ні на магулінку* — ні на ёту. *Ого, ён табе ні на магулінку свайго ні папусьціць!*

МАЗЕ'ПА *м.* і *ж. зневаж.* Разява. *Мазепа ты, куды ты пазірáяш? Вунь карова ў шкóдзі!*

МАХНУ'ШКА *ж.* Галавешка. *Ні патушылі хаты і хлява — адны махнушкі асталіся.*

МЭХ *м. жарт.* Чалавек, які імкнецца паласавацца чужым з дапамогай хітрыкаў. *Які ты мэх! За гэту ірундý захацеў добры барыш!*

НАРЫ'ЦА *ж.* Гнойны свішч на плячах у коней. *Гэто лéто я як бяс каня, бо ў майго нарыца ні загóйваяцца.*

НІНАЕ'ДА *м.* і *ж. зневаж.* Абжора. *Гэ́дакага нінаеду лепш адзяваць, чым карміць — есьць, як ні ўсябе.*

НОРТ *м.* Паўвостраў, які ўтварае рака, мяняючы напрамак свайго цячэння. *Норт заўсюды канчáяцца гакóм, а найпроці — прытны берах.*

ПАГРАБА'ШКА *ж.* Матыка. *Паграбашкаю марýдно асыпаць картоплю, цяпер усё плушком абганяюць, а паграбашкаю хіба дзе на папярэ́цці.*

ПАДБО'Й *м.* Нарыў на ступні. *Як на ка́мянь ці на шышку ў ле́сі наступіш, дак можа быць падбой.*

ПАДРЭ'ЗНЫ *прым.* Касы. *Падрэзны дошч бывá́ тагды, як ве́цяр есьць.*

ПАДРЭ'С *м.* Яма ці канаўка, вымытая вадой у крутым беразе ракі. *У падрэзах плоткі любяць сядзець, там іх рукамі мо́жно лавіць.*

ПА'КАЛАК *м.* Невялікая палка. *Емкі пакалак — ім далёко кіняш.*

ПАЛЯ'РУШ *м.* Хвароба, ліха. *А кап цябе паляруш забраў!*

ПА'НАХТ *м.* Пах. *Выбірайся адгэтуль, каб і пáнахту твайго тут ні было, бясь цябе ўсё зробім!*

ПАПО'НЯ *ж.* Доўгае неахайнае адзенне. *Ну й сукенка, папоня нека!*

ПАС *м.* Плыт з доўгіх дзеравін. *Пасэ ў нас ні кажды гот пойдуць. Трэба каб ве́лькая вада была, бо ў нартох ні вы́вярнясься.*

ПАЎПРЫ'ЦА *ж.* Металічная планка, на якой трымаецца верхні камень жорнаў. *У мяне ты ні зьме́ляш, бо паўпрыца зламалася.*

ПАХВАТНЫ' *прым.* Зручны для карыстання. *У нас тры саке́ры, але гэтая самая пахватнáя.*

ПАЦАПО'К *м.* Верхняя жэрдка драбіны ў возе. *На пацапок ні садзіся, бо як конь тузане, дак пале́ціш пат калясо!*

ПАШЧЭ'НГА *ж.* Сківіца. *Конь як знаровіцца, дак уме́я сьцісную пашчэнгі, што і ке́лзамі яго ні спыніш.*

ПІ'НДА *ж. зневаж.* Плакса. *Чаго ты хны́каяш, пінда ты?*

ПО'ВЯСКА *ж.* Тонкая жардзінка, якой прывязваюць у страсе салому да латы. *Повяскі трэба агары́ць, бо ў страсе могуць збу́тняць.*

ПО'СІЛКА *ж.*, ПО'СІЛНО *н.* Дужка вядра. *С то́нкаго дроту посілка (посілно) кепская — у руку рэжа.*

ПРО'СЯ *м.* і *ж. зневаж.* Папрашайка. *Ён такая прося, што ад яго ця́шко атхрысьціцца: як наможацца — усё вы́янчыць.*

ПРЫМО'РАК *м.* Вялікі карніз ці полка, па якой залазяць на печ. *Прымо́рак лепш з доскі рабіць, бо ён ні так выцірáяцца.*

ПРЫ'ПАРАМАК *м.* Прычал парома. *Вада гэдак паднялася ў Нёмні, што прыпарамак аказáўсё пад вадою.*

ПРЫ'ТНЫ *прым.* Круты, абрывісты. *Там цяпер ні глыбо́ко, але з возам выяхаць німа як, бо вельмі прытны берах.*

ПЫЧ *м.* Верхняя частка парастка. *На гэтум кусьці кветак ні бу́дзя, бо не́хто пычэ́ пазрываў, хіба яшчэ пасынкі пойдуць.*

ПЯРАТО'Ч'Ё *н.* Месца каля парога хлява. *Пастаў̆ каня ў пярато́ч'і, бо за́гарадзі ўсе заня́тыя!*

ПЯРАХО'ТКА *ж.* Эпідэмія. *Мусіць некая пярахотка была, бо ўсе мы пярахварэ́лі.*

ПЯЧУ'РА *м.* і *ж. жарт.* Дамасед. *Пячура ты, пайшоў бы павазіўсё трохі на канькох, ато цэлы дзень ні вылазіш с хаты!*

РАЗГІРА'КА *м.* і *ж. зневаж.* Той, хто ходзіць шырока расстаўляючы ногі. *Ці ты ў салдатах ні быў, што ходзіш як разгірака?*

РАСКЕ'ПА *м.* і *ж. зневаж.* Расцяпа. *Раскепа ты, трэба ш лепш глядзець, бо нос ско́ляш!*

РЭ'ЦЬМАН *м.* Брыгадзір плытніцкай брыгады. *За рэцьмана купец заусюды гадзіў то́го, хто до́бро ве́дая сплаў.*

САЛА' *ж.* Камяністая водмель на рэчцы (у адрозненне ад пясчанай — *грады*). *На сале часто плытэ́ садзяцца.*

СЕ'КАЎКА *ж.* Рыба сечка. *Секаўкі ўмеюць у пясок зарывацца.*

СКАС *м.* Трэшчына (у лёдзе, шкле). *Пяраяжджа́ць цяразь Нёман ужо апа́сно, бо каля са́маі дарогі скас прайшоў.*

СКНЫ'ДА *м.* і *ж. образл.* Скнара. *Ён нічо́го ні пазычыць, гэто такая скныда, што і зімою сьнегу пашкаду́я.*

СНО'ЎНІЦА *ж.* Станок для снавання кроснаў. *Даўней про́сто ў сьцену ўбівалі кіёчкі і на іх снавалі, а ў пасьледні час сталі рабіць толькі сноўніцы-круцёлкі.*

СО'ПУХА *ж.* Сажа. *Відаць, што сам гаршчок сь печы даставаў, бо вымазаўсё ў сопуху.*

СТРЫНГА'ЛЬ *м.* Той, хто першы раз выйшаў на калектыўную работу (плыты, касьба), навічок. *Якая зь яго помач? Ён яшчэ стрынгаль, касы памянціць ні ўме́я.*

СТРЫНГА'ЛЬШЧЫНА *ж.* Барыш, які ставіць *стрынгаль* для кампаніі, што яго прыняла разам працаваць.

СТРЫХА'РКА *ж.* Прыла́да для падраўніванне саломы, калі крыюць будынак. *Бяс пахолка і стрыхаркі хаты ні накрыяш.*

СЬЛЯВЯ'ДА *м.* і *ж. абразл.* Назола. *Атчапіся, сьлявяда ты! Спачатку зрабі ўрокі, тагды пушчу вазіцца.*

СЬЛЯПЯНДА' *м.* і *ж. зневаж. Сьляпянда ты, тут жо ш ве́лькімі буквамі напісано, а ты ні заме́ціў!*

СЯЛЕ'ДЗЯЎКА *ж.* Невялікая бочка (каля 50—70 літраў). *У гэ́тум го́дзі гуркоў мно́го ні ставіла — во толькі гэта сяледзяўка.*

СЯЛЯДО'РШЫ *прым.* Сярэдні па ўзросту. *Іх сялядоршы сын самы ўдалы: яшчэ малы, а ўжо як стары ва ўсём разьбіра́яцца.*

ТАЛА'Н *м.* Участак, няпэўная мера плошчы. *Тут ні ўсё жы́то, там за горкаю есьць яшчэ добры талан.*

ТАМАВА'НЬНЁ *н.* Гаць пры берaзе ракі для сціскання рэчышча. *Тут Нёман быў шырокі, але мелкі — куры бродзілі. А як зрабілі тамаваньнё, дак і с плытамі мо́жно прайсьці.*

ТА'ПЛЯ *ж.* Пліта. *Сьцякло лепш рэзаць у магазіні, а ні таплямі браць, бо сам скарэй паломіш.*

ТАРПАЧЭ' *мн.* Здані. *Ніčо́го там ні было: про́сто яму ў вачах тарпачэ пасталі.*

ТАЎЧА'НКА *ж.* Маленькая драўляная ступка. *У таўчанцы мы за́таўку таўклі, а часам і перац для каўбас.*

ТРАПЁ'НЫ *прым.* Няўрымслівы. *Які ты трапёны — ні можаш пачакаць!*

ТУ'ПКІ *прым.* Цвёрды. *Ідзі, ні ўгра́зьняш — там дно ту́пкаё!*

ХАДЗЕ'НЬКА *ж.* Прыстасаванне, з дапамогай якога дзіця вучыцца хадзіць. *Я сваю Маню ў сем месяцаў пачала ў хадзеньку ставіць.*

ХО'ТКА *ж.* Порцыя брагі на адну запраўку самагоннага апарата, гонка. *С пуда палуча́яцца ні больш, як тры хоткі.*

ЦВА'НЫ *прым. экспр.* Ласы. *Ого, які ты цваны на дарэ́мнаё!*

ЦЫРА'НКА *ж.* Парода дзікіх качак. *У нас ведаюць крыжаванак і цыранак; цыранкі малыя.*

ЦЫ'ТРА *ж.* Рыба рыбец (*рус.* сырть). *Цытра ве́лькая рыба, падобна на марско́га гялба́, але ў яе верхняя губа даўжэйшая за ніжнюю.*

ЧА′ПАЛАС *м. экспр.* Наганяй. *Я яму такого чапаласу даў, што доўго будзя помніць.*

ЧАРО′ПКА *ж.* Гаршчок для вазонаў. *Чаропкі тожа трэба добро выпальваць, каб моцныя былі.*

ЧУ′ЧКА *ж.* Сярэдні сустаў пальца на руцэ. *Ты асьцярожно жні, бо ніўмеку серп за чучкі хватая!*

ШАРА′ГІ *мн.* 1. Прычэп да калёс для перавозкі доўгіх дзеравін. *Шарагі гэдак летам служаць, як козачка зімою.* 2. *перан.* Крывыя ногі.

ШКІЛЁ′НДРА *ж.* Крываяная каўбаса. *Шкілёндра смашная як сьвежая.*

ШНАР *м.* Шрам. *Нечая карова нашуй шнар на сьцягнякў пасадзіла.*

ШПАР *м.* Шчыліна, трэшчына. *У падлодзы ўжо вёлькія шпарэ парабіліся — трэба сьціскаць.*

ШРЫ′ГА *ж.* Доўгае бервяно, якім тармозяць і замацоўваюць на месцы плыт. *Закідай шрыгу, будзям ўжо станавіцца на начлех!*

ШЭ′ПШАЛО *н. жарт.* Слабы непрацаздольны стары чалавек. *Шэпшало ты старое, табе трэба на печы сядзець, а ні ў клуп ісьці!*

*М. В. Бірыла*

## З ЛЕКСІКІ ЧЫРВОНАСЛАБОДЧЫНЫ

Прадстаўленая ў гэтай падборцы лексіка запісана ў 1949—1952 гг. на тэрыторыі былога Чырвонаслабодскага раёна [1]. Фіксаваліся словы, якія ў лексічным, словаўтваральным ці семантычным плане, на думку аўтара, з'яўляюцца прыналежнасцю народна-дыялектнай мовы.

Фанетычная і марфалагічная сістэма гаворак былога Чырвонаслабодскага раёна прадстаўлена ў працах «Вопыт апісання фанетычнай сістэмы адной гаворкі» [2], «Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна» [3].

Пры пашпартызацыі назвы вёсак падаюцца ў скарачэнні: Буч. — Бучаціна, Бял. — Бялевічы, В. — Веска, Выг.— Выгода, Жывагл. — Жываглòдавічы, Жылех.— Жылехава, М. Рож. — Малы Рожан, Макр. — Макраны, Сем. — Семежава, Смал. — Смалічы, Стар. — Старына, Тан. — Танежыцы, Чапл. — Чаплічы.

АБЕ'ЧАК *м.* Абадок рэшата, сіта. *Абечак паламаўся, рэшато прапало.* Сем.

АБЗО'Й *м.* Неабрэзаны край дошкі. *Абзой на дзьвох дошках астаўся.* Сем. *Абзой на досца велікі.* В.

АБРО'К *м.* Сыпкі корм (авёс, сечка з аўсом), які бяруць у дарогу для каня. *Аброк — это рэска с аўсом.* Сем. *Чаму ш аброку ні далі на дарогу?* Бял.

АБШЭ'ЎКІ *толькі мн.* Манжэты ў рукавоў. *Паабрываліся апшэўкі, трэбо падладзіць.* Макр.

---

[1] Цяпер тэрыторыя былога Чырвонаслабодскага раёна ўваходзіць у склад Капыльскага, Салігорскага, Клецкага і Слуцкага раёнаў.

[2] Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. І. Мінск, 1954.

[3] Там жа, вып. 4. Мінск, 1957.

АВА′Д *м.* Авадзень. *Гэта ў нас ават называюць.* М. Рож.

АВАДЗЬЕ′ *зборн.* Авадні, заедзь. *У нас авадзье летам жыць ні даюць.* Стар.

АГЛАБЕ′Ц *м.* Аглабільна, верхняя перакладзіна ў драбінах. *Па аглапцы палажыў снапоў і прыўёс.* Сем.

АГЛАБІНО′ *н.* 1. Верхняя і ніжняя часткі ў драбінах. *Верхнее аглабіно заламаласа, а ніжнее яшчэ добрае.* Тан. 2. Ніжняя частка ў драбінах. *Урадліва арабіна — осенью гразі па аглабіна.* Сем.

АГЛЕДА′ЦЦА *незак.* Выконваць штодзённую неадкладную работу па гаспадарцы ў канцы дня, уходжвацца. *Пара агледацца.* В. *Ідзі ды й агледайся.* Сем.

АГУРЫ′ЦЦА *зак., незак. няма.* Абвыкнуць, звыкнуцца, апусціцца. *Агурыўса і жыве неек.* Сем.

АДЗЁР *м.* 1. Дзіцячая хвароба адзёр. *У іх дзеці на адзёр пахварэлі.* Тан. 2. Калодка для пчол. *Завуць гэты дуп Дземянаў дуп, а на дубе адзёр — калода для пчол.* М. Рож.

АДНО′ *прысл.* Толькі. *Усе жоны абет несуць, адно маёй німа.* Сем. *Пойдам у брусніцы, адно хлеп вымем.* Смал.

АЖАГІ′ *мн.* 1. Агульная назва ўсіх неабходных пры печы прылад (вілкі, качарга, чапяла і інш.). *Вынесі ты гэтые ажагі с хаты.* Тан. 2. Кут у хаце каля печы, дзе стаяць вілкі, качарга, чапяла і інш. *Ажагі — гето куток каля печы, дзе стаяць вілкі, качарга, метла.* Сем.

АЗУ′ЦЦА *зак.* Абуцца. *Азуйса, холадно ў хаце. Як азуўсе раніцаю, так і прахадзіў увесь дзень.* Тан.

АЗЫ′ЗЬНІВЕЦЬ *зак.* Азызнуць. *Азызьнівеў — уродзе апухне.* Сем.

АПА′ЛУШКІ *мн.* Апалушкі, невялікія начоўкі для апалання збожжа. *Ссып мак у апалушкі пакуль што.* Тан.

АПУ′ХА *ж.* Дрэннай якасці скура — слабая, з рэдкай шэрсцю. *Апуха это, скажам, у шкуры каля нох, як чэраво, дзе шэрсьці мало і шкура слаба. С апухі паднарады робяць.* Сем.

АСА′ДА *ж.* Рама. *У барану харошые асады робіш, я чуў.* Сем.

АСЦА′ *ж.* Непрыемны, хваравіты стан пры ўзмоцненым выдзяленні сліны. *Асца падвернула, сьліну гоніць.* Сем.

АСЫКА′ЦЦА *незак.* Рэзка адказваць каму-н., агрызацца. *Хай ні асыкаецца, калі бацька гаворыць.* Сем.

АСЬНІ′К *м. зборн.* Асіннік. *Асьнікў давай нарэжам.* Сем.

АТАЛАПАНЕ′ЦЬ *толькі зак.* Адрантвець ад здзіўлення ці перапалоху. *Аталапанеў ды й стаіць як дурань.* Сем.

АХАЛО′ДАЦЬ *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Картопля ўжэ ахалодала.* Смал.

АХАЛО′ДВАЦЬ *незак.* Астываць, станавіцца халодным. *Пастаў на дварэ, хай ахалодвае.* Тан.

АЧО′ПА *ж.* Верхняе бервяно ў сцяне будынка па ўсёй яе даўжыні. *Добру ачопу нашоў.* Чапл.

АШУ′ШКАЦЦА *зак.* Адзець многа адзення, цяжка адзецца. *Ашушкаўся, што ні павернецца.* Сем.

АШЧЭ′, ШЧЭ *часц.* Яшчэ. *Дай ашчэ аднаго бліна.* Тан. *Ашчэ ўчора сказаў.* Жывагл. *Гусям дала, а парасяці шчэ.* Сем.

БА′ЙБУС *м.* Гультай; дарослы хлопец, які нічога не робіць. *Ходзіць без дзела геты байбус.* Тан.

БАРУХА′ЦЦА *незак.* Няўстойліва стаяць на нагах, хістацца. *Барухаецца, на нагах ні дзержыцца, мо ён п'яны.* Сем.

БАСО′НАЖ *прысл.* На босую нагу. *Ён басонаж уссунуў боты.* Тан. *На басонаш ні абувайса, ногі памерзнуць.* Чапл.

БЕРАЗА′К *м.* 1. Бярэзнік, бярозавы лясок. *У беразаку только чырвонагаловікі бываюць.* Смал. 2. Бярозавае дрэва, бяроза. *Вос беразаку нехта забраў.* Макр.

БЛЕВА′ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Нудзіло так, што аш блеваў.* В.

БЛЕХ *м.* Хлёрка. *Дзе ж гето блеху дастаць?* Жывагл.

БЛЕХАВА′ЦЬ *незак.* Бяліць ніткі блехам. *Німа чым ніткі блехаваць.* Жывагл.

БЛЫХА′ *ж.* Клоп. *У іх блохі па сьценах поўзаюць. Скочка толькі скачэ, ды мо ўкусіць калі, а блыха добра аб'есць.* Тан.

БОЎТ *м.* Жардзінка з перакладзінкай на адным канцы, якою заганяюць рыбу пры лоўлі сеткай. *Боўт вазьмі ды рыбу пагані.* Сем.

ВА′ЛЕН *м.* Вясельны вянок маладой. [З галавы ў маладой] *скідаюць вален і завіваюць у шапку завіваль-*

*ніцы.* Сем. *Пашла і ена* [маладая] *толькі скінула вален.* Выг.

ВАРО′НКА *ж.* Ход у склеп; аконца, праз якое спускаюцца ў склеп. *Накрый добра варонку, кап марос ні залес у пограп.* Выг.

ВЕ′ГАЦЬ *м.* Вехаць. *Вазьмі вегцем памый.* Сем.

ВЕ′ШНІЦЫ *мн.* Вароты з вертыкальна ці гарызантальна рэдка размешчаных бланачак. *Ад уліцы больш варота робяць, вешніцы — на дварэ.* Сем.

ВІДЗЕ′ЛКІ *мн.* Відэльцы. *Беры відзелкамі, ні лесь рукою.* Тан.

ВІРО′К *м.* Прылада, пры дапамозе якой уюць ніткі на клубок. *А дзе ш наш вірок? Цяпер віркі ні робяць, у каго толькі стары есь.* Сем.

ВІХЛА′ *ж.* У выразе *як віхла.* Як агонь — пра энергічнага чалавека, у якога хутка і спорна ідзе работа. *Такі быстры, удалы, як віхла. Ена як віхла, ні усьпееш снапа нажаць, а ў яе два.* Сем.

ВІША′ *ж.* Няскошаная, высахлая на корані трава. *Мало сьнегу, нават вішы ні закрыў.* Тан.

ВО′ШКІ *мн.* Лейцы. *Вошкі вазьмі і заважай каня. Прызапасіў двое вошкі.* Сем.

ВУСТА′ЎКА *ж.* Вышыўка на верхняй частцы рукава сарочкі. *Я ў сарочку ўшыла нову вустаўку.* Сем.

ВУША′ТАК *м.* Невялікі цабэрак з двума вушкамі. *У Слуцку харошы вушатак купіла.* Тан.

ВЫ′БЕРКІ *мн.* Маніцы. *Выберкі прывесьці трэбо.* Сем.

ВЫГО′РЫЧ *м.* Рыба вугор. *Выгорыч патхадзя на ўюна.* Сем.

ВЫКЛАДА′НЬЕ *н.* і УКЛАДА′НЬЕ *н.* Спосаб ткання посцілак, калі кожны ўзор выкладаецца. *Выкладаньем цяшко ткаць, гето только хто ўмее.* В.

ВЫ′СЕКАЦЬ і ВЫ′СЬНЕКАЦЬ *зак.* Высмаркаць. *Высекай нос трохо.* Тан. *Такая дзеўчына, а высьнекаць носа не ўмее.* Смал.

ВЫ′СТУПКІ *мн.* Апоркі, старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі. *Выступкі зрабі са старых ботаў.* Сем.

ГАНІ′ЦЬ *незак.* Ганяць. *Людзей ганілі ў падводы.* Смал.

ГАНЯ′ЦЬ *незак.* У выразе *ганяць картоплю.* Акучваць, абсыпаць радкі бульбы пры дапамозе спецыяльнага

плужка, рабіць градкі. *Сошкаю картоплю ганяюць, градусікі робяць.* Смал.

ГАРШЧЫ'СКО *м. павеліч.* Гаршчок. *Гаршчыско добры.* Макр.

ГО'НЫ і ГАНКІ' *мн., адз.* гончык *м.* Гоні, няпэўная мера даўжыні прыкладна ў 150—200 *м. Картоплі пасеяла адны гоны. Ганкі прабех і стаў. Я прайшла гончык ні больш.* Сем.

ГО'ПА *ж.* Бабка, дранка, каша з дранай бульбы. *А гопу есьцімеш?* В. *Гопа — гэто таркована каша.* Жылех. *Таркованка ў нас, а ў Семежаве — гопа.* Буч.

ГО'РЫН *м.* Ніткі для вышывання. *Горын — гето чырвоные фабрычные ніткі.* Сем.

ГРАДУ'СА *ж.* Бульбяная градка. *У градусе картоплі растуць. Паміж градусамі разоры.* Сем.

ГУ'ПКА *ж.* Няпэўная мера даўжыні асновы, роўная даўжыні ўнутранай часткі сцяны хаты. *Кужалю, зрэб'я ткалі на губак шэсь. Са́ма больша норма шаснаццаць губак, бо больш нітак ні ўлезе на навой.* В.

ГУЖБА' *ж.* Хамуты з дубцоў, якімі звязваюць бярвенне ў плыты. *Гужба ў два дупцы робіцца—зьвязваюць дзераво ў клёйны.* Смал.

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *Гэтта атагрэю старыя косткі.* Жывагл. *Гэтта лес быў.* В. *Палажы гэтта.* Смал.

ДА'ЛЕ *прысл.* Пасля, пасля гэтага. *Плетом, а дале ўносім навой і навіваем.* В. *Седзела так, а дале давай цехці ватоўку на плечы.* Стар.

ДАЎНЕ'Й *прысл.* Слова абагуленага абазначэння прошлага часу — не толькі ў значэнні 'калісьці', 'даўно', 'у мінулым', 'у старыя часы' і інш., але і ў значэнні 'нядаўна', 'дзень ці колькі дзён назад'. *Я ж даўней на цукар ёй грошай дала.* Стар. (Тут 'два дні назад'). *Даўней прыходзіць — дай ёй на штаны грошы.* Стар. (Тут 'сёння, незадоўга перад размовай').

ДЗЮ'БЕЛЬ *м.* Дзюба. *Дзюблем варона выцегае салому ўрас, зробіць стрэ́ху, што страх гледзець.* Сем.

ДЗЯЎЗНО' *н.* Рослая, здаровая дзяўчына. *Гэтака дзеўзно, а на работу ні ходзіць.* Буч.

ДРУ'ШКА *ж.* Удзельніца вяселля з боку маладой, шаферка маладой. *У суботу перад весельем сабіраюцца друшкі маладое — гето ее радня і падругі. Малады с сваею раднею займаюць месца за сталом паўс сьцёну, а маладая з друшкамі напроціў.* Сем.

ДРУШКО′ *м.* Галоўны сват з боку маладога. *Друшко — хто-нібуць із радні, гето ён камандуе весельем. А потым ужэ выкупляе друшко у дружак маладую.* Сем.

ДРЫГВА′ *ж.* Квашаніна, халоднае. *У нас усякся кажуць і квашаніна, і студзяніна, і дрыгва, часьцей дрыгва. Каля Карэва земля дрыжыць, як дрыгва.* Тан.

ДУ′ТКА *ж.* Касцяністая аснова птушынага пяра. *Абдзеруць перо — астаецца дутка. Што ты пад ногі дуткі высыпала.* Сем.

ЖАЛЯ′СКО *н.* Капкан. *Кот у нейчае жаляско папаў.* Сем.

ЖУ′ПІЦЬ *незак.* Гаварыць. *Што ён жупіў с табою?* Тан. *Што каму рупіць, той тое жупіць.* Сем. *С пратсядацелем жупіла.* Жывагл.

ЖУПЛІ′ВЫ *прым.* Разгаворлівы. *Жупліва жонка ў его.* Сем.

ЖЫВЕ′Ц *м.* Нітка на верхняй і ніжняй частках ніта, на якой замацоўваюць *кабылкі.* В.

ЗАВАЖА′ЦЬ *зак.* Заляйцаць. *Вошкі вазьмі і заважай каня.* Сем.

ЗАВЕ′РЫЧ *м.* Палка даўжынёй каля двух метраў, адзін канец якой усаджан у вуха (адтуліну) навоя, а другі ляжыць на падлозе, не даючы навою круціцца. *Усе вынесьлі, адзін заверыч астайса.* В.

ЗАВІВА′ЛЬНІЦА *ж.* Удзельніца вясельнага абраду *завіваць у шапку. Маладыя жанкі — сваячкі і сусеткі маладое называюцца завівальніцы.* Сем.

ЗАВІВА′ЦЬ *незак.* У выразе *завіваць у шапку.* Вясельны абрад, калі ў маладой з галавы знімаюць вянок і адзяваюць шапку, якую яна з гэтага часу павінна насіць. [З галавы ў маладой] *скідаюць вален і завіваюць у шапку завівальніцы.* Сем.

ЗАВІШАВА′ЦЬ і ЗАВІШЭ′ЦЬ *зак.* Зазімаваць на корані на балоце (аб траве, якая засталася на зіму няскошанай). *Уся трава завішэла. Завішавало ў том годзе много травы.* В.

ЗАПЯ′ТАК *м.* Пята нагі. *Зап'ятак больш гавораць, пета — рэтко.* Сем.

ЗАЦЕ′КАЦЦА *незак.* Захлёбвацца ад смеху ці плачу. *Ні злакічы, бачыш дзіця аш зацекаецца ат сьмеху.* Тан.

ЗВО′ДЫ *толькі мн.* Плёткі. *Звóдаў нарабіла.* Сем.

ЗЕЛЯНЦО′ВЕНЬКІ *прым.* Зеленаваты. *Зелянцовенькі чай.* Макр.

ЗІ′МНІК *м.* Рукаў ракі. *У зімніку рыбы многа бывае.* М. Рож.

ЗЛАКІТА′ЦЬ *незак.* Казытаць. *Ні злакічы, бачыш дзіця аш зацекаецца ат сьмеху.* Тан.

ЗНАКАМЕ′ТНЫ *прым.* Прыкметны, які вылучаецца, адрозніваецца ад іншых. *Мой знакаметны мешок.* Жывагл.

ІГРУ′ШКА *ж.* Вазон, хатняя кветка аганёк. *Ігрушка ўвесь гот цьвіце.* В.

КАБЫ′ЛКА *ж.* Звяно ніта. *Лічы па п'яць кабылак.* Жывагл.

КАГАДЗЕ′ і КАДЗЕ′. Нядаўна, толькі што. *Кадзе прышоў і зноў пойдзе.* Сем. *Дай пакурыць. — Сам ото кадзе ўзяў.* Макр.

КАЛЫБЕ′ЛЬ і КАЛУБЕ′ЛЬ *ж.* Калыска. *Пакачай калубель трохо.* Макр. *Зьнялі ужэ калыбель.* Тан.

КАПЛАВУ′ХІ *прым.* Віславухі, лапавухі. *Каплавухі епрук.* Сем.

КЕ′ПКАВАЦЬ *незак.* Падсмейвацца з каго-небудзь, строіць кепікі. *Ён кепкуе сь цебе, а ты сьмеесса.* Сем.

КЛЕ′ЙНА *ж.* Плыт на даўжыню бервяна, адно звяно пасы. *Клейна — гэто адзін плыт. Клейны зьвязваюцца ў пасы.* Смал.

КО′ВАРАТ *м.* Бервяно-рычаг у жураўлі студні. *Доўгі коварат трэбо: вада глыбоко.* Сем. *Атыдзі, ато ашчэ коварат вытне.* Смал.

КО′ПУСТКА *ж.* Лапатачка для размешвання цеста. *Копустка мешаць хлеп, калі рашчыняюць, бо замес ужо не памешаеш.* Сем.

КО′СЫ *толькі мн.* Валасы. *Косы асмаліў, як лазіў у печ па вугаль, кап прыкурыць.* Сем.

КРА′МА *ж.* Тканіна фабрычнага вырабу. *Набрала крамы дзецям.* Тан.

КРАСНАГАЛО′ВІК *м.* Грыб падасінавік. *Кош краснагаловікаў прынёс на базар.* Жывагл.

КРУК *м.* Вочап, жэрдка ў калодзежным жураўлі. *Сьліскі крук, абмёрс, з рук вырываецца, трудно вады дастаць.* Чапл.

КРУЦІ′ЦЦА *незак.* Шалець. *Ціпер сабакі часто круцецца.* Выг.

КРУ′ЧАНЫ *прым.* 1. Шалёны. *Кручаны сабака пакусаў карову.* Буч. *Кручаны сабака бегае.* Жывагл. 2. Ча-

лавек з непастаянным характарам. *От кручаны нейкі — сёння адно, а заўтра другое.* Буч.

КРЫШАНІ′ *толькі мн.* Бульбяны суп. *А крышані ні варыла?* Сем.

КУБЁЛАК *м.* Кубелец. *Поўны куб'ёлак сала наклалі.* В. *Паледзі за куб'ёлкам.* Тан. *На куб'ёлку абруч лопнуў.* Буч.

КУДЗЕ′ЛЬНІЦА і КУДЗЕЛЯ′НКА *ж.* Коўдра з посцілак, падбітая кудзеляю. *Залесь пат кудзелянку ды сьпі.* Сем. *Требо кудзельніцу ладзіць.* В. *Прынесі падушку і кудзелянку.* Смал.

КУЛІ′ТКА *ж.* Булка (хлеба). *Пазычылі веліку кулітку хлеба.* В.

КУ′ЛЬКА *ж.* Ручка на кассі ў выглядзе абагнутага лучка. *Кулька круціцца як косіш.* Макр. *Кульку робяць з вішняку ці з дубу.* Макр.

КУ′РАВЫ *прым.* Цёмна-чырвоны. *Куравая спадніца с плісам.* Сем.

ЛА′ЗЬНЯ *ж.* Асець, сушня. *Лазьня — дзе лён труць.* Макр.

ЛАПА′ТКА *ж.* Брыль у шапцы. *Трэ ік шапце прышыць лапатку, бо паламаласа старая.* Сем.

ЛА′ПІКЛО *н.* Лапік, латка. *Лапікло як рэшато паставіла.* Тан.

ЛЕХТА′РНЯ *ж.* Вітушка, на якую навіваюць ніткі. *Лехтарня ўжо поўна, ві на другую.* Сем.

ЛУЧО′К *м.* Ручка на кассі ў выглядзе абагнутага лучка. *Требо лучок перавязаць.* Буч. *Новы лучок зрабіў.* Смал.

ЛЯ′ДО *н.* 1. Набіліцы ў кроснах. *Прынеслá лядо вам, вы ш ткацьмеце скоро.* Тан. 2. Пустазелле ў збожжы. *Добры ячмень, буйны, але лядо есь.* Тан.

МАТРУ′ХА *ж.* Вітушка, на якую навіваюць ніткі. *Вынесі матруху, хай ні замінае.* Жывагл.

МАТРУ′ШКІ *мн.* Маточкі нітак, якія выкарыстоўваюцца пры тканні выкладаннем. *А дзе матрушкі белые?* В.

МЕШЛА′ *ж.* Мешалка. *Мешла, што сьвіням мешаць ды каровам, як лапатачка.* Сем.

МУРТАЎНЯ′ *ж.* Мурашнік. *Муртаўня — гето дзе мурашкі жывуць.* Тан. *Дзеці раскапалі муртаўню.* Стар.

МЫ′ЦЕЛЬНІК *м.* Кут у хаце насупраць печы каля парога. *Чаго ты таўчэсса ў мыцельніку, ідзі далей.* Сем. *Вытры трохо падлогу, мыцельнік згніе.* Тан.

НАГНО′М *прысл.* Нагбом. *Напіўся нагном.* Смал.

НАПА′РСТАК *м.* Кальцо, якім прымацоўваецца каса да акосся. *Падай напарстак, трэбо косу асадзіць.* Макр.

НАРА′Д *м.* Увесь набор ткацкіх прылад. *Ты палі ў печы, а я палезу па нарат, пачном заўтра посьцілкі ткаць.* В.

НАСІ′ЛО *н.* 1. Частка калодзежнага журауля, вочап. *Насіло скоро атарвецца, прывежы мацней.* Сем. 2. Жэрдачка пад столлю каля печы, над печчу ці нават у сенцах, на якую вешаюць адзенне. *На насіло павесь і хай вісіць.* В.

НЕНАРО′КАМ *прысл.* 1. Праўда, на самай справе (з пытальнай інтанацыяй). *Пустапехо тожэ разводзіцца.— Ненарокам? — Не.* Сем. 2. Незнарок. *Я ж табе ненарокам зрабіў.* Буч.

НІ′ШКАМ і НІ′ШАЧКАМ *прысл.* Без шуму, ціха. *Адзін рас нішачкам прышлі строіць мост. І ціпер, кап на его ліхо, кап і хацеў нішкам прайці — ні дась, брэша і брэша.* Сем.

О′ЖАГ *м.* Кут у хаце каля печы, дзе стаяць вілкі, чапяла і інш. *Можа ў ожах закаціласо.* Тан.

ОТО′ і ОТО′-О′ *часц.* 1. Зараз, неадкладна. *Ото есьціму.* Сем. *Ты скора іцімеш? — Ото-о, пойдам разам.* В. 2. Толькі што. *Ото Стафан паехаў, а потым мы паедам.* Макр.

О′ЧАП *м.* Бервяно-рычаг у калодзежным журауолі. *Очап і коварат — гето адно.* Сем.

О′ЙДЗЕ-О′ *часц.* Тут, вось тут. *А дзе бумага? — Ойдзе-о.* Жылех.

ПАВЕ′САМ *прысл.* Вагою. *Колькі ш павесам льну было?* Сем. *Ілну дасталі павесам дваццаць кіло.* Смал.

ПА′ДАЛКІ *мн.* Апад, ападкі. *Ідзі падалкі пазьбірай.* Чапл.

ПАДБІЦЬЦЕ′ *н.* Падкладка ў адзенні. *Падбіцьце было свае.* Жывагл.

ПАДДЫ′МНІК *м.* Вузкі даўжынёй у 2—3 *м* кавалак палатна, рушнік з узорамі чырвонага колеру для падарунка рожаніцы і яе цёткам. Сем.

ПАДЗІ′Ў і ПО′ДЗІЎ *м.* Урок, недамаганне «ад дрэнных вачэй». *Мо подзіў на яго напаў?* Тан. *Падзіў ашчэ накінецца на мене.* Жывагл.

ПАЖУ′ПІЦЬ *зак.* Пагаварыць, паразмаўляць.

ПАЛАВЫ′ *прым.* У выразе *палавы кут.* Кут хаты, дзе стаяць ложкі ці зроблен пол. *С палавого кута вымеці хоць рас добра.* Тан.

ПАЛАКА′ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Трэбо белье папалакаць.* В.

ПАЛО′Й *м.* Верхаводка, вада на лёдзе ў час адлігі. *Па рацэ пашоў палой.* Сем.

ПАМО′СТ *м.* Падлога. *Ены мыюць памост.* Сем.

ПА′СА *ж.* Плыт з некалькіх звенняў, клейн. *Клейны зьвязваюцца ў пасы.* Смал.

ПА′СКАЛАК *м.* Палена, кол, кавалак дрэва. *Паскалак вазьмі ды пагані сабаку.* Сем.

ПАСО′БІЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Пасоп мне трохо.* Бял. *Ты ш ему пасабляеш.* Смал.

ПАТПЕСО′ЧНІК *м.* Верхняе бервяно ў хаце, якое кладзецца па бальках. *Ужэ патпесочнікі палажылі.* В.

ПАТХАДЗЯ′. Падобны да чаго-н., пахожы на што-н. *Выгорыч патхадзя на ўюна.* Сем.

ПАЎПРЫ′ЦА *ж.* Металічная пласцінка на верхнім камені жорнаў, якая адзяваецца на шпянёк, замацаваны ў цэнтры ніжняга каменя жорнаў. Тан., В.

ПАЧЫ′НАК *м.* Верацяно з ніткамі. *Пачынак на печ палажы, а мне падай верацяно. Пачынак — гето поўно напрадзенае верацено.* Стар.

ПАШНЯ′ *ж.* Збожжа. *Засекі поўные пашні.* Чапл. *Пашнёю заняў усе посьцілкі.* Бял.

ПАШЧО′ПКА *ж.* Дрывотня. *Я на пашчопцы сакеру кінуў.* Жывагл.

ПІЛІ′ЦЬ *незак.* Пілаваць. *Піліцьму дрова вечарам.* Сем. *Напіліў дроў трохо.* Сем.

ПІ′ШЧЫКІ *мн.* Кончыкі пальцаў рук. *У пішчыкі коле, так рукі пакалелі.* В.

ПЛАЎ *м.* Бераг, падмыты вадой. *Плаў паўз рэчку, вада пад ім, а ён вісіць.* Сем.

ПЛІС *м.* Шырокая стужка, лента. *Кўравая спадніца с плісам.* Сем.

ПЛО′СКУНІ *мн.* Маніцы. *Плоскуні выбіраюць раней.* В.

ПЛЯ′ГА *ж.* У выразе *пляга яго ведае.* Ліха яго ведае. Сем.

ПО′ЖАР *м.* Пажар. *Велікі пожар быў.* В. *Ат пожару ні ўцечэш, як ад ваўкоў.* Жывагл.

ПОЛ *м.* Палок. *Выкінам пол і ложак паставім.* Тан.

ПО′ЛНЫ *прым.* У выразе *полны кут* — кут хаты, дзе стаяць ложкі ці зроблен пол. *У полны кут пастаў цепер.* Сем.; *полнае акно* — акно, самае блізкае да полнага кута. Сем.

ПО′РГАП *м.* Пограб. *У поргап схадзі, картопель прынесі. Пакінь каля порґаба.* Сем.

ПО′СЬПЕХ і ПАСЬПЯШО′К *м.* Прасліца, гліняны ці алавяны дыяметрам у 5—7 см дыск з адтулінай у цэнтры, які адзяваецца на верацяно, калі прадуць, каб яно даўжэй круцілася. *У нас посьпех с олава робяць.* Выг. *С пасьпешком лехчэй прасьці.* Бял. *Пасьпешок адзеваем на верацено.* Стар.

ПРА′ДЗЕДА *м.* Прадзед. *А некалі наш прадзеда ні хацеў там селіцца.* Сем.

ПРА′ДНІК, ПРА′ЛЬНІК і ПРА′НЬНІК *м.* Пранік. *Прынеслі мне прадніка.* Жывагл. *Пральнікам палотна перацъ.* Буч. *Вазьмі праньніка с сабою.* Сем.

ПРУГЛО′ *н.* Бервяно-рычаг калодзежнага жураўля. *Пругло скоро пераломіцца.* Чапл.

ПРУГМЕ′НЬ *м.* Прыгуменне. *Пругмень перад гумном, на ём расьце трава.* Сем.

ПРЫГРЭ′БІЦА *ж.* Прыгрэбнік, сенечкі, тамбурчык пры ўваходзе ў пограб. *Прынесі с прыгрэбіцы малако.* В.

ПРЫГУ′МНІК *м.* Прыгуменне. *На прыгумніку пагуляй.* В.

ПРЫДА′НКІ *мн.* Замужнія жанчыны — удзельніцы вяселля. *Паселі прыданкі ў сенцах на лаўцэ.* [З песні.] Сем.

ПРЫЖДА′ЦЬ *зак.* Дачакацца. *Прыждалі сенакосу— назначае ў Слуцк на работу. Прыждом зімы — не будзе чым паліць.* Сем.

ПУПО′К *м.* Прамая ручка на кассі. Сем.

РАСКІ′ПВАЦЬ *незак.* Разварвацца (пра бульбу). *Раскіпвае наша картошка, нісмашна — земля гнойна.* Стар.

РАСТАРО′П *м.* Разводдзе, бездарожжа. *Цепер самы растароп, сьнех зганяе.* Сем.

РАШКІ′ *мн.* Вілы для гною. *Нехто нашы рашкі ўзяў.* В. *Беры рашкі с сабою, гной вазіцьмеш.* Тан. *Рашкі і сахор — гето адно.* Буч.

РОМ *м.* Месца, з якога сплаўлялі бярвенне. *На ром дубу ні вазілі.* Сем.

РУБІ′ЦЬ *незак.* У выразе *рубіць хату* (хлеў) — часова без моху складаць сцены будынка з новых бярвенняў. *Рубіцьмам хату Івану.* Сем.

РУЧА′ЙКА *ж.* Верацяно з ніткамі. *За вечар напрала цэлу ручайку.* Выг.

РУШНІ′К *м.* Ручнік для ўпрыгожвання хаты. *Уціральнік — што выціраюцца, а рушнік — на іконах.* Буч.

РЭ′СКА *ж.* Сечка; дробна парэзаная салома на корм жывёле. *Дай карове рэскі сёньня.* Сем.

САРО′ЧКА *ж.* Ніжняя кашуля. *Купіла сарочку хлопцу.* Тан. *Зьнімі сарочку.* В.

САХА′ *ж.* Апора калодзежнага жураўля. *Прыўёс сосну зь вілямі — хароша саха будзе.* Сем. *Саху падапры, а то нахіліласа, тын абрушыць і цібе заб'е.* Чапл.

СА′ЧАК *м.* Жаночая куртка на ваце ці кудзелі. *Ні ідзі так, адзень сачак.* Выг. *Купіла корту — думаю сачак пашыць.* Выг.

СВА′ХА *ж.* Свацця. *Уся радня маладога — гето сваты, свахі* [кожны ў адносінах да іншых]. Сем.

СЁНЕЧЫ *прысл.* Сёння. *Сёнечы ўжэ ні прыедзе.* Тан. *Мабыць, дошч сёнечы будзе.* Буч. *Душно сёнечы, хай ено шчахне.* Смал.

СІНЮ′ШКА *ж.* Лучына для абіўкі сцен пад тынкоўку. *Надраў сінюшкі.* Сем.

СКВАРЭ′Ц *м.* Шпак. *Скварцы скоро прылецяць.* Сем.

СПАЛАКА′ЦЬ *зак.* Спаласкаць. *Немец да таго спалакаў* [спаліў, знішчыў], *што нічого ні асталосо.* Стар.

СПЛЕХАВА′ЦЬ *зак.* Збіць, утрамбаваць, зрабіць шчыльным. *Землю сплехавало як ток.* Буч.

СТАЛЬНІ′ЦА *ж.* Дошчачка, на якой рэжуць сала, мяса, крышаць капусту, цыбулю і інш. *Зрабі мне стальніцу нову, гета раскалолася.* Выг.

СТАЎПЦЫ′ *мн.* Стойкі варот. *Раскалоўся стаўпец.* Выг.

СТАЦІ′ВА *мн.* Асноўная частка ткацкага станка, на якой мацуюцца ніты, бёрда, навой, панажы і інш. *За маю памець было начай, стацівоў ні было і ў зёмлю ўбівалі сошкі, на іх клалі навойчык, а навой — на лаву.* В.

СТАЯ′Н *м.* Грубка, стаяк. *Стаян пабелілі.* Сем.

СТО′ЎБІКІ *мн.* Стойкі варот. *Пакалоліся стоўбікі ў варотах.* Макр.

СТУДЗЕНІ′НА *ж.* Квашаніна, халоднае. *Несі студзеніну на стол.* Буч.

СУГНЕ'Й *м.* Суровы, неразгаворлівы чалавек. *Седзіць як сугней у сваей хаце, ніколі к людзям ні выйдзе.* Буч.

СУМАРО'КІ і СУМАРО'КАВАТЫ *прым.* Суровы з выгляду, строгі, неразгаворлівы, замкнуты чалавек. *Тут горы высокіе, калодзезі глыбокіе, суседачкі сумарокіе.* [З песні.] Сем. *Ён нейкі сумарокаваты — усе адзін і адзін.* Буч.

СУ'РАМ *м.* Сырамятная скура. *Сурам выкручваецца з дзёхцем.* Сем.

СУ'ТКІ *толькі мн.* Завулачак паміж двума будынкамі, накрыты стрэшкаю і прыстасаваны для захавання дроў ці розных прылад. В.

СЬВЕРДЗЯ'ДЛО *н.* Люстэрка. *Вазьмі сьвердзядло ды пагледзіса.* Сем.

СЬПЕХ *м.* Прасліца, гліняны ці алавяны дыск, які аддзявалі на верацяно, калі пралі. *Адзень мой сьпех, я ні прасьціму.* Сем.

СЬПЕ'ШКА *ж.* Бульба-скараспелка. *Мы сваю сьпешку ужэ капаем.* Тан.

СЬПІ'ЧАК *м.* Запалка. *Дай адзін сьпічак, агню німа чым запаліць.* Выг. *Сьпічак недзе ўпаў.* Сем.

СЬЦЕ'БАЛКА *ж.* Мянташка. *Сьцебалку забыў.* Буч.

СЬЦЕЖА'Р *м.* і СЬЦЕЖА'Р'Е *н.* Стажар'е, подсціл з галля і саломы, на які кладзецца стог. *Сьцежар наслаць трэбо, будзем сено вазіць.* Макр. *Сьцежар'е ні заберы разам сь сенам.* Бял.

СЬЦЕ'НКА *ж.* Нешырокая дарожка. *Іцімеце прамо, а потым направо сьценачка такая будзе.* Сем.

СЬЦЁПКА *ж.* Стопка, варыўня. *Сцёпка працёкае, требо страху ладзіць.* Буч. *Сходзі ў сьцёпку прынесі капусты.* Тан.

СЯ'БЕР *м.* Пакупнік і прадавец адзін для другога. *Адзін нарваўся — думаў сябер будзе, але ні купіў.* Жывагл.

ТАВА'Р *м.* Жывёла, скаціна. *Тавар галодны немо раве.* В. *Гаўяда і тавар — усяка гавораць.* Буч. *Авадні заедаюць тавар, як сонца паднелоса, так і гані дадому.* Стар.

ТАРКО'ВАНКА *ж.* Бабка, дранка, каша з дранай бульбы. *Таркованка ў нас, а ў Семежаве — гопа.* Буч.

ТАЎСМА'ТЫ *прым.* Пушысты. *Екі кот таўсматы.* Тан.

ТРАПА'ШКА *ж.* Стойка, на якой трэплюць лён. Сем.

ТРО'ПАНКА *ж.* Дзве жмені цёртага льну. *Жменя льну як сатруць, а калі дзьве жмені зложыш — тропанка, як дзьве жмені зложаць — трэплюць.* Выг.

УКЛАДА'НЬЕ *гл.* выкладанье.

УКРО'П *м.* 1. Расліна кроп. *С укропам агуркі смашнейшые.* Тан. 2. Вар, кіпяток. *Укроп на кіпень гаворацъ только старые.* В.

УРУ'НА *ж.* Рунь. *Хароша ўруна — добрае жыто будзе.* Тан.

ЦЕПЕ'РАЧЫ *прысл.* Цяпер, зараз. *Цеперачы ты схадзі прынесі вады.* Буч. *Цеперачы дроў ні прывезуць.* Макр.

ЦЁМНАЧЫ *прысл.* Папацёмку, у цемнаце. *Прыехаў цёмначы.* В.

ЦІВО'СЯ *прысл.* Нядаўна. *Цівося тут быў.* Тан.

ШАСТУ'Н *м.* Сяннік, матрац, напхнуты саломай ці сенам. *Шастуна пайдзі напхай, кап было на чом спаць.* Сем.

ШПА'РЫ *мн.* У выразе *ў шпары пазаходзілі рукі. У шпары пазаходзілі рукі — гето не просто пам'ёрзьлі, а аш коле, баляць, як сагрэюцца трохо.* В.

ШЧЭ *гл.* ашчэ.

ШЫРХО'ЎКА *ж.* Пярэвітка з веццяя, якою звязваюць асобныя звенні плыта. *Шырхоўка робіцца сь семі дупцоў зь беразаку, ёю зьвязваюць клейны ў пасы.* Смал.

*І. Я. Яшкін*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСАК ДУДЗІЧЫ І АЗЯРЫЧЫНА ПУХАВІЦКАГА РАЁНА

Пры абследаванні гаворкі в. Ду́дзічы ў 1971 г. для «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» аўтарам артыкула было запісана ў гэтай вёсцы і ў суседняй в. Азяры́чына [1] больш 200 мясцовых слоў.

Пры падрыхтоўцы артыкула з ліку зафіксаваных мясцовых слоў былі адабраны толькі тыя, якіх няма ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) ці якія маюць у ім паметы «абласное», «простанароднае», «размоўнае». Сюды не ўключаны таксама словы, якія ўвайшлі ў «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970), а таксама ў «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» (1929) М. В. Шатэрніка, складзены на матэрыяле гаворак Чэрвенскага, Пухавіцкага і суседніх з імі раёнаў. Гэта такія, як *абгаро́жа, абзыва́цца, абіра́ць, абле́гчы, акра́с, балацяны, ва́та, ве́льма, вой, вучальні́к, гук, дак, дроп, дрэ́паць, дрэ́ўкі, жано́цкі, зна́тны, зы́чыць, іска́ць, куку́ля, ліхадзе́й, льга, на́вет, наўко́с, пама́ньваць, плёскі, пранцава́ты, пратану́ць, про́даць, раўні́цца, се́рка, стая́к, стрэ́нчыць, таўшчэ́разны, тро́шка, трыгу́біца, убіцца, уве́чара, цяпло́, чапі́цца.*

З фанетычнага і граматычнага боку гаворкі гэтых вёсак маюць асаблівасці, характэрныя пераважна для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту. Але адчуваецца ўплыў і паўночна-ўсходняга дыялектнага масіву. Гэта зразумела, таму што гаворкі Пухавіцкага раёна знаходзяцца ў паласе сярэднебеларускай пераходнай дыялект-

[1] Вёскі знаходзяцца па суседству на адлегласці 3 км, Дудзічы на правым беразе р. Пцічы, а Азярычына — на левым. Словы азярычынскай гаворкі запісаны ад жыхаркі в. Дудзічы Скварнюк Наталлі Данілаўны, якая нарадзілася ў 1913 г. у в. Азярычына і пражывала ў ёй да замужжа.

най зоны. З найбольш цікавых фанетычных асаблівасцей адзначым лабіялізацыю гука *а* перад *ў* пад націскам, а іншы раз і не пад націскам (*заслóў, прóўда, упóў, узарвóў, шчóўя, сунёў, стаёў, любовóўся, памоўзьлівы, Поўліна, пугóўё*), азванчэнне глухіх зычных у інтэрвакальным становішчы ў паасобных словах (*мéдзіць* — меціць, *у калгáзі, хвазянýць* — хвасянуць, *падбіўзя* — падбіўся), адпадзенне *-ць* у спалучэнні *-сьць* (*чэсь, дась*), асіміляцыю *бн* у *мн*, *дн* у *нн* (*дрóмны, трýнна*), вымаўленне замест прыстаўкі *вы-* не пад націскам гука *у* (*упівáць, унéсьці, паўпóрваць, наўбірáць, умáць*). Можна адзначыць таксама некаторыя лексікалізаваныя фанетычныя з'явы: *куртáс* — кутас, *пóвяс* — пояс, *дрэ́паць* — драпаць, *Аўдóця* — Аўдоцця, *Натáля* — Наталля (звычайна *насéньне, гóльле* і г. д.).

У галіне граматыкі для гаворак вёсак Дудзічы і Азярычына характэрны для назоўнікаў мужчынскага роду дыялектныя формы назоўнага склону множнага ліку на *-е* пад націскам (*агуркé, бацькé, будаўнікé, буракé, гукé, каранікé, наскé, пругé, урагé, пудэ́, печкурэ́*); формы некаторых назоўнікаў у творным склоне множнага ліку на *-мі* або *-ымі* (*з дрыўмí, з калясьмí, сьлізьмí, очы́мі, пляч**ы́**мі*, але звычайна *нагáмі, рукáмі*); формы *мінé, цібé, сібé* ў родным склоне адзіночнага ліку асабовых займеннікаў (а таксама і *ціпéр*), наяўнасць форм *ё, ёсьць* і *ест* у 3-й асобе ад дзеяслова *быць*.

Гаворкі вёсак Дудзічы і Азярычына ў галіне лексікі мала чым адрозніваюцца. Тым не менш некаторыя адрозненні паміж імі ўсё ж назіраюцца. Так, у Азярычыне дробная мякіна — *мякíна*, а ў Дудзічах — *амéцьце*, у Азярычыне макацёр — *макацёр*, у Дудзічах — *цёрла*, у Азярычыне — *цыгýн, сарóчка, цяплó, істóпка, вісóкі*, у Дудзічах адпаведна *цаѓáн, кашýля, агóнь, варыўня́, высóкі*.

У слоўніку гаворак вёсак Дудзічы і Азярычына іншы раз паралельна ўжываюцца словы рознай дыялектнай прыналежнасці: *буя́чнік* — *дурнíчнік* (але *дурнíцы*), *рáдуха* — *вясёлка* (але асобная каляровая палоска ў вясёлцы — *тэ́нча*) [2]. Адзначым таксама цікавае кантамінацыйнае ўтварэнне: *маѓ'нэ́т* з *магнэ́с* пад уплывам *магнíт*.

---

[2] ДАБМ, карта № 312. Назвы вясёлкі.

АБ *прыназ.* На (пры ўказанні на колькасць). *Аб гэтым жа не зварыш, трэба яшчэ дрэўкі!*

АБЛАЖЫ′ЦЬ *зак.* Укласці дзіця, прыспаць, каб заснула. *Аблажылі такі тую* (унучку).

АБЯЧА′ЙКА *ж,* АБЯЧА′ЯК *м.* і АБЕ′ЧАК *м.* Брыво. *Абячайкі расьсек. Абечкі чорныя.*

АДБЫВА′ЦЬ *незак.* Убываць (аб колькасці, вазе). *Прышлі сваты́ ка дной дзеўцы. Пытаюць у сватоў: «Што вам болей даць — што прыбывая ці што адбывая?» Сядзяць яны і думаюць, што прасіць. «Ну, — кажуць, — прынясіця таго і другога». Прынéсла яна збан малака і талерку сала.*

АПУ′ДЗІЦЦА *зак.* Спалохацца. *Стаіць апудзіўшыся сабака на сьнягу.*

АПЯРО′ЧКА *ж.* Папярочка, распорка паміж ножкамі (стала, стула).

АСТА′ЦЦА *зак.* Выйсці замуж у гэту вёску. *Сюды я асталáся за яго, дак і жыву тут.*

АТЛО′ГІСТЫ *прым.* Адложысты, спадзісты. *Атлогісты берах.*

АТРАЎЁ *н. зборн. метаф.* Гора, клопат, дакука, журботы. *Атраўё нейкая, а ня дзеці!*

АТРЫ′ВІСТЫ *прым.* Абрывісты, круты. *Атрывісты берах.*

АШАЛАМУЦЕ′ЦЬ *зак.* Ашаламіцца, здзівіцца; адурэць ад тлуму, ад дзіцячага крыку.

БАНЬСЮ′К *м.* Байструк.

БЕ′ЛКА *ж.* Жывёла ці птушка белага колеру.

БЕ′ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць.

БІ′ЛА *ж.* Тоўстая жэрдка ў колішняй хаце ад печы да сцяны для захавання адзежы.

БЛУЗА′ЦЬ *незак.* Блазнаваць. *Блузáеш, баба!*

БЭ′НІСЬ *м.* Байструк.

ВАЎЧА′К *м.* Ваўчаня. *Хто не байіцца ваўчака ў рукі браць?*

ВЯРХНІ′ЦА *ж.* Драбіны ў калёсах. *Ляскі ў вярхніцы ў калёсах паламаліся.*

ГАМЗА′Ч *м.* Гамзаты. *Еш, гамзач ты!*

ГАНАРАВА′ЦЦА *незак.* Ганарыцца. *Чалавек ганарýецца.*

ГО′ЛАС *м.* У выразе *у сьвінныя галасы́* — вельмі позна, не ў час, не ў пару (прыйсці, пасеяць і г. д.).

ГО′ЛЫ *прым.* Чысты. *Голая пасуда.*

ГО′РНЫ *прым.* 1. Ганарысты, ганарлівы; такі, які выхваляецца. *Горны чалавек,* г. зн. які ганаруецца. 2. Прыгожы. *Горны чалавек.*

ГРУ′БАЯ *прым. ж.* Цяжарная (пра жанчыну).

ГРЫЖА′Н *м.* Недаваранaя сярэдзіна ў бульбіне.

ДАБРАДУ′ЧНЫ *прым.* Дабрадушны. *Папоўся дабрадучны чалавек у гэтайі маладзіцы.*

ДАДЫХА′ЦЬ *незак. метаф.* Дажываць, гінуць. *Ужо дадыхáеш, а веры няма?!* [ад мужыка жонцы].

ДАМО′ЎКА *ж.* Хата, хвор. *На роннай дамоўцы парадку няма.*

ДАСТА′ВА *ж.* Дастаўка, забеспячэнне. *Дастава у нас добрая і хлеба і ўсяго.*

ДАСТА′ЦЬ *зак.* Знайсці, сустрэць, застаць каго-небудзь на месцы. *Пашла рана, то дастала старшыню яшчэ.*

ДАШЧА′НКА *ж.* Пасудзіна з клёпак на зерне; цяпер няпэўная мера сыпкіх цел.

ДЗЕ′ЦКАЕ *прым. н.* Радзімец, хвароба маленькіх дзяцей. *Дзецкае, радзімае ў яго было.*

ДЛЯ *прыназ.* 1. Ад (указвае на прастору). *Недалёка для нашага поля прайшоўшы.* 2. Каля. *Для лесу гарадок. Блізка для нас.*

ДНАВА′ЦЬ *незак.* Дняваць. *Дзе днуе, дак не начуе* [прыгаворка перад успамінам нябожчыка ноччу].

ДО′ЛЬНЫ *прым.* З добрай доляй, шчаслівы.

ДРУЖЫ′НА *ж.* 1. Дзяўчына, з якой хлопец сябруе, кахаецца. *У маладога* [хлопца] *дружына на пагляд хароша, а як жонка будзе — не баліць галаве.* 2. Муж, жонка (у адносінах адзін да аднаго).

ЖЫРАЛО′ *н.* Горла, рыла ў пасудзіне.

ЖЫЦЬ *незак.* 1. Расці. *Буячнік, дзе жывуць дурніцы.* 2. Зажываць, гаіцца. *Жыве паляц.*

ЗАВЫ′ВА *ж.* Выццё, гудзенне (пра вецер). *У коміне завыва гудзе.*

ЗВА′НЬНЕ *ж.* Назва, найменне. *Скажу дáльшыя званьні палёў.*

ЗДО′ЛЯ *ж.* Выхаванка (выхаванец), прыёмнае дзіця; дольніца (дольнік). *Узялі ўза здолю. Здоля пасе гýсі.*

ЗЖУ′РЫЦЬ *зак.* Пажоўкнуць, зрыжэць ад гарачыні на печы, каля агню (пра бялізну, адзенне). *Зжýрыла на печы адзежа.*

ЗІПА′ЦЬ *незак.* Бліскаць, мігаць. *Маланка зіпáе.*

ЗЬВЯРЫ′НАК *м.* Звярынец.

ІСКА'ЦЬ *незак.* Шукаць у галаве. *Хто кажа йішча ў галаве, а хто — глядзіць, шукая ў галаве.*

КАЛЮ'ШЧЫ *прым.* Калючы, з мноствам калючак. *Калюшчая ажэвіна.*

КАПЕЙКА *ж.* У выразе *капейку згубіць* — сапсаваць паветра. *Данілка капейку згубіў.*

КАРАНІ'К *м.* Калодачны стаячы вулей.

КА'РЫ *мн.* Воз на двух коней.

КВЯЛІ'ЦЬ *незак.* Цвяліць, дражніць, крыўдзіць. *Не квялі яе!*

КЕ'ПЯЦЬ *м.* Кіпцюр. *Кўрыца дрэпае кепцямі.*

КІРМА'Ш *м.* У выразе *гуляць кірмаш* — святкаваць, быць на фэсце. *Аўдоця і Наталя кірмаш гуляюць.*

КІ'СЛЫ *прым.* Слабы. *Кіслы хлопец.*

КЛЁНЬНІК *м. зб.* Кляновыя галіны з лісцем; наогул зялёныя галінкі для ўпрыгожвання (май).

КЛЯ'ДВА *ж.* Клятва. *Клядву дала мацеры.*

КМЕН *м.* Кроп. *Кмену, часныку пасеяла.*

КО'КІДАМ *прысл.* Подкідам. *Захара кокідам кінуў наске Зіне.*

КО'ЦІКІ *мн.* Альховыя шышачкі. *Карабаценькія коцікі пхалі ў ржу, а потым чарнілі палатно.*

КО'ШЧЫН *прым.* Кашэчы.

КРА'СНЫ *прым.* Чырвоны. *Красная хустка.* У выразах: *красная цана* — найбольш падыходзячая цана; *красная субота (сыбота)* — апошняя субота вялікага посту (раней); *красны базар* — вялікі, прадстаўнічы, багаты таварамі базар.

КУ'КЛА *ж.* Від жаночай прычоскі, калі сплеценая каса скручана ў валік.

ЛАХМА'ТКІ *мн.* Лахманы. *На свае лахматкі любовоўся.*

ЛЕ'ЕЦЦА *незак.* Ліцца. *Вада будзе лееццa.*

ЛЯЖА'ЙКА *ж.* 1. Ляжанка каля печы з ачагом. 2. Ляжачы комін. *Ляжайку раськівдала ды зрабіла стаяк на гары наша магазінша.*

ЛЯСЁНКА *ж.* Посцілка ці абрус, у які ўвязвалі грузы для пераносу за плячамі. *Лясёнку за плечы і пад Шацак хадзілі.*

МАГНЭ'Т *м.* Прыхільнасць, жаданне, сімпатыя; магніт. *Магнэт стаў цягнуць да Анці.*

МА'КАЎКА *ж.* Рэпіца. *Калі жоўценькая макаўка ў хвасьце каровы, то добрая будзе карова.*

МА'ЛІЦЦА *незак.* Рабіць сябе ці каго-н. малым, змяншаць гады. *Няма чаго маліцца, калі з запазухі валіцца.* (Прыказка.)

МА'ЦЕР *ж.* Маці. *Мацер носіць дзіцям і носячы парве кішэні, а дзеці парвуць кішэні ад мацеры носячы.* (Прыказка.)

МЕ'ДЗІЦЬ *незак.* Меціць, цэліць. *Медзіў папáсьці палкай.*

МЕ'СТА *н.* Базар, рынак. *Паехалі на места у Шацак. На месьці купіў карову.*

МІЗ *прыназ.* Між, паміж. *Міз поля балота.*

МУРЭ'Ц *м.* Нырэц (у ваду). *За крыгай* [рыбалоўная снасць] *мурцá доў.*

НАШЧО'ГАЦЦА *зак.* Насёрбацца. *Бяс хлеба нашчогаецца бульбы* [булёну].

НЕ'ВІДАСЬ *ж.* Навіна; незвычайная, апетытная, смачная яда з новага ўраджаю; незвычайнае дзіва, цуда. *Сьвіньні будуць есьці зь невідасьці* [слівы], *а тады і не возьмуць.*

НЕДАБРЫ'ЦЦА *незак.* Нездаровіцца, нядужыцца. *Захварэя, — недабрыцца нешта.*

НО'СЬМА *прысл.* У выразе *насіць нóсьма* — насіць бесперастанку. *Носьма носіць дзіця. Носьма носіць салому.*

НЫ'ДЗЬГАЦЬ *незак.* Нудзець. *Ны́дзьгае бацька ў Ціцьвé* [вёска].

ПА *прыназ.* Пасля. *Па нядзелі можа як палучыцца* [схадзіць] *на Цітвý* [вёска]. *Схаджу па бедзе ўбіраць бульбу г бацькóм.*

ПАВЕ'СЬЦІСЯ *незак.* Гадавацца. *Пасага* [карова] *не павядзецца.*

ПАГАВО'Р *м.* Чуткі. *Людзі гаворкі пусьцілі, — людзкі пагавор ёсьць.*

ПАКІ'ДАЦЦА *зак.* Спáсці. *Пакідаюцца ўсе грушы.*

ПАЛАДАВА'ЦЬ *зак.* Давесці да ладу, пагадаваць і ўладкаваць. *Дзяцей паладавáлі, то на халерыю ўсё?!*

ПАЛІША'ЦЦА *зак.* Застацца без чаго-небудзь. *Палішáюцца кароў.*

ПАМОЎЗЬЛІ'ВЫ *прым.* Шкадлівы. *Памоўзьліваe кацянё.*

ПАПАВО'ДЗІЦЬ *зак.* Папавадзіць. *Папаводзіла сваю карову* [на ферму].

ПАПЯЛЬНІ'К *м.* Кавалак палатна для адцэджвання попельнага лугу.

ПАРУЧЫ'ЦЦА *зак.* Пайсці рукой, стаць гадавацца. *На пасагу далі карову, а яна і не паручылася* [здохла] *у мае мацеры.*

ПАЎЛЕ'ТРА *н.* Паўлітра. *Паўлетра не броў і канец!*

ПАХАДЗЮ'ШЧЫ *прым.* Падношаны, ношаны (пра адзенне, вопратку). *Скрыня чатырохго́льная для пахадзюшчай адзежы.*

ПА'ЦЕРКА *ж.* Мочка пад дзюбай (у падбароддзі) у пеўня, курыцы. *У пеўня пацеркі расьперла, падмярзалі на седалі ў куратніку.*

ПА'ЧУСАВАЦЬ *незак.* Вычэсваць пачассе з кужэльнага льну. *Па́чусавалі кужаль шчоткай сьвінной на абру́сы.*

ПЕРАЙСЬЦІ' *зак.* Перадацца на адлегласць (пра звесткі). *Пакуль па дроці, дык хуччэй па плоці пяройдзе.* (Прыказка.)

ПЕ'РСЬЦЬНІ *толькі мн.* Персі, грудзі ў каня.

ПРЫСТУПІ'ЦЬ *зак.* Найсці, здарыцца. *Нешта прыступіла ей — увечары сёньні ляжа раней* [спаць].

ПРЫСЬЛЯПІ'ЦЬ *зак.* Прываражыць, прычараваць. *К хлопцу прысьляпіла дзеўку.*

ПУ'ШКА *ж.* Мяккі кончык пальца, падушачка. *Вы́тнеш пу́шкі.*

ПЫ'РКАЦЬ *незак.* Пырхаць, прыгаць. *Пыркаюць блохі.*

ПЯВУ'ХА *ж.* Песенніца.

РАЙДУ'НКА *ж.* Жанчына з іншай вёскі і з іншай гаворкай.

РАСЬКІ'ДАЦЦА *зак.* Сапсавацца (пра дарогу вясной). *Дарога як раськідаецца, то не паедзеш.*

РЫЖО'ЎКА *ж.* Гатунак бульбы з ружовым колерам скуркі.

САЛА'Ш *м.* Шалаш.

САМАШЭ'ТНЫ *прым.* Вар'яцкі, шалёны. *Самашэтныя чэрці!* [пры лаянцы]. *Самашэтны чалавек, вот паскуства?!*

САМІ'ЦА *ж.* Каўтун на ўсёй галаве.

САМО'К *м.* Вялікі камяк каўтуна на галаве.

САСПА'ЦЬ *зак.* Перахварэць у сне. *Сасьпіць, дак легчай яму будзе. Саспаў сваю хваробу.*

СКЛУ'БІЦЬ *зак.* Выбіць клуб. *Склу́білі карову.*

СО′ЎКАЦЦА *незак.* Соўгацца. *Соўкайся з вамі дзень і ноч, мае дзеткі?!*

СПРА′ВЫ *мн.* Новыя набыткі (пашытае ці куплёнае адзенне; змайстраваны ці куплёны воз, вупраж; даведзеныя да ладу пабудовы). *Спраўляць справы.*

СПУ′СКЛІВЫ *прым.* Пакаты, спадзісты. *Спусклівы берах наўкос так ідзе.*

СТРУ′ЧНЫ *прым.* Кусцісты, шматклубневы. *Цыбуля стручная.*

СТРЭ′НЬНІ *прым.* Дваюрадны. *Стрэньні брат і стрэньняя сястра былі ў гасьцёх.*

СУМРО′К *м.* Змрок. *Сутонюецца сумрок.*

СУ′НАСТКА *ж.* Ручка ў набіліцах. *У набільніцах дзьве сунасткі.*

СУТО′НЕЦЦА *незак.* Цямнець. *Пара ісьці, ужо сутонюецца на дварэ.*

СЬВЯТОК *м.* Свята, святы дзень. *Кірмаш на сьвяток Пакровы,— у госці ішлі.*

ТАЦЬ *незак.* Раставаць. *Тане сьнех.*

ТАЎСЬЦЕ′РАЗНЫ *прым.* Таўшчэзны. *Таўсьцеразная кілбаса.*

ТРАНБУ′ЛЬКА *ж.* Цыбулька-сеянка з насення.

ТРА′НЦЫ *мн.* Транты, рыззё, лахманы. *У транцах хадзіла.*

ТУРЛІ′ЦЬ *незак.* Трубіць, тарахцець, шумець (пра машыны). *Паехалі дзеці і ўжо не турляць у галаве з машынамі па хаце.*

ТЫ′КАЦЬ *незак.* Соваць. *Языча, язычa, куды цябе тыча?!* (Прымаўка.)

УВАГРЭ′ЦЦА *зак.* Сагрэцца, разагрэцца. *Бяры гэту кашу еш, увагрэешся.*

УДО′ХЦІ *зак.* Здохнуць. *Кот удох ад мухамора.*

УКВЯЛІ′ЦЬ *зак.* Уцвяліць, раззлаваць, укрыўдзіць. *Уквяліць Вову да сьлёс Марынка.*

УЛЕ′ЦЬ *зак.* Уліць, наліць. *Улець булёну?*

УНІКА′ЦЬ *незак.* Знікаць, убірацца. *Унікла вада ў калодзежы.*

УСКАРЭ′БКАЦЦА *зак.* Ускарабкацца. *На пасцельку ускарэбкалася.*

УСКРЫ′КАЦЬ *незак.* Ускрыкваць. *Аж ускрыкуе — ногі вельма баляць.*

УТРАВІ′ЦЦА *зак.* Зарасці зеллем, травою. *Соткі утравіліся хрэнам.*

ХАЛЕ'РЫЯ *ж. экспр.* Нешта дрэннае, шкоднае; дрэнь, брыдота. *Халерыя, ня дурэй! Ці прасі ты, ці не, халерыя, а ня дзеці?! Нейкаю халерыю гаворыць.*

ХАЛЯР'Ё *н. зборн. экспр.* Погань, нечысць, дрэнь, брыдота. *Халяр'ё, німа чаго палучаць з-за птушак!*

ХАЦІ' *часц.* Хоць, хаця. *Хапая памідораў, — паеш хаці. Хаці хто ў сваты да гэтай дзявулі.*

ХВАЗЯНУ'ЦЬ *зак.* Хвасянуць, сцёбнуць. *Трапкачом хвазянеш па руках.*

ХЛЕ'БНЯ *ж.* Дзежка, у якой расчыняюць хлеб.

ЦАГА'Н *м.* Чыгун (для варэння стравы).

ЦЬВЁРДЫ *прым.* У выразе *цвёрдая вада́* — вада, у якой шмат вапнавай солі. *Мяккая вада балацяная, а цьвёрдая вада з калодзежа.*

ЧА *часц.* Чаго (у пытальных сказах). *Ча́ ты пазіраеш?*

ЧВО'РТКА *ж.* Створка. *Шкап са днаёю чворткаю.*

ЧЭ'ЛЯЦЬ *ж.* Дзеці. *Чэлядзі поўна хата.*

ЧЭСЬ *ж.* Бяседа, госці, чэсць. *Былі на часьці.*

ШАЙМО'РА *ж. зборн.* Крухмальныя камякі ад мёрзлай бульбы, якія выворваюцца вясной на бульбянішчы. *Назьбіраем гнілых шаймораў.*

ШАЛУПА'Я *ж.* Шалупайка. *Цыбулю ад шалупа́іі падразаць, а тады трэба плесьці ў вянок.*

ШАНПО'ЛІЦЦА *незак.* Шастаць, шамацець. *Шанполіцца кот на печы.*

ШАРАСЬЦЕ'ЦЬ *незак.* Шапацець, шамацець. *Бумага шарасьціць. Валасы шарасьцяць аб пальцы.*

ШАСНА'СТКА *ж.* Старая мера сыпкіх цел, роўная 2 асмінам, у выглядзе драўлянага вядра, у якім адна выступаючая ўверх клёпка была ручкай.

Я'ГРЫСТА *ж.* Агрэст. *На сотках ё маліны, я́грыста.*

*А. А. Крывіцкі*

# У СЛОЎНІК МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

Мяккаэрыя гаворкі ўсходніх раёнаў Магілёўшчыны ў лексічных адносінах вывучаны значна лепш за гаворкі іншых перыферыйных дыялектных зон беларускай мовы. Лексіка гэтай зоны знайшла шырокае адлюстраванне ў вядомых зборах лексічных і фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў І. І. Насовіча, Е. Р. Раманава, І. І. Дабравольскага і, нарэшце, у спецыяльным занальным (краёвым) слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны І. К. Бялькевіча.

Асабліва пашчасціла гаворкам Мсціслаўшчыны. Яны былі, бясспрэчна, у цэнтры ўвагі І. І. Насовіча, які ўкладаў свой славуты слоўнік, жывучы ў Мсціславе. У былым Мсціслаўскім педтэхнікуме стваралася і картатэка выдатнага слоўніка І. К. Бялькевіча, у якой, калі меркаваць па ілюстрацыйных матэрыялах у слоўніку, несумненна, пераважалі запісы лексікі з Мсціслаўшчыны [1]. Нарэшце, у апошнія гады выдадзена некалькі досыць значных збораў лексікі і фразеалагічных сродкаў адной тыповай гаворкі гэтай тэрыторыі, падрыхтаваных Г. Ф. Юрчанкам. Таму не выяўленых яшчэ даследчыкамі мясцовых слоў у гаворках Мсціслаўшчыны засталося, відаць, нямнога. А асабліва ў тых яе кутках, дзе працавалі ранейшыя збіральнікі.

Такім кутком з'яўляецца паўночна-заходняя ўскраіна Мсціслаўскага раёна. Як можна меркаваць па слоўніку І. К. Бялькевіча, лексічны склад пашыранай тут гаворкі ў свой час быў досыць старанна абследаван яго карэспандэнтамі. У прыватнасці, назвы паасобных вёсак Кур-

[1] Мсціслаўскі раён у параўнанні з іншымі раёнамі б. Калінінскай акругі знаходзіцца, так сказаць, на першым месцы не толькі па аб'ёму выкарыстанага ў слоўніку І. К. Бялькевіча матэрыялу, але і па колькасці населеных пунктаў (83), з якіх пададзены ў ім ілюстрацыі.

манаўскага (Б. Багацькаўка, Пацкава, Раздзел, Курманава і інш.), а таксама суседняга Пацолтаўскага сельсаветаў (Асмолавічы, Белы Мох, Пацолтава, Івоны і інш.) на старонках гэтага слоўніка трапляюцца часта (у подпісах пад ілюстрацыямі). А родная мне вёска Слаўнае выступае літаральна на кожнай старонцы слоўніка. Яе гаворка з лексічнага боку была вывучана нейкім карэспандэнтам (або карэспандэнтамі) І. К. Бялькевіча найбольш грунтоўна і глыбока.

Змешчаная тут невялікая калекцыя лексікі (каля 200 слоў) з'яўляецца часткай той нязначнай рэшты слоў, характэрных для гаворкі адзначанага кутка, што засталіся ўсё ж незарэгістраванымі ў слоўніку І. К. Бялькевіча. Праўда, пры падрыхтоўцы да публікацыі з яе выключаны былі словы, якія пададзены ў «Дыялектным слоўніку» Мсціслаўшчыны Г. Ф. Юрчанкі. Такім чынам, гэта невялікая падборка слоў з'яўляецца як бы дапаўненнем да абодвух адзначаных збораў лексікі.

У падборцы лексікі больш за ўсё слоў, якія характарызуюцца рознымі мясцовымі структурнымі асаблівасцямі — словаўтваральнымі, фанематычнымі і інш. Пададзены словы, якія маюць найбольш значныя і найбольш важныя мясцовыя адрозненні. Самымі цікавымі сярод іх з'яўляюцца, безумоўна, поўныя лексічныя рэгіяналізмы. Але такіх зусім «экзатычных» слоў выяўлена няшмат. І адносяцца яны ў большасці да «экспрэсіўнай перыферыі» мясцовага слоўніка, якая не так даступна для збіральнікаў, як лексіка звычайных зносін.

Пададзены словы і ілюстрацыі да іх, а таксама апрацаваны, як у слоўніках І. К. Бялькевіча і Г. Ф. Юрчанкі. Размешчаны ў алфавітным парадку ў адпаведнасці з літарным складам іх запісу ў прынятай фанетычнай транскрыпцыі.

Вытворныя словы, заўвагі і адсылкі да слоўнікаў І. К. Бялькевіча і Г. Ф. Юрчанкі (скарочана Бяльк., Юрч.) падаюцца ў канцы слоўнікавых артыкулаў. Пры гэтым адсылка *гл.* пры словах, якія прыводзяцца для параўнання з адзначаных слоўнікаў, указвае на адсутнасць іх у гаворцы паўночна-заходняга кутка Мсціслаўшчыны. Калі ж падобныя словы падаюцца без адсылкі, то гэта азначае, што яны тут бытуюць таксама.

АБМЕ'ЦІЦА *ж.* Мучны пыл, які асядаў па закутках у млыне і які збіраў («абмятаў») млынар на корм сваёй

жывёле. *Мельнікуў Тобус* [сабака] *абмеціцы налопыіцца ў мельніцы і тады толька вадзіцу хлібтаіць.*

АБУ'ЎКА *ж. зніж.* Абутак. *Нашоў нейкыю абуўку ны раз у лес схадзіць* [звыч. в о́ б у й Бяльк. або в о́ б у ў Юрч.].

АГРЕ'ВУС *м. зневаж.* Гультаяваты здаравяка. *Гапкін агревус нічогычка ня хочыць дзелыць* [пра сына Агаты].

АГУ'ЗЬЗЯ *н.* Крэсла ў штанах. *Так сігануў, што аж у агузьзі штаны треснулі.*

АЗЬДЗЯВУ'ЛІЦЬ *зак.* Важка ўдарыць. *Азьдзявуліў палкый па гылаве, ажно сіняк* [і а з ь д з і в я́ л і ц ь — т. с. Бяльк.].

АПО'ЙЛІК *м.* Выпаенае з рук цяля; *перан.* чалавек, які можа многа выпіць (асабліва гарэлкі). *Цёлка ў мяне апойлік, к карові ні пудпускаў. Еты апойлік, што лісьніком, літру гарелкі можыць выпіць, дырма што нізкій.*

АПСА' *ж.* Толькі ў выразе *лёзьць (кідацца) апсой у вочы* — прыставаць нахабна і неадчэпна (*гл.* а п с о́ м Юрч.).

АСТЭ'КЫЛ *м. абразл.* Зусім някемны і тупы чалавек. *Твой дурный, ды хітрый, а мой жа саўсім астэкыл* [пра дзяцей].

АСЫЛАВЕ'ЦЬ *зак.* Асавець, аслабець, зрабіцца сонным (ад залішне выпітай гарэлкі, ад стомы). *Як цяпнулі сьпірціку па сто грам з дарогі, дык і асылавелі.*

АХЛАМО'Н *м. зніж.* Нязграбны чалавек, неахайны з выгляду. *Нешта ты як ахламон у йетый шапцы.*

БА'ГРІЦЬ [1] *незак.* Напальваць да чырвані. *Дос багріць грубку, ато рызваліцца.*

БА'ГРІЦЬ [2] *незак.* Накладаць вельмі высока. *Навошта ты такі воз багріш, верьх зваліцца!* У з б а́ г р і ц ь *зак.* Ускласці на значную вышыню звыш меры. Н ы б а́ г р і ц ь *зак.* Накласці з вялікім верхам, наліць вялікую меру.

БІНЬДЗЮ'Г *м.* Параконны воз, які можна расцягваць пры патрэбе (*гл.* б і н д з ю г а́ й л а — гультай, лодыр; в і с у с Юрч.).

БІРЮ'К *м.* Змрочная нелюдзімая істота. *Сянні мой надуўся, глядзіць бірюком спадлобья.*

БРА'ХНІНЬКА *м.* Брацейка. *А брахнінька, а роднінькі, а што ж ты дзелыіш?!*

БРЫ'ЦІК *м. пагардл.* Мужчына з холеным тварам.

БУ'ЙЛА *м.* і *ж. экспр.* Рослая няскладная асоба. *Такій буйла, а розуму ні на шэліг яшчэ німа.*

БУКА'ТЫЙ *прым.* Шырокі, поўны ў баках. *Букатыйа карова, скора целіцца. Букацінькі гырла́чык.*

БУ'КЛЯ *ж.* Бутон. *На розі такія красныя буклі вісяць.*

БУ'КУЎКА *ж.* Травяністая расліна купальніца.

БУРДЗЕ'ЦЬ *незак.* Пачынаць закісаць.

БУРДЗЯЛІ' *толькі мн. пагардл.* Пракіслая пустая страва. *Дыла́ нейкіх бурдзялёў учырашніх пыхлібаць.*

БУТУВА'ЦЬ *незак.* Парушаць усталяваны парадак, становішча. *Ні бутуй кароў, ніхай ідуць* [або ніхай ліжаць]. *Бутуіш ты мне толькі ніткі* [падаеш памылкова адну замест другой]. *Бутуюць етых людзей.* Збутува́ць *зак.*, узбутува́ць *зак.* Прывесці да беспарадкавага руху, хвалявання. Бутува́цца *незак.* Рабіць розныя цяжкія і беспарадкавыя намаганні. *Два часы мушчыны ушысьцярых бутуваліся і ня выцігнулі, во залезла* [машына] *у балота!* Узбутува́цца *зак.* Прачнуцца не ў пару (бутава́цца — цяжка, да знясілення працаваць, Юрч.; бутава́цца — мардавацца, выбівацца з сіл, Бяльк.).

БУТУРІ'ЦЬ *незак.* Паспешліва паднімаць, узбуджаць, растрывожваць. *Нашто було лудзей бутуріць у такую рань!* Узбутурі́ць *зак.* Паспешліва падняць, устрывожыць моцна, расхваляваць. Узбутурі́цца *зак.* Паспешліва падняцца, устрывожыцца, расхвалявацца.

БУХЦЕ'ЦЬ *незак.* Выказваць нездавальненне. *Ні бухці, Васіль, нялюба слухыць.* Рызбухце́цца *зак.* Працягла выказваць свае нездавальненні.

БУ'ШНЫЙ *прым.* Лапушысты. *Цыбуля бушныя, вун якоя перья!*

БЫ'КУС *м. зневаж.* Хлапчук-падлетак. *Ча ты рявеш, быкус, вялік ужу плакыць!*

ВАШЧЭ'ВІНЬ *м.* Агарод ці сад перад хатай.

ВО'МІГЫМ *прысл.* Нясцерпна, да горычы ў роце. *Вомігым вады хочыцца.* Амягнуць *зак.* Адчуць вялікую прагу піць.

ВУ'ГРІЎ *м.* Сонечная ахаваная ад ветру мясціна, дзе добра «ўгравае» сонца. *На вугрівых снегу німа даўно.*

ВУЖЭ'ЛЫК *м. экспр.* Малы, вельмі рухавы пралаза. *А етыга вужэлка ны руках ня удзержыць.*

ВУ'ЙМА *ж.* Процьма, маса, вялікая колькасць. *Вуйма дзяцей. Вуйму грібоў прінёс.*

ВУРГА'Н *м.* Цвёрды грузачок, пухір на скуры. *Пчыла ўкусіла, і вурган ускачыў.*

ВУРГУ'ЛЬ *м.* Цвёрды нараст пад скурай. *Вургуль у яго пат кожый на шыі.*

ВЫЛАПО'КІЙ *прым.* З вытарашчанымі вачамі.

ВЫ'МІРЬХЫЦЦА *зак.* Выгаладацца ў дзеянні, у рухах. *Як ладна вымірьхыіцца кыбан, дык зьесьць цэлы чугун бульбы.*

ВЫ'РВА *ж. экспр.* Вельмі бойкая і гарэзлівая дзяўчына. *А ета вырва ўжо с хлопцым пабілысь* (в ы́ р в ы с — т. с. пра хлапчука, Бяльк.).

ВЫРО'ДЫВЫЦЬ *незак.* Выраблянць непрыстойныя глупствы, дапякаць капрызамі. *Напіўсь і выродыіць там пьяный, аж нервы ні выдзержывыюць.*

ВЫ'ХІБІЦЦА *незак.* Выгнуцца.

ВЫ'ЧЫК *м* і Е'ЧЫК *м.* Невялікая лугавая птушка чакан (назва часткова перадае ўражанне ад гукаў яе простай песенкі: *ві-чык, ві-чык-чык*; або *е-чык, е-чык-чык!*).

ВЭ'РХЫЛ *м.* Крык, беспарадак. *Дзеці такі вэрхыл пыднялі ў хаці, што хуць уцікай.*

ГАЛЫ'ТЫРЬ *м.* Галыш; *перан.* зусім бедны чалавек, абадранец. *Ану-тка, пыкажы мне свайго галытыря етыга ма́лыга!*

ГАМО'Н *м.* Канец, скон. *Бульбі гамон будзіць, памерзьніць сяньні за́ ныч.*

ГАРШЧЫ'НЯ *мн зборн.* Старая мясцовая назва насельніцтва суседняга з Мсціслаўскім Горацкага раёна (відаць, ад г а р с к і я, г. зн. з-пад Горак).

ГАРШЫ' *прысл.* Горш. *А бабі яшчэ гаршы стала, саўсім реч атняло.*

ГЛА'БЫЦЬ *незак. пагардл.* Хапаць прагна, як мага больш. *Ні тваё, ні глабый, ру́кі атаб'юць.* З ы г л а́ б ы ц ь *зак. пагардл.* Захапіць з прагнасцю як мага больш.

ГО'ЙДА *ж.* Непаседа. *Гойда ета хоць ба мінутку пысядзець спакойна дыла.*

ГРЁКЫЦЬ *незак.* Важка стукаць. *Грёкыіць у дзьверi кулаком, аж хата калоціцца.* Г р ё к н у ц ь *зак.* Важка ўдарыць. Г р ё к н у ц ц а *зак.* Важка ўдарыцца аб зямлю.

ГРІМЯ'К *м.* Удар кулаком па спіне. *Ныдывала мальцу грімякоў, аж, бедный, зарёў* (*гл.* г р ы м я ч ы к — т. с. Бяльк.).

ГРО'МЫСТ *м.* Непатрэбныя груваcткія рэчы. *Громысту ўсякыга повін чулáн* (*гл.* г р ó м ы з д—т. с. Юрч.).

ГУЖО'ВЫЙ *прым.* Жылаваты, цвёрды. *Гужовыя мяса ат стáрыя каровы; гужовыя сала нейкыя.*

ГУЛЫ' *мн.* Рэха, пошчак. *Гулы пы лясý пашлі.*

ГЫРГА'РА *ж.* Вялізная груваcткая і нязручная прылада, рэч. *Ні калёсы, а гыргара нейкыя* (*гл.* г а р г а р а—сварлівы чалавек, Юрч.).

ДАЛДО'НІЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць аднастайна. *Далдоніць і далдоніць нешта, ажно ныдакучыла.*

ДЗЕ'БРЯ *ж.* Непраходныя зараснікі. *У такую дзебрю завёў, што ня вы́брыцца.*

ДЗЮ'НЬДЗЯ *м.* і *ж. экспр.* Плакса, крывуля.

ДЗЯЖНІ'ЦА *ж.* Накрыўка на дзяжу.

ДРЯ'ГНУЦЬ *незак.* Моцна закрычаць, запець; энергічна кінуцца. *Як дрягнулі песню! Дрягнулі ўцікаць.*

ДУ'КА *м.* і *ж.* Разумнік, хітруга, вельмі дасведчаны чалавек. *Ну, ён у етым дзелі дука* (д у к а в á ц ь — настаўляць на розум, павучаць і інш., Юрч.).

ДЫРТВЯНЕ'ЦЬ *незак.* Дранцвець. *Ногі дыртвянеюць.* А д ы р т в я н é ц ь *зак.* Здранцвець.

ЁРЗА *ж. экспр.* Непаседа, гарэза (ё р з ы ц ь — неспакойна сядзець, Бяльк.).

ЖЫДЗЯЛІ' *мн.* Негустая страва. *Ета ж ні каша, а жыдзялі нейкія.*

ЗА'РІЦЦА *незак.* Кваліцца. *Заріцца ны яго быгацьця дзеўка.* П ы з á р і ц ц а *зак.* Паквапіцца.

ЗА'ЧЫСЬЦЬ *ж.* Адчуванне асалоды ад пачухвання (і наогул ад уздзеяння на цела ў тым месцы, дзе свярбіць). *Ай, як ладна венічкым пы спінé пыхадзіў, аж зачысьць было.*

ЗНАЧЫ'ЦЬ *незак.* Мець прыкметы блізкага ацёлу. *Карова ужу значыць.*

ЗУБІ'ШЧЫ *мн.* Дзіцячая хвароба. *Зубішчы раншы бабкі ны дубовум сукý зыгуварівылі.*

ЗЫКА'ЛІЦ *м.* Густы асадак на ніжняй скарынцы ў няўдалым хлебе. *Як спячэць хлеб, дык зыкаліц у булцы ны паліц.*

ЗЫМАМУ'ЛІЦЬ *зак.* Пакрыўджана стуліць (губы). *Зымамуліла губы, ні пытступіцца.*

ЗЫЦЯ'ЦЦА *зак.* У злосці намерана перастаць размаўляць, есці або рабіць. *Мой зыцяўся і другій дзень ні гаворіць.*

ЗЯ'ЎРІЦЬ *незак.* Адкрываць і закрываць рот пры кананні. *Птушанёнык яшчэ зяўріць троху.*

І'МЫСЬЦЬ *м.* і *ж.* Зварот з іранічнай павагай (з выразу і х м і л а с ц ь). *А вы куды ета, імысьць, нырядзіліся, а вячэріць?*

ІСҚ *м.* Пчаліныя разведчыкі. *У навўжніку іск, можа рой пріляціць.*

ҚАМСІ'ЦЬ *незак.* Біць таўхялямі. *Я яго камшу ў спіну, а ён сабе хуць ба што.* Н ы к а м с і ц ь *зак.* Надаваць *таўхялёў.* А т к а м с і ц ь *зак.* Даць таўхялёў.

ҚАНДЗЁХЫЦЬ *незак.* Қандыбаць стомлена. *Қандзёхуў, кандзёхуў, чуць пріқандзёхуў двору з горыда.*

ҚА'СЬЦІЦЬ *незак.* Псаваць без патрэбы, бяздумна і ганьбіць на нішто. *Қасціла свайго мужука́ самымі паследнімі слывамі.* С к а́ с ц і ц ь *зак.* Сапсаваць, зганьбіць.

ҚАТЫ' *мн.* Валеныя апоркі, якія адзяваліся замест галёш на валёнкі (у мінулым).

ҚО'РГА *ж груб.* Старая жанчына. *І етым коргым ста́рым яшчэ юр на ўме!*

ҚУЛДУЯ'ЧЫЦЬ *незак.* Лепятаць, незразумела гаварыць. *Қулдуячуць нешта пы радзіву ні пы нашыму.* Н ы к у л д у я́ ч ы ц ь *зак.* Налепятаць. З ы к у л д у я́ ч ы ц ь *зак.* Залепятаць.

ҚУРЧ *м.* Қарчага (к у р ч ы́ г а — т. с. Бяльк.).

ҚУРЧУМЯ'ЧЫНА *ж.* Қарчак, карчаватае тоўстае палена. *Ету курчумячыну ты нічым не рызабьеш.*

ҚУ'РЧЫЦЦА *незак.* Қорчыцца. *Қурчыўся ат холыда пыт прысьціной.* С к у́ р ч ы ц ц а *зак.* Скорчыцца.

ҚУ'ЦҚА *ж.* Қукса (к у ц о́ б к а—т. с. Юрч.; к у́ ц ы— нізкарослы, Бяльк.).

ҚЫСМАНО'ГІЙ *прым.* З аброслымі пер'ем нагамі. *Наш пятух кысманогій і дзьве куріцы тожа.*

ЛАБО'ДЬДЗЯ *н. зборн.* Буйныя сцяблы раслін. *З бульбоўніка лісця апсыпылісь, адно лабодьдзя.*

ЛАЗБЫ'РЬ *м.* Самы верх узгорка, павышэння. *Ідзе ніжы, дык расцець, а ны лызбырю згарела.*

ЛАНЫ' *толькі мн.* Выгода, прыволле. *Нійдзе яму такія ланы ня будуць, як у маткі.*

ЛА'ХА *ж.* Рухавая і вельмі балбатлівая жанчына (л а х а ц ь — бегаць, насіцца, шукаць спажывы і балбатаць, пустасловіць, Юрч.).

ЛІ'БІЛА *н.* Вуда для лоўлі ракаў.

ЛІ'БІЦЬ *незак.* Лавіць ракаў *лібілам.*

ЛУ'НУЦЬ *зак.* Раптоўна прапасці, згінуць, памерці.

ЛУПЕ'КА *м.* Пастаянны вясковы здымшчык скуры са здохлай жывёлы.

ЛЫБАЗІ'НА *ж.* Дубец. *Во рыздурэ́лісь, німа ў мяне ны вас, ба́лыўнікуў, ладныя лыбазіны* (хлабазіна — т. с. Юрч.).

ЛЫЗБА'Н *м* і ЛЫЗБА'НКА *ж. зневаж.* Галава. *Лызбанка у цябе ладныя, мыя шапка ня лезіць.*

ЛЯПЕ'НЬ *м.* Удар далонню па мяккім месцы. *Уймісь, ато ліпня́ палучыш.*

МАГЕ'РА *ж.* Кікімара.

МАЗІ'ЛА *н. пагардл.* Мазь, змазка. *Ты ў мазіла нейкыя рукаў запэцкуў.*

МАСТЫ'РІЦЬ *незак.* Мастачыць, рабіць нешта арыгінальнае. *А ты ўсё мастырііш нешта.*

МА'ХЛЯ *ж.* Прайдоха, махлярка. *С такой махлій луччы ня мець дзялоў, ета ж спікулянтка ат веку.*

МЫ'МРЯ *ж. абразл.* Злюка, надзьмутая ад крыўды. *Во мымря, ныдулася і ні глядзіць.*

МЯРЛО' *н. груб.* Ненасытнае стварэнне. *Етыкыя мярло, ні ўкарміць.*

НАБРЁХЫЦЦА *зак. груб.* Напіцца. *Ні набрёхыісься ты ніяк етыя вады.*

НА'ВУЖ *прысл.* Наўскапыты, галопам. *Ня едзь навуж, кабыла скініць.*

НА'ШЧЫНІЦ *м.* Мясцовы чалавек, тубылец. *Нашчыніц так ня здзелыіць дренна.*

НА'ШЧЫЦЦА *незак.* Апахмяляцца. *К брату нашчыцца пайду, можа ў яго ікая капля гарелкі ёсць.*

НЕ'А *часц.* Не. *Неа, ні пайду.*

НІБЫ'ТТА *часц.* Нібыта, нібы. *Нібытта ты і ні знаіш!*

НІДАЛУ'ГА *м.* і *ж.* Ненармальная, недаразвітая з нараджэння істота.

НІНА'СЫЦЬ *ж.* Ненажэрная істота. *Свінні нейкыя нінасыць, пішчаць і пішчаць.*

НІПУЦЬЦЁ *н.* Шалапутны, распусны, бяспутны чалавек. *Сын у яе дужа ніпуцьцё, а дычка харошыя* (*гл.* непуцьцё — недарэчнасць, Бяльк.).

НІЎКАВЫ'РНЫЙ *прым.* Упірлівы, цяжкі для выхавання або для кіравання. *Ніўкавырный, ніяк ні прівучу шапку насіць па-люцку.* (неўкавы́рный — капрызны, Юрч.).

НО'ДЫ *прысл.* Выпадкам, раптам. *А ноды прідзіць, што тады будзім дзелыць?* [*гл.* н о г д ы, н о й д ы, н о ў д ы — т. с. Бяльк.].

НЫЛЮДНЯ'ЦЬ *зак.* Стаць больш развітым і культурным. *Ты глядзі-тка, ылюдняў троху ў горыдзі, ны чылавека пахож стаў.*

НЯЛЮ'ДЬДЗЯ *н. экспр.* Не падобны на людзей, вылюдак. *Етый хлопіц нялюдьдзя нейкыя, ні такій, як другія.*

ПАТШЧО'ГЛЫЙ. Падцягнуты ў баках. *Сыбака худый, такій патшчоглый, лёхкій.*

ПЕ'ЛЬСЬЦЬ *ж.* Поўсць. *Пельсьць ны сыбаку, ны кані, а ны айцэ — воўна.*

ПЛЮШЧЭ'ЦЬ *незак.* Моцна хлюпаць. *Грязі ў сенцых ажно плюшчыць пыд ныгамі.*

ПО'ҚЫЦЬ *незак.* Лопаць, хлопаць гучна, а таксама есці прагна. *Яблыкі покыюць. Напіўся, як ня покніць. А ты ўсё капусту покыіш, мярло?* [*гл.* п о к а л а — пражора, Бяльк.].

ПО'ЛЫ *мн.* Языкі полымя. *Дровы гыряць жарка, полы аж у комін.*

ПРАЗУ'ҚУВЫТЫЙ *прым.* Прабіўны, пранырлівы, настойлівы і кемлівы ў дасягненні мэты. *Празукувытый хлопіц твой, ажно вун куды дабіўся.*

ПРАМГНУ'ЦЬ *зак.* Крышку падкіснуць. *Мылако ранніяўжу прамгнула, ня руш яго, ніхай кісьніць.*

ПРІЧЫНДА'ЛЫ *мн. зневаж.* Прылады. *Прібярі сваерыбацкія прічындалы.*

ПСЯ'РНЯ *ж.* Псарня. *Шчынят псярню тут пыд ґанкымі разьвёў.*

ПУШЫ'ЦЬ *незак.* Раздуваць. *Ат аўсяныга хлеба пушыць, а ат пышанішныга сушыць.*

ПЫАТВЕ'РНІЦҚУ *прысл.* Не так, як належыць, як прынята. *Ясі ты пыатверніцку, глядзець прікра.*

РАЛЬЛЁ *н.* Нязгрэба. *Во, ральлё ты ў етым доўгым пальце!*

РА'НЫЙ *прым.* Ранні. *Ішчэ раный абед быў, як прігналі кароў.*

РАХЛЕ'Й *м.* Вельмі неахайны і нязграбны чалавек. *Ці ты такім рахлеім і ў школу пойдзіш?*

РО'ХЛЯ *ж.* Неахайная, нязграбная і дзікаватая жанчына. *Узяў нейкую рохлю, ны яе глядзець страшна.*

РУТАЎЕ *н.* Доўгі чаранок у прыладах (лапаце, вілах і інш.). *Рутаўё злымалысь у зілізьняку.*

РЫСКЯРЕ'КА і РЫСКІРЭ'КА *м* і *ж.* Раскірака.

РЯСІ'СТЫЙ *прым.* Мяцёлчаты. *Авёс такій рясісты ны нізінцы!*

СА'ПНУЦЬ і СЫПАНУ'ЦЬ *зак.* Садануць вострым. *Глядзі, а то карова як сапніць рогым, дык і кішкі вон.*

СМАЛЬЧУ'Г *м.* Пацук (самец). *Смыльчугá кот ня возьміць.*

СТАЎБЕ'НЬ *м.* Нейкі слуп (або ідал?). *Ча ты стаў, як стаўбень?* (*звыч.* с т о ў б, с т о ў п — слуп, Бяльк.).

СТРЁПЫНЫЙ *прым.* Спутаны, звязаны. *Стаў, як стрёпыный. Ліжáў, як стрёпыный.*

СТРІПЯНУ'ЦЦА *зак.* Рэзка схамянуцца. *Стріпянуўся мынáх, ды пуста ў гылывáх.*

СУБУЛДЫ'ЖКА *ж.* Вялікая костка (с у л д ы́ г а — т. с., Юрч.).

СУКРІ'СТЫЙ *прым.* Кучаравы, з закручанымі ў завіткі пасмамі поўсці ці валасоў (с ý к у р ы т к а, с ý к ы р ы к — завіток валос, Бяльк.).

СУЛІ'ЦЬ *незак.* Прапаноўваць. *Суліў дзісятку, алі я ні прыдылá.* П у с у л і ц ь *зак.* Прапанаваць.

СУ'ПІЦЬ *незак.* Паколваць і свярбець. *Скулка ужу ні баліць, а толькі супіць.*

СЫЗМА *м.* і *ж. экспр.* Скрытная, хітрая, каварная і сквапная асоба. *Я, брат, етыга сызму ніцыга за гоні абхаджу.*

СЫ'ТКА *ж.* Кропелька тлушчу ў страве. *Мяса жырныя, аж сыткі ўсе ў гаршку зліліся.*

ТУПІ'ЧЫЦЬ *незак.* Ісці, дзёўбаючы нагамі (па-старэчаму). *Іншы ідзець, а іншы тупічыць — дзёўб-дзёўб-дзёўб.*

ТУК *м.* Вытаплены вадкі тлушч. *Сала адзін тук, як жáріш ны скывырадзé.*

ТУ'МКЫЦЬ *незак.* Кеміць, даходзіць да сэнсу. *Ну што, ужу троху сам тумкыіш, што нада дзелыць?* Д а т у м к ы ц ц а, д а т у м к ы ц ь *зак.* Дайсці да сэнсу, дабрацца да адгадкі.

ТУ'РКЫЦЬ *незак.* Прымушаць крыкам. *Туркыіш, туркыіш што здзелыць, чуць прітуркыіш* [т у р к а ц ь — будзіць, Бяльк.].

ТУ'РЛІК *м.* Кармакухня на ферме. *Будзіш ваду вазіць на ферму ў турлік.*

ТУРЛЮ'ДЗІЦЬ *незак.* Балбатаць надакучліва. *Турлюдзіць, што дзіцёнык, слухыць німа чаго.*

ТУ'РМЫН *м. экспр.* Дурыла, тупіца. *І пыкажы і расказы етыму турмыну, а сам ён ня можыць.*

ТЫБАНЮ'Х *м.* Ужывальнік табакі. *І ён ужу шэкырыдзь курiць, тыбанюхым стаў!*

ТЫРАДЭ'ЙКА *ж. пагардл.* Балбатуха. *Пышла ужу ета тырадэйка новысці па дзярэўні рызнасіць.*

УВЕ'ЛЬКІ *прысл.* Такога ж росту, велічыні. *Сынок ужу увелькі з бацьку.*

УВЕ'Т *м.* Толькі ў выразах: *імéць на ўвéці* — мець на прыкмеце; *узяць на ўвет* — узяць на прыкмету.

УГРУ'ДКІ *прысл.* За грудзі. *Слова за слова — і тут жа ўгрудкі.*

УЕ'ЖНА *прысл.* Сытна, добра з ядой. *Хуць ня ўежна, дык улежна.*

УНУРІ'ЦЦА *зак.* Уперціся, улегчы ў справу. *Унурійся, як бык, і цягніць.*

УСІ'ХНЫЙ *займ.* Прыналежны ўсім. *Усіхныя дзеці як дзеці чыстыя, а мой вун як выдзілыўся.*

УСТРЁПЫЦЦА. Усхадзіцца, пачаць тэрмінова збірацца. *А мой дык як устрёпыўся быў скрозь ноч ехыць.*

УСЬПЯЦЕ'НЬНЯ *н.* Месца, куды цяжка далезці. *Куды ты ны ўсьпяценьня лезіш, звалісься, дык заб'есься.*

УСЬПЯ'ЦЦА *зак.* Узлезці з цяжкасцю. *Усьпяцца усьпяўся, а цяпер во ня зьлезу, кылі хочыш.*

ХАМЛО', ХАМУ'ЛА, ХАМУ'ЙЛА *н. груб.* Просты, нявыхаваны, а таксама грубы чалавек. *Як ляпніць што ета хамло, дык вушы вянуць.*

ХВЫТА'ЦЦА *незак.* Хапацца і спяшацца. *Еж, ні хвытайся так, ато пыдавісся.*

ХІБА'РА *ж.* Хаціна. *А вун і мыя хібара.*

ХО'ХА *ж. экспр.* Рагатуха. *Ча ты, хоха, зыйшлася, якія табе тут сьмешкі!*

ХЫЛУДЗІ'НА *ж,* Жардзінка, добры дубец, ламачына. *Хылудзіный яе якой піріцягні.*

ХЫНЯНЁМ *прысл.* Рэзва, рухава, бойка. *Пышла Марья насіцца, як чорт, хынянём пы дзярэўні.*

ЦЁХЦЯ *ж. экспр.* Цяжкая ў хадзе поўная жанчына. *С такой цёхцій далёка ні зайдзіш.*

ЦЁХЫЦЬ *незак.* Стомлена, цяжка шагаць. *Цёхуў, цёхуў пяшком, чуць к вечару двору пріцёхуў.*

ЦЬВІ'ГНУЦЬ *незак.* Марнець, слабець, глухнуць. *Цвігніць бульба ў траве.*

ЦЮ'ЗІК *м.* Меншая палачка ў дзіцячай гульні ў чыжыка. *Пашлі ў цюзіка гуляць ны кургáн.*

ЧАТ *м.* і ЧЫТА' *ж.* Рад, група звязаных, з'яднаных асоб. *І бацька у етым чатў быў. А Іван ня з йестыя чаты́.*

ЧУКА'ВЫЙ *прым.* Цікаўны, рухавы, кемлівы. *Тая мыя дзеўка была чукавéй, а ета ціхоня.*

ЧУ'КЫЦЬ *незак.* Падкідваць рэзка дзіця на каленях або на руках, гаворачы «чук-чук!..» («чукі-чукі!..»).

ШВАРДЭ'ЛЫК *м.* Добры кавалак. *Узяў ладны швардэлык сала ў лес і ўвесь зьеў.*

ШЛУПА'К *м.* Рыхлы і мяккі ад старасці грыб. *Нашто було етыя старыя шлупакі пыдасінывікі брáць?*

ШЛЫК *м.* У выразе *шлыкі валіць* — гаварыць ману. *Ён шлыкі вáліць, а етыя пулудýркі і вушы разьвесілі.*

ШЛЯПО'ТА *ж.* Мокры снег у гразь або ў адлігу. *Ны дваре тыкая шляпота, што ў тýхліх ня выйдзіш.*

ШМЯ'КНУЦЦА і МЯ'КНУЦЦА *зак.* Шлёпнуцца. *Шмякнуўся ў самую грязь.*

ШНЫ'ХЫРІЦЬ *незак.* Шныпарыць. *Пу кустах цэлы дзень дзеці шныхырюць.*

ШО'Я *м.* і *ж.* *экспр.* Асоба бязглуздых паводзін.

ШУБУНЫ'Й *прым.* Вельмі бойкі, задзірлівы, гарэзлівы. *Ох і хлопіц у цябе шубуный, проста чорт у ім сядзіць.*

ШУБУНЯ'ЦЬ *незак.* Моцна гарэзаваць, шумець (*гл.* шубуня́ць — невыразна гаварыць, Бяльк.).

ШУГАВЕ'Й *м.* і *ж.* Лёгкадумная асоба. *Старшы быў рызвáжны, а младшы дужа шугавей нейкі.*

ШЧАВО'К *м.* Пстрычка.

ШЫ'ПУХЫМ *прысл.* Рыхла, незляжала. *Лісьця шыпухым ляжыць у кучы, дык вун сколькі многа здаецца.*

ШЭ'КЫРЫДЗЬ *ж.* *пагардл.* Дробная дзетвара. *Ат етый шэкырыдзі адбою німа, лезуць і лезуць у сад.*

ШЭ'ЛІГ *м.* Нейкая дробная (няпэўнай вартасці) грашовая адзінка. *Я табе зы яе большы ні шэліга ні дам.*

ЮРО'ЧЫК *м.* Птушка берасцянка. *Юрочык цы́ркыіць ны нінáсця.*

Я'ПА *ж.* Зяпа. *Япу раскрыла і рявець, як цёлка.*

Я'ХНА *ж.* *экспр.* Баявая, рухавая, вясёлая і жартаўлівая істота. *Ну і яхна дзеўка, на ёй усё гаріць.*

ЯЧУ'К *м.* Страўнік. *Што зьеў дык зьеў, абы ячук лýкым стыя́ў.*

У дадатак звернем увагу на асаблівасці лексічнага складу, значэння і структурна-семантычных сувязей некаторых вытворных груп слоў, характэрных для гаворкі, а таксама на паасобныя фанетычныя з'явы нерэгулярнага характару і іх канкрэтную рэалізацыю ў лексічных сродках гаворкі.

Даволі шматлікія ў мясцовым слоўніку вытворныя назоўнікі з суфіксам *-ін-а* са значэннем адзінкавасці, а дакладней, з падкрэсленым значэннем асобнай адзінкі таго, што ўсведамляецца (і абазначаецца лексічна) як збор, сукупнасць, аб'яднанне, адзінства, мноства (парнасць) пэўных прадметаў: *аблачы́на* — асобная хмарка з суцэльнага *абло́чча; або́ріна* — адзін з канцоў *або́ры* (або адна з дзвюх *або́р*); *адзёжына* — асобная рэч з *адзёжы; алёшына* — адно дрэўца ў *алёшніку* (дарэчы, вялікае дрэва ў адзіноце — звычайна *во́льха*); *арэ́шына* — адзін парастак у кусце *арэ́шніку; бабі́на* — адно зерне *бо́бу*; *бу́квіна* — асобны пісьмовы знак у *бу́квах* (г. зн. алфавіце); *бу́льбіна* — адзін асобны клубень *бу́льбы; бума́жына* — шматок *бума́гі; во́спіна* — адна з мноства *во́спаў* (у адрозненне ад *во́спа* — аса); *выласі́на* — асобны волас; *газе́ціна* — кавалак паперы ад газеты (чытаюць *газе́ту*, а з *газе́ціны* круцяць самакруткі); *гра́дзіна* — асобны драбок *гра́ду; дажджы́на* — асобная кропля *дажджу́; жы́ціна* — асобная расліна або адно зерне *жы́та; ігру́шына* — адзін з пладоў на *ігру́шы; калі́ніна* — адна ягада *калі́ны; капу́сьціна* — асобная расліна *капу́сты; ку́піна* — асобная адзінка *ку́п'я; лісьці́на*—т. с. з *лісьця; малі́ніна* — адна ягада *малі́ны; мо́рквіна* — адзін коранеплод *мо́рквы*; *му́шына* — адна з мноства *мух* (*му́ха* — пэўнае насякомае); *мы́шына* — адна з *мышэ́й; мякі́ніна* — асобная частачка ў складзе *мякі́ны; мя́льліна* — т. с. у *мя́льлі; пчалі́на* — асобнае насякомае ў вуллі пчол; *ры́біна* — асобны экземпляр рыбы; *салі́на* — адна асобная частачка ў *солі; сало́міна* — адна сцяблінка саломы; *са́хыріна* — адна асобная частачка ў *са́хары; сьлі́віна* — асобны плод слівы (і асобнае дрэўца ў сліўніку): *смуро́дзіна* — адна ягадка *смуро́ды*; *сьмяцьці́на* — асобная частачка ў *сьмяцьці; сурі́на* — т. с. у *су́ру; цыбу́ліна* — асобны клубень *цыбулі; чарні́чына* — адна ягадка *чарніц; штані́на* — адна калоша ў *штанах; я́гыдзіна* — адзін плод ягад і г. д.

Для слоўніка гаворкі характэрны таксама зборныя назоўнікі ніякага роду з суфіксам *-je* (*j* звычайна асімілюецца папярэднім зычным асновы і поўнасцю прыпадабняецца да яго). Гэтыя назоўнікі абазначаюць групу (сукупнасць, мноства, масу, нейкую колькасць і г. д.) аднародных прадметаў (ці асоб), аднастайных або уніфікаваных па пэўных адзнаках. Часта адначасова падкрэсліваецца асаблівая значнасць таго, у чым такая група прадметаў аднастайная або уніфікаваная. Утвараюцца падобныя назоўнікі ад назваў асобных прадметаў, адзнакамі якіх вылучаецца тая ці іншая група прадметаў пры найменні: *алёшша* — буйны алешнік (зарасці або калоды); *апóчча* — тоўстыя і цяжкія калоды; *бярвéньня* — будаўнічы матэрыял у выглядзе *бярвенняў; валóсься* — валасяное покрыва; *выраньнё* — падобныя да варон птушкі (звыч. вароны, гракі, галкі разам у масе); *вырвасьсё* — група вельмі балаўных дзяцей (хлапчукоў); *вя́зьзя* — нарыхтоўкі для вязкоў у сані; *грімя́чча* — добрая «порцыя» кухталёў; *дураччó* — падлеткі (або дарослыя асобы) з недастатковым яшчэ разуменнем (ці абмежаваным кругаглядам, але ні ў якім разе не «сукупнасць дуракоў»); *жалéзьзя* — розныя дэталі і прадметы з жалеза (металу), металалом; *жэ́рдзя* — лесаматэрыял у выглядзе жэрдзя; *зу́бья* — дэталі ў выглядзе зубоў у мностве (*зу́бья* ў граблях, але *зу́бы* ў чалавека); *звярьё* — група па-звярынаму вельмі жорсткіх асоб; *íскырья* — маса іскраў; *калóдьдзя* — вельмі вялізныя і тоўстыя калодкі; *камéньня* — матэрыял, парода ў выглядзе камянёў (*воз, груд камéння; аднó камéньня кругóм* і г. д.). Такія ж асаблівасці семантыкі іншых назоўнікаў гэтага словаўтваральнага тыпу: *ка́мушша, капы́льля, карчэ́ўя, каршуньнё, кірпі́чча, кóльля, крю́чча, кула́чча, ку́пья, кымарьё, лу́цьця, лыма́чча, лыхманьнё, лядзéньня, маку́шша, мульчуганнё, мышша́чча* (м ы ш ш а к — дрэнны грыб), *мя́льля, палóзьзя, паплéцця, пéрья, пувучы́ння, пянéўя, рыгазьзё, сіня́чча, ска́бья, ску́льля, снóпья, сту́льля, сулдыжжа, трябу́шша, хахóльля, хвóрысьця, шку́цця, шлу́ньня, шма́цьця, шы́льля* і інш.

Цікавыя па сваёй семантыцы словы захаваліся ў слоўніку гаворкі ў складзе некаторых словаўтваральных тыпаў, пашыраных у беларускай дыялектнай мове:

*-іц-а: важніца* — вагавая, *ку́зьніца* — кузня; *лажніца* — спальня; *мéльніца* — млын; *падóйніца* — даёнка,

*памыйніца* — пасудзіна для памыек; *піўніца* — піўная; *са́льніца* — кубелец для засолкі сала; *сальніца* — салянка; *сту́піца* — трубка ў коле; *сяніца* — будынак для складвання сена;

*-н-я: аўча́рня* — авечнік; *вазо́ўня* — навес для вазоў; *дзігця́рня* — смалакурны завод; *кажэ́ўня* — скураны завод; *пчэ́льня* — пчальнік; *пыгрібня́* — прыгрэбнік; *рыйўня́* — раёўнік; *шо́рня* — рымарная майстэрня;

*-уган (-юган)*: *брысюга́н* — гладкі здаравяка; *бычуга́н* — магутны здаравяка; *вуркуга́н* — нахабны злодзей; *вызюга́н* — вялізны воз; *злыдзюга́н* — вялікі злодзей; *кусюга́н* — вялізны кусок; *кыцюга́н* — сыты вялізны кот; *мыльчуга́н* — малец-падростак, хлапчук; *мыразюга́н* — вельмі моцны мароз і інш.;

*-уч-ый:* акрамя звычайных і ў літаратурнай мове *балючы, гаручы, грымучы, кіпучы, лятучы, скрыпучы*; таксама: *відзю́чый, вісу́чый, звіню́чый, ляжу́чый, свярбю́чый, сьвярбу́чый, смярдзю́чый, стаю́чый, сядзю́чый* і *сяджу́чый, цярпу́чый.*

З лексічна абмежаваных фанетычных асаблівасцей спынімся на дзвюх з'явах. Першая — гэта адпадзенне (адсутнасць?, рэдукцыя?) ненаціскнога гука *а* ў абсалютным пачатку слова. Прыклады падобнага адпадзення досыць шматлікія: *ба́бка*—грыб і кучка снапоў (ад *аба́бка*), *бало́нка* (ад *абало́нка*), *бічэ́йка* (ад *абічэ́йка*), *бо́лыка* (ад **або́лака* — воблака), *буко́нка* (ад *абуко́нка), вадзе́нь* (ад *авадзе́нь), вашчэ́вінь* (ад **авашчэ́вень*), *гаро́д* (ад *агаро́д*); тое ж: *гуро́к* (*агуро́к*), *жавіны* (*ажавіны*), *кра́іц* (*акра́ец*), *кыла́* (*акала́*), *кра́йка* (*акра́йка*), *ла́дка* (*ала́дка*), *пало́ньнік* (*апало́ннік*), *ралéйный* (*аралéйный), рыльля́ (аралля́), рэхва (арэ́хва,* Бяльк.), *рында́тырь* (*арэнда́тарь*), *рышта́нт* (*арышта́нт*), *сыка́* (*асака́*), *сярёдык* (*асярёдак*), *трам* (*атра́м*) і інш. З гэтай з'явай звязана, напэўна, аманімія (амафанія) варыянтаў закончанага і незакончанага трыванняў дзеясловаў у такіх выпадках, як *цяліцца* незак. (*бу́дзіць каро́ва цялі́цца*) і *цяліцца* зак. (*цялі́йся бычо́к,* г. зн. карова прывяла, ацяліла бычка), *жырябіцца* незак. і зак., *пырасі́цца* незак. і зак., *шчаніцца* незак. і зак., *кыцяніцца* незак. і зак., а таксама *жаніцца, пыхмяліцца* і пад. Варыянты без пачатковага ненаціскнога *а* адзначаюцца і сярод прастамоўных форм уласных імён: *Да́рка* (Адарка), *Га́пка* (Агаф'я), *Куле́й* (Акул), *Лёкса* (Аляксандра),

*Лёнька* (Алена), *Ліксандра* (Аляксандр), *Ляксе́й* (Аляксей), *Ніке́й* (Анікей), *Рахве́й* (Арэфа) і інш.

Другая лексічна абмежаваная фанетычная з'ява менш значная, але таксама досыць цікавая па характару. Гэта абсалютная рэдукцыя ў некаторых словах («выпадзенне») ненаціскнога гука тыпу *ы* або *ъ* перад зычнымі *р*, *л*: *красі́н, кра́лі, крась, пляўка* (палёўка, дзікі яблык), *хля́ба* (але *кыра́, быра́н, пыра́, гыра́, пыла́ць* і г. д.). Магчыма, што тут нейкае значэнне мае і якасць папярэдняга зычнага гука (яго глухі выбухны характар), што «ўзмацняе» рэдукаванасць галоснага. Але і гэта не тлумачыць адзначанай абмежаванай лексічнай выбарнасці праяўлення гэтай фанетычнай асаблівасці, таму што ў абсалютна такіх жа ўмовах у многіх іншых словах гэтай з'явы не назіраецца ніколі.

*Ф. Д. Клімчук*

# З ЛЕКСІКІ ЦЭНТРАЛЬНАГА ЗАГАРОДДЗЯ

Артыкул з'яўляецца працягам працы па лексіцы Заходняга Палесся, апублікаванай у 1968 г.[1] Ён уключае частку слоўніка гаворкі в. Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, матэрыялы для якога сабраны ў 1959—1973 гг.

Вёска Сіманавічы знаходзіцца ў цэнтральнай частцы брэсцка-пінскай этна-дыялектнай зоны. Мясцовая назва гэтай тэрыторыі Загароддзе (Загорóдде). У межах Брэсцкай вобласці Загароддзе на поўначы абмежавана лініяй Камянец — Бяроза — Лунінец — Столін. У гаворках Загароддзя выдзяляюцца чатыры асноўныя тыпы: паўночна-ўсходні загародскі, сярэднезагародскі, паўднёва-загародскі і тараканскі. Гаворка в. Сіманавічы адносіцца да сярэднезагародскага дыялектнага тыпу[2]. Адзначым некаторыя найбольш характэрныя яе асаблівасці.

1. Оканне.

2. Зліццё галосных *ы, і* ў гуку *и* (перадаём яго ўмоўна праз *ы: сын, ходы́ты*). Галосны *и* ў адрозненне ад *ы* — гук некалькі больш пярэдняга і больш нізкага ўтварэння.

3. Вымаўленне галоснага *и* (абазначаем яго таксама праз *ы*) на месцы этымалагічных *е, ь, ѣ* у пераднаціскных, часткова паслянаціскных складах (*мыдóк, дынёк, быдá, высná, выдрó, тыпэ́р*).

4. Вымаўленне галоснага *и* (абазначаем зноў жа праз *ы*) на месцы *о* ў новых націскных закрытых складах (*выз, кынь, стыл, ныс, зы́рно*).

---

[1] Ф. Д. Климчук. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья. У кн.: Лексика Полесья. М., 1968, стар. 20—78.

[2] Ф. Д. Климчук. К лингвогеографии Западного Полесья (фонетика четырех полесских говоров). Автореф. канд. дисс. Минск, 1973, стар. 3—6.

5. Вымаўленне *і* на месцы этымалагічнага *ѣ* пад націскам *(ліс, сніг, на нозі, бідный).*

6. Ацвярдзенне зычных перад рэфлексамі *е, і (сэрп, нэ́бо, сы́ла, ныззэ́нько, возы́ты).*

7. Пераважнае захаванне мяккага *ц'* *(конэ́ць, молоды́ця, ціп, жынці, хло́пці).*

8. Прыстаўны *г* перад галосным, якім пачынаецца каранёвая частка слова *(го́чы, гове́чка, гокно́, Гандрі́й, нагу́ка, позагу́шшу).*

АЛЭ′ 1. *злучн.* Але. 2. *часц.* Так. 3. *часц.* Ну. 4. *часц.* Няўжо. *Дэсь дошкы ныма. — Алэ? А тож я вчора прыніс. Васыль за місяць дьві сотні заробыв. — Алэ, вын і сотні ны заробыть.*

БА′ЛАС *м.* Слабы голас, чутны здалёк. *Шо то за балас някый там (з лісу чуты), ны розобраты, чы то чоловік, чы то звір.*

БАРЫ′ЛО *н. зневаж. метаф.* Вялікі і грубы. *Гэтой Стыпан такое барыло, дызо шо на ёго́ той кожух будэ малы́й.*

БІ′ЛЫЙ МОРО′З. Мароз (ранняй вясной ці позняй восенню), пры якім участкі зямной паверхні, расліннасці, розных прадметаў пакрываюцца інеем. *Дывы́, тыпэр на дворі білый мороз.*

БІ′ТКА *ж.* Кій (кіёчак) з цвіком на канцы, якім карыстаюцца пры катанні на каньках, саначках.

БЛЯ′ШЫТЫ *незак.* Ярка блішчаць. *Подывысь, якая выдныня́ на дворі, як зоры бляшуть.*

БОБОНІ′ТЫ *незак.* Бубнець, гаварыць даволі хутка, не вельмі разборліва.

БОГОДУ′ШНЫЙ *прым.* Богабаязлівы, дабрадушны. *Можэ де́хто богодушный поможэ лён вырваты, путхватыть, а то сама ны здужаю.*

БОКОВЫ′ЦЯ *ж.* Бок, бакавая частка. *В мынэ́ боковыця болыть. Шэ тая боковыця загона ны ополяна.*

БОЛО′ТЯНЫЙ *прым.* Балотны. *Болотяна вода. Болотянэ зілле.*

БРЫ′СКОТ *м.* Сырое, пранізваючае холадам надвор'е. *Морозу ныма і брыскот.*

БУДЬ-БУ′ДЬ *часц. у знач. прысл.* Што і пазавідаваць варта. *Збудую собі хату будь-будь:*

БУЗА′ *ж.* 1. Пляткар(ка). 2. Пляткарства.

БУЗЫ′ТЫ *незак.* Плесці лухту.

БУРЫ'ТЫ *незак.* Цячы моцным струменем. *Прокопав ровчяка́, то вода аж бурыть.*

БЫГВІ'ДЬ *прысл.* Надта, немаведама. *Татяна була быгвідь якая дужа й хороша. Быгвідь кылько мныго дров.*

БЫСПОЯ'СЫЙ *прым.* Не падпяразаны (поясам з тканіны). *Насмыявсь голый з быспоясого.*

БЫ'ТЫ ЯҚ ГА'МАНА. Лупцаваць неміласэрдна.

БЭ'ГЛЯ *ж.* Тая, што доўга і шпарка бегла ці бегала. *Ныгдэ ны ділась гэта бэгля* [пра карову, якая вырвалася з хлява і доўга бегала], *прышла такы додому.*

ВА'ДА *ж.* Недахоп, загана. *В іі няка вада е, вона му́сыть накульгуе крохы.*

ВАЛҚОВА'ТЫ *незак.* Есці на поўны рот.

ВВЫШҚЫ' *прысл.* У вышыню. *Два мэтры ввышкы.*

В ГОЧЯ'Х. Вельмі хутка, увачавідкі. *В гочях всэ схнэ.*

ВДО'БА *ж.* Фізічныя асаблівасці, фізічны тып. *Гандрій вжэ на гынчу вдобу, на старшых братыв ны похож: вын і осю́рбуватый, і ліцо в ёгó храпатішэ. В казахув зусім гынча вдоба, чым в руськых.*

ВДОВШҚЫ' *прысл.* У даўжыню. *Сім мэтрув вдовшкы.*

ВІ'ПТІЧКО *н. зборн. рэдк.* Птушачкі. *Віптічко шчыбэчэ, гэто тое са́мэ, шо птушычкы́, так, ба́ло, скажуть.*

ВЛУ'СҚНУТЫ *зак.* Увагнуцца, утварыцца ўмяціне. *В Пытро́вського була влускла ру́пка* [печка].

ВМОСТЮ'ХАТЫСЬ *зак.* Зручна і надзейна прымасціцца. *О'ддэ кыт вмостюхався, тут ёму́ мняхко й тыпло́.*

ВНЫ'РЫТЫСЬ *зак.* Утаропіцца ў адно месца. *Ёго́ свары, а вын вны́рыцьця в окно чы в пудлогу і мовчыть.* *Параўн.* серб.-харв. дыял. *њйрит(и)*. Бязглузда глядзець, вылупліваць вочы, глядзець у адно месца [3].

ВО'ЛОҚЫ *толькі мн.* 1. Рэшткі несабранага збожжа пры жніве, якое чапляецца за ногі жняі. *Як жыто жнэш, да ны пудбырэш, то волокы сунуцьця.* 2. Усё, што можа зачапіцца за ногі пры хадзьбе. *Шо ты за волокы сунышь за ногою.*

ВО'НПЫТЫ *незак.* Баяцца, адчуваць, што не мінуць пакарання. *Трэба, коб воны тыбэ́ крохы вонпылы.*

---

[3] Драгољуб Петровић. Речник уз књигу песама матије Беħковиħа Рече ми један чоек. Београд, 1970, стар. 17.

ВХВА'ТКА *ж.* Манера рухаць целам, галоўным чынам рукамі. *В Пытрýся вся вхватка батьковська, як дэ́шо робыть, то рыхтык табы батько ёгó.*

ВЫ'ЗЫРКА *ж.* Вышка, маяк.

ВЫНОВА'ЕЦЬ *м. Р. адз.* выноваа́йця. Віноўнік. *Шукалы выновайця, выноватого, хто грошы вкрав.*

ВЫ'ПЛЮНУТЫ ДУ'ШУ. Памерці, сканаць ад перанапружання, ад цяжкай працы. *То я душу выплюну, як так робытыму. Параўн.* серб.-харв. дыял. *плиднут(и)* — сканаць, памерці, прапасці, аддаць душу [4].

ВЫЧОРНЫ'К *м.* Удзельнік вечарынкі.

ВЫЧОРНЫ'ЦЯ *ж.* Удзельніца вечарынкі.

ВЭ'ДЛУК *прысл.* У параўнанні. *Вэдлук літюшного року тыпэр намного тыплій.*

ВЭ'РА *ж. узмацн.* Разява.

ГАСА'ТЫ *незак.* Гойсаць, бегаць.

ГА'ЯТЫ *незак.* Марнаваць (час).

ГЛЁВА'ЗЫТЫ *незак.* Няўмела жаваць, слініць.

ГЛУ'МНЫЙ *прым.* У выразе *ны глумный* — абы-што. *Вася хлопэць ны глумный.*

ГО? *часц.* Што? Га? *Петя.— Го?*

ГО'ГЭР *м.* Жарабец.

ГО'КО *н.* 1. Вока. 2. Адтуліна ў жорнавым камені, куды сыплюць зярняты. *Ны сып много в гоко, то й лёкш молоты, й ліпш молотымыцьця.*

ГОМЗІ'ТЫ *незак.* Бурчаць, надакучваць заўвагамі; мармытаць сабе пад нос.

ГО'НДЭ і ГО'НДЫДЭ *прысл.* Вось тут.

ГОНЁ, ГОНЁДЭ, ГОНЁДЫДЭ і ГОНЁДЫКА *прысл.* Вось тут.

ГО'НОБУ НЫ ДАВА'ТЫ. Не даваць пакою, страшэнна надакучаць, бесперапынна прыставаць. *Воны мыні гонобу ны дають.*

ГОСТРІ'Й *м. Р. адз.* гострыя́. Вастрыё. *Гострій е в сокіры, в ножёвы, в гóлцы.*

ГО'СЭНЬ *ж.* Восень. У выразах: *спывáты гóсэнь* — спяваць абрадавыя песні асенняга цыклу; *трубіты гóсэнь* — трубіць у трубы на дзень св. Іллі, абвяшчаючы пачатак восені.

ГОТЁ і ГО'ТЁ *прысл.* Вось тут.

---

[4] Драгољуб Петровић. Речник уз књигу песама матије Бећковића, стар. 19.

**ГРУНТ** *прысл.* Галоўнае. *Мыні ґрунт коб згрыпсты гэтэ сіно, а повозыты, то я ёго альбы колы поважу.*

ГРЫБА'К *м.* Грыбнік. *Йдуть грыбакы, повны кошыкы грыбыв нысуть.*

ГРЯ'ДЫ *толькі мн.* Прыстасаванне з жэрдак пад столлю ў курнай хаце, дзе клалі розныя рэчы, часам спалі.

ГУЛЬТАІ' ЗВАЛЫ'ЛЫСЬ. Апанавала лянота. *На вас, дывкы, всі гультаі звалылысь: ныц ны хочытэ робыты.*

ГУЛЯ'ВЫЦЯ *ж.* Танцоўшчыца.

ГУЛЯ'ТЫ *незак.* Танцаваць.

ГУ'СЯЛКА *ж.* 1. Адна з вяровак, на якія падвешваецца калыска. *Колыска на гусялках вісыть.* 2. Вяроўка, якая прывязваецца абоімі канцамі да калыскі, служыць для калыхання нагою.

ГУ'ХАТЫ *незак.* 1. Глуха грукаць. *Рвуть пынькы, то всэ гухае да гухае.* 2. *перан.* Падаць (пра дрэвы ці іншыя вялікія прадметы).

ГЫДЫ'ТЫ *незак.* 1. Пэцкаць, забруджваць. 2. Лаяць, ганьбіць.

ГЫЗУ'НТЫ *толькі мн. спрошч.* Вантробы.

ГЭ'ГНУТЫ *зак. спрошч.* Сканаць.

ГЭ'НДЭ і ГЭ'НДЫДЭ *прысл.* Вось там.

ГЭ'ТОРІЧНЫЙ *прым.* Гэтага года. *На вышках сіно літюшнэ, а в стороні гэторічнэ.*

ДВОІ'ТЫСЬ *незак.* 1. Дваіцца, раздвойвацца. 2. Сумнявацца, вагацца. *Вын двоіцьця, чы то собака, чы то вовк.*

ДЖЭ'ГАТЫ *незак.* Ісці кульгаючы. *Цілый чяс джэгала с сыла, бо ногу нарізала.*

ДОВГА'СТЫЙ *прым.* Прадаўгаваты.

ДОПІ'РО і ТОПІ'РО *прысл.* Цяпер, зараз, у дадзены момант.

ДРА'ЧА *ж.* Блізарукасць. *З-за драчы окуляры носыть.*

ДРАЧОВА'ТЫЙ *прым.* Блізарукі.

ДРЫБОТІ'ТЫ *незак.* 1. Дрыжаць, уздрыгваць. 2. Дробна, часта выстукваць нагамі ў танцы.

ДРЫНГА'ЛЬ *м. Р. адз.* дрынгаля́. Цыбаты (пра жывёл).

ДРЭ'НЫНА *ж.* 1. Узнятая цаліна ці аблога. 2. Адзнака двойка ці адзінка ў школе (ад *літ.* дрэнна). *Тыпэр мыні будэ дрэнына по гіографіі, будэ дэ просо посіяты.*

ДУХ *м.* 1. Паветра. *З заднёго колыса в ровыровы дух выйшов.* 2. Жыццёвыя сілы. *Вжэ гэты ягоды трэба прыбыраты з пэчы, вжэ з іх дух высох.* 3. Дыхавіца. *Вжэ вын ядушлывый, вжэ в ёго дух находыцьця.* 4. Цеплыня. *Хліб пыкла, то в кухні много духу, прочыню хату, хай і туды дух найдэ.* У выразах: *дух в ёго е* — пра адсутнасць грошай, рэчаў і інш. *Дух в ёго е, а ны грошы; дух свынув* — стала лягчэй, спакайней. *Аж дух свынув, як покосылы, а то була задава; дух гоныть* — пра цяжкае дыханне; *в одын дух* — дыхаючы ў адзін рытм. *Давай погуляймо* (патанцуем) *в одын дух.*

ДЫ'МКА *ж.* Прадымленая цыбуля. *На насінне трэба коб була дымняна цыбуля, шэ іі, як в курных хатах булы, звалы дымка.*

ЖОЛО'БЫТЫСЬ *незак.* Карабаніцца. *Стыну в клямры взяв, коб ны жолобылась.*

ЖЫВЫ'Й *прым.* 1. Жывы. 2. Такі, у якім захоўваецца жыццёвая сіла. *Грыблы тумахвійку, то вона зусім жывая була, ныц ны высохла.* 3. Моцна ўсуканы (пра ніткі).

ЗАБОЙНЯ' *ж.* Выраз у драўляным прыстасаванні для ўмацавання ў ім берв'яна, драўляных частак якой-н. рэчы, дошкі з мэтай іх апрацоўкі, склейвання і г. д.

ЗАБРАКОВА'ТЫ *зак.* 1. Не хапіць. *Забраковало грошэй.* 2. Захварэць. *Татяна забраковала нішо. В мынэ свынка забраковала, трэба по вітінара сходыты. Яблынка навысні була забраковала.*

ЗАБЫ'ТЫ *зак.* 1. Забіць. *Насмэрть забылы.* 2. Балюча ўдарыць. *Забыла руку об двэры.*

ЗАБЫ'ТЫСЬ *зак.* 1. Забіцца. 2. Балюча ўдарыцца. *Упав, а чы ёмко забывсь?* 3. Убіцца, ушчаміцца. *Як шуляк лытів, то курыця в дрова забылась.*

ЗАВГЫ'ДЬ *прысл.* Папярэдне. *Трэба було завгыдь прышыховатысь, а то зарэ ны всьпііш.*

ЗАВМІ'ТЫ *зак.* Даць рады, выйсці з нялёгкага становішча. *Шо вона завміе з малэю дытыныю.*

ЗАГНІ'Т *м. Р. адз.* загнёту. Сухія трэсачкі, якімі распальваюць у печы каля чалеснікаў у час выпечкі хлеба. *Шэ крохы трысочок на загніт прынысла.*

ЗАГОДІ'В *прысл.* Папярэдне. *Загодів ны прышыховалась, а зарэ ныма колы.*

ЗАГОРО'ДЦІ *мн.,* загородэць *м.* Мясцовая назва жыхароў Загароддзя. *Загородці — гэто колысь нас так звалы чы мы так звалысь, гэто тыі людэ, шо коло Дорогы-*

*чыня, коло Хомська, Янова, Антопылля, Пынська, Кобрыня, Бэрысьця, Камынця, Логышыня, за Пыньськом шэ в Лобчы, в Выдыборы, на пывноч в Лёвковыч, а можэ й далэй, в Пружянуй не, в Лунінці не, на повдня в Радостовы, в Повітуй, в Вэтлах не*[5].

ЗАГЫБЭ'ЛНЫК *м.* Той, каго лічылі загінуўшым. *Йдэ вжэ наш загыбэлнык, а мы про ёго нымаладу шо подумалы, дэ вын подівсь.*

ЗА'ЙМЫСКО *н.* Заняты ўчастак, месца. *Мое займыско, дэ я косыв.*

ЗАКАЧЯ'ТЫ *зак.* Закасаць. *Закачяй рукавы. Закачяв ганавыці.*

ЗА МАЛЫ'М ЧЫМ. Амаль што, ледзь. *За малым чым там всі людэ такыі. Ёго клуня за малым чым ны згоріла.*

ЗАМЫ'ГЛЫТЫ *зак.* Пачаць прасіць, патрабаваць, скардзіцца, празмерна захацець. *Вэльмы Андрій замыглыв, шоб обідаты, бо ны снідав.*

ЗАСМАЧЫ'ТЫ *зак.* Заправіць, затлусціць, засвахрыць. *Засмачыла кашу, цілых дьві лошкы масла вкынула.*

ЗАХВО'СТУВАТЫЙ *прым.* Сточаны з якога-н. канца. *Копыця захвостувата выйшла, зусім табы клынок. Выпрук у нас захвостуватый, зад зусім тонкый.*

ЗАХОЛО'НУТЫ *зак.* Застыць, застынуць. *Квашылына* [квашаніна] *захолола. Захололы рукы й ногы.*

ЗАШКУ'РНЫЙ *прым.* Падскурны. *Няка жывэ зашкурна хвороба в цыбулі, як ны выдымылась, хай выдымнюіцьця цыбуля.*

ЗБРОДЫ'ТЫ *зак.* 1. Вытаптаць, перамясіць. *Коровы крайніх два загоны жыта чысто збродылы. Свыны всёго двора збродылы, змысылы.* 2. Падтаптаць, стаптаць. *За дэнь чырывыкы збродыв.*

З ГО'ПАЛУ *прысл.* Раптоўна і не зусім абдумана. *Някось з гопалу купылы гэту хату, а зарэ каімось.*

ЗМУТЫ'ТЫ *зак.* Зманіць, схлусіць.

ЗУМЫСЛІ'В і ЗУМЫ'СЛЫ *прысл.* Наўмысна, знарок.

КА'ВГАТЫ *незак.* Глытаць вялікімі порцыямі. *Чого ты кавгаіш гэтак, шо тобі поісты ныма колы.*

КАДУ'К *м.* У выразе *А кадук ёго відае* — невядомая істота.

---

[5] Паведаміў мой дзед Клімчук Фёдар Іосіфавіч, мясцовы старажыл, які нарадзіўся ў 1974 г.

КАПСАНІ'ТЫ *незак.* Марнавацца, драхлець.

КАРБЫ' *мн.* 1. Знакі на рогах у каровы. 2. Зарубкі на бірках.

КВЫТА'СТЫЙ *прым.* Квяцісты. *Квытастэ платте, такыі дрібны квыточкы.*

КІ'ХА *ж.* Камера (ад кола веласіпеда, машыны).

КЛЕКОТА'ТЫ *незак.* Клекатаць (пра бусла).

КЛЁКОТІ'ТЫ *незак. метаф. спрошч.* Рагатаць.

КЛІМБ *м.* Кіёчак для звязвання снапоў.

КЛУ'ТЧЫК *м.* 1. Адзін кіёчак (чатырохкантовы, з галоўкамі на канцах) у *клэшні* ніта. 2. Кіёчак у вале ткацкага станка, за які прымацоўваецца пража ці палатно.

КЛЫК *м.* Глыток.

КЛЫКА'ТЫ *незак.* Глытаць.

КЛЭ'ШНЯ *ж.* Адна доля нітоў. *В нытовы дьві, штыры, чясом шысьць клэшэнь.*

КЛЮ'ЧКА *ж.* 1. Кій, загнуты на адным канцы, кульбака. 2. Крук для выцягвання сена, віцця вяровак. 3. Прыстасаванне ў ткацкім станку для рэгулявання павароту і ўмацавання вала, на які навіты ніткі.

КНЫ'ГА *ж.* Кнігаўка.

КОЛО'ХАТЫ *незак. спрошч.* Пужаць. *Буду куры колохаты, а то вжэ грятку грыбуть.*

КОЛО'ХНУТЫ *зак. спрошч.* Пужнуць. *Так іх колохнула, тыі куры.*

КО'ЛЬПАТЫСЬ *незак. спрошч.* Вельмі марудна рабіць. *Коб эскаватором, то раз зачыпыв, дай выкопав бы гэту яму, а то кольпайсь.*

КОНЦЯ'-МІ'РЫ НЫМА'. Канца-краю няма. *Дошч паріщчыть, шо конця-міры ныма.*

КОПНЯ'К *м. спрошч.* Капа сена.

КОРЧ *м. Р. адз.* корчя́. Куст. *Корч чырымшы́ны пырыд гокном посадыв. Корч лозы. Сім корчів помыдорув.*

КОРЧІ' *мн.* Невялікі гай з перавагай вольхі.

КОРЧЯ'К *м.* Кусцік (аб дрэвавых раслінах).

КОРЧЯКЫ' *мн.* Хмызняк (на пні). *По гэтой бык дорогы корчі, такая стрыйна гольшына́, а по той бык — корчякы: то гольховы, то по бырэзыны тычыть, то по хвоінцы, то дэ корушынына.*

КОТЁЛКЫ' *мн.* Прыстасаванне ў ткацкім станку, на якім трымаецца ніт: дзве дошчачкі з выразамі, у выразах колцы.

КОШАНЫ'ЦЯ *ж.* Скошанае ржышча з розным палявым зеллем. *Накосыв дьві копыці кошаныці.*

КОШТРО'БА *ж. зневаж.* Чалавек з раскудлачанымі ці неахайна прычасанымі валасамі.

КРАЙ *прысл.* Вельмі, дазарэзу. *Воны мыні трэба край.*

КРА'ПЛЯ *ж.* Кропля, кружочак, кропка. *В іі кохта — сыны краплі по білому.*

КРАПЛЯ'СТЫЙ *прым.* У кружочкі, у кропачку. *Крапляста кохта.*

КРО'ХЫ, КРО'ХА *рэдк.,* КРО'ХУ *рэдк. прысл.* Крыху.

КРУЖО'К *м.* 1. Кружок. 2. Частка ўзору ў вышыўцы ці ткацтве, якая мае форму квадрата.

КРУТІ'ЛКА *ж.* Калаўрот на лёдзе.

КРУТІ'ЛЬ *м.* Вяртун, непаседа.

КРУТЫ'Й *прым.* 1. З кручанымі слаямі (аб дрэве, драўніне). *В крутуй дырывыны літа табы вінтом.* 2. Пакарабачаны, выгнуты (аб дошцы). *Дошка, чы то вона крыво вырызана, чы крутая. С крутэі хвоіны дошку хоч вырыжыш праву, то вона сёромнó, хай онó намокнэ, то покрутыцьця, станэ крутая.* 3. Моцна ссуканы (аб нітцы, вяроўцы). *Нытка крутая чы жывая — гэто добрэ всукана нытка.*

КУ'ЛЫК *м.* 1. Вялікі сноп лепшага гатунку саломы, куль. 2. Пластападобны снопік, звязаны адным перавяслам (складаецца з некалькіх жменек); такімі снопікамі пакрывалі стрэхі. 3. Звязка пластападобных снопікаў.

КУЛЬ *м.* 1. Вялікі сноп, куль. 2. Звязка пластападобных снопікаў.

КЭ'ДЭ-КЭ'ДЭ *прысл.* Часам, час ад часу, зрэдку.

ЛА'СЫЦІ *толькі мн.* Узорная намаразь на ваконным шкле. *Мороз вылікый, то ласыці на всі гокна.*

ЛІ'НІЯ *ж.* Чыгунка.

ЛІ'ТЮСЬ, ЛІ'ТЮСЯ і ВЛІ'ТЮСЬ *прысл.* Летась.

ЛІ'ТЮШНЫЙ *прым.* Леташні.

ЛЫ'П'ЯНКА *ж.* Глінабітнае збудаванне.

ЛЭ'НУТЫ *зак.* Зрабіць спробу вылецець. *Парайн.* серб.-харв. дыял. *ле̏нут(и)* — раптоўна ўдарыць[6].

ЛЭНЬ *часц.* Хоць самы горшы. *Шоб якыі лэнь чырывыкы, а то зусім боса. Шоб якый лэнь мужык, а то сама жывэ. Шоб якая лэнь робота, то вжэ можна буты.*

---

[6] Драгољуб Петровић. Речник уз књигу песама матије Беħковиħа, стар. 14.

ЛЯКА'ТЫСЬ *незак.* Пужацца.

ЛЯ МЭ'НЭ. Дзеля маіх уласных інтарэсаў, па мне. *Ля мэнэ — дáлэй мэнэ. Ля мэнэ — хай хоч вовк траву ісьць. Ля мэнэ хай собі йдэ.*

МАЗНЫ'ЦЯ *ж.* Дзягцярка.

МАЗУ'Н *м.* Пястун.

МА'ЙКА *м.* Маёмасць.

МА'ЙТКЫ *толькі мн.* Трусы.

МАЛЁВА'ТЫ *незак.* Мазаць алоўкам абы-што.

МАЛІМО'НЧЫК *м. іран.* Пястун.

МАЛЮСЮСЮ'ПЫНЬКЫЙ *прым.* Вельмі маленькі.

МАРУ'ДНО *прысл.* 1. Марудна. 2. Слаба, няярка. *Марудно ваш огонь горыть.*

МА'СНЫЦЯ *ж.* Масленіца.

МАСЬЦЬ *ж.* 1. Масць. 2. Карычневая вадкасць, якую выдзяляе з рота конік (насякомае); ёю карыстаюцца для загойвання ран.

МЛЯ'ВКО *прысл.* Млосна. *На дворі гарачэ й млявко. Мыні так стало млявко, чуть ны впала.*

МОЛОДЫ'ТЫСЬ *незак.* Паляпшацца (аб надвор'і). *На дворі молодыцьця, гэто после дошчу на погоду выбыраіцьця.*

МОСКОВНЯ' *ж. зневаж.* Мазгаўня, неразумная галава.

МОСТЫ'ТЫ *незак. узмацн.* Лаяць, знеслаўляць. *Клынэ, мостыть на ёгó.*

МОЦЮ'К *м.* Мацак, моцнае яйка.

МУ'ЛЯ *ж.* Твань, іл.

МУМРЫТА'ТЫ *незак.* Мармытаць.

МУ'РАХА *ж.* Мурашка. *Малáя табы мураха.*

МУ'РКНУТЫ *зак.* 1. Мяўкнуць, амаль не адкрываючы рота (пра ката). 2. *метаф.* Прамармытаць, прабурчаць. *А вона й ны муркнула, й ны одозвалась.*

МУТНЯ' *ж.* Хлусня. *В іх всэ було на обманы, всэ на мутні.*

МУТЫ'ТЫ *незак.* Хлусіць, маніць.

МЫ'МЛЫТЫ *незак. узмацн.* Жалабна прасіць, скардзіцца.

МЫТ *м.* Панос у парасят.

МЫХТА'ЙКА *ж.* Гальштук. *До білыі рубашкы трэба чорна мыхтайка.*

НАБОСЯКЫ' *прысл.* На босую нагу. *Зложыв чырывыкы набосякы.*

НА'БУ *часц.* Дзякаваць богу, на шчасце. *Набу крохы потыплішало.*

НА'ВПА *ж.* 1. Малпа. 2. *экспр.* Жэўжык.

НА ВСЮ СТЭ'ЖУ. Насцеж. *Двэры на всю стэжу очыняны.*

НАГЭ'ЛНО *прысл.* Неадкладна, дазарэзу. *Воно мыні вэльмы нагэлно трэба.*

НАГЭ'ЛНЫЙ *прым.* Неадкладны. *Нагэлна робота.*

НАДВЫЧІ'Р *прысл.* Надвячоркам. *Забавылысь, то прышлы зусім надвычір.*

НА'ДЖА *ж.* Надзея, спадзяванне. *Вся наджа була на тыбэ. Ны було вжэ ныякыі наджы, шо вын вэрныцьця.*

НАДІ'ЖНЫК *м.* Невялікі абрус з палатна, якім накрываюць дзяжу.

НАЛА'ВДАТЫСЬ *зак.* Напрацавацца сківіцамі. *Корова вчора пола́вдала, тыпэр полавдала, налавдалась, да скывыці заболілы, дай лыжяла.*

НАОБЫ'СКЫ *прысл.* На босую нагу.

НАПОСЛЯ' *прысл.* Самым апошнім. *Хто з вас напосля прышов, чому двырэй ны зачынылы.*

НАТО'МОСЬЦЬ *прысл.* Узамен. *Ты мыні цыбулі дай, а я тобі натомосьць дам часныку.*

НАТОТО'Е *прысл.* Наўмысна, назло. *Вын мыні робыть натотое. Зроблю вам усім натотое.*

НАХЛЮ'ПЫСТЫЙ *прым.* Занадта нахілены ўніз. *Ныс довгый да шэй нахлюпыстый. Стріха з гэтого боку выйшла нахлюпыста.*

НАШАЛДІ'ТЫСЬ *зак.* Набалбатацца.

НЫЗДО' *н.* Гняздо.

НЫ СЛІ'Д, НЫ НОГА'. Ні нагой на парог. *По́сля тэі сваркы вона до іі ны слід, ны нога.*

НЭ'ЛАД *м.* Нелады. *В іхуй сымні нэлад.*

НЭ'ТРА *ж. узмацн.* Напасць, неадчэпны чалавек. *Знов гэта нэтра прычыпылась до мынэ. А ну одыйды. Парайн.* серб.-харв. дыял. *на́трчица* — задзірака, хуліган [7].

ОБРЭ'СКНУТЫ *зак.* Напухнуць, ацячы (пра твар у час хваробы).

ОД ГОЛІ' ОДО'РВАНЫЙ. Гарэза, сарві-галава.

---

[7] Драгољуб Петровић. Речник уз књигу песама матије Беħковића, стар. 17.

ОДМОЛОДЫ'ТЫСЬ *зак.* Выжыць, пазбавіцца ад хваробы (аб раслінах). *Тая яблынка чырвона була зусім змэрзла, а зарэ од'ятрылась, одмолодылась крохы.*

ОД'ЯТРЫ'ТЫСЬ *зак.* Выжыць, пазбавіцца ад хваробы (аб раслінах). *Тая яблынка була зусім змэрзла, а зарэ од'ятрылась.*

ОЗІ'Я *ж.* Велікан, волат, гігант. *О, гэто то чоловік, гэто то озія, такого вылікого і здоров'яка́ мало дэ пубачыш. Гэто то домыско, гэто то озія, тут і ны полычыш, кылько в ёмў этажів.*

ОЗНАЙМЫ'ТЫ *зак.* Паведаміць.

ОКОЛЫ'ШНОСЬЦЬ *ж.* Наваколле.

ОНУ'К *м. рэдк.* Унук.

ОПСУ'НУТЫСЬ *зак.* 1. Абсунуцца. 2. Зашмальцавацца, зацягацца, замарацца. *Твоя сынява рубашка вжэ опсунулась, вжэ мыты трэба.*

ОТШВО'РЫТЫ *зак.* Адхвастаць, адсцябаць.

ПАЗЮ'Р *м.* 1. Ногаць. 2. Кіпцюр. У выразе *на чо́рный пазю́р* — мізэрна мала, трошачкі. *В ёго́ й на чорный пазюр ныц ны достаныш.*

ПАРШУ'К *м. рэдк.* Вяпрук, парсюк.

ПАТРЫ'ТЫ *незак.* Вельмі ўважліва, з цікавасцю глядзець, пранікліва кранаць поглядам. *Мы гово́рымо, а вын патрыть на нас.*

ПЛА'ВОМ *прысл.* Уплаў. *Дырывыну гэту плавом тягнув.*

ПЛЫТІ'НКА *ж.* Плеценая стужка з сітніку.

ПЛЭ'ТЯНКА *ж.* Плеценая ёмістасць.

ПЛЮ'ТА *ж.* Стан надвор'я, калі падае вялікі снег.

ПЛЯ'МКАТЫ *незак.* Цмокаць, чмякаць (ротам).

ПОГРАБІ'ТЫ *зак.* Адубець (аб пальцах). *Пальці пограбілы.*

ПОДРОБЭ'НЬКЫ *толькі мн.* Розныя дробязі. *Зaкололы порося, то й собі някых подробэнькув прыніс, то тое, то сёе.*

ПОКЫ'НУТЫСЬ *зак.* Перастаць несціся (аб птушках). *Вжэ тая чорна курыця покынулась.*

ПОЛО'СЯНЫЙ *прым.* З лыка. *В нас булы постолы полосяны, а в іх з гумы.*

ПОЛЫ'ССЕ *н.* Лыка. *В нас постолы с полысся плылы.*

ПО'МЫСЛЫ *толькі мн.* Паганыя вочы (згодна з мясцовымі павер'ямі, здзяйсненне шкоднага, ліхога пажа-

дання ў думках). *Гэто булы помыслы чы врóкы, а поросята здыхалы.*

ПОПОТУ'РКАТЫ *зак.* 1. Прыкласці нямала намаганняў. *Попотуркае вын, покыль зáйдэ гэтого снігу.* 2. Даволі доўга турбаваць. *Попотуркав його, пóкыль збудыв.*

ПОПУДНЫ'ЖЖУ *прысл.* Пад нагамі. *В тыбэ валяіцьця попудныжжу няка шмáта.*

ПОРОСЯ' НЫСКРЭ'ПТАНЭ. Расцяпа, няўклюда. *Ах, поросята ныскрэптаны, кровы́т ны заслалы.*

ПОСМАГНІ'ТЫ *зак.* Зазнаць непрыемнасць ад голаду ці пры адсутнасці патрэбнага. *Посмагнііш быз вычэры. Тыпэр ты быз дров посмагніiш.*

ПОСМАЧЫ'ТЫ *зак.* Заправіць, затлусціць, засквАрыць. *Добрэ посмачыла кашу.*

ПОСНОТА' *ж.* Адсутнасць тлушчу. *Тоды в нас була поснота: ны було ны сала, ны масла, ны мняса, ны було чым горшка засмачы́ты.*

ПО'ТАК *м.* Станок для наматвання ніток на цэўкі, сукала.

ПОХАПНЫ'Й *прым.* Найбольш зручны для сістэматычнага карыстання. *Гэтой кожушок в мынэ́ сáмый похапный, я його колы схóчу, тоды зложý. В мынэ гэтой ныж сáмый похапный.*

ПОЦЭ'РКАТЫСЬ *зак. спрошч.* Падаіцца, пацыркацца. *Тры місяці корова поцэркалась.*

ПРАВЦЁВЫЙ *прым.* Той, які стаіць старчаком. *Жыто путхвáчанэ, колос ны нагнёный, а правцёвэ колыссічко.*

ПРАВЦЭ'М *прысл.* Прама, прутком. *Пальця правцэм поставыло. А коб ты правцэм став.* [Праклён.]

ПРОГА'ПЫТЫ *зак.* Празяваць.

ПРОЛЫ'Й *м.* Лівень.

ПРОСТРУГА'ТЫ *зак.* Прамыць (роў, даліну, шчыліну цякучай вадой). *Простругало зэмню, дай струга.*

ПРОЧВА'РА *ж.* Той, хто вырабляе ўсякія штукі, неспадзяванкі.

ПРЫДАВА'ТЫСЬ *незак.* Надаваць прыгажосць, лоўкасць, пасаваць, падыходзіць, быць да твару. *Тобі прыдаецьця в сынявуй рубасцы. А юй прыдаецьця óйру гуляты.*

ПРЫПУ'ЧЫТЫ *зак.* Прыбіць, утрамбаваць размашыстымі ўдарамі.

ПРЫСУКА'ТЫ *зак.* Катэгарычна загадаць. *Прысукалы мыні, шоб я взавтра до іх прышов. Я ёму́ прысукала, шоб вын мовчяв.*

ПРЫСУШЫ'ТЫ *зак.* 1. Падсушыць. 2. Зачараваць, прывабіць да сябе, дабіцца кахання (тугою, нудою). *Вын іі прысушыв до сыбэ́.*

ПТАХ *м. узмацн.* Вялікая птушка (і аб птушцы-самцу).

ПУ'ГА *ж. экспр.* Той, хто непакоіць, перашкаджае (аб дзецях, малых свойскіх жывёлах). *А чого гэта малая пуга вжэ встала, йды шэ поспы крохы, а то оно́ товчы́мысься в мынэ пуд ногамы* [аб двухгадовым хлапчуку]. *Вжэ гэты малы́і пугы квычёть* [аб парасятах].

ПУ'ЛЫТЫСЬ *незак.* Напружвацца з усіх сіл. *Парау́н.* серб.-харв. дыял. *пу́ла* — сіла, магутнасць [8].

ПУ'ПРЫК *м. спрошч.* Празмерна малы ростам. *Був табы пупрык, а в арміі вырос.*

ПЫВНЯ'К *м.* Упэўнены ў бяспецы, бесклапотнасці. *Вын пывняк, бо нывыноватый. Заробыв хліба — тыпэр пывняк.*

ПЫГА'РКА *ж.* Трохі падсмажаная ці падпечаная корка густой стравы або плеўка ў вадкай страве.

ПЫРШЫНА' і ПЫРШЫНЯ' *ж.* Пачатак; справа, якая робіцца першы раз.

ПЫРЫЛЭ'ТЫТЫ і ПЫРЫЛЫТІ'ТЫ *зак.* 1. Пераляцець. 2. Прайсці (аб кароткачасовым даждж у). *Дошч пырылэтыв.*

ПЫРЫРОКОВА'ТЫ *зак.* Прабыць год, знаходзіцца цэлы год. *Гэтэ вынó пырыроковало в лавцы.*

ПЫРЫСЛА'НЫЙ *прым.* 1. Перасланы. 2. З неаднароднымі слаямі. *Пырысланэ сало, як слой сала, слой мняса. Пырысланы картоплі, хай свынюм чы каровы.*

ПЫРЫТЁК *м.* Месца, дзе перацякае вада. *Пырытёк був чырыз гостынэць, там вода пырытікала.*

ПЫРЭ'ДОЙКА *ж.* Ялавая карова, якая доіцца другі год.

ПЫЧЭ'НЯ *ж.* Печань.

ПЫЯ'КУВАТЫЙ *прым.* Той, хто любіць выпіць. *Пыякуваты хлопці.*

РАПТО'ВО *прысл.* Раптоўна.

РАТА'Й *м., Р. адз.* ратая́. Араты.

---

[8] Драгољуб Петровић. Речник уз књигу песама матије Бећковића, стар. 21.

РО́ЗМА'ЗАНЫЙ *прым.* 1. Размазаны. 2. *экспр.* Распешчаны, збалаваны.

РОМАНЭ'ЦЬ *м.* Рамашка.

РОСКА'ЧАНЫ ГУ'БЫ. Вывернутыя губы. *З вылікымы роскачанымы губамы, здаецьця, іх можна закачяты й роскачяты.*

РОСКАЧЯ'ТЫ *зак.* Адкасаць.

РУ'БЫ *толькі мн. рэдк. экспр.* Добрае, параднае адзенне.

РУ'ЧНО *прысл.* З рук у рукі, асабіста. *Нашо поштыю пырысылаты, оддасы́ ручно.*

САМУ'СЬ *м.* Нешта нябачнае, якое прыводзіць рэчы ў рух. *Самусь двэры очыныв.*

СА'ПКАТЫСЬ *незак.* З цяжкасцю ісці, соўгацца. *Ніхто сапкаіцьця дорогыю.*

СВЫРШО'К *м.* Цвыркун.

СВЫРШЯ'ТЫ *незак.* Цвыркаць (аб цвыркуне).

СІМНА'ЦЬЦЯТА ВОДА' *перан.* Асобыя клопаты аб сваёй знешнасці і прыгажосці ва ўзросце 17 год. *Хай собі ны вмываіцьця зарэ, по́кы мала́я, сімнацьцята вода сёромно́ вмые.*

СКАПСАНІ'ТЫ *зак.* Стаць драхлым, лядачым, змарнавацца, састарыцца. *Жыто нашэ пропало, скапсаніло зусім. Моя маты вжэ зусім скапсаніла.*

СКЛІ'ТЫ *незак.* Пакутаваць ад недаядання.

СКОРО'ЗЯНЫЙ *прым. спрошч.* Няякасна, неахайна зроблены (сплецены, вытканы, складзены і інш.).

СКОРО'ЗЯТЫ *зак.* Няякасна, неахайна зрабіць (сплесці, выткаць і інш.).

СКРЫПЫ'ТЫСЬ *зак.* Ашукацца ў сваіх спадзяваннях. *Лука́ш скрыпывся в Пынську: думав, шо ёго́ там будуть тыждэнь частоваты, а ёму́ оно́* [толькі] *пополуднаты далы дай отправылы.*

СКУ'ТОК *м.* Нясцерпнае становішча. *Як ёму́ прышло до скутку, то вын утік.*

СКЫ'МЛЫТЫ *незак.* Енчыць ад непапраўнага гора. *Як обманэ тыбэ, то тоды будэш скымлыты.*

СЛОТІ'ТЫ *незак.* Надакучаць, часта турбаваць. *Слотітыму, по́кыль вын ны выпышэ мыні квытка́.*

СМАГНІ'ТЫ і СМАГОТНІ'ТЫ *незак.* Мучыцца ад смагі або ад адсутнасці жаданага.

СМАЧЫ'ТЫ *незак.* Прыпраўляць тлушчам.

СМОЛЯ'НКА *ж.* Яйцо, якое замест змесціва напоўнена смалою (своеасаблівы фальшывы мацак, якім карысталіся ў час велікодных гульняў).

СМОРКА'Ч *м.* 1. Непакладаны баран. 2. *зневаж.* Сапляк.

СМУ'ТНЫЙ *прым.* 1. Сумны, маркотны. *Петя някый смутный, нывыдомо, шо з ім.* 2. Нияркі (аб агні). *В лямпы огонь смутный.*

СНОВЫ'ДА *ж.* Чалавек, які мала спіць па начах. *Гэта сновыда й шэ ны спыть.*

СПІ'НА *ж.* Меры стрымлівання. *Вона в іх шо хотіла, тое робыла, ныма в іх ныякыі спіны.*

СТА'РЫТЫ *незак.* Старэць. *Грушкы́ старыють, то й ны сылно цвытуть. Врэмне йдэ й людэ старыють.*

СТРЫПЫНІ'ТЫ *зак.* Аслупянець. *Рыгыр стрыпынів, ны знав, шо робыты.*

СТЫДО'ЦЫЯ *ж.* Вялікі сорам. *Зарэ ёму́ стыдоцыя лю́дюм в гы́чы глянуты.*

СТЫПЫРІ'ТЫ *незак.* Вызначацца яркасцю, белізною. *На юй платте стыпыріе.*

СУДОСЫ'ТЫ *зак.* Сустрэць, спаткаць.

СУДОШЯ'ТЫ *незак.* Сустракаць.

СУ'КРУТ *м.* Частка ніткі, якая самаадвольна здвоілася і ссукалася. *В'ю, а на нытцы сукруты роблецьця.*

СУТЫНІ'ТЫ *незак.* Пачынаць світаць. *Вжэ сутыніе.*

СУХО'ПАРКОМ *прысл.* Без рошчыны, без заквашвання. *Лымыша́ сухопарком заколотыла, наско́ро.*

СУХО'ТКА *ж.* Хвароба лёгкіх. *В її була ны чыхотка, а сухотка, лёхкы всыхалы.*

СЦІ'БРЫТЫ *зак. узмацн.* Украсці, узяць чужое без запытання.

СШЫВЭ'РАНЫЙ *прым.* Няякасна сплецены ці вытканы.

СЫБА', СЫХЫБА' і СЫХЫ'Б *прысл.* Хіба.

СЫРДО'К і СЫРЫДО'К *м.* Стрыжань, асяродак (у расліне, алоўку).

ТАКЫ'ВСЬКЫЙ *прым.* Найбольш зручны ў дадзены момант. *Ныма в мынэ́ зарэ такывськыі одэжыны, шоб тобі даты на дошч.*

ТА'ХАТЫ *незак.* Трэсці, варушыць, узбоўтваць (аб пасудзіне з вадкасцю). *Кро́хы потахай цэбра, бо наспо́ды будэ му́ля.*

ТА'Я СЛА'ВА. Толькі знак. *Оно́ тая слава, шо волочыв, а там табы й ны волочанэ.*

ТО'ПЛЫВО *н.* Паленне (печы, грубкі). *Шэ я с топлывом ны кончыла, шэ топыцьця в мынэ.*

ТОРКА'ТЫ *незак.* 1. Торгаць за лейцы (пры панукан-ні). *Торкай коня.* 2. Пасоўваць.

ТОРКНУ'ТЫ *зак.* 1. Тарғануць за лейцы (пры панукані). *Торкнув коня.* 2. Ссунуць, падсунуць. *Трэба крохы стола до стыны торкнуты.*

ТРАПУ'НОК *м.* Нечаканы выпадак. *Можэ з ім якый трапунок, шо так довго ёго́ ныма.*

ТРЫТЯ'К *м.* 1. Бычок ад двух да трох год. 2. Пучок ільноваланка з трох жменек. 3. Радок бульбы, які выворваецца ў другую чаргу (такіх радкоў трэцяя частка). *На завтрэй оно́ трытякы́ осталысь копаты.*

ТРЭ'ПАЧКА *ж.* Лапатачка, якой трэплюць лён.

ТУК *м.* Тлушч.

ТУ'ЛУБ *м.* Цела мерцвяка без вантробаў.

ТУ'РКАТЫ *незак.* Турбаваць, дамагацца. *Туркай ёго́, хай встае, годы ёму́ спаты. Я всэ туркала ёго, коб додому йты.*

ТУРЫ'ТЫ *незак.* Шпарка гнаць. *Вжэ турыть коровы́.*

ТХНУ'ТЫ *незак.* Трохі смярдзець. *Гэтэ мнясо вжэ тхнэ.*

ТЫ'ЛЬКНУТЫ *зак.* Выканаць малую частку належнай работы. *Юй трэба було два дні жяты, а вона оно повдня́ тылькнула.*

ТЫРПЛЯЧКЫ'Й *прым.* Той, які можа выцерпець, перанесці нямала непрыемнасцей, цяжкасцей. *Якая ты, маты, тырплячкая.*

ТЫРТІ'ЛНЫЦЯ *ж.* Жанчына, якая трэ лён, каноплі.

ТЫ'ХО-ЛЫ'ХО *прысл.* Шыта-крыта. *Хоч воны й сварэ́цьця помыз собою, алэ іх ныхто ны відае, в іх завшы тыхо-лыхо.*

УКЛІМБОВА'ТЫ *зак.* 1. Звязаць сноп, ужываючы *клімб.* 2. *перан.* Моцна звязаць, сшыць.

УПОМЫ'ТОК *м.* Успамін. *Будэ дітюм упомыток.*

ХАТЫНЯ' *н. іран.* Маленькая хатка. *Зробылы собі ня́кэ хатыня дай булы.*

ХВОСТА'Ч *м.* Снапок для пакрыцця страхі, перавязаны перавяслам бліжэй да каласоў.

ХОДАКЫ' і КОДАКЫ' *мн.* Від чаравікаў: без халявак і без шнуркоў.

ХОРО'ШЫЙ *прым.* Прыгожы (*хорішчый* — прыгажэйшы).

ХОРОШЭ' *прысл.* Прыгожа (*хорішч* — прыгажэй).

ХРЫПА'ТЫ *незак.* Моцна кашляць з харканнем.

ХРЫПУ'ЛЯ *ж.* Тая, што моцна кашляе з харканнем.

ХРЯ'МАТЫ *незак.* Есці з хрумстаннем. *Тыля капусту хрямае. На хрямай морквыну.*

ЦІ'ВКА *ж.* Цэўка. У выразе *тычы́ цівкыю* — цячы цурком. *З ёго́ кров цівкыю потыкла.*

ЦЯ'ПАТЫ *незак. спрошч.* 1. Даіцца. *Шэ моя корова крохы цяпае. Чы шэ ваша моло́чныця цяпае крохы?* 2. Даіць. *Я са́мо зарэ корову цяпаю.*

ЦЯ'ПНУТЫ *зак. спрошч.* Падаіць. *Пойду цяпну корову.*

ЧВЭ'РЫТЫ *незак.* Вырабляць усякія штукі, неспадзяванкі.

ЧО'БОТЫ *мн.* 1. Боты. 2. Старадаўні танец.

ЧОЛОВЫРНО' і ЧОЛОВЫРНЫ'СКО *н. павеліч.-жарт.* Чалавек.

ЧУБА'ЧЫТЫ *незак.* Вельмі завастраць верх. *Нашо копыцю чубачыты табы стошка.*

ЧЫРЭ'НЯ і ЧЫРІ'НЬ *ж. Р. адз.* чырэ́ні. Чарэн і под у печы. У выразе *росты чырэнію* — расці шчыльна, адзін каля аднаго (аб грыбах).

ЧЫСНЫ'ЦЯ *ж.* 1. Тры ніткі ў снаванні. 2. Тры трысцінкі ў бёрдзе. *Чысныця — гэто тры ныткы в основаной пряжы, в вэрхнюй половыны чы́нэй, лычыцьця, як пряжа шэ на сныўныці, і тры тростынкы в бэрдовы; в пасмовы ныток чы тростынок дэсэть чысныць.*

ЧЭ'ЛЮСЬЦЬ *ж.* Адна з бакавых сценак у печы, дзе знаходзяцца чалеснікі. *За чэлюсьцю горшкы поставляла.*

ЧЭ'ЧЭНЬ *м.* У выразе *сухы́й табы́ чэ́чэнь* — вельмі худы.

ША! *выкл.* Цішэй! *Діты, ша!*

ШВО'РЫТЫ *незак.* 1. Хадзіць з пэўнай мэтай так, як патрабуе абавязак, рэгулярна, не зважаючы на цяжкасці. *Шворыла на работу дэнь у дэнь, дэнь пры дню.* 2. *спрошч. метаф.* Сцябаць. *Вона шворыть того злодыя паровы́ныю.*

ШВЭД і ЧВЭД *м.* Караед. *Швэд хату сточыв.*

ШМА'ЛЫТЫНА *ж.* Бруд ад асмальвання. *Порізала гусака ошмаляного да нымытого, ны помажтэ мняса гэтыю шмалытыныю.*

ШМА'РА *ж. спрошч.* Змазка, мазь.

ШМАРОВА'ТЫ *незак.* Змазваць маззю, тлушчам, дзёгцем.

ШМАРОВЫ'ДЛО *н.* Каламазь.

ШМЫ'ГА *ж.* Фіга, кукіш.

ШО'ЛОМ *м.* Шалом. *Хай бы кепку добру купыв, а то в тыбэ́ гэта табы шолом.*

ШПА'РЫ *толькі мн.* Боль у пальцах ад холаду. *Шпары в рукы зайшлы.*

ШТУ'РМА *ж.* Вялікая бура. *Такая штурма взяла́сь, копыці попырывороча́е.*

ШУ'РА-БУ'РА *ж.* Бязладдзе. *Шуру-буру с косэ́й зробыла.*

ШЫМРІ'ТЫ *незак.* Сваволіць, дурэць. *Гэта дытына мусыть на плач так шымры́ть, так шымріе.*

ШЫПТЮГА' *ж.* Прадукт, рэчыва, якія маюць некаторыя прыкметы браджэння. *Тое масло було твэрдэ, а гэтэ табы шыптюга. Шыптюга ны смытана, вона аж кы́слю ды́рыть.*

ШЫШЯКОВА'ТЫЙ *прым.* У выглядзе шышака (аб грэбені ў птушак).

ЯК ТЫ НЫ БА'Ч. Вельмі хутка, імгненна. *Як ты ны бач пасо́хла одэжа, зда́іцьця шэ́но* [толькі што] *гондэ повішала.*

*Н. Д. Карань*

# ДА ПАЛЕСКАГА ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА

Пададзеныя тут словы запісаны ў в. Бераснёўка Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Лексіка гаворак гэтага кутка ўсходняга (Мазырскага) Палесся яшчэ дэталёва не вывучана. Праводзіліся назіранні толькі над асобнымі тэматычнымі групамі лексікі Брагінскага раёна [1].

Гаворка Бераснёўкі акаючая. Але адначасова яна характарызуецца радам рыс, якія ўласцівы суседнім окаючым гаворкам. Адзначым некаторыя з іх: вымаўленне *у* замест *ы* (*му́ла, кабу́ла, ву́пій, ву́нес*); з'яўленне *j* пасля губных перад *а* (*п'я́ць, в'я́не*); вымаўленне прыстаўкі *пара-* замест *пера-* (*параéхаў, параплы́ў, паранёс*) і *парад* замест *перад* (*парад на́мі, парад ім*); захаванне звонкіх зычных (*год, ка́зка, боб*); дзеяслоўныя формы тыпу *по́йдам, паéдам, бу́дам, нясо́м, вязо́м;* ужыванне займенніка *шчо* (*шчо б*).

Шмат агульнага паміж гаворкай в. Бераснёўка і іншымі гаворкамі Мазыршчыны і з боку слоўніка.

АБАПНУ'ЦЦА *зак.* Павязаць хустку. *Абапніся, тады йдзі на вуліцу.*

АБДЗІ'РКІ *мн.* Адходы пры абдзіранні льну на грэбені. *Нада абдзіркі спра́сьці на мяшкі.*

АБШЧАПЕ'РЫЦЬ *зак.* Абхапіць. *Глядзі, як бацьку абшчаперыла ручкамі.*

АДГАДЗІ'ЦЬ *зак.* Аддзякаваць. *Пазыч грошай, я табе то́жэ чым-нібу́дзь адгаджу.*

АДНО'РУЧАК *м.* Адно верацяно з напрадзенымі на яго ніткамі.

АНІГА'ДКІ *прысл.* Хоць бы што. *Атвёзла мацны дзіця і анігадкі сабé.*

[1] В. А. Купрэенка. Дыялектныя назвы адзення ў брагінскіх гаворках. У зб.: Беларуская мова і мовазнаўства. Мн., 1973.

АСКРАКІ′ *мн. метаф.* 1. Соплі. *Вутры дзіцяці аскракі.* 2. Аскрак *м.* Худы, малы чалавек. *Не мушчына, а аскра́к.*

АТЛО′Г *м.* Адліга. *Прыехалі ў Цюмень, а там атлог буў.*

АШАЛАПЕ′ЦЬ *зак.* Страціць здольнасць рэагаваць. *Як вы́йшла з ахто́буса, то ашалапела і не зна́ю, у які бок на́да іці.*

БАРШЧЭ′Й *прысл.* Хутчэй. *Баршчэй хадзі сюды!*

БЛІЗІ′Р *м.* У выразе *для блізіру* — для прыліку, для людскога вока. *Схадзіла на поле для блізіру і дадому.*

ВА′ЛАШЫЦЬ *незак.* Кастрыраваць, пакладаць.

ВАРСА′ЦЬ *незак.* 1. Торкаць, поркаць у што-небудзь. *Не варсай па́лкаю ў агонь.* 2. *перан.* Шкодзіць каму-небудзь, прыдзірацца. *Варсае свайго суседа, не за то́е, дак за е́тае.*

ВАХКАВА′ТЫ *прым.* Сыраваты. *Пла́цце шчэ не вы́сахла, шчэ вахкаватае.*

ВО′ЛЯ *ж.* Валлё, валляк (у жывёл і чалавека).

ВУ′КІДАЦЬ *зак. перан.* Выгадаваць, выкачаць (кабана). *Вукідалі каба́нчыка на два цэ́нцеры.*

ВУ′ШЫШКАЦЬ *зак.* Патраціць да капейкі. *Усе гро́шы вушышкаў паку́ль дадо́му дае́хаў.*

ВЯРНЯ′КАЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, неўпапад. *Чаго ты там вярнякаеш?*

ГА′ЛА *н.* Голае балотнае месца сярод лесу. *Пае́халі ў гала сена убіраць.*

ГАЛАМО′ЎЗА *м.* і *ж.* Напаўраздзеты чалавек. *Не хадзі галамоўзай, а то прасту́дзісься.*

ГАЛАМО′ЎЗЫ *прым.* Напаўраздзеты. *Чаго ты галамоўзая ходзіш, холадна.*

ГАМА′РНЯ *ж. метаф.* Шумнае зборышча людзей. *Сабралася гамарня дай крычыць.*

ГАРА′ЗНА *прысл.* Добра, шчасліва. *Як бог дасць гаразна, то прые́дам на Новуй год.*

ГЛЕ́ЎКІ *прым.* Ацслівы, нявыпечаны (пра хлеб). *Хлеб якійся глёўкі, прыклейваецца ў році.*

ГНІ′ЛКА *ж.* Дробная грушка-гнілушка.

ГУЖА′ВЕЦЬ *незак.* Рабіцца чэрствым, цвёрдым. *Вярэнікі параварыла, дак яны пагужавелі.*

ДАЛО′ЎКА *ж.* Падлога. *Не садзі на далоўку дзіця, а то холадна.*

ДАЎЖЭ′Ж *прысл.* А як жа. *Даўжэж, прыду.*

ДЖА′НЫ *прым.* Далікатны; які патрабуе беражлівых адносін. *Не бяры кўхлік, а то ён джаны, шчэ разаб'еш. Такая джаная дзевачка, аж свёціцца ўся.*

ДЗЯ′ДНА *ж.* Жонка дзядзькі. *Схадзі к дзядні хлеба пазыч.*

ДО′ХЛІЦА *м.* і *ж.* *пагардл.* Чалавек, які дрэнна есць. *Паганы чалавек, худы — вот і дохліца.*

ЖА′ГАЎКА *ж. экспр.* Баявая, вострая на язык дзяўчына. *У Насьці не дзеўка, а жагаўка, як агонь.*

ЖА′ЛЕЦЬ *незак.* Рыжэць, падпякацца (ад моцна нагрэтай сцяны грубкі, печы). *Ад гарачай грубкі посцілка будзе жалець, адсунь!*

ЖЫ′ЖКА *ж.* Агонь. *Нічога ёй не кажы́, як жыжка. Загарэлася, як жыжка, свары́цца.*

ЗАВА′РАМ *прысл.* За адзін раз, разам.*Заварам вупіў дзве кварты малака.*

ЗАВІ′ЦА *ж.* Сястра мужа. *Прыехала ў госьці завіца.*

ЗАГАЙДА′ *ж. экспр.* Баявая дзяўчына. *Прыбегла ўжэ загайда тая.*

ЗАЗІ′МКАВАТЫ *прым.* Які баіцца холаду. *Зазімкаваты хлопец.*

ЗАКАПУ′ЛІЦЬ *зак.* Пакрыўдзіцца, надзьмуцца. *Ужэ закапуліла губў і есьці не йдзе.*

ЗА′КЛА *н.* Закутак у хляве для малых свінней, сутачкі.

ЗАКЛЯ′КНУЦЬ *зак.* Анямець, здранцвець, страціць адчувальнасць. *Ета ж спіна ужэ заклякла, а шчэ багата асталося лёну браць.*

ЗАПРАСО′РЫЦЬ *зак.* Запраторыць. *От запрасорыла нож і не знаю, дзе найці.*

ЗАЎПІРАВА′ЦЬ *зак.* Закапрызіць, заўпарціцца. *Унучак як не заўпірує, то так харашэ пад'есьць.*

ЗБАЖАВО′ЛЕЦЬ *зак.* Зрабіць што-небудзь недазволенае; пасвавольнічаць. *Шчо ты, збажаволеў? Стольк і піць!*

ЗГАЛАСІ′ЦЦА *зак.* Абяссілець, доўга плачучы, галосячы. *Згаласілася па сыночку.*

ЗЕ′РНЯТЫ *мн.* Гарбузовыя семкі. *Пашлю унучаняткам зернят.*

ЗЛЕ′ЦІЦЦА *зак.* Слаба нагрэцца, падагрэцца. *Вадзічка ужэ злецілася, можна цяля́ паіць.*

КАПО′Т *м.* Сукенка. *Такій красівуй капот пашыла.*

КАРАЛЁК *м.* Галёнка. *Купі каралька на студзень.*

КАШЫ'ЦА *ж.* Малочны суп (звычайна пшонны). *Кожны дзень кашыца, ужэ надаела.*

КВАСО'ЎКА *ж.* Крупяны суп, звараны на сыроватцы і забелены малаком. *Хадзі я квасоўкі ўваллю, такая смачная.*

КЕ'ЎЛЕЦЬ *зак.* Ледзь жыць, чуць дыхаць (пра слабага чалавека). *Ён ужэ чуць кеўлее.*

КІТА'ЙКА *ж.* Вузкая палоска матэрыі ў выглядзе стужкі для падвязвання або завязвання. *Заўяжу кітайкай косы.*

КЛЕ'МША *м.* і *ж.* Той, хто крывіць абутак. *Як ты ходзіш, клемша.*

КЛЫ'ПША *ж.* Жанчына з крывымі нагамі. *Клыпша етая нягóдная, растроіла мяне!*

КРАПІ'ЦЬ *незак.* Латаць, цыраваць. *Сядзь і крапі штаны.*

КРЫВО'ТЛІВУЙ *прым.* Зайздросны. *То ж такая ўжэ крывотлівая, не дай госпадзі.*

КРЫШАНІ' *мн.* Бульбяны суп. *Наварыла крышанёў і здорам затаўклá.*

КУЕЎЦІЦЦА *незак.* Праводзіць дарма час, нічога не робячы. *Што ты там куеўцісься, пашлі скарэй.*

КУ'КЛА *ж.* Самадзельная соска для дзіцяці. *Калісь дзецям куклы жавалі.*

КУЛІ'ДКА *ж.* Баханка. *Прынéсла з лаўкі тры кулідкі хлеба.*

КУ'ХЛІК *м.* Фарфоравы кубак. *Налі у кухлік малака.*

КУ'ШТАЦЬ *незак.* Стукаць яйцо аб зубы, правяраючы, ці моцнае яно.

ЛЯШЧА'ЦЬ *незак.* Ляскатаць. *Аж у вушах ляшчыць ад тваіх гаворак.*

МАНЯ'К *м.* Дурак. *Куды ты пашоў, маняк? Маняк якійся, нічога не панімае.*

МАСЬЦЬ *ж.* Вакса, мазь для абутку. *Ужэ масьці на чобаты няма.*

МНІ'ХІ *гл.* трыхі.

МЯРЭ'ШЧЫЦЦА *незак.* Здавацца, уяўляцца. *Ішла цёмначы і мне шчось мярэшчылась уваччу.*

НАБУ'БНЕЦЬ *зак.* Набухнуць. *Намачыла квасулю, то яна зáнач набубнела.*

НАДАЛІЗО'НЫЙ *прым.* Надакучлівы, назойлівы. *Такій надалізоный, шчо не дай бог. Болей падражняе.*

НАНЕ'Т *прысл.* Зусім. *Звяліся ягады нанет.*

НАРЫВА'ЦЦА *незак.* Хацець абавязкова зрабіць што-небудзь. *Унучак ходзіць па хаці іграе, но всераўно нарываецца праверыць, шчо в гармоні в серэдзіні.*

НАРЫ'ЦІЦЦА *незак.* Наважвацца зрабіць што-небудзь. *Нарыцілася ужэ сварыцца.*

НАЎМАНКІ' *прысл.* Наўгад, прыблізна. *Пагана ўжэ бачу, то вушываю наўманкі.*

НЕСТЫКА'ЦЦА *незак.* Не быць, рэдка паяўляцца. *От, дзіцятка цэлы дзень дома нестыкаецца.*

НО'СЦЫКАМ *прысл.* Наском нагі. *Нельга біць носцыкам коціка.*

ПАД'ЯЛДЫ'КУВАЦЬ *незак.* Паддакваць, падштурхоўваць словамі зрабіць што-небудзь. *А ты там сядзі, не пад'ялдыкуй.*

ПАНЯВЯРА'ЦЦА *незак.* Перабівацца, не мець чаго-небудзь у дастатку. *Цэлую зімачку без малака панявяраліся.*

ПАПО'РАЦЦА *зак.* Скончыць работу каля печы, дагледзець свойскую жывёлу. *Ты ўжэ папоралась, хадзем на работу.*

ПАРАЖЭ'ЛЬЛЯ *ж.* Парадзіха. *Трэба схадзіць да паражэллі у водведкі.*

ПАРЭ'КУЛІ *мн.* Від камбінаванага ўзору пры тканні. *Уціранік вуткан у парэкулі.*

ПАСТО'ПАК *м.* Зношаны, стаптаны лапаць, атопак. *Вукінь таго пастопка на двор. Ужэ зваляўся.*

ПАТРЭ'ПКІ *мн.* Дробнае валакно, якое аддзяляецца пры трапанні льну. *Багата патрэпак вуйшла.*

ПАЧЫ'НАК *м.* Верацяно, на якое зматваюць некалькі аднаручкаў.

ПЕРАШЧУ'КНУЦЬ *зак.* Перастаць ісці (пра дождж). *Ужэ дождж перашчук, можнай йці.*

ПЕ'ЧЫВА *н.* Адна выпечка (хлеба). *Спекла печыва хлеба, кулідачак на шэсць.*

ПЛА'ХА *ж.* Элемент узору на тканіне ў форме прамавугольніка. *Віленка тчэцца плахамі.*

ПЛЕ'СЦІ КАШАЛІ'. Гаварыць няпраўду, што папала.

ПЛУГА'НІЦЦА *незак.* Плесціся, ісці стаміўшыся. *Куды ты нанач плуганісься.*

ПЛЮ'ШНІК *м.* Аер. *Хадзем плюшніку нарвом.*

ПО'ЙГРАНАК *м.* Непаседлівае дзіця. *Алёнка такій пойгранак, шчо вудзяржаць нязьзя.*

ПРАНЦАВА'ТЫ *прым.* Паганы, непаслухмяны. *От пранцаваты, не паслухаў матку.*

ПРЫВЕ'СЬЦІ *зак.* Нарадзіць. *Яна ж у дзеўках прывяла дзіця.*

ПРЫМЯНІ'ЦЦА *зак.* Праведаць цану, па якой можна потым перапрадаць што-небудзь. *Насілі па талкушцы платкі, дак я не прымянілася, якая цана іх, а цяпер не знаю, паскольκі прадаваць.*

ПРЭ'НДАВАЦЬ *незак.* Шанаваць, паважаць. *Яна яго ня прэндуе.*

ПРЫЯ'ЦЬ *незак.* Спрыяць, садзейнічаць. *Яна мне скрозь прыяе.*

ПУХА' *ж.* Ніжняя частка ў яйцы. *Бі ў пуху.*

РАДНО' *н.* Саматканае пакрывала. *Калісь адны етыя ра́дны булі. Імі укута́ліся.*

РАЗВЯРНЯ'КАЦЦА *зак. пагардл.* Пачаць вярнякаць, многа вярнякаць.

РАЗЬЯ'ШЧЫЦЬ *зак.* Расчыніць (дзверы, акно). *Куда ты дзверы разьяшчыла.*

РА'СНЫ *прым.* Ураджайны. *Такія ж вішні ў етым годзі расныя.*

РУ'МНУЦЬ *зак.* Нечакана з'явіцца. *У нядзелю госьці румнулі у хату.*

РЫ'ХЦІК *прысл.* Абсалютна аднолькавы, вельмі падобны на каго-небдузь. *То ж ву́радзілася, рыхцік бацька.*

РЭ'ПЕХАМ *прысл.* У вялікай колькасці, кучаю. *Вукапаю ка́ліва, а пад ім рэпехам картопляў.*

СВОЙ *м.* Трубка палатна, сувой. *П'яць свояў наткала.*

СЕ'ПАЦЬ *незак.* Тузаць, пацягваць за што-небудзь. *Не сепай каня за вожкі, а то пабяжыць.*

СКА'ЛКА *ж.* Тлушчавая кропля ў страве. *Адны скалкі плаваюць у баршчу, такій сытый.*

СКРУЦІ'ЦЦА *зак. метаф.* Збіцца з правільнай дарогі. *Скруціўся чалавек пад старасьць.*

СНО'ЎДАЦЦА *незак.* Хадзіць без дзела. *Сноўдаецца па хаці, а рабіць не хоча.*

СОН *м.* Круг ад сланечніку. *Скруці на гародзі сону.*

СТРАМІ'ЦЦА *незак.* Пападаць у сарамлівае становішча. *Чаго йці туды? Ня йдзі страміцца.*

СУСО'ЛКА *ж.* Лядзяш. *Наеўся сусолак, дак і хіркаяш.*

СУ'ТАЧКІ *мн.* Тое, што і *закла. Зрабі сутачкі ля маленькага парасяткі.*

СУХАПА′РНІКІ *мн.* Смажаная бульба, нарэзаная скрылькамі.

СЫРАКВА′ША *ж.* Кіслае малако. *Вупі, донька, сыраквашы.*

СЫ′ТЫ *прым.* Тлусты. *Сыты кабан, пудоў на восім сала будзе.*

ТА′ЙКА *ж.* Зварот да сяброўкі. *Мая ж ты тайка, ета ж такая няпрыятнасць палучылася.*

ТАЎКУ′ШЧЫ *прым.* Вельмі рухавы, які не сядзіць на месцы. *Такое ж таўкушчае дзіцятка вурадзілася, што ні мінутачкі не пасядзіць.*

ТРАМЦЕ′ЦЬ *незак.* Калаціцца, дрыжаць ад жадання. *Аж трамціць у кіно.*

ТРУІ′ЗНА *ж.* Вельмі дрэнны чалавек. *Ета ж не чалавек, а труізна якаясь.*

ТРЫ′ХІ ДА МНІ′ХІ. Пра дарэмную трату часу. *Трыхі да мніхі, дай дзень прайшоў.*

УБУ′ЦЕЦЬ *зак.* Паразумнець, пасталець. *Можа ён параменіцца, як трохі ўбуцяе.*

УВАБГА′ЦЬ *зак.* Шчыльна ўлажыць, уціснуць. *Усе у чамайдан увабгала.*

УЗАВЕ′ТАЧКУ *прысл.* У тую ж мінуту, адразу. *Папрасіла і яна узаветачку паслухалась.*

УПАДРА′Д *прысл.* Запар. *Гулялі чатыры дні ўпадрад.*

УПЛІ′СКАЦЦА *зак. метаф.* Моцна закахацца. *Мая ж донька так упліскалася у яго.*

УПО′РАЦЦА *зак.* Тое, што і *папорацца.*

УПРЫ′НЬДЗІЦЦА *зак.* Закапрызіць, заўпарціцца. *Упрыньдзіўся, няйдзе далей, хоць ты галасі.*

УХАБАТАВА′ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *О′т жа дзеткі! Ніяк не ўхабатуюцца. Ніяк іх спаць не аблажыць.*

УХАДО′КАЦЬ *зак зневаж.* і *метаф.* 1. Зрасходаваць, патраціць. *Пашла ў лаўку і ўсе грошы ухадокала.* 2. Разбіць што-небудзь. *Такую красівую тарэлку ухадокала.*

УЦІРА′НІК *м.* Ручнік. *Вутрыся ўціранікам.*

ХІБЕ′ТНІЦА *ж.* Жанчына, якая ўсё вельмі добра ўмее рабіць. *Тож узяў сабе жонку, такая хібетніца!*

ХІ′МЕРАДЫ *мн.* У выразе *устанаўлюваць хімерады* — рабіць усё на свой лад, камандаваць па-свойму. *Ты мне тут свае хімерады не ўстанаўлюй.*

ХІ′РКАЦЬ *незак.* Кашляць з хрыпамі. *Цэлу ноч хіркаў, як старый дзед.*

ЧАРАП'Я'НКА *ж.* Кавалак ад разбітай ці паламанай рэчы, чарапок.

ШАВЯЛЯ'ВУЙ *прым.* Які не выгаворвае ясна некаторых гукаў. *Ета ж прыехаў той шавялявуй чалавек з горада. Не пайду за етага шавялявага замуж ні за шчо. Ета ж такое няшчасце дзіця шавялявае.*

ШАЛУПА'ЙКІ *мн.* Лупіны. *Шалупайкі кабаньчык зьесьць ці кароўка.*

ШЧЫРЫ'ЦЬ *зак.* Спісаць густа, пачыркаць. *Унучак шчырыў дзверы карандашом.*

11. Зак. 1411

*М. У. Яшчыкоўская*

# ЛЕКСІКА ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗІМОВАЯ БУДА МАЗЫРСКАГА РАЁНА

Вёска Зімовая Буда знаходзіцца на адлегласці 75 кіламетраў ад г. Мазыра. Паводле паданняў, узнікла яна ў канцы XIX ст. Спачатку гэта было пасяленне рабочых, якія абслугоўвалі смалакурню. Жылі яны першапачаткова ў часовых бараках, якія па-мясцоваму называліся *бу́дамі*. Адсюль і назва вёскі. Першымі пасяленцамі былі выхадцы з навакольных сёл. За кошт перасяленцаў з бліжэйшага наваколля расла вёска і потым. Зараз у вёсцы 95 двароў. Ёсць пачатковая школа, магазін, клуб, бібліятэка.

БА′БКА *ж.* Падбярозавік. *Пуднела́ ў лесе ўсего тры ба́бкі.*

БАРКА′НЬ *м.* Плот з тоўстых бярвенняў. *Корова пераплы́гнула баркань.*

БОЛО′НЬЕ *н.* Балота. *Мужчыны за́ўтрэ поедуць на болонье.*

БРЫЛЬ *м.* Выступ на каптуры ў печы, на які кладуць запалкі. *Дай сюда спічкі, я покладу іх на брыль.*

БУ′БА *ж.* Гарбузовыя семкі. *Па́по, папо, дай мне бубу.*

ВЕРЧ *м.* Пучок скручанай лазы, якім шаруюць падлогу. *Подлогу трэбо пошоровацъ верчо́м.*

ВІТУХА′ *ж.* Пустазелле, бярозка. *Мой лён вітуха з'ела.*

ВУЖА′ЧКА *ж.* Ядавіты або неўжывальны грыб. *На дворэ коло сцены́ столькі вужачок наросло.*

ГЕДЗ *м.* Авадзень. *Ге́дзы не даюць пасціць короў.*

ГІ′ЧКА *ж.* Канец завязанага мяшка. *Ты, Га́лько, беры́се за гічку.*

ГЛЁХ *м.* Збудаванне ў зямлі для захавання бульбы. *Наш глёх ужэ засы́паны картопляю.*

ГЛІ'НА *ж.* Мел, якім беляць хату. *Ето ж ні гліна, а абу́-што.*

ГОЛУ'ЗІНА *ж.* Вялікі дубовы прут, дубец. *Як по́йдзеш гуляць, то получыш голузіны.*

ГОЛУ'ШКА *ж.* Клёцка. *За́рэ постаў у печ голушкі.*

ГРЭ'БКІ *мн.* Прылада да касы для збірання падрэзаных пры кашэнні сцяблоў. *Мужчыны, надзеньце на косы грэбкі!*

ГРЭДА' *ж.* Высокае месца на лузе. *Му ужэ згрэблі сено на усей грэдзе́.*

ГУЛЯ'ЦЬ *незак.* Танцаваць. *Ена лу́чэй за у́сіх гуляе.*

ДЗЕРУНЫ' *мн.* Бульбяныя бліны. *Дзеруны стушы́ у́ пе́чы.*

ДЗЯ'ЖКА *ж.* Палоска з лазовай кары, з якой плятуць лапці. *Ма́нё, подай сюда дзя́жкі.*

Е'РА *ж.* Аер. *Накосі е́ры.*

ЖОМЕ'РА *ж.* Страва з цёртай бульбы з малаком. *А му жомеру вулілі свінья́м.*

ЗАВО'РКІ *мн.* Вароты. *Ніно, зачыні заворкі.*

ЗАГОЛУ'НІЦЦА *зак. экспр.* Задумацца. *Ой, тут сто́ячы з вамі заголуніласе.*

ЗАПОРВА'ЦЬ *незак. экспр.* Набыць, прыдбаць. *Я сёні запорва́ла у́ лаўцы гвозды́.*

КВАСО'ЎКА *ж.* Страва з яблычнага квасу і круп. *Га́лько, навары на обед квасоу́кі.*

КІ'БКІ *мн.* Страва з малака і крухмалу.

КЛЫ'ШЭЦЬ *незак.* Хадзіць спатыкаючыся. *Ідзі хо́рашэ і ні клы́шэй.*

КОБО'ТА *ж.* Лавушка на рыбу з лазы ў выглядзе конуса. *Прынесіце додому кобо́ту.*

КО'ВОРОТ *ж.* Прыстасаванне для катання на лёдзе па кругу, калаварот. *Я сёні одорваласе от коворота.*

КО'ДЛО *н.* Сваякі, якія жывуць у адной вёсцы. *Да што тут говоры́ць — ена дзеу́ка з доброго ко́длa.*

КОЗА'[1] *ж.* Самагонны апарат. *Коле́ козы́ мо дзесець бо́чок брагі стояло.*

КОЗА'[2] *ж.* Прылада, якой вымяраюць плошчу, сажань. *Нема чым заме́раць поле: коза у́чорэ зламаласе.*

КОЗА'[3] *ж.* Грыб махавік. *Сёні назбірала кошель коз.*

КОКО'Ш *м.* Хвошч. *Мой сёні накосіу́ воз коко́шу.*

КОЛОТУ'ША *ж.* Зацірка. *Обу́-што да ні еда ета колотуша.*

КОЛЮ'ГА *ж.* Ямка з вадой. *Ох, екіе колюгі на дворэ.*

КОПУ'Л *м.* Прылада, пры дапамозе якой выдзеўбваюць ночвы, часла. *Грыша, занесі Сéніку копулá.*

КОРО'БКА *ж.* Прылада для лоўлі ўюноў. *Папо, постаў над пéлькою коробку.*

КОЎМА' *ж.* Патоўчаная бульба з салам. *Коўмý будам есці з гуркамі.*

КУБРА'К *м.* Мужчынскі фрэнч. *Коля, надзень нового кубракá.*

КУТА' *ж.* Магіла. *А што б цебе на куту вувезлі!*

ЛІ'ПОЎКА *ж.* Дзежка, выдзеўбаная з ліпы. *Вáлько, постаў на печ ліпоўку.*

ЛІТАЕ'ЖЛІВЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Моя корова такая літаежлівая.*

ЛОЎКІ *прым.* Прыгожы. *Ох, екая лоўка невестка ў Колі!*

ЛУТ *м.* Кара з ліпы. *Грыша, надзеры лýту і сплеці коробку.*

ЛУ'ТКАВУЙ *прым.* Тлусты. *Ох, екіе ў цебе лутковуе поросята!*

ЛЯЛЯ'К *м.* Бесклапотны, збалаваны чалавек. *Вох, ляляк нейкі, а ні чоловек.*

МАЙДА'Н *м.* Кавалак поля. *Дóбрэ тобе говорыць — і там майдан засеяла і там.*

МАКОТО'ЎША *ж. абразл.* Галава. *Вот макатоўша дурная зварыла!*

МАРШЧА'К *м.* Лапаць са скуры. *Сцепан, сплеці маршчакі.*

МАЧ *м.* Вілы. *Новуй мач, а ўжэ зламаўся.*

МІ'ТА *ж.* Капец бульбы. *Прыкрыеш нáнач міту соломою.*

МОЛОХА'Й *м.* Хвароба ў авечак. *У етой овечкі молохай.*

МУ'РЗА ПОПО'ВА *экспр.* Неахайны чалавек. *Мурза попова, ідзі обмуй шкуру.*

М'Я'ЛО *н. метаф.* Непаваротлівы чалавек. *Ён не чоловек, а м'яло нейке.*

НА'ГЛЫ *прым.* Высокі. *Ох, дай наглы, як голіна.*

НІБО'ГА *ж.* Пляменніца. *Его ж нібажы́ токіе добрые.*

ОБЕЗВЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Набіць каго-небудзь. *Я ж цебе сёні абезвечу.*

ОБО'РА *ж.* Вялікае памяшканне для жывёлы. *Мáнько, зажэні целята ў обору.*

ОНДО'РУЧКА *ж.* Верацяно з наматанымі на яго ніткамі. *Подай сюда ўсе ондоручкі.*

ПЕРЭБІ'РАНКА *ж.* Посцілка. *У мене ўсего тры пэрэбіранкі.*

ПЕ'ТЛАХІ *мн. экспр.* Валасы. *Рашчасала б свае петлахі.*

ПОДБО'РЫ *мн.* Абцасы. *Я купіла тухлі на вусокіх подборах.*

ПОДУЗО'РНІК *м.* Узоры, вязаныя з нітак. *Засцелі на ложок подузорніка.*

ПОНІВЕРА'ЦЦА *незак., экспр.* Вярцецца. *Будзе тобе поніверацца!*

ПОСТА'ЎНЫ *прым.* Стройны. *Ён куда постаўнейшы за Колю.*

ПОТО'ПЦЫ *мн.* Страва з хлеба і малака. *Я хочу потопцоў.*

РУДЫ' *прым.* Рыжы. *Сёгонні і руды Хведар к нам прыедзе.*

РЭЗА'К *м.* Ручная піла. *Подай сюда рэзака́.*

СА'ЧЫК *м.* Жаночае паўпаліто. *Вунь у лаўцы е сукно́ на сачыкі.*

СКЕ'ПКА *ж.* Лучыніна. *Скепкі лежаць у шыйцы.*

СМАЛЯ'Н *м.* Спалены арэх. *Не орэхі, а смаляны́ одны́е.*

СОЎЯ'К *м.* Грыб падасінавік. *Я поднела п'яць соўяко́ў.*

СПОРЫЖЭВА'ЦЬ *зак.* Паралізаваць. *А што б тобе і рукі і ногі спарыжэвало!*

СТА'ЙЛО *н.* Памост на дрэве для вулляў. *Вунь жэ стайло на дубі е.*

СЫРО'ВАДКА *ж.* Страва з сыроваткі і круп. *Нейка недобра сыровадка.*

ТОЎКУНЫ' *мн.* Патоўчаная бульба з салам. *Складзі тоўкуны ў сковороду́.*

ХІБЕ'Т *м. экспр.* Розум. *У его хібет не то, што твой.*

ХОЛОБУ'ДА *ж.* Нешта нясқладнае, нязграбнае. *А божачка, не сукенка, а холобуда нейка!*

ЦЕЛЕ'Ш *м.* Адпілаваны кавалак дрэва. *Порубай ты етые целешы́.*

ЦЕ'ЛЬБУХО *н. экспр.* Тоўсты чалавек. *Нейкі цельбухо, а не дзіця.*

ЦЮ'ЦЬКА *ж.* Хвост гарбуза. *На етом горбузе одломаласе цюцька.*

ЧЫКІЛЬДА′ *ж.* Чалавек з крывой нагой. *Мамо, вунь чыкільда пашоў.*

ЧЭ′САК *м.* Прылада для часання жэрдак. *Прынесі мне сюда чэсака́.*

ШЧУРЭНЯ′ *н.* Праўнук. *Во дзе баба, што і шчурэнята ма́е!*

ШЧЫК *м.* Вершаліна дрэва. *Ена залезла ў самый шчык на дуб.*

ШЫ′ЛЕГА *ж.* Від лазы. *Наломі шылегі і сплеці кошаля́.*

# НАРОДНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ І НАМЕНКЛАТУРА

*В. В. Шур*

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЙ ЛЕКСІКІ МАЗЫРШЧЫНЫ

Палессе — надзвычай своеасаблівая дыялектная зона ў сістэме ўсходнеславянскіх дыялектных моў. Тут, апрача вузкарэгіянальных асаблівасцей, а таксама асаблівасцей, агульных з суседнімі дыялектамі беларускай і ўкраінскай моў, адзначаюцца з'явы, якія характэрны для гаворак ноўгарадскай поўначы і цвярскога поўдня[1]. Па некаторых жа архаічных лексічных асаблівасцях Палессе звязваецца з паўднёваславянскім дыялектным кантынуумам, а таксама з паасобнымі заходнеславянскімі гаворкамі[2].

Жывёлагадоўчая тэрміналогія Палесся складвалася на працягу многіх стагоддзяў. Старажытныя славяне вельмі інтэнсіўна і здаўна займаліся гадоўляй свойскіх жывёл. Я. Ф. Карскі адзначаў, што галоўным заняткам славян было земляробства, але і жывёлагадоўля знаходзілася ў іх на значнай ступені развіцця — на большай, чым у суседзяў славян — германцаў, якія займаліся больш паляваннем і войнамі[3]. На Палессі ж, як вядома, геаграфічныя ўмовы вымушалі насельніцтва звяртаць на жывёлагадоўлю асаблівую ўвагу.

Жывёлагадоўчая лексіка Мазыршчыны амаль не зафіксавана ў лінгвістычнай літаратуры. Праўда, некаторыя звесткі з семантыкі і геаграфіі асобных жывёлагадоўчых тэрмінаў падаюцца ў этнаграфічных даследаван-

---

[1] Ф. П. Филин. Некоторые проблемы диалектной лексикографии. «Известия АН СССР. Серия литературы и языка», т. XXV, 1, 1966, стар. 3.

[2] Н. И. Толстой. О лингвистическом изучении Полесья. У кн.: Полесье. М., 1968, стар. 9.

[3] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. 3. Очерки словесности белорусского племени. Народная поэзия. М., 1916, стар. 15.

нях К. Машынскага, Ч. Пяткевіча, М. Я. Грынблата, а таксама ў лінгвістычных працах Я. Ф. Карскага, Я. Н. Драздовіча, С. М. Некрашэвіча, Ю. Ф. Мацкевіч, Ф. М. Янкоўскага, М. І. Талстога, А. Адзінца, І. Юрашкевіча і інш.[4] Таму рэгістрацыя жывёлагадоўчай лексікі Мазыршчыны і ўсяго Палесся і складанне слоўніка гэтай галіны традыцыйных заняткаў палешукоў з'яўляецца патрэбнай і важнай справай.

Матэрыялы да слоўніка традыцыйнай жывёлагадоўлі Мазыршчыны ўключаюць больш двухсот слоў, запісаных пераважна ў Лельчыцкім, а таксама ў Петрыкаўскім, Жыткавіцкім, Мазырскім, Калінкавіцкім, Нараўлянскім, Ельскім раёнах Гомельскай вобласці і ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. У артыкуле раскрываецца семантыка і геаграфія зарэгістраваных слоў у межах усходняга Палесся.

Прыняты наступныя скарочаныя абазначэнні назваў населеных пунктаў. Лельчыцкі раён: Астр.— Астражанка, Буйн.— Буйнавічы, Гр.— Грабяні, Дубр.— Дуброва, Забр.— Заброддзе, Лельч.— Лельчыцы, Руч.— Ручное, С. Поле — Сініцкае Поле, С. Печы — Сярэднія Печы, Стад—Стадолічы, Чэм.—Чэмернае; Петрыкаўскі раён: Брын.— Брынёў, Глін.— Глінка, Граб.— Грабаў, Дар.— Дарашэвічы, Дубр. П.—Дуброва, Капц.— Капцэвічы, Куч.—Кучкі, Ляск.— Ляскавічы, П. Гара — Паляжач Гара, Раб.— Рабка, Сял.— Сялюцічы, Цераб.— Церабень; Жыткавіцкі раён: Бял.— Бялёў, Перар.— Перароў, Рыб.— Рыбгас; Мазырскі раён: Асав.— Асавец, Бок.— Бокаў, Жах.— Жахавічы, Кам.— Каменка, Махн.— Махнавічы, Пруд.— Прудок, Турб.— Турбінка; Калінкавіцкі раён: Гал.— Галявічы, Пруд. К.— Прудок, Шал.—Шалыпы; Нараўлянскі раён: Верб.— Вербавічы, Св.— Свяча; Ель-

---

[4] Падрабязную бібліяграфію прац аўтараў, якія займаліся вывучэннем гаворак Палесся, гл. у кн.: Полесье. Библиографические материалы по истории, географии, этнографии и экономическому состоянию Полесья (Северо-западный и юго-западный край вообще и губернии Минская, Гродненская, Волынская, Киевская и Могилевская в частности). СПб, 1883 (склала З. М. Пенкіна); Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны ўказальнік (1825—1965). Мінск, 1967; Лексика Полесья. (Материалы для полесского диалектного словаря). М., 1968; Полесье. (Лингвистика, археология, топонимика). М., 1968; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мінск, 1971.

с к і р а ё н: Вал.—Валаўск, Знам.— Знаменка, Кар. — Карма; С т о л і н с к і р а ё н: Альгом.—Альгомель.

АБО'РА, обóра *ж.* Хлеў, а таксама двор, плошча перад хлявом. (Капц., Брын., Ляск., П. Гара). *Вупусьць карову с хлева на абору, хай на сонцы пастайіць* (Брын.).

АДРЫ'НА, одры́на *ж.* Вялікі хлеў (Брын., П. Гара, Альгом.). *Карова ў адрыні рыкае, а вон удома не паказваецца* (Брын.).

АПО'ЕК, опóек, опóёк *м.* Добра дагледжанае цяля трох-пяці тыдняў, выкармленае малаком (Капц., Буйн., Турб., Стад.). *У мене карова малочная, я й апойка кожны год зарэжу, м'ясо ў его, ек курáчэ* (Тур.).

АПО'Й, опóй *м.* Прастудная хвароба ног у коней (Капц., Стад., Брын., П. Гара, Сял.). *Ораў багато конём, а потом даў холодное воды, да й захворэў конік опоем, а екі шчыры буў до работы* (П. Гара).

АТКІ'НУЦЬ, откі́нуць *зак.* Аддзяліць ад маці, змясціць у іншае памяшканне (пра маладых жывёлін) (Стад., Бок., Кам.). *Трэба аткінуць бучка ат карову* (Бок.).

АЎЧА'РНІК, оўчáрнік *м.* Аўчарня, хлеў для авечак (Альгом., С. Поле, Буйн., Стад.). *У оўчарніку цепер цёпло, накрылі вішóм* (С. Поле).

АЦСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Тое, што і *аткінуць. Сегоні ацсадзіла целя ат карову* (Капц.).

АЦЮ! *выкл.* Выгук, якім адганяюць свінней (Стад., Буйн., Капц.). *Ацю! Куды ты лезеш, рабая!* (Стад.).

БАРАЗЁННЫ, борозённы *прым.* Вол, конь, прывучаны хадзіць ва ўпрэжцы з правага боку (Стад., Буйн., Капц., Брын., Бок., Сял.). *Добры борозённы вол, сколькі на воз не наложыш то цягне* (Стад.).

БЕ'ГАЦЬ *незак.* Паляваць (пра карову) (Стад., Буйн., Ляск., Капц., Астр.). *Ужэ трэйці раз корова бегае, беда, мóжэ ялоўкою зноў остацца* (Ляск.).

БЕЛЬМА'ТЫ *прым.* Хворы ці сляпы на вока (Стад., Пруд.). *Корова на однэ воко не бачыць, мабуць, бельмата* (Стад.).

БІ'ЦЦА *незак.* Паляваць (пра кабылу) (Пруд., Капц.). *Кабула да жарабцоў зноў б'ецца* (Капц.).

БО'ЙКІ *прым.* Бадлівы. *Купіла карову, а яна такая бойкая, што ўсіх кароў таўчэ* (Капц.).

БОЎКУ'Н *м.* 1. Вол, якога запрагаюць у ярмо-адзіночку (Стад., Буйн., С. Поле, Чэм.). *Возьмі боўкуна́ за-*

*прэжы, да поедом по дрова.* (Стад.). 2. Хамут (ярэмец) на аднаго вала (Буйн., Перар.). *Овады напеклі, і рабуй боўкуна́, ек бачыш, поломаў* (Буйн.). 3. Від каромысла, прыстасаванага насіць вёдры на адным плячы (Асав.). 4. Няпоўнасцю спакладаны бык (Стад.). 5. *перан.* Мужчына, якія доўга жыве адзінцом, не жэніцца (Стад., Вал.). *Хведорын Іван боўкуно́м помрэ, бо ўжэ й сорак год скоро, а вон одзін туляецца по вуліцы й не жэніцца* (Стад.).

БОЧ! *выкл.* Выгук, якім адганяюць жывёлу. *Боч! Куды ты лезеш, гнеды!* (Стад.).

БУГАЁВА′ТЫ *прым.* Пра жывёліну, якая норавамі, формай тулава і галавы падобная да бугая. *У Ганны не́ка бугаёвата целіца, усе́ одна ходзіць, на другіх целіц скачэ* (Стад.).

БУГА′Й *м.* 1. Племянны бык (Стад., Буйн., Капц., Брын., Гал., Гр., Чэм., Астр.). *У саўхоз некага новага бугая́ прыве́зьлі, мабыць, племяннога, хочуць нову пароду завясьці* (Гал.). 2. *перан.* Дужы, але гультаяваты чалавек (Стад., Буйн., Забр., С. Поле). *Такі бугай, ён за трох можэ зробіць, а ўсе ленуецца, толькі ў карты гуляе* (С. Поле).

БУК, бык, бік *м.* 1. Бык (племянны самец) (Капц., Сял., С. Печы). *Карову зноў да бука вадзілі* (Капц.). 2. Нерабочы вол (Стад., Гр., Забр.). *У колхозі цеперэка налехча́лі букоў, на м'ясо дзержацьмуць* (Стад.). 3. Дрэнна аб'езджаны вол (Вал., Буйн., С. Поле). *Цепер добрэ, з армеі прыдзе да на трахтар садзяць, а як я прышоў, то хоць бу волы далі, дзе там, на букі посадзілі* (Вал.).

БУЛА′НЫ *прым.* Цёмна-карычневай масці (пра каня). *У нас больш буланыя коні булі* (Стад.).

ВАЛО′ВІК, воло́вік *м.* Пастух, які пасе валоў (Дубр. П., Стад., Буйн., С. Поле, Ляск., Дар.). *Вало́вікам ляхчэй трохі рабіць, чым цялят пасьціць — не так бегаюць — зьвесно, рахмана худоба* (Дубр. П.).

ВАЛО′ЎНІК, воло́ўнік *м.* Хлеў для валоў (Стад., Буйн., С. Поле, Сял., Махн.). *Немцы ў вайну людзей у валоўнік загналі і спалілі* (Сял.).

ВЕ′НГЕР *м.* Канавал (Глін, Куч., Сял.). *Венгеры прыходзілі з А'ўстрэі і лехча́лі скаціну* (Куч.).

ВІХОРА′ШВАЦЬ *незак.* Спакладаць. *Біла́ тут жонка, поросят віхорашвала, як бачыш* (Св.).

ВІШ *м. толькі адз.* Зазімавалая трава другога ўкосу (Стад., Буйн., Забр., Кар.). *Весна пагана нека ўдаласа, трэба вішо́м худобу корміць, бо сено ўсе потравілі* (Стад.).

ВО'Б'ЕДЗІ *толькі мн.* Аб'едкі сена (Стад., Буйн., Забр., Капц., Св.). *Ідзі воб'едзі вукінь з ясе́ль* (Стад.).

ВОСКОВІ'К *м.* Мяшочак у выглядзе конуса, у якім адціскаюць сыр. (Стад., Буйн., Лельч., Забр.). *Трэба ў восковік сыру пол*о*жыць да отціснўць пуд ка́менём* (Стад.).

ВУ'ГОН, вігон, вы́ган *м.* Выган (Стад., Буйн., Св., С. Поле, Капц.). *На весьне́ на вігоні худоба одна одну готова сколоць — рэве да копае, аж страшно* (Св.).

ВУ'ЛІВОК, вы́лівак, вілівок *м.* Яйка з вельмі слабай шкарлупой (Капц., Кар., Стад., Буйн.). *Нека кура хвора, бо вуліўкі несе* (Стад.).

ВУ'М'Е, ім'е, вы́м'е *н.* Вымя (Стад., Жах., Капц., Кар., Вал.). *Вум'е таке цьвордэ, што не подоіш* (Жах.).

ВУ'ПУСТОК, вы́пустак, віпусток *м.* Цяля, жарабя ад году да двух гадоў (Жах., Буйн., Стад., Капц., Бок., Верб., С. Печы). *Выпусткі не дай госпадзі як пасьціць, яны ж нічога не разьбіраюцца, бегаюць куды папало* (Жах.).

ВУ'СЬЦЕБНУЦЬ, вісьцебнуць, вы́сьцебнуць *зак.* Выпрагчы з ярма (Стад., Буйн., Гр., Забр.). *Возьмі боўкуна́ вусьцебні, а то за дзень шыю змуліў* (Стад.).

ВУ'ТВА *ж.* Качка. *Ву́тву цепер багато на болоці* (Альгом.).

ВУ'ШКІ, вы́шкі, вішкі *толькі мн.* Вышкі ў хляве, адрыне, гумне (Стад., Буйн., Бок., Капц., Сял., Кар., Забр.). *Му летом на вушках спімо́, там сена багато* (Стад.).

ГАЙДА'Ш *м.* Пастух, якога наймаў купец для прагону жывёлы да пункта назначэння (Стад., Буйн.). *Раней гайдашы́ букоў займалі і ў Петрыко́ў гналі, а пото́м іх у Варшаву ці ў Мінск отпраўлялі* (Стад.).

ГАЙНЯ' *ж.* 1. Сабачае або воўчае зборышча. *Зноў за етай сучкай гайня бегае* (Капц.). 2. *перан. асудж.* Непрыстойная кампанія маладых людзей (Капц.).

ГАЛАГУ'Т *м.* 1. Вялікі галасісты певень. *Некіх галагутаў кура прывела, крычаць на чом сьвет стаіць* (Капц.). 2. *перан.* Крыклівы чалавек. *Не суседка ў мене, а галагут, крычыць — не разберэш што* (Капц.).

ГАЎЯ′ДА, гоўя́да *ж.* Агульная назва буйной рагатай жывёлы (Бял., Куч., Сял., Граб.). *Сено́ў мала людзі нарабілі, вот і вуйшла худая гаўяда на ве́сну* (Бял.).

ГЕДЗАВА′ЦЬ, гедзова́ць *незак.* Гізаваць (Стад., Буйн., С. Поле, Бок.). *Зноў сегоні тавар гедзоваць будзе, вельмі сьлепакі нападаюць* (Стад.).

ГО′ЎЕ *н.* Тое, што і *гаўяда. Ужэ завасяне́ла й на пасавішчы, гоўе не хочэ зусім пасьціцца* (Граб.).

ГУК *м.* Кныр. *На той вуліцы, шчо до Забро́дзьья ідзе, кажуць гук, а мі кныр кажом* (Кар.).

ГУ′КАЦЦА *незак.* Паляваць (толькі пра свінней) (Стад., Буйн., Граб., Капц.). *Трэба сьвіню до кныра́ гнаць, бо гукаецца* (Стад.).

ГУРТ *м.* Статак розных свойскіх жывёл, дзе па колькасці пераважаюць авечкі (Стад., Буйн.). *На хуторах даўно жылі, так худобу ў гу́рці пасьцілі: і овечкі, і ковоў, і целята* (Стад.).

ДВОР *м.* Адгароджаны адкрыты ўчастак сядзібы (звычайна за хатай), дзе ўдзень адпачывае жывёла (Стад., Буйн., Забр.). *На дворэ свінья зрылі, што й пройці неможна* (Стад.).

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ! *выкл.* Падзыўныя выгукі да свінней, часцей парасят (Капц., Сял., Граб.).

ДЗЮ′ДЗІК *м.* Парася (пераважна ў дзіцячых размовах). *Коля, ідзі дзюдзікаў прыжэні, будзем малачком іх карміць* (Капц.).

ДО′ЙЛА *н.* Вымя (Капц., Сял., Брын.,). *Бач, як добрэ напас, аж дойлы ў кароў параспірало* (Капц.).

ДРАБІ′НЫ *толькі мн.* Прыстасаванне ў выглядзе лесвіцы, за якое кладуць сена жывёле. *Трэба ве́чкам сена за драбіны палажыць* (Бок.).

ДРАТАВА′ЦЬ, дторова́ць *незак.* Зацягваць у кончык лыча свінні дроцік, каб не рыла (Стад., Буйн., Капц., С. Поле). *Му раней навек сьвіней дторовалі, двор хорошы буў* (Стад.).

ДРОВІ′ЦА *ж.* Першацёлка. *Дровіцу воўк порваў на пашы, дорэзваць не даюць* (Ляск.).

ДРО′ЎКА *ж.* Тое, што і *дровіца* (Чэм., Стад., Гр.). *Знацца моя целіца побе́гала, оцеліла целя, дае молочко— от тогды вона дроўка* (Чэм.).

ЖАРАБІ′ЦА, жэрэбіца *ж.* Маладая кабыла (Дар., Брын., П. Гара). *З етае жарабіцы кабула разробіцца, бач, екіе ў ее персьці, а стройна ека* (Брын.).

ЖВА'КА *ж. толькі адз.* Жвачка. *Нешта зьела мая карова, ба жваку не жуе* (Пруд.).

ЖУ'ЙКА *ж. толькі адз.* Тое, што і *жвака. Мабуць, кнігі ў корову забіліса, бо жуйкі не жуе* (Стад.).

ЖУЯ'КА *ж. толькі адз.* Тое, што і *жвака. Карова жуяку жуе* (Жах.).

ЖЭ'РЭБ *м.* Малады жарабец. *Ну й слаўны цэй калгасны жэрэб* (Св.).

ЗАВАЦКІ', завоцкі *прым.* Завезены з іншых краёў і мясцін (пра свойскіх жывёл) (Стад., Буйн., Капц., Бок., Сял.). *У завоцкой сьвіні лыч короткі, а ў про́стое — на метру стрычы́ць* (Буйн.).

ЗАВО'ДЛІВЫ *прым.* Задзірысты, бойкі. *У нашай чарадзе дзве заводлівые каровы* (Жах.).

ЗАВОРА'ЧВАЦЬ *незак.* Своеасаблівым спосабам спакладаць быкоў, бараноў (Стад., Буйн., Гр.). *Бучкоў раней заворачвалі* (Стад.).

ЗА'ЕДЗЬ, за́ядзь *ж. толькі адз.* Розныя насякомыя (авадні, мухі, камары, мошкі), якія кусаюць жывёлу (Стад., Буйн., Лельч., Капц.). *Што ўжэ заядзі цяпер багато, як та худоба трывае!* (Капц.).

ЗАЗІ'МКАВАТЫ *прым.* Пераборлівы ў ядзе. *Летам зазімкаватая карова шчэ нічога, а зімою, хай яе пералогі возьмуць, не есць і малака не дае* (Пруд. К.).

ЗАКІ'ДАНЫ *прым.* Недагледжаны (Стад., Жах., Буйн., Кар.). *Етэ парася таке закіданэ, што на ём сала ніколі не нагадуеш* (Жах.).

ЗАЛЬГО'ЎВАЦЬ *незак.* 1. Браць на повад (пра карову). *Зальгоўвай корову, до бугая поведо́мо* (Ляск.). 2. *перан.* Узяць каго-небудзь у рукі; падпарадкаваць. *Оў, ета молодзіца зальгоўвае хутко такіх* (Ляск.).

ЗАМЕША'НКА *ж.* Сечка, аблітая рэдкім цестам. *Карову замешанкай карміла, тай малако бачылі* (Бок.).

ЗАСЕ'К *м.* Адгароджаны вугал у хляве, куды кладуць сена жывёле. *Положы ў засек оберэмок сена, дак вона пуд ногі вукіне да ў гной утопчэ* (Стад.).

ЗВЕ'РГНУЦЬ *незак.* Скінуць, абарціраваць (пра жывёл). *Карова з'ела мула, да й целя звергла* (Пруд.).

ЗГОН *м.* Вялікі статак коней (Брын., П. Гара). *Вунь згон коней жэнуць на пашу* (П. Гара).

ЗДРАКАВА'ЦЬ, здрокова́ць *незак.* Гізаваць (Стад., Буйн., С. Поле, Капц., Бок., Ляск.). *У спасоўку не дай божэ, як скот здрокуе* (С. Поле).

ЗДУ'ХАВІНА, здýховіна *ж.* Верхняя падраберная частка жывата (Стад., Буйн., Капц.). *Букі об'еліса й здуховіны пороспірало* (Стад.).

КАЛАТУ'ША, колотýша *ж. толькі адз.* 1. Прыгатаваная для свінней рэдкая страва. *Замешай калатушы да занесі сьвіня́м* (Бял.). 2. *перан.* Рэдкая гразь. *Хіба машына поедзе, така колотуша кругом* (Стад.).

КАЛЯ'ДНІК, коля́днік *м.* 1. Выкармлены кабан, якога колюць на коляды (Стад., Буйн.). *Колядніка годýём на сало* (Стад.). 2. Маладая жывёліна (парася, цяля), народжаная ў коляды. *Калядні́чка купіла, на вéсну пóцьвінак цімáлы бегаў* (Лельч.). 3. *жарт.* Чалавек, які калядуе — ходзіць па вёсцы напярэдадні коляд. *Раней дзеці любілі калядні́камі хадзіць па селе, цяпер саромеюцца* (Жах.).

КАНАВА'Л, коновáл *м.* 1. Чалавек, які пакладае жарабцоў, быкоў (Стад., Буйн., Капц., Рыб., Бок.). *Раней канавалы коней лехчáлі* (Рыб.). 2. *перан. асудж.* Доктар, які дрэнна ведае сваю справу (Стад., Буйн., С. Поле, Капц., Бял.). *Еты канавал цябе як палечыць, то ў магілу скора загоніць* (Капц.).

КАСА', косá *ж.* Падстраўнікавая залоза ў жывёліны (Стад., Буйн., С. Поле). *У етого кабана коса забóлена, відно́ було́, ек розберaлі* (Стад.).

КАЦІ'ЦЦА, коціцца *незак.* Прыводзіць малых (пра авечак, кошак) (Буйн., Стад., Капц., Бок., Сял.). *Ек овечка окóціцца, то тобе егня отдамó, нам воны ўжэ надоелі* (Стад.).

КАША'РА, кошáра *ж.* 1. Лёгкае збудаванне на пашы (звычайна з жэрдак), размешчанае на значнай адлегласці ад паселішча і прызначанае для адпачынку статку ў полудзень і ноччу (Стад., Буйн., С. Поле, Лельч., Капц.). *Ужэ обед скоро, трэба тавар у кошару заганяць* (Стад.). 2. Вялікі хлеў для авечак (С. Поле, Кар., Забр.). *Пóсьле войны овечу кошару вішом крылі* (С. Поле). 3. *перан.* Вялікая няўтульная хата. *От кошару зробіў, грубу не поставіў, то й хóлодно* (Стад.).

КЕ'ЎЛЯЦЬ *незак.* Есці без апетыту. *От порося ўзяў паганэ, кеўляе, дай годзі* (Стад.).

КІЛУ'Н *м.* Рослы племянны баран. *Ек хорошы невулехчаны баран, то ето кілун* (Буйн.).

КІРДЗЮ'К *м.* Хвароба языка ў авечак і буйной ра-

гатай жывёлы (Стад., Буйн., Кар., Забр.). *На корову кірдзюк напаў, бо нічого не можа зьесьці* (Стад.).

КЛЕНДА′ТЫ *прым.* Клышаногі. *Ой, екі еты кабан клендаты, зусім ногі вукручвае!* (Альгом.).

КЛЁК *м. толькі адз.* Сіла, моц (Стад., Капц., Брын.). *Нема ўжэ клёку ў етого вола, пудбіўса зусім* (Стад.).

КЛУБ *м.* Клуб у жывёлы (Стад., Буйн., С. Поле, Забр.). *Твоя корова моёй у клуб рогом нізнула* (Стад.).

КНІ′ГІ *толькі мн.* Аддзел страўніка буйной рагатай жывёлы (Стад., Лельч., Вал.). *Корова жуйкі не жуе, мабуць, кнігі забіліса* (Стад.).

КНО′РАЗ *м.* Кныр (Сял., Бял., Капц.). *З кноразам м'ясо паганэ, его есьці не будзеш* (Капц.).

КО′ЛКІ *прым.* Бадлівы, бойкі (пра быкоў, кароў) (Бок., Кам.). *Купіла карову, а яна такая колка, што з усімі каравáмі паб'ецца* (Бок.).

КОМЕ′ЛЬ *м.* Бязрогая карова. *Ек корова без рог, то ето комель* (Ляск.).

КОП'Я′К *м.* Невялікі стажок сена. *От коп'ячка сена накосіў, мо шчэ дзе ўкошу* (Стад.).

КО′РМНІК *м.* Добра выкармлены кабан (Стад., Буйн., Лельч., Турб., Кар., С. Поле, Гр.). *Пудоў на дванаццаць кормніка нагадаваў, сала таўшчэй за стакáна на хібў* (Турб.).

КО′РМНЫ *прым.* Добра дагледжаны кабан, свіння (Стад., Буйн., Бок., Турб., Ляск., Брын., П. Гара). *Кормных сьвіней двое дзержаць, хочуць шчэ поросятко купіць* (Стад.).

КОЧ-КОЧ-КОЧ! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свінней (Ляск.).

КРА′ЙКІ *толькі мн.* Малочныя зубы ў каровы (Брын., Куч., П. Гара). *Карова сена не есць, крайкі спускае* (Брын.).

КРЫЖ *м.* Крыж у жывёліны (Стад., Буйн., П. Гара, С. Поле, Кар., Дар., Капц.). *Хіба так худобіну б'юць дрýком по крыжý!* (Стад.).

КСО! *выкл.* Выгук, якім скіроўваюць валоў улева (Стад., Кар., Буйн., Махн.).

КУ′ЦА, *прым. ж.* Бязрогая карова. *Куцые коровý на молоко вельмо добрые* (Куч.).

ЛАША′, лошá *н.* Жарабя (Стад., Буйн., Знам., Капц.). *Кобулу ў воз запрэгаю, і лоша з ею цэлы дзень бегае* (Стад.).

ЛАШЫ'ЦКА, лошы́цка *ж.* Маладая жаробка (Стад., Буйн., С. Печы, С. Поле, Ляск.). *Пудабрáліса, як на патрэці, і лашыцка, і жэрэбчык* (С. Печа).

ЛАШЭНЯ', лошэня́ *н.* Тое, што і *лаша* (С. Поле, Стад., Чэм., Лельч., Буйн., Дар., Капц.). *Лошэнят у мене не було, я коней не годовaў* (Стад.).

ЛЕХЧА'ЦЬ *незак.* Спакладаць (пераважна парасят, баранюў) (Стад., Капц., П. Гара, Буйн., Бок., Сял.). *Трэба поросятко вýлехчаць* (Буйн.).

ЛУГА'ЦЬ (Куч.) і лыгáць (Стад., Буйн., Махн., Астр.). *незак.* Лыгаць, браць на повад. *Трэба лугаць валоў да ехаць па сено* (Куч.).

ЛУ'ЦІК *м.* Добра дагледжанае парася. *От луцік харошы, як лялька, мабуць, адным малаком гадавалі* (Капц.).

ЛЫГВО' *н.* Вяроўка, якой *лугаюць* карову. *Возьмі лыгво да карóву заведзі ў хлеў, а то нéчого боіцца* (Кар.).

ЛЮТОЕ'ЖЛІВУЙ *прым.* Пераборлівы ў ядзе (Пруд. К., Бок., Турб.). *З лютоежлівух кароў молока не вуціснеш, бо яны на сено гледзець не хочуць* (Пруд. К.).

МАРКА'Ч *м.* Неспакладаны баран. *У нашом селе жонка маркачóў чысьціла спраўно, як бачыш* (Рыб.).

МАРХА'ЛЬ *м.* Тое, што і *маркач. Як не злехчаны баран, то ў нас гаворaць мархаль* (Гал.).

МАЦЁРА *ж.* 1. Свіння, якая гадуе вывадак парасят (Капц., Сял., Бок., Дар.). *Глáдкую мацёру пагано дзержаць, у ее малака мало, парасята будуць худые* (Дар.). 2. *перан.* Няўмелая няўважлівая да сваіх дзяцей маці. *От мацёра, дзецей замукнýла ў хаці, а сама на гулянку побегла* (Стад.).

МАЧ *м.* Вілы, якімі выкідаюць гной з хлява (Стад., Буйн., С. Поле, Кар., С. Печы). *Возьмі мачá да вýкідай гной з хлеўчукá* (Стад.).

МЕРКЕТА'ЦЬ *незак.* Паляваць (пра авечку) (Капц., Турб., Ляск.). *Івáнова вечка да мархалёў меркечэ* (Капц.).

МУ'РЫ *прым.* Светла-карычневай масці (Бок., Ляск., Стад., Буйн., Махн., Перар.). *Усякіе волы буваюць: і красные, і чорные, і мурые, і половýе* (Стад.).

МУШКАВА'ЦЬ, мушковáць *незак.* Шукаць смачнага, перабіраць у ядзе (пра жывёл, радзей пра чалавека)

(Стад., С. Печы, Махн., Капц., Буйн., Дар.). *І молока не дае, а ў цэбры мушкуе добрэ* (Стад.).

М'Я'КА *прым. ж.* Такая, якую лёгка даіць (пра карову). *Бувае карова м'яка і туга́* (Сял.).

НАДВО'РНЫ *прым.* Такі, які не знаходзіцца на адкорме (пра свінней). (Стад., Буйн., Лельч., Брын., Жах.). *Надворных цяпер мо й немашэка сьвіне́й, чоловек однэ сьвінча́ дзержы́ць і молоко, і мекіна, і мука ему, так вонэ ўвесь час ко́рмнэ* (Стад.).

НАЛЫГА'Ч *м.* Невялікая вяроўка з «вухам» для злыгвання валоў. *Залыга́й валоў, паедом у Ко́зенкі* (Пруд.).

НАРА'НКІ *прысл.* Асаблівым парадкам (выганяць жывёлу вельмі рана, да ўсходу сонца, і пасвіць да гадзін дзесяці, а затым з 16 гадзін і да вечара) (Стад., С. Поле, Кар., Капц., Сял., Ляск., Бял., Махн.). *З мая му наранкі пасом усе лето, а ўвосене́ ізноў жэном на цэлы дзень* (С. Поле).

НАТУ'РЫСТЫ *прым.* Упарты (Стад., С. Поле, С. Печы, Буйн., Кар.). *От конь натурысты, ек стане, то на его галёкай, серэўно́ не пойдзе* (С. Поле).

ОЎЁХ *м. толькі адз.* Ядавітая расліна цыкута (вяха). *Тавар наеўса оўёху да й поздыхаў* (Стад.).

ОХВА'Т *м.* Тое, што і *апой. Розогрэў так коня, пото́м даў холодное воды, гледзі, што будзе охват* (Альгом).

ПАГАНЮ'КА, поганюка *ж. зборн. пагардл.* Паўзуны (Стад., Кар., Капц., Буйн., Сял.). *Ек пары́ло ў лесі цвіце́, то ўся паганюка з лесу ўцекае, вужы й гадзюкі ло́ском лезуць* (Стад.).

ПАГУЛЯ'ЦЬ, погуля́ць *зак.* Пакрыцца (пра карову) (Стад., Жах., Бок.). *Моя целіца погуляла ў першу пашу* (Стад.).

ПАДНО'С *м.* Ласунак для каровы. *Ва́жка, як карову прывучыў з падносам даіць* (Капц.).

ПАЗУ'Р [1] *м.* Доўгі шрам на целе жывёліны, нанесены рогам другой жывёліны (Стад., С. Поле). *Ву́пусьцілі першы раз у чэ́рэду, так вона наробіла пазуро́ў усім корова́м* (Стад.).

ПАЗУ'Р [2] *м.* Птушыны або звярыны кіпцюр. *Пазуры́ такіе ў пеўня, аж страшно* (Буйн.).

ПАКЛАДА'ЦЬ, поклада́ць *незак.* Спакладаць (звычайна жарабцоў) (Буйн., Бок., Рыб., Стад.). *З Тулы хадзілі канавалы́, воны лоўка пакладалі* (Бок.).

ПАЛАВЫ′, полову́й *прым.* Светла-жоўтай масці (Стад., Буйн., Капц., Ляск., Брын., Дар.). *Була́ ў мого́ бацька полова корова* (Стад.).

ПАЛА′ТКІ *толькі мн.* Вышкі. *Шчэ ў ма́і сена нацягаў на палаткі* (Бок.).

ПАЛЕВА′ЦЬ, полева́ць *незак.* Паляваць (толькі пра карову) (Капц., Сял., Брын., Ляск., П. Гара, Дар.). *Зноў карова палюе* (Капц.).

ПАСАВІ′ШЧЭ *н.* Выпас. *Сонцэ другі тыжджэнь печэ, аж на пасавішчы ў ко́панцы вады нема* (Сял.).

ПА′ТБІШЧЭ *н.* Тое, што і *пасавішчэ. На патбішчы шчэ я ўбачыў, што твоя корова захворэла* (Верб.).

ПАЦУЧО′К *м.* Малое дагледжанае парася (Стад., Кар., Буйн.). *Маці вучыла, што ек хорошого пацучка́ на базары ўкупіш, то головою ў мешок, а не ногамі заднімі опускай* (Буйн.).

ПАЦЬ-ПАЦЬ-ПАЦЬ! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свінней (Стад., Буйн., Забр.).

ПЕРВА′ЧКА *ж.* Карова, кабыла, свіння, у якой з'явілася першае патомства. *З первачкі малака захацеў, яна ж сама шчэ ек ву́пустак, мале́нька зусім* (Бок.).

ПЕ′РСЬЦІ *толькі мн.* Грудзі ў каня (Стад., Буйн., П. Гара, С. Поле). *Моцны ето конь, персьці ў его велікіг* (Стад.).

ПЕРЭ′ДАЙКА, перэ́дойка *ж.* Перадойка, ялавая карова, якая доіцца другі год узапар (Турб., Бок., Кам., Чэм., Знам.). *Бувае така перэдайка, што дае больш малака за ту карову, што й ацеліцца* (Турб.).

ПЕРЭ′ЕДЗІ *толькі мн.* Аб'едкі (сена, саломы і іншага корму) (Стад., Буйн., Куч., Капц., Брын., П. Гара). *Паганэ сена, адны́е перэедзі асталі́ся* (Куч.).

ПЕРЭ′ЗІМОК *м.* Жывёліна, якая перазімавала сваю першую зіму (Стад., Буйн., Руч., Лельч., Капц., Кар.). *Шчо ві з его хочэце, перэзімок, от на пашу пойдзе, ек цёпло стане, вікідаецца, будзе добры біч́ок* (Руч.).

ПЕРЭ′ЛЕТОК *м.* Жывёліна, якая пражыла лета, пералетавала (Стад., Капц., Буйн., Сял.). *Зарокся я браць зімою парасята, перэлетка купіць — з етага польза будзе, ему малако ўжэ не трэба* (Капц.).

ПЕРЭЛО′ГІ *толькі мн.* Хвароба на жывот у коней і буйной рагатай жывёлы (Брын., П. Гара, Дар., Ляск., Гал.). *Напалі на жэрэбца перэлогі* (Ляск.).

ПЕРЭ′СТЫ *прым.* Стракатай масці: з белымі, жоўтымі ці карычневымі плямамі. *У чэрэдзé перэста корова е* (Ляск.).

ПЕРЭЎЯ′ЗВАЦЬ *незак.* Спакладаць своеасаблівым спосабам (звычайна перавязвалі быкоў, бараноў) (Стад., Руч., Буйн., Бок.). *Букóў раней не лехчáлі, а перэўязвалі, мучэнне худóбіні булó* (Стад.).

ПІСЕГА′ВЫ *прым.* Паскаваты па масці. *Добры буў вол пісегавы да крывáўкаю захварэў* (Гал.).

ПОГО′НЫ *толькі мн.* Дарога або прагон, па якім на пашу гоняць жывёлу (Стад., Буйн., Забр., Вал.). *На погонах адныe сьцежкі тавáрачые, траву немашэка* (Вал.).

ПО′КАРМУ *толькі мн.* Вымя ў свінні. *Паганые ў сьвіні покарму, могуць і парасята паздыхаць* (Бок.).

ПОСТАЎНЫ′ *прым.* Стройны, прыгожы. *Постаўные коні булі, не клячы* (Стад.).

ПО′ЦЬВІНОК *м.* Падгадаванае, ладнае парася трох-чатырох месяцаў (Дубр. П., Стад., Капц., Кам., Кар., Граб.). *Такога поцьвінка разгадавaў, што аж страшна, як добры кабан, а яго Сяўрукóвыя пчолы пакусалі, дак чуць не здох* (Дубр. П.).

ПРО′СТЫ *прым.* Беспародны (Стад., Буйн., Лельч., Капц., Махн., Бок.). *Проста сьвіня́ на м'ясо добра, а завоцкá сальнá больш* (Стад.).

ПРЫ′ЗГОРОДОК *м.* Адгароджаная мясціна перад хлявом, куды выпускаюць на волю свінней, цялят (Стад., Руч., Куч., Гр.). *Загнала маці целя ў прызгородок* (Стад.).

ПРЫПНУ′ЦЬ *зак.* Прывязаць каня, вала вяроўкай да плота, дрэва. *Прыпні волоў, а то ўцекуць* (Стад.).

ПУДПА′СІЧ, путпáсіч *м.* Падпасак (Стад., Св., Дубр. П.). *Стасік у путпасічах так усэй век і прохóдіть* (Св.).

ПУДРУ′ЧНЫ *прым.* Вол, конь, прывучаны хадзіць ва ўпрэжцы з левага боку (Стад., Лельч., Капц., Бок., С. Печы, С. Поле). *Пудручны вол знае свое место, дзе трэба борозённому стаць, вон не стане* (Стад.).

ПУ′ТО *н.* Вяроўка, якою звязваюць пярэднія ногі каню, калі ён пасецца (Стад., Буйн., Сял., Махн., Бок.). *Гледзі, у коня путо розвязалосо, можэ ўцекці* (Стад.).

ПУХА′ *ж.* Тупы канец у яйку. *Носок у ейцэ моцнейшы за пуху* (Стад.).

П'Я′ТРА *толькі мн.* Вышкі ў хляве або гумне. *Навозіў сена поўные п'ятра* (Ляск.).

РА'КАЦЕНЬ, ра́коцень *м.* Капыт у парнакапытных жывёлін (Стад., Махн., Буйн., Лельч., Чэм., Капц.). *У коро́ву ракоцень трэснуў, трэба гарачым салом заліць, зажыве* (Стад.).

РОЖНО' *н.* Драўляны пруцік, на якім смажаць сала. *Ву́рэж з берозкі рожно, сала трэба напекці* (Альгом.).

РОЗБАЗУ'ЛІЦЬ *зак.* Разбэсціць, раздурыць. *Нашые корову́ розбазулілі, не хочуць кругляку́ есьці* (Стад.).

СЕЛЬНІ'К *м.* Адгароджаная частка хлява, куды складваюць сена (Стад., Буйн., С. Поле). *Поўны сельнік сена наносіў, на ме́сецоў тры будзе* (Стад.).

СКІДА'ЦЬ *незак.* Абарціраваць (Стад., Куч., Сял., Руч., Пруд.). *Кобула коро́ву ўбрыкну́ла, а вона таке хорошэ целя скінула* (Стад.).

СКЛУ'БЛЕНЫ *прым.* З крывым знявечаным клубам (Стад., Пруд., Руч.). *Склубляна карова, на базу трэба здаць* (Пруд.).

СКОЦІ'НА *ж.* 1. Свойскія гаспадарчыя жывёлы. *Позаметало доро́гі сьнегом, то й уся скоціна будзе голодаць: корову́, ове́чкі, коні й волы* (Стад.). 2. Жывёліна. *Мабуць, з'ела моя корова нешто паганэ, бо ў скоціны бо́кі пороздувало, ек барабан* (Буйн.).

СЛАБА'Я *прым. ж.* Такая, якую лёгка даіць (пра карову) (Ляск., Пруд.). *Купіў кароўку, а яна зусім слабая на раздо́й* (Пруд.).

СТА'ДНІК *м.* Племянны бык або жарабец (С. Печы, Стад., Гр.). *У нашой чэрэдзе́ хорошы стаднік ходзіць* (Стад.).

СТА'ДО *н.* Статак, вялікі гурт жывёлы (С. Поле, Буйн., Кап., Сял., Знам., Граб.). *У нас говораць: «Екі пастух, то таке й стадо»* (Буйн.).

СТАЕ'ННІК *м.* 1. Сыты выязны конь (Стад., Капц., Буйн.). *Стаеннікоў у помешчыка нашого було не́калькі* (Стад.). 2. *перан. экспр.* Малады здаровы мужчына, які пазбягае цяжкай працы. *Рагочуць стаеннікі, дзе б патхапілі мешок, дак не!* (Капц.).

СТАРО'НАК *м.* Адгароджаная частка хлява, куды складваюць сена. *Вазьмі сена ў старо́нку да дай каро́ві* (Бок.).

СТО'ЙЛО *н.* 1. Недагледжаны ўчастак зямлі ў лесе, на балоце, у полі (звычайна каля вадаёмаў), дзе ў поўдзень адпачывае жывёла (Стад., Буйн., Лельч., Гр., Граб., С. Поле). *Му до Сме́рдына* (назва возера) *навек*

*на стойло жэно́м свое чэ́рэды* (Стад.). 2. Адгароджаны ў хляве закутак, дзе круглы год стаіць жывёла. *Гной на стойлі не вурвеш, корова ўстоя́ла за зіму й ве́сну* (Стад.).

СУНО́ЗА *ж.* Закладка ў ярме (Стад., Буйн., С. Поле, С. Печы). *Зноў борозённы поломаў сунозу ў ерме́* (Стад.).

ТА́БУН *м.* Статак коней, радзей буйной рагатай жывёлы, авечак (Брын., П. Гара, Капц.). *Буў бугай у та́буні велікі — спіна, ек пра́сло, да заве́зьлі ў Муля́- роўку* (Брын.).

ТАВА́Р *м.* 1. Каровы (Стад., Буйн.). *Тавар добрэ напасі, а пото́м молока просі* (Стад.). 2. Буйная рагатая жывёла (Пруд., Кам.). *Да калхозаў у нас весь тавар адной чарадой хадзіў: й каровы́, й целята, й быкі* (Пруд.).

ТВО́РНІК *м.* Жарабец. *Творнік у канюшні стаіць, да яго й прыступіцца страшна, храпе, аж на сьце́ну лезе* (Турб.).

ТРУ́ШАНКА *ж.* Сена, змешанае з саломаю (Ляск., Дар., Капц.). *Нема сена, так трушанку корова́м даём* (Ляск.).

ТРЭЙЦЯ́К *м.* Маладая жывёліна (цяля, жарабя) на трэцім годзе жыцця (Стад., С. Печы, Брын., Дар., Рыб.). *Ек твоя целіца трэйцяко́м не побе́гае, то з ее худобу доброе не будзе* (Стад.).

ТУГА́ *прым. ж.* Такая, якую цяжка даіць (пра карову) (Ляск., Бюк., Куч.). *Зноў туга корова ўдалася* (Куч.).

ТЭЛЬБУХОВА́ТЫ *прым.* З вялікім жыватом. *Ну й тэльбуховата ж корова, ёй харчы трэба да й трэба* (Св.).

УКАРМІ́ЦЬ, укормі́ць *зак.* Выкарміць, зрабіць тлустым (Капц., Сял., Ляск.). *Каб камбікорму мешкоў два достаў, то кабана добрэ можна ўкарміць* (Капц.).

УРАБІ́ЦЬ, уробі́ць *зак.* Накасіць, зрабіць (толькі пра сена) (Жах., Стад., С. Поле). *Я шчэ да Петра́ ўрабіў сена калесьнічо́к* (Жах.).

ХУДО́БА *ж.* Свойскія гаспадарчыя жывёлы (Стад., Буйн., Лельч., С. Печы, С. Поле, Капц., Ляск., Сял., Знам., Вал., Кар.). *Корова то добра, толькі серэўно́ трэба прыгледа́цца, з екой вона худобу* (Стад.).

ХУДО́БІНА *ж.* Свойская гаспадарчая жывёліна (Стад., С. Печы, Буйн., С. Поле). *Не толькі чоловек любіць ласку, але й худобіна* (Стад.).

ЦЕГМО′ *толькі адз.* Дэталь у ярме. *Зробіў ермо, толькі шчэ цегма нема* (Бок.).

ЦЕЛЕ′ПКАЦЬ *незак.* Апетытна, са смакам есці (пра свінней). *Обмешай мукою, то наш кабан целепкае добрэ* (Стад.).

ЦЕЛІ′ЦА *ж.* Карова старэй за два гады (Стад., Буйн., Чэм., С. Печы, Вал.). *Целіца шчэ не корова і не ву́пусток, а нешто посерэ́дзіні* (Стад.).

ЦЕ′ЛЬБУХІ *толькі мн.* Вантробы (Ляск., Стад., Буйн.). *Бугай усе цельбухі сьвіне́ вувернуў, ек запорва́ў* (Ляск.).

ЦО-ЦО-ЦО! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць маленькіх парасят (Стад., С. Поле, Альгом.).

ЦЫБА′ТЫ *прым.* Даўганогі (Стад., Ляск., Капц., Раб.). *Не́ке целя вельмо цыбатэ оцелілосо* (Стад.).

ЦЫ′РКАЦЬ *незак.* Даіць (Стад., Чэм., Гр.). *Пойду корову цыркаць* (Стад.).

ЧЫ′СЬЦІЦЬ *незак.* Спакладаць (Турб., Буйн., Стад., Жах). *Чысьціць бараноў не важко, а коней поклада́ць — то беда* (Буйн.).

ЧЭЦЬВЕРТА′К *м.* Жывёліна чатырохгадовага ўзросту (Стад., Буйн., Вал., Рыб.). *Чэцьвертакоў цеперака ніхто не дзержы́ць, а раней на кошарах булі такіе букі, іх не запрэгалі, воны толькі гулялі, а пото́м на м'ясо іх отво́дзілі гайдашы́* (Буйн.).

ШКО-ШКО-ШКО! *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць свінней (Стад., Буйн., Гр.).

ШЛУ′НАК, шлу́нок *м.* Вантробы (Знам., Стад., Буйн.). *Што не дай кабану, не хочэ есьці, можэ шлунак спорчаны* (Знам.).

ШПАРНІ′ЦА *ж. толькі адз.* Хвароба капытоў (П. Гара, Брын.). *Убіласа шпарніца ў ногі целяці* (Брын.).

ШУ′ТКА *ж.* Ягня (у дзіцячай лексіцы). *Сходзі, Колька, шутку вупусьць на двор, хай пабегае* (Шал.).

ШУ′ТЫ *прым.* Бязрогі (пра быкоў, кароў) (Капц., Турб., С. Печы, Пруд., Бок., Сял.). *Булі ў нас корову́ без рог, так іх шу́тымі называлі* (Сял.).

ШЫ′ЛАВАТЫ, шы́ловаты *прым.* З вузкім азадкам (Капц., Стад.). *Гледзі, Іван, мо ето кныр, а не кабан, бо вельмо зад шыловаты* (Стад.).

Я′ЛАВІЦА *ж.* Ялавая, бясплодная карова (Брын., П. Гара, Куч.). *От ялавіца ваша сыта, самая лепшая ў чэрэдзе́* (Куч.).

Я'ЛАЎКА, я́лоўка *ж.* 1. Тое, што і *ялавіца* (Стад., Буйн., Вал., Знам., Верб., Бок., Кам., Махн., С. Поле, С. Печы). *Не хо́чу ялоўку дзержаць аніяк, мне молоко трэба, дзеці малы́е* (Стад.). 2. *перан.* Яблыня ці груша, якая не дае пладоў. *Стара́ груша, а ялоўка, шчэ й гру́шкі не поспутаў* (Стад.).

Я'ПА, ўя́па *ж.* Пухліна на целе жывёлы ці чалавека, нарасцень на дрэве (Стад., С. Поле, Кар., Забр.). *У коня нека ўяпа на крыжы́ виросла* (Стад.).

ЯРЭ'МЕЦ *м.* Своеасаблівы хамут на аднаго вала (Куч., Ляск., Бок., Цераб.). *Калі адзін вол у вазу, то яго запрагаюць у ярэмец* (Куч.).

*Г. А. Цыхун*

# ПАЛЕСКІЯ НАЗВЫ ПОСУДУ, БОЧАК, КОШЫКАЎ І ІНШЫХ ЁМІСТАСЦЕЙ

Пададзеныя ніжэй лексічныя матэрыялы ўключаюць назвы рэчаў хатняга ўжытку, характэрных для традыцыйнага народнага побыту. Асновай для іх аб'яднання ў рамках адной тэматычнай групы з'яўляецца тое, што пераважная большасць зафіксаваных назваў у самым агульным сэнсе абазначае ёмістасці, г. зн. прадметы, якія маюць пэўную форму і аб'ём і могуць выкарыстоўвацца для ўтрымання розных рэчываў ці дробных прадметаў. Многія з рэалій, назвы якіх прыводзяцца ў слоўніку, ужо канчаткова выйшлі з ужытку або страцілі сваю першасную функцыю, іншыя ж працягваюць ужывацца і ў побыце сучаснай вёскі. Усе прадстаўленыя матэрыялы сабраны па спецыяльнай праграме на тэрыторыі Прыпяцкага Палесся ў час экспедыцый 1962—1965 гг., што праводзіліся Інстытутам славяназнаўства АН СССР і Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР пад кіраўніцтвам М. І. Талстога[1].

Пры апрацоўцы матэрыялаў была праведзена пэўная уніфікацыя фанетычнага боку запісаў, бо ўдзельнікі экспедыцый, якія дапамагалі аўтару праграмы ў збіранні лексічных матэрыялаў па гэтай тэме, карысталіся рознымі сістэмамі транскрыпцыі. Слоўнік дае станоўчую інфармацыю адносна зафіксаваных слоў: адсутнасць слова ў матэрыялах не з'яўляецца сведчаннем яго адсутнасці ў абследаваных гаворках. Пры тлумачэнні

[1] Адносна задач, складу і хронікі экспедыцый гл.: Н. И. Толстой. Об изучении полесской лексики (предисловие редактора). Лексика Полесья. М., 1968, стар. 3—19; я г о ж. О лингвистическом изучении Полесья (предисловие редактора). Полесье. М., 1968, стар. 5—17; Н. В. Никончук. Хроника полесских экспедиций. Полесье, стар. 300—302.

даецца разгорнутае апісанне рэаліі, прыводзяцца рэлевантныя і рад другарадных семантычных прыкмет, каб паказаць магчымыя адрозненні ў значэнні слоў у асобных месцах Палесся і ў параўнанні з літаратурнай мовай. Пры гэтым, па магчымасці, улічваюцца такія характарыстыкі, як адносныя памеры (вышыня, шырыня і г. д.), форма, матэрыял (з якога зроблен прадмет), спосаб вырабу (бандарны, пляценне і г. д.) і функцыя. Пералік населеных пунктаў, дзе запісана пэўная форма слова, даецца з захаду на ўсход. Прыняты наступныя скарачэнні населеных пунктаў у адпаведнасці са скарачэннямі, прынятымі ў кн. «Лексика Полесья», стар. 472—473:

Брэсцкая вобласць — Радзеж (Рдз.), Забалоцце (Зб.), Арэхава (Ар.), Олтуш (Ол.), Лукава (Лк.), Макраны (Мк.), Сварынь (Св.), Вялікі Лес (ВЛ), Ляхавічы (Лх.), Зарэчка (Зр.), Здзітава (Здз.), Спорава (Сп.), Адрыжын (Ад.); Гомельская вобласць — Дзякавічы (Дзк.), Хвойка (Хв.), Дарашэвічы (Др.), Галубіца (Гл.), Баравое (Бр.), Свіднае (Сд.), Замошша (Зм.), Конкавічы (Кк.), Балажэвічы (Бл.), Засінцы (Зс.), Кочышча (Кч.), Галоўчыцы (Гц.), Канатоп (Кн.), Дзёрнавічы (Дзн.), Даўляды (Дл.).

БАЛЕ'Я *ж.* Дзк. Зм. Кч., б а л і я Рдз. Ол. Лк. Мк. Св. ВЛ. Лх. Ад. Шырокая круглая пасудзіна, у якой мыюць бялізну (пераважна з клёпак, радзей металічная). *У балії шмацьця пэрўць.* Ол. Б а л і й к а Лк.

БА'НЬКА *ж.* Лк. Здз. Ад. Бляшаная цыліндрычная пасудзіна з акенцам і кранам у ніжняй частцы для адстойвання малака. Параўн. *бляшанка, цягачка.*

БАНЯ'К *м.* Рдз. Металічная пасудзіна, у якой вараць ежу. *У банякóвы вáрымо боршч, картóплю, крўпнык.*

БАРЫ'ЛО *н.* Св. Здз. Дзк. Хв. Дш. Гл. Сд. Бр. Бл. Зс. Кч. Гц. Кн. Дл., б а р э́ л о Св. Ад. Зм. Вялікая заднёная з двух бакоў бочка для квасу, гарэлкі. *Барыло на два дна, у ім квас соковы́ возілі.* Дзк.

БАРЫ'ЛЦА *н.* Зс., б а р ы́ л ц э Здз. Хв. Бр., б а р э́ лц э Ад. Невялікая, заднёная з двух бакоў бочка для гарэлкі, квасу і іншага пітва; у б. бралі ваду ў поле ці на сенажаць (ёмістасць да 1,5 вядра); б. часам называлі вялікі аплецены буталь ці гліняны збанок з вузенькім горлам (гл. *бунька*). Параўн. *біклажка, бочонок.*

БАЧО'К *м.* Ад. Бляшаная пасудзіна для газы.

БЕРЭСЦІ'НА *ж.* Дзк. Чарпак для піцця вады ў полі, у лесе; зроблены з бяросты, скручаны леечкай і ўстаўлены ў раскол палачкі. Параўн. *берэсцянка, корэц, кузорэб, чэрпак.*

БЕРЭСЦЯ'НКА *ж.* Дзк. Др. Гл. Зм. Кк. 1. Тое, што і *берэсціна. Берэсця́нка, шоб во́ду браць на боло́це.* 2. Зробленая з бяросты каробачка з накрыўкай для захавання солі, дробных рэчаў. Зм. *А то прынесе́цца доха́ты тая берэсця́нка, го́лка яка́ ўкінецца або што набе́рэцца яко́го проса.* Зм. Берэсця́ночка Гл. *Пастухі на яго́ды робілі берэсця́ночкі.* Параўн. *коробочка, кузенька.*

БЕРЭСЦЯ'НОЎКА *ж.* Кк. Тое, што і *берэсцянка. Пастухі носілі берэсця́ноўкі, ее́ дошч не проб'е́.*

БІКЛА'ЖКА *ж.* Дзк. Невялікая, сплюшчаная з бакоў бочачка для вады (каля 10 л) з почапкай. *Бікла́шка з клепок — во́ду бра́лі ў по́ле.* Параўн. *барылца.*

БІЯ'НКА *ж.* Лк. Мк. Св., біе́нка Ол. ВЛ. Лх. Зр., біёнка Ол. Драўляная пасудзіна з клёпак, у якой б'юць масла. *Злыва́еш молоко́, ото́ й кра́плю зоб'е́ш у тый бія́нцы.* Мк. Параўн. *бойка, боенка, маслобойка.*

БЛЯ'ШКА *ж.* Мк. Зб., бле́шка Ол. Бутэлька наогул, часцей ёмістасцю 0,5 л. *У га́рнец п'яць бля́шок ўхо́дыло.* Зб. Параўн. *пляшка.*

БЛЯША'НКА *ж.* Зб. Тое, што і *банька. Бляша́нку ў коло́дязь опуска́емо.*

БО'ДНЯ *ж.* Рдз. Лк. Св. Лх. Зр. Ад. Дзк. Хв. Гл. Бр. Сд. Зс. Пасудзіна з клёпак, звычайна звужаная ўверсе, з накрыўкай (прыціскалася пры дапамозе кійка, прасунутага ў вушы); у б. захоўвалі палатно (Св. Лх. Зр. Ад. Гл. Бр. Сд.), жыта (Лк.), мяса і сала (Рдз. Зс.), вазілі рыбу (Дзк. Хв.). *Стары́е лю́ды кла́лі ў бо́дню са́ло, а тэпэ́р бо́дэнь нэма́е.* Рдз. *Бо́дня шмацьця́ кла́сьць баба́м.* Бр. *Бо́дня з клёпок для ры́бы, з во́зера доха́ты возілі.* Дзк. Параўн. *кадоўб, кубел.*

БОЕ'НКА *ж.* Ад. Тое, што і *біянка.*

БО'ЙКА *ж.* Здз. Дзк. Хв. Бр. Кк. Бл. Дзн. Дл., бу́йка Гл. Кн., бі́йка Лх. Зр. Ад. Тое, што і *біянка.*

БО'ЧКА *ж.* 1. Драўляная ( з клёпак) пасудзіна для засолу агуркоў, капусты і інш. Лк. Мк. Св. ВЛ. Лх. Зр. Здз. Сп. Ад. Дзк. Хв. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл. Зс. Кч. Зб.

Гц. Кн. Дзн. Дл.; часта з азначэннем: **варыўна́я бо́чка** Здз. Хв. Сд. *Ву́муеш бо́чку, то боршч мо́жно дзержа́ць.* Бр. Параўн. *варэмныця.* 2. Драўляная (з клёпак або выдзеўбаная) ці сплеценая з саломы пасудзіна для ссыпання жыта, проса і інш. Мк. Ад. Дзк. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Зс. Гц.; радзей з азначэннем: **насыпна́я бо́чка** Сд. Кк., **солом'я́на бо́чка** Гл. *Са́мы робілі бо́чкі на пашню́.* Гл. Параўн. *кадоўб, кузуб.*

БОЧО'НОК *м.* Хв. Бочачка для вады. Параўн. *барылца.*

БО'ЧЭЧКА *ж.* Лк. Кч. Невялікая цыліндрычная драўляная або гліняная пасудзіна для солі, перцу і інш. Параўн. *сольніца.*

БРА'ЧКА *ж.* Рдз. Прылада ў форме шуфля з доўгімі зубамі, пры дапамозе якой збіраюць чарніцы. *Я мо тры бра́чкі набра́ла.*

БУ'НЬКА *ж.* Рдз. Св. ВЛ. Лх. Зр. Здз. Сп. Ад. Гліняная шарападобная пасудзіна з маленькім вузенькім горлышкам (закрывалася коркам) і ручкай; у ёй бралі ваду ў поле ці на сенажаць. *Бу́нька — вона́ купля́тая, а шыйка ву́зэнька.* Лх. Параўн. *глёк.*

БУ'ТЛІК *м.* Бр. Кк. Тое, што і *бутэль.*

БУ'ТЛЯ *ж.* Дзк. Гл. Тое, што і *бутэль.*

БУТЫ'ЛКА *ж.* Мк. Здз. Ад. Кч. Гц. Бутэлька, часцей ёмістасцю 0,5 л. Параўн. *пляшка.*

БУ'ТЭЛЬ *м.* Рдз. Ол. Лк. Лх. Здз. Ад. Гл., **бу́цель** Зс. Кч. Кн. Дзн. Дл. Вялікая шкляная пасудзіна, аплеценая лазой, для вады, гарэлкі, газы і інш.; радзей б. называюць гліняны збанок з вузкім горлам, у якім бралі ў поле ваду. Зс. Гц. Параўн. *бунька, гусак, гэнсёр, оплетанка.*

БУТЭ'ЛЬКА *ж.* Рдз. Бутэлька, часцей ёмістасцю 0,5 л. *Колы́ ідэ́ш у по́лэ, налыва́еш воды́ ў бутэ́льку.* Параўн. *пляшка.*

БЭЛЕ'Ц *м.* Рдз. Невялікая ражка, якой мералі муку. *Зро́бляць бэльца́ для мукі.*

ВАГА'НОК *м.* Др. Выдзеўбаная з наросту на дрэве пасудзіна ў выглядзе каўша, якой карысталіся замест міскі ў полі ці на сенажаці; в. называлася таксама медная пасудзіна такой жа формы і прызначэння. **Вага́нчык** Кк. Бл. *Вага́нчык, як міса, то́лькі з ру́чкою.* Бл. Параўн. *коўш.*

ВАРО'ХА *ж.* Ол. Лк. Вялікая драўляная лыжка, якой мяшаюць і разліваюць страву. Параўн. *ополоньік.*

ВАРЫ'НКА *ж.* Зс. Сплеценая з саломы каробка для сяўбы ўручную. Параўн. *севак.*

ВАРЭМНЫ'ЦЯ *ж.* Ад. Вялікая бочка для капусты або гуркоў, што стаяла ў спецыяльным памяшканні — «варэмні», дзе захоўвалася гароднiна. Параўн. *бочка, квасныця, сцяголка, шчань.*

ВЕДРО' *н.* Гл. Зм. Кк. Бл., в ё д р о́ Дзк., в і д р о́ Мк. Ад. Бр. Кч. Зб. Кн. Дзн. Дл., в ы д р о́ Ол. Лк. Здз. Лх., в э д р о́ Зс. Гц. Драўлянае або металічнае вядро. *Ко́лісь від́ра робілі дэрэв'я́ныі.* Бр.

ВЭ'РЦЯГА *ж.* Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Лх. Зр. Здз., в э́ р ц е г а Сп. Гліняная міска з высокімі сценкамі, у якой церлі мак, ягады, пяклі бабку і інш. *Чоловік фу́рою во́зіць вэ́рцягі.* Мк.

ВЭРЭ'НЬКА *ж.* Св. Лх. Зс., в а р э́ н ь к а Ад. Сплеценая з бяросты ці лубу сумка, з якой ходзяць па грыбы, па ягады. Параўн. *кошэль.*

ВЭРЭ'НЯ *ж.* Здз. Др. Бр. Сплеценая з лазы або кары сумка з накрыўкай і почапкай; у в. клалі прыпасы ў дарогу, у лес. Параўн. *коробка, короб'я, кошулка, кошэль, кошэлік, навіска.*

ГА'РНЕЦ *м.*, г а́ р ц ы *мн.* Дзк. Гл., *г а́ р н э ц ь,* г а́ р н э ц ь. Рдз. Зб. Ол. Мк. Лх. Здз. Ад. 1. Драўляная (з клёпак або выдзеўбаная), часам сплеценая з саломы пасудзіна, якой вымяралі сыпкія рэчывы (3—4 кг.). Рдз. Мк. Ад. Зб. *У нас буў га́рнэць одзін на дэ́сяць ху́нтоў.* Зб. 2. Шкляны посуд ёмістасцю каля 2,5 л. Рдз. Ол. Лх. Здз. Ад. Дзк. Гл. Зб. *У га́рнэць п'яць бляшок ухо́дыло.* Зб. Параўн. *гусак.*

ГАРНУ'ШОК *м.* Ол. Лк. Невялікі гаршчок. *Гу́ляй, гу́ляй, па́не дру́жку, кіпыць ка́ша ў гарну́шку.* Ол. Г а р н у́ ш о ч о к Лх. Параўн. *горшчык.*

ГІ'РКА *ж.* Дзк. Хв. Др. Гл. Кк., г ы́ р к а Лк. Сп., г э́ р к а Св. Высокая гліняная пасудзіна з ручкай, спецыяльна выраблена ці зробленая са збанка, у якога адбіўся верх (для захавання масла і інш.). *Як обрэ́жэ кругом гладышку — то гірка зову́ць.* Гл.

ГЛАДЫ'ШКА *ж.* Рдз. Лк. Мк. Св. Лх. Здз. Сп. Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Зм. Кк. Бл. Зс. Кч. Гц. Кн. Дзн. Дл., г л а д э́ ш к а Ар. Ол. Гліняная пасудзіна для малака, звычайна без вуха. *Гладышкі прыво́зылы з Ра́тня.* Рдз.

ГЛЕ′ЧЫК *м.* Дзк., глёчык Гл., глэ́чык Ад., глэ́шчык Здз. Тое, што і *глёк. Ідзе́ ба́ба на по́ле, той глёчык з ву́хом собе́ во́зьме з водо́ю.* Гл.

ГЛЁК *м.* Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Кч. Гц. Кн. Гліняная (радзей медная) пасудзіна з ручкай і вузкім кароценькм рыльцам (затыкалася коркам), у якой бралі ваду ў поле, на сенажаць; у г. захоўвалі алей, гарэлку і інш. *У глека́ ры́ло вузеньке, а сам чэрэва́ты.* Бр. Параўн. *бунька, бутэль, пушка.*

ГОРПЭНЯ′ *н.* Рдз. Маленькі гаршчок. *Мале́йкым дзіцям вары́лі ка́шу ў горпэня́товы.* Параўн. *горшчык.*

ГОРШЧО′К *м.* Рдз. Зб. Мк. Св. Здз. Сп. Ад. Дзк. Хв. Бр. Кн. Дзн. Дл., горшо́к Кк. Кч., горчо́к Лк. Хв. Гліняны гаршчок, у якім вараць ежу. *Оплела́ горшка́ да й вару́.* Хв. Параўн. *мырняк.*

ГО′РШЧЫК *м.* Ол. Здз. Ад. Гл. Бл. Зс. Кч. Гц., го́рчык Ол. Бл. Невялікі гаршчок, у якім вараць ежу. *У го́рчыковы нальле́ і ло́жкою ла́мкае* [*экспр.* есць] *кру́пнік.* Ол. Параўн. *гарнушок, горпэня.*

ГУСА′К *м.* Здз. Тое, што і *гарнец* 2.

ГЭ′НСЁР *м.* Ад., гэ́нсор Лк., гэ́ндзюр М., гэ́нцюр Зб. Вялікая аплеценая бутэлька для гарэлкі, газы; у г. бралі ваду ў поле. *То ўжэ як гэ́нцюр, то відомо, шо оплецёный.* Зб. Параўн. *бутэль, гарнец, гусак.*

ДЗЕЖА′ *ж.* Зс. Гц., дыжа́ Здз., дыжэ́ Ол. Сп. Вл. Лх. Зр. Драўляная пасудзіна з клёпак, у якой рашчынялі і мясілі хлеб (хлёбна дзежа́), салілі сала і мяса. *Ля ква́су з дубо́вых клэ́пок робы́лы дыжу́.* Лх. Параўн. *лагвіца.*

ДЗЕ′ЖКА *ж.* Дзк., Хв. Др., Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Кч., дзі́жка Рдз. Зб. Лк. Мк. Св. ВЛ. Лх. Зр. Здз. Ад. Гл. Бр. Зс. Кн. Дзн. Дл. Тое, што і *дзежа. Як сам нэ мо́жэ зробы́ты дзішку, то купля́е.* Мк. *Як дзішка нэспосо́бна на хліп, тоды́ на са́ло.* Св.

ДЗЕ′ЖЭЧКА *ж.* Дзк. Бл., дзі́жочка Бр., дэ́жычка Кч. Гц. Невялікая дзежка, у якой рашчынялі аладкі, складвалі сыр, масла. *Дзе́жэчка с крушко́м для сы́ру оддзе́льно.* Дзк. Параўн. *кваска.*

ДЗІШУЯ′ *ж.* Кн. Дзежка, у якой рабілі квас.

ДЗІ′ШЧЫНА ж. Рдз. Ол. Тое, што і *дзежа.*

ДОЁ′НКА *ж.* Др. Гл. Кк. Бл. Гц. Кн. Дзн. Дл. Спецыяльнае драўлянае вядро з доўгай ручкай, у якое даілі кароў. *Доёнка дзерэв'я́ная була́ с клёпок, одна́ клёпчына*

*доўжэйша, і с пýплікоm дзерэв'яным, штоп молокó лілóся.* Кн. Доёночка Бр. Зм. Зс. Кч.

ДОЙНІ'ЦА *ж.* Дзк., дойны́ца Здз., дойны́ця ВЛ. Лх., дуйны́ця Рдз. Зб. Ол. Мк. Св. Тое, што і *доёнка. Булá кóлысь дуйны́ця дэрэвля́на, а тэпэ́р выдрó.* Зб. Дойны́чка Лк. Ад.

ДОЎБА'НКА *ж.* Кн. Выдзеўбаная з дрэва ці наросту на дрэве сальніца. Параўн. *сольніца.*

ЖЛУ'КТО *н.* Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Св. Здз. Ад. Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл. Зс. Кч. Гц. Кн. Дл. Пасудзіна ў выглядзе вузкай бочкі ці кадаўба для адзольвання бялізны. *Жлýкто рóбяць з осіны, плáцьця золіць.* Бл. *Пáрылы ў жлýкці одэ́жу свогó вы́робу.* Зб.

ЖУРАВЭ'ЛЬ *м.* Ад. Драўляная пасудзіна з доўгай шыйкай для гарэлкі, у ж. бралі таксама ваду на поле ў час жніва, на сенажаць. *Бáцько купы́ў на косовы́цю журавэ́ль.*

ЗБАН *м.* Ол. Ад. Хв., дзбан Ол. Гліняная пасудзіна з шырокім горлам і вухам (для малака і інш.). *У збанá е сэ́сочка* [носік]. Ол.

ЗБАНО'К *м.* Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Св. ВЛ. Здз. Ад. Дзк. Хв., дзбанóк Сп. Тое, што і *збан. Горшчары́ вóзяць, а мы купля́емо ў іх тыі збанкы́.* Рдз.

ЗЛІ'ВАК м. Ол. Маленькі гаршчок з ручкай, у якім захоўвалі малако, а таксама варылі ежу на некалькі чалавек. Злівачок Ол., злы́вны чок Ад. Параўн. *слой.*

ЗРЭЗ *м.* Бл. Расшыраная ўверсе бочка для засолу агуркоў і інш. Зрэ́зік. *Е ў мене́ зрэ́зік на гуркі́.* Параўн. *розрэз.*

КА'ДОЎБ *м.* Здз. Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл., кáдоб Здз., кáйдоб Ад., кáйдуб Св. ВЛ. Лх. Зр., кáлдоб Мк. Выдзеўбаная з калоды бочка для ссыпання збожжа; у спецыяльных к. часам складвалі палатно. *У кáдоўп сы́палі якý пашню́.* Др. *Прóсцілок наклáла цэ́лы кадоўп.* Зм. Кадóўбчык Хв., кады́бчык Ад., кадýбчык Бр., кайдýбчык Св. ВЛ. Лх. Зр., калдýбчык Ар., кадоўбéц Дзк. Гл., кайдобэ́ць Ад., калдобэ́ць Мк., калдýбэць Рдз., кáлдубэць Зб. Мк. *Колы́сь спэція́льно для сóлі выдóўбувалы кáлдубці.* Мк. Параўн. *бочка, ліпоўка, лоток, сыпанка.*

КАДУ'ШКА *ж.* 1. Невялікіх памераў бочка з накрыўкай ці выдзеўбаная з дрэва невялікая пасудзіна (ка-

доўб), якая служыла для ссыпання проса, грэчкі, захавання солі; у шчыльна заднёную к. злівалі мёд,ператопленае сала. Св. Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл. *У нас однá кадýшка с сóлью стоя́ла, а другáя с сéм'ем.* Бл. Параўн. *лагва.* 2. Маленькая цыліндрычная каробачка, зробленая з бярозавай ці вішнёвай кары (змацаваная «ў замок») з накрыўкай; у к. насыпалі соль ці накладвалі масла, калі ехалі на сенажаць, у дарогу. Ад. Параўн. *коробочка.*

КАЗА'Н *м.* Зм. Бл. Вялікі чыгун.

КВА'РТА *ж.* Рдз. Ол. Лк. Св. Здз. Ад. Бд. Зс. Кн. Дзн. Дл. 1. Бляшаны ці медны кубак (агульная назва). Рдз. Св. Здз. Ад. Зс. Кн. Дзн. *А дай но мэні квáрту воды́.* Рдз. Параўн. *кубок.* 2. Літровая бутэлька, літровы кубак. Ол. Лк. Бр. Рдз.

КВА'СКА *ж.* Зб. ВЛ. Дзк. Др. Гл. Сд. Зм. Кк. Бл. Бочка невялікіх памераў (звужаная ўверсе), у якой рашчынялі квас, часам салілі сала. *Мы ў квáску складáем сыр на зіму.* Сд. *Квáску дэржáлы для шпы́ркы* [сала]. Зб. К в á с о ч к а Лк. Лх. Зр. Сп. Ад. Гл. Бр. Параўн. *дзежэчка, квашчынка, перэрэз.*

КВАСНЫ'ЦЯ *ж.* Св. Лх. Вялікая бочка, у якой квасілі капусту, салілі агуркі. *У квасны́ці капýста квáсыцьця.* Лх.

КВА'ШЧЫНКА *ж.* Мк. Невялікая бочка для засолу агуркоў. *Квáшчынка кружкóм накрывáецца.* Параўн. *кваска.*

КЕЛІ'ШОК *м.* Лк., к é л і ш о к Ол. Мк., к л í ш о к Здз. Чарка для піцця гарэлкі. *Колы́сь кéлішкы булы́ на лáпках.* Мк.

КОБАКЕ'РКА *ж.* Гл. Тое, што і *тобакерка.*

КОЖБА'РЧЫК *м.* Бр. Бляшанка для жывіцы (замацоўваецца на сасне пры падсочцы).

КО'РОБ *м.* Здз. Дзк. 1. Сплеценая з лазы і саломы каробка для сяўбы ўручную. Здз. Параўн. *севак.* 2. Сплеценая з ліпавай кары пасудзіна вялікіх памераў для ссыпання збожжа. Дзк. *Кóроп робілі з ліповай коры́, на зярнó, пудóў на двáццаць.* Дзк. Параўн. *кузуб.*

КОРО'БКА *ж.* Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Св. Здз. Сп. Ад. Дзк. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл. Зс. Кн. Дзн. Дл. 1. Пасудзіна вялікіх памераў, сплеценая з саломы і лазы, для ссыпання збожжа. Ол. Лк. Мк. Параўн. *кузуб.* 2. Шырокая пасудзіна сярэдніх памераў, сплеценая з саломы і

лазы, для захавання мукі, круп і іншых рэчываў; яна ж служыла для вымярэння. Рдз. Здз. Сп. Ад. *Шэ й допіру коро́бка ў мэнэ́ е.* Рдз. Параўн. *стужка.* 3. Шырокая пасудзіна, сплеценая з саломы (і лазы) або з лубу, для сяўбы ўручную. Зб. Мк. Св. Др. Гл. Бр. Зм. Зс. Кч. Гц. Кн. Дзн. *З ліпу ўгіна́лі коро́пкі і се́ялі.* Зм. Параўн. *севак.* 4. Выгнуты або сплецены з кары кошык для збірання грыбоў, ягад. Мк. Дзк. Др. Гл. Кк. Бл. Зс. Кн. Дл. *Як іду́ по грыбы́, то коро́бку прынэсу́.* Мк. Параўн. *вэрэня, вэрэнька.* 5. Спецыяльная, шчыльна сшытая з ліпавай кары пасудзіна для збору мёду. Гл. Сд. Зм. *Здзерэ́ ліпіну, да зогне́ её да опшы́е поло́сіной — от і коро́пка на мед.* Зм. Параўн. *лазбень.*

КОРОБО'К *м.* Бр. Зм. Тое, што і *коробка* 5.

КОРО'БОЧКА *ж.* Лк. Лх. Ад. Дзк. Гл. Кк. Зс. 1. Тое, што і *коробка.* 3. Лк. Лх. Ад. Параўн. *севак.* 2. Зробленая з кары ёмкасць невялікіх памераў рознай формы і прызначэння (агульная назва). Дзк. Гл. Кк. Зс. Параўн. *берэсцянка, берэсцяноўка, кадушка, кобакерка, прытабашніца, солянка, тобакерка, тобацірка, яшчык.*

КОРОБЭ'Й *м.* Здз. Сп. Высокая каробка, сплеценая з саломы і лазы, для ссыпання збожжа. Параўн. *кузуб.*

КОРОБЭ'ЦЬ *м.* Рдз. Каробка з бяросты для сяўбы ўручную. Параўн. *севак.*

КОРОБ'Я' *ж.* Дзк. Хв. Зробленая з ліпавай кары каробка, у якой бралі харч у поле. *Короб'я́ для харчо́ўкі, на ніву хлеп, са́ло беро́м.* Дзк. Параўн. *вэрэня.*

КОРЫ'ТО *н.* Рдз. Ол. Ад. Дзк. Бр. Зм. Кк. Зс. Кч. Гц. Кн. Дзн. Дл., к о р э́ т о Св. Выдзеўбаная з дрэва або збітая з дошак пасудзіна, з якой даюць есці свінням, пояць жывёлу. *Во́ду налыва́емо ў коры́то і п'е скоты́на.* Рдз.

КОРЭ'Ц *м.* Ад. Дзк. Хв. Гл. Зм. Кч. Кн. Дзн. Дл., к о р э́ ц ь Др. Гл. Бр. Кк. Бл. Гц. Пасудзіна, пераважна з доўгай ручкай, для піцця вады (скручаная з кары, выразаная з кораня, медная, гліняная ці інш.). *Булі корці з дзе́рэва, з ко́рэня, а найбу́льш ме́дные.* Бр. Параўн. *кубок, берэсціна.*

КО'РЭЦЬ *м.* Лх. Зробленая з клёпак пасудзіна для вымярэння сыпкіх рэчываў (збожжа і інш.) ёмістасцю 1,5 пуда. Параўн. *чвертка.*

КОЎГА'НКА *ж.* Гц. Дзн. Выразаны з дрэва коўшык у выглядзе міскі з ручкай (чэрпаць ваду, наліваць стра-

ву; звычайна на сенажаці, у лесе, у полі). Параўн. *коўш.*

КОЎШ *м.* Дзк. Хв. Др. Бр. Кк. Выразаная з наросту на дрэве пасудзіна ў выглядзе міскі з кароткай ручкай (піць ваду, наліваць страву на полі, на сенажаці, у лесе і інш.). *Коўш намёсто міскі, што набра́ць, з ўяпы* [наросту] *коўша робілі.* Бр. Параўн. *ваганок, коўганка, коўшык.*

КО'ЎШЫК *м.* Дзк. Зс. Кч. Тое, што і *коўш. Ко́ўшык з я́пы, на ніву бра́лі с собо́ю, наліва́лі ды е́лі.* Дзк.

КОЦЕЛО'К *м.* Хв. Высокая цыліндрычная пабеленая пасудзіна з ручкай, у якой вараць ежу.

КОЦЁ'Л *м.* Ад., к о ц е́ л Зс. Кч. Гц. Вялікая металічная пасудзіна, якая падвешвалася над агнём для прыгатавання стравы.

КОЦЁ'ЛОЧКА *ж.* Дзк. Тое, што і *коцелок.*

КОШ *м.* Здз. Ад. Др. Гл. Дзн. Сплецены з лазы або маладых карэнняў кошык для бульбы, ягад і інш. *Коши́ плэлы́са з молодо́го коры́ньня.* Ад. Параўн. *кошык, кошылка, кошэль.*

КОШУ'ЛКА *ж.* Здз. Сплеценая з кары каробка з накрыўкай, у якой бралі харч у поле, на сенажаць, у дарогу. Параўн. *вэрэня.*

КО'ШЫК *м.* Зб. Ол. Мк. Зм. Кч. Тое, што і *кош.*

КОШЫ'ЛКА *ж.* Св. Тое, што і *кош.*

КОШЭ'ЛІК *м.*, н а в ы ш ч а́ т ы й к о ш э л і к Зб. Лазовы кошык з накрыўкай, у якім давалі пастухам абед у поле. Параўн. *вэрэня.*

КОШЭ'ЛЬ *м.* Бр. Зм. Кк. Бл., к о ш ы́ л ь Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Зс. Гц. 1. Каробка, сплеценая з кары, для сяўбы ўручную. Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Зс. Гц. *Кошэлі з коры́ньня хвоіны; то са́мы плыту́ць, роздыра́юць і плыту́ць; с кошыле́ сіюць.* Ол. 2. Каробка для ягад, сплеценая з кары і дубцоў. Зб. Ол. Лк. Мк. Гц. Параўн. *вэрэнька, вэрэня.* 3. Сплецены з лазы кошык для бульбы і інш. Бр. Зм. Кк. Бл. Параўн. *кош.*

Адрозніваліся «ба́бскый» і «мужы́цькый» кашалі: ба́бскый кошы́ль на вяровачцы падвешваўся праз плечы на спіну; мужы́цькый кошы́ль большых памераў з берасцянай «накры́вочкой», вісеў на почапцы праз плячо. Лк.

КРУ'ЖКА *ж.* Рдз. Гл. Бл. Кч. Металічны або фаянсавы кубак. Параўн. *кубок.*

КРУЧО'К *м.* Рдз. Зб. Ол. Мк. Здз. Ад. Бутэлечка ёмістасцю 100 г. *Кýпыць олíі кручóк і хватáе на вэсь пыст.* Зб.

КУБА'НЯК *м.* Сп. Сплеценая з лазы каробка.

КУ'БЕЛ *м.* Дзк. Хв. Др. Гл. Зм. Кк. Бл. Гц. Кн. Дзн. Дл., к ý б ё л Хв., к ý б э л Здз. Сп. Зробленая з клёпак або выдзеўбаная з дрэва пасудзіна, звычайна звужаная ўверсе, з накрыўкай (якая прыціскалася пры дапамозе спецыяльнага кійка, прасунутага праз вушы); адрозніваліся «чыстыя», або «адзежныя», у якія складвалі палатно, адзежу, і к., у якіх салілі мяса, сала, часам трымалі муку і інш. *Прýсцілок наложыла пóўны кýбел.* Гл. Параўн. *бодня, лагвіца.*

КУ'БЛІК *м.* Дзк. Хв. Др. Гл. Зм. Гц. Невялікіх памераў кубел для мяса, сала; часам у к. салілі агуркі. *У кýбліку сáло солілі, зімóю гуркі ў кýблічках дзержáлі.* Гл. К ý б л і ч о к Бл. Кн. Гл. Ол. Параўн. *лагвіца.*

КУ'БОК *м.* Зб. Ол. Лк. Мк. Св. Здз. Сп. Ад. Зс. Гц. Металічная ці фаянсавая пасудзіна з ручкай для піцця вады, кубак. Параўн. *кварта, корэц, кружка, кухоль.*

КУБЭ'ЛЕЦЬ *м.* Здз. Сп. Тое, што і *кублік.*

КУЗЕ'НЬКА *ж.* Дзк. Хв. Бр. Бл. Кч. Сшытая з аднаго або некалькіх кавалкаў бяросты каробачка для ягад. *Кузéньку зрóбіш, то воды́ наберэ́ш, як немá посýды; кузéнька з бэ́рэсту, на ягоды.* Бр. Параўн. *берэсцянка, коробочка, кузёмка, набірачык, набірок, набірушка, яшчык.*

КУЗЁ'МКА *ж.* Ад. Сплеценая з лыка пасудзіна для ягад. Параўн. *кузенька.*

КУ'ЗОРЭБ *м.* Хв. Чарпачок, скручаны з бяросты, прымацаванай да кіёчка, з якога п'юць ваду ў лесе, на сенажаці. *Кýзорэб з берóсты рóбяць, на ніве водý піць.* Параўн. *берэсціна.*

КУ'ЗУБ *м.* Зб. Лк. Мк. Св. ВЛ. Лх. Зр. Пасудзіна вялікіх памераў (да 1,5—2 м вышыні і 1—1,5 м шырыні), сплеценая з саломы і лазы ў форме збанка, з накрыўкай (в і к о м), для ссыпання збожжа. Параўн. *короб, коробочка, лар, соломнянык, сыпанка.*

КУ'ХОЛЬ *ж.* Ол. Кубак. *Тэпэ́р кáжуць крýшка, а рáньчэ кýхоль.* К ý х л і ч о к Кч. Параўн. *кубок.*

КУШЫ'Н *м.* Ол. Лк. Дзк. Бл. Кч. Кн. Дзн. Дл. Гліняная пасудзіна з ручкай для малака, збанок.

ЛАГА'НЧЫК *м.* Гл. Гліняная паліваная пасудзіна

невялікіх памераў у форме кубка з ручкай для смятаны. Параўн. *слой.*

ЛА'ГВА *ж.* Лк. Высокая бочка з накрыўкай, у якой трымаюць муку, крупы і інш. Л á г в о ч к а. Параўн. *кадушка.*

ЛА'ГВІЦА *ж.* Зб. Св. Невялікая бочка з накрыўкай для сала. *Лáгвіца с крышкою, коб сáло кóцікы нэ зьзілы.* Зб. Параўн. *дзежа, дзежка, дзішчына, кубел, кублік, кубэлець, лаговочка, лагуўка, лагуцька.*

ЛА'ГОВОЧКА *ж.* Ол. Тое, што і *лагва.*

ЛАГУ'Н *м.* Дзк. Хв. Роўная бочка невялікіх памераў, заднёная з двух бакоў, з адтулінай у дне, якая закрываецца драўлянай затычкай (для захавання льнянога або канаплянага семя). Л а г ý н ч ы к. *Лагýнчык з клёпок рóбіцца, штоп сéм'е насéнное мýшы не éлі.* Дзк.

ЛА'ГУЎКА *ж.* Мк. Тое, што і *лагвіца. Зáраз е мныго тых лáгувок.*

ЛА'ГУЦЬКА *ж.* Св. Тое, што і *лагвіца.*

ЛА'ЗБЕНЬ *м.* Др. Бл., л а з б é н ь Дзк. Хв. Бр. Кк. Каробка з ліпавай кары для мёду. *Лазбéнь — на мед такá корóбка, з луткá на вуглы́ рóбяць з вéчком.* Бр. Параўн. *коробка, коробок, лазубэнь, ліпоўка, ліпочка, лубянка.*

ЛА'ЗУБЭНЬ *м.* Зб. Тое, што і *лазбень. А шчэ колы́сь мэд дэржалы ў лáзубнэвы.*

ЛАР *м.* Рдз. Ол. Сплеценая з саломы каробка ці скрынка вялікіх памераў для ссыпання збожжа. *Лар — збіж трымáты, овэ́с, прóсо, горóх, сімня с конопэ́ль.* Ол. Параўн. *кузуб.*

ЛІ'ПОЎКА *ж.* Дзк. Сд. Зм. Кк. Бл. Выдзеўбаная з ліпы пасудзіна для мёду, launched пeратопленага нутранога тлушчу; у л. большых памераў ссыпалі збожжа. *Ліпоўка як малéнькі кáдоўб, чысто робілі, на мёд.* Сд. Л і п о в о ч к а. Гл. Параўн. *лазбень, кадоўб.*

ЛІ'ПОЧКА *ж.* Гл. Невялікая каробка для мёду, зробленая з ліпавай кары. Параўн. *лазбень.*

ЛО'ЖКА *ж.* Рдз. Ад. Дзк. Хв. Зм. Кк. Бл. Зс. Гц. Драўляная, металічная лыжка. *Тыі лóшкі выдóўбувалы з дэ́рэва.* Рдз. В е л і к а я л о ж к а. Хв. Тое, што і *ополоньік.*

ЛОТО'К *м.* Рдз. Зб., л у т ý к, л у т ы́ к Лк. Вялікая бочка або *кадаўб* для ссыпання збожжа. Л о т ó ч о к Рдз. Зб. *Лоточкы́ на жыто бэрэглы́, так мэ́трoў з дэ́сяць ўвіидэ ў той лотóк.* Зб. Параўн. *кадоўб.*

ЛОХА'НКА *ж.* Дш. Невялікая драўляная пасудзіна.

ЛУБЯ'НКА *ж.* Гл. Невялікая каробачка з кары ліпы для нутранога тлушчу і інш. Параўн. *лазбень.*

МАКОВЭ'РТ *м.* Рдз. Ол. Лк. Качалка для расціранне маку, куцці і інш.; *м.* большых памераў таўкуць бульбу. *Маковэ́рт — ўсё мнéты, колотэ́ты.* Ол.

МАКО'ТРА *ж.* Лх. Зр. Ад., м а к у́ т р а Сп. Кн., м а к ы́ т р а Лх., м а к і т р а Св. Ад. Невялікая гліняная пасудзіна з высокімі сценкамі; у м. захоўвалі смятану, масла, складвалі аладкі, галушкі, білі масла. *Макы́тра вы́шша, а вэ́рцега ны́шша.* Лх. Параўн. *макоцёр.*

МАКОЦЁ'Р *м.* Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Сд. Зм. Кк. Бл. Тое, што і *макотра. У макотры́ мáсло б'юць, сметáну складáюць,ператóп.* Хв. М а к ó т р ы к Зс. Кч. Дн.

МАСЛОБО'ЙКА *ж.* Гл. Бойка для збівання масла. Параўн. *біянка.*

МЕША'ЛКА *ж.* Бр. Бл. Дн. Дл. 1. Вялікая драўляная лыжка, якой мяшалі страву і разлівалі яе ў міскі. Бр. Дн. Дл. *Тэй мешáлкой налывáлы ў мыску.* Бр. Параўн. *ополоньк.* 2. Драўляная лапатка, якой рашчынялі хлеб у дзежцы. Бл.

МІ'СА *ж.* Бр. Бл. Кч. Гліняная або металічная глыбокая пасудзіна, у якую налівалі страву; у м. пяклі яешню, цёрлі мак і інш.

МІ'СКА *ж.* Дзк. Хв. Гл. Бр. Зс. Кч. Гц. Кн. Дн. Дл., м ы с к а Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Св. Здз. Сп. Ад. Выдзеўбаная з наросту на дрэве гліняная або металічная пасудзіна для ежы. *Міскі чэрэпля́ные з гліны рóбяць.* Бр. М і с о ч к а Дзк.

МЫРНЯ'К *м.* Мк. Вялікі гліняны гаршчок, у якім варылі ежу. *Як сэмня́ вэлы́ка, то дóброго мырнякá трэ́ба постáвыты.* Параўн. *горшчок.*

НАБІРА'ЧЫК *м.* Мк. Каробачка з бяросты для ягад. *Пастýх вы́плытэ за дэнь собі такóго набірáчыка й хóдыць з ім по я́годы.* Параўн. *кузенька.*

НАБІ'РОК *м.* Др. Гл. Бр. Кк. Пасудзіна з почапкай (вядзерца, кошык, каробачка з кары і інш.), у якую збіраюць ягады. *Ведзёрко з сосны́ плетóм, набірок на я́гуды.* Бр. Н а б і р о ч о к Бр. Параўн. *кузенька, поілка.*

НАБІ'РУШКА *ж.* Ад. Тое, што і *набірок.*

НА'ВІСКА *ж.* Св., н á в ы с к а Мк. Сплецены з лазы або лыка кошык з накрыўкай (падвешваўся на «в у́ с е л к а х» (почапках) за спіной); у н. клалі харч у дарогу,

на сенажаць і інш. *Колысь плэлы́ на́выскы на хліб пастуховы.* Мк. Параўн. *вэрэня.*

НО′ЧАЎ *ж.* Кк. Вялікія начоўкі. Параўн. *ночвы.*

НО′ЧВЫ *толькі мн.* Рдз. Здз. Сп. Ад. Дзк. Гл. Бр. Зм. Кк. Бл. Выдзеўбанае з дрэва карыта (агульная назва); у вялікіх н. мылі бялізну, у меншых апалалі проса, куццю, рашчынялі бліны і інш. *У но́чвах бел′ё сьціра́юць, помы́цца мо́жно.* Дзк. Параўн. *ночаў, ночоўкі.*

НОЧО′ВОЧКІ *толькі мн.* Дзк. Гл., н о ч о в о ч к ы́ Лк. Невялікія начоўкі, у якіх апалалі куццю, проса і інш. Параўн. *опалушкі.*

НОЧО′ЎКІ *толькі мн.* Св. Зм. Зс. Кч. Гц. Кн. Дн. Дл., н о ч о ў к е́ Ол. Ад., н о ч о́ ў к ы Мк., н о ч о ў к ы́ Рдз. Зб. Ол. Тое, што і *ночвы. У мэ́нэ за́ра е на горы́ вэлы́куі ночоўкы́; пэклы́ ра́ньча бу́лкы, рошчынее по́ўны ночоўке́.* Ол. *Одэ́жу пэрэ́мо ў ночоўка́х.* Зб.

ОПА′ЛКІ *толькі мн.* Ад. Тое, што і *опалушкі.* О п а́ л а ч к і.

ОПА′ЛУШКІ *толькі мн.* Здз. Сп., у п а́ л у ш к ы Мк. Невялікія начоўкі, у якіх апалалі куццю, проса і інш. Параўн. *ночовочкі, опалкі, палушкі, палошэчка.*

ОПЛЕТА′НКА *ж.* Дзк. Аплецены лазой буталь. Параўн. *бутэль.*

ОПОЛО′НЫК *м.* Рдз. Здз. Лк. Ад., о п о л о́ н э к Ол., у п о л о́ н ы к Мк. Вялікая драўляная лыжка, якой мяшаюць у гаршку і разліваюць страву. *Набыра́е упуло́ныком з чугуна́ і льле́.* Мк. Параўн. *вароха, мешалка, повароха, полоныk, трэпачка.*

ОСЬМІ′НА, г о с ь м і́ н а *ж.* Ад. Драўляная (з клёпак) пасудзіна для вымярэння збожжа ёмістасцю 2 пуды.

ПА′ЛОШЭЧКА *ж.* Лк. Тое, што *опалушкі.*

ПА′ЛУШКІ *толькі мн.* Сп., п а́ л у ш к е Св. Тое, што і *опалушкі.*

ПАТЭ′ЛЬНЯ *ж.* Ад., п э т э́ л ь н я Зб. Ол. Мк., п ы т э́ л ь н я Св. Здз. Сп. Гліняная або металічная пасудзіна з нізкімі сценкамі, у якой смажаць сала і інш. *У пэтэ́льні джа́рым са́ло.* Зб.

ПЕРЭ′РЭЗ *м.* Кк. Бл. Бочка сярэдніх памераў, звужаная ўверсе, для квасу, засолу гуркоў і інш. *Пере́рэз невелікі, шыро́кі знізу, на гуркі, квас ро́бяць на ле́то.* Бл. Параўн. *кваска.*

ПІНЧУ′К *м.* Кч. Высокі чыгун, пабелены знутры, з адной ручкай. Параўн. *стоўбун, стоўпун.*

ПІРО'ЖЫКІ *толькі мн.* (?) Кн. Пасудзіна, у якой пяклі пірагі.

ПЛЕЦЮ'НКА *ж.* Рдз. Кошык з лазы, спецыяльна сплецены для шклянога бутля. *Дай-но бу́тля ў плецю́нцы.*

ПЛЯ'ШКА *ж.* Здз. Дзк. Зс. Кч. Гц. Дн. Дл., п л ё ш к а Лх. Зр. Ад. Шкляная ці гліняная пасудзіна, у якой захоўвалі алей і іншыя вадкія рэчывы (агульная назва). *Голію трыма́лы ў пляшка́х.* Лх. П л ё ш э ч к а Ад. Параўн. *бляшка, бутылка, бутэлька, пяцерык.*

ПОВАРО'ХА *ж.* Ол. Тое, што і *вароха.*

ПОІ'ЛКА *ж.* Рдз. Невялікае вядзерца, з якога пояць малых цялят; у п. таксама збіраюць ягады. *Набра́ла дві поілкы і вісім бра́чок.* Параўн. *набірок.*

ПОЛА'КЛІ *толькі мн.* Кн. Тарка для бульбы. *Пола́клямі цёрлі бліны́.*

ПОЛІ'ТА *ж.* Ол. Гліняны паліваны гаршчок для масла. *Полі́та — гла́дэнька, блыску́ча така́я.* Параўн. *слой.*

ПОЛОМЫ'СОК *м.* Здз. Міска невялікіх памераў.

ПОЛО'НЫК *м.* Ол. Св. Тое, што і *ополонык. Поло́нык вэлы́кі, до́брэ мэшёты ім.* Св.

ПО'РЦЫЯ *ж.* Ол. Здз. Ад., п о́ р ц і я Рдз. Мк. Невялікая шклянка, з якой пілі гарэлку, віно; чарка. *По́рціі тэпэ́р чарка́мы называ́юць.* Рдз. П о́ р ц ы й к а Ол. Лк. Ад. Параўн. *чарка.*

ПО'СТАВЭЦЬ *м.* Ол. Ражка, у якой замешвалі корм для свінней.

ПОЎБУТЫ'ЛОК *м.* Лк. Мк. Здз., п о ў б у т э́ л о к Ад. Чацвяртушка, бутэлька ёмістасцю 1/4 л.

ПОЎБУТЭ'ЛЬКА *ж.* Рдз. Тое, што і *поўбутылок.*

ПОЎОСМІ'ННІК, п о ў г о с м і́ н н і к *м.* Ад. Драўляная (з клёпак) пасудзіна для вымярэння збожжа ёмістасцю 1 пуд.

ПОЎЧВЕ'РТКА *ж.* Кн. Дн. Дл. Бутэлечка ёмістасцю 1/8 л.

ПРЫТАБА'ШНІЦА *ж.* Ол. Каробачка з бяросты для нюхальнага тытуню. *У прытаба́шніцы з бэ́рэсту трыма́лі тоба́к, той шо ню́хаты.* Параўн. *коробочка.*

ПУ'ШКА *ж.* Ар. Ол. Св. Гліняны збанок з вузкай шыйкай і ручкай для вады (бралі ў поле, на сенажаць і інш.). *Пу́шка з ухо́м, то во́ду ў нас носэ́лы.* Ол. *Пушка— то мак сэ́пляць тудэ́, яг збэру́ць.* Ар. Параўн. *глёк.*

ПЯЦЕРЫ'К *м.* Кч., п а ц е р ы́ к Зс. Вялікая бутэлька для захавання газы. Параўн. *пляшка.*

РА́ЖКА *ж.* Здз. Сп. Дзк. Хв. Др. Гл. Бр. Зм. Кк. Бл. Зс. Кн. Дн. Дл., рэ́жка Св. Лх. Зр. Ад., ря́жка Рдз. Зб. Драўляная (з клёпак) нізкая пасудзіна з адной ручкай, у якой замешвалі свінням есці, куды злівалі памыі і інш. *Ря́шка для свынэ́й, а цэ́брык для чого́ ліпшого.* Зб. Рэ́жэчка Ол., ря́жэчка Лк.

РАЛ *м.* Рдз. Тое, што і *лар.*

РОЗРЭ́З *м.* Др. Бр. Шырэйшая ўверсе бочка для засолу агуркоў, капусты. Параўн. *зрэз.*

РО́НДЭЛЬ *м.* Ол. Мк. Ад. Металічная эмаліраваная пасудзіна з доўгай ручкай для прыгатавання стравы. Рондэ́лек Ад., рондэ́лёк Ол., ро́ндлік Кк.

РУ́МОЧКА *ж.* Кн. Гліняная чарачка для піцця гарэлкі ёмістасцю 10 г. Параўн. *чарка.*

РЭ́ГОТЫ *толькі мн.* Рдз. Драўляная пасудзіна ў выглядзе карыта, у якой мялі сукно. *Колы́сь мня́лы ў рэ́готах су́кна.*

РЭ́ШЭТО *н.* Зб. Мк. Здз. Ад. Зс. Кн. Дн. Дл., рэшэто́ Рдз. Лк. Вялікае сіта для ачысткі збожжа. *Жы́то пуччыня́еш на рэшэто́ві, а бруд скіда́еш.* Рдз.

САГА́Н *м.* Лк. Св. Здз. Сп. Ад. Высокі чыгун з ручкамі, у якім варылі свінням. *Булы́ саганы́ стоўпа́ты, побілё́ны.* Ад. Сага́нчык Св. Ад.

СЕВА́К *м.* Кч., сыва́к Св. Зробленая з лубу каробка для сяўбы ўручную. *З лы́пы обдзе́лае, шоб буў лёхкі сыва́к, і вэро́ўку прыв'я́жэ.* Св. Параўн. *варынка, короб, коробка, коробочка, коробэць, кошэль, севанка, севок, сеўбок, сіўныця, сіянка, сэвэнька, сэўнык.*

СЕ́ВАНКА *ж.* Зс. Тое, што і *севак.*

СЕВО́К *м.* Дзк. Хв. Кч. Сплеценая з саломы або кары каробка для сяўбы ўручную. Параўн. *севак.*

СЕЎБО́К *м.* Дзк. Тое, што і *севак.*

СІ́ТО *н.* Кч. Кн. Дн. Дл., сы́то Рдз. Зб. Ол. Лк. Мк. Здз. Ад. Начынне для прасявання мукі. *Сы́то цількы муку́ сіяты.* Мк.

СІЎНЫ́ЦЯ *ж.* Ол. Тое, што і *севак.*

СІ́ЯНКА *ж.* Гц. Тое, што і *севак.*

СКОВОРОДА́ *ж.* Дзк. Гл. Бр. Бл. Зс. Гц. Кн. Дн. Дл., скоўорода́ Кч. Скаварада.

СКОРОВОДА́ *ж.* Кк. Тое, што і *сковорода.*

СЛОЙ *м.* Ол. Гл. Сд. Кк. Кн. Дл. Гліняная палівая пасудзіна цыліндрычнай формы з накрыўкай або шкляная пасудзіна такой жа формы для захавання ма-

сла, ператопленага тлушчу і інш. *Буў слой літроў на п'яць, політы, с крўшочкой; коўбáсы залівáюць на лéто жыром.* Кк. Параўн. *злівак, лаганчык, політа.*

СЛО'ІК *м.* Рдз. Ол. Лк. Мк. Здз. Ад. Хв. Зс. Кч. Гц., слóнік Зб. Шкляная цыліндрычная пасудзіна для розных патрэб.

СОЛНЫ'ЦЯ *ж.* Ол. Св. Лх. 1. Каробачка для захавання солі, зробленая з дошчачак, выдзеўбаная з наросту на дрэве (чэчóты) або сшытая з кары. Ол. Св. *Солныцы з бэ́рэсту робы́лы, на сіль.* Ол. Параўн. *сольніца.* 2. Драўляная (з клёпак) пасудзіна для нутранога тлушчу. Лх. Параўн. *кадушка, лагвіца.*

СОЛОМНЯ'НЫК *м.* Мк. Вялікая пасудзіна для збожжа, сплеценая з саломы і дубцоў. *Соломня́ныкы выплетáлы на пудóў дэ́сяць.* Параўн. *кузуб.*

СОЛЬНІ'ЦА *ж.* Гц. Невялікая пасудзіна для солі, выразаная з дрэва або зробленая з гліны. Сольні́чка Зс. Кч. Параўн. *бочэчка, доўбанка, солныця, солянка, чабарка.*

СОЛЯ'НКА *ж.* Зб. Лк. Здз. Сп. Зм. Зс., солéнка Ад. 1. Тое, што і *сольніца.* 2. Каробачка з бяросты, у якой бралі ў поле, на сенажаць масла, сыр і інш. Зс. *Соля́нка з вéчком на сыр.* Параўн. *коробочка.*

СО'ТКА *ж.* Кч. Кн. Дн. Дл. Маленькая бутэлечка ёмістасцю менш за чвэрць літра.

СТОЎБУ'Н *м.* Сд. Зм. Кк. Высокі чыгун з адным вухам. Параўн. *пінчук.*

СТОЎПУ'Н *м.* Гл. Тое, што і *стоўбун.*

СТУ'ЖКА *ж.* Рдз. Сплеценая з саломы пасудзіна для мукі. *Тэпэ́р стушóк нэ рóбляць.* Стýжэчка. Параўн. *коробка.*

СТУ'ПА *ж.* Рдз. Зб. Ол. Лк. Лх. Ад. Дзк. Зм. Зс. Кч. Гц. Кн. Дн. Дл. Выдзеўбаная з дрэва пасудзіна для апрацоўкі проса, ячменю на крупы. *Е' ў нас ножня́я і ручня́я стýпа.* Рдз.

СТУ'ПКА *ж.* Здз. Кк. Невялікая пасудзіна, выразаная ці вытачаная з дрэва; у с. таўклі перац, соль і інш.

СУДЗІ'НКА *ж.* Дзк. Пасудзіна невялікіх памераў (агульная назва).

СЦЯГО'ЛКА *ж.* Рдз. Ол., сцягóўка Лк. Мк. Бочка розных памераў для засолу агуркоў, капусты; у спецыяльныя с. ссыпалі збожжа. *Сцягóлку нары́жэш, то хвáтыць на зэ́му.* Ол. Параўн. *варэмныця.*

СЫ́ПАНКА *ж.* Рдз. Лк., с ы п а́ н к а Лх. 1. Вялікая каробка для збожжа, сплеценая з саломы і дубцоў. Рдз. Лк. 2. Бочка вялікіх памераў для ссыпання збожжа. Лх. Параўн. *кузуб, кадоўб.*

СЭВЭ́НЬКА *ж.* Ол. Мк. Сплеценая з саломы каробка для сяўбы ўручную. *У нас с кошэле́ сіюць і с сэвэ́ньки.* Ол. Параўн. *севак.*

СЭЎНЫ́К *м.* Ад. Тое, што і *севак.* *Сэўны́к — гэ́то така́я коро́бка з соло́мы і пру́та.* С э ў н ы ч о́ к.

ТА́РКА *ж.* Дн. Начынне церці бульбу. Параўн. *полаклі, тэртка.*

ТАРЭ́ЛКА *ж.* Здз. Зм., т а р ы́ л к а Ол. Лк. Мк. Ад. Кч. Гц. Фарфоравая ці металічная (раней і драўляная) неглыбокая пасудзіна для яды.

ТОБАКЕ́РКА *ж.* Др. Гл. Бл., т о б а к і́ р к а Лк. Здз. Ад. Зробленая з кары каробачка для тытуню, для захавання дробных рэчаў (іголак, нітак і інш.). *Робілі тобаке́ркі ню́хаць тоба́ку.* Гл. Т о б а к е́ р о ч к а Кк. Параўн. *коробочка.*

ТОБАЦІ́РКА *ж.* Св. Сп., т у б а ц і́ р к а Св. Тое, што і *тобакерка.*

ТРЫНО́ЖКА *ж.* Здз., т р у н о́ ж к а, т р у н і́ ж к а Св. Тое, што і *трыножок.*

ТРЫНО́ЖОК *м.* Рдз., т р ы н ы́ ж о к Ол., т р у н і́ ж о к Мк. Патэльня на трох ножках для смажання сала. *От колы́сь труні́жкы булы́ куды́ лу́ччы за пэтэ́льні.* Мк.

ТРЭ́ПАЧКА *ж.* Рдз. Драўляная лыжка для памешвання стравы ў гаршку. Параўн. *ополоны́к.*

ТЭ́РТКА *ж.* Ол. Лк. Дл. Тое, што і *тарка.*

УЛІ́ЙНЫЦЯ *ж.* Мк. Гліняная пасудзіна для захавання алею. *То колы́сь улі́йныці булы́, а тэпэ́р нэма́ тых уле́йныц.* Мк.

ЦЭ́БЕР *м.* Др. Гл. Сд. Зм. Кк. Зс. Кн. Др. Дл., ц э́ б а р Дзк. Хв., ц э́ б э р Здз. Ад. Бр., ц э́ б ы р Лх. Зр. Драўляная (з клёпак) нізкая пасудзіна з вушамі для паласкання бялізны, прыгатавання ежы жывёле; у ц. насілі ваду, прасунуўшы кіёк праз вушы. *Цэ́бэр на дзьвє́ ву́хі, у ім корто́плі тоу́клі.* Бр.

ЦЭБЕ́РОК *м.* Дзк. Тое, што і *цэбер.*

ЦЭ́БРЫК *м.* Рдз. Зб. Ол. Мк. Св. Лх. Зр. Ад., ч э́ б р ы к Лк. Тое, што і *цэбер.* *Ра́жка для свынэ́й, а цэ́брык для чого́ лі́пшого.* Зб. *У цэ́брыках во́ду за́раз нэ дэ́ржаць.* Мк.

ЦЯГА'ЧКА *ж.* Ад. Бляшаная пасудзіна для адстойвання малака, якую апускаюць у калодзеж. Параўн. *банька.*

ЧАБА'РКА *ж.* Рдз. Выдзеўбаная з дрэва пасудзіна для захавання солі. *Я по́мню шчэ ту́ю чаба́рку.* Параўн. *сольніца.*

ЧАВУ'Н *м.* Гц. Тое, што і *чыгун.* Чавуно́к Гц., чаву́нчык Кч.

ЧАГА'Н *м.* Рдз. Тое, што і *чыгун. Глы́няных го́ршчыкіў нэма́е, а ўсэ чаганы́.*

ЧАРАПО'К *м.* Дзк. Хв., чырэпо́к Лх. Ад., чэрэпо́к Здз. Бр. 1. Пасудзіна для смажання сала, зробленая з гаршка ці збанка, у якіх адразалі верхнюю пабітую частку. Лх. 2. Абломак пабітай глінянай пасудзіны, надбіты гаршчок. Лх. Здз. Дзк. Хв. Бр. 3. *зневаж.* Гліняная пасудзіна (рэдка). Св. Ад. Лх.

ЧА'РКА *ж.* Здз. Гц. Шкляначка для піцця гарэлкі, віна. Ча́рочка Кч. Дн. Дл. Параўн. *порцыя, румочка, шкалік.*

ЧАРЭ'П'Е *зборн.* Хв. Др., чырэ́п'е Лх. Ад., чэрэ́п'е Св. Гл. Бр. Сд. Кк. Бл. 1. Гліняны посуд, часам уся сталовая пасуда (у тым ліку лыжкі, міскі і інш.). Св. Лх. Ад. Хв. Др. Бр. Сд. Кк. Бл. *Пому́й чэрэ́п'е ў начо́ўках.* Кк. 2. Абломкі бітай глінянай пасуды. Гл. Бл. *Поб'ецца го́ршчык чы міса, вы́кінуць, то ка́жуць чэрэ́п'е.* Бл.

ЧА'ЎН *м.* Зс. Тое, што і *чыгун.*

ЧА'УС *м.* Дзк. Чыгун для прыгатавання ежы. Чаўсо́к. Дзк. Хв. Параўн. *чыгун.*

ЧВЕ'РТКА *ж.* Кн. Дн. Дл., чві́ртка Рдз. Лк. Мк. Лх. 1. Бутэлечка на 250 г. 2. Высокая бочка для ссыпання і вымярэння збожжа ёмістасцю 1,5 пуда. *То чві́ртка була́ пуўтора́ пу́да.* Мк. Параўн. *корэць.*

ЧЫГУ'Н *м.* Зб. Здз. Сп. Ад. Гл. Бл., чагу́н Дзк. Хв. Сд. Бл. Кч. Дн. Дл., чугу́н Св. Мк. Кк. Кн., чэгу́н Ол. Бр. Металічная (чыгунная, алюміневая) шырокая пасудзіна, якую ставяць у печ; у вялікіх ч. вараць бульбу жывёле, у малых ч.— сабе. *Шоб вары́ты, у на́с е́ чыгуны́.* Зб. *Чугуны́ букла́тые* [шырэйшыя пасярэдзіне], *кру́глые, тэпэ́р больш ліміне́вые.* Св. Чыгуно́к Ад., чугуно́к Кн., чыгу́нчык Лк. Ад. Гл., чугу́нчык Ол. Св. Кн.

ЧЭ'БРЫК *м.* Лк. Тое, что і *цэбрык.*

ЧЭКУ'ШКА *ж.* Ол., чыку́шка Рдз. Зб. Бутэлечка ёмістасцю 250 г.

ЧЭРПА′К *м.* Зб. Ол. Св. Здз. Ад. Дзк. Зс. Кч., чырпа́к Лк. 1. Вялікая лыжка, якой разліваюць страву. Зб. Ол. Здз. Ад. Дзк. Зс. Кч. 2. Пасудзіна, скручаная з бяросты ў выглядзе леечкі, якой чэрпаюць ваду. Св. *Зробі́ў чэрпака́ і пі́ў во́ду на боло́ці.* Параўн. *берэсціна.*

ЧЭ′РЭП *м.* Гл. Пабітая гліняная пасудзіна.

ЧЭ′ШКА *ж.* Ол. Невялікая міска (гліняная, металічная ці інш.).

ЧЭ′ШЧЭНА, чэ́шчына *ж.* Ол. Тое, што і *чэшка.* Чэ́шчэнка.

ШКА′ЛІК *м.* Зб. Шкляначка для піцця гарэлкі, віна. Параўн. *чарка.*

ШЧАНЬ *м.* Гл. Зм. Кк. Бл. Кч. Дн. Дл. Бочка для квашання капусты, засолу гуркоў. *У шчань капу́сту шаткова́лі.* Гл. Шча́нік Гл. Кч. Параўн. *варэмныця.*

ШЭНО′К *м.* Ад. Драўляная (з клёпак) пасудзіна для вымярэння жыта ёмістасцю 6 пудоў.

Я′ШЧЫК *м.* 1. Цыліндрычная пасудзіна невялікіх памераў, выдзеўбаная з дрэва, сшытая з кары ці зробленая з клёпак, з накрыўкай; у я. трымалі масла, соль (бралі з сабой у поле, на сенажаць), складвалі дробныя рэчы (іголкі, ніткі і інш.), захоўвалі нюхальны тытунь. Здз. Дзк. Бр. Сд. Бл. Я′шчычок Дзн. Бр. *Цюцю́н у я́шчычках носілы.* Бр. Параўн. *коробочка.* 2. Пасудзіна, збітая з дошак, у якой салілі сала. Мк. Др.

*Ю. Ф. Мацкевіч*

# ЛЕКСІКА ПЧАЛЯРСТВА

Пчалярская лексіка ў яе сучасным стане складаецца са старажытнай тэрміналогіі, што бярэ пачатак ад бортніцтва, і навейшага тэрміналагічнага пласта, які склаўся ў працэсе культурнага развіцця пчалярскай гаспадаркі, што з асаблівай выразнасцю праяўляецца ў наш час з развіццём пасечнага пчалярства ў калгасах і саўгасах на высокай навукова-тэхнічнай базе.

Пчалярская лексіка яшчэ недастаткова даследавана. На матэрыяле старабеларускіх пісьмовых помнікаў напісана адна манаграфія, якая ахоплівае прамысловую лексіку, у тым ліку і тэрміналогію бортніцтва [1]. Старажытны пласт бортніцкай тэрміналогіі ў больш або менш трансфармаваным выглядзе захоўваецца ў сучасных беларускіх народных гаворках. Але лексіка гэтага старажытнага промыслу яшчэ не поўнасцю выяўлена і запісана. У праграме, па якой збіраўся матэрыял для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», а таксама ў апытальніку Агульнаславянскага атласа пытанні, звязаныя з пчалярствам, адсутнічаюць [2].

Невялікі раздзел, прысвечаны пчалярскай лексіцы, быў распрацаван пры складанні праграмы па збіранню

[1] В. А. Купрэенка. Прамысловая лексіка ў старабеларускай пісьменнасці XV—XVII стст. (Рыбалоўства, бортніцтва і паляванне). Рукапіс канд. дыс. Мінск, 1966; В. А. Купреенко. Промысловая лексика в старобелорусской письменности XV—XVII вв. У кн.: Программа и тезисы межресп. конф. по изучению лексики... Вильнюс, 1964, стар. 18—19. Гл. артыкула В. А. Купрієнко ў кн.: Праці XII республіканської діалектологічної наради. Київ, 1971.

[2] Праграма па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1950.

лексікі для абласных слоўнікаў [3]. У значна дапоўненым выглядзе ён уключан у праграму, па якой збіраецца матэрыял для лексічнага атласа беларускіх народных гаворак [4].

Больш поўна сабрана пчалярская лексіка ў народных гаворках Беларускага і Украінскага Палесся [5]. На асноўным масіве беларускіх народных гаворак збіранне пчалярскай лексікі праводзіцца па скарочанай праграме. Таму наяўныя матэрыялы не даюць поўнага ўяўлення аб яе дыялектнай дыферэнцыяцыі.

У артыкуле выкарыстаны матэрыялы, запісаныя аўтарам у час дыялекталагічных экспедыцый па Агульнаславянскаму лінгвістычнаму атласу і Лексічнаму атласу беларускай дыялектнай мовы ў радзе раёнаў (пасля поўнай назвы раёна падаецца скарочанае абазначэнне яго пры пашпартызацыі матэрыялаў): Брэсцкая вобласць — Ганцавіцкі (Ганц.); Віцебская вобласць — Глыбоцкі (Глыб.), Пастаўскі (Паст.); Гомельская вобласць — Калінкавіцкі (Калінк.), Рагачоўскі (Рагач.); Гродзенская вобласць — Ашмянскі (Ашм.), Воранаўскі (Вор.), Іўеўскі (Іўеў.), Карэліцкі (Кар.), Мастоўскі (Маст.); Мінская вобласць — Вілейскі (Віл.), Чэрвеньскі (Чэрв.).

АБНО'ШКА *ж.* Пылок з кветак, які збірае пчала і нясе на лапках. *Абношку нясе дзелаць соты.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Рагач. А б н о ш к і *мн.* Жылі Іўеў.

АБЫ'ЦЦА *зак.* Прывыкнуць, прыжыцца на новым месцы. *Як яны* [пчолы] *абудуцца ў дуплянцы і калі пачнуць насіць воск, то будуць жыць.* Саланое Віл.

АГРАБА'ЦЬ *незак.* Перамяшчаць рой з таго месца, дзе ён звіўся, у раёўню. *Мы з татам раз аграбалі рой.* Азяраны Рагач.

АГРЭ'БЦІ *зак.* Сабраць рой у раёўню. *Аграбе рой, накрыя скацеркай і завяжа.* Азяраны Рагач.

АДЗЁР *м.* Памост на дрэве пад вулей. *Адзёр ад мядзьведзяў рабілі, каб не мог мядзьведзь залесьці на*

---

[3] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы, вып. 1. Мінск, 1959, стар. 45—48.

[4] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1971.

[5] В. В. Анохина, Н. В. Никончук. Полесская терминология пчеловодства. У кн.: Лексика Полесья. М., 1968, стар. 320—365.

*дзерава, клалі памост з досак у тры рады на метр шырыні.* Дзяніскавічы Ганц.

АСТРО́ВА *ж.* Лескі, па якіх узлазяць на дрэва. *Астрову рабілі з елкі, каротка абсякалі сукі.* Рудня Астравітая Чэрв. А с т р о́ ў *м. Астроў служыць лесьці на дзераво падглядваць пшчолы, прыстаўляе астрова і лезе.* Дзяніскавічы Ганц.

АТЦІНА́ЦЬ *незак.* Знішчаць, абцінаць крыллі. *Пчала атцінаіць трутня. Матка атцінаіць другую матку.* Саланое Віл.

АШЧЫ́НА *ж.* 1. Вашчына. *Як паставіш у печ, то мёт пойдзя пат спот, ашчына на верх выйдзя.* 2. Адходы ад воску. *Чорна ашчына — гэто самы фус, яго вон выкідаюць.* Міратычы Кар.

БАРТНІ́К *м.* Пчаляр. Жылі Іўеў.

БАРЦЬ *ж.* 1. Выдзеўбанае гняздо для пчол у сярэдзіне стаячага дрэва. 2. Дрэва з дуплом. *Выдлубаюць улей у хвойцы, у дупле і называюць барць.* Жылі Іўеў. *Дрэва з дуплём, дзе жывуць пшчолы, называлі барць.* Старыя Смільгіні Вор. Б о р д з ь *ж. Гняздо ў калодзе, выдаўбаная пешняй.* Малыя Аўцюкі Калінк. Б о р ц ь *ж. Бывае так, што со́сну зрэжуць, а там борць.* Рыбчына Віл. *Борць — дрэва з выдлубаным гняздом для пчол.* Бакшты Іўеў.

БАРЦЯЛА́З *м.* Пчаляр. *Калісь былі барцялазы, дзяржалі пчол у лесе.* Бакшты Іўеў.

БЗЫ́КНУЦЬ *зак.* Хутка праляцець з гучаннем, дзвыкнуць. *Бзыкнула пчала ля вуха.* Граўжышкі Ашм.

БЫ́РКАЦЬ *незак. экспр.* Зрэдку вылятаць з вулля. *Быркалі па аднэй пшчаліне і прапалі.* Саланое Віл.

ВА́БІК *м.* Вулей на дрэве, які ставяць для прываблівання рою. Жылі Іўеў.

ВАДАНО́С *м.* Труцень. Граўжышкі Ашм. Т р у ц е н ь *м. Трутні ваду носяць.* Старыя Смільгіні Вор., Граўжышкі Ашм.

ВАСКАВІ́ЦА *ж.* Вада, у якой растапляюць воск. *Кагда вываруем воск, вада пахне, воск наверх выходзя, як лёд замярзая, а вада пахня, аблей васкавіцай вуляй — дае запах на поўкілометра.* Азяраны Рагач.

ВАСКАЖА́ЦІНЫ *мн.* Адходы ад воску. Малыя Аўцюкі Калінк. В а с к а з а́ ч ы н а *ж. Воск як выціснуць — астаецца васказачына.* Дзяніскавічы Ганц. В а с к а з а́ ч ’ е *н. зборн. Як сок прывозілі з лесу, то добра клас-*

*ці васказач'е ў квас, вельмо пахне хорашо, прыятны квас.* Дзяніскавічы Ганц.

ВАШЧУРЫ'НЫ *мн.* 1. Натуральныя соты. *Чысты воск, не налеяны мёдам, называюць вашчурыны.* 2. Вашчына, аддзеленая ад мёду. *Кагда хочыш аддзяліць вашчурыны, кладзеш у торбу і мёд выціскуюць, ён выйдзя увесь, а вашчурыны астаюцца ў дзяружнай торбе.* 3. Штучна прыгатаваныя соты. *Гатовыя вашчурыны купляюць, на вашчурыны ставяцца чарачкі для наліцьця мёду.* Азяраны Рагач.

ВАШЧЫ'НА *ж.* Вашчына з мёдам. *Із вашчыны мёт выціскаюць.* Саланое Віл. В а ш ч ы́ н ы *мн.* Штучныя соты. *Цяпер вашчыны робяць з воску, можна купіць.* Саланое Віл., Граўжышкі Іўеў.

ВЕ'КА *н.* Бакавы ўваход у калодачным вуллі. *Века збоку ў калодзі.* Саланое Віл.

ВО'КА *н.* Ляток у калодачным вуллі. Азяраны Рагач., Малыя Аўцюкі Калінк.

ВО'ЧКІ *мн.* Ячэі ў сотах. *Пчолы вочкі пазадзелаваюць у куплёных наўзах.* Саланое Віл.

ВУЛЬ *м.* Вулей. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. В ý л я й *м.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Рагач.

ВЯ'ЗЕЛЬ МЕДО'ВЫ. Дзяцеліна. *У нас росце вязель медовы, красны, белы, у каждай трубке мед.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ГАЛАВА' *ж.* Верхняя частка калодачнага вулея. *Грабёнку ставяць у галаву калоды.* Азяраны Рагач.

ГАЛАЎНЯ' *ж.* Высушаная сэрцавіна дрэва для падкурвання пчол. Малыя Аўцюкі Калінк.

ГНАЦЬ РАБО'ТУ. Насіць мёд, воск у хуткім тэмпе. *Мае пчолы гоняць работу, а тваё пчолы работы ня гоняць.* Груздава Паст.

ГРАБЁНКА *ж.* Драўляны крыжык для сотаў у калодачным вуллі. *Сухога воску на грабёнцы прычэпюць.* Саланое Віл.

ГРА'НКІ *мн.* Соты, напоўненыя мёдам. *Рамкі з гранкамі вынімаюць, разаграюць і выжымаюць мёт.* Саланое Віл.

ДАЎБА'НКА *ж.* Невялікі калодачны вулей, які ставілі на дрэве для прываблівання рою. Азяраны Рагач. Д а ў б я́ к *м.* Калодачны вулей. Азяраны Рагач., Рудня Астравітая Чэрв. Д о́ ў б а н к а *ж.* Азяраны Рагач.

ДАЎЖНІ'К *м.* Дошка, якая закрывае бакавы ўваход у калодачным вуллі. Жылі Іўеў. Д о ў ж *м.* Даўжамі закрывалі калоды. Саланое Віл., Мярэцкія Глыб., Аўцюкі Калінк.

ДЗІ'КІЯ ПЧО'ЛЫ. Лясныя пчолы, якія жывуць у дуплах. Саланое Віл., Азяраны Рагач.

ДНО *н.* Ніз калодачнага вулля. Старыя Смільгіні Вор.

ДУПЛЁНКА *ж.* Дзежачка для мёду. *У дуплёнцы стаіць мёт.* Саланое Віл. Д у п л я́ н к а *ж.* *У дуплянкі мёт з важчынамі складалі.* Саланое Віл.

ДЫМАКУ'Р *м.* Дымар. Саланое Віл.

ДЗЯТВА' ПЧАЛІ'НАЯ. Маладыя пчолы. *Пчолы абаграюць чэр, праз 21 дзень выходзіць дзятва пчаліная.* Груздава Паст.

ЖАГА'ЛА *ж.* Джала. *Ай, пчала жагала ўпусціла.* Мярэцкія Паст. Ж а́ л а *н.* *Пчала жала пакідая.* Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Рагач., Малыя Аўцюкі Калінк. Ж о́ н д л а *н.* Граўжышкі Ашм., Жылі Іўеў. Ж ы г а л а *н.* Саланое, Рыбчына Віл.

ЖАЛЕ'ЗНА КУРА'ЎКА. Дымар. Старыя Смільгіні Вор.

ЖАМЕ'РЫНЫ *мн.* Адходы ад воску. Мярэцкія Глыб., Азяраны Рагач. Ж а м я р а́ *ж. зборн.* Граўжышкі Ашм. Ж а м я р у́ х а *ж.* *Жамяруха асядае на дне, а воск зверху.* Граўжышкі Ашм. Ж э́ м у х і *мн.* Вашчына. *Як выціснуць мёд, астаюцца жэмухі, іх ператапляюць і на ваду выліваюць.* Азяраны Рагач.

ЖАМКІ' *мн.* Ціскі. Рыбчына Віл.

ЗАБЯРО'СКА *ж.* Пакрыццё запоўненых мёдам сотаў тонкім слоем воску. *Пчолы робяць забяроску, каб мёт не сцякаў, ня порціўся.* Груздава Паст.

ЗАБЯРЭ'СЦІЦЬ *зак.* Закрыць запоўненыя мёдам соты. *Пчолы чысты мёд забярэсцяць.* Груздава Паст.

ЗАБЯРЭ'ШЧАНЫ МЁД. Закрыты ў сотах. Груздава Паст. З а в а с к а в а́ н ы м ё д. Рыбчына Віл. З а п я ч а́ т а н ы м ё д. Саланое Віл., Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк. З а с к л е́ п л е н ы м ё д. Старыя Смільгіні Вор. З а к л я п а в а́ н ы м ё д. Зэльв.

ЗАКЛАДА'ЦЬ ЧЭР. Чарыць, адкладваць яечкі. *Матка закладая чэр.* Азяраны Рагач.

ЗАКЛЯПАВА'ЦЬ *зак.* Закрыць запоўненыя мёдам соты. Старое Сяло Зэльв.

ЗАКРО'П ДАВА'ЦЬ. Крапіць вулей пахучай вадой, настоем пахучых траў. *Закроп даюць з малінавага цьвету, кап селі пчолы.* Граўжышкі Ашм.

ЗАКУПО'РЫЦЬ *зак.* Закрыць. *Пчолы закупо́рылі чэр.* Азяраны Рагач.

ЗАСКЛЕ'ПЛЮВАЦЬ *незак.* Закрываць запоўненыя мёдам соты. *Пчолы засклёплююць мёд, як поўныя чарачкі.* Граўжышкі Ашм.

ЗАСТА'ЎНЯ *ж.* Дошка з акенцам унізе ў рамачным вуллі. Граўжышкі Ашм.

ЗАСЫ'ЦІЦЬ *зак.* Засаладзіць мёдам. *Дайна засыціш ваду мёдам і ясі з хлебам.* Саланое Віл.

ЗАСЫЧО'НЫ *прым.* Засалоджаны мёдам. Саланое Віл.

ЗА'СЯДЗЬ *ж. зборн.* Лічынкі пчол. *У маіх пшчол мёду мала, адна засяць.* Жылі Іўеў.

ЗАЦУКРАВА'ЦЦА *зак.* Зацукравацца. *Зробюцца крупкі і мёд зацукруецца.* Саланое Віл.

ЗБІРА'ЦЬ РОЙ. Аграбаць рой у раёўню. Граўжышкі Ашм.

ЗВІ'ЦЦА *зак.* Сесці, сабрацца ў клубок. *Рой высыпаў і звіўся на дрэве.* Рыбчына Віл.

ЗРАІ'ЦЦА *зак.* Аслабнуць у выніку шматразовага раення. *Мае пшчолы зраіліся, слабыя, мёду не нанасілі.* Старыя Смільгіні Вор.

ЗУ'БЯЛЬ *м.* Дымар, якім падкурваюць пчол. *З гнілога дзерава рабілі зубяль, яго запаляць, ён курыцца, яго бяруць ік воку і дымяць.* Азяраны Рагач. У якасці дымара выкарыстоўваліся раней анучы, гнілое дрэва і інш. На тэрыторыі асноўнага масіву беларускай дыялектнай мовы пашырана было прымітыўнае прыстасаванне для падкурвання пчол — скручаная анучка, усаджаная ў рашчэпленыя канцы палкі. Такое прыстасаванне ў адных гаворках называлі *курэ́ль, кура́ч* (ад дзеяслоўнай асновы *куры́ць*), у іншых гаворках — *зу́бель* (ад утваральнай асновы *зуб*). Назва ўказвае на функцыю рэаліі — заціскаць гарэўшую анучку ў расшчэпе, як у зубах.

ЗЯМЕ'Ц *м.* Пчаляр. *Зямцы разводзілі пчол.* Саланое Віл. *Каб зямец, то ён бы вам расказаў пра пчол.* Азяраны Рагач.

Са старажытных назваў пчаляра ў сучасных беларускіх гаворках захаваліся *бо́ртнік, бартні́к* і *зямёц* пры

нераважным пашырэнні сучасных лексем *пчалавóд, пáсечнік, пчаляр.*

Назва *зямéц* паходзіць ад спосабу вядзення пчалярскай гаспадаркі, пры якім вуллі размяшчаліся на зямлі, а не на бортных дрэвах. (И. И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870, стар. 208).

Лексема *зямéц* адзначана ў гаворках у некаторых раёнах Магілёўскай (у дыялектных матэрыялах, сабраных І. Я. Яшкіным, Н. Т. Вайтовіч, С. Г. Лобач), у паўночных раёнах Гомельскай і Мінскай абласцей.

ІСК *м.* Пчаліная разведка. Граўжышкі Ашм., Бакшты Іўеў., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Іск ідзець.* Саланое Віл. *У гэтай стайца іск лётаіць.* Груздава Паст., Жылі Іўеў.

ІСКАВА'ЦЬ *незак.* Ляцець, разведваць, шукаць месца для рою. *Іскуюць пчолы, скора рой выйдзіць.* Саланое Віл. *Пшчолы іскуюць.* Жылі Іўеў.

ІСЦІ' НА ЖЫР. Ляцець за ношкай. *Ідуць пчолы на жыр у поле, у лес.* Саланое Віл.

КА'ДАЎБ *м.* Бочка з калоды для мёду. Астравітая Чэрв. *Мёт у кадаўбах стаяў.* Дзяніскавічы Ганц. Кáдоўб *м.* Малыя Аўцюкі Калінк. Кáлдуб *м.* *У калдубы злівалі мёт і муку ссыпалі.* Жылі Іўеў. Калдубáначка *ж.* Маленькая дзежка з клёпак. Мярэцкія Глыб. Кáдаўба *ж.* *Кадаўба пешняй рабілі.* Рагач.

КАЛО'ДА *ж.* Калодачны вулей. *У калодах былі пчолы.* Саланое Віл., Граўжышкі Ашм., Жылі Іўеў.

КАЛО'ТКА *ж.* 1. Тое ж, што *калóда.* *Калісь ульі калоткамі называлі.* 2. Сям'я пчол. *Веля калоткаў у цябе?* Старыя Смільгіні Вор. Калóтка лежакóвая. Ляжак. Бакшты Іўеў.

КАМО'К *м.* Скамечаны ў камок воск. *Воск збярэць, у камкі пакамкаіць, на свечкі перадзелаіць.* Саланое Віл.

КАМО'РКА *ж.* Асобная клетачка ў сотах. Граўжышкі Ашм.

КАРАНЁК *м.* Невялікі калодачны вулей, які ставяць на дрэве. *Была тут ёлачка, я паставіў каранёк.* Саланое Віл. Каранíк *м.* Граўжышкі Амш., Жылі Іўеў., Рыбчына Віл., Рудня Астравітая Чэрв. *Каранік зацягнуць на дзерава і на галэнзі паставяць.* Старыя Смільгіні Вор. Кóрань *м.* *А дайна і корань ставілі на дрэва, корань — калода ліповая.* Саланое Віл.

КАРО'БАЧКА *ж.* 1. Ахоўная сетка ад пчол на твар і галаву. *Рабілі з маладой ліпы каробачкі і адзявалі на ліцо, каб пчолы не кусалі.* Азяраны Рагач. 2. Раеўня. *Каробачка здзелана з ліпы, дно прышываецца з палатна, аграбе пчол у каробачку, накрыя скацеркай і завяжа.* Азяраны Рагач. *У каробачку пчол збіралі.* Рудня Астравітая Чэрв.

КАРО'БКА *ж.* Раеўня. Малыя Аўцюкі Калінк.

КЛЕ'ШЧЫ *мн.* Ціскі. *Мёд і воск клешчамі выціскалі.* Рыбчына Віл., Азяраны Рагач. Старыя Смільгіні Вор., Малыя Аўцюкі Калінк.

КЛІН *м.* Торба ў выглядзе кліна выціскаць воск. Граўжышкі Ашм.

КРАПІ'ЦЬ *незак.* Пырскаць вулей настоем пахучых траў. *Да ліпы прывязвалі улей і прынадай крапілі.* Саланое Віл.

КРЫЖАЧО'К *м.* Драўляны крыжык для прымацавання сотаў. *Крыжачок уставяць у стаяк, каб пчолы маглі вашчыну рабіць.* Старыя Смільгіні Вор.

КРЫЖЫ' *мн.* Козлы пад ляжачы вулей. *На крыжах стаяў корань, галава вышы была.* Саланое Віл.

КУРАДЫ'МАЧКА *ж.* Дымар. Курадымачкай курацъ пчол. Саланое Віл. К у р а д ы́ м к а *ж.* Рыбчына Віл.

КУРА'ЎКА *ж.* Скручаная ануча, якую падпальвалі і дымілі пчол. Старыя Смільгіні Вор. К у р а́ ш к а *ж.* *Кура́шку з трапкі рабілі.* Рудня Астравітая Чэрв. К у р о́ д ы м *м.* Бакшты Іўеў. Рудня Астравітая Чэрв. К у р э́ л ь *м.* Мярэцкія Глыб., Жылі, Бакшты Іўеў., Малыя Аўцюкі Калінк., Граўжышкі Ашм.

КУРАЦЁ *н.* Падкурванне. *Даўней ня было кураця, так падглядалі пшчол.* Граўжышкі Ашм.

КУ'РЫЦЬ, *незак.* Адганяць пчол дымам. *Курацъ пшчол куралём.* Граўжышкі Ашм. К у р ы́ ц ь *незак.* Малыя Аўцюкі Калінк.

КУРЭ'НЬ *м.* Сухія гнілушкі, якімі падкурваюць пчол. Рыбчына Віл.

ЛА'ДЗЬБІНЫ *мн.* Частаванне ў дзень падбору мёду. *Была на ладзьбінах, угашчалі мёдам.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як падглядаюць пчол і частуюць мёдам, то кажуць, што ў таго сёння ладзьбіны.* Саланое Віл., Жылі Іўеў. Л а́ з ь б і н ы *мн.* Граўжышкі Ашм.

ЛА'ЗІВА *н.* Вяроўка, пры дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва. Азяраны Рагач.

ЛАЗЬБЕ'НЬ *м.* Драўляная пасудзіна для мёду. *Наброў мёду поўны лазьбень.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛЕ'ЖАНЬ *м.* Ляжачы вулей. *Дуплі находзілі і рабілі лежні, па пяць-шэсць лежняў было.* Груздава Паст.

ЛЁТКА *ж.* Ляток у вуллі. Мярэцкія Глыб., Саланое Віл., Граўжышкі Ашм., Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Вор.

ЛІ'НА і ЛІ'НЯ *ж.* Тоўстая вяроўка, пры дапамозе якой пчаляры лазяць на дрэва. Граўжышкі Ашм. *Ліня— гэто тоўста, як канат, і доўга вяроўка, вулье цягаюць на дзераво.* Дзяніскавічы Ганц. Л і н к а *ж.* Старыя Смільгіні Вор.

ЛІ'ПАЎКА *ж. памянш.* ліпо́вачка. Ліповая бочачка для мёду. *З ліпы выдоўблівалі, даўна мёд злівалі, а не было мёду, то ссыпалі калапні.* Саланое Віл. Л і п о́ ў к а б е р а с т о́ в а я. Малыя Аўцюкі Калінк.

ЛІПО'ВЫ МЁД. Мёд, сабраны з ліпы ў час цвіцення. Саланое Віл. Л і п ц о́ в ы м ё д. Граўжышкі Ашм.

ЛУ'БКА-МЯДО'ЎКА *ж.* Ліповая бочачка для мёду. *Знаходзілі ліпу з гнілым дуплом, устаўлялі дно ілі рабілі з клёпак з абручамі і дзенца, а зверху закрываць вечка.* Азяраны Рагач.

ЛУ'ПКА *ж.* Раёўня. *Раней называлі раёўніца, а цяпер — лупка.* Міracічы Кар.

ЛЯЖА'К *м.* Калодачны вулей, які ў верхняй частцы апіраецца на козлы. Рудня Астравітая Чэрв., Старыя Смільгіні Вор., Рыбчына Віл., Азяраны Рагач.

ЛЯСНЫ'Я ПЧО'ЛЫ. Дзікія пчолы, што жывуць у дуплах. *Лясныя пчолы злыя.* Рудня Астравітая Чэрв., Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Вор.

ЛЯТО'К *м.* Дзірачка або прораз у вуллі, праз якую вылятаюць пчолы. Рудня Астравітая Чэрв., Азяраны Рагач.

МАЛАЧКО' *н.* Падкормка для лічынак пчол. Мярэцкія Глыб.

МАЛІ'ЗА *ж.* Пахучая трава, якой націраюць вулей у сярэдзіне і зверху. Старыя Смільгіні Вор.

МА'ТАЧНІК *м.* Зарашэчаная каробачка на доўгай ножцы для ўтрымання маткі. *У матачнік саджаюць матку, каб затрымаць рой.* Граўжышкі Ашм. М а́ т а ч н і ц а *ж.* Саланое Віл.

МА'ТКА *ж.* Самка ў пчол. *Матку поймуць і дзержуць.* Старыя Смільгіні Вор.

МЕДАВА'Я РАСА'. Салодкая раса на лісцях дрэў і на траве. *Пшчолы бяруць медавую расу.* Граўжышкі Ашм. Мядніца *ж.* Саланое Віл. Мядо́вая раса́. Мярэцкія Глыб., Рыбчына, Саланое Віл., Старыя Смільгіні Вор., Азяраны Рагач. Сало́ткая раса́. Граўжышкі Ашм.

МЁД *м.* Мёд. *Над мёт няма лепшага лякарства.* Граўжышкі Ашм.

НА'ВУЗА *ж.* Вашчына. *Навузу ператаплялі і рабілі свечкі.* Груздава Паст.

НАДЫБА'ЦЬ РОЙ. Знайсці ў лесе дупло з роем. *Хто надыбая рой, той можа забраць яго.* Граўжышкі Ашм.

НАСТА'ЎКА *ж.* Вулей на дрэве для прываблівання рою. Граўжышкі Ашм.

НА'ЎЗЫ *мн.* 1. Соты без мёду. *Наўзы — гэта лісток воску, уздзеты на драбінку.* 2. Штучна прыгатаваныя соты. *Цяпер добра, як трэба купіць наўзаў, то ідзець і купляіць.* 3. Драўляная аснова ў выглядзе драбінкі для сотаў у калодачным вуллі. *Наўзы астаюцца, мёт ножам рэжуць і ў начоўкі кладуць, наўзы з палачак зроблены.* 4. Рама з сотамі. *Трэба ўставіць наўзы у рамовік.* Саланое Віл. *Парайн. руск. дыял.* науз — амулет, ладанка, падвеска. (А. Г. Преображенский. Этимологический словарь русского языка. М., 1958, стар. 633). *na-vǫzъ ад на и уза, вязать. (М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка, III. М., 1971, стар. 49).

НО'ША *ж.* Ношка мёду і пылку з кветак, што нясе пчала за адзін раз. Мярэцкія Глыб., Рыбчына Віл. Но́шка *ж.* Саланое Віл.

О'КО *н.* Ляток. *Око, куды пчолы улятуюць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАДАБРА'ЦЬ ПШЧО'ЛЫ. Дастаць мёд, пакінуўшы неабходную колькасць пчолам на зімовы час. Старыя Смільгіні Вор. Падглядаць пчол. Рудня Астравітая Чэрв. *Бу́дам скора падглядаць пчол.* Азяраны Рагач., Бакшты Іўеў. *Ужо пара падглядаць пчол.* Рыбчына. Віл. Падгля́даваць пчол. Азяраны Рагач. Падла́джваць пчо́лы. Рыбчына Віл. Падла́джаць пчол. Мярэцкія Глыб. Пакупене́ць пшчо́лы. Старыя Смільгіні Вор. < *літ.* kopinėti—imti medų (iš avilio).

ПАДЗЬ *ж.* Салодкая раса на лісцях дрэў і на траве. Малыя Аўцюкі Калінк. П а́ д з я в а я р а с а́. Бакшты Іўеў. П я д з ь *ж. Пядзь асядая на лістах, багата пядзі, салодкая пядзь.* Рудня Астравітая Чэрв.

ПАДКУРЫ'ЦЬ *зак.* Падзьмуць на пчол дымам у час догляду. *Парцянучку запаліць або гнілое дзерава і падкурыць.* Азяраны Рагач.

ПАЙСКАВА'ЦЬ *незак.* Шукаць і аглядаць месца для рою. *Пайскуюць пчолы.* Бакшты Іўеў.

ПАМО'СТ *м.* Насціл пад вулей. Бакшты Іўеў.

ПА'СЯКА *ж.* Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі. Граўжышкі Ашм.

ПАТКАРМЯ'ЧКА *ж.* Падкормка для пчол. Старыя Смільгіні Вор.

ПАЧА'ТКІ *мн.* Соты. *Пчолы вядуць такія пачаткі з галавы да подаку.* Азяраны Рагач.

ПАЧЭ'РПАЦЬ РОЙ. Сабраць рой у раёўню. Старыя Смільгіні Вор.

ПА'ША *ж.* Мёд, які пакідаюць пчолам на корм. *Трэба пакінуць пчалам пашу, палавіну мёду адрэзаць сабе, а палавіну ім на корм.* Азяраны Рагач.

ПЕРАГЛЯДА'ЦЬ ПЧОЛ. Рабіць агляд пчол адзін раз у тыдзень. Рыбчына Віл.

ПЕРГА' *ж.* Падкормка для лічынак пчол. Бакшты Іўеў., Азяраны Рагач., Малыя Аўцюкі Калінк.

ПЕ'ШНЯ *ж.* Долата з доўгім чаранком для выдоўбвання вулляў з калод. *Пешня — гэта на палцы долато, можна секці вулы.* Азяраны Рагач., Дзяніскавічы Ганц., Бакшты Іўеў.

ПЛЕЦЬ *ж.* Вяроўка, пры дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва. *Была длінная плець, зямец зачэпіць за сука, а другі канец бярэ і цягне і лезе на дрэва, плець плялі з пяці канацікаў пяньковых.* Азяраны Рагач., Малыя Аўцюкі Калінк.

ПОД *м.* Дно, ніз калодачнага вулля. Малыя Аўцюкі Калінк. П о́ д а к *м.* Азяраны Рагач.

ПО'ТКУР *м.* Памост на дрэве пад вулей. *Поткур — гэта плашчатка, ляжала на шыпах, тарчалі штыры да метра даўжыні, ахрана ад мядзведзяў.* Азяраны Рагач. *Поткур доскамі абівалі, каб мядзведзь не лез.* Рудня Астравітая Чэрв., Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРАПАЛІ'С *м.* Пчаліны клей. Мярэцкія Глыбы. *Прапалісам пчолы закрываюць чашачкі.* Азяраны Рагач.,

Рудня Астравітая Чэрв. П р а п о́ л і с *м.* Бакшты Іўеў. П р о́ п у л і с *м.* Малыя Аўцюкі Калінк.

ПРЫНА′ДА *ж.* Настой пахучага зелля. *Прынадай крапілі вулей.* Саланое Віл.

ПЧАЛА′ МЕДАВА′Я. Меданосная пчала. *Медавая пчала мёд носіць, другая нясець пылок, ваду бёрыць.* Груздава Паст.

ПЧАЛАВО′Д *м.* Пчаляр. *Мой дзед быў сільным пчалаводам.* Азяраны Рагач. П ч а л а ў н і к *м.* Рудня Астравітая Чэрв. П ш ч а л я́ р *м.* Старыя Смільгіні Вор.

ПЧАЛАВО′ДНАЯ СТО′ЙЛА. Дрэва з дуплом або занятае вуллём з пчоламі. Азяраны Рагач.

ПЧАЛІ′НО ГНЯЗДО′. Унутраная частка вулля. Азяраны Рагач.

ПЧО′ЛНЫ ХЛЕБ. Падкормка для лічынак пчол. Саланое Віл.

ПШЧАЛА′, ПШЧО′ЛА *ж.* Пчала. Старыя Смільгіні Вор., Жылі Іўеў.

РАЕ′ЎНІЦА *ж.* Раёўня. Груздава Паст. Р а ё ў к а *ж. З карыны з ліповай рабілі раёўку.* Саланое Віл. Р а ё ў н я *ж. У яе аграбаюць рой.* Мярэцкія Глыб., Бакшты Іўеў. Р а й н і́ ц а *ж. Райніца ёсць пчолы абірацъ, як матка пойдзе, і усе за ёю.* Міранічы Кар., Рыбчына Віл., Жылі Іўеў., Старыя Смільгіні Вор., Мярэцкія Глыб., Азяраны Рагач. Р о́ й н і к *м.* Рыбчына Віл. Р о́ й н і ц а *ж.* Старыя Смільгіні Вор.

РАЁЎНІК *м.* Вулей, што ставяць на дрэва для прываблівання рою. Мярэцкія Глыб.

РА′МКА *ж.* Рама для сотаў у рамачным вуллі. *Пчаляр рамкі у вуляй ставіць.* Міранічы Кар.

РОЙ *м.* Пчаліны рой. *Шчэрпаў рой у ройніцу.* Старыя Смільгіні Вор. *Скрэпяць рой вадой, і ён сядая.* Граўжышкі Ашм. *Рой ідзець са старой маткай.* Саланое Віл.

СЕ′ДЗЕЛКА *ж.* Сядзенне на канцы вяроўкі, пры дапамозе якой лазілі на дрэва. *Да плеці прывязавалі седзелку, куды садзіўся зямец.* Азяраны Рагач.

СЕ′ТКА *ж.* Капюшон з сітцам для аховы ад пчол. Граўжышкі Ашм. С і т ц о́ *н. Пчаляр ідзець, сітцо на галаву адзяець.* Саланое Віл.

СКАЛІ′ЦЬ *незак.* Віцца каля стаўкі (пра пчаліную разведку). *Ужо скаліць вуляй, можа скора рой прыляцець.* Малыя Аўцюкі Калінк. *Як пачыная скаліць, пчо-*

*лы па некалькі дней лятаюць.* Азяраны Рагач. С к а л я в а́ ц ь *незак. Скалююць пчолы ў дуплах.* Малыя Аўцюкі Калінк.

СКА'ЛЛІ *мн.* Пчаліная разведка. Малыя Аўцюкі Калінк. С к а л л я́ *ж.* Азяраны Рагач. С к а л ь *ж. Каля дупля скаль летае.* Навасёлкі Свісл.

СКАМЫ' *мн.* Прылада для выціскання мёду і воску. *Былі скамы, скамамі выціскалі мёт.* Бакшты Іўеў.

СКРЫЛЬ *м.* Соты з мёдам у раме. *Дасталі раму і палавіну скрыля выразалі.* Саланое Віл.

СЛЕ'ПЕТ *м.* Дзікія пчолы. Малыя Аўцюкі Калінк.

СНЕТ *м.* Дошка, якая закрывае бакавы ўваход у калодачным вуллі. Старое Сяло Зэльв. С н я т о́ к *м.* Рудня Астравітая Чэрв.

СТАНАВІ'СКО *н.* Падстаўка пад вулей. *Улей ставяць на станавіско.* Дзяніскавічы Ганц.

СТАЎБУ'Н *м.* Вулей на дрэве для прываблівання рою. Рыбчына Віл. С т а́ ў к а *ж.* Мярэцкія Глыб., Рыбчына, Саланое Віл., Граўжышкі Ашм., Рудня Чэрв.

СТАЯ'К *м.* Калодачны вулей. Саланое Віл.

СЫТА' *ж.* Засалоджаная мёдам вада, абрадавая страва. *Мёд разводзілі вадой, хлеба накрышаць, елі на дзяды, на памінках.* Азяраны Рагач., Дзяніскавічы Ганц., Мірацічы Кар.

СЫ'ЦІЦЬ *незак.* Саладзіць мёдам. *Ваду сыцяць, крышаць булкі і ядуць.* Азяраны Рагач.

СЯБЭ'РНЫЯ ПЧО'ЛЫ. Калектыўныя пчолы. *Еслі пчаляр прымя каго у сябэрства, то сябэрныя пчолы.* Граўжышкі Ашм.

УЗЯ'ТКА *ж.* Ношка мёду. *У нас няма для пчол узяткі.* Граўжышкі Ашм.

УЛЕ'Й *м.* Вулей. *Улей ставілі к елцы на сучках і прывязывалі.* Саланое Віл. У л е́ й с т а я́ к і л я ж а́ к. Старыя Смільгіні Вор.

УЛЬЁК *м.* Невялікі вулей. Бакшты Іўеў.

УНО'С *м.* Ношка мёду. *Летась не было ўносу, не нанасілі пчолы мёду.* Рыбчына Віл.

ХЛЕБ ПЧАЛІ'НЫ *м.* Падкормка для лічынак пчол. Рудня Астравітая Чэрв. Х л я б е́ ц *м. Пчолы хлябец закладаюць у чарачку.* Азяраны Рагач.

ЧА'РАЧКІ *мн.* Соты. *Гатовыя вашчурыны купляюць, на вашчурыны ставяцца чарачкі для наліцця мёду.* Азяраны Рагач.

ЧАРВА′ *ж. зборн.* Лічынкі пчол. *Поўна рамка чарвы.* Мірацічы Кар. Чэрв *ж. зборн.* Старыя Смільгіні Вор.

ЧЭР *ж. зборн.* Адкладзеныя ў соты яечкі, з якіх выводзяцца лічынкі пчол. *Матка у соты закладая чэр.* Азяраны Рагач.

ЧЭ′РВІЦЬ *незак.* Адкладаць яечкі. *Матка чэрвіць, зачэрвіла рамку.* Старыя Смільгіні Вор.

ША′ПКА *ж.* Верх калодачнага вулля. Старыя Смільгіні Вор.

ШШО′РЫЦЦА *зак.* Загінуць. *Рой быў улес у дупло, алі матка шшорылася.* Саланое Віл.

*А. Я. Баханькоў*

## З РЫБАЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ ПОЛАЧЧЫНЫ

Рыбная лоўля ў Полацкім азёрным краі здаўна была адным з тых промыслаў, якія побач з земляробствам адыгрывалі значную ролю ў жыцці мясцовага насельніцтва. У азёрах і рэках, злучаных праз Заходнюю Дзвіну з Балтыйскім морам, спрадвеку вялося шмат рыбы самых разнастайных парод, нават такой рэдкай і каштоўнай, як вугор. Багацце рыбных угоддзяў прыцягвала ўвагу не толькі мясцовага насельніцтва, але і жыхароў іншых абласцей, значна аддаленых ад Падзвіння. Так, па словах правадзейнага члена Расійскай акадэміі М. Я. Азерацкоўскага[1], у канцы XVIII — пачатку XIX ст. асобныя вадаёмы ў Падзвінні арандавалі (пераважна зімой) рыбакі з Асташкаўскага павета Цвярской губерні.

Мясцовыя ж жыхары лавілі рыбу круглы год рознымі снасцямі. У цяперашні час існуюць два віды лоўлі рыбы: аматарская — «для сябе», як правіла, дробным запасам (вудай, аблітнёй, крыгай, крыжоўкай і інш.) і прамысловая — арцельная лоўля вялікімі невадамі.

На працягу вякоў тут выпрацавалася багатая мясцовая рыбалоўная тэрміналогія.

У гэтай падборцы пададзены некаторыя назвы рыб, рыбалоўных прыстасаванняў і снасцей, асобныя назвы вадаёмаў, працэсаў лоўлі, нараваў, прывычак рыбы і інш. Словы запісаны ў вёсках Саламір'е і Гомля былога Ветрынскага, цяпер Полацкага раёна, размешчаных у паўднёва-заходняй яго частцы, сумежнай з Ушацкім раёнам. Амаль усе гэтыя словы засведчаны і М. Р. Суднікам у заходняй частцы гэтага ж раёна ў

---

[1] Н. Озерецковский. Путешествие на озеро Селигеръ. СПб, 1817, стар. 99.

вёсках Наўліцы, Міхалкаўшчына, Жарнасекі, Сёрдава і інш.

АБАРЭ'Ц *м, Р* абарца́. Невялікая трохсценная сетка для лоўлі рыбы ў прыбярэжных зараслях чароту, аіру, хвашчу і іншых шляхам загону. З лодкі пры дапамозе доўгага шаста пад вуглом у бок берага засоўваецца спачатку адна палавіна сеткі, а потым другая. З абложанага ўчастка рыба заганяецца ў сетку тым жа шастом.

АБЛАЖЫ'ЦЬ *зак.* Ахапіць сеткай участак вадаёма, дзе можа быць рыба. *Аблажыў куст — дык наганяў акунёў.*

АБЛІТНЯ' *ж.* Самаробная блешня, вылітая са свінцу.

АБРУЧЫ' *мн.* Лёгкія абадкі з яловых ці арэхавых сукоў, на якія нацягваюць палатно ў мярэжах, *жаках* і інш.

АБУ'ЗА *ж.* 1. Шнуры, тоўстыя ніткі, якімі прышываюць палатно сеткі да верхняй і ніжняй цяціў. *Уся абуза згніла ў заходніку, нада паднавіць.* 2. Груз, грузілы, якія падчэпліваюцца да ніжняй цецівы.

АБУ'ЗІЦЬ *зак.* Прышыць палатно сеткі да цяціў спецыяльным спосабам.

АВЁС *м.* Рыбныя маляўкі; малькі.

АЗЁРКА *н.* Невялікае возера. *Як канава зарасла, дык у азёрку саўсім рыбы ні стала.*

АЗЯРО' *н.* Возера. *Ні стаі лі азіра з вудай, прастудзісься.*

АКУ'НЬ *м.* Рачны акунь.

АПРАЛЁЎКА *ж.* Шчупак, які нерастуе ў красавіку.

АСА'ДА *ж.* Каркас, аснова, да якой прымацоўваецца палатно сеткі (напр., абручы і дугі ў мярэжах, цяцівы ў абарцы і інш.).

АСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Прымацаваць палатно сеткі да якога-н. каркаса, асновы.

АСІТА' *ж.* Сітняк.

АСТАШЫ' *мн.* Простыя рыбацкія боты з высокімі халявамі (ад назвы ботаў асташкаўскіх рыбакоў — асташоў) [2].

БАРТУ'ЛЬ *м.* Вялікі чарвяк-выпаўзак, якім нажыўляюць кручкі ў шнурах.

---

[2] Падрабязней пра асташы гл. у кн.: Беларуска-рускія ізалексы. Мінск, 1973, стар. 13—15.

БАЎТУ'Н *м.* Доўгая выструганая палка з тоўстым наканечнікам, якой заганяюць рыбу ў сетку.

БІРАСЬЦЯ'НКІ *мн.* Паплаўкі са скручанай у трубачку бяросты, якія надзяваюцца на верхнюю цеціву для падтрымлівання сеткі на вадзе.

БІЦЬ *незак.* Глушыць (рыбу), удараючы *кукай* або *пабаешкай* па лёдзе.

БУЗА' *ж.* Рачны, азёрны іл. *У бузе ліноў многа-многа.*

ВАЛ *м.* Хвалі на возеры, рацэ. *У вал рыба добра клюець.*

ВО'БЛІЦА *ж.* Плотка звычайная. *Бальшым валам набіла вобліцы поўны берах.*

ВО'КА *н.* Прасвет, адтуліна паміж спляценнем ніток у сетцы. *Раткаватая мярэжъна — вочы бальшыі.*

ВУ'ДА *ж.* 1. Вуда. 2. Лёска. *Зьвіў вуду с конскіхваласоў.*

ВУДАЎЁ *н.* Вудзільна. *Выразаў арэхавая вудаўё.*

ВЫ'ГАРКА *ж.* Паглыбленне, яма з вадой на месцы выгаралага торфу, дзе можа вадзіцца рыба. *У выгарцы рыба ёсь, мусіць, вясной у разводзьдзя зайшла.*

ВЫ'ІЗД *м.* Адна з дзвюх доўгіх вяровак, якімі падцягваюць *заезнік* к берагу. *Далёка закінуў заезьнік, ні хапіла выізда да берага.*

ВЫЛІВА'ШКА *ж.* Шуфлік, чарпак з кароткай ручкай для вылівання вады з лодкі.

ГАНО'К *м, Р* ганкá. Невялікі плыт, прыстасаваны для вуджэння рыбы на глыбіні.

ГЛІНЯ'НКІ *мн.* Гліняныя трубачкі, якія надзяваюцца на ніжнюю цеціву для пагружэння сеткі ў ваду і надання ёй вертыкальнага становішча.

ГЛУШЫ'ЦЬ *незак.* Тое, што і *біць.*

ГО'РЛА *н.* Лейкападобная сетачка, якая ўшываецца звужаным канцом унутр *мярэжы, жака, наратка* і служыць для затрымлівання ў іх рыбы.

ГУСЦЁРКА *ж.* Рыба сямейства карпавых, падобная на ляшча. *З гусьцёркі ні наедак, многа касьцей.*

ГУСЬЦІРА' *ж. зборн.* Гусцёркі. *Гусьціра нарастуіць.*

ДО'ШЧАЧКА *ж.* Гладка выструганая драўляная пласцінка, пры дапамозе якой зацягваюць вузлы пры вязанні сеткі.

ДУГА' *ж.* Паўабруч, да якога прымацоўваецца пярэдні край сеткі ў *мярэжы, саку, жаку, наратку.*

ЕЗ *м.* Перагародка з тоўстых калоў, забітых у дно ракі і пераплеценых веццем, з праходамі для рыбы, у якія ставіліся рыбалоўныя снасці. (Слова захавалася як назва ўрочышча на р. Тураўлянцы, дзе засталіся адзнакі былога еза).

ЖАК *м, Р* жака́. Конусападобная сетка на абручах з двума горламі і двума крыламі для лоўлі ўсякай рыбы ў невялікіх рэках і канавах.

ЗАЕ′ЗЬНІК *м.* Невялікі азёрны невад, які закідваюць з лодкі і выцягваюць на бераг два чалавекі.

ЗАКАБА′ІНА *ж.* Невялікі, звычайна вузкі заліў у возеры. *Паставіў мярэжы ў тэй закабаіні.*

ЗАПА′С *м.* Рыбалоўныя прылады, снасці. *Ні лаўлю цяпер рыбы, запасу ніякага німа.*

ЗАПА′СІНА *ж.* Адна якая-н. рыбалоўная прылада.

ЗАПРЫТЫ′ЧЫЦЦА *зак.* *Запрытычыць* сваю лодку.

ЗАПРЫТЫ′ЧЫЦЬ *зак.* Прывязаць лодку *за прытыку,* увагнаную ў дно вадаёма. *Запрытыч лотку, ато вал будзіць несьці.*

ЗАТО′ХНУЦЦА *зак.* Задыхнуцца, затхнуцца пад лёдам (пра рыбу). *Зіма бъла халодная, сьнегу многа — вот рыба і затохлася.*

ЗАТУ′ЛА *ж.* Доўгі скураны рыбацкі фартух. *Надзень затулу, ато змокніш увесь.*

ЗАХО′ДНІК *м.* 1. Невялікі азёрны невад, якім ловяць рыбу два чалавекі, ідучы ўброд. 2. Тое, што і *заезнік.*

ЗВУ′ДЗІЦЬ *зак.* Патраціць, расходаваць у час вуджэння. *Звудзіў усіх чарвей.*

ЗО′РКА *прысл.* Ясна, светла, сонечна. *Сягоння дужа зорка, рыба ні клюець, баіцца.*

ІКРА′НКА *ж.* Самка рыбы ў перыяд нерасту. *Злавіў шчуку. Ікранка. Ікра аш ліецца.*

КАБЫ′ЛА *ж.* Выструганая палка, да канцоў якой прывязваюцца цяцівы заезніка (заходніка) і выезд (служыць таксама для выпрамлення палатна сеткі пры выцягванні яе на бераг).

КАБЫ′ЛКА *ж.* Невялікая *кабыла;* тое, што і *кабыла.*

КАЗА′[1] *ж.* Невялікая рыба тыпу ўюна, якая жыве ў іле (назву атрымала, відаць, з-за двух вырастаў-рожак на ніжняй губе).

КАЗА′[2] *ж.* Драцяная сетка ў форме чарпака, якая ўстанаўліваецца на носе лодкі для раскладвання агню, калі едуць *лучыць* рыбу.

КАЗЁЛ *м.* Травяны конік як нажыўка на язя, галаўня.

КАЛАСАВІ'К *м.* Лешч, які нерастуе ў час каласавання жыта.

КАЛЕ'КА *ж.* Мянтуз. *Калекі на жаб бяруцца.*

КАЛО'ЦЬ *незак.* Забіваць (рыбу) васцямі.

КАРА'НКА *ж.* Самаробны паплавок (для вуды, сеткі) з тоўстай сасновай кары. *Як каранка патоніць — цягні, значыць, рыбіна ўзілася.*

КАРА'СЬ *м.* Звычайны і серабрысты карась.

КАРМА' *ж.* Сярэдняя частка невада ў выглядзе доўгага вузкага мяшка, куды пападае рыба пры лоўлі; куль. *От патчапілі рыпкі, поўная карма набілася.*

КА'РПА *м.* Карп.

КРАСА'ЎКА *ж.* Чырванапёрка. *Красаўка пірад дажджом добра бярэцца.*

КРУКІ' *мн.* Драўляныя пласцінкі з загнутымі ўверх канцамі, да якіх прымацоўваюцца дно і барты лодкі.

КРЫ'ГА *ж.* Прылада для лоўлі рыбы ў неглыбокіх зарослых месцах, якая складаецца з двух рухомых палазоў і шаста, абцягнутых сеткай. Ловяць крыгай трое: двое цягнуць за палазы, трэці прыціскае шост да дна.

КРЫЖО'ЎКА *ж.* Прылада для лоўлі рыбы з берага: квадратная сетка (1 м×1 м), прымацаваная да канцоў дзвюх дуг, звязаных крыж-накрыж і рухома злучаных з доўгай ручкай.

КРЫЛО' *н.* Кожная з дзвюх частак сеткі, размешчаных па баках *кармы.*

КРЭЎ *м.* Пласт густа пераплеценых карнявішчаў чароту, аіру, мячэўніку і іншых водных раслін, які плавае на паверхні вады. *Пат крэвам бальшыі красаўкі ходзюць.*

КУ'КА *ж.* Вялікі драўляны малаток, якім глушаць рыбу пад лёдам.

КУЛЁК *м.* 1. Задняя, аддзеленая горлам частка *мярэжы, жака, наратка,* куды пападае рыба. 2. Кожная з дзвюх частак *мярэжы,* злучаных стрэлкай. *Асадзіў адзін кулёк.*

КУРМЕ'ЛЬ *м.* Пячкур.

КУСТ *м.* Куча галля, ядлоўцу, накіданага ў возера і змацаванага рэдка забітымі колікамі. Робяцца кусты як месцы збору і сховішча рыбы, дзе яе лягчэй злавіць, абкладзеныя... 

ЛАСКУ'РЪНА *ж.* Вялікая *гусцёрка.*

ЛЕ'ЎКА *ж.* Тое, што і *вылівашка.*

ЛЕШЧ *м.* Звычайны лешч вялікага памеру.

ЛІН *м.* Лінь.

ЛУЧ *м.* Пук лучыны, вязка карчоў, якія паляць ў *казе,* калі *лучаць* рыбу. *Надабі зьезьдзіць на рыбу з лучом* [луччу]. *Німала накалоў шчук на луч.*

ЛУЧЫ'ЦЬ *незак.* Калоць рыбу ноччу васцямі пры святле луча.

МАЛО'ЧНІК *м.* Самец рыбы ў перыяд нерасту; параўн. *ікранка.*

МАРЦО'ЎКА *ж.* Шчупак, які нерастуе ў сакавіку; параўн. *апралёўка.*

МЕХ *м.* Выгіб, заварот палатна, які ўтварае рыба ў трохсценнай сетцы і ў якім заблытваецца.

МЯРЭ'ЖА *ж.* Рыбалоўная снасць з двух сеткавых мяшкоў (кулькоў), нацягнутых на абручы і злучаных паміж сабой сценкай (стрэлкай).

МЯРЭ'ЖЪНА *ж.* Тое, што і *мярэжа.*

НАРАТО'К *м.* Нерат.

НЕ'ВАД *м.* Вялікая рыбалоўная сетка з двума крыламі і кулём пасярэдзіне.

НО'РАСТ *м.* Нераст.

ПАБА'ЕШКА *ж.* Палка з адным патоўшчаным выгнутым канцом, якой *глушаць* рыбу пад лёдам.

ПАДВАЛО'КА *ж.* Сетка, меншая за невад, але большая за *заезнік;* невадок.

ПАДЛЕ'ШЧЪК *м.* 1. Азёрная і рачная рыба, знешне падобная на ляшча. 2. Невялікі лешч.

ПАІ'МКА *ж.* Улоў, звычайна вялікі. *Сягоння добрая паімка была, цэлую кашолку ляшчоў налавілі.*

ПАМАГА'ЛА *ж.* Падсобны часовы работнік, які добраахвотна памагае арцельным рыбакам цягнуць невад. Плату атрымлівае рыбай. *Пайду ў памагалы, можа рыпкі дадуць.*

ПАТАПО'К *м.* Невялічкае алавянае грузіла ў вудзе.

ПЕ'ШНЯ *ж.* Плоскі востры лом з драўлянай ручкай для прабівання палонак пры лоўлі блешняй.

ПІСКУН *м.* Уюн.

ПЛАТА'ЦЬ *незак.* Разразаць рыбу ўздоўж цела па хрыбетніку для прасолкі і правяльвання.

ПЛЁС *м.* Сярэдзіна (цэнтр) ракі ці возера, у адрозненне ад берага. *Ець ат берага ў плёс, там рыбы болі.*

ПРЫТЫ'КА *ж.* Тонкая пругкая палка патрэбнай даўжыні, якая ўтыкаецца ў дно вадаёма для прывязвання лодкі, нацягвання і прымацавання кулькоў *мярэжы* і інш.

ПУП *м.* Мяшэчак з ікрой у целе рыбы. *У акунёў пупы бальшыі, відаць, нарастуюць.*

ПЯТА' *ж.* Карма лодкі.

РАДА'К *м.* Невялікі азёрны невад з рэдкага палатна для лоўлі вялікай рыбы.

РЫ'Б'Я *прым.* Рыбін. *Рыб'я вока. Рыб'я жыр.*

РЭДЗЬ *ж.* Знешнія сценкі сеткі, абарца з рэдкага палатна, дзякуючы якім рыба робіць мех і заблытваецца.

САДО'К *м.* Скрынка з адтулінамі ў сценках, у якой, апусціўшы ў ваду, трымаюць жывую злоўленую рыбу.

САК *м.* Прылада для лоўлі рыбы ў канавах: конусападобны сеткавы мяшок, нацягнуты на драўляны каркас.

САЧО'К *м.* Сеткавы чарпак на доўгай ручцы для выбірання рыбы з невада і іншых мэт.

СЕ'ТКА *ж.* 1. Рэдкае палатно, звязанае з нітак, для вырабу рыбалоўных снасцей. *Купіў два метры капронавай сеткі.* 2. Рыбалоўная трохсценная снасць, якая расцягваецца на месцах пераходу рыбы. Тады рыба, свабодна мінаючы рэдзь, упіраецца ў палатно, нацягвае яго, стварае мех паміж сценкамі рэдзі і заблытваецца.

СТРЭ'ЛКА[1] *ж.* Прамая сеткавая сценка, якая злучае кулькі *мярэжы* і скіроўвае ў іх рыбу.

СТРЭ'ЛКА[2] *ж.* Страказа як нажыўка на язя, галаўня.

СУДА'К *м.* Судак рачны.

ТАПТА'ЦЬ *незак.* Заганяць (рыбу) у *сак,* боўтаючы нагамі па водарасцях. *Натаптаў цэлую міску іжгуроў.*

ТО'НЯ і ТАНЯ' *ж.* 1. Месца, дзе можна закінуць невад, *заезнік.* 2. Адна закідка невада, *заезніка. Сталі тры тоні.*

ТХЛО' *н.* 1. Участак возера, у якім *затахлася рыба. Сёліта было тхло ў луцэ.* 2. *Цюшка,* у якой вычэрпваюць рыбу, што *затахлася. У тхле дзьве кашолкі плотак налавіла.*

УГО'РЪЧ *м.* Вугор.

УЖО'Р *м.* Рыбінка, заглынутая драпежнай рыбінай. *У шчукі бальшый ужор.*

УЗЯ'ЦЦА *зак.* Зачапіцца на кручок. *Пад вечар два ляшчы ўзялося, а днём ні браліся.*

УКЛЕ'ЙКА *ж.* Верхаводка.

УКЛІЯ' *ж. зборн.* Уклейкі. *Уклія нарастуіць.*

ХАНДО'ЖЫЦЬ *незак.* Патрашыць рыбу.

ЦІЦІВА' *ж.* Моцная, павіваная вяроўка, да якой прышываюцца верхні і ніжні краі сеткі. *Ніжнія ціціва згніла, атпарылася.*

ЦО'БНУЦЬ *зак.* Спаймаць, злавіць (многа рыбы). *Летам цобнулі ляшчоў.*

ЦЭ'ЎКА *ж.* Чаўначок для ручнога вязання сеткі: тонкая драўляная пласцінка з завостраным верхам і выемкамі ў сярэдзіне і ўнізе, на якія намотваюцца ніткі.

ЦЮ'ШКА *ж.* Адтуліна ў лёдзе, якую прабіваюць для лоўлі блешняй, сеткай пад лёдам і інш.

ЦЯГІ' *мн.* Тое, што і *выізды.*

ЧАБО'ХАЦЬ *незак.* Гучна плёхаць (пра рыбу). *Ляшчы чабохаюць. Мусіць, нарастуюць.*

ЧОП *м., мн.* чапы́. Кол, корч, камень у вадзе, за якія чапляецца сетка пры выцягванні яе на бераг. *Тут таня ні палучыцца, чапоў многа.*

ШЛАПАТА'ЦЬ *незак.* Дробна і часта плескатаць (пра рыбу ў сетцы, выцягнутую на бераг).

ШНУР *м.* Тонкая доўгая вяровачка з прывязанымі нажыўленымі кручкамі для лоўлі вугроў і іншай драпежнай рыбы. *Паставіў шнур ціраз усё возіра.*

ШОСТ *м.* Тонкая, доўгая, гладка выструганая палка з патаўшчэннем на канцы для засоўвання абарца ў ваду і загону ў яго рыбы.

ШЧУ'КА *ж.* Шчупак.

ЯЖГУ'Р *м.* Ёрш.

15. Зак. 1411

*Т. Р. Белайчук*

## З ЛЕКСІКІ НАРАЎЛЯНСКІХ РЫБАКОЎ

Змешчаныя ў артыкуле словы запісаны ў в. Канатоп Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. Вёска Канатоп размешчана на адлегласці пяці кіламетраў ад раённага цэнтра Нароўля на правым беразе Прыпяці недалёка ад яе прытока Мытвы. Жыхары вёскі спрадвеку займаюцца рыбалоўствам. З году ў год удасканальвалася майстэрства канатопскіх рыбакоў. Для многіх жыхароў вёскі лоўля рыбы з'яўлялася ў мінулым, як расказваюць старажылы, адным з важнейшых спосабаў забеспячэння сям'і. Ды і ў наш час у вёсцы цяжка знайсці сям'ю, у якой не было б рыбака ці аматара рыбнай лоўлі. Некаторыя жыхары працуюць у рыбалавецкай арцелі, арганізаванай тут яшчэ ў 20-я гады. Ва ўмовах масавага занятку лоўляй рыбы лексіка, звязаная з рыбалоўствам, шырока ўжываецца насельніцтвам, пранікае ў іншыя тэматычныя пласты мясцовага слоўніка, часта выкарыстоўваецца метафарычна, у параўнальных зваротах для характарыстыкі паводзін людзей, іх знешняга выгляду і ўнутранага стану, у фразеалогіі, напрыклад: *Прыдзе ў хату і моўчыць, як рыба, твой брацец. Што ты моўчыш, як той сом? Чому ты такі непосе́дліві, як той вьюн. З вуглá ў вугóл ходзіць, як рыба ў омýт опýшчэна. Здорóвуй такі вýрос, а рыбу наловіў поўную кровáць. Подарыў бог мýжа — ні рыба ні мьясо.*

У гэтым слоўнічку растлумачана каля 80 слоў, звязаных з рыбалоўствам. Ён уключае назвы рыб, назвы частак цела рыб, назвы частак вуды, назвы прылад для лоўлі рыбы, назвы рыбных страў і паняццяў, звязаных з прыгатаваннем рыбы.

Словы ў слоўнічку згрупаваны па адзначаных тэмах. Кожная група слоў мае свой алфавіт.

## НАЗВЫ РЫБ

БА'БКА *ж.* Ёрш. *У тым возеры дык ужэ надта богато бабок.*

БЕЛІ'ЗНА *ж.* Жэрах. *Не вельмо й просто зловіць ету белізну: усё з вудкі зрываецца.*

БЕЛОГЛА'ЗКА *ж.* Рыба, падобная на ляшча, невялікага памеру. *Белоглазкі вельмо смашныя жарэныя.*

БЕЛУ'ХА *ж.* Жэрах. *У рэкé белухі ўжэ мало.*

БІРЖ *м.* Ёрш з доўгай пыскай. *Біржóў наловіць лёгко, а чысціць іх не кожны согласен.*

ВОБЛА'К *м.* Вялікая плотка. *Вон такі здоровенны воблак зловіў, аж кручок чуць не одорваў.*

ВО'БЛІЦА *ж.* Плотка. *Вобліцу і зворыць добра, і пуджарыць.*

ВУГО'Р *м.* Вугор. *Яка ето процíўна рыба вугор, аж есці прыкро.*

ВЬЮН *м.* Уюн. *Смошненна ето рыба вьюн, дэ мáло её водзіцца ў нашай Муцьві.*

ГОЛО'ЎЛЯ *ж.* Галавень. *Матка прынéсла некалькі голóўляў, дэ і тые малéнькіе.*

ЁРШ *м.* Ёрш. *Вáжко чысціць ётого ершá: вельмі колецца, у рукі не можно ўзяць.*

ЖА'ГОЎКА *ж.* Невялікі шчупак. *Нешто ўсё жагоўкі трапляюць, а здоровéнну дык не зловіў.*

КЛЕЯ' *ж.* Укляя. *Рэдко ловіцца клея ў нашой месцóвосці, раней було бóлей.*

КОЖУ'ШКА *ж.* Шчупак сярэдняга памеру. *На возеры ўсё кажýшкі трапляюць, ужэ поўмéха наловілі.*

КРАСНОПЁРКА *ж.* Чырванапёрка. *Тую краснопёрку одному кóму хібá, дэ і то не наéсца.*

ЛЕШЧ *м.* Лешч. *У сéтку ўсё молькі попадáюць, а лéшча злóвіш — веселéй рóбіцца.*

ЛІНО'К *м.* Лінь. *Смошнéнна вельмі рыба лінок, любяць ее éсці малые дзеці.*

МА'НТУЗ *м.* Мянтуз. *Ось дзед Міхáсь мáнтуза велікого зловіў, аж вýдку на ніз пацягнýло.*

ПЕЧКУ'Р *м.* Пячкур. *Печкурóў і зловіць не зловіш, зарыюцца собі на дно рэкі.*

ПУДЛЕШЧО'ЎКА *ж.* Падлешчык. *Пудлешчóвок і ловіць не вýгодно, коб ужо добрэнного лешчá спіймаць.*

ПУД'Я'ЗІК *м.* Пад'язік. *Міхáйло такóго здоровéнного пуд'язíка зловіў, шо я такого шчэ не бачыў.*

СМОРКА'Ч *м.* Ёрш. *У нас і за рыбу не лічаць сморкачо́ў, без іх хапае рыбы.*

СОМ *м.* Сом. *Вось дзе смашна рыба сом, дэ штось мало яна ло́віцца.*

СОПЛЯ'К *м.* Ёрш. *Вось дэк рыбу ву́цяг сопляк нейкі, дэ і той моле́нечкі.*

СТО'ЎБІК *м.* Ялец. *Сто́ўбікі вельмі хітрые, усё на дне круцяць, зловіць ва́жко.*

ЧЭХО'НЯ *ж.* Чахонь. *Як одное чэхо́ні наловіў, то мо́жэш дамоў не верта́цца, сра́му не оберэшся.*

ШЧУ'КА *ж.* Шчупак. *Дзед Міха́сь дык здорове́нну шчуку зловіў, повезло́ ж чэловеку.*

ШЧУПА'К *м.* Шчупак. *Чуць палец мне не адкусіў еты шчупак, хоць невелі́чкі, дэ спры́тны.*

ЯЗЮ'К *м.* Язь. *Усё язюкі ло́вяцца, а друго́е ры́бу дэк і не побачыш.*

## НАЗВЫ ЧАСТАК ЦЕЛА РЫБ

АКА'РОК *м.* Частка цела паміж галавой і спіной. *Як зловіш ры́біну, то акарок наломі ёй, ена ўжэ не уцечэ.*

ВУС *м.* Цвёрды волас на пярэдняй частцы галавы (у сома). *У со́ма доўжэ́нныя ву́сы, і сам ён прыго́жэнькі.*

ЖА'БРЫ *мн.* Зябры. *У кожнай рыбы есць жабры, бо без іх рыба не жыла́ б.*

ЗЬРЭ'НКА *ж.* Вока. *У шчукі зьрэ́нькі здоро́вуе, і вона́ до́брэ рыбку ме́ншую вугледа́е.*

КОПШУ'К *м.* Плавальны пузыр. *Капшука́мі любяць стрэля́ць дзеці.*

КОСЦЬ *ж.* Костка. *Ко́сці з ры́бу пуд но́гі не кідай, а то уколешся.*

МЕШО'ЧОК *м.* Плавальны пузыр. *Колі жараць рыбу, то мешо́чкі ніко́лі ў ёй не остаўляюць, вукіда́юць.*

ПЕРО' *н.* Плаўнік. *Колю́чы ў ерша́ пёра, ва́жко скрэ́бці, дэ і рукі абдзерэ́ш.*

РЭБРО' *н.* Рабро. *Рэ́бра з ры́бу му не кідаем дзе попало, бо ены ве́льмі шко́дные, колю́чые.*

ХВОСТ *м.* Хвост. *Хвосто́м рыба, як веслом, працуе. І ху́тко пла́вае.*

ХРЫБЕ'ТНІК *м.* Пазваночнік, хрыбет. *У шчукі крэпкі хрыбетнік — не зло́міш адразу.*

## НАЗВЫ ЧАСТАК ВУДЫ

ВУ'ДКА *ж.* Вуда. *З арэшніку вельмі добрые можно зробіць ву́дкі, колі вон то́нкі.*

ГРУЗІ́ЛО *н.* Груз у рыбалоўных прыладах. *Добрэ грузіло подобраць да невода не так ужэ і лёгко.*

ПОПЛАВО́К *м.* Паплавок. *Добрэ бу́ло б, коб му той поплавок не згубілі, а то но́вуй трэбо купляць.*

ПОЧЭПІ́ЦЬ *зак.* Прымацаваць, насадзіць на кручок прынаду. *Почэпіць чэрвека на кручок не так ужэ й лёгко.*

ТО́РКАЦЬ *незак.* Кляваць. *Цегні буйстрэй вудку, не бачыш — вунь то́ркае.*

ЧЭРВЯ́К *м.* Чарвяк. *На ву́гоні, ле Міколáіхі, вельмі богато чэрве́й, особліво ле плоціка.*

## НАЗВЫ ПРЫЛАД ДЛЯ ЛОЎЛІ РЫБЫ

БОЎТА́Ч *м.* Доўгі шост з тоўстым канцом, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Лезь у во́ду, Міро́н, дэ боўтачо́м трохі-рыбу попужай, коб болей було.*

БО́ЎЦЕНЬ *м.* Боўтала. *Лезь у во́ду, возьмі боўцень дэ пужай рыбу ў цего́ўку.*

БРОДНІ́К *м.* Сетка з аднаго палатна з дробнымі вочкамі і з заходам для рыбы. *Можа б ву, дзядзько, позычылі нам броднік рыбу на Муцьве́ попужаць.*

ВЕ́НЦЕР *м.* Венцер. *Ты б, Одам, мне венцер прынёс, там ле хлева́ стояў.*

ВІ́ЛОЧКА *ж.* Прылада для вязання сеткавага палатна. *Возьмі, Міканор, мое вілочкі, вунь ле плоту лежáць.*

ВО́КО *н.* Адтуліна паміж ніткамі ў сетцы. *Вяжы бо́льшые вокі, бо бу́дом рыбу ловіць на Пры́пеці.*

ВО́ЛОК *м.* Сетка з заходам для рыбы ў выглядзе мяшка, якую цягнуць па рацэ, калі ловяць рыбу. *У дзя́дзька Остапа вельмі добры волок, но́вуй, коб хоць на дзень попросіць.*

ГАБО́ША *ж.* Рыбалоўная сетка малога памеру з адтулінай у выглядзе сегмента. *Габо́шой, дзе глы́бко, не поця́гнеш.*

ЖАК *м.* Нерат з двума крыламі. *Жак стáвяць на но́ч, а до́світкам едуць і гледзя́ць, ці много ры́бу налезло.*

КО́МЛЯ *ж.* Ручная лавушка з сеткі, нацягнутай паміж двума «палазамі», крыга. *Достáнь з горы́ ко́млю, по́йдом ры́бу ловіць на Муцьве́.*

КОШ *м.* Стаўная лавушка конусападобнай формы, сплеценая з лазы. *До́брые кошы́ плеце́ нам стары́ дзед, рыба ў іх ло́віцца кру́пная.*

КРЫ′ГА *ж.* Рыбалоўная прылада, большая за браднік па сваіх памерах. *Міро́не, пошлі крыгу поцягнем по кона́ві, мо шо до́брэе і пойма́ем: кажуць, белые карасі ёсць.*

КРЫЛО′ *н.* Бакавая частка ў *жаку. Однэ́ крыло́ крыху прорва́лосе, трэ́бо пудшыць вілочкамі.*

МОТНЯ′ *ж.* Куль у рыбалоўнай сетцы. *Трэ́бо цягну́ць ужэ́ не́вод, бо ў мотне́ рыба блёкае.*

ПРЫ′ШВА *ж.* Крыло ў *жаку. Трэбо новую прышву прышыць, а то ўжэ стара́я та́я.*

ПУДСА′КА *ж.* Крыга. *Цягні, Якоў, хутчэй, а то рыба ўся поўцека́е з пудса́кі.*

РОЖО′ЎКА *ж.* Сетка з трох палотнаў з буйнымі вочкамі. *Рожо́ўкай до́брэ рыбу ловіць, ву́годно: рыба нейк больш поподáе.*

СЕ′ТКА *ж.* Прылада для лоўлі дробнай рыбы з сеткавага палатна. *Колі набудзеш добрую сетку, лічы, што і рыбалоў з цебе ву́йдзе.*

ТОПТУ′ХА *ж.* Сеткавая прылада для лоўлі рыбы. *Топтуха наша нешто ўжэ поломалася, стара́я стала.*

ТО′РБА *ж.* Мяшочак з саматканай тканіны для захоўвання рыбы. *Трэбо пашыць но́ву торбу, бо ета ўжэ стара́я.*

ХРО′ПОСТ *м.* Доўгі шост з тоўстым канцом, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Узяў бы хропост і загоняў бы попе́рэду рыбу ў се́тку.*

ЦЕГО′ЎКА *ж.* Брэдзень. *Му дык свою цего́ўку шчэ не постро́ілі.*

ЦЕ′НЕТО *н.* Сеткавае палатно. *Ценето ко́лі порве́цца, то зашываюць вілочкамі.*

ШТЫЛЬ *м.* Пешня. *По́йдом му на лёд дэ прорубаём штылём неколькі пель.*

## НАЗВЫ РЫБНЫХ СТРАЎ І ПАНЯЦЦЯЎ, ЗВЯЗАНЫХ З ПРЫГАТАВАННЕМ РЫБЫ

РОСПЛАТА′ЦЬ *зак.* Патрашыць. *Пёрад тым, як жарыць, рыбу трэбо росплатаць.*

ЧЫНЁНКА *ж.* Фаршыраваная рыба. *Наеўся чынёнкі, а цяпер ходзіць і толькі воду попіва́е.*

ШКРЭ′БЦІ *незак.* Знімаць луску з рыбы. *У пе́чы ву́горэло, а я шчэ рыбу не шкрэ́бла.*

Ю′ШКА *ж.* Суп са свежай рыбы. *Ве́льмо сма́шно з'е́сці ю́шкі, ко́лі ў ёй рыбка пла́вае.*

*С. Г. Лобач*

# З ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКІХ ПЛЫТНІКАЎ

Прыродныя ўмовы Беларусі — наяўнасць шматлікіх рэк і іншых водных сістэм, якія вядуць да Балтыйскага і Чорнага мораў, вялікія масівы карабельнага і будаўнічага лесу — здаўна садзейнічалі развіццю лесасплаву. Сплаўлялі лес і лесаматэрыялы плытамі і на суднах па Заходняй Дзвіне ў Рыгу, Кёнігсберг (раней Крулевец), па Дняпры ў Кіеў, Екацерынаслаў, Крамянчуг, Херсон, Нікалаеў, Адэсу. Многа лесаматэрыялаў сплаўлялі па Нёману і некаторых іншых рэках.

Звесткі аб спосабах і напрамках сплаву лесу, быце беларускіх плытнікаў, тэрмінах, звязаных з плытніцтвам, сустракаюцца яшчэ ў дарэвалюцыйных выданнях [1]. З іх відаць, што сплаўлялі лес да рэвалюцыі пераважна сяляне, якіх наймалі лесапрамыслоўцы. Спецыфіка працы ўплывала на побыт, звычаі, мову беларускіх плытнікаў.

Тэрміналогія беларускіх плытнікаў стваралася як на аснове роднай мовы, так і шляхам іншамоўных запазычанняў. Сярод такіх зусім натуральных для беларуса назваў, як *грабёнка* — плыт, *запрýта (завёртка, бычóк)* — прыстасаванне для вязкі плытоў, *сахá* — прыстасаванне для затрымкі плыта, трапляюцца словы тыпу *трава* — плыт, *бом (бон)* — прыстасаванне для затрымкі лесу пры малявым лесасплаве, *кнэ́баль (кнэ́бель)* — прыстасаванне для вязкі плыта і рад іншых назваў, якія з'яў-

---

[1] А. Корева. Виленская губерния. СПб, 1861, стар. 189, 526; П. [О.] Бобровский. Гродненская губерния, ч. 1. СПб, 1863, стар. 252—260; И. Зеленский. Минская губерния, ч. 2. СПб, 1864, стар. 92—95, 107—109; Ю. Янсон. Пинск и его район. СПб, 1869, стар. 261; А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев, кн. 1, 1882, стар. 201—210; кн. 2, 1884, стар. 515—516, 722—737; А. Сапунов. Река Западная Двина. Витебск, 1893, стар. 345—359.

ляюцца запазычаннямі з нямецкай, галандскай, польскай, літоўскай і іншых моў.

Лексіка беларускіх плытнікаў (*лáўнікаў, ганкóўшчыкаў, плысакóў*) заставалася доўгі час па-за ўвагай даследчыкаў беларускай мовы.

Збіранне матэрыялаў па гэтай тэме было распачата намі ў 1971 г. Зараз абследаваны 24 населеныя пункты Беларусі, размешчаныя ў прырэчных зонах. Адрозненні ў плытніцкай лексіцы дазваляюць вылучыць дняпроўска-прыпяцкі, заходнедзвінскі і нёманскі арэалы.

У гэтых арэалах абследаваны наступныя населеныя пункты: 1. Дняпроўска-Прыпяцкі: в. Беразіно, Докшыцкі раён (Докш.), в. Палік і в. Глівін, Барысаўскі раён (Барыс.), в. Ухвала, Крупскі раён (Круп.), г. Беразіно, в. Азяраны, Рагачоўскі раён (Рагач.), в. Смычок, Буда-Кашалёўскі раён (Б.-Каш.), в. Холмеч, Рэчыцкі раён (Рэч.), в. Ворнаўка, Кармянскі раён (Карм.), в. Белая Дубрава, Касцюковіцкі раён (Касц.), в. Валосавічы, Акцябрскі раён (Акц.), г. Петрыкаў, в. Хваенск і в. Пагост, Жыткавіцкі раён (Жытк.), в. Пяркі, Кобрынскі раён (Кобр.), в. Дружылавічы, Іванаўскі раён (Ів.), в. Сінкевічы, Лунінецкі раён (Лун.).

2. Заходнедзвінскі: в. Курына, Віцебскі раён (Віц.), в. Лагаўцы, Расонскі раён (Рас.), в. Машканы, Сенненскі раён (Сен.).

3. Нёманскі: в. Саланое і в. Рыбчына, Вілейскі раён (Віл.), в. Бакшты, Іўеўскі раён (Іўеў.), в. Тухавічы, Ляхавіцкі раён (Лях.).

## НАЗВЫ ПРЫСТАСАВАННЯЎ ДЛЯ ВЯЗАННЯ ПЛЫТОЎ

БЫЧО'К *м.* Завостраная драўляная палачка даўжынёй 40—60 см для закручвання гатовых вітак, хамутоў і інш. *Жэрдзь прывязвалі віццём, а бычкі закручвалі віццё ля жэрдзі.* Лагаўцы Рас.

ЗАВЁРТА *ж.* Тое, што і *бычок. Багром раўніш броўны і наклáдаваеш на жэрдзь клібы і завёрты.* Курына Віц.

ЗАВЁРТКА *ж.* Тое, што і *бычок. На каждае браўно дзьве клібіны і дзьве завёрткі з коланых палачак з паўмéтра.* Курына Віц.

ЗАПРУ'ТА *ж.* Тое, што і *бычок. Запрутою укрэпляют гáльву.* Дружылавічы Ів.

КЛІН *м.* Клін, пры дапамозе якога сціскаліся броўны ў плытах. Палік Барыс., Беразіно, Ухвала Круп., Саланое Віл., Тухавічы Лях. *Клін забіваўся тапаром з двух старон.* Глівін Барыс. *Колоды прывязваліся к рўбліку под клін.* Пагост Жытк.

КЛЯПЕ́НЬ *м.* 1. Тое, што і *бычок.* Смычок Б.-Каш., Курына Віц. *Кляпнямі скрапляюць сувязь бярвення.* Азяраны Раг. 2. Драўляная палка каля 40—50 см з прывязанай да яе вяроўкай для скручвання лазовых, бярозавых і іншых дубцоў. *Кляпень асобый з аборынай, штоб клібы круціць. Цягні харашо, а то кляпнём!* Курына Віц.

КНЫ́ПЕЛЬ *м.* Тое, што і *бычок.* Глівін Барыс., Ухвала Круп., Ворнаўка Карм., Валосавічы Акц., Петрыкаў. *Для вязкі хварасціна бралася ў два метры, разрўбавалася на чатыры часці — і эта кныпель. Адзін кныпель падхадзіў пад другі хамут, а канечны кныпель заварачваеш назад і падкладаеш пад карашок і закрапляеш забе́лкай.* Беразіно. *За чэцьвёртую колоду бером хомутом і прыкрэпляем этым хомутом усі кныплі.* Пагост Жытк. *Когда вяжом под кныпель, еслі ў лісто́ўку, берэцца одно брэўно, а еслі ў подто́п — два.* Хваенск Жытк. К н ы́ п е н ь *м.* Палік Барыс.

КНЫ́ПЛІК *м.* Тое, што і *бычок.* Валосавічы Акц., Пагост Жытк.

КНЭ́БАЛЬ *м.* Тое, што і *бычок. Кнэбаль пад шархоўку заходзіць і сплатняіць дзве палены.* Беразіно Докш. К н э́ б е л ь *м. Завівалі віціну кнэблем, штобы браўно ад жэрдзі не адстала.* Лагаўцы Рас.

КРУЦЁЛКА *ж.* Тое, што і *кляпень* 2. *Ставіўся слуп, прыбівалася планка для закладкі вітак, бралася круцёлка і закладалася на камель.* Беразіно.

ЦУ́РКА *ж.* 1. Тое, што і *бычок. Цурку бралі санціметраў сорак дліной.* Валосавічы Акц. 2. Тое, што і *кляпень.* 2. *Зако́паем стоўба́, забіваем кліна́, закладаем дзесяць дубцоў віткі і круцім цуркамі, у верху тры-чатыры клінкі забіты.* Пагост Жытк.

## НАЗВЫ ВЯЗАЛЬНЫХ СРОДКАЎ ДЛЯ ЗМАЦАВАННЯ БЯРВЕННЯЎ

БІЧО́ЎКА *ж.* Прывязь, звітая з некалькіх клібін для звязвання нарыхтаваных дроў (мятровых палак) у плыты; дровы звязваюць папярэдне ў пучкі, або гузкі. *Калі*

*дровы вяжуць, то нескалька клібін скручваецца і атрымліваецца бічоўка. Еслі ў два накаты, то вяжуць бічоўкай.* Курына Віц.

ВІ'ТКА *ж.* Прывязь з дубцоў, пры дапамозе якой звязваюцца бярвенні з пакладзенымі на іх жэрдкамі. Палік Барыс., Беразіно, Пагост Жытк., Лагаўцы Рас. *Кладуць жэрдзя і надзяваюць віткі, як хамуты.* Беразіно Докш. *Броўны, акрамя крайніх, з вушмі, падвязваліся віткай.* Ухвала Круп.

ВІ'ЦА *ж.* Тое, што і *вітка.* Пагост Жытк. *Готовілі віцу так: одзінарную лозіну ілі берэзіну скручвалі верх з верхом, комель з комлём.* Хвоенск Жытк. *На вуплавачных рэках гужву называлі віцамі. Віцы з лозы круцяць.* Петрыкаў.

ВІЦІ'НА *ж.* Тое, што і *вітка. Віціну і браўно скраплялі з жэ́рдзяй, закнэблівалі.* Лагаўцы Рас.

ВІЦІ'НКА *ж.* Тое, што і *вітка. Бычкі браліся, штоб закруціць віцінку.* Лагаўцы Рас.

ВІЦЦЁ *н.* Тое, што і *вітка. Жэрдзь прывязвалі віццям, а бычкі закручвалі віццё ля жэрдзі.* Лагаўцы Рас.

ГА'ЛЬВА *ж.* Тое, што і *вітка.* Петрыкаў, Сінкевічы Лун. *Скідаем з су́ха лес у во́ду, вяжом лозою, круцім гальву — берозаву і лозову. Гальву рубалі когда-то і сорціровалі по санціметрах і отпраўлялі: еслі тоўшчэйшая, то ішла ў лістоўку, а еслі тончэйшая — у разные со́рты, у падто́п.* Пагост Жытк. *Гальвы — чым скручываюць рублі.* Дружылавічы Ів.

ГУЖБА' *ж.* Тое, што і *вітка.* Палік Барыс., Беразіно, Азяраны Рагач., Смычок Б.-Каш., Ворнаўка Карм., Белая Дубрава Касц., Хваенск Жытк., Петрыкаў, Саланое Віл. *Губжу́ распаруюць на агне і круцяць кругом браўна.* Холмеч Рэч. Гу́жба *ж.* Ворнаўка Карм., Петрыкаў. Гужва́ *ж.* Глівін Барыс., Хваенск Жытк., Пагост Жытк., Сінкевічы Лун. *Гужва́ ў тры лазіні круціцца.* Петрыкаў. Гу́жва *ж.* Валасовічы Акц., Пагост Жытк. Гужво́ *н.* *Калі вяжам у падтоп, больш лесу ідзе і можна зэкономіць гужво.* Глівін Барыс.

ГУЖБІ'НА *ж.* Тое, што і *вітка.* Ворнаўка Карм. Гужвіна *ж.* *Нескалька гужвін скручвалася ў хамуты.* Валосавічы Акц. *Проймаем гужвіну, бером гужві́ну за колоду за першу — і это называем помоцо́ўкою.* Пагост Жытк.

ГУЖВІНКО'ВІНКА *ж.* Тое, што і *вітка. Гужвінковінкай огонячы прыхоплены к рубліку слобóдно, штоб не зачэпіло рублíком за корчá.* Пагост Жытк.

ГУЗЫ'РЬ *м.* Частка *гужбіны. Гузырь — гужвіны кусок, кóрэнь гужвіны ў дзьве сталкі звіты.* Пагост Жытк.

ЗВЯЗЬ *ж.* Тое, што і *вітка. Звязь з лозы, з бэрэзіны, звязваюць пас.* Пяркі Кобр.

КАЛЦО' *н.* Прывязь у выглядзе абручыка, зробленая з вітак, гужбы ці іншага вязальнага матэрыялу для звязкі бярвенняў у плыты. *Уперадзе цераз шархавіну — кóлцы, меньшыя, чым хамут, калцо за калцо заходзіць.* Ухвала Круп. Кальцó *н.* Белая Дубрава Касц.

КЛІ'БА *ж.* Тое, што і *вітка. Кліба ў пальца паўтара бралася, яе распарывалі на агні, круцілі на палачку з вяровачкай; калі круцяць, яна аж лушчыць, ажно раскаліваецца ўдоўж.* Курына Віц. Клюба *ж. Клюба дзелаецца мяхкай, штоб харашо броўны прывязваць.* Машканы Сен.

КЛІ'БІНА *ж.* Тое, што і *вітка. Клібіну закручваеш пятлёй і ўстаўляеш палачку ў пятлю.* Курына Віц.

ПРАЧ *м.* Тое, што і *вітка. Раней броўны ў клейні вязалі прачамі з бярозы.* Саланое Віл.

ХАМУ'Т *м.* Кальцо з вітак, гужбы ці іншага гатовага вязальнага матэрыялу для змацавання бярвенняў або іх радоў. Беразіно Докш., Палік Барыс., Беразіно, Смычок Б.-Каш., Белая Дубрава Касц., Валосавічы Акц., Машканы Сен., Тухавічы Лях. *Штоб звязаць дровы, хамут прынімалі, штоб споднюю жэрдзь і верхнюю саедзініць; хамуты клалі чераз два метры. На клямру хамуты прадзяваюцца.* Ухвала Круп. Хомýт *м. Хомутом вязалі пяць крайніх колод: тры на хрэст, а дзьве так, хомутамі. Крайнюю жóрасць зарубалі і закруцілі хомутом, значыць прыбатавалі.* Пагост Жытк.

## НАЗВЫ ВЯЗАЛЬНЫХ СРОДКАЎ ДЛЯ ЗМАЦАВАННЯ ЗВЕННЯЎ ПЛЫТА

БЕГУ'Н *м.* Тоўстая вяроўка, звітая з бярозы ці ялíны для звязкі паасобных звенняў плыта. Машканы Сен. Бігýн *м. Кручонымі бігунамі крэст-накрэст звязвалі глейні.* Лагаўцы Рас.

БРУНДУ'К *м.* Трос, якім звязваюць плыты паміж сабой. *Ложыцца поперак грабёнкі колода, на эту ко-*

*лоду накладаецца спераду і ззаду брундук.* Пагост Жытк.

ВУ′СЫ *мн.* Пяньковыя вяроўкі для ўмацавання плытоў. *От краю брундука выходзілі вусы, зацэплівалі за край трэцей гонкі з одного боку і другого.* Пагост Жытк.

ГАРДЗЕ′ЛЬ *м.* Вяроўка, звітая з трох-чатырох дубцоў для затрымлівання плытоў і для звязвання паасобных звенняў плыта. *Гардзялé круцяцца з ракіты ў тры-чатыры столкі, ракіціна круціцца, як аборкі.* Бакшты Іўеў.

ГНІВО′ *н.* Тое, што і *бегун. Застругаваецца ў каждай клібіне канцішок конасна, і берём дзьве клібіны і звіваем кальцо для гніва, а патом начынаем віць гніво дліннае, уеш у тры клібіны.* Курына Віц.

КОСЯКІ′ *мн.* Тоўстыя пяньковыя снасці для звязкі плытоў. *На Прыпяці былі косякі з пянька́, тоўстыя.* Пагост Жытк.

НУЗДАКІ′ *м.* Вяроўкі, звітыя з бярозавых або лазовых вітак ці гужбы для звязкі паасобных звенняў у цэлы плыт. *Нуздакі саедзінялі глéйні.* Лагаўцы Рас.

НУ′ЗДЫ *мн.* Тое, што і *нуздакі. Нузды ўсю дарогу дзяржалі ў ходу глéйню.* Беразіно. *Провалака, якая звязвае плыты, гэта тожа нузды.* Палік Барыс.

ПАКЛЕ′СА *ж.* Бервяно, пры дапамозе якога звенні (часткі) плыта злучаліся паміж сабою. Ворнаўка Карм. *Кладзём паклесу па жорасці і саедзіняем грабёнкі, прывязваем іх хамутамі із гужбы і забéліваем забéлкай.* Беразіно.

ПЕРАЦЯ′ЖКІ *мн.* Бярвенні, пры дапамозе якіх умацоўваецца плыт. *Уперак грабёнак на галаве і на задзе клаліся перацяжкі з бравён.* Беразіно.

СНАСЦЬ ПОДСУ′ЧНАЯ. Вяроўка з дубцоў, пры дапамозе якой звязваліся плыты паміж сабой. *Раньше звязываліся грэбёнкі подсучнымі снасцямі, а сейчас шлагуюцца тросамі ў тры лінії.* Пагост Жытк.

ТРОСА′ *ж.* Трос, якім звязваюцца звенні плыта. *Когда подходзілі к грабёнке, дзелалі петлю з троса́ і задзелывалі саму голову жорасці.* Петрыкаў.

ЦЭП *м.* Ланцуг. *До 1966 года сплачывалі гужбой, потом скручэнымі цэпямі.* Пагост Жытк.

ШАРХО′ЎКА *ж.* Драцяны трос, пры дапамозе якога паасобныя звенні плыта злучаліся ў цэлы плыт. Бе-

разіно Докш. *Цяпер шархоўкі з дроту саедзіняюць плыты.* Палік Барыс.

ШАРЦУ'ГА *ж.* Тое, што і *гардзель.* Рыбчына Віл.

ШВА'РА *ж.* Тоўстая драўняная вяроўка для звязкі паасобных звенняў плыта. *Швара з трох гардзялей для звякі лаваў плыта.* Бакшты Іўеў.

ШЛАГ *м.* Металічны трос з пятлёй, якім звязваюцца звенні плыта. *Чэрэз тры грабёнкі шлаг ідзе, за броўна цэпляецца.* Петрыкаў.

ШРЫКО'ЎКА *ж.* Тое, што і *швара. Круцілі шрыкоўкі з берозы і звязвалі глёні наўскрыж.* Хайнуўка Беластоцкага ваяводства.

ШЫРХО'ЎКА *ж.* Вяроўка, звітая з віц, або трос для звязвання паасобных звенняў у цэлы плыт. Пагост Жытк. *Шырхоўка пронімалась под рублік, і ў вуха засажывалася крампа́ла. І металічнымі шырхоўкамі звязвалі плыты.* Хваенск Жытк.

## НАЗВЫ ПРАЦЭСАЎ ВЯЗАННЯ ПЛЫТОЎ

ВЯЗА'ЦЬ ПАД ГВОЗЬДЗЬ. Звязваць бярвенні ў плыты. *Браўно кожнае прыбіваецца гваздзямі да жэрдзі.* Лагаўцы Рас.

ГУЖБАВА'ЦЬ *незак.* Звязваць бярвенні гужбою. *Бярвенні падцягваюць шастамі і гужбуюць.* Холмеч Рэч.

ЗАКНАБЛЁЎВАЦЦА *зак.* Сціскацца пры дапамозе вітак і кнэбля. *Драва вязалі ў гўзкі, падкладалі дзьве жэрдкі пад ніз, патом на жэрдзі клалі драва, наверх дзьве жэрдзі і эці жэрдзі закнаблёўваліся яловымі віткамі.* Лагаўцы Рас.

ЗАПРАЧАВА'НЫ *дзеепрым.* Клін, закручаны прачамі. *Клін запрачаваны.* Саланое Віл.

ЗАПРАЧО'ЎВАЦЦА *зак.* Сціскацца пры дапамозе прачоў. *Клінамі запрачоўваюцца бёрны ў клейнях.* Саланое Віл.

ЗНУ'ЗДАВАЦЬ *незак.* Лагаўцы Рас. Звязваць звенні плыта ў адно цэлае пры дапамозе вяровак, звітых з бярозавых або лазовых вітак. *Як знуздавалі глейні, бралі бігуны.* Лагаўцы Рас.

ЗНУЗДА'ЦЬ *зак.* Тое, што і *знуздаваць. Нада знуздаць глейны бігунамі.* Лагаўцы Рас.

КНЭ'БЛІЦЦА *незак.* Сціскацца пры дапамозе кнэбля. *Бяроза, дуб топіцца, к яму падвязваецца ёлка, между двух штук адзін дуб ілі бяроза кнэбліцца адна к аднэй і называецца падтоп.* Беразіно Докш.

НУЗДА'ЦЬ *незак.* Тое, што і *знуздаваць. Нуздалі глейні адна к адной наўхрэст.* Беразіно.

ПАКЛЕ'СІЦЦА *незак.* Звязвацца пры дапамозе бярвенняў (паклесаў). *Паклесіліс грабёнкі ў трох мястах: з канцоў і пасярэдзіне.* Беразіно.

РАСШЫРХОВА'ЦЬ *зак.* Развязаць шырхоўкі, пры дапамозе якіх звенні плыта злучаліся паміж сабой. *Расшырховаеш караван і праводзіш под мостом одну половіну і другую.* Петрыкаў.

СПАКЛЕ'ШАВАЦЦА *зак.* Тое, што і *паклесіцца. Спаклешаваліс грабёнкі броўнамі.* Беразіно.

ШАРЦОВА'ЦЬ *незак.* Звязваць паасобныя звенні плыта ў цэлы плыт пры дапамозе шарцуг. Рыбчына Віл.

ШЛАГАВА'ЦЦА *незак.* Звязвацца шлагамі. *Шлагуюцца лава к лаве.* Петрыкаў.

ШЛЫГОВА'ЦЬ *незак.* Тое, што і *шлагавацца. Брундук шлыгуе увесь караван.* Пагост. Жытк.

ШЫРХОВА'ЦЦА *незак.* Звязвацца шырхоўкамі. *Да 1955 году плыты шырховаліс дравеснымі шырхоўкамі.* Хваенск Жытк.

ШЫРХОВА'ЦЬ *незак.* Пагост Жытк. *Шырхуем шырхоўкамі лозовымі.* Петрыкаў.

*Г. Ф. Юрчанка*

# НЕКАТОРЫЯ ЛЕКСІЧНЫЯ ГРУПЫ Ў ГАВОРЦЫ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

Пададзеная тут лексіка занатавана на Мсціслаўшчыне, пераважна ў вёсках Чырванагорскага сельсавета. Падзыўныя і пабуджальныя воклічы і выгукі (III група) запісаны толькі ў адной вёсцы Кудрычы.

## ЛЕКСІЧНАЕ ГНЯЗДО З БАЗАВЫМ ДЗЕЯСЛОВАМ *ПЕРЦЬ*

Гэты дзеяслоў ужываецца досыць шырока ў розных значэннях і дае шматлікія прэфіксальныя дэрывацыйныя ўтварэнні. Для самога дзеяслова выяўлены наступныя значэнні.

ПЕРЦЬ *незак.* 1. Перці, напіраць, сунуць з сілай, груба. *Погріб тынковыный, прáвыя стырынá пычылá ат'іжджáць, нешта прець ны яе. Нашто табе перць сюды кол, каб хто прабіўся ны яго. Кылячкі слáбінькія, а вы пріцё сы ўсяе сілы жэрдзя, рузлумаіця ўсё чыста.* 2. Перамяшчаць з вялікай энергіяй. *Пёрлі па ношкі травы, чуць ні ды зямлі гнуліся. Вун пруць вазы, аж коні стогнуць. Дзяржыць, дзяржыць пагоду, а тады як возьміцца перць — неба зь зямлёю мішáіцца. Во ўжо судкі пёрла, ды вады нільзя було дыбрацца. Я цябе знаіш як буду перць ат'етуль, тольха ты ні ўгамўйся.* 3. Рухацца з імпэтам. *Пёрлі некуды ў тэй бок пряма пы пáхыці. Відзім, прёць вогірь, каноплі трішчаць пыд ныгамі. Гляджу: пруць ны калёсых ціріс кусты, як там тэя каткі цэлы астáліся.* 4. *перан. груб.* Даваць. *Нашто ты мне преш яблыкі, куды я іх вазьму. На свой двор ні глядзіць, прець усё дычкáм.* 5. *перан.* Красці. *Аттуля яны пёрлі, што пуд руку пупыдалыся: і аполкі, і доскі, і палкі лáдныя — усё.* 6. *перан. груб. узмацн.* Есці. *Та-*

*кей пражора конь, прець усё пыдрйд, што ні пупадзець. Сядзеў, атвярнуўся, ладкі с салым пёр.* 7. *перан. груб. узмацн.* Гаварыць. *Прець ны яго, што на́ рыт лезіць. Сідзяць, усякыю чуш пруць, нечыга ж дзелыць дзень прі дні.* 8. *перан. узмац.* Расці. *Трыва на бульбі прець, ні спруўляісься ірваць. Удабреніім цімахвеіўку пацьсеілі, дык прець ого як.* 9. *перан. груб.* Апра́наць. *Нашто перць на плечы, і так відна, што многа. Прець адно на дно, ходзіць тады, як куль.*

Ніжэй падаюцца вытворныя ад дзеяслова *перць* з прэфіксамі — усяго 19 дзеясловаў. Шмат якія з іх набылі зусім адрозныя значэнні ў параўнанні з дзеясловам *перць*.

АБПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Прыхінуць. *Аппёр цільпушок аб бярёзку, а ён брязь ды чуць ні пы ныгах.* 2. *узмацн.* Абысці або аб'ехаць вялікую прастору. *У яго сіла нямерныя, ета ж нада кругом Радкеўшчыны аппёр зы два часы. Вун сколька аппёрлі, лі Вяхры́ пыбылі, чаго яны тама шукалі.*

АДПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Адапхнуць з сілай. *Як упёрся, чуць-чуць атпёр, падзьвінуў трошку ўбок.* 2. Адчыніць, адамкнуць, адшчапіць. *Атапрі дзьвері, січас яны падойдуць. Ета я курям атпёр, ніхай пабегыюць. Мне пупаўся замок, што ня дужа атапреш, сьпірва памучыісься.* 3. *груб.* Адвезці або аднесці. *Сколька ты ўжо мяшкоў сва́ту атпёр?*

ВЫ′ПЕРЦЬ *зак.* 1. Высунуць. *Нашто ты етык вы́пір канцы, ішчэ хто зачэпіцца, абреж.* 2. *груб.* Вылезці, высунуцца. *Нейкій гузок выпір ны плячэ. Схудняў, косьці выпірлі і тырча́ць. Зуб выпір, што рота ні сашчэпіш.* 3. Выпхнуць з сілай, выдаліць. *Ныжа́ліся, дык вы́пірлі, ніхай што сільный. Выпірць яго куды-небудзь дужа трудна.*

ДАПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Дабрацца. *Ета ж нада було даперць да Рослыва, чаго яны ў тэй бок ішлі.* 2. *узмацн.* Даставіць. *Як ты дапёр еткыю ношку, тут харошых трі пуды. Ні знаю, ці дапруць яны такея вазы, коні пыпрістаюць.* 3. *груб.* Дагнаць. *Дапру с хлыбазіныю, будзіць бежч, аж пыцскакывыць.* 4. *перан. груб.* Зразумець. *Ці дапёр, у чым тут дзела?* 5. *перан. груб.* Дасягнуць. *Вун чаго дапёр, нычальствым зьдзелыўся: главный кыбінет пыдмітаіць.* 6. *перан. груб.* Даказаць. *Дапреш ты сваё трілюды, палучыш здачы.*

ЗАПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Закрыць, замкнуць, зашчапіць. *Чаго ён ні запёр дзьвярей? Сенцы запёрлі і ляглі спаць, а яны ж як заснуць, с пушкі стріляй — ні пачуюць.* 2. *груб.* Засунуць. *Запёр пробку, што ні ататкнеш.* 3. *перан. груб.* Схаваць. *Некуды запёр вязёнкі, хуць здохні, ні найду.* 4. *узмацн.* Зайсці, забегчы. *Во ўцікалі, зы аборкі запёрлі.* 5. *груб. узмацн.* Аднесці або адвезці. *Запёр нечыга к цёшчы во такую ношышчу. Зь яго сілыю і дзесіць пудоў можна заперць. Запёр у скрысеньня ны бызар вузюга́н сена пудоў дваццыць пяць і яшчэ зьбіраіцца везьць.*

НАПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Наваліцца. *Як напёрлі гурьбою, і вароты зытряшчэлі.* 2. *груб.* Сабрацца, назбірацца. *Чаго іх туды столька напёрла? Сяньня напёрла і ны падводых, і так, і ны машыных, ні прабіцца було ны бызарі.* 3. *груб.* Апрануць. *Напрець ны сябе пулушубык, арьмяк, пыдвяжыцца, дык яму ня то што работыць, а пывярнуцца цяжола.* 4. *груб. узмацн.* Даставіць. *Каб ты толька пыглядзела, чаго ім ны свадзьбу напёрлі. Пасылка зы пасылкыю, напёрлі ўсяго разныга. Столька ўжо напёрла сьнегу ўсюдых, ня выйціць, ні ступіць, трі дні чысьціць нада.* 5. *груб.* Нагаварыць. *Напёрла, нынісла ны чылавека лухты, таму ажно стыдна. Ці ён што лю́дзкыя скажыць, напрець пустога.*

ПАДПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Падставіць падстаўку. *Во патпёр вароты, кыла ня вы́ніш. Пыдапрі дзьвері чым-небудзь, самі яны зычыняюцца.* 2. *узмацн.* Даставіць. *Патпёрлі нечыга ў вузлах, чуць нясьлі і адна, і другая. Свайго з горла прець, а тута зяці пы машыні дроў патпёрлі.* 3. *груб.* Стаць тэрміновым. *Чаго вам так патпёрла у тэй горыд ехыць, а кылі ціpізь нядзелю зьезьдзіця, дык што.*

ПАНАПЕ'РЦЬ *зак. узмацн.* 1. Нанесці, надаваць, надастаўляць, намесці. *Ксьціны ж гулялі два дні, пынапёрлі ім усяго ўсякыга, нясьлі чуць ня ношкымі. І адзін вязець, і другей вязець, і трецьція вязуць, пынапёрлі ім са ўсіх бакоў і дроў, і торху, і сена. Толька рашчы́сьціліся, узноў пынапрець — ня вылізіш, што іта зы зіма сёліта.* 2. *груб.* Нагаварыць. *Іна нейкыя як сыма ні свыя: пынапрець ну людзей, пыпрідумыіць чаго зря.*

ПАПАДПЕ'РЦЬ *зак. узмацн.* Пападстаўляць падстаўкі. *Усё пыпатпёр крепка, ні далжно пыччыніцца, разьві буря ўсходзіцца.*

ПАПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Пачаць рухацца з імпэтам. *Куды б ета яны папёрлі зы бярезьнік чуць дзяньнела? Зыпряглі Орліка і папёрлі пряма, ціріз гару пыд Астрейкывічы.* 2. Пачаць перамяшчаць з вялікай энергіяй. *Папёр яблыкі — зы плічамі пуда пуўтыра́ і кашолка поўныя, грібанець ладна. Здаровыя вазы ныкря́тылі, папёрлі ў горыд. Я цябе січас так папру ат'етуль, што будзіш ляцець — ні знаць як. З раньня пыказывыла ны пагоду, а тады як папёрла, як пынясло, сьвету белыга ні відаць.* 3. *перан.* Украсці. *Глядзі ў воба, тута жыва могуць паперць што хочыш. У такога выранёнка ні папруць?* 4. *перан. груб.* Пачаць гаварыць. *Папёрла ны Йвана за нешта ўсякыю трілюду.* 5. *перан. узмацн.* Пайсці ў рост. *Ны мінірáлкі засівы папёрлі ўверьх. Пад дождж пыткармілі, трыва на лугах папёрла.*

ПАРАСПЕ'РЦЬ *зак. узмацн.* 1. Расцягнуць, распнуць. *Козлы пырасьперць нада, так яны ня будуць дзіржацца. У ножкых аўчыну ўсігда нада пырасьперць палычкымі, якімі лучынкымі.* 2. *перан. груб.* Раздаць. *С такою хызяйкыю ня дужа што ў дваре задзержыцца, пырасьпёрла ўсё пыччыстую.* 3. *перан.* Паадкрываць, паадчыняць. *Усё пырасьпёрла, ніхай праветрііцца, ато ні зайціць у пуні.* 4. *лаянк.* Параздзьмуць. *Ніхай іх пырызапрець, кылі зь іх усё мала! Каб вас пырасьпёрла зь ядою з вашыю!*

ПАСПЕ'РЦЬ *зак. узмацн.* 1. Сапхнуць, сагнаць у адно месца. *Ня дужа накормюць, пасьпёрлі скот у лужу, пыўдня стыяў. Такея ветры сумашэччыя: з бугроў пасьпёрла ўсё, голыя, а ў лашчыны, у кусты набіла.* 2. Паскідаць вопратку, адзенне. *Пымагі яму пасьперць сь сябе мыкряцьцё, ато кыўнярі пытрывáіць.* 3. *груб.* Нагаварыць. *І прасіла, і плакыла, а тады ўжо як узілася лаіць, пасьпёрла ны яго ўсё, што на сьвеці ёсць.*

ПЕРАПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Падперці нанова, іначай. *Було патпёрта і ладна, недж жа, па-свойму піряпёр. Ну піряпрі, калі ні ныравіцца.* 2. Перайсці, пераехаць; перавезці. *І піряпёрлі ж упацёмкых пы тванішчы, тама можна було прываліцца айдзе. Як ён піряпёр воз ціріз балота, там жа глядзі што ў пролыбку ўскочыш. Вот неік піряпёрлі з вызамі ды пы такой дарогі уноччы.* 3. *груб.* Паперадаваць. *Многа чаго піряпёр сёстрым, беднінькія яны дужа. Што чаго піряпёрлі за Сож, сваім,— мала хто знаіць.* 4. *перан.* Перакананаць у іншым.

*Трудна такога ўпоріну піряперць: я праў і ўсё. Мы яго ўтраіх чуць піряпёрлі, што нечыга карову збуваць.*

ПРАПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Прасунуць. *Ета гліняныя сьціна, дык яе колым прапёр.* 2. *груб.* Адправіць. *Трудна праперць куды, ішчэ як пыд ныстраенія уладзіш. Зяця свайго прапёрлі ўжо, дужа доўга набыў.* 3. *узмацн.* Пранесці або правезці. *Узяўся: во, што мне тут несьць, прапёр гоніў двоя — брязь аб зямлю. Пыд балькымі воз чуць прапёр: дужа вісока ныкладжына.*

ПРЫПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Прыставіць. *Пріпрі к ліпі цяльпух і ніхай пыстаіць, січас, піряреэжым.* 2. Прычыніць. *Пріпёрла, замок біс ключа павесіла. Трошку пріпёр ны палычку, хто туды пойдзіць.* 3. Даставіць. *Пріпёр скот ны пáхыту, скруціў у пылі і стойця. Я свайго прýтым аттуля пріпёрла. Ён жа адзін пріпёр ета бярно, у ім, верна, пудоў восім. Здыраву́шчый воз хворысьця пріпёр, нада було прілáдзіцца ўзлажыць столька.* 4. *груб.* З'явіцца (прыйсці, прыехаць). *У зыработкі пашоў — цірізь нядзелю пріпёр: любуйціся ны яго.* 5. *перан.* Паставіць у безвыходнае становішча. *Як пріпёрлі: айдзе быў, сколька ні круціўся, а сызнаўся.* 6. *перан. груб.* Захацецца. *Пріпёрла табе ету мінуту бежч у мыгазін, пыдажджэць трошку.*

РАСПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Распнуць. *Перша чым зьбіваць, нада расьперць прáвільна, каб роўнінька пулучылыся.* 2. *груб.* Надзьмуць вельмі. *Клевіру мыладога карова ныхвыталыся, зывалілыся, бакі расьпёрла як гару, чуць віцінар атрітувáў. Ніхай вас саміх рызапрець ж жáдныцьцю з вашыю!* 3. *перан. груб.* Раздаць. *Вовінка тыкая харошыя была, мяккыя, доўгыя, усю расьпёрла.*

СПЕ′РЦЬ *зак.* 1. Сапхнуць, сцягнуць, зрушыць. *Тута ўсё так зьлежылыся, зь места ні сапреш. Чуць сьпёрла сь печы, к каровам пыслала. З балік палена чуць-чуць сьпёрлі, цяжолыя. Знаць, увесь сьнег атаўсюль сьпёрла ў ету зыкаву́ліну, с крышымі зруўняла.* 2. *груб.* З'есці. *Дужа я буду трухтувацца, такея госьці чорта сапрýць.* 3. *перан.* Украсці. *Ідзі, ды глядзі, варон ні лаві, тама дужа ні пычыкáнюцца с табою, уміг сапруць што хочыш.* 4. *перан.* Сказаць. *Сьпёрла на іх усё, што нá рыт лезла. Доўга яму ні падумыўшы сьперць што зря?* 5. *перан.* Пахіснуць у поглядах, перакананнях. *Калі ў чым увеціўся, ня дужа сапреш. Ого, сьперць такую упоріну ў чым-небудзь паспробый!*

УПЕ'РЦЬ *зак.* 1. Уперці. *У сьцяну я крепка ўпёр, а ўнізу твой канец нічога не дзяржыць.* 2. *груб.* Даць або прадаць. *Нашто яны ўпёрлі мне етыя валінкі, я іх ні насіла і насіць ні стану, будуць выляцца. Ны бызарі, буваіць, замест харошыга ірунду ўвапруць.* 3. *груб.* Усунуць. *Нада няныва гліну мясіць, зугусьцела за́ ныч, што лупаткі ні ўвапреш.*

УСПЕ'РЦЬ *зак.* 1. *груб.* Даставіць уверх. *Нашто ж ты саку ўсьпёр ны хату, іна і ў стажку пыляжыць, а туды нада што луччыя. Кажыцца, па віду ніцяжолыя балька, а чуць усьпёрлі ны сцяну. Ні знаю, як яны ўзапруць такея вазы на ўзгорык, тут крутувата.* 2. *груб.* Апрануць. *Во надзеўся: пінжак, пулушубык, а наверьх тулуп усьпёр, як у ізвоз сыбіраіцца.*

## СІНАНІМІЧНЫ РАД З ДАМІНАНТАЙ *ЗАМАРЫЦЦА, ЗАК.*

ЗАМАРЫ'ЦЦА. Стаміцца, адчуць стомленасць. *Зымарылыся, ні змыга мыя большы іціць, сяду пысяджу.*

СТАМІ́ЦЦА *кніжн. рэдк.* Тое ж. *Стаміўся, ня хочыць ні піць, ні есць, гаворіць, толька б аддыхнуць.*

УТАМІ'ЦЦА *кніжн. іран.* Тое ж. *Віджу, віджу, утаміліся, вам і грабількі дужа цяжолы.*

НАМАРЫ'ЦЦА. С. раптоўным заняткам, працай. *Нымаріўся нач шульлім, а ну яго дзіўбаць, луччы б у луг са ўсімі паехыў.*

УМАРЫ'ЦЦА *іран. рэдк.* Тое ж. *Ну як жа, ня трогый іх, яны умаріліся ціряшчур, цэлыю вярсту пяшком булку хлеба нясьлі.*

ПЕРАТАМІ'ЦЦА *кніжн. рэдк.* С. вельмі. *Жджы толька, Пырхвянёнык табе пірятоміцца, ён за ўсё любіць брацца.*

НАТОПАЦЦА. С., завіхаючыся каля гаспадаркі. *Ладна за́ дзінь натопыісься, к вечару толька б пірякінуцца.*

НАТУ'ПАЦЦА *рэдк.* Тое ж. *І ня зьдзелыла дужа нічога, а натупылыся большы чым нада.*

ЗАТОПАЦЦА. С., у спешцы завіхаючыся каля гаспадаркі. *Затопылыся лі гаршкоў ды чугункоў зы раньня, толька пірідыхнуць ба мінутычку.*

ЗАТУ'ПАЦЦА *рэдк.* Тое ж. *Ні хыця затупыісься, кылі дзесіць дзел зразу у рукі лезіць.*

ДАТОПАЦЦА. С. канчаткова, завіхаючыся каля гаспадаркі. *Так датупылыся, што ні піць, ні есьць змагі німа, лежч ба і ні пыдымацца.*

ДАТУ'ПАЦЦА *рэдк.* Тое ж. *Датупыўся я ўжо ды кынца, нікуды ні пайду, самі йдзіця кылі хочыця.*

УХАДЗІ'ЦЦА. С. у бесперапынным руху. *Што ты хочыш пуню гною вынысіць ды выкінуць, чаму ня ўходзісься.*

ЗАХАДЗІ'ЦЦА. С. вельмі ў бесперапынным руху. *Ну што мы зьдзелылі, нічога дужа ня зьдзелылі, а зыхадзіліся саўсім.*

ДАХАДЗІ'ЦЦА. С. празмерна ў бесперапынным руху. *Другей раз нічога, цягніш, а другей раз як даходзісься, што ложку к роту паднесьць німа сілы.*

ЗНЯСІ'ЛЕЦЬ. С., страціўшы сілу. *Нат погрібым зьнясіліў і нада зырываць: усё рушыныя, сьцены ня дзержуцца.*

АБЯССІ'ЛЕЦЬ. Тое ж. *Ірвануў хырашэнька, ды яшчэ рана ўстаўшы, ну й абясьсіліў. Абясьсіліць нядоўга, ныбрацца сілы ціжалей.*

АБНЯСІ'ЛЕЦЬ *рэдк.* Тое ж. *Ня думыў я, што ты так абнясіліў: і трёх пудоў ні пынясеш.*

ІЗНЯСІ'ЛЕЦЬ *рэдк.* Тое ж. *Гады́ ня тэя: трі штындаркі аптоўк і ізьнясіліў. Абоя ізьнясілілі, нічога ня стоім.*

НАЦЯГА'ЦЦА. С. значна, ходзячы. *Ныцігаісься, а тады на печ, пріпадзеш к поду, аж у кысьцях неік ляхчэй ста́ніць.*

ЗАЦЯГА'ЦЦА. С. вельмі ходзячы. *Вы, відна, саўсім зыцігаліся, садзіцісь-ка скарей к сталу.*

ДАЦЯГА'ЦЦА. С. канчаткова ходзячы. *Дыцігаўся зы скатом, што чуць на пол узьлез, а каб ны пылаці — пыцсаджывылі б.*

НАМАРДАВА'ЦЦА. С. пры цяжкой важданіне. *Нумурдуваўся лі шула, чуць выцігнуў: с сукым було.*

УМАРДАВА'ЦЦА *рэдк.* Тое ж. *Лі кыпца кылі людзей мала, то ўмардуісься.*

ЗАМАРДАВА'ЦЦА. С. вельмі пры цяжкой важданіне. *Ня столька тае работы, як зумурдуваліся.*

ЗМАРДАВА'ЦЦА *рэдк.* С. да рэшты пры цяжкой важданіне. *Змарду́ісься, дык толька каб прілежч.*

ЗАМУШКА'РЫЦЦА. С. празмерна. *Чаму ні зумушка́ріцца — еткій кусок сыгнаць.*

ЗАМУШКА'РДЗІЦЦА. Тое ж. *І адзін зумушкардзіўся ладна, і другей, чуць жывэя пріпляліся.*

УПА'РЫЦЦА. С. да поту. *Ім тама хваціла, упáріліся, ішлі — ажно хісталіся.*

ЗАПА'РЫЦЦА. Тое ж. *Зыпаріліся мы так сяньня, што ні ды вічарінкі, толька ды пасьцелі скарей.*

ЗАМАТА'ЦЦА. С. вельмі ў спешцы. *Нейкій дзень сумашэччый, зымыталіся ды пасьледніга.*

УМАТА'ЦЦА *рэдк.* Тое ж. *Каб хто-небудзь памог трошку, я так ба ні ўмытаўся.*

ВЫ'МАТАЦЦА С. да рэшты ў спешцы. *Вымытыўся — большы некуды, каб толька пысядзець.*

ЗДАЦЬ *перан.* С. канчаткова, да абыякавасці. *Я ўжо здаў, нада аддыхнуць, большы ні магу.*

ЗДА'ЦЦА *перан.* Тое ж. *Што хочыш дзелый, я ўжо здаўся, і рук пыдняць ні магу .*

ДАЙЦІ'ЦЬ *перан.* С. да поўнай знямогі. *Дайшоў лі пацсошкый, чуць жыў, я ж іх столька ныцісаўся!*

УБІ'ЦЦА. С., аслабеўшы канчаткова. *Столька тых быракоў, а так убіўся, пакуль выкыпыў.*

ВЫ'БІЦЦА. Тое ж. *Ні хваліся, за сорык вёрст у дровы зьездзіўшы, выб'ісься.*

УБУ'ХАЦЦА. С. вельмі ў выніку працяглых і цяжкіх намаганняў. *Ніўдзе ні разу так ні зымáрівыўся, як сяньня ўбухыўся ныт кынавыю. Што ты хочыш погріб за дзінь выкыпыць, убухыісься так, што ні рукою, ні нагою ні пышавеліш.*

ПРЫЧЫ'ГАЦЦА. С. вельмі (пра непрывучанага да працы). *Яны скора прічы́гыліся, што ты хочыш біс прівычкі.*

ДАЧЫ'ГАЦЦА. Тое ж. *Дачы́гыўся ды пасьледніга большы ня можыць, ета зразу хрáбір быў.*

ПРЫСТА'ЦЬ. С. да немагчымасці рухацца (пра каня); *гумар.* (пра чалавека). *Нашы коні прісталі пыч Шамывым, рыспрігалі, кармілі. Што ты, прістаў зы адзін час, ішчэ далёка чáпыць.*

ЗДАРОЖЫЦЦА. С. у працяглай хадзе. *Здарожыўся, зваліўся і заснуў — і есьць ні ўзяў.*

ПРЫЦЮ'ПАЦЦА. С. у выніку аднастайных рухаў, хады (звыч. пра слабага фізічна). *Дарога ладныя, пріцюпыісься, вазьмі чаго ў кырман.*

ПРЫЦЮ'ХАЦЦА. Тое ж. *І ня зьдзелыў, кажыцца, нічога зá дзінь, а пріцюхыўся — толька бы пыліжаць.*

ПРЫЦЁПАЦЦА. Тое ж. *З раньня ўзяліся за косы дружна, а к вечыру пріцёпыліся.*

ПРЫЦЁХАЦЦА. Тое ж. *Ні бярі так, ні хвытайся, пасьпеіш яшчэ пріцёхыцца.*

ЗАЦЮ'ПАЦЦА. Тое ж. *Пакуль туды ды нызад, ды яшчэ пад'есьць ні пасьпеў, дык саўсім зацюпыўся.*

ЗАЦЮ'ХАЦЦА. Тое ж. *Так зацюхыўся, што лёг і вычамі ні лупнўў, зразу заснуў.*

ЗАЦЁПАЦЦА. Тое ж. *Зацёпыўся, што чуць прівалокся, каб яшчэ вірста — ні дайшоў ба.*

ЗАЦЁХАЦЦА. Тое ж. *С карзінкымі лі кыпца зацёхыўся: то пыдай, то высып.*

АДСТА'ЦЬ АД НОГ. С. у час хадзьбы. *З раньня нічога, ішоў, а к вечару саўсім ацстаў ат ног.*

АСТА'ЦЦА БЕЗ НОГ. Тое ж. *Я бяз ног астаўся, чуць хаджу, а ён сядзіць сабе з газеткыю і дайжа ў тэй бок ні глядзіць.*

УБІ'ЦЦА Ў ПЕНЬ. С. вельмі ў час хадзьбы. *Пыц самыя Шымава зайшлі, у пень убіліся.*

ЗБІ'ЦЦА З НОГ. Тое ж. *Што ты хочыш — у Крічыў туды і нызад зьлётыць з ног саб'есься.*

ЗВАЛІ'ЦЦА З НОГ. С. у хадзе да немагчымасці рухацца. *Сядзь, пірідыхні, з ног звалісься к вечыру, дарога ішчэ дужа далёкыя.*

ЗВАЛІ'ЦЦА З КАПЫЛЛЯ. Тое ж. *Дальшы ні пайду, ні магу, с капыльля зваліўся.*

АДСТА'ЦЬ АД РУК. Стаміцца працуючы. *Столька снапоў пірiцігаць — ат рук ацстаніш.*

АСТА'ЦЦА БЕЗ РУК. Тое ж. *Ты ніхай астаўся бяз рук, а ён дужа ні хваціць, ні пірярьвецца.*

## ПАДЗЫЎНЫЯ І ПАБУДЖАЛЬНЫЯ ВОКЛІЧЫ І ВЫГУКІ І ВОКЛІЧЫ-КАМАНДЫ

Падзыўныя воклічы да каня. *Кось-кось-кось* — пераважна гучна, здалёку. *Соў-соў-соў* — ціха, зблізку. *Кося-кося-кося, коська-коська-коська* — ласкава. *Касют-касют-касют, касютка-касютка, касютачка-касютачка* — вельмі ласкава.

Падзыўныя воклічы да жарабя. *Тпроль-тпроль-тпроль*[1], *тпроля-тпроля-тпроля* — звычайна. *Тпролька-*

[1] Выгукі са спалучэннем *тпр* утвараюцца шляхам выштурхвання паветра праз сціснутыя вусны.

*трolька-тролька* — ласкава. *Тролінька-тролінька, тролічка-тролічка* — вельмі ласкава.

Спынальныя выгукі да каня. *Тпру!* — звычайна. *Тпру стой!* — калі ловяць на пашы або запрагаюць. *Тр-р-р!* — суцішальна. *Чш-ш-ш!* — суцішальна пры спуску з гары, пры хуткай яздзе.

Выгукі, якімі пабуджаюць каня да піцця. *Фіў-фіў-фіў* (ціхае пасвістванне).

Воклічы да каня пры адварочванні. *Тпру куды! Куды назад! Куды пашоў (пашла)! Куды палез (палезла)!*

Воклічы, якімі адганяюць жарабя. *Тпролінь! Тпролінь куды! Тпролінь назад! Тпроля! Тпроля куды! Тпроля назад! Шынь! Шынь куды! Шынь назад! Шылінь! Шылінь куды! Шылінь назад! Шыль! Шыль куды! Шыль назад! Шыля! Шыля куды! Шыля назад!*

Выгукі, якімі падганяюць каня. *Ціцюп!* — ціха з паторгваннем лейцамі (цмоканне праз сціснутыя вусны). *Но-о! Нэ-э!* — голасна, часта з працягам. *Но пашоў (пашла)!* — пераважна ў плузе, баране, у гружаным возе.

Ставячы ў аглоблі або гужы, каню загадваюць *Назад!* або *Упярод!* Калі конь наступіць на вупраж, камандай *Нагу!* яго прымушаюць падняць нагу. Пры гэтым часам бяруцца за нагу рукою або злёгку пастукваюць па назе пугаўём. Калі каня путаюць на пашы, камандай *Нагу!* яго пабуджаюць прыставіць бліжэй адну нагу да другой.

Падзыўныя воклічы да каровы. *Тпрузей-тпрузей-тпрузей, цёсь-цёсь-цёсь* — звычайна. *Тпрузейка-тпрузейка-тпрузейка, тпрузеічка-тпрузеічка, цясют-цясют-цясют, цясюта-цясюта-цясюта, цясютка-цясютка-цясютка, цясютачка-цясютачка* — ласкава.

Падзыўныя воклічы да падцёлка, а часам і да маладой каровы. *Цялуш-цялуш-цялуш, цялух-цялух-цялух* — звычайна. *Цялуша-цялуша-цялуша, цялушка-цялушка-цялушка* — ласкава.

Падзыўныя воклічы да цяля. *Тпрусют-тпрусют-тпрусют, тпрю-тпрю-тпрю, тпрусь-тпрусь-тпрусь, тпруся-тпруся-тпруся, тпруська-тпруська-тпруська* — звычайна. *Тпрусюта-тпрусюта-тпрусюта, тпрусютка-тпрусютка-тпрусютка, тпрусічка-тпрусічка, тпрусінька-тпрусінька, тпрусютачка-тпрусютачка, тпрусютанька-тпрусютанька*—ласкава. Да цяля-бычка існуюць яшчэ асобныя во-

клічы. *Бысь-бысь-бысь, быся-быся-быся, быська-быська-быська* — звычайна. *Бысют-бысют-бысют, бысютка-бысютка-бысютка, бысінька-бысінька, бысічка-бысічка, бысютачка-бысютачка* — ласкава.

Выгукі, якімі падганяюць карову. *Пашла! У табун! У пастух! Да табуна! Да пастуха! У пуню! На места! Да вады!* [пры гэтым звычайна дадаецца клічка].

Выгукі, якімі падганяюць цяля. *Цялух! Тпрусінь! Тпруська! Тпрусь!* На цяля-бычка існуюць яшчэ асобныя выгукі. *Бысь! Быська! Бысінь! Бысічка!*

Воклічы да каровы пры адварочванні. *Назад! Азад! Куды назад! Куды азад! Куды! Куды пашла! Ану куды!*

Воклічы да цяля пры адварочванні. *Тпрусь куды! Тпрусінь куды! Тпруська куды! Тпрусічка куды! Цялух куды!* Да цяля-бычка існуюць яшчэ асобныя воклічы. *Бысь куды! Быська куды! Бысінь куды! Бысічка куды!*

У час даення карове загадваюць *Стой!* Калі пры гэтым неабходна, каб карова зручней паставіла нагу, ёй загадваюць *Нагу!*

Падзыўныя воклічы да авечак. *Шучу-чу-чу, шут-шут-шут, шута-шута-шута, шуты-шуты-шуты, шутка-шутка-шутка, шуткі-шуткі-шуткі* — звычайна. *Шутачка-шутачка-шутачка, шутачкі-шутачкі-шутачкі* — ласкава. Зрэдку ўжываюцца воклічы *бэр-бэр-бэр, чук-чук-чук, чукі-чукі-чукі*. Аднаго барана часам падзываюць *баран-баран-баран, барусь-барусь-барусь*.

Воклічы, якімі падганяюць і адганяюць авечак. *Шкырь! Шкыря! Ашкырь! Ашкыря! Шкырінь! Шкырь куды! Шкыря куды! Ашкырь куды! Шкырінь куды!*

Воклічы, якімі заганяюць авечак у хлеў. *Шкырь (шкыря) удвору! Шкырь (шкыря) у пуню! Шкырінь удвору! Шкырінь у пуню!*

Падзыўныя воклічы да ягнят. *Сюр-сюр-сюр, сюрок-сюрок-сюрок, сюрка-сюрка-сюрка* — звычайна. *Сюрачкі-сюрачкі, сюрінькі-сюрінькі, сюрёначкі-сюрёначкі* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць ягнят. *Сюр! Сюрінь!*

Падзыўныя воклічы да свінней. *Дзю-дзю-дзю, дзюш-дзюш-дзюш, удзет-удзет-удзет* — звычайна. *Дзюша-дзюша-дзюша, дзюшка-дзюшка-дзюшка, дзюшачка-дзюшачка, дзюшанька-дзюшанька* — ласкава. Свінню да парасят падзываюць *лёх-лёх-лёх*. Вепрука падзываюць *кабась-кабась, кабаська-кабаська, кабасёк-кабасёк*.

Цэлая група воклічаў служыць для падзывання як свінней, так і парасят. *Дзюль-дзюль-дзюль, дзюля-дзюля-дзюля, дзюлі-дзюлі-дзюлі, дзюлька-дзюлька-дзюлька* — звычайна. *Дзюлёк-дзюлёк-дзюлёк, дзюлінька-дзюлінька (дзюлінькі-дзюлінькі), дзюлічка-дзюлічка (дзюлічкі-дзюлічкі)* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць свінней. *Юс! Юс куды! Цу куды! Цу!*

Воклічы, якімі адганяюць парасят. *Выць! Выць куды! Дзюлінь! Дзюлінь куды! Цю! Цю куды! Дзюль куды! Уцю! Уцю куды!*

Воклічы, якімі заганяюць свінней у хлеў. *Юс у пуню! Цу ў пуню!*

Воклічы, якімі заганяюць парасят у хлеў. *Выць у пуню! Дзюлінь у пуню! Цю ў пуню! Дзюль у пуню! Дзюля ў пуню! Дзюлька ў пуню!*

Падзыўныя воклічы да сабакі. *На-на-на, нах-нах-нах, цю-цю-цю, цюцька-цюцька-цюцька, цюцік-цюцік, фіў-фіў-фіў* (пасвістванне) — звычайна. *Цюцінька-цюцінька, цюцічка-цюцічка* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць сабаку. *Вон! Пашоў* (*пашла*) *вон!*

Пабуджальныя воклічы да сабакі. *Двору! Пашоў (пашла) двору! Кусі-кусі-кусі! Кусу-кусу-кусу! Вазьмі! Бяры! Узяць!*

Падзыўныя воклічы да ката. *Кыць-кыць-кыць, кыці-кыці-кыці, кыця-кыця-кыця, кыс-кыс-кыс, кыса-кыса-кыса, катусь-катусь-катусь* — звычайна. *Кыцька-кыцька-кыцька, кыска-кыска-кыска, катуська-катуська-катуська, кыцінька-кыцінька, кыцічка-кыцічка, кысачка-кысачка, катусёк-катусёк* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць ката. *Псік! Апсік!* Рэдка *брысь!* (тлумачыцца як «прывезенае са свету»).

Падзыўныя воклічы да курэй. *Пырь-пырь-пырь, пыря-пыря-пыря, пыры-пыры-пыры* — звычайна. *Пырькі-пырькі-пырькі (пырька-пырька-пырька), пырычкі-пырычкі (пырычка-пырычка), пырынькі-пырынькі-пырынькі* — ласкава.

Падзыўныя воклічы да квактухі. *Кош-кош-кош, коша-коша-коша* — звычайна. *Кошанька-кошанька, кошачка-кошачка* — ласкава.

Падзыўныя воклічы да куранят. *Ціп-ціп-ціп, ціпа-ціпа, ціпы-ціпы-ціпы, ціпуль-ціпуль-ціпуль, пыль-пыль-пыль, пыля-пыля-пыля, пылі-пылі-пылі, пуль-пуль-*

*пуль, пуля-пуля-пуля, пулі-пулі-пулі* — звычайна. *Ціпкі-ціпкі-ціпкі, ціпачкі-ціпачкі, ціпулькі-ціпулькі, ціпанькі-ціпанькі, пылькі-пылькі-пылькі, пылічкі-пылічкі, пылінькі-пылінькі, пулькі-пулькі-пулькі, пулічкі-пулічкі, пулінькі-пулінькі* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць курэй. *Кыш! Пырінь!*

Воклічы, якімі адганяюць куранят. *Ціпынь! Пылінь! Пулінь! Кыш!*

Падзыўныя воклічы да гусей. *Гыля-гыля-гыля, гусь-гусь-гусь, гусі-гусі-гусі.*

Воклічы, якімі адганяюць гусей. *Гусінь! Кыш! Ш-ш-ш!*

Падзыўныя воклічы да качак. *Вуць-вуць-вуць, вуці-вуці-вуці, вуця-вуця-вуця* — звычайна. *Вуцінькі-вуцінькі* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць качак. *Вуцінь! Кыш! Ш-ш-ш!*

Падзыўныя воклічы да галубоў. *Вуль-вуль-вуль, вулі-вулі-вулі, вуля-вуля-вуля* — звычайна. *Вулінькі-вулінькі, вулічкі-вулічкі* — ласкава.

Воклічы, якімі адганяюць дзікіх птушак. *Кыш!*

Ваўкоў палохаюць воклічам *туга-туга-туга!*

*Г. У. Арашонкава*

# З ДЗЕЯСЛОЎНАЙ ЛЕКСІКІ ГАВОРАК БРЭСЦКА-ПІНСКАГА АРЭАЛА

Дзеясловы, якія прыводзяцца ніжэй, запісаны ў в. Азарычы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці ў 1969 г. у час экспедыцыі па збіранню дыялектных матэрыялаў для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа [1].

У артыкуле падаюцца два асноўныя віды дзеяслоўных рэгіяналізмаў. З аднаго боку, гэта дзеясловы, якія не адзначаны ў дыялектных слоўніках беларускай мовы, г. зн. спецыфічна палескія дзеясловы, і, з другога — вядомыя дзеясловы, якія ўжываюцца ў гаворцы ў асаблівым значэнні ў параўнанні з беларускай літаратурнай мовай або іншымі беларускімі гаворкамі. Некаторыя з прыведзеных дзеясловаў адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў прэфіксамі. Не падаюцца дзеясловы, якія адрозніваюцца ад літаратурных толькі фанетычнымі варыянтамі прыставак, напрыклад: *зобра́цца* — сабрацца, *зогні́ті* — згніць, *зойті́* — узысці, *зомня́ті* — змяць, *зоско́чыті* — ускочыць, *схоте́ті* — захацець, *зогрэбті́* — згрэбці, *зогна́ті* — сагнаць і некаторыя іншыя.

ВОЕВА'ЦЦА *незак.* Ваяваць. *Як Апонія воеваласа із рускімі, так рускі солдаты гэтого склада нашлі.*

ВЫ'СЕКАТІ *зак.* Высмаркаць. *Высекай носа свойму дітяті, які вэн соплівый. Тое ж. Ставы Кам.*

ГОЛОДОВА'ТІ *незак.* Галадаць. *У войну мы голодовалі.*

ДІВІ'ЦЦА *незак.* Глядзець. *Бэжы кіно дівіса. Очы дівляцца, а нэ бачут. Одворэтно на его дівітіс.*

---

[1] Прыклады з Брэсцкага, Жабінкаўскага і Камянецкага раёнаў (далей скарочана Брэсц., Жаб., Кам.) паведамілі М. П. Лукашук, В. М. Емельяновіч і Г. М. Малажай (кафедра беларускай мовы Брэсцкага педагагічнага інстытута), за што аўтар ім вельмі ўдзячны.

Е'СЬТЯ *дзеясл.* Ёсць. *Богатыр, усёго у ёго есьтя.*

ЖЫ'ТІ *незак.* Праводзіць час, быць. *Нэ жыві у іх дойго, а прыходь додому, будем вечэраті.* Тое ж. Рагозна Жаб.

ЗАДАВА'ТІ НЫРЦА'. Нырацъ.

ЗАДА'ТІ НЫРЦА'. Нырнуць. *Одін нырца задаў і утопіўса.*

ЗАЙМА'ТІ *незак.* Чапаць. *Катя, нэ займай ёго, а то вэн як заплачэ.*

ЗАПАДА'ТІ *незак.* Недамагаць, часта хварэць. *Мой Лёня западае на лёхкіе.* З а п а д á т ы. Ставы Кам.

ЗАПЕРАЗА'ТІ *зак.* Падперазаць. *Запаражут поеса.*

ЗАПІ'КВАЦЦА *незак.* Заікацца. *Пікавый чоловек, бо вэн запікваецца.* З а п ы́ к у в а ц ц а, п ы́ к а в ы. Агароднікі, Мельнікі, Ставы Кам.

ЗАПНУ'ТІ *зак.* Завязаць (фартух). *Запну хвартуха, і спонніца буде чыста.*

ЗАРОДІ'ТІ *зак.*, я зародю́. Нарадзіць, радзіць. *Вона зароділа хлопца. Я свого Сашу летом зароділа.*

ЗАРОДІ'ЦЦА *зак.* Нарадзіцца. *Блізнята ў яе, две девочкі, одна в дэветь часоў зароділаса.*

ЗАСТРА'ГТІ *зак. перан.* Забавіцца, затрымацца. *Вона застрагла дето, нэма дойго.*

ЗАТЛУ'МЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Недагледжаны, заморайы. *Курэнята затлумлены, бэз курыцы, то подохнут.* З а т л у́ м л е н ы. Ставы Кам.

ЗАХОВА'ТІ *зак.* Пахаваць (пра мерцвяка). *Ёго нэ заховалі на моліцах.*

ЗАЧА'ТІ *зак.* Пачаць. *Кэньмі зачалі гораті.*

ЗГРОМУ'ЗДІТІ *зак.* Здратаваць, стаптаць. *Згромузділі коні овёс, потраву веліку зробілі.*

ЗРЭ'ЗАТІ *зак.* Скроіць. *Мамо, зрэж мне платте.*

ЗЫСКА'ТІ *зак.* Запатрабаваць, выклікаць. *Вона заехала на Сахалін. Тоды узела зыскала і мэне до сэбе.*

КАРА'БНУТІ *зак.* Царапнуць. *Кэт карабнуў, шчо оставса знак.* К а р á б н у т ы. Кут Кам.

КАСОВА'ТІ *незак.* Забіваць, знішчаць. *Я відела, як воны людей касовалі.* П о к а с о в á т і *зак.* Знішчыць. *Лес посьсекалі, то каліну покасовалі.* С к а с о в á т і *зак.* Знішчыць, здратаваць, стаптаць. *Пашню скасовалі статком, жывёлом скасовалі. Фашысты людей мнэго скасовалі.*

КВІТКОВА'ТІ *незак.* Прадаваць білеты. *Квіткуй іх,*

*і поедем.* Оквітковáті *зак.* Прадаць білет. *То оквіткуй, еду у Логішын.*

КВІЧА'ТІ *незак.* Пішчаць. *Свіння квічат.*

КЕ'ШКАТІ *незак.* Мяшаць, варочаць. *Кешкала вуглі ў печы.*

КЛІ'ШАТІ *незак.* Ступаць, ставячы ступні пяткамі ўнутр, а наскі ўбакі. *Клішавы чоловек яг ідэ, то клішае.* Клы́шаты. Ставы Кам., Кустын Брэсц. *Парайн.* клышня́вый — кульгавы. Плоска Брэсц.

КЛОПОТА'ТІ *незак.* Клапаціцца. *Нэма кому клопотаті за мной.*

КЛЫБА'ТІ *незак.* Кульгаць. *Жоночына клыбатая, клыбае.*

КОЛОТІ'ТІ *незак.*, я колотю́. Размешваць. *Колотю муку на бліны.* Поколотíті *зак.* Размяшаць, разбоўтаць. *Дай поколотю каву. Поколоті воду, шчоб скорэй холóдала.* Поколоты́ты. *Кашу поколоты, шчоб ны прыгорэла.* Ставы Кам. *Парайн.* поколоты́ты — зрабіць мутным, памуціць. *Коровы поколотылы воду.* Кустын Брэсц.

КОМПОНОВА'ТІ *незак.* Сябраваць. *З ею ніхто нэ компонуе.*

КОРПЕ'ТІ *незак.* Трывожыць, хваляваць. *Началі воропланы густе, а мене корпіт-корпіт, і я пошла, а там горыть село.*

ЛА'ДІТІ *незак.*, я лáдю. Рамантаваць. *Грэблю пойдэмо ладіті.* Полáдіті *зак.* Адрамантаваць, прывесці ў парадак, паправіць. *Хвайно поладіў двэра. Дай поладю тобе штаны, а то зваляцца.*

МЕ'ШКАЦЦА *незак.* Рабіць памалу. *Мешкаесса ты доўго, вот нэповоротліва деўка.*

МУТІ'ТІ *незак.*, я мутю́, *перан. асудж.* Гаварыць няпраўду, выдумляць. *Ой, нэ муті, ты мутіш, жэніх ее хвайны. Мутач, нігды праўды нэ скажэ, всэ мутіт. Парайн.* му́тя — той, хто гаворыць абы-што.

МЭРГОВА'ТІ *незак.* Патрапляць. *Мэргу́ю, мэргу́ю у вэдро, а молоко бэжыт у рукаў.*

НАГНЕ'ВАЦЦА *зак.* Разгневацца. *Чого ты нагневаласа на мэне?*

НАГНУ'ТІ *зак.* Настаяць на сваім, намагчыся. *Я на свойму нагну, вэн буде учыцца, а то захотеў кінуті.*

НАПНУ'ТІ *зак.* Накрыць. *Нэ было опінанкі, радюшкой напнула малэе дітя.*

НАПРЭ'ГТІ *зак.* Моцна пабіць, адлупцаваць. П о н а п р э г á т і. Тое ж (многіх). *Понапрэгаю вас, деті, нэ лазьте у садок.* П о п р á ж ы т ы. Ставы Кам.

НАТРЫБУСІ'ТІ *зак.* Натрэсці. *Натрыбусіла яблык і буду зобіраті.*

НЕОБО'ЛІТІ *незак.* Не спрыяць чаму-н., не жадаць дабра. *Усе бабы у сэле необолят нас, шчо мы умней усех.* Н э о б ó л ы т ы. Ставы Кам.

ОДМЭ'НТІТІ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *Я тэбе добро одмэнтю.*

ОДХЛУ'ДІТІ *зак. экспр.* Тое ж, што і *одмэнтіті. Бэрóзіною одхлуділа кота.*

ОКІ'НУЦЦА *зак.* Азірнуцца. *Я окінулася назад, чы далеко од мэнэ машына.*

ОПІНА'ЦЦА *незак.* Накрывацца. *Опіначкою тольκі опінаюцца.* О п ы н á т ы с я. Прылукі Брэсц. О п н ý ц ц а *зак.* Абкрыцца. *Опнулася хусткою і зогрэласа.* О п н ý т ы с я. Ставы Кам., Кустын Брэсц.

ОПЛІ'СКАТІ *зак.* Апырскаць. *Кроўю опліскала усю морду.* П л ы́ с к а ц ц я — пырскацца. Ставы Кам.

ОПОВІВА'ТІ *незак.* Спавіваць. *Оповівалі дэтэй, коло боку ручкé клалі.* *О п о в і т і* *зак.* Спавіць. *Спросонья оповіла голову, нэ нэгі дітяті, легла, а сніцца маті покэйніца, прочнуласа я, а то заткнулосо б дітя.*

ОПОЧЫ'ТІ *зак.* Аддыхнуць. *Чэрэз вас то й я опочыну, а то тоўчэсса і тоўчэсса.*

ОТКОЛОТІ'ТІ *зак.* Аддзяліць, выдзеліць частку ў гаспадарцы. *Батько і мачуха отколотілі іх, жывуть воні осэбно.*

ПОВОРО'ЧЫТІ *зак.* Сурочыць. *Крыксы на малэе напалі, нехто поворочыў дітя.*

ПОВЫПРАВЛЯ'ЦЦА *зак.* Здохнуць, выпруціцца. *Штоб мое курэнятка бэз курыцы нэ повыправлялiс.* В ы́ п р а в ы т ы с я — тое ж. Ставы Кам.

ПОДГА'БАТІ *зак.* Падвярнуць пад сябе. *Под сэбе всэ подгабала, і родюшку і всэ.*

ПОДСТЫ'РЫТІ *зак.* Падгаварыць. *Подстырылі ёго, і вэн почаў споваті.*

ПОЗДЭ'РНУТІ *зак. экспр.* Ударыць. *Яг поздэрне по жывоту, той і упаў.*

ПОКО'ЎЧЫЦЦА *зак.* Памяцца. *Я косніка в'яжу, штоб нэ покоўчыўса.*

ПОСАДІ′ЦЦА *зак.* Пасяліцца. *Мы на Махляровом посаділіса і там жылі до войны.*

ПОСПЫТА′ТІ *зак.* Пакаштаваць. *Дай поспытаті тёцци вішэнькі.*

ПОХОЛО′ДАТІ *зак.* Астыць. *Йдэ́тэ ежтэ, бо похолодае.*

ПРОХРОМІ′ТІ *зак.* Прабіць нагу цвіком, шклом. *На шкліну наступіў і прохроміў ногу.*

ПРЫГРЭ′ТІ *зак.* Падагрэць. *Натоўчў картоплю, налью молока і зроблю тэртуху, ее трэбо прыгрэті, деті люблят тэртуху.*

ПРЫСМА′ЧЫТІ *зак.* Заправіць. *Трэбо горшка прысмачыті маслом.*

ПРЫТА′ЙВАЦЦА *незак.* Прытварацца. *Вэн прытайваецца, шчо спіт.* П р ы т а́ й в а т ы с а. Ставы, Мельнікі Кам.

ПРЫЯ′ТІ *незак.* Спрыяць. *Вэн мне прыяе. Ты злый на мэне, мне нэ прыяеш.*

РОСКОЛЕСІ′ЦЦА *зак.* Разрасціся ва ўсе бакі. *Мое слійке́ у садку росколесіліса, на двэр суседа вісят.*

СЕДЕ′ТІ *незак.* Сяліцца, жыць. *Де мы седелі, Оршакова поле звалосо. А дэ я седела, то Нійськ назвіско.* С е́ с ц і *зак.* Пасяліцца. *Коло нас сеў брат батькі, заняў селідьбу.*

СКІ′РЫТІ ЗУ′БЫ. Абы-чаго смяяцца. *Чого зубы скірыш?* С к і р ы ц ц а — тое ж. Ставы Кам. В ы́ с к ы р к а. Жанчына, якая смяецца дзе трэба, дзе не трэба. Рагозна Брэсц.

СМЫ′КАТІ *незак.* Цягаць, насіць часта, многа раз падрад, працяглы час. *Вона зелле в'язкамі смычэ і смычэ.* Н а с м ы́ к а т і *зак.* 1. Нацягаць, навазіць. *Трактором насмыкаў зэмлі.* 2. Насунуць, нацягнуць. *Насмыкаў на очы шапку.* О б с м ы́ к а т і *зак.* Абарваць, аб'есці. *Зэлень обсмыкают, ніц нэ покінут.* О б с м ы́ к а т ы. Ставы Кам., Кустын Брэсц.

СМЫ′КАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы, цягацца. *Смыкайса з кута у кут, ніц нэ робій.* С м ы́ к с а. Жанчына, якая ходзіць па хатах. Кустын Брэсц.

СОЧЫ′ТІ *незак.* Цячы, выцякаць. *Сочы́т з зэмне́ крыніца.*

СТОСОВА′ЦЦА *незак.* Падыходзіць, адпавядаць. *Я з вамі нэ стосуюса, вы песні споваете, а я нэ умею.*

СУТЭНЯ'ТІ *незак.* Змяркацца. *Ужэ сутэняе, пойдэмо додому.* З а с у т ы́ н і т ь, с у т ы́ н і т ь. Ставы Қам.

СХОВА'ТІ *зак.* Пахаваць (пра мерцвяка). *Як помрэ, то схованоть на моліцах.*

УГА'БАТІ *зак.* Абхапіць. *У жмэню нэ угабала свае косы, таке тоўстые.*

УЗРЫ'ТІ *зак.* Убачыць. *Дочка узрыла мэне, стала голосіті.*

УЛАМА'ТІ *зак.* Адламаць. *Естімеш, Саша? — То уламі, Катя, ёму хлеба.*

УТАРЭ'ПІЦЦА *зак. экспр.* Улезці ў што-н. *Ты як утарэпісса у платте, то всэ роскідаеш.*

УТЭРЭ'БІЦЦА *зак. экспр.* Улезці. *Проз окно у хату утэрэбілас.*

ХІТА'ЦЦА *незак.* Хістацца. *Зуб хітаўся доўго.* Х ы т á ц ц я. Ставы Қам.

ЧАВІ'ТІ *незак.* Ціснуць. *Будем сэк чавіті з ягод.* Н а ч о в і т і *зак.* Надавіць, націснуць. *Мнэго ягод начовілі. Ногу начовіла.* Н а ч а в ы́ т ы. Кустын Брэсц. П р ы ч а в і т і *зак.* Прыціснуць. *Хвоста коту прычавілі.* П р ы ч а в ы́ т ы. Ставы Қам. В ы ч а в і т ы *зак.* Выціснуць. *Вычаўлю сыра. Вычаў платка, шчоб нэ текло по морді.* В ы́ ч а в ы т ы. Ставы Қам. П о ч а в і т і *зак.* Паціснуць, паціскаць, памяць. *Трэбо почавіті ягоды на сэк. Трэбо почавіті гулю на нозе кэсточкой, пусть на кэсточцы останецца.*

ЧЫҚОЛДА'ТІ *незак.* Қазытаць.

ШПАРОВА'ТІ *незак.* Абшываць дошкамі. *Будем столю шпароваті. Шпарована столя.*

17. Зак. 1411

*Е. Ф. Дуброўская*

# ПРЫСЛОЎІ Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ ВЯЛІКІЯ АЎЦЮКІ

Гаворка вёскі Вялікія Аўцюкі[1] мае рысы ўсходнепалескіх гаворак беларускай мовы. Аднак ненацiскны вакалізм і даўжыня галосных няверхняга пад'ёму ў першым складзе перад націскнымі *і(ы), у* вылучаюць аўцюкоўскую гаворку (па назве вёсак Вялікія і Малыя Аўцюкі, якія маюць аднолькавыя фанетычныя асаблівасці) сярод іншых палескіх гаворак[2].

АБЕЗА'ЦЕЛНА. Абавязкова. *Не забудзь абезацелна пра еты вапрос.*

АДА'ЛЕ. Потым. *Ены ак пабегуць у водзін вуглік, адале ў другі.*

АДА'ЛЕЙ. Потым. *Ена доўга бу злая була, адалей узела да разгневалася* [перастала злавацца].

АД ДУШЫ'. 1. Старанна. *От папаробілі сёньні, ад душы.* 2. Удосталь. *Чаго ськібкі цегаеця? Панаедаліся ж ад душы!*

АДНА'КАВА. Аднолькава. *А мне здэцца, што ўсім аднакава даюць.*

АЗЗА'ДУ. Ззаду. *Вёзьлі нешта падапертае аззаду жэрткаю, мо шўму* [памятую салому] *ці што так.*

АНІГА'ДКІ. Без клапот. *Жыве сабе за маткаю анігадкі.*

АНІКО'ЛІ. Ніколі. *Неўжэ то буўшы мужчынаю да аніколі не вупіць?!*

---

[1] Вёска Вялікія Аўцюкі ўваходзіць у Калінкавіцкі раён Гомельскай вобласці.

[2] Гл.: А. А. Крывіцкі. Фанетычныя асаблівасці адной з гаворак поўдня Беларусі. Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VI. Мінск, 1959; Н. Т. Войтович. К вопросу о путях развития аканья в восточнославянских языках. Общеславянский лингвистический атлас. М., 1972; яе ж. Доўгія галосныя ў беларускіх гаворках. «Беларуская лінгвістыка», вып. 4. Мінск, 1973.

АНІЧАГЕ′НЕЧКІ *узмацн.* Нічагуткі. *Со́ўсім не прызноўся, анічагенечкі.*

АНІЧАГУ′СЕНЬКІ *узмацн.* Нічагуткі. Не панімае ж анічагусенькі, а ўмеша́ецца навек.

АНІЧО′ГАЧКА *узмацн.* Нічагуткі. *Усе кажуць пра етае, адна я не ведаю анічогачка.*

АНІЯ′К *узмацн.* Ніяк, зусім. *Нема картопляў пат карчэм аніяк.*

АСО′БЕННА. Асобна. *Не ведаю, ці мне й сенакос будуць даваць асобенна? Старыя асобенна жывуць.*

АТМА′ЛКУ. З маленства, з малых год. *Ена ж атмалку такая процiйная* [упартая]. *Мы ўжэ атмалку тавар пасьцілі.*

АТРА′З. Адразу. *От ты екі, ак сказоў, так атраз і вупалні.*

АТРА′ЗАЧКУ *узмацн.* Адразу. *Дочулася, дак атразачку й прышла.*

АТТА′К. Так. *Я пазірэю аттак, бачу, што гаворацъ, да не чую што.*

АТТА′М. Там. *Сьпічкі аттам на прыпечку леяць* [ляжаць].

АТТО′. Тады. *От ак атто даўно езьдзіла ў Калёнькаічы, дак болей і не була ў етум годзі.*

АТТУ′Т. Тут. *А дзед і ка́а: «Аттут трэба сеяць грэчку».*

АЦЕ′ТА. Нядаўна. *Я ж ак устоў да паехаў, дак ацета толькі прышоў. От ацета дзьве па́рныя ночы булі.*

АЦЕ′ТАК. Так. *Да і ўночы машыны ацетак рэвуць і рэвуць.*

АЦЕ′ТТАКА. Тут. *Зімою ацеттака ля калодзезя так страшка.*

АЦЕ′ТУЛЬКІ. Стольні. *Ета ж у мене навек ацетулькі работы.*

АЦЬЦЮДЫ′. Сюды. *Еты хлопец і работаў бы на той рабоці, каб аццюды не тазвалі. Ацьцюды на дзеці прышла.*

БАГАЧЭ′ННА. Вельмі многа. *У Мар'і своіх грошэй багачэнна було.*

БАСЕКА′. Басанож. *Не бегай басека, ба памерзнуць ногі.*

БЕ′ЖАЧКАМ *узмацн.* Бягом. *Ён ас хаты, дак ена бежачкам за мед.*

БЕ'ЖКАМ. Бягом. *Бежыць хлопец бежкам, да кашэль дуль несе.*

БО'ЛЬЛЮ. Толькі ў выразе *больлю боліць* — моцна баліць. *Нешта цеттака пуд грудзьмі больлю боліць да ўжэ даўно.*

БО'ЛЯЙ. Больш. *Я боляй получыла грошай, ба ўсе вўхады булі.*

БО'ЯЗКА. Страшна. *Бра* [браце], *боязка йсьці.*

ВА'ГАМ. Марудна, павольна. *От ужэ работнічкі, век не павернуцца, да ўсе толькі вагам. Етая кобула вагам ходзіць.*

ВА'ЖКА. Цяжка. *Хібе цепер так важка работаюць, ак колісь?!*

ВАПШЧЭ'. Наогул. *Тоды ж радзіва вапшчэ не було.*

ВАЎЧКО'М. Непрыязна глядзець. *Што я табе паганага зробіла, што ты навек ваўчком гледзіш?*

ВЕК. Ніколі. Ужываецца з дзеясловамі з адмоўем *не*. *Неграматны ж век не зможа людзьмі верыдаваць* [кіраваць].

ВЕК-ВЕКО'М. Спакон вякоў, заўсёды. *Век-веком аттут цэркаў стаяла. Век-веком к ім на вечоркі ходзілі.*

ВЕ'ЧНА. Заўсёды. *Мне ак ехаць, дак вечна трэ хапацца* [спяшацца] *да аўтобуса ўправіцца выпаліць печ.*

ВІ'ДЗЯ. Вельмі хутка, на вачах. *Прама відзя харашнея село.*

ВО'ПРАМЕЦЬЦЮ. З усіх ног, вельмі хутка. *Ак дочуласе пра вашу паездку, дак вопрамецьцю ак вам бегла.*

ВО'РАХАМ. Кучаю. *Етыя ж буракі бы цыбуля ворахам ростуць.*

ВУДРЫ'Г. Толькі ў выразе *вудрыг плакаць* — моцна, усхліпваючы плакаць. *Вудрыг плача і плача: дэй ему канхвецікаў.*

ВУ'СЬПІТКАМ, ВЫ'СЬПІТКАМ. Нагой. *Пазіраям мы пуд вокнамі, дак ён яе вусьпіткам, вусьпіткам, дэй вугнаў с хаты.*

ГАЛЕКА'. 1. Без бялізны. *А мы малыя галека ў копанцы купаліся.* 2. Лёгка апранутым. *Лесьніковы хлопцы ніякіх польтаў не прызнаюць і зімой галека бегаюць.*

ГА'МУЗАМ. Гуртам. *Налецелі гамузам дэй пахваталі ўсе баранкі.*

ГА'НЯЧЫ. Клянучы. *Ганячы нельга жыць, трэ неяк мірыцца.*

ГА'РНА. Добра, прыгожа. *Ета ж ты гарна зробіла, што паладавала ўсе. Дзеўкі цепер вельмі гарна прыбіраюцца* [апранаюцца].

ГАРЭ'Й. Горш. *А ты думаяш, што я гарэй за цебе зраблю?*

ГВА'ЛТАМ. 1. Сілаю. *Гвалтам чобаты зь его садралі.* 2. У выразе *гвалтам крычаць* — моцна крычаць. *Гвалтам крычала, ба етакі боль.*

ГЕЧ. Многа. *Мая ты донька, як ты геч падрасла!*

ГІ'ДКА. 1. Гадка, нядобра. *Гідка бабі старой што-віда* [абы-што] *казаць.* 2. Моташна. *Зьела некую рыбіну, дак гідка зробілася.*

ГО'ДЗІ. Досыць. *От наберэш шчэ набірак* (малая пасудзіна, у якую збіраюць ягады, а потым перасыпаюць іх у большую), *дэй будзя годзі.*

ГО'ЛА. Толькі ў кленічы: *каб табе чыста, каб табе гола було!* — каб табе вельмі дрэнна было!

ГОЛЬ-ГО'ЛЬЛЮ. Вельмі бедна (жыць). *Колісь многія голь-гольлю жылі, а цепер усе пабжываліся, жывуць ак багатыры* [багатыя].

ГО'НКА. Хутка (пра рух). *А хібе ён гонка едзя?*

ГО'РНА. Горка, крыўдна. *Нема́ доўга пісям ні т кога, дак так горна зробілася. Не кэй* [кажы] *боляй, ба й так горна.*

ГРА'ЗКА. Многа гразі. *Не йдзі гародам: вельмі ж гразка.*

ГРА'ЗНА. Брудна, неахайна. *У нашум селе рэдка ў каго гразна ў хаці, от дзе то ўжэ вельмі нехазёйка* [не гаспадыня].

ДАБРА'ЧА. Добра. *Цяпер усе сінна дабрача жывуць. Дабрача тут.*

ДАВАЛЕ'ННА *узмацн.* Досыць. *У саўхозі ўсе даваленна палучаюць.*

ДАВО'ЛІ. Досыць, многа. *Цепер і пеньсіянерам даволі грошэй даюць. От дабра даждаліся: ўсего-ўсего даволі, толькі куплей.*

ДАДОЛУ. На падлогу. *Не кідэй бумажак дадолу, ба погубяцца.*

ДАЛЕ'КА. 1. Далёка. *Далека йці, дак сінна не хочацца.* 2. Даўно. *Ено було проўда, але ўжэ далека.*

ДА ПОРЫ'. Да пэўнага часу. *Хібе можна малых к агрэгатам браць? Ета ж да поры.*

ДАСЕ'ДА. 1. Да гэтага часу. *А што ты даседа робіла?* 2. Да гэтага месца. *От дакапэй даседа, да зробім разорку.*

ДА СХО'ЧУ. Колькі хочацца. *Хоць раз рыбы да схочу наелася.*

ДАТАГО'. Вельмі. *Мы колісь датаго нечага біліся, а цепер сінна харашэ жывом.*

ДАТЛА'. Дашчэнту. *Паловіну села ў войну датла згарэла.*

ДАЎНЕ'ННА. Вельмі даўно. *І ты ж даўненна сьнедала, еж штолься.*

ДАЧЫСТА'. Поўнасцю. *Вудумалі нешта, да соль ўчора дачыста разьмелі* [хутка разабралі].

ДЗЕ ВІ'ДА. Дзе папала. *Еты рапёшнік* [лопух] *дзе віда расьце.*

ДЗЕЛЬ. 1. Дзе-небудзь. *Не ходзі далека, каб у кутку* [ваколіцы] *дзель буў.* 2. Куды-небудзь. *От, здэцца, каб ногі булі здаровыя, дак і пашла б дзель.*

ДЗЕ'ЛЬСЯ. 1. Дзе-небудзь. *Ета ж добра, што дзелься блізка зробілася так.* 2. Куды-небудзь. *Едзь дзелься, ты хоць букву знаеш.*

ДО'ЛІ. На подлозе. *Дзе ты спала, донька, долі мо* [можа]?

ДО'СІ. Да гэтага часу. *Я досі ўсе паробіла. Досі сьпіць.*

ДО'СЬВІТА. Досвіткам, на досвітку. *Тавар досьвіта трэ гнаць.*

ДУ'ШНА. Горача. *А ена ўсераўно распранáецца* [знімае коўдру], *кажа, што душна ў хаці.*

ДЫ'БАРАМ. Дуба. *Спужоўся, аж косы* [валасы] *дыбарам сталі.*

Е'ТА. Цяпер. *Була вот завадскáя* [ураджайная] *пшэніца, а ета зьвелася сóўсім.*

Е'ТАК. 1. Так. *Яна етак не гáніла мене.* 2. Да гэтага часу. *І ўчора ж етак не було кароў, а малакавоз стаёў і ждоў.*

Е'ТТАКА. Тут. *Еттака школа стаяла. Еттака леіць.*

ЖЫВОСІ'ЛАК. Гвалтоўна, сілком. *А ў мене цыган жывосілак грошы таброў да і ўцёк.*

ЖЫВОСІ'ЛЬЛЮ. Гвалтоўна, сілком. *Жывосільлю пракоўтнула таблетку.*

ЗА'АЧЫ, ЗА'ЯЧЫ. Патаемна. *Я такі чалавек, што заачы гаворыць не ўмею. А я й заячы нічога не кажу.*

ЗАГАДЗЕ'Й. Рана, раней. *Сказоў загадзей, дак ведаў, што робіць.*

ЗА'ГРУДКІ. За грудзі. *Панапіваюцца, дэй беруцца загрудкі.*

ЗАДАРЭ'МНІНУ. Задарма. *Путкоцілася к Юлі і скупо́вала ўсе ў цэркві задарэмніну, па-дзешоўцы.*

ЗАЕ'ДНА. Разам, папалам. *Сею заедна, хопіць мне й паловіны.*

ЗАЛЕ'ТАСЬ. Два гады назад. *Залетась сын прыяжджоў ак нам.*

З АНЦЕРЭ'СУ. З цікавасці. *Прыду, з анцерэсу прыду.*

ЗА'ПАР. Раз за разам, без перапынку. *От мо дзьве недзелі запар паносіла малако дэй даволі.*

ЗАРАНЕ'Й. Рана, раней. *Чаго ты прышла так зараней? — Заранеи лягу.*

ЗА'СЬВЕТЛА. Відна, калі наступіла світанне. *Ужэ засьветла прышла зь весельля, дэй харашненна гулялі.*

ЗА'ЧУБКІ. За валасы. *Паберуцца зачубкі, дак не рашчэпіць.*

ЗА'ШМАРГАМ. Только ў выразе *завезаць зашмаргам* — завязаць вузлом з петлямі. *Завежы чарэвікі зашмаргам, ба не развяжэш.*

ЗВО'СЕНІ. У пачатку восені. *Звосені ўжэ паеду дзецей гледзець.*

ЗДАЛЕКА'. Здалёк. *Свой сваека пазна́е здалека.*

ЗЗА'ДЗІ. Ззаду. *Самасвал трубіць ззадзі, а ён не сыходзіць.*

ЗЗА'МАЛАДУ. Замалада. *Ак асталася ззамаладу адна, так і жыву.*

ЗЛЕГКА'. Злёгку. *Здэцца, злегка ўдырыў, а рубец пасадзіў.*

ЗЛЮБКА'. На пагляд. *Прыедзь, да наберэш клубніц злюбка.*

ЗМА'ЛКУ. З дзяцінства. *Ета ж ена й змалку сінна буркіта́.*

ЗНАДВО'РКУ. Са двара, з вуліцы. *От наносілі грэзі знадворку.*

ЗНАРО'КІ. Наўмысна, знарок. *Я то знарокі зашла за табою.*

ЗНАЎКА'. Калі рэч была новая. *Ета ж нада, первенькі разок бу́нду* [сукенку] *надзела да знаўка й парвала.*

ЗО'ЎТРЫ. Заўтра. *Зоўтры пойду на ямы картоплі капа́ць.*

ЗРАДКА'. Рэдка. *От попу́рская трохі зрадка, а дожчу нема.*

ЗРА'ЗУ. 1. Адразу. *Зробілі класам два велізныя венкі і зразу аднесьлі на брацкую могілу.* 2. Спачатку. *А ты ж зразу не так казоў.*

ЗРА'НЬНЯ. Зранку. *Здэцца, і зраньня дзірэктар не буў.*

ЗЬВЕ'ЧАРА. Рана вечарам. *Не було сьвету, дак зьвечара палеглі.*

ЗЬНЕ'КУЛЬ. Аднекуль. *От жа і сюд зьнекуль на прахціку едуць.*

ЗЬНЕ'ЦЕЙКУ. Знячэўку. *Налецеў зьнецейку, дак чуць не бамлела.*

ІЗНО'Ў. Зноў. *Ізноў езьдзіла не етуй недзелі ў Кале́нкавічы.*

І'МЕННА. 1. Абавязкова. *А табе іменна трэ было казаць етае.* 2. Пэўна. *Іменна, што ён сёньні не прыдзя.*

І'НАДЫ. Калі-небудзь. *Інады заходзіць ак нам.*

ІНО'ГДЫ. Калі-небудзь. *Іногды дак хутка аўтобус едзе, а сегоньні стоіць нечага доўга.*

КАГА'ЛАМ. Сумесна, разам. *А што тут робіць кагалам? Раз-два і гатова. Харашэ, ак у каго сем'я велікая да кагалам робяць.*

КАНЬДЗІБО'БЕРАМ. Фарсіста. *Малы, а каньдзібоберам ходзіць.*

КАПЕ'ЛЬКУ. Трошкі. *Капельку пастаяла, а епо* [магазін, ад «единое потребительское общество»] *зачынілі.*

КОЛІ'ЛЬ. Калі-небудзь. *Вупішы коліль дроў дубовых на зіму.*

КОЛІ'ЛЬСЯ. Калі-небудзь. *Гадоў багата мне, да ніколі не замеціў, як прожыў. Мо й замеціў бы коліська, дак усё ж у рабоці.*

КО'ЛІСЬ. Калісьці. *Колісь шкадавалі сабе й зьесьці лепяй, а цяпер пералю́бнае* [тое, што хочацца, самае смачнае] *едзім.*

КО'ЛЬКІ ВІ'ДА. Шмат. *У нас ў саўхозі клубніц навек колькі віда.*

КО'ПТУРАМ. З верхам. *Дзякуй за ягады, да нашто коптурам насыпаеш? І так даваленна насыпала.*

КРУ'ГЛА. Гладка, лоўка. *Ён ак збрэша кругла, дак слухай его.*

КРУ'КАМ. Толькі ў выразе *крукам седзець*. 1. *зневаж.* Знаходзіцца. *Прышла і седзіць крукам у хаці.* 2. *узмацн.* Старанна працаваць. *Змалку крукам седзіць за кніжкамі.*

КСТРО'НІ. Збоку. *Етую пляшку нада паставіць кстроні.*

К ТО'ЛКУ. Добра, як трэба. *Чалавек* [муж] *мой панімае і робіць ўсе сінна к толку.*

КУЛЕ'М. 1. Куляючыся. *Ак дам, дак палеціш кулем.* 2. З усіх ног, вельмі хутка. *Пазірэю, дак кулем леціць права ак нам.*

КУ'ЧАЮ. Гуртам. *Мы як зэйшлі кучаю ў клас, дак нам усім па паводзінах двойкі й паставілі.*

ЛАЦЬВЕ'Й. Лепш. *Іменна, ў хаці лацьвей ў мароз сядзець.*

ЛАШАКА'. Падскокваючы (пра дзяцей, жывёлу). *Дзеці ж к пасажырцы* [пасажырскі аўтобус] *лашака беглі: то так цебе ждалі.*

ЛЕДВА'. Ледзь. *Ледва сёньні свой участак дапалола.*

ЛЕ'ДЗЬВІ. Ледзь. *Паламалі і етую лоўку, ледзьві стоіць.*

ЛЕ'ДЗЬВІ-НЕЛЕ'ДЗЬВІ. Ледзь-ледзь. *От пазьненна цеттака ля нас пелі, ледзьві-неледзьві разышліся спаць.*

ЛЕ'СТАЧКАМІ. Лісліва. *А ена ўсе лестачкамі к ему, дэй добра.*

ЛЕ'ТАСЬ. У мінулым годзе. *І летась цетак неяк прывóзіла етае хлап'я* [хлапчаня].

ЛЮ'БА. Міла. *Беры тоя, што люба, ба зноў лежацьме ў скрыні.*

ЛЮБАТА'. Добра. *У нас цяпер жывуць любата.*

МА'КАМ. У выразе *макам сядзець* — марудна расці. *Макам седзіць ўсе ў гародзі, ніяк не расьце. Расло свінча, адалей макам села.*

МА'ЛЕНЬКА. Мала. *Сёньні ты маленька етых бумажак напісала.*

МАМЕНТА'ЛЬНА. У момант. *Маментальна етае пахавэй і работу робі!*

МАМЕ'НТАМ. Мігам. *От я маментам зьбегаю да пазову іх сюды.*

МАРКО'ТНА. Сумна. *Колісь дзіва було, што некая рáдзіва будзя, а цепер ак моўчыць, дак нечага маркотна.*

МА'РНЕ. Зусім. *Марне прапала проса, мо толькі курам будзя.*

МАЦНЕ'ННА. Вельмі моцна. *Я думала, што немцы, дак ета не чуюць, дэй крычу мацненна: «Паны, астоўця штольсяǃ»*

МЕ'ЛЬКАМ. У адзін момант. *Пасядзіце, я мелькам зьбегаю.*

МО'ЎЧАЧКІ *узмацн.* Моўчкі. *Загналі нас немцы ў балота, дак ноч моўчачкі прастаялі, каб не скмецілі* [заўважылі].

МО'ЎЧЫКІ. Моўчкі. *Моўчы моўчыкі, табе нельга біжацца* [крыўдзіцца].

МУ'ДРА. Незвычайна, непрывычна. *У нас гаворуць расцяжыста, бу пеюць, а як хто шаценька гаворыць, дак і мудра нам.*

МУ'ЛКА. Цвёрда. *Ляж ба на ложку — долі ж мулка спаць.*

НАБАСЕКА'. Без панчох. *Абулася набасека й намуліла* [абмуліла] *ногу, да боліць мацненна, што не вутрываць.*

НАБГО'М. Толькі ў выразе *піць набгом* — піць з вялікай пасудзіны, нагнуўшы яе. *Усю жысць малако набгом п'е, колькі не кажы.*

НАВА'ЛАМ. Шмат. *Садавіны ў етум годзі во ўсіх навалам.*

НАВАМО'ДНА. Па-новаму. *Цяпер усе навамодна паробілася.*

НАВЕК. 1. Заўсёды. *Ак хтолься навек гуляя, дак нічога, а я вот прысела, дак усе путáюць, чаго не работаю.* 2. Спакон вякоў. *Па етум шлеху навек у Юравічы дабіраліся.*

НАВЕ'СНУ. Вясною будучага года. *Навесну прыдзецца папасуваць целічку да прывучыць да тавару.*

НАВЕ'ЧАР. Пасля абеду і да вечара. *Навечар ў грыбы пойду.*

НАВІДО'ЛІЦЫ. У полі зроку. *От шукала доўга, а ено от ацетта навідоліцы й лежала.*

НАВІДО'ЦЫ. У полі зроку. *Глей, каб ціваняты* [кураняты] *дзель навідоцы булі. Мая хата на* [пры] *шлеху, дак навек навідоцы.*

НАВО'ТЛІЎ. Наводмаш. *Удырыў навотліў, дак кроў пацуруголіла.*

НА ВО'ЎКА. Нашто. *На воўка мне твая работа, ак нехаця?!*

НАВУЛЁТ. Скрозь. *Людзі навулёт его пераймаюць дэй расказуюць.*

НАВУ'ПЕРАДКІ. Абганяючы адзін другога. *Мае ж дзеці і работаюць, і едзяць навуперадкі.*

НАВУ'ПУСК. Паверсе. *Усе кохты ношу навупуск: не люблю ўбіраць пуд спадніцу. Штаны цяпер боляй навупуск носяць.*

НАВУРО'СТ. Нападрост. *Так надаела, што ўсе навурост купляеце.*

НАВЯСЬНЕ'. Вясною. *Здэцца, навясьне пошлі ены ў салдаты.*

НА ГНО'Й. Толькі ў выразе *згніць на гной* — згніць дашчэнту. *От шчэ цетак пальле дожч, дак згніе сена на гной.*

НА'ДАСЬ. Нядаўна. *Надась толькі дровы прывёзьлі да бéдаем.*

НА'ДАЎГА. Надоўга. *Надаўга ты едзяш у тую Гарманію?*

НАДВО'СЕНЬ. Перад пачаткам восені. *Етае було неяк надвосень.*

НА'ДГАЛАДЗЬ. Не даядаючы, галодна. *Мо таго й слабенькія, што надгаладзь росьлі. Пасьля войны гадоў колькі надгаладзь було.*

НА ДЫ'БКАХ. На пальчыках. *Наша малая не ходзіць, да нечага ўсе на дыбках бегая.*

НА ДЫ'БКІ. На пальчыкі. *Стань на дыбкі, дак дастаняш.*

НА'ЗІРКАМ. Толькі ў выразе *ісці назіркам* — ісці за кім-небудзь, уважліва назіраючы, не спускаючы з вачэй. *А я за курыцаю назіркам, назіркам, дэй знайшла цылае кубло яечак.*

НАЗНАРО'КІ. Незнарок, знарок. *От прэмудрая* [не такая, як усе], *ета ж назнарокі не прышла, каб за стол не сесьці.*

НАЗО'ЎТРАГА. На наступны дзень. *От ак атто прышла ак вам капáць, дак назоўтрага ногу зламала.*

НАЗО'ЎТРАЕ. На наступны дзень. *Назоўтрае перэзвы булі ў нас.*

НАЗО'ЎТРЫ. На наступны дзень. *Прышоў ён назоўтры, дэй путáя, ці не чулі нічога.*

НА'КАСЬ. Наўкос, наўкасяк, коса. *Прычэшыся луччай, а то прабор накась зробіла. Навела ніткі накась, дак паламала берда.*

НАЛЕ'ТА. На наступны год, у наступным годзе. *І я налета пойду ў вечэрнюю вучыцца, да будзе ацястат.*

НАЛІ'ХА *асудж.* Нашто, навошта. *Наліха було чапа́ць ва́ксу* [плаксу]?

НА'НАВА. 1. Зноў. *Ну і чортага беры етага ўсего, я сабе пакупляю ўсе нанава, хоць не новае, але ўсе будзе.* 2. Па-новаму. *Роскідала захілкі* [вузкія складкі] *у кохці да перад нанава пераробіла, з гесткаю.*

НА НЕ'Т. Толькі ў выразе *на нет звесці* [звесціся] — зусім звесці (звесціся), прапасці. *Була вот завадска́я пшэніца, а ета ўжэ зьвелася на нет.*

НА'ПАЛ. Напалам, на дзве роўныя часткі. *Усе ўсе разьдзеліла напал, аддала сыну й даццэ, а сама замуж шчэ пашла.*

НАПЕРЭХВА'ТКУ. Перакусваючы. *Наперэхватку зьеў дваццаць адну аладку* (жарт). *Што то за еда наперэхватку?*

НАПЕРЭ'ХРАСТ. 1. Зігзагападобна. *Ак блiснула маланьня наперэхраст, дак сінна спужалася.* 2. У выразе *зашпуліць наперэхраст* — зашпіліць, налажыўшы адзін край вопраткі на другі. *Люблю зашпуліць наперэхраст, ак з разрэзам, дак і нехарашэ мне.*

НАПЕХО'ТУ. Пеша. *Так хацеў ў камсамол ўступіць, што не баёўся напехоту ў Каленкавічы йці, хэй сабе й напрэмік, але далека.*

НАПО'СЬЛІ. Потым. *А ў мене ак вуразалі ў горлі, дак неяк анцерэсна напосьлі, што горла пустое.*

НАПРАЛО'М. Сілком. *Бувала малыя зьберомся на вечоркі, нэймам* [наймем] *гармоніста, а хлопцы напралом лезуць у хату.*

НАПРО'ВЕСНІ. Напрадвесні. *Напровесні родзіла ена етага хлопца.*

НА ПРО'СТ. Толькі ў выразе *жаць на прост* — жаць, рассцілаючы жмені. *Як табе жыта жаць? Мо на прост лепей будзе?*

НАПРО'ЎДУ. Сапраўды. *А ета ж напроўду було так, можаш і справе́жкі наве́сці* [запытацца ў сведак].

НАПРО'ЦІЎ. Насупраць. *Брат не зь ею жыве, а тамака напроцій.*

НАПРЭМІ'К. Напрасцяк, нацянькі. *У нас не вельміта ходзілі колісь напрэмік, ба балата ўкружка булі.*

НАПРЭМУ'Ю. Адкрыта. *Скажу табе напрэмую, што по́багата гаворыш.*

НАРА'ЗЕ. Раптам, нечакана. *Було, було ўсе добра, а ета наразе путкóўзнулася й ногу зламала.*

НАРА'НЬНЕ. Вельмі рана, да ўсходу сонца і да абеду. *От пагана, што тавар не гоняць на бед: пажанеш нараньне, дак далека ўжэ вернацца дадому, да трэ жарою йці.*

НАСІ'ЛУ. Ледзь-ледзь, праз сілу. *Насілу вутрывала вудумкі етые.*

НА СКЛА'Д. Толькі ў выразе *араць на склад* — араць, пачынаючы з сярэдзіны, каб сярэднія барозны ляглі адна на другую. *Не будам араць на склад, лепей пад абгонку, дак меней палоць трэ.*

НА СО'ВЕСЦЬ. Сумленна. *Усе рабатаюць ў саўхозі на совесць, дак і грошэй багачэнна палучаюць.*

НАСЬМЕ'Х. Несур'ёзна. *То тая вайна паляцкая насьмех була.*

НАТСЫР, НАЦСЫР. Калі недавараная (пра бульбу). *От зварыла картоплі, да, мабуць, натсыр. А мы знарокі нацсыр варым.*

НАЎГА'Д. Наўздагад. *Не калупэй нашыванне наўгад, трэ путáцца.*

НАЎЗДАГО'Н. Услед. *Крычала наўздагон, сероўна не почуў.*

НА ЎЗЬДЗІ'Ў. На здзіўленне. *Грыб* [баравік] *вурас на ўзьдзіў.*

НАЎПРО'ЦІ. Насупраць. *Ці я ж табе слова колі наўпроці сказала?*

НАЎСЕГДА'. Назаўсёды. *Прашчай, міла чарнаброва, я ўеджджаю наўсегда* [з песні].

НАЎЦЕКАЧА' *узмацн.* Наўцёкі. *Угледзеў я раз воўка, дак ак пусьціўся наўцекача, дак толькі й бачылі мене.*

НА'ХЛАШЧ. Наросхрыст, шырока. *Што ета за хлопец, колькі не ўшывэй гузікі, ўседнó пальто нахлашч. Не кідай дзьверы нахлашч.*

НАШЧЭ'СЕРЦА. На галодны жывот. *Зьела цылы селёдак нашчэсерца, дак нешта пуд грудзьмі печэ.*

НЕДАЛЕ'ЧКА. Зусім блізка. *Яна вот і жыве цетта недалечка.*

НЕ К ЛІЦУ'. Нядобра, непрыстойна. *Вох, як ты не к ліцу гаворыш.*

НЕ'НАШТА. Чагосьці. *Буў ненашта дохтар у нашум кутку.*

НЕСУСЬВЕ́ТНА. Надта. *Сусед наш несусьветна хазяін, бач, як жыве.*

НЕ́ЎМА ЯК. Неахайна; не так, як патрэбна, звыш меры. *Прыцягнуць неўма як склымшанае* [склычанае] *сена, дак его нельга скласці ўжэ. Неўма як надзенецца, дак сорам гледзець.*

НЕЎПРЫКМЕ́Т. Непрыкметна. *Нeяк неўпрыкмет цетая зіма прайшла.*

НЕ́ЧАГА. Чагосьці. *Мо ета ты нечага прыхóдзіла ак нам?*

НІПРЫМЕ́НЬНІ. Абавязкова. *Дак што ж вы жджаце, каб еты стары ніпрыменьні ў магáзін лез, нада ему падáць скарэй.*

НІЎПА́МКІ. Не ў памяці. *Просілі к Маю плацце шшыць, а мне за соткамі* [праз прысядзібны ўчастак] *й ніўпамкі.*

НО́СЦАМ. Нагой, выспіткам. *Не можна носцам біцца, перастаньце.*

НО́ЧЫ, НО́ЧЧЫ. Ноччу. *Ноччы прышоў. Гусі й ночы крычаць.*

НЯЗАЎГА́Д. Выпадкова. *Дак як то нязаўгад упоў у канаву?*

НЯЗЬЛІЧО́НА. Безліч, не злічыць. *Людзей ля брацкай могілы нязьлічона сабралася, вускáзуюцца* [выступаюць з прамовай] *усе, а мене жаль берэ, што палегла етулькі.*

НЯЙМАВЕ́РНА. Вельмі. *У нас у селе булі няймаверна багатыя, дак іх раскулачылі, а хто сам трудзіўся, дак таго не чапалі.*

НЯЎЖЭ́ЖНІ. Няўжо. *Ну няўжэжні не прымуць яе дзельсся? Етак вучылася, а пéя* [спявае] *сінна харашненна.*

ОТАТО́. Вось-вось. *А яна і кáа, што немцы отато будуць ў селе.*

ПАБО́ЛЕЙ. Больш. *Скажы тому дзеду, каб паболей сена броў.*

ПАВЕ́РХУ. Зверху. *Паверху нема яблык, а толькі пададнóм.*

ПА ВО́ЧАРАДЗІ. Па чарзе. *Мы тавар па вочарадзі пасом навек.*

ПАГА́НА. Нядобра. *Не трэ піць, трэ ведаць, што гарэлка на любы мозак вáдзіць* [шкодзіць], *што можа пагана буць.*

ПА-ГЕРМА′НСКАМУ. Па-нямецку. *А мне раз, подаўна ўжэ, сьнілася ты, што ўсё не па-нашаму, а па-германскаму гаворыла.*

ПАД АБГО′НКУ. Цераз баразну (арацъ, садзіцъ). *Саджалі такі і картоплі? — Саджалі, толькі што пад абгонку.*

ПАДАБЕ′Д. Перад абедам. *От ета було акраз падабед, точна ведаю.*

ПАДАДНО′М. Падыспадам, унізе. *Дастань настольніцу, пададном недзе лежыць. Пададном не памерз цьвет, дак багата вішань.*

ПАДВЕ′ЧАР. Перад вечарам. *Малакавоз падвечар прыежжае навек.*

ПА ДНОМ. Па аднаму. *Ак почнуць па дном бедаць, дак толькі й стой ля печы да падавэй.*

ПАДПАСЬЛЕ′ДАК. Нарэшце, у заключэнне. *Падпасьледак папалася багачэнна ягад.*

ПАЗАВУГО′ЛЬЛЮ. За вугламі. *Пазавугольлю етага рапешніку багата.*

ПАЗАЛЕ′ТАСЬ. Тры гады назад. *Ужэ й пазалетась булі ў нас тапографы, дак і школьнікі памагалі нешта.*

ПАЗАПЛО′ЦЬЦЮ. За плотам. *Шча́велю пазаплоцьцью насеяла еты год.*

ПАЗАХЛЕ′ЎЮ. За хлявамі. *Вупусьці куры, хэй пазахлеўю пагрэбуць.*

ПАЗНАТО′Й. Позна. *Цегаюцца пазнатой, дак сон перэбілі соўсім.*

ПАЗО′РНА. Ганебна. *Ні пра кога не подумаў, усім пазорна зробіў.*

ПАЗЬНЕ′ННА. Вельмі позна. *Навек цетак пазьненна прыходзіць.*

ПАЛЕ′ЗНА. Карысна. *Работаць чалавеку вапшчэ палезна.*

ПАМА′ЛУ. Паціху. *Бра, як ты памалу гаворыш. Памалу йшла.*

ПАПАДЛА′ВІЧЧУ. Пад лавамі. *Чаго гладышкі пападлавіччу стаяць?*

ПАПЕ′РВАСЦІ. Спачатку. *Ак сышліся, дак папервасці ўсего було.*

ПАПО′ЖЖА. Пазней. *Папожжа яблыкі вузраюць, дак не такія кіслыя.*

ПАПО′СЬЛІ. Пасля. *Ены мене бгледзелі, а папосьлі бгаворылі.*

ПАПРО'Ч. Асобна. *І людзі ж жывуць і па двох, і папроч.*

ПАРАЖНЯКО'М. Без грузу. *Ета ж нада, паражняком ехаў і не ўзёў.*

ПАСО'БЕННА. Асобна. *Каб ены пасобенна жылі, дак лепей бы было.*

ПАТО'М. Пасля. *Патом бацька з Польшы паехаў у Фінляндзію.*

ПЕ'РВА. Перш. *Перва чую етую гаворку, не ведаю, што й казаць.*

ПЕ'РША. Перш. *Перша прошу здароўя дзецям, а патом сабе.*

ПЕХАДРА'ЛА *груб.* Пехатой. *Ак не пасьпею на пасажырку, дак прыдзецца да шашы пехадрала дабірацца.*

ПЕШАКА'. Пехатой. *Мы, бра, ат саменькай станцыі пешака йшлі.*

ПЛО'ЙМАЮ. Кучаю. *Плоймаю лезуць дзеці ў сад, ба пускае сторадж.*

ПО'БАГАТА. Мнагавата. *Грошай побагата палучае еты чалавек.*

ПО-ВУ'ЛІЧНАМУ. Па мянушцы. *У нас по-вулічнаму ўсіх зовуць, ак скажа хто па хвоміліі, дак не ведаем, ба хвоміліі багата днакавыя дэй не прывуклі так казаць.*

ПО'ДАЛЕКАВАТА. Далекавата. *А вучылішча тое подалекавата.*

ПО'ДАЎНА. Даўнавата. *Ак подумаю, дак ета й подаўна було ўжэ.*

ПО'ДБЕГАМ. Вельмі хутка, месцамі трушком. *Прывукла, дак хоць і не трэ хутка, дак сероўна подбегам.*

ПО'ДБРЫКАМ. Падскокваючы (пра дзяцей, жывёлу). *Еты малы і по вуліцы не йдзе нармальна, а ўсе подбрыкам.*

ПО'ДБЯЖКАМ. Падскокваючы (пра дзяцей, жывёлу). *Коні ак ухвацілі, дак усе подбяжкам, подбяжкам і аж до кузьні дровы прывезьлі.*

ПО'НАЧЫ. Позна вечарам, калі зусім сцямнее. *Ужэ поначы зь лесу прыехалі. Поначы картоплі са гароду прывёзьлі.*

ПО'СПАЛ. Запар, падрад. *От ліў дожч тры дні поспал не сунёўся.*

ПОСЬЛІЗО'ЎТРА. Паслязаўтра. *Посьлізоўтрага добрая пара капусту шаткаваць, я навек сёмым днём маладзіка стоўлю.*

ПО'ТЫЧ. Уніз галавой. *Зачэпілася за нешта, дэй палецела потыч.*

ПО'ХАПКАМ. Хапаючыся. *Ткала етыя ручнікі похапкам, але нічога.*

ПО'ШАПКАМ. Шэптам, ціха. *Здэцца, што ўсе пошапкам гаворацъ.*

ПРА'ВА. Прама. *Права вуліцаю паехала машына.*

ПРАЎЦАКА'. Толькі ў выразе *стаяць* [ставіць] *праўцака* — не даваць магчымасці паварушыцца. *От паставіла ногу праўцака.*

ПРАХО'НА. 1. Рэдка. *Ета ты прахона етае цеста замесіла.* 2. Шырока. *Нашто так прахона бўнду* [сукенку] *пошыла, нехарашэ ж.*

ПРО'ПАДАМ. Толькі ў выразе *пропадам прапасці* — цалкам, дазвання знікнуць, згінуць. *Хэй яна пропадам прападзе тая колішняя жытка. Цепер жа лехчэй жывуць і харашней.*

ПРО'ПЛАЧ. Плачучы. *Гаворыш нешта проплач, а я не разьберуся.*

ПРО'ЧКІ. Толькі ў выразе *ісці прочкі* — ісці з хаты ад сям'і. *От бацька буў, век не забуду, ак сказоў: «Паберыцеся, дзеткі, за ручкі да йдзіце прочкі, ба мамка ўмерла».*

ПРЫ'ХВАТКАМ. Урыўкамі. *Хіба то зь мене пра́льля* [прадзільшчыца]? *Я ж толькі прыхваткам колісься прэду.*

ПУ'ЛКА. Пыльна. *Машыны праедуць, дак датаго пулка, бу ў тумані.*

РАПЕХО'М. Кучаю. *У саўхозі садавіны навек рапехом, ба гледзяць.*

РАПТО'ВА. Раптоўна. *Так раптова грыб* [грып] *зваліў.*

РО'ВАМ. Толькі ў выразе *ровам рэўці* — не сціхаючы, моцна крычаць. *Покідае дзецей на цылы дзень, дак ены ровам рэвуць.*

РУКО'Ю. Толькі ў выразе *рукою пайсці* — добра шанцаваць. *Каб табе етая каройка рукою пашла!*

РЫ'ХЦІК. Акурат. *Удоўся, рыхцік бацька, неска́паны* [як арыгінал, нескапіраваны], *ета ж нада так!*

САДАЛЕ'Й. Далёка, але ў полі зроку. *Садалей толькі бачу его.*

САМАХО'ЦЬ. Па сваёй волі, добраахвотна. *Пробіла дзірку самахоць да ходзіць па дахтаром усе.*

САПЛАЧО′М. Плачучы. *Чаго ба цетае дзіця са плачом бежыць?*

САТРО′ХА. Трошачкі, крышачку. *Хто шчытаецца сатроха, таго й хваляць усюдаю. Сатроха кізлякоў* [грыбы без баравікоў] *прынесла.*

САЎМЕ′СНА. Разам. *Зьвеньні саўмесна пойдуць капа́ць зоўтры.*

СЕГО′НЬНІ. Сёння. *Навек прыходзіў, а сегоньні нема́ нечага.*

СЁНЬНІ. Сёння. *Сёньні ўсе днакавыя, ўсе сытыя, нечага казаць.*

СІГА′СТА. Шырокім крокам, шырока, шагавіта. *От сігаста ходзіць. Хоча нашываць* [вышываць], *да не ўмее шчэ, бач, як сігаста коле.*

СІ′КАСЬ-НА′КАСЬ. 1. Зігзагам. *Я аддзелку сікась-накась зробіла.* 2. Неахайна. *Дзе ж ета не будзе травы, ак сікась-накась папалолі?*

СІЛАМО′ЦЬЦЮ. Гвалтам, прымусам. *То ж трэ варэньне накласцьці ў воду і піць сіламоцьцю, ба мітамінаў многа.*

СІ′ЛНА, СІ′ЛЬНА, СІ′ННА. Надта, вельмі. *Мне цяпер сілна трудна.*

СІ′ЛЬНЕНЬКА *узмацн.* Надта, вельмі. *Сільненька розумныя сыны.*

СІЧА′С, СЭЙЧА′С. Зараз. *Січас пойду худобу пакормлю.*

СКВА′РНА. Горача. *Сёньні скварна, хоць на вуліцу не йдзі.*

СКУ′ПЕНЬКА. Вельмі скупа. *Пекарня була на рамонці, дак скупенька хлеба возілі, да ўсе марымо́ньскі* [белы].

СЛА′БКА. 1. Слаба. *Завезала вузел слабка, дак і развезоўся.* 2. Рэдка. *Ета ты сінна слабка замесіла хлеб.*

СО′ВЕСНА. Сорамна. *Каб ему було совесна, дак не робіў бы так.*

СО′СНУ. Спрасонку. *Паўскоквалі сосну, дак папужаліся, што пажар.*

СО′ЎСІМ. Зусім. *Я малая була пры панох соўсім, але помню.*

СПАДЛО′Б'Я. Спадылба. *Нечага ён на мене бу спадлоб'я пазірае.*

СПРАКВАЛЯ′. Нехаця, павольна. *Хібе прыежжые могуць так работаць, ак мы? От спракваля бы толькі.*

СПРАСО'НЬНЯ. Спрасонку. *Спрасоньня не разабралася, што к чому.*

СТАРЧАКА'. Старчком. *От хочу старчака ырнуць, дак воды нема.*

СТАЯКА'. Стоячы. *Сінна люблю стаяка на рэ̂лі калыхацца.*

СТРАХ-СТРА'ХАМ. 1. Вельмі страшна. *Га́ніш мене страх-страхам.* 2. Вельмі многа. *Ягад у етум годзі страх-страхам.*

СТРА'ШКА. Страшна. *Жыць на гародзі адной страшка.*

СУХОПІ'РАМ. Толькі ў выразе *праць сухопірам* — мыць бялізну, папярэдне не замачваючы яе. *Сухопірам плацце* [бялізну] *пра́ла.*

СХО'ДУ. Адразу. *Ён лоўкі, буланага каня і то сходу зловіць.*

СЫ'ПАРКАЮ. Кучаю. *Ак хто уцекае, дак пчолы сыпаркаю тоды.*

СЫСПО'ДУ. Спадыспаду. *Дастань сабе кусочак сала сысподу.*

СЬЛЕ'ДАМ ЗА ДЗЕ'ДАМ. Услед. *Прышла я дэй ты сьледам за дзедам.*

СЬЛЕПІ'ЦАЮ. Неадчэпна, нахабна. *От сьлепіцаю лезе ў вочы.*

СЬМЕ'ХАМ. Несур'ёзна. *От сказоў сьмехам, а ты не ўспакоісься.*

СЬПЕРВА'. Спачатку, спярша. *Сьперва ўрокі паробі, а тоды гулей.*

СЬПЕЦЫЯ'ЛЬНА. Знарок, наўмысна. *Сьпецыяльна так сказала.*

СЮД. 1. Тут. *От седжу сюд, а патом і пакоцілася.* 2. Сюды. *Ходзі сюд да раскажы, што ў вас там добрае чутно́.*

СЮДО'Ю. У гэты бок, у гэтым напрамку. *Ідзі сюдою, тут луччай.*

ТАЛАКО'Ю. Гуртам. *Зьберомся да талакою й пакапаем картоплі.*

ТАМ. Тады. *От сунёўся стрэл, дак мы йшчэ палежалі сатроха, а там пошлі па лесу сталны́х* [астатніх] *шукаць.*

ТА'МА. Там. *Мо й сабрала тама мешок проса, а мо й не.*

ТА'МАКА. Там. *А куды я пойду? Хто мне тамака паможа?*

ТАМПАЗАЎЧО'РА. Чатыры дні назад. *Тампазаўчора сход буў.*

ТО'ЖА. Таксама. *А хібе ты тожа ў Галевіцу едзеш?*

ТОЙЧА'С. Адразу. *Палучу грошы — тойчас аддам.*

ТО'ЧНА. Дакладна. *Ну ены ж точна цебе не вукідалі з хаты.*

ТРО'ХА. Трохі. *От подзюкаюць* [узрыхляць глебу] *троха, да йшчэ пастрояцца* [стануць лепшымі] *тыя ўгуркі, дарма, што ены сям-там.*

ТУДО'Ю. У той бок, у тым напрамку. *Ой, пойду я тудою, кудой раньшай ходзіла* [з песні].

ТУДЫ'ЖНІ. Далёка, у пэўным напрамку. *Як не хочацца тудыжні за травою йці!*

ТУ'ТАКА. Тут. *Успашаце зоўтры тутака пад расаду да пасеем.*

ТУ'ТАНЬКІ *экспр.* Тут. *Чаго, доня, плакала? Я ж тутанькі була.*

У ГЛА'З. Адкрыта. *Я табе ў глаз скажу, што й табе добра дáлі.*

У ГЛУ'ПАСЦЬ. Апоўначы. *У глупасць ігрушу абшыкавáлі* [абтрэслі].

УДВАЙНЕ'. Удвая. *Я табе ўдвайне даю, а ты майго не шчытаеш.*

УДО'ВАЛЬ. Дастаткова, уволю. *Усяго, усяго ў нас удоваль.*

УДО'СЬВІЦЦЕ. Досвіткам, на світанні. *Дзеці ўдосьвіцце ўсталі.*

УДРУ'ГАЕ. У другі раз. *Раз паехаў у Гомель дэй удругае.*

УЖЭ'. Ужо. *Ужэ мы Качанóк* [урочышча] *увабралі поўнасцю.*

УКРА'ДНЕ. Крадком, употайкі. *Не шкодую, але не люблю, што еты хлопец ўсе ўкрадне берэ.*

УКРУГАЛЯ'. Кругом. *Ены мене бступілі ўкругаля дэй пазірэюць.*

УКРУЖКА'. 1. Кругом. *У вас і цепер ў селе дзерэўя ўкружка седзяць?* 2. Кругам. *Пасядуць бáбы на бéдзі ўкружка дэй пéюць.*

У ЛЕ'ЦЯХ. У маладыя гады. *Дэй, божа, шчасце ў леціях да і ў дзецях* [прыказка]. *У лецях трэ було на вечоркі бегаць.*

УМЕ'СТА. Разам. *Ены ж уместа гулянць ходзілі колісь.*

УМЕ'СЬЦІ. Разам. *Капусту ўмесьці абрабатуюць зьвеньні сёньні.*

У НЕ'Т. Толькі ў выразе *ў нет несьці* — перавярнуць усё. *Дзеці ак астануцца дны дома, да усе ў нет несуць.*

УПАКО'Т. Адзін каля аднаго. *Гасьцей наехала, дак наклала дзецям шумы да ўпакот і палеглі.*

УПАРА'НУ. Раніцай. *У мене ў печы гарэла ўпарану, а я кінула-рынула ўсе дэй пабегла ў епо.*

У ПЕ'ЎНІ. Апоўначы. *Летам хлопцы мае навек ў пеўні прыходзяць.*

У ПРО'ГАЛАДЗЬ. Недаядаючы. *Вучыліся дзеці, дак мо й у прогаладзь коліьсся елі, а цепер сінна харашэ жывуць.*

УПРО'ЧКІ. Толькі ў выразе *ісці ўпрочкі* — ісці з хаты ад сям'і. *Біліся сьперва, але ўпрочкі не пашла ні разо́чку.*

УПРЫ'СЕДКУ. Хістаючыся. *Мо п'яны ці што, ба ўпрыседку йдзе.*

УПРЫТЫ'К. Цесна, шчыльна. *Нашто етыя хаты ўпрытык паставілі?*

УРА'Д. Радком. *Моркву урад пасей, а буракамі пабтыкэй грады.*

УРО'ДЗІ. Быццам. *Уродзі куры́ шукала, дак зэйшла ў хату.*

УРЭ'ДНА. Шкодна. *Не гань етак, ба га́ніць урэдна.*

УСЕДНО'. Усё роўна, усё адно. *Ены не ведаюць уседно нічога.*

УСУР'ЁЗ. Сур'ёзна. *З маткаю ўродзі ўсур'ёз гаворыла.*

УСЮ'ДАЮ. Усюды. *Усюдаю крапіву павусекала, а ена расьце.*

УТО'Ч. Акурат. *От ета уточ так і було, ак ты расказоў.*

УТРАЙНЕ'. Утрая. *Я ёй утрайне боляй ддала́, толькі забулася.*

УЧО'РЫ. Учора. *Учоры Мінск перадавоў, што будзе пагода.*

ХАРАШЭ'НЕНЬКА *экспр.* Вельмі хораша. *Ак харашэненька дулі посушаны, дак смачныя бы канхветы.*

ЦЕПЕ'РАКА. Цяпер. *От цеперака кра́му* [матэрыялу] *перэлю́бнага.*

ЦЕ'ТА. Цяпер, зараз. *Бежы цета да качан капусты вурві.*

ЦЕ'ТАК. Так. *А я цетак ему не раз гавору, дак не слухае.*

ЦЕ'ТТА. Тут. *Твае цетта нічога не award паможа. Цетта лежыць.*

ЦЕ'ТТАКА. Тут. *А хібе цеттака на гліні вурасьце штольсся?*

ЧАПУРНЕ'ННА. Вельмі хораша. *Так етыя дзеўкі чапурненна прыбіраюцца, што й у горадзі не дакажуць!*

ЧАСЬЦЕКО'М. Часта. *Часьцеком цебе спамінаю і спамінаю.*

ША'ЦЕНЬКА. Хутка, дробна. *Так шаценька дзеўкі скачуць.*

ШЛО'КАТНА. Казытліва. *Ёй вот шлокатна, а я шлокату не боюся.*

ШЧЫГУ'ЛЬНА. Шчытна. *Наравіцца плацце, што шчыгульна седзіць.*

ШЧЭ, ЙШЧЭ. Яшчэ. *Зьедзім крышэні* [булён] *да шчэ ладкамі закусім.*

Я'ДРАНА. Зорна, ясна (на небе). *Сёньні ядрана, дак і харашэ.*

Я'КЛІЛЬ. Як-небудзь. *Якліль трэба карову дзержаць шчэ.*

Я'КЛІЛЬСЯ. Як-небудзь. *Чалавек жа, пóкуль жыве, далжон хоць яклільсся работаць.*

*М. Н. Крыўко*

# ЭКСПРЭСІЎНЫЯ НАЗВЫ АСОБЫ Ў ГАВОРЦЫ в. МАНЯКОВА МІЁРСКАГА РАЁНА

Гаворка в. Манякова тыповая для Міёрскага раёна, асабліва для яго ўсходняй часткі. У гэтым кутку пашырана фактычна адна гаворка, таму што ніякіх фанетычных і граматычных адрозненняў паміж моваю розных вёсак адзначанай часткі раёна не заўважана.

У сувязі з гэтым в. Манякова абрана ў якасці апорнага населенага пункта пры падрыхтоўцы картатэкі для складання слоўніка ўсходняй Міёршчыны. Лексіка яе гаворкі будзе абследавана дэталёва. Намечана скласці па магчымасці поўную картатэку дыялектных слоў, якія захаваліся ў мове мясцовых жыхароў.

Гаворкі Міёрскага раёна наогул па сваіх важнейшых асаблівасцях адносяцца да паўночна-ўсходняга дыялекту. Найбольш характэрнымі рысамі іх з'яўляюцца дысімілятыўнае аканне (і яканне), паслядоўнае аглушэнне зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі гукамі, кароткія формы прыметнікаў у выказніку, канчатак *-ый* (*-ій*) паралельна з *-ы*(*-і*) у прыметнікаў у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду, формы дзеясловаў на *-эць*(*-ець*) у трэцяй асобе адзіночнага ліку. Але для гэтых гаворак характэрны і свае спецыфічныя рысы. Адзначым некаторыя з іх.

Дысімілятыўнае аканне ў гаворках Міёршчыны суправаджаецца асаблівай асіміляцыйнасцю. У становішчы паміж губнымі, пасля губнога, перад заднеязычным (і ў некаторых іншых пазіцыях) не пад націскам замест ъ[1] чуецца *у*, праўда, непаслядоўна: *съмувáр, з вуўкáмі, любутá, бурукá, але нъчъвáць, зъмъкáць, нъ пъпáры,*

---

[1] Гук, які абазначаецца ў артыкуле знакам ъ,— рэдукаваны галосны сярэдняга пад'ёму задняга рада.

*пъпа́ўся, пъбра́лі.* Тое ж у канчатках назоўнікаў: *пъсялу́хуў, пъхаду́хуў, ме́жуў, я́блъкуў* (*Р. мн.* ад *пъсялу́ха, пъхаду́ха, міжа́, я́блък*).

У дзеясловаў на *-ну-ць*, у якіх суфікс *-ну-* з'яўляецца ненаціскным, у інфінітыве ў суфіксе чуецца рэдукаваны гук, падобны да кароткага галоснага *а: мо́кнъць, хра́пнъць, то́пнъць, ско́кнъць, пі́снъць, кры́кнъць* (пад націскам — *атамкну́ць, піхну́ць* і г. д.). У 3-й асобе множнага ліку такіх дзеясловаў у канчатку не пад націскам заўсёды чуецца гук *у: яны́ змо́кнуць, пі́снуць, кры́кнуць* і г. д. У прошлым жа часе гук *ъ* адзначаецца не пад націскам у формах жаночага і ніякага роду: *іна́ трэ́снъла, ло́пнъла, яно́ трэ́снъла, ло́пнъла* (пад націскам — *іна́ капну́ла, яно́ тръсану́ла* і г. д.). У формах жа мужчынскага роду гэтага не назіраецца: ён *ско́кнуў, сма́льнуў,* як і *смъргану́ў, ръзану́ў.* Але гук *у* не пад націскам абумоўлен тут, відаць, наступным канцавым *ў* у форме. Пад яго ўплывам, напэўна, набываюць губную артыкуляцыю таксама ненаціскныя галосныя ў форме мужчынскага роду прошлага часу іншых дзеясловаў: *па́сьцюў, ро́бюў, рэ́зуў, ку́руў, ду́муў* і інш.

Зваротныя дзеясловы і дзеепрыслоўі ў гаворках раёна маюць у сваім суфіксе канцавы галосны, які вымаўляецца ў выглядзе гукаў *а, і, у* (*-ся, -сі, -сю*). Якасць галоснага ў суфіксе залежыць ад месца націску і якасці папярэдніх гукаў. Гук *і* ў суфіксе чуецца звычайна тады, калі ў складзе перад суфіксам вымаўляюцца гукі *і, ы, ъ: насі́лісі, вазі́лісі, круці́лісі, паддо́брълісі, пъддабры́лісі, бяры́цісі, зъмары́лісі, забы́лісі, пъдня́ўшъсі, збачы́ўшъсі, абу́ўшъсі, хіля́ючъсі, кі́дъючъсі, въръбля́ючъсі.* Калі ж папярэднія гукі *і, ы* з'яўляюцца націскнымі, у суфіксе адзначаецца гук *а: вязьлі́ся, пяклі́ся, нясьлі́ся, бъючы́ся, сьміючы́ся.* Але магчыма і *нясьлі́сі, пяклі́сі.*

Гук *у* ў суфіксе адзначаецца заўсёды ў тых выпадках, калі ў складзе перад суфіксам гучыць галосны *у* незалежна ад месца націску: *баю́сю, саджу́сю, пяку́сю, цягну́сю, кладу́сю, нъхаджу́сю, пъпаду́сю, важу́сю, мару́сю, хъва́юсю, мъта́юсю, па́русю, пъніма́юсю.* Аднак гэта з'ява характэрна толькі для мовы старэйшых. Звычайна ж у такіх выпадках адзначаецца гук *а: гарджу́ся, хвалю́ся, кладу́ся, мы́юся, бры́юся* і г. д. Ва ўсіх астатніх пазіцыях суфікс зваротных дзеясловаў і дзеепрыслоўяў мае гук *а:бъя́ўся, узя́ўся, бярэ́сься, пъднят́ло́ся, пънясло́-*

*ся, вóзьмімся, калóцімся, аціля́къвъімся, таўчы́ся, нясьціся, бъя́ся, тъя́ся, біра́ся, нъхъдзя́ся.*

Звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя асаблівасці ў націску. У гаворках Міёрскага раёна адзначаюцца формы назоўнікаў: *славы́* — Н. мн. ад *слóва, спъсабы́* — Н. мн. ад *спóсъп; нъ дубé* або *нъ дубу́, нъ вазé* або *нъ вазу́, нъ масьцé* або *нъ масту́, нъ кусьцé* або *нъ кусту́* — М. адз. ад *дуп, вос, мост, куст; к сьцéні* — Д. адз. ад *сьцiна́; да рэ́кі* — Р. ад *ръка́*. Своеасаблівае месца займае націск у формах некаторых дзеясловаў: *ку́ръць* — *ку́руў, я ку́ру* (т. с.: *заку́ръць, ску́ръць, піраку́ръць, даку́ръць* і інш.), а таксама *рóбіць* (*зрóбіць, атрóбіць* і г. д.), *лéчъць* (*палéчъць, залéчъць* і г. д.). Некаторыя дзеясловы з асновай на зычны выступаюць у інфінітыве з націскам на аснове і на канцавым галосным: *нéсьці* і *нясьці́, вéсьці* і *вясьці́, мéсьці* і *мясьці́, плéсьці* і *плясьці́* і інш. Пашырана ўжыванне многіх якасных прыметнікаў з націскам на канчатку: *страшны́ (-ы́й), смашны́ (-ы́й), дужы́ (-ы́й), танкі́ (-і́й), таўсты́ (-ы́й), душны́ (-ы́й), драбны́ (-ы́й), цяшкі́ (-і́й)* і г. д. Адзначаюцца яны і з націскам на аснове: *сма́шны (-ый), тóнкі (-ій), дрóбны (-ый)* і інш.

Для гаворак Міёрскага раёна характэрны канчатак *-і* ў Н. мн. для назоўнікаў на *-ан-*, якія з'яўляюцца назвамі людзей па прыналежнасці да населенага пункта (або народнасці): *пълъча́ні* (жыхары г. Полацка), *лънча́ні* (жыхары в. Лонка), *къдушча́ні* (жыхары в. Кадушкі), а таксама *цъга́ні, мълдъва́ні* і г. д.

Пашыраны ў гаворках Міёрскага раёна дзеепрыслоўі, утвораныя пры дапамозе націскных суфіксаў *-а́(-я́): стъя́, ліжа́, къжа́, гъвъра́, хъдзя́, атхъдзя́, зъхъдзя́, дъхъдзя́, пъхъдзя́, схъдзя́, пъгъдзя́, сідзя́, тъя́,* а таксама зваротныя: *бъя́ся, тъя́ся, біра́ся, пръся́ся, мъля́ся, нъхъдзя́ся* і інш. Адзначаюцца і дзеепрыслоўі з суфіксам *-учы(-ючы): нóсючы, вóзючы, лётъючы, гуля́ючы, гавóручы, стръля́ючы, мéсючы, сплючы́* і г. д. Пераважаюць ва ўжыванні ўтварэнні з суфіксам *-а́(-я́).*

Назіраецца паралелізм варыянтаў дзеясловаў з прыстаўкай *а-* і *аб(а)-*. Адзначаюцца, напрыклад: *абапéрцісі* і *апéрцісі, абвеі́ць* і *авеі́ць, апкары́ць* і *акары́ць, апсъпа́ць* і *асъпа́ць, апхадзі́ць* і *ахадзі́ць, апхадзі́цца, ахадзі́цца, апсъха́ць* і *асъха́ць, аптрасьці́* і *атрасьці́, апчы́сьціць* і *ачы́сьціць* і г. д. Гэтыя варыянты абсалютна тоесныя па значэнню.

У гаворках раёна вельмі прадуктыўным з'яўляецца іменны суфікс *-ін-а* са значэннем адзінкавасці. Пашыраны з гэтым суфіксам такія назоўнікі, як: *клініна́* — дрэўца клёну, *малі́ніна* — адна ягада малін, *гъръшъна́* — адно зернейка гароху, *бяро́зіна* — адно дрэва бярозы, *во́льшъна і во́льшніна* — дрэўца альхі, *ве́рбіна* — адно дрэва вярбы, *ры́біна* — адна з рыбы, *мы́шъна* — мыш, *я́гъдзіна* — адна ягада, *папе́ръна* — кавалачак паперы і г. д.

У дыялектнай мове насельніцтва Міёрскага раёна пашыраны ва ўжыванні запазычанні. Сярод іх значнае месца займаюць словы з суседніх балтыйскіх моў, асабліва з літоўскай: *артáй, асьве́р, ато́с, ашáк, бры́нда, гірсá, гры́жа, ды́рда, гіргéль, дзірвáньня, уздо́ліць* і інш. Адзначаюцца ў гаворцы і паланізмы: *вандзэ́лък, въпрэ́нджъвъцца, вътълі́нкъвъць, вэ́дзгъць, вэ́ндзъл, г'урунцувáцца, дастрэ́нчъць, дрэ́нчъцца, е́ндза, жонт, жо́ньціць, ляндры́нка, мэ́нчъць, пъніхе́ньціцца, пънтупэ́лькі, пілінгъвáцца, прэ́ньдзіць, прэ́нтка, садзэ́ньня, сьвітае́дны, хэньць, шчані́дла* і інш.

Такія найбольш значныя асаблівасці гаворак Міёрскага раёна. У тым ліку і гаворкі в. Манякова.

У гаворцы в. Манякова асабліва цікавым з'яўляецца вялікі пласт лексікі — словы, якія з'яўляюцца агульнымі назвамі людзей у адпаведнасці з іх фізічнымі або псіхічнымі адзнакамі, адносінамі да іншых людзей, да працы, па іх паводзінах у калектыве, па знешняму выгляду, рысах характару і якія паказваюць адначасова эмацыянальныя адносіны да іх. Такая лексіка, як вядома, носіць назву экспрэсіўнай, ці эмацыянальнаацэначнай. Экспрэсіўная лексіка прадстаўлена ў гаворцы дзеясловамі, прыметнікамі, прыслоўямі. Але па колькасці больш за ўсё экспрэсіўных назоўнікаў.

У гэтым артыкуле пададзена частка экспрэсіўных назоўнікаў, характэрных для гаворкі. Па асаблівасцях асноўнага значэння яны размежаваны на чатыры эмацыянальнаацэначныя класы. Унутры гэтых класаў назоўнікі падзяляюцца на сінанімічныя групы, ці рады.

Парадак размяшчэння назоўнікаў у сінанімічным радзе наступны. Спачатку ідуць словы, у якіх дамінантнае значэнне адпаведнага сінанімічнага рада з'яўляецца асноўным. Пры гэтым паметамі адзначаецца характар іх экспрэсіўнасці, а пры тлумачэнні значэння паказваюцца

іх семантычныя адносіны паміж сабой. Пасля гэтых назоўнікаў прыводзяцца метафарычныя назвы. У некаторых выпадках падаюцца таксама і кантэкстуальныя назвы. Іх іншы раз немагчыма адасобіць ад метафарычных.

Унутры эмацыянальнаацэначных класаў групы размяшчаюцца ў паслядоўнасці, якая залежыць ад значнасці экспрэсіўных характарыстык.

## ЗНЕШНІ ВЫГЛЯД ЧАЛАВЕКА

### Неахайны, брудны, апушчаны

ГРАЗНУ'ЛЯ *м.* і *ж. асудж.*— брудны, мурзаты; тое ж му́рза *м.* і *ж. асудж.,* мурза́ч *м. асудж.,* мурзэ́ль *м. асудж.,* мурзэ́ля *м.* і *ж. жарт.,* мурзэ́ліна *м.* і *ж. узмацн.;* каржэ́й *м. зневаж.* — вельмі карэлы, брудны; тое ж каржэ́іна *м.* і *ж. узмацн.*; хлю́ндра *м.* і *ж. груб.*— вельмі брудны, абпэцканы; въшапру́т *м.* (въшапру́тка *ж.*) *груб.*— вельмі брудны, вашывы; ву́шмъла *м.* і *ж. зневаж.* — апушчаны, часта з насунутай на вочы шапкай; шалу́цька *м. асудж.*— апушчаны і адзеты не па росту; тое ж шму́лька *м. асудж.,* шму́ля *м. асудж.*

### Абшарпаны, абадраны

АПШЪРПА'НІЦ *м.* (апшърпа́нка *ж.*) *асудж.*— абшарпаны, абадраны; тое ж абдзіра́нік *м.* (абдзіра́нка *ж.*) *асудж.,* гълъдра́ніц *м.* (гълъдра́нка *ж.*) *зневаж.,* да́рла *м. зневаж.,* лату́та *м.* і *ж. асудж.,* лату́ціна *м.* і *ж. узмацн.,* лаху́дра *м* і *ж. асудж.,* лаху́дръна *м.* і *ж. узмацн.*

Пераносныя: чу́чъла *м.* і *ж., асудж.*— вельмі неахайны, абадраны (прамое — пудзіла); дуда́р *м. зневаж.*— абшарпанец (прамое — мянушка нейкага колішняга мясцовага жабрака).

### Валасаты

ВЪЛЪСА'Ч *м. асудж.*— з вялікімі валасамі; тое ж късма́ч *м. асудж.,* касмы́ль *м. зневаж.,* лъхма́ч *м. асудж.,* хъхла́ч *м. асудж.;* ро́йка *ж. асудж.* — з непрыбранымі, распушчанымі валасамі, проставалосая.

## Поўны, тоўсты, здаровы

ТАЎСЬЦЮ́К *м.* (таўсьцю́ха *ж.*) *асудж.*— тоўсты; тое ж туўсьця́к *м. асудж.*, таўсту́н *м.* (таўсту́ха *ж.*) *асудж.;* брухáн *м. асудж.*— пузаты; тое ж брухáч *м. асудж.*, брушáн *м. ласк.* (часцей пра дзяцей), пузáч *м. асудж.*, пузачэ́нь *м. узмацн.;* лáйба *ж. груб.*— вельмі тоўстая, здаровая жанчына; тое ж лáйбіна *ж. узмацн.*, лáня *ж. асудж.*, лáйна *ж. асудж.*, капéша *ж. асудж.*, какéша *ж. асудж.;* гъхавéнь *м.* (гъхъўня́, гьхъўнá, гáхъўка, гáхня, гáхвіна *ж.*) *груб.*— вельмі здаровая, мажная асоба; тое ж г′ой *м. асудж.*, гóгъль *м. асудж.;* здъръвя́к *м. асудж.*— здаровы чалавек; тое ж здъръвя́ка *м.* і *ж. асудж.*, здъръвінá *м.* і *ж. узмацн.*, здъръвіня́ *м.* і *ж. узмацн.*, мушчы́нішча *м. груб.*, мужурнá *м. груб.*, лайту́бішча *м* і *ж. груб.*, въган *м. груб.*, лямéнь *м. груб.*, лъмаві́к *м. груб.*, лъмінá *м.* і *ж. узмацн.;* нълівéнь *м. груб.*— вельмі здаровы, як наліты; ляплёнік *м.* (ляплёха *ж.*) *асудж.* — таўстун, як вылеплены; апéкуш *м. асудж.*— здаровы, як выпечаны; сівáк *м. асудж.*— стары, але яшчэ вельмі здаровы чалавек; красьнéц *м. асудж.*— здаровы, чырванашчокі; тое ж кръсьня́к *м. асудж.*, красьніла *м.* і *ж. узмацн.*, красьню́га *м.* і *ж. узмацн.*, чърванéц *м. асудж.;* растóпа *ж. груб.*— вельмі тоўстая і нехлямяжая жанчына; тое ж ръстъпшня́ *ж. груб.*, ръстъпчá *ж. груб.*, кучмá *ж. груб.*

Пераносныя: зілянíк *м. груб.*— вельмі здаровы (прамое — вялікая бутля); клуньдзю́к *м. груб.*— тоўсты, брухаты (прамое — кіндзюк); пузы́р *м. асудж.*— тоўсты хлопчык (прамое — пухір); камлю́к *м. асудж.* — таўстун, часцей хлопчык (прамое — кругляк дроў); ляпёха *ж. асудж.*— тоўстая, нехлямяжая жанчына (прамое — няўдалае печыва, праснак); куча *ж. асудж.*— тоўстая, непаваротлівая жанчына (прамое—куча); мъкацёр *м. груб.*— вельмі здаровы чалавек (прамое — пасудзіна); тое ж жърнасéк *м. груб.* (прамое — жарнасек, каменячос), ры́дзіль *м. груб.* (прамое — вялікая рыдлёўка); лямéш *м. груб.* (прамое — лямеш); сту́па *ж. груб.*— тоўстая жанчына (прамое — ступа); тое ж калóда *ж. груб.* (прамое — тоўстае бервяно), калóтка *ж. груб.*

## Худы, слабы, хваравіты

СЛЪБА́К *м.* (слъбáчка *ж.*) *спагадл.*— слабы; худы́ш *м. ласк.*, *спагадл.*— худы; тое ж худы́ша *м.* і *ж. ласк.*,

*спагадл.,* худы́шка *м.* і *ж. ласк., спагадл.;* дръг′а́ліна *ж. асудж.*— вельмі худая асоба; здъхля́к *м.* (здъхля́чка *ж.*) *груб.*— вельмі худы, слабы (*здо́хлы* — худы, слабы); тое ж зды́хла *м.* і *ж. зневаж.,* зды́хля *м.* і *ж. зневаж.,* здъхлі-на́ *м.* і *ж. узмацн.,* зды́хліна *м.* і *ж. узмацн.,* здъхля́ціна *м.* і *ж. узмацн.,* жарт. *м. асудж.,* дъхдзя́га *м.* і *ж. асудж.,* апо́ўзьлік *м. асудж.;* забле́дъш *м. асудж.*— вельмі худы, бледны; хвару́н *м.* (хвару́ха *ж.*) *спагадл.*— хваравіты; сіпу́н *м.* (сіпу́ха *ж.*) *асудж.*— хваравіты, які часта кашляе, цяжка дыхае; кашлю́н *м.* (кашлю́ха *ж.*) *асудж.*— той, хто часта кашляе, прастуджваецца; тое ж пярху́н *м. асудж.,* пе́рхъла *м.* і *ж. асудж.,* пірхе́къла *м.* і *ж. асудж.;* ха́къла *м.* і *ж. асудж.*— той, хто вельмі цяжка дыхае, звычайна прастуджаны, хворы; тое ж хры́пъла *м.* і *ж. асудж.*

Пераносныя: біркулёзьнік *м.* (біркулёзьніца *ж.*) *асудж.*— худы, бледны, хваравіты (прамое — чалавек, хворы на туберкулёз); сьцень *м. асудж.*— вельмі худы, счарнелы (прамое — цень); тое ж цень *м. асудж.;* шчы́г-ла *ж. асудж.*— вельмі худая асоба (прамое — птушка шчыгол).

## Гарбаты

ГАРБЫ′ЛЬ *м. зневаж.*— гарбаты; тое ж гърба́ч *м. зневаж.,* гарбу́н *м. зневаж.,* гэ́рбънька *м.* і *ж. спагадл.*

## Кульгавы

КРЪВІНЬДЗЯ′ *м* і *ж. зневаж.;* тое ж кръву́ля *м.* і *ж. зневаж.,* кръвіна́ *м.* і *ж. зневаж.*

Пераноснае: късіла́ *м.* і *ж. зневаж.* — кульгавы чалавек (прамое — мыліца, пратэз).

## Губаты

ЛУПА′Ч *м. зневаж.*— з вялікімі, тоўстымі губамі; тое ж лупэ́ньдзік *м. зневаж.,* лупэ́ньдзя *м.* і *ж. зневаж.,* лупэ́н-да *м.* і *ж. зневаж.,* лупънда́ *м.* і *ж. зневаж.*

## Насаты

НАСУ′ЛЬ *м. асудж.*— з вялікім носам чалавек; тое ж насу́ля *м.* і *ж. асудж.*

Пераноснае: нос *м. асудж.*— чалавек з вялікім носам.

### Галаваты

ГЪЛАВЕ́НЬ *м. асудж.*— чалавек з вялікай галавой; тое ж гълавёша *м.* і *ж. асудж.*

### Рабы

РА́БІН *м. зневаж.*— рабы чалавек; тое ж рабу́ха *ж. асудж.*, рабэ́йза *м.* і *ж. зневаж.*

### Светлавалосы, светлатвары

БІЛЯ́К *м. асудж.*— з вельмі светлымі валасамі; тое ж бялю́сь *м. асудж.*, біля́нка *м.* і *ж. асудж.*, бе́лка *ж. ласк.*

Пераноснае: сьміта́на *ж. асудж.*— асоба з вельмі белым тварам.

### Цёмнаскуры, цёмнавалосы

СМАГУ́ЛЪ *м. асудж.*— цёмнаскуры, смуглы; чарну́ля *ж. асудж.*— чорнавалосая жанчына; тое ж чарну́ха *ж. асудж.*, чарно́ля *ж. асудж.*

Пераноснае: цъга́н *м.* (цъга́нка *ж.*) *асудж.*— вельмі цёмнаскуры, чорнавалосы.

### Рыжы

РУДА́К *м. асудж.* — рыжавалосы; тое ж рудзі́ла *м.* і *ж. асудж.*, руду́ха *ж. асудж.*, ружо́ня *ж. асудж.*

### Высокі

ДЫ́РБА *м.* і *ж. асудж.*— высокі, цыбаты; тое ж ды́рбіна *м.* і *ж. узмацн.*, ды́лда *м.* і *ж. асудж.*, ды́рда *м.* і *ж. асудж.*, ды́рдзіна *м. і ж. узмацн.*, дзы́рда *м.* і *ж. асудж.*, даўгі́ла *м.* і *ж. асудж.*, цы́мбъла *м.* і *ж. асудж.*, дзы́ндзъль *м. асудж.*

Пераноснае: жърдзіна́ *ж. асудж.*— высокі, цыбаты (прамое — жэрдка).

### Нізкаваслы

ПАРХ *м. асудж.*— малы, нізкарослы, недарослы; тое ж парху́ль *м. узмацн.*, пърха́ч *м. узмацн.*, кърандышч

*м.* (кърандышка *ж.*) *асудж.*, шкет *м. асудж.*, шкілóньдзік *м. асудж.*

Пераносныя: курга́н *м. асудж.*— малы, каржакаваты (прамое — пагорак); ку́ръчка *ж. спагадл.*— нізкарослая, шчуплая жанчына.

## ПСІХІЧНЫ СТАН ЧАЛАВЕКА

### Дурны, недалёкі, слабы на розум, някемлівы, нездагадлівы

ДУ′РЫНЬ *м. асудж., спагадл.*— дурны; тое ж дура́к *м. асудж., спагадл.*, дурачы́на *м.* і *ж. узмацн.*, дурніца *ж. спагадл.*, дурніся *ж. асудж.*, дуры́ла *м. груб.*, дурніла *м. груб.*, дурнёха *ж. груб., спагадл.*, дурма́н *м. груб.*, дуралéй *м. зневаж.*, дуралéіна *м.* і *ж. узмацн.*, дурніна́ *м.* і *ж. узмацн.*, дурашлёп *м. груб.*; махлю́й *м. асудж.* — дурнаваты; зъмухры́шка *м. асудж.*—недалёкі, дурнаваты; тое ж жы́ська *м. асудж.*, нідацёпа *м.* і *ж. асудж.*; няўвéсь *м. асудж.* — дурнаваты; тое ж паўду́ рък *м. асудж.*, пръду́ рък *м. асудж.*; мацёха *м.* і *ж. асудж.*— недалёкі чалавек, які ні ў чым не разбіраецца; тое ж цёха-мацёха *м.* і *ж. асудж.*, цёха *м.* і *ж. асудж.*, мацю́ха *м* і *ж. асудж.*, цю́ха-мацю́ха *м.* і *ж. асудж.*, цю́ха *м.* і *ж. асудж.*, цёпа *м.* і *ж. асудж.*, цёпка *м.* і *ж. асудж.*, цяўпéнь *м. асудж.*, цяўпéшка *м.* і *ж. асудж.*, цяўпéша *м.* і *ж. ласк.*, пъцяўпéнь *м. асудж.*, пъцяўпéшка *м.* і *ж. асудж.*; ву́хла *м.* і *ж. груб.*, бадзіла *м.* і *ж. груб.*, баўдзéь *м. груб.*, баўдзіла *м.* і *ж. узмацн.*, бóўдзіла *м.* і *ж. узмацн.*, баўцéль *м. асудж.*, *баўціла м.* і *ж. узмацн.*, баўтру́к *м. асудж.*; баслу́й *м. груб.*— вялікі дурань; тое ж баслу́іна *м.* і *ж. узмацн.*, абалду́й *м. груб.*, *абалду́іна м.* і *ж. узмацн.*, балду́й *м. груб.*, балду́іна *м.* і *ж. узмацн.*, балбéс *м. груб.*, балбéсіна *м.* і *ж. узмацн.*, балдэ́с *м. груб.*, балдэ́сіна *м.* і *ж. узмацн.*, бавóл *м. груб.*, бавóліна *м.* і *ж. узмацн.*, асталóп *м. груб.*— дурань, да крайнасці тупы; тое ж а́сталóпіна *м.* і *ж. узмацн.*; бу́йла *м.* і *ж. груб.*, бу́іла *м.* і *ж. узмацн.*, бу́йвъла *м.* і *ж. груб.*; ръсьсявéнь *м.* (ръсьсяву́ха *ж.*) *асудж.*— рассеяны, дурнаваты; тое ж ръсьсяву́ля *м.* і *ж. асудж.*; ръг′іза́ *м.* і *ж. асудж.*; разінька *м.* і *ж. асудж.*—рассеяны, някемлівы; тое ж разіня *м.* і *ж. узмацн.*, ръзя́ва *м.* і *ж. узмацн.*, ръзіва́ка *м.* і *ж. узмацн.*, рътазéй *м. асудж.*, рътазéіна *м.* і *ж. узмацн.*

Пераносныя: бало́та *н. зневаж.*— недалёкі, дурнаваты, які выказваецца недарэчна, не да месца (прамое — балота); цю́па *м.* і *ж. асудж.*— недалёкі чалавек, які ні ў чым не разбіраецца (прамое — недабраякасная рэдкая страва); тое ж цюпня́ *м.* і *ж. зневаж.*, цюўпня́ *м.* і *ж. зневаж.*, цю́пка *м.* і *ж. асудж.* (*прамое* — салодкае малако з накрышаным у яго хлебам), бо́ўтка *м.* і *ж. асудж.* (прамое — прылада, якой заганялі рыбу ў сеткі), бо́ўціла *м.* і *ж. узмацн.*; стату́й *м. груб.*— вялікі дурань (прамое— статуя); тое ж стату́іна *м.* і *ж. узмацн.*, валу́й *м. груб.* (прамое — грыб валуй), валу́іна *м.* і *ж. узмацн.;* бълва́н *м. груб.*— тупы, дурнаваты (прамое — пудзіла); бязьме́н *м. груб.*— вялікі дурань, які ні ў чым не разбіраецца (прамое — бязмен); тое ж бот *м. груб.*, пень *м. груб.*, халу́й *м. груб.* (прамое — халуй, прыслужнік), бъра́н *м. груб.*, бърънá *м.* і *ж. груб.*; ро́цька *м. абразл.*— дурань (прамое — уласнае імя); тое ж ціме́ха *м. абразл.* (прамое — уласнае імя), мэ́ндъль *м. абразл.* (прамое — уласнае імя); г′о́лда *ж. абразл.*— дурная (прамое — уласнае імя); тое ж ге́лда *ж. абразл.* (прамое — уласнае імя), мары́ся *ж. абразл.* (*прамое* — уласнае імя); мар’ю́та *ж. абразл.* (прамое—уласнае імя); халдо́ся *ж. абразл.* (прамое — уласнае імя), халдэ́ся *ж. абразл.* (прамое — уласнае імя), халдэ́я *ж. абразл.* (прамое — уласнае імя).

**Разумны, кемлівы, здагадлівы**

РАЗУ′МНІК *м.* (разу́мніца *ж.*) *іран.*—разумны; тое ж ръзумя́ка *м.* і *ж. іран.*, мудрэ́ц *м. іран.;* гълаве́нь *м. асудж.* — вельмі разумны і кемлівы.

Пераноснае: гълъва́ *м.* і *ж. пахв.*— вельмі разумны, які ўсё разумее, ва ўсім разбіраецца.

**Балбатлівы, нястрыманы на язык**

ГЪВАРУ′Н *м.* (гъвару́ха *ж.*) *асудж.*— асоба, якая любіць пагаварыць; бълбату́н *м.* (бълбату́ха *ж.*) *асудж.*— балбатлівая асоба; тое ж балту́н *м.* (балту́ха *ж.*) *асудж.*, балто́ха *м.* і *ж. асудж.*, бълтухнá *м.* і *ж. асудж.;* брахýн *м. асудж.*— вялікі балбатун; тое ж тръпа́ч *м.* (тръпа́чка *ж.*) *асудж.;* лъпату́н *м.* (лъпату́ха *ж.*) *асудж.*—чалавек, які лапоча без перастанку; тое ж лътато́н *м. асудж.*, чачэ́ня *м.* і *ж. асудж.* ръссасу́ля *м.* і *ж. асудж.*— чалавек,

які любіць шмат пагаварыць, паразважацць; тое ж ръздабу́ра *м.* і *ж.* *асудж.*, търадэ́ня *м.* і *ж.* *асудж.*, тръдэ́я *м.* і *ж.* *асудж.*, пустаме́ля *м.* і *ж.* *асудж.*— пустамалот; трълузе́нь *м.* *зневаж.*— чалавек, які гаворыць недарэчна, не да месца; тое ж тръпуза *м.* і *ж.* *зневаж.*, плявýрзгъла *м.* і *ж.* *зневаж.*, пляўдýра *м.* і *ж.* *зневаж.*, тъбале́нь *м.* *асудж.*, тъбале́шка *м.* і *ж.* *асудж.*, тъбалеша *м.* і *ж.* *ласк.*, тъбъла́ *м.* і *ж.* *асудж.*, ганьдзюра *м.* і *ж.* *зневаж.*, гъньдзю́ра́ *м.* і *ж.* *зневаж.*, плю́та *м.* і *ж.* *зневаж.*, плю́тъла *м.* і *ж.* *узмацн.*; вягло́ *н.* *зневаж.*, вя́гъла *м.* і *ж.* *зневаж.*, вядзгу́н *м.* *зневаж.*, вя́дзгъла *м.* і *ж.* *зневаж.*, вядзгула *м.* і *ж.* *зневаж.*, ляпе́нда *м.* і *ж.* *зневаж.*, ліпінда́ *м.* і *ж.* *зневаж.*, лімінда́ *м.* і *ж.* *зневаж.*; юда́ *м.* і *ж.* *зневаж.*— чалавек, які гаворыць не да месца, нясе лухту, брэша; кръксу́н *м.* (кръксу́ха *ж.*) *асудж.*— аматар пакрычаць, гучна пагаварыць, крыкун; тое ж кръксу́ля *м.* і *ж.* *асудж.*; раўло́ *н.* *груб.*— той, хто часта крычыць, раве; тое ж зя́па *м.* і *ж.* *груб.*, зя́пъла *м.* і *ж.* *узмацн.*, зяпло́ *н.* *груб.*

Пераносныя: сікачо́к *м.* *асудж.*— чалавек, які вельмі хутка гаворыць, не дасць сказаць іншаму, сячэ слова за словам (прамое — *памянш.* *да* сякач — прылада, якой сякуць ахрап'е); трашчо́тка *ж.* *асудж.*— той, хто ўвесь час хутка і гучна гаворыць, трашчыць, тараторыць (прамое — трашчотка, цацка); тое ж чачо́тка *ж.* *асудж.* (прамое—танец; невялікая птушка); гъръда́ *м.* і *ж.* *зневаж.*— той, які гаворыць не да месца, выдумляе глупства (прамое — неакуратная гарадзьба, вынік такой гарадзьбы); ля́па *м.* і *ж.* *груб.*— вялікі крыкун (прамое — ляпа, пашча).

## Маўклівы

НЯМЧУ'Р *м.* *асудж.* — вельмі маўклівы; тое ж не́міц *м.* *асудж.*, му́ма *м.* і *ж.* *зневаж.*, ню́ня *ж.* *асудж.*; лунь *м.* *асудж.*— маўклівы, скаваны ў рухах чалавек.

Пераноснае: сом *м.* *зневаж.*— вельмі маўклівы чалавек.

## Злы, люты, заўсёды незадаволены, бурклівы

НАДУ'ЦЬКА *м.* *асудж.*— злы, насуплены; дътува́нік *м.* *зневаж.*— вельмі злы; пад'зе́мільнік *м.* (пад'зе́мільніца *ж.*) *зневаж.*— вельмі злы, які глядзіць увесь час у зямлю, баіцца глянуць людзям у вочы; бурку́н *м.* *асудж.*— заўсёды незадаволены, злы, бурклівы; тое ж

бу́ркъла *м.* і *ж. асудж.*, пукту́н *м.* (пукту́ха *ж.*) *асудж.*, пу́кта *м.* і *ж. асудж.*, пу́ктъла *м.* і *ж. узмацн.;* е́ндза *м.* і *ж. зневаж.*— заўсёды незадаволеная асоба, якая енчыць пра свае няўдачы са злосцю; тое ж е́ндзъла *м.* і *ж. узмацн.*, яндзо́ла *м.* і *ж. зневаж.*, ю́нда́ *м.* і *ж. зневаж.*, юндо́ла *м.* і *ж. зневаж.*, юнду́ха *ж. зневаж.*

Пераносныя: гат *м. зневаж.*— вельмі злы, люты чалавек (прамое — змей); тое ж га́дзіна *ж. зневаж.*, гадзю́ка *ж. зневаж.*, га́дъўка *ж. зневаж.*, гъдаве́нь *м.* (гъдъўня́ *ж.*) *узмацн.*, зьмей *м.* (зьмія́ *ж.*) *зневаж.*, зьміiна́, *м.* і *ж. узмацн.*, людае́т *м.* (людае́тка *ж.*) *зневаж.*, людае́дзіна *м.* і *ж. узмацн.*, зьвер *м. зневаж.*, зьвяру́га *м.* і *ж. узмацн.*, зьвіръна́ *м.* і *ж. узмацн.*, ве́дзьма *ж. зневаж.* (прамое — ведзьма), ве́дзьміна *ж. узмацн.;* дуда́р *м. зневаж.*— заўсёды злы, незадаволены, увесь час бурчыць сабе пад нос ад злосці (прамое — дудар, ігрок на дудзе); тое ж дуда́ръна *м.* і *ж. узмацн.*, дуда́ *ж. зневаж.* (прамое — дуда, музычны інструмент), дудзі́ла *м.* і *ж. узмацн.*

## Скупы

СКУПЕ′Ц *м. неадабр.*— скупы; тое ж скупіньдзя́ *м.* і *ж. узмацн.*; скна́ра *м.* і *ж. неадабр.*— вельмі скупы; тое ж жа́дзіна *м.* і *ж. зневаж.*, жадзёба *м.* і *ж. зневаж.*, жмі́нда *м.* і *ж. зневаж.*, жмі́ньдзіна *м.* і *ж. узмацн.*, жмут *м. зневаж.*, жмуці́ла *м.* і *ж. узмацн.;* гълъдамі́р *м.* (гълъдамі́рка *ж.*) *зневаж.*— вельмі скупы і люты чалавек; тое ж сьці́міржнік *м.* (сьці́міржніца *ж.*).

Пераносныя: склют *м. зневаж.*— скупы і люты чалавек (прамое — цяслярская сякера); тое ж склюці́на́ *м.* і *ж. узмацн.*, ада́м *м. зневаж.* (прамое — уласнае імя), ада́мка *м. зневаж.*, адаме́нь *м. узмацн.*, адаме́ц *м. узмацн.*, каі́м *м.* (каі́мка *ж.*) *зневаж.* (прамое — відаць, біблейскае ўласнае імя Каін); тое ж каі́міна *м.* і *ж. узмацн.*

## Самалюбівы

СЪМЪЛЮБІ′МІЦ *м.* (съмълюбімка *ж.*) *зневаж.*— вельмі самалюбівы чалавек; тое ж съмълюбі́віц *м. зневаж.*

## Выпеставаны

ПЯШЧО′НІК *м.* (пяшчо́нка *ж.*) *асудж.*— вельмі выпеставаны чалавек; дъляктун *м.* (дъляктуха, дъляктуся

*ж.*) *асудж.*— вельмі выпеставаная асоба, з якой трэба абыходзіцца далікатна; тое ж въмъшлёнік *м.* въмъшлёнка *ж.*) *асудж.*, сънóк-ліпóвічък *м. асудж.*, ліпóвічък *м. асудж.*, мълізы́нка *ж. зневаж.*, цу́г'а *ж. зневаж.*

Пераносныя: асóба *ж. іран.*— чалавек, з якім патрэбна абыходзіцца далікатна; тое ж анёл *м. іран.* (прамое— анёл), áнгіл *м. іран.*, ацэ́сър *м. іран.* (прамое — асэсар), пан *м.* (пáня *ж.*) *іран.*, панéнка *ж. іран.*, бáрън *м.* (бáръня *ж.*) *іран.*, пан-бáрън *м. іран.*, гъспадзíн *м.* (гуспося *ж.*) *іран.*, пава *ж. іран.* (прамое — птушка пава).

## ПАВОДЗІНЫ

### Указчык, павучальнік

УКА'ШЧЪК *м.* (укáшчъца *ж.*) *іран.*— чалавек, які любіць указваць, павучаць.

Пераносныя: учы́ціль *м. іран.*— павучальнік; тое ж дарэ́ктър *м. іран.* (прамое — дарэктар, хатні настаўнік), адвъкáт *м. іран.*; къманьдзíр *м.* (къманьдзíрка *ж.*) *іран.*— чалавек, які любіць камандаваць іншымі; тое ж къманьдзéр *м.* (къманьдзéрка *ж.*) *іран.*, късміндáнт *м.* (късміндáнтка *ж.*) *іран.*

### Хітры

ХІТРЭ'Ц *м. асудж.*— хітры чалавек; тое ж хітру́н *м.* (хітру́ха *ж.*) *асудж.*, хітру́га *м.* і *ж. узмацн.*, хітрóня *м.* і *ж. ласк.*

### Падманшчык

ПЪДМА'НШЧЪК *м.* (пъдмáншчъца *ж.*) *асудж.*— падманшчык; тое ж абмáншчък *м.* (абмáншчъца *ж.*); мъталы́га *м.* і *ж. асудж.*— вялікі падманшчык; тое ж круцéль *м.* (круцéлька *ж.*) *асудж.*, чмур *м. асудж.*, чмуры́ла *м.* і *ж. узмацн.*, чмут *м. асудж.*, чмуцíла *м.* і *ж. узмацн.*, жу́лік *м. асудж.*; мъхля́р *м.* (мъхля́рка *ж.*) *асудж.*— падманшчык, ашуканец з мэтай нажывы.

### Прайдзісвет

ПРЪХАДЗІ'МІЦ *м.* (пръхадзíмка *ж.*) *асудж.*— прайдзісвет; мъсія́ш *м.* (мъсія́шка *ж.*) *асудж.*— чалавек, які

выйдзе з любога становішча; тое ж мъхамэ́т *м. зневаж.*, мъхамэ́ціна *м.* і *ж. узмацн.*

Пераноснае: вы́жла *м.* і *ж. асудж.*— чалавек, які выйдзе з любога становішча (прамое — паляўнічы сабака).

## Гультай, нядбальнік

ГУЛЬТА'Й *м.* (гульта́йка *ж.*) *асудж.*— гультай; тое ж гульта́іна *м.* і *ж. узмацн.*, ло́дър *м. асудж.*; ла́нтрух *м. зневаж.*— вялікі гультай; тое ж ла́нтру́га *м.* і *ж. узмацн.*, лъміна́ *м.* і *ж. груб.*, за́въліньм. *груб*, ліжабо́к *м. асудж.*; дърмае́т *м.* (дърмае́тка *ж.*) *зневаж.*— чалавек, які сам не працуе, гультайнічае, а жыве за кошт іншых; тое ж дърмае́дзіна *м.* і *ж. узмацн.*; нідба́йла *м.* і *ж. асудж.*— нядбалы чалавек; тое ж нідба́іла *м.* і *ж. асудж.*; гуля́ка *м.* і *ж. асудж.*— чалавек, які не працуе фізічна, гуляе, забаўляецца.

Пераносныя: па́дла *м.* і *ж. груб.*— вялікі гультай (прамое — падла, мярцвячына); тое ж па́дліна *м.* і *ж. узмацн.*, падлю́к *м. груб.*, пабо́йня *м.* і *ж. груб.* (прамое — доўбня), пабо́іна *м.* і *ж. узмацн.*

## Няўмелы, неакуратны ў рабоце, ні да чаго не прыдатны

НЯЎМЕ'КА *м.* і *ж. асудж.*— няўмелая асоба; нідалэ́нга *м.* і *ж. асудж.*— недалужны чалавек; дунду́к *м. груб.*— ні да чаго не здольны (звычайна стары); плёха *м.* і *ж. асудж.*— няўмелая, няспрытная і неахайная ў рабоце асоба; тое ж плёхъла *м.* і *ж. узмацн.*, плёхъўка *м.* і *ж. асудж.*, пе́цкъль *м. асудж.*, пе́цкъла *м.* і *ж. асудж.*, пэцкъль *м. асудж.*, пэ́цкъла *м.* і *ж. асудж.*, хлёпа *м.* і *ж. асудж.*, хлёпъла *м.* і *ж. узмацн.*; бурзо́ла *м.* і *ж. асудж.*— неакуратная пры ядзе і ў рабоце асоба; късвярзе́нь *м. асудж.*— зусім няўмелы і неахайны; тое ж късвірза́ *м.* і *ж. асудж.*, пы́къла *м* і *ж.*, пы́кла *м.* і *ж. асудж.*, пърка́ч *м.* (пърка́чка *ж.*) *асудж.*, по́ркъла *м.* і *ж. асудж.*, пърта́ч *м.* (пърта́чка *ж.*) *асудж.*; бъйба́с *м. асудж.*— вялікі хлопец, які нічога не ўмее рабіць; тое ж бэ́йбъс *м. асудж.*, бъйба́сіна *м.* і *ж. узмацн.*; дзюзна́ *ж. зневаж.*— вялікая дзяўчына, але ні да чаго не здольная, няўмелая; тое ж дзяву́ля *ж. зневаж.*

Пераносныя: глінаме́с *м. асудж.*— няўмелы, няўдалы муляр (прамое — чалавек, які мяшае гліну); скръпа́ч

*м. асудж.*— кепскі ігрок на музычным інструменце (прамое — скрыпач, музыкант на скрыпцы); тое ж скры́пъла *м.* і *ж. узмацн.;* бык *м. асудж.*— вялікі хлопец, але не здольны да працы, які займаецца дзіцячымі забавамі; тое ж бъчу́ля *м. узмацн.,* кабе́ль *м. асудж.,* къбялі́на *м.* і *ж. узмацн.,* къвале́р *м. іран.,* жані́х *м. іран.,* мъльчуга́н *м. асудж.* (прамое—хлопец), малёнък *м. іран.* (прамое—невялікі хлопец, хлопчык), малёнъчък *м. іран.;* сіву́ля *м.* і *ж. зневаж.*— вялікая, ні да чаго не здольная асоба (прамое — сівы чалавек); шчэнь *м. асудж.*— малы хлопец, які бярэцца за непасільныя справы (прамое — шчаня); тое ж шчаню́к *м. асудж.,* шчані́дла *м., ж., н. асудж.,* сапе́ль *м. асудж.,* съпля́к *м. асудж.*

### Умелы, удалы ва ўсім

УМЕ'КА *м.* і *ж. іран.*— той, хто ўсё ўмее рабіць; удалі́на *м.* і *ж. пахв.*— удалы ва ўсім; шлёп-ма́йстра *м. жарт.*— вялікі, адмысловы майстар; тое ж ма́йстра-шлёп *м. жарт.*

### Марудлівы

КАПУ'Н *м.* (капу́ха *ж.*) *асудж.*— вельмі марудлівы чалавек; тапту́н *м.* (тапту́ха *ж.*) — чалавек, які топчацца на месцы ў працы, марудзіць; тое ж тэ́птъль *м. асудж.,* таро́къла *м.* і *ж. асудж.;* цяльпу́к *м. асудж.*— чалавек, якога вельмі цяжка разварушыць, захапіць працай; тое ж аціля́ка *м.* і *ж. асудж.;* валю́хъла *м.* і *ж. асудж.*— павольны ў хадзьбе; тое ж валю́хла *м.* і *ж. асудж.,* со́ўгъла *м.* і *ж. асудж.,* пъцігá́іла *м.* і *ж. асудж.,* пъцігá́йла *м.* і *ж. асудж.,* цягно́ *н. асудж.*

### Бадзяга

ХАДУ'Н *м.* (хаду́ха *ж.*) *асудж.*— чалавек, які ходзіць без справы, мэты; тое ж хадо́к *м., асудж.,* хады́ка *м.* і *ж. асудж.,* хо́дзіла *м.* і *ж. асудж.,* пъхаду́н *м.* (пъхаду́ха *ж.*) *асудж.,* хлы́нда *м.* і *ж. асудж.,* хлы́ндъла *м.* і *ж. узмацн.,* хлы́ма *м.* і *ж. асудж.,* хлы́мъла *м.* і *ж. узмацн.,* бры́нда *м.* і *ж. асудж.,* бры́ндъла *м.* і *ж. узмацн.,* ды́нда *м.* і *ж. асудж.,* ды́ндъла *м.* і *ж. узмацн.,* шлы́нда *м.* і *ж. асудж.,*

шлы́ндъла *м.* і *ж. узмацн.*, сно́ўдъла *м.* і *ж. асудж.*, сёртъла *м.* і *ж. асудж.*, пъшахо́ніц *м.* (пъшахо́нка *ж.*) *асудж.*; шкро́ма *м.* і *ж. асудж.*— чалавек, які ходзіць паволі, шаркаючы нагамі; тое ж шкро́мъла *м.* і *ж узмацн.*; бадзі́ла *м.* і *ж. груб.*— чалавек, які ідзе бязмэтна абы-куды, не гледзячы перад сабой; бъдзя́ўка *м.* і *ж. асудж.*— валацуга; пъсялу́н *м.* (пъсялу́ха *ж.*) *асудж.*— асоба, якая ходзіць шмат па сяле, не рупіцца дамоў; тое ж пъсяле́нь *м. асудж.*; пъсяду́н *м.* (пъсяду́ха *ж.*) *асудж.*— асоба, якая любіць хадзіць па дварах і заседжвацца там.

## Той, які шпарка рухаецца

ВІНАХО′Т *м. асудж.*— чалавек, які вельмі шпарка ходзіць, бегае; тое ж ляту́н *м.* (ляту́ха *ж.*) *асудж.*

Пераноснае: аста́ш *м. асудж.*— чалавек, які вельмі шпарка ходзіць (прамое — вялікі нязграбны бот); тое ж ве́цір *м. асудж.*

## Непаседлівы, рухавы

МІ′ТЪЛЬНІК *м.* (мі́тъльніца *ж.*) *асудж.*— непаседлівы, які ўвесь час снуе ўзад-уперад; тое ж вярціхво́ст *м.* (вярціхво́стка *ж.*) *асудж.*, шълахво́ст *м.* (шълахво́стка *ж.*) *асудж.*; тръпяту́н *м.* (тръпяту́ха *ж.*) *асудж.*— рухавы, утрапёны; тое ж тръпа́ч *м.* (тръпа́чка *ж.*) *асудж.*, хлус *м.* (хлуса́ *ж.*) *асудж.*, хлъбасту́н *м.* (хлъбасту́ха *ж.*) *асудж.*, хлъбъста́ *м.* і *ж. асудж.*, хлъмъзда́ *м.* і *ж. асудж.*; хълтъма́ *м.* і *ж. асудж.*— вельмі непаседлівая, няўрымслівая, дурнаватая, бесталковая асоба; тое ж хълтаме́нь *м. асудж.* (хълтаме́шка *ж.*) *асудж.*, хълтаме́ша *ж. ласк.*, търмъса́ *м.* і *ж. асудж.*; няўстру́й *м. асудж.*— вельмі непаседлівы, нецярплівы.

## Свавольнік

ДУРО′НІК *м.* (дуро́нка *ж.*) *ласк.*— свавольнік; тое ж мъсія́ш *м.* (мъсія́шка *ж.*) *асудж.*, вісус *м. асудж.*, въръва́ніц *м.* (въръва́нка *ж.*) *асудж.*, шъвърва́ніц *м.* (шъвърва́нка *ж.*) *асудж.*, пътшъва́ніц *м.* (пътшъва́нка *ж.*) *асудж.*, жъвадзёр *м.* (жъвадзёрка *ж.*) *асудж.*, жу́лік *м. асудж.*, жула́н *м. асудж.*, шы́цік *м. асудж.*; ла́зік *м.*

*асудж.*— той, хто ўсюды лазіць, сваволіць; тое ж вірхъла́с *м.* (вірхъла́ска *ж.*) *асудж.,* вірхъла́сіна *м.* і *ж. узмацн.*

### Фарсісты, модны

ФАРСУ'Н *м.* (фарсу́ха *ж.*) *асудж.*— фарсісты чалавек; тое ж фарсу́ня *ж. асудж.,* фарсу́льля *ж. асудж.,* фарсу́ля *ж.*; мо́днік *м.* (мо́дніца *ж.*) *асудж.*— асоба, якая модна апранаецца; ръсфуфы́ра *ж. асудж.*— модная, расфуфыраная жанчына; ніцно́та *ж. зневаж.*— звышмодная ў адзенні і сваіх паводзінах жанчына; тое ж цы́тра *ж. зневаж.,* пръцудэ́ра *м.* і *ж. зневаж.,* пръцудэ́ръя *м.* і *ж. узмацн.*

Пераносныя: ля́лька *ж. іран.*— вельмі выпеставаная, крыкліва апранутая, расфуфыраная жанчына; пръя́ва *ж. зневаж.*— звышмодная ў адзенні і сваіх паводзінах жанчына (прамое — праява, з'ява); тое ж пръя́віна *ж. узмацн.*

### Аматар паесці

ІДА'К *м. асудж.*— аматар добра паесці; тое ж ядо́к *м. асудж.,* яду́н *м. асудж.*, яды́ла *м. узмацн.*; абжо́ра *м.* і *ж. груб.*— той, хто многа есць; тое ж пражора *м.* і *ж. груб.*; ко́мкъла *м.* і *ж. груб.*— той, які многа і неакуратна есць; ласу́н. *м.* (ласу́ха *ж.*) *асудж.*— ласы на ежу; смакту́н *м.* (смакту́ха *ж.*) *асудж.*— чалавек, які вельмі мала есць, толькі смокча; тое ж лізу́н *м.* (лізу́ха *ж.*) *асудж.,* лізг'ъла *м.* і *ж. узмацн.*

Пераносныя: мялён *м. груб.*— чалавек, які многа есць (прамое — частка ў жорнах); тое ж цёрла *м.* і *ж. груб.* (прамое — шырокая пасудзіна), про́рва *м.* і *ж. груб.* (прамое — прорва, бездань).

## ГРАМАДСКІ І МАТЭРЫЯЛЬНЫ СТАН

### Бедны, гаротны

БІДНЯ'К *м.* (бідня́чка *ж.*) *спагадл.*— бедны; тое ж бідня́шка *м.* і *ж. спагадл.;* бінду́сь *м. спагадл.*— вельмі бедны чалавек; тое ж бі́нда *м.* і *ж. груб.*, тарбэ́чнік *м.* (тарбэ́чніца *ж.*) *зневаж.;* гъратні́к *м.* (гъратні́ца *ж.*) *спагадл.*— бедны, гаротны.

Пераносныя: галы́ш *м.* (галы́шка *ж.*) *спагадл.*— бедны, у каго няма чаго апрануць (прамое — галыш, голы чалавек).

### Багаты

БЪГАЦЕ′Й *м.* (бъгацéйка *ж.*) *зневаж.*— багаты; тое ж бъгáч *м.* (бъгáчка *ж.*) *зневаж.*, бóг′ъч *м. іран.*, бъгаты́р *м.* (бъгаты́рка *ж.*) *зневаж.*

У заключэнне адзначым дзве асаблівасці экспрэсіўных назоўнікаў. Шмат эмацыянальнаацэначных назоўнікаў мае форму адзінкавасці з суфіксам *-ін-а*, які адначасова выяўляе ўзмацняльнасць: *зьвер — зьвіръна́, гультáй — гультáіна, пáдла — пáдліна* і г. д. Пераважная большасць такіх экспрэсіўных слоў маюць форму зборнасці: *зьвер — зьвяр'ё, гультáй — гультайё, пáдла — пъдлаўё, шкет — шкéцьця* і г. д.

У многіх эмацыянальнаацэначных назоўніках ужываецца выбухны гук *ґ*: *ґуспóся, мъльчуґáн, ґой, ґáхня, вядзґу́ла, вя́ґъла, ръґізá, пляву́рзґъла, ґъньдзюрá, ґат, áнґіл, сóуґъла, цу́ґа, лізґъла, бóґъч* і інш.

*Н. М. Лявончык*

## ЛЕКСІКА ВЯСЕЛЬНАГА АБРАДУ [1]

БА'БА *ж.* Замужняя жанчына. *Як вышла замуж, дык і баба.* Сядзіца. *Ні ляці, дзеткі, замуш, набудзішся яшчэ бабай.* Буйлі.

БАЛЬША'НКІ *мн.* Сяброўкі, сваячкі маладой, якія знаходзяцца пры ёй да канца вяселля. *Бальшанкі бываюць большыя і меншыя. Большая бальшанка сядзіць ля маладой.* Буйлі. *Бальшанкі памагаюць маладой шыць падвянечную адзежу, робяць ёй вянок.* Латыгаль. *Бóльшая бальшáнка* — сяброўка (радзей сваячка), якая сядзіць побач з маладой або *прыданка.*

БАЯ'РКА *ж.* Удзельніца вясельнага абраду з боку маладога.

БАЯ'РЫН *м.* Удзельнік вясельнага абраду з боку маладога. *Адзін баярын ні хацеў аддаваць выкуп за кветку.* Буйлі. *Стáршы баярын* — галоўны (першы) сват на вяселлі з боку маладога або *маршалак.*

БЯЗДО'ЛЬНАЯ *прым.* У выразах *бяздóльная сватаўствó, бяздóльная свáтаньня* — такое сватаўство (сватанне), калі жаніх ідзе да дзяўчыны сватацца адзін. *Пэўня ш учора было бяздольная сватаньня. Ці ш мòжна біс старэйшых ісьці сватацца?* Латыгаль.

ВАЗЬНІ'ЦА *м.* Ездавы, які вязе маладых пад вянец або распісвацца. *У вазьніцы пуга была прыбрана кветкамі.* Трыгузі.

ВЭ'ЛІН *м.* Вэлюм. *Даўней вэлін шылі даўгі. Маладая закідáла яго на руку.* Сядзіца.

ВЯНЕ'Ц *м.* Карона, якую ўскладаюць на галовы маладых у час вянчання. *Ісці пад вянéц* — вянчацца.

ВЯНЕ'ЧНЫ *прым.* Які мае адносіны да вянца або

[1] Матэрыялы запісаны ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці.

*вянчальны. Дайней вянечная сукенка была дайгая, чуць ні да зямлі.* Сядзіца.

ВЯНО'К *м.* Вянок, зроблены са штучных рознакаляровых кветак, упрыгожаны міртай, які надзяюць маладой на галаву. *Сіро́цкі вяно́к* — вянок, зроблены толькі з белых кветак.

ВЯНЧА'ЛЬНЫ *прым.* Які мае адносіны да вянчання. *Як ясна гараць вянчальныя сьвечкі, дык будуць добра жыць маладыя.* Буйлі.

ВЯНЧА'НЬНЯ *н.* Царкоўны абрад шлюбу.

ВЯНЧА'ЦЦА *незак.* Прымаць царкоўны абрад шлюбу. *Вянчаліся маладыя ў цэркавя, што ў Латыгля.* Сядзіца.

ВЯНЧА'ЦЬ *незак.* Выконваць царкоўны абрад шлюбу.

ВЯСЕ'ЛЬНЫ *прым.* У выразе *вясе́льны по́яст* — тое, што і *дружына* 1.

ВЯСЕЛЬЛЯ. *н.* 1. Абрад шлюбу і свята, звязанае з уступленнем у шлюб. *Вясельлі ў нашай вёсцы часьцей спраўляюць увосінь.* Заазер'е. 2. *зборн.* Вясельная дружына.

ГАРЭ'ЛКА *ж.* Адзін з момантаў вясельнага абраду, калі аб'яўляюць, што хлопец і дзяўчына становяцца жаніхом і нявестай. *Гарэлку ш папілі ў суботу, а тады Шыцікавы заплацілі сватам: ні схацела Настася ісьці за Мікалая.* Селішча. *Друга́я гарэ́лка* — тое, што і вялікія *запоіны. Посьля другой гарэлкі дзеўка ўжо ні атказавалася ісьці замуш, бо трэба было многа плаціць сватам.* Буйлі. *Пе́ршая гарэ́лка* — тое, што і малыя *запоіны.*

ДАПЫ'ТЫ *мн.* Першы этап сватання, калі малады просіць у дзяўчыны згоды на шлюб з ім. *На дапыты нікога няклічуць, бо сваты мала нясуць гарэлкі.* Трыгузі.

ДАРЫ'ЦЬ *незак.* Надзяляць маладых падарункамі. *Маладую дарацьу нас на другі дзень посьля прыезду жаніха.* Сядзіца. *Мушчыны дорацьмаладых грашмі.* Заазер'е. *Дары́ць дары́* — тое, што і *дарыць.*

ДЗЕ'ВАЧКА *ж.* Маладая, нявеста. (У народных песнях.) *Карыся, дзевачка, карыся. Старому й малому пакланіся. Старога й малога ні мінай. У бога долячкі выпрашай.* Заазер'е.

ДЗЕЎКА *ж.* Дарослая незамужняя дзяўчына.

ДЗЯЦЮ'К *м.* Дарослы нежанаты хлопец.

ДРУЖЫ'НА *ж. зборн.* 1. *Бальшанкі, свашкі, маршалкі* і іншыя чыны на вяселлі. *У песьнях усіх сватоў называюць дружынай. У нас кажуць: «Сваты прыехалі».* Буйлі. 2. Вялікая сям'я. *Ну і дружына ш у Мішы! Як сядуць за стол, дык ня месьцяцца.* Заазер'е.

ДРУ'ШКА *м.* Галоўны (першы) сват з боку маладой і маладога. *Друшкам бывая сват, што хадзіў зь дзяцюком у сваты.* Трыгузі. *Друшку перавязаваюць усягды рушніком.* Селішча.

Е'ХАЦЬ У СВА'ТЫ. 1. Ехаць сватацца. *Ехалі ў сваты з Буйляў, ды ні было ў іх пэўнасьці, ці будзя Ганна піць гарэлку.* Сядзіца. 2. Быць членам вясельнай *дружыны. Меншая Мішава дачка хацела ехаць у сваты за Зосяй.* Селішча.

ЖАНІ'Х *м.* Малады на вяселлі.

ЗАБІ'ЦЦА *зак.* Выйсці замуж хітрыкамі, абманам. *Калі ш ты ўжо забілася за яго, дык і жыві.* Заазер'е.

ЗАКО'СЬНІК *м.* Родны ці стрыечны брат маладой, які вядзе яе на пасад. *Закосьнік вядзе маладую на пасат і застрыгая ей валасы.* Сядзіца.

ЗАПІСА'ЦЦА, РАСЬПІСА'ЦЦА *зак.* Зарэгістраваць шлюб у ЗАГСе. *Уперат маладыя на коні і ў Латыгла* [Латыгаль] *пад вянец, а цяперака трэба запісацца ў сельсавеця.* Трыгузі.

ЗАПІ'ТАЯ, ПРАПІ'ТАЯ *прым.* Сасватаная, заручаная. *Як вып'юць дзяцюкову гарэлку ў дзяўчыны, дык тая дзяўчына шчытаіцца запітай.* Сядзіца. *А ў полі вярба нахілёная, маладая дзяўчыначка заручоная. Заручоная і запітая.* (З народнай песні.)

ЗАПІ'ЦЬ, ПРАПІ'ЦЬ *зак.* Атрымаўшы згоду на шлюб ад бацькоў дзяўчыны і яе самой, выпіць гарэлку сватоў; сасватаць.

ЗАПО'ІНЫ, ЗАПІ'ВІНЫ *мн.* Абрад аб'яўлення жаніхом і нявестай. *На запоінах гасьцей бывая мала, толька самыя бліскія.* Селішча. *Вялікія запо́іны* — другі этап вясельнага абраду, калі дамаўляюцца пра пасаг, тэрмін вяселля, колькасць сватоў з абодвух бакоў. *Малы́я запо́іны* — самы першы этап вясельнага абраду, сватанне; атрыманне згоды дзяўчыны на шлюб, *заручыны.*

ЗАРУ'ЧЫНЫ *мн.* Тое, што і малыя *запоіны.*

ЗАСТРЫГА'НЬНЯ *н.* Падпальванне грамнічнай свечкай валасоў у маладой пасля таго, як *закоснік* пасадзіць яе на пасад. *Застрыганьня робя закосьнік.* Заазер'е. *За-*

*косьнік грамнічнай сьвечкай троху падпалявая валасы маладой. Гэта і ёсць застрыганьня.* Сядзіца.

ЗАСТРЫГА'ЦЬ *незак.* Рабіць *застрыганне.*

ЗАСЯДА'ЦЬ *незак.* У выразах *засядáць мéйсца, засéсьці мéйсца* — займаць (заняць) месца членаў вясельнай дружыны. *Уперат усягды спрытныя мушчыны і бабы засядалі мейсца сватоў.* Трыгузі.

ЗБО'РНАЯ *прым.* У выразе *збóрная субóта* — тое, што і *істушкі.*

ІСТУ'ШКІ *мн.* Развітальны вечар нявесты са сваімі сяброўкамі за тыдзень перад вяселлем. *Дауней у суботу за тыдзінь перат вясельлям дзеўкі прыходзілі да маладой на істушкі.* Селішча. *На істушках дзяўчаты рабілі вянок маладой, прымяралі ей сукенку, пелі песьні.* Заазер'е. *Муся, істушкамі называіцца вечар, што дзеўкі прыносілі на вянок істушкі.* Трыгузі.

КАРАВА'Й *м.* Вясельны абрадавы пірог круглай формы, якім дружка надзяляе ўсіх тых, хто дарыць дары маладым. *Каравай дзелюць у маладой і ў маладога.* Заазер'е.

КАРАВА'ЙНІЦА. *ж.* Жанчына, якая пячэ *каравай* на вяселле. *Каравайніц на вёсца ні так і многа, бо сьпячы каравай трэба ўмець.* Рамейкі.

КВЕ'ТКА *ж.* Зробленая са штучнага матэрыялу кветка, якая разам з белай тасёмкай прышываецца маладым, а таксама ўсім удзельнікам шлюбнай *дружыны. У маладога кветкі сватам прышывая баярка, а ў маладой — бальшанка.* Сядзіца. *Кажды са сватоў плацця за кветку выкуп.* Заазер'е.

КНЯГІ'НЯ *ж.* Маладая, нявеста. (У народных песнях.) *Мы княгіню ўстрачаім, што рабіць ня ўмея, выглядаім.* Сядзіца.

КНЯЗЬ *м.* Малады, жаніх. (У народных песнях.)

КУНПАНАВА'ЦЬ *незак.* Сябраваць. *Дауней Тэкля с Трыпаніхай кунпанавала.* Селішча.

КУНПА'НКА *ж.* Сяброўка. *Як бярэ маладая кунпанку за першую сваццю, дык тады абіждаюцца стрэчныя сёстры.* Заазер'е.

ЛЮБІ'ЦЦА *незак.* Кахаць адно аднаго.

МАЛАДУ'ХА *ж.* 1. Нявеста, маладая. *Маладуха — гэта знача маладая, ну, нявеста.* Заазер'е. 2. Маладая замужняя жанчына. *Казала маладуха, што яе сьвякроў натта злая.* Заазер'е. 3. *зневаж.* Дарослая дзяўчына,

якая плача без прычыны. *Німа чаго сьлініць, маладуха. Няможна цябе анну ў горат пусьціць.* Буйлі.

МАЛО'ЙЧЫК *м.* Малады, жаніх. (У народных песнях.) *Прыехаў малойчык сам дзісят, пусьціў конікаў у сат.* Заазер'е.

МАРША'ЛАК *м.* Тое, што і старшы *баярын. У нас дык камандзіра на вясельлі завуць друшкам. У Вірадовя ш у маладога — маршалак.* Сядзіца.

НАМЕ'СЬНІК *м.* Удзельнік вясельнага абраду з боку маладой. Сядзеў побач з ёй да прыезду дружыны жаніха. *За намесьніка садзілі каго з раньні.* Заазер'е.

НАТКО'СЬНІК *м.* Меншы брат ці родзіч маладой, які расплятаў ёй касу. *Наткосьнік, браточык, пашкадуй маю касу, ня руш маю красу.* Рамейкі.

НЯСЬЦІ' КАЗУ'. Тое, што і *дарыць.*

ПАНЕ'НСКІ *прым.* У выразе *панéнскі вéчар* — тое, што і *істушкі.*

ПАСА'Т *м.* Месца, на якое садзяць маладую. *Паставяць дзяжу, на яе накінуць вывернуты кажух — вот табе й пасат.* Заазер'е. *Завóдзіць маладýю на пасáт* — садзіць маладую на дзяжу.

ПАСА'Х *м.* Усё тое, што даюць бацькі або родныя маладой, калі тая выходзіць замуж. *Уперат было так: німа пасагу, дык і замуш ні натта выскачыш.* Селішча. *Даў мне тата ў пасах кажушок і машыну ручную.* Заазер'е.

ПАТКО'СЬНІК *м.* Меншы брат або родзіч, які заплятае валасы маладой у дзве касы. *Дайней як запляце паткосьнік косы маладой, дык яна і падарак яму дась.* Трыгузі. *Усе меншыя браты хацелі быць паткосьнікамі. Дык і заплятали ўдвух валасы.* Селішча.

ПІРАГАВО'РЫ *мн.* Тое, што і вялікія *запоіны. Посьля пірагавораў дзеўка натта ні атказыцца ісьці замуш, бы трэба многа варочаць сватам.* Сядзіца.

ПІРАГІ' *мн.* Тое, што і вялікія *запоіны. Сват прыносяя на пірагі булачкі. Іх столька, сколька прыедзя ад маладога сватоў.* Латыгаль.

ПРЫДА'НКА *ж.* Сяброўка маладой (радзей сваячка), якая збірае для яе падарункі і дапамагае шыць вясельны ўбор. У час вяселля сядзіць ля маладой. *За прыданку маладая прыглашая часьцей сваю кунпанку.* Селішча.

ПРЫДА'НЫЯ *мн.* Шлюбны поезд ад маладой. *У прыданыя за маладой едуць усе маладзейшыя.* Заазер'е.

ПЯРЭ'ЗАЎКІ *мн.* Заключны этап вясельнага абраду — прыезд бацькоў маладой у госці да сватоў. *Пярэзаўкі бываюць у тыдзінь посьля вясельля.* Латыгаль.

РАЗАЙСЬЦІ'СЯ *зак.* Скасаваць шлюб, развесціся. *Як німа жызьні, дык лепі разайсьціся. Цепер жа гэта ні навіна.* Трыгузі. *Сягоньняшняя маладзёш такая: тут пажаніліся, тут і разайшліся.* Заазер'е.

СВАТ *м.* 1. Сват. 2. Адзін з удзельнікаў *дружыны.* 3. Бацька мужа ў адносінах да жончыных ці бацька жонкі ў адносінах да мужавых бацькоў.

СВА'ТАЦЦА *незак.* Сватацца.

СВА'ТАЦЬ *незак.* Сватаць.

СВАТЫ' *мн.* 1. Сват, жаніх, а таксама некаторыя родзічы жаніха, якія ідуць сватаць дзяўчыну. *Учора былі ў Кацярынінай сярэньняй дачкі сваты. Толькі ні піла яна гарэлку.* Сядзіца. 2. Шлюбны поезд або *дружына* 1.

СВА'ХА *ж.* Жанчына, якая займаецца сватаннем.

СВАЦЬЦЯ *ж.* 1. Тое, што і *сваха.* 2. Адна з удзельніц вясельнай дружыны. *Усе свацьці, што прыехалі за Колям, як на падбор: маладыя, харошыя.* Рогавічы. *Трэба ш купіць і чырвоных насатак, бо многа ш свацьцяў прыедзя ад маладога.* Сядзіца. 3. Маці мужа ў адносінах да жончыных ці маці жонкі ў адносінах да мужавых бацькоў.

СВА'ШКА *ж.* Удзельніца вясельнай *дружыны* з боку маладога. *За большую свашку малады ўсягды бярэ каго-нібуць сь сясьцёр.* Сядзіца.

СУВІ'СЬЦЯЛЬ *м.* Пачастунак, які прыносяць запрошаныя на вяселле. *Даўней сувісьцялі насілі ў вялікіх місах.* Заазер'е. *Сьпячы аладак на сувісьцяль трэба было многа.* Сядзіца.

УТРА'ТНАЯ *прым.* У выразах: *аддáць утрáтная, вярнýць утрáтная* — заплаціць грошы жаніху за выпітую гарэлку ў тым выпадку, калі дзяўчына раздумае ісці замуж; *спагнáць утрáтная* — забраць плату ў маладой за выпітую гарэлку, калі яна адкажацца выйсці замуж.

ХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Кахацца. *Ходзя ш Іван Аксінін з Галяй, алі муся яна ня пойдзя за яго.* Буйлі.

ШЛЮБАВІ'НЫ *мн.* Вяселле. *Шлюбавіны — гэта тоя ш вясельля.* Заазер'е.

ШЛЮ'БНЫ *прым.* Які мае адносіны да шлюбу.

ШЛЮП *м.* Вяселле.

## ІНДЭКС

# ЗМЕСТ

На белорусском языке. **ИЗ НАРОДНОГО СЛОВАРЯ.** Издадательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68. Рэдактар *Л. А. Шрубок.* Вокладка *А. Ф. Карчагіна.* Мастацкі рэдактар *В. В. Саўчанка.* Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен.* Карэктар *Н. М. Тарасевіч.* Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 11051. Здадзена ў набор 11.XII-74 г. Падпісана да друку 7.III-75 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Друк. арк. 11,0. Ум. друк. арк. 18,48. Уч.-выд. арк. 16,3. Выд. зак. 41. Друк. зак. 1411. Тыраж 5800 экз. Цана 73 коп. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.